ББК 84Бел7
Г46

Известный белорусский прозаик лауреат премии Ленинского комсомола Василь Гигевич активно осваивает жанр научно-социальной фантастики. В новую книгу «Марсианское путешествие» автор включил остросюжетные повести и роман. В занимательной приключенческой форме прозаик открывает читателю неожиданные аспекты влияния НТР на судьбу человека и жизнь общества.
В повести «Оборотень» исследуется моральная атмосфера среди работников киноискусства.

4702120201—127
Г ———————— 7—90
М 302(03)—90

ISBN 5-340-00423-6

# Не забывай пра дом свой, грэшнік

## РАМАН

*Появились какие-то новые трихины, существа микроскопические, вселявшиеся в тела людей. Но эти существа были духи, одаренные умом и волей. Люди, принявшие их в себя, становились тотчас бесноватыми и сумасшедшими. Но никогда, никогда люди не считали себя такими умными и непоколебимыми в истине, как считали зараженные. Никогда не считали непоколебимее своих приговоров, своих нравственных убеждений и верований. Целые селения, целые города и народы заражались и сумасшествовали.*

Ф. М. Дастаеўскі «Злачынства і пакаранне»

ЧАСТКА ПЕРШАЯ

# ЗНАЁМСТВА З АДАМАНАМІ

## З АПОШНІХ ЗАПІСАЎ ВАЛЕСКАГА

*«...Вось і замкнуліся кругі мае, праўдзівей нават і не кругі, а ўсе тыя пакручастыя звілістыя сцежкі-дарожкі, на якія некалі, выпушчаны з матчыных рук, я ступіў і пайшоў на слабых нагах спачатку да абедзеннага стала, потым — да парога хаты, а тады ўжо, пераступіўшы цераз парог, трапіў на двор, дзе ўбачыў вароты і — адразу ж нырнуў у падваротню, каб як мага хутчэй трапіць на вуліцу Жыціва, якое трэба было абысці не раз і не два, як касмічнаму караблю перад адпраўкаю ў міжзорнае падарожжа трэба зрабіць некалькі віткоў вакол Зямлі, гэтак жа і мне трэба было абысці Жыціва, запамятаць кожны двор, кожную хату, кожнага жыціўца і пасля ў дадатак да гэтага рвануць удалеч па сцежках-дарожках, якія здаваліся прамымі і адкрытымі, па іх варта было толькі бяздумна пераступляць лёгкімі бязважкімі нагамі да таго часу, да таго светлага сонечнага імгнення, пакуль наперадзе, як верылася і спадзявалася, не замаячыць штосьці агромністае і прыгожае, чаго дагэтуль ніколі не бачыў ды і не мог убачыць у знаёмым Жыціве, павінна было замаячыць тое, што я адразу і ўявіць не мог, ведаў і адчуваў толькі, што тое агромністае і прыгожае якраз і ёсць шчасце, і таму ці варта лішні раз азірацца назад, кідаючы чысты незатуманены слязою позірк на ўсё тое, жыціўскае, што непарушна застыла за спіною: і бор зялёны, які ўшчыльную ахінаў Жыціва, і Жыціўка за балотам, і само Жыціва, дзе жылі разважлівыя спакойныя мужчыны і гаманкія, вечна заклапочаныя бабы, дзе звінелі песні працяжныя, дзе па вуліцы блэндала жывёла, вакол якой поўна работы — усё гэта, сплеценае ў штосьці адзінае, суцэльнае, накрытае нізкаватым захмараным небам, як бы ўжо загадзя змірылася, што яго пакідаюць, як быццам у гэтым і быў найвышэй-*

*шы сэнс: падгадаваць мяне, прывучыўшы да вясковай гаворкі, да работы, да самога Жыціва і адпусціць дзеля праверкі ў свет белы, як птушку з гнязда, не задаўшы напаследак ніводнага пытання, не кінуўшы ўслед ніводнага папроку, а тым болей што ў той сонечны вясёлы час мне было не да пытанняў і не да папрокаў, бо ў душы маёй панавала вера ў тое, што свет белы круціцца не вакол гэтай звілістай, прыхаванай чаротам і алешнікам Жыціўкі, у якой я некалі вучыўся плаваць і на беразе якой цяпер пішу гэтыя словы, не вакол вечна шумнага бясконцага бору, які некалі мудра і без слоў, нават без плакатаў і формул вучыў, прывучаў да таго, што ў свеце ёсць штосьці таемнае і загадкавае, да чаго мы міжвольна імкнёмся і калі ў нас маецца хоць кропля мудрасці, то раней часу мы гэтае загадкавае і таемнае не павінны чапаць, а тым болей ламаць ці бурыць (можа, у гэтым і ёсць найвышэйшая мудрасць — у веданні таго, што нам дазволена, а што — не дазволена?), а тым болей свет белы — о-о, як шмат я тады ведаў, які я тады быў разумны! — не мог круціцца вакол нейкай маленькай беларускай вёсачкі, прыхаванай між лясоў і балот, у якой мне ўсё знаёма, пачынаючы ад той хаты, у якой я ўпершыню крыкнуў свету, і свет той тут жа адгукнуўся песняю маці, ад той хаты, з вільчыка страхі якой я некалі спрабаваў зазірнуць у канец сваіх сцежак-дарожак, быццам тады, седзячы на вільчыку страхі, з перапечкаю ў руцэ, я мог убачыць тое таемнае агромністае і прыгожае, у пошуках якога праз некалькі год я рвануў без аглядкі, пакінуўшы, пастараўшыся забыць не толькі хату, той высокі парог, цераз які некалі пакутліва ўпершыню пералазіў, а і ўсё астатняе, што было звязана з Жыцівам: і тыя песні, што чуў некалі ад маці, ад суседак, і тую работу, якой былі вечна заняты малапісьменныя бацькі, нават Еўку, якая толькі тым і жыла, што хадзіла з хаты ў хату, як пастухі ў час радовак, і варажыла людзям пра блізкае шчасце, якое вось-вось ды загляне ў аконца, бо з мýкі мукá выйдзе і ўсё дабром павінна скончыцца, і за гэта яе, а можа, і яшчэ чаму (пра гэта я тады не задумваўся) апраналі, кармілі хто чым мог: бульбянымі дранікамі, капустаю, булёнам, малаком, а калі, пад багатую руку, дык нават і скваркаю, і ў гэтым, хто лепей накорміць Еўку, быў свой гонар, як свой гонар быў некалі ў жыціўцаў, яшчэ да майго паяўлення, у*

тым, хто лепей прывеціць старцаў,— так што я тады ведаў: свет белы круціўся і будзе круціцца не вакол хаты, не вакол нашага двара і нават не вакол Жыціва, не, ён круціцца, як і дагэтуль каторы год круціўся сам па сабе ў гэтым нязменным вечным карагодзе, як снег у завіруху,— усё Жыціва разам з Жыціўкаю і борам, разам з той жа Еўкаю і яе зашмальцаванымі картамі — усё гэта штосекундна, штоімгненна носіцца вакол вялізных шматпавярховых шчаслівых, вясёлых заасфальтаваных гарадоў, у якіх, канечне, няма ды і быць не можа вясковай гразі, свіней вісклівых, кароў і тых жа маленькіх бездапаможных Евак з картамі, тых жа заклапочаных работаю жыціўцаў, у якіх каравыя, сагнутыя ад работы пальцы, якія не ўмеюць апранаць белыя кашулі і прыгожыя гальштукі, якія нават і гаварыць па-гарадскому і пра гарадское не ўмеюць, а толькі пра сваё, вясковае, адным словам, у тых далёкіх гарадах ёсць усё тое гладкае, бліскучае і грымучае, чаго няма ў Жыціве, а гарады яшчэ хутчэй носяцца вакол цэнтра Зямлі, вакол той пахіленай восі, якую некалі паказваў Гаеўскі на ўроку, а круглая, як мячык, Зямля яшчэ хутчэй ляціць-нясецца вакол агромністага вогненнага свяціла і разам з ім, бяздушным вогненным свяцілам, ляціць вакол яшчэ большага ядра галактыкі, той агромністай галактыкі, якая адной з бясконцых пылінак адлятае немаведама куды ад такой жа пясчынкі-галактыкі, чым далей, тым хутчэй у чорнай, як сажа, бяздушнай прорве, якую называюць космасам і якая, як потым мне тлумачыў Алешнікаў, з'яўляецца праматэрыяй, асноваю ўсяго жывога і мёртвага, тым пустым, але загадкавым нулём, без якога не могуць абысціся не толькі матэматыкі, а і ўся прырода, бо, аказваецца, гэта пустая бяздушная прорва дзеліцца на штосьці і антыштосьці, на гэты і на іншы бок рэальнасці, якую мы прывыклі бачыць, чуць, мацаць і адчуваць, і ўжо як вынік гэтай дзяльбы (па чыёй волі і чыёй падказцы? — пра гэта я чамусьці забыўся спытаць у Алешнікава, а цяпер ужо не спытаю ніколі) у свеце паявіліся ядры, атамы, зоркі, вёсачкі ціхія, гарады вясёлыя, бары і рачулкі, гэта маленькая бездапаможная Еўка, і нават я сам, які, як тады думалася, толькі дзеля таго і паявіўся ў гэтым закручаным карагодзе, каб навесці тут парадкі ці хоць бы ўжо разабрацца, ад чаго ці з чаго пачынаць адлік, каб потым было лягчэй зразумець, куды ж нас

шы сэнс: падгадаваць мяне, прывучыўшы да вясковай гаворкі, да работы, да самога Жыціва і адпусціць дзеля праверкі ў свет белы, як птушку з гнязда, не задаўшы напаследак ніводнага пытання, не кінуўшы ўслед ніводнага папроку, а тым болей што ў той сонечны вясёлы час мне было не да пытанняў і не да папрокаў, бо ў душы маёй панавала вера ў тое, што свет белы круціцца не вакол гэтай звілістай, прыхаванай чаротам і алешнікам Жыціўкі, у якой я некалі вучыўся плаваць і на беразе якой цяпер пішу гэтыя словы, не вакол вечна шумнага бясконцага бору, які некалі мудра і без слоў, нават без плакатаў і формул вучыў, прывучаў да таго, што ў свеце ёсць штосьці таемнае і загадкавае, да чаго мы міжвольна імкнёмся і калі ў нас маецца хоць кропля мудрасці, то раней часу мы гэтае загадкавае і таемнае не павінны чапаць, а тым болей ламаць ці бурыць (можа, у гэтым і ёсць найвышэйшая мудрасць — у веданні таго, што нам дазволена, а што — не дазволена?), а тым болей свет белы — о-о, як шмат я тады ведаў, які я тады быў разумны! — не мог круціцца вакол нейкай маленькай беларускай вёсачкі, прыхаванай між лясоў і балот, у якой мне ўсё знаёма, пачынаючы ад той хаты, у якой я ўпершыню крыкнуў свету, і свет той тут жа адгукнуўся песняю маці, ад той хаты, з вільчыка страхі якой я некалі спрабаваў зазірнуць у канец сваіх сцежак-дарожак, быццам тады, седзячы на вільчыку страхі, з перапечкаю ў руцэ, я мог убачыць тое таемнае агромністае і прыгожае, у пошуках якога праз некалькі год я рвануў без аглядкі, пакінуўшы, пастараўшыся забыць не толькі хату, той высокі парог, цераз які некалі пакутліва ўпершыню пералазіў, а і ўсё астатняе, што было звязана з Жыцівам: і тыя песні, што чуў некалі ад маці, ад суседак, і тую работу, якой былі вечна заняты малапісьменныя бацькі, нават Еўку, якая толькі тым і жыла, што хадзіла з хаты ў хату, як пастухі ў час радовак, і варажыла людзям пра блізкае шчасце, якое вось-вось ды загляне ў аконца, бо з му́кі мука́ выйдзе і ўсё дабром павінна скончыцца, і за гэта яе, а можа, і яшчэ чаму (пра гэта я тады не задумваўся) апраналі, кармілі хто чым мог: бульбянымі дранікамі, капустаю, булёнам, малаком, а калі, пад багатую руку, дык нават і скваркаю, і ў гэтым, хто лепей накорміць Еўку, быў свой гонар, як свой гонар быў некалі ў жыціўцаў, яшчэ да майго паяўлення, у

*доўгі-доўгі дзень, як тое жыццё, якое, канечне, ніколі не скончыцца і нават не абарвецца, і будзе ў тым дні яшчэ сняданак за сталом, гульня ў «біткі» са сваімі аднагодкамі-задзірамі, той — калі ён толькі надыдзе? — далёкі поўдзень, калі жыціўцы пачнуць ісці на могілкі — па двое, па трое ці чацвёра, акружаныя дзецьмі, яны будуць ісці павольна пасярод вуліцы і памалу хрыстосавацца з тымі, хто ўрачыста сядзіць на лаўках перад хатамі, як быццам яны век не бачыліся і невядома калі ўбачацца, будзе яшчэ тая хвіліна, калі маці скажа: «Ну, дык што, можа, і мы да с в а і х пачнём збірацца?»*

*«Ага,— рэхам адзавецца бацька,— пара, мусіць, людзі даўно па вуліцы ідуць, а мы што — горшыя ці лепшыя...» — тады пачнём збірацца і мы да с в а і х, і гэтак жа, як і ўсе людзі, пойдзем цераз Жыціва да могілак ля абрыву Жыціўкі, да тых зялёных курганкоў, ля якіх маці абавязкова змахне слязу, успамінаючы сваіх — яе дзяцей, а маіх братоў і сясцёр, якія ў вайну застудзіліся і памерлі, а потым маці пачне слаць на мураве белыя святочныя настольнікі і ставіць на іх талеркі...*

*Бо мы прыйшлі да сваіх, і яны павінны гэта ведаць. Гэтак жа як і ўсе мы павінны ніколі не забываць пра сваіх. Мо ўсё гэта свята і было толькі дзеля таго, каб мы ніколі не забывалі пра сваіх.*

*Не, не таму я быў упэўнены ў вечнасці свайго існавання, што некалі былі такія дні, зусім не таму.*

*Проста такога і быць не магло, каб я некалі бясследна мог знікнуць з Жыціва, дзе ўлетку такое цёплае сонца, дзе бывае гэтулькі радасці беспрычыннай, дзе нават і слёзы салодкія, і таму, пачаўшы плакаць, ніяк не можаш спыніцца, дзе доўгія бясконцыя дні і гэткія ж загадкавыя цёмныя ночы, калі можаш колькі хочаш лётаць над зямлёю,— пачуццё вечнасці свята было ў мяне ад нараджэння, і яго, як думалася, нельга было выкінуць ці вытравіць з маёй душы ні мудрымі правільнымі словамі Ароўскай, ні малюнкамі-схемамі Гаеўскага, ні тымі ж шматлікімі кніжкамі, якія я пасля чытаў, ні нават доказнымі малюнкамі чалавека ў разрэзе, дзе былі намаляваны яго органы: нумар адзін — галава, нумар два — сэрца, нумар тры — лёгкія і гэтак далей аж да нумара пяцьдзесят восем... І чым болей мяне хорам упэўнівалі, што свята некалі скончыцца,*

чым часцей я хадзіў на жыціўскія могілкі, у той закінуты куток, дзе магілы ўжо амаль зраўняліся з зямлёю і толькі аброслыя лішайнікам помнікі сведчылі, што на гэта месца таксама нехта па вёснах прыходзіў і плакаў па некім, ды вось ужо нікога не засталося: ні тых, каго пахавалі, ні тых, хто пахаваў і плакаў. Чым болей я ва ўсё гэта ўнікаў халодным розумам, тым болей мне не верылася, што і я некалі пайду той жа дарогаю, якой пайшло гэтулькі людзей; мне не тое што думалася, а адчувалася, што я — выключэнне, можа, толькі гэтае адзінае пачуццё і прымусіла пайсці па зваблівых сцежках-дарожках, каб далёка-далёка знайсці рэальны доказ таго, што тады і там існуе.

Ці не з гэтага ўсё і пачалося: з вечнай спакусы набыць штосьці недасягальнае, тое, што табе і не належыць, і ўсё пачынаецца яшчэ з маленства, з таго імгнення, калі ў душу закрадваецца мара пра трохколавы веласіпед, а потым ужо, трошкі пазней, невядома адкуль паяўляецца думка пра сцежкі-дарожкі, па якіх ты некалі паедзеш калі і не на трохколавым веласіпедзе, дык на спадарожнай машыне, а то і проста пехатою пойдзеш без аглядкі да салодкіх вечна шчаслівых і вечна вясёлых гарадоў і яшчэ далей — па тых спіралях, пра рэальнае існаванне якіх уведаў на ўроках Гаеўскага. і, пакінуўшы сонца, панясешся да іншых галактык, усё далей і хутчэй, пакідаючы навечна знаёмы парог у хаце, вільчык страхі, на які некалі з салодкім жахам карабкаўся і карабкаўся, пакідаючы Жыціва з жыціўцамі, Еўку, Жыціўку і бор, і ўрэшце адзінае, што можа наталіць чалавечую смагу пазнання — пачуццё поўнай улады над прасторaю і часам, і гэтае пачуццё будзе як вяршыня, як той вільчык страхі, з якога некалі я імкнуўся агледзіць свае будучыя сцежкі-дарожкі.

Гэтае пачуццё, мабыць, закладзена ў нас ад нараджэння, магчыма, нават, што яго ў нас закладзена зашмат, ці не таму людзі так часта і паспешліва абрываюць і без таго слабыя ніткі з мінулым, добра не ўяўляючы, што іх чакае наперадзе. І я тут быў не выключэннем, быў не лепшы і не горшы, і таму так лёгка і без аглядкі шпарыў некалі па пыльным бальшаку ў бок вялікіх гарадоў, дзе спадзяваўся з дапамогаю Навукі, Яе Вялікасці Навукі, адкрыць і даказаць не людзям, а сабе, што я хоць чаго, ды варты, і не ўчора, не сягоння ці заўтра, а ўвогуле ва ўсе часы, бо ў рэшце

*рэшт — зайздросная лагічнасць, якой мне цяпер не хапае — не мог жа я з нічога з'явіцца і ў нішто ператварыцца.*

*Такога не магло быць.*

*Такога і быць не можа.*

*І таму, каб упэўніцца ў сваіх здагадках, я апантана заняўся медыцынаю.*

*...Як тое дзіця дарагой бліскучай цацкаю, якую ўрэшце ломіць.*

*Я верыў тады, што медыцына — якраз і ёсць усё тое, што развее мае пытанні.*

*Ці ёсць у чалавеку таямніца?*

*Ці ёсць хоць кропля гэтай таямніцы?*

*Бо калі штосьці штурхала мяне наперад, усё далей і далей ад дому, ад бацькоў, значыць, штосьці ёсць ува мне і яго, мабыць, можна знайсці ці пабачыць.*

*Ну, калі не пабачыць, дык хоць бы адчуць ці пачуць.*

*...Як потым я пачаў здагадвацца, гэтая вечная спакуса чагосьці недасягальнага ёсць не толькі ў мяне, і ўжо адсюль, ад вечнай нябачнай спакусы, мы ўсе разам паступова трапляем у гэты сусветны лабірынт, што складзены з тлумных задымленых гарадоў, якія штохвілінна ўсмоктваюць у сябе людзей і з якіх людзі ўжо не знаходзяць сілы вырвацца, з тэхнічных збудаванняў, якія становяцца настолькі складанымі, што часам закрадваецца сумненне, а хто ж для чаго створаны — машына для чалавека ці чалавек для машыны...— войнаў між народамі, сучасных хвароб, алергенаў і ўсяго іншага, шматлікага і зваблівага на першы погляд, што звычайна называюць цывілізаванай дзейнасцю Гома сапіенса.*

*І ўрэшце, як апошні віток пазнання, за якім пачынаецца штосьці прынцыпова новае, з чым дагэтуль людзі не сутыкаліся і з чым цяпер трэба альбо змірыцца, альбо ўступаць у барацьбу — адаманы.*

*...Трагедыя, мабыць, не столькі ў тым, уступаць у барацьбу ці не ўступаць, а ў тым, як весці тую барацьбу...»*

## З ДЗЁННІКА АЛЕШНІКАВА

*«Ягонае жыццё і пошукі ісціны прымусілі глянуць на ўсё іншымі вачыма і ўзяцца за напісанне дзённіка, каб расказаць пра наш шлях...*

*Мы ўсе пачыналі разам, і ён, Валескі, і я, ды і той жа цяпер усяму свету вядомы гісторык Лабуцька — напачатку ў нас былі бяскрыўдныя салодкія гульні, калі мы вучыліся шукаць тое таемнае і нябачнае, пра існаванне якога потым, дарослыя, мы гэтак часта спрачаліся.*

*І ў лесе за Жыціўкаю, і ля загадкавых у вячэрнім прыцемку хат і кустоў, і ў школьных падручніках, не ўпамінаючы пра блізкія і далёкія Бярозавы,— усюды, дзе можна было, мы спрабавалі знайсці тое нябачнае і таемнае.*

*А потым я аднойчы зразумеў, што ўсё, чым мы заняты як у маленстве, так і ў дарослым жыцці,— усяго толькі гульні, бяда многіх дарослых, як і маіх аднагодкаў, якраз у тым, што яны займаюцца гэтымі гульнямі ўсё жыццё, для многіх ужо і не так важна, якімі гульнямі цешыцца душа і цела, бо тады пра іншае не давядзецца думаць, на іншае проста не знойдзецца часу.*

*...А тым болей на пошукі чагосьці там таемнага і загадкавага, якое можа быць альбо ў самім чалавеку, альбо ў свеце, які яго акружае.*

*Калі я гэта зразумеў, мне стала нашмат лягчэй, бо мне стала ясна: калі і можна знайсці ў свеце штосьці таемнае і загадкавае, дык з дапамогаю фізікі.*

*Ужо тады, у юнацтве, калі паступаў на фізфак, я разумеў, што фізіка і тэхніка якраз і ёсць той усемагутны ліхтарык, якім разгубленае чалавецтва асвятляе дарогу ў бясконцай цёмнай кладоўцы, што завецца пазнаннем.*

*І што людзі могуць супрацьпаставіць таму рэальнаму і грознаму, што называюць сілаю, гэтаму ўсемагутнаму F, якое вынікае з адкрытаю мною формулы:*

$$\mathbf{F} = \mathbf{м} \cdot \mathbf{а},$$

*дзе* **м** *— матэрыяльна-тэхнічная база, а* **а** *— навука?*

*Некалі я верыў, што правільнасць маёй формулы пацверджана вякамі, дастаткова нагадаць усяго толькі*

*баявыя сякеры і мячы, грозныя танкі і звышгукавыя самалёты з падвескамі ядзерных боезарадаў, а тым болей цяпер: калі на свае вочы бачым, які размах прыняла СІЛА: гарады з агромністымі заводамі і фабрыкамі, ракеты і спадарожнікі, што роем аплялі зямны шар, шматлікія АЭС, ГЭС, ГРЭС, без якіх мы ўжо не можам абысціся,— усё гэта праява сілы».*

## З МАНАЛОГА ЛАБУЦЬКІ

*«Як мне думалася некалі, яны абодва плялі лухту, і ён, Валескі, і Алешнікаў, і гэта я зразумеў яшчэ тады, у маленстве, калі слухаў доўгія бясконцыя гісторыі бабы Гэлькі пра яе маладосць і тыя парадкі, якія вяліся ў часы яе маладосці, калі чуў, як доўга, проста-такі бясконца маглі гаварыць мужчыны пра мінулае, пра той жа фронт, з якога ім пашчасціла вярнуцца,— можа, якраз і пагэтаму, што яны ніяк не маглі забыць вайну і фронт, яны гэтак любілі насіць вайсковыя гімнасцёркі, галіфэ і летнія вайсковыя шапкі.*

*І ў тым, што некалі, даўным-даўно, да майго паяўлення, было на Зямлі жыццё, я не бачыў вялікай загадкі, чамусьці мяне здзіўляла іншае, напачатку мне і самому незразумелае, таму прыставаў да людзей з тымі дзіцячымі пытаннямі, з якімі, мабыць, прыставалі ды і прыстаюць дзеці ва ўсе часы.*

*— Хто мы? Адкуль мы тут паявіліся?*

*— Тутэйшыя. Жыцiўцы,— чуў я ад іх першае.*

*— Ды не, я пра іншае хачу спытаць... Якія такія тутэйшыя,— не адставаў я.*

*— Ну, беларусы, калі табе надта ўжо ведаць хочацца. Як і ўсе тыя, хто жыве ў суседніх вёсках і гаворыць па-нашаму.*

*— Адкуль жа беларусы паявіліся?*

*— Жылі да нас на гэтай зямлі. Аралі, жыта сеялі, песні пялі. Жылі, адным словам, дзетак гадавалі, а тыя дзеці, калі выраслі, сваіх дзяцей гадавалі. Вот так і вялося, чапляючыся адно за адно...*

*— І доўга?*

*— Доўга, дзетку.*

*— І да вайны з немцамі?*

*— І да вайны таксама. І не толькі да вайны з немцамі, а і да той яшчэ,— седзячы на печы, баба Гэлька*

*заціхала, доўга задуменна глядзела ў кут хаты, быццам бачыла там нешта цікавае, а потым, як заўсёды ўздыхнуўшы, гаварыла: — Яшчэ, дзетку, мая баба маю маці вучыла песням беларускім. А іх жа, песні гэтыя, складаў нехта. Так што ўсё даўно пачалося, так даўно, што я табе і сказаць не магу калі... Ты ўжо лепей, як вырасцеш, у настаўнікаў спытайся. Яны ўсё на свеце ведаюць. Яны табе ўсё раскажуць.*

*— Дык што, праўду людзі кажуць, што Курганы за Жыцівам ад даўняй-даўняй вайны засталіся?*

*— Мусіць, праўду. Кажуць, што ў канцы той вайны, калі французы ішлі каля Жыціва, іх нейкі Напалiён вёў. І тут яго сустрэлі, каля ракі самай, і разбілі, каб не хадзіў сюды болей.*

*— Дык колькі ж іх было, гэтых войнаў?*

*— Го-о, дзетку, і злічыць цяжка, колькі крыві людской на зямлі нашай пралілося.*

*І тут да мяне даходзіла тое галоўнае, пра што ніяк не мог дапытацца адразу: а як жа мы, беларусы, змаглі выжыць, калі гэтулькі крыві пралілося?..*

*І таму пасля заканчэння школы я пайшоў вучыцца на гістфак. Бо, як мне думалася, толькі там, у гісторыі народа, можна знайсці адказ на гэта пытанне».*

## Раздзел першы

# ДА ГІСТОРЫІ ПЫТАННЯ

Адаманы[1] ўзніклі, як цяпер мяркуецца, не ўчора і не пазаўчора, мабыць, яны былі і ў старажытнасці, яшчэ тады яны маглі наводзіць паніку і жах сярод

---

[1] Адаман, адаманы — у этымалогіі гэтых слоў, упершыню ўведзеных медыкам Валескім, лінгвісты і па сённяшні дзень не могуць дакладна разабрацца. Так, напрыклад, некаторыя лінгвісты мяркуюць, што гэтыя словы складаюцца з дзвюх частак: руск. *ад* — пекла і ням. *ман* — чалавек. Адсюль у пераносным сэнсе гэтыя словы можна тлумачыць, як чалавек (людзі) пекла, альбо — чорт (чэрці). Іншыя лінгвісты лічаць, што слова *адаман* (адаманы) паходзіць ад іншага словазлучэння: руск. *ад* і анг. *мані* — грошы. Адсюль лінгвісты робяць выснову, што слова *адаман* азначае пякельныя грошы, альбо грошы, падораныя людзям д'яблам.

У апошні час у сувязі з заяваю САПІ (гл. тэкст ніжэй) большасць лінгвістаў прыходзяць да высновы, што адаман паходзіць ад слова *Адам* — першачалавек...

людзей. Іншая говорка, што пра тыя даўнія часы мы, на вялікі жаль, мала што ведаем: чым даўней, тым меней. Пра гэта сведчыць такі просты і ў той жа час лагічны факт: час паяўлення на Зямлі жыцця і таго ж Homo sapiens[1] ніяк не можа быць дакладна ўстаноўлены, усё новыя і новыя арехеалагічныя даследаванні (дастаткова нагадаць пра апошнія археалагічныя раскопкі на беразе ракі Конга, а тым болей усе, мабыць, чыталі пра адкрытыя нядаўна сляды стаянак і нават цэлых цывілізацый (!) людзей у Гімалайскіх гарах) адсоўваюць час паяўлення на Зямлі чалавека разумнага не толькі на тысячагоддзі назад, а і на цэлыя мільёны год. Магчыма, мы мала ведаем пра адаманаў яшчэ і таму, што ў той даўні затуманены час іх дзейнасць праяўлялася не ў такой ярка выражанай форме.

Хочацца спыніць увагу на думках і выказваннях некаторых сусветна вядомых вучоных-даследчыкаў, зробленых у свой час на пачатку адкрыцця адаманаў і якія цяпер амаль што забытыя людзьмі і прэсаю. Так, прафесар Робертсан з Каліфорніі ў інтэрв'ю карэспандэнту Асашыэйтад Прэс заявіў:

— Лічу, што некаторая загадкавасць у гібелі высокаразвітых цывілізацый, цывілізацыі Шумераў у прыватнасці, звязана з дзейнасцю адаманаў.

У нечым падобную думку выказаў у часопісе «Археалогія» вядомы кітайскі археолаг Лі-Шаоцы. Вось што ён напісаў яшчэ тады, калі не было надрукавана выказванне Робертсана і што, на вялікі жаль, не атрымала належнай увагі:

— Праводзячы археалагічныя даследаванні ў Гімалайскіх гарах, мы наткнуліся на некалькі культурных напластаванняў, аддзеленых адно ад аднаго на дзесяткі і сотні тысячагоддзяў. Пакуль поўнасцю нашы даследаванні не закончаны, але ўжо цяпер я магу аўтарытэтна заявіць усяму свету, што мы ўпершыню сутыкнуліся з вельмі і вельмі дзіўнымі фактамі, якія сённяшняя навука не можа растлумачыць.

Калі меркаваць, што з развіццём чалавечай дзейнасці гэтак жа паступова расце тэхнічная і энергетычная ўзброенасць чалавецтва — ад каменнай сякеры

---

[1] Homo sapiens — чалавек разумны *(лац.)*.

да тэрмаядзерных рэакцый[1],— то як нам растлумачыць, што ў нашых археалагічных даследаваннях гэтай заканамернасці росту не назіраецца? Наадварот, факты сведчаць, што за больш высокімі культурнымі напластаваннямі ідуць больш нізкія, хоць па часе яны бліжэй да нас. Для прыкладу ў культурным напластаванні, датаванне якога роўна сямідзесяці тысячагоддзям назад, мы знайшлі сляды урану, стронцыю, плутонію — адным словам, мы знайшлі ўсё тое доказнае, што сведчыць пра авалоданне людзьмі ядзернай (!) энергіяй. І тут жа, што больш за ўсё здзіўляе, усяго праз дваццаць тысячагоддзяў, мы натыкаемся на культурнае напластаванне, якое сведчыць, што людзі на той час — гэта значыць пяцьдзесят тысячагоддзяў назад — валодалі каменнымі прыладамі працы. Як усё гэта можна растлумачыць? Якая трагедыя разыгралася сярод людзей? Ці не ёсць усё гэта — вынік дзейнасці адаманаў?

Трэба адразу ж адзначыць той факт, што высокаразвітыя цывілізацыі, мабыць, і сапраўды існавалі на зямлі. На сённяшні дзень такое меркаванне амаль ні ў кога не выклікае пярэчанняў. Рэшткі збудаванняў, якія ўцалелі да нашых дзён і якія хоць і разбураныя, але яшчэ і цяпер у нашых суайчыннікаў выклікаюць здзіўленне і захапленне сваёй дасканаласцю, шматтонныя пліты, якія і цяпер нельга зрушыць з месца ніводным сучасным кранам і якія між тым падагнаныя адна да адной з дакладнасцю да сотых і тысячных доляў міліметра, шматвёрстныя ўзлётна-пасадачныя палосы, наскальныя знакі і малюнкі, бачныя толькі

---

[1] Тут паважаны Лі-Шаоцы не зусім дакладны. Паводле апошніх фізічных і статыстычных даследаванняў энергетычная ўзброенасць чалавецтва расце экспатэнцыяльна. Прыводзім графік гэтага росту, перадрукаваны з часопіса «Энергетыка»: (па восі абсцыс — аддаленасць ад сённяшняга дня ў гадах, па восі ардынат — умоўная колькасць энергіі, якая прыходзіцца на аднаго чалавека).



з вышыні птушынага палёту, шматлікія рэшткі храмаў, сярод якіх выдзяляюцца вядомыя храмы інкаў, у памерах якіх, як аказалася, зашыфраваны дадзеныя аб будове не толькі Сонечнай сістэмы, а і ўсёй нашай галактыкі (!) — многія з гэтых астранамічных дадзеных і па сённяшні дзень не расшыфраваны, не растлумачаны — косці жывёлін, якія жылі на зямлі тысячагоддзі назад і ў якіх знаходзяць круглыя дзіркі, якія застаюцца толькі ад кулявых раненняў,— усё гэта, як і многае іншае, агульнавядомае нават вучням, толькі вяршыня айсберга, на якую мы яшчэ па-сапраўднаму не ўзняліся.

Пра гэта ж, калі не пра большае, сведчаць шматлікія міфы і паданні народаў, якія чамусьці пераклікаюцца між сабою, пра гэта ж сведчаць загадкавыя наскальныя малюнкі, на якіх вучоныя-канструктары выразна бачаць схемы сучасных касмічных караблёў, касмічныя касцюмы...

Разглядаючы гістарычны працэс развіцця чалавецтва, як вядома, адным і тым жа фактам і з'явам пры жаданні можна надаваць любую трактоўку, любое тлумачэнне. Таму, адразу ж агаворваючыся, што ў дадзеным выпадку мы не прэтэндуем на поўнае і канчатковае тлумачэнне гістарычных працэсаў, хочам усё ж звярнуць увагу на яшчэ адно з самых апошніх адкрыццяў археолагаў, пра якое, магчыма, мала хто чуў.

Паяўленне над Антарктыдаю азоннай дзіркі, якая з кожным годам набірае ўсё большыя памеры, змусіла вучоных розных краін прыступіць да больш грунтоўных даследаванняў як самой Антарктыды, так і тых працэсаў, якія абдываюцца над ёю ў атмасферы. Пакуль што канчатковы механізм утварэння над Антарктыдаю смяртэльнай для ўсяго жывога азоннай дзіркі не раскрыты, але на сённяшні дзень маюцца іншыя факты. Як стала вядома з дакладных крыніц, на месцы Антарктыды, зараз пакрытай вечнымі льдамі, была некалі квітнеючая краіна, пра што сведчаць радовішчы каменнага вугалю, нафты і іншых карысных выкапняў, якія, як таксама вядома, з'яўляюцца вынікам жыццядзейнасці мікраарганізмаў. Не ўдаючыся ў падрабязны разгляд таго, чаму і па якой прычыне на месцы квіт-

неючай краіны паявіліся вечныя льды[1], хочацца ўсяго толькі паведаміць, што апошнія антарктычныя экспедыцыі нават там, пад вечнымі палярнымі льдамі, знайшлі сляды дзейнасці чалавека. Мала таго — знойдзены цэлыя захаванні людзей, якія анатамічна нічым не адрозніваюцца ад сучаснага чалавека. Канечне, гэта паведамленне выклікала ў навуковых і грамадскіх колах сенсацыю, але яшчэ большую сенсацыю выклікала паведамленне аб нечаканым катастрафічна рэзкім змяншэнні антарктычнага чалавека за параўнальна кароткі тэрмін. Радыевугляродныя і іншыя найноўшыя метады даследаванняў паказалі і даказалі, што колькасць антарктычных людзей рэзка змяншалася ў той час, калі клімат у Антарктыдзе амаль не мяняўся і быў даволі спрыяльны для жыцця людзей. Змена клімату адбылася пасля таго, як колькасць антарктычных людзей стала мінімальнай. Апошнія медыцынскія даследаванні паказалі, што антарктычныя людзі мелі захворванні, тыповыя для сучаснага чалавека[2].

Што ж за трагедыя разыгралася ў Антарктыдзе? Чаму пачалі гінуць людзі? Чым былі выкліканы захворванні: цывілізаванай дзейнасцю, загадкавай эпідэміяй ці тымі ж адаманамі — гэтае пытанне і па сённяшні дзень застаецца адкрытым.

У святле вышэйсказанага сапраўдную сенсацыю не толькі ў навуковых колах, але і ва ўсіх людзей выклікала адкрыццё Лабуцькі. Дагэтуль малавядомы беларускі вучоны, праводзячы раскопкі на тэрыторыі Беларусі, наткнуўся (многія нядобразычліўцы сцвярджаюць, што ён наткнуўся зусім выпадкова) на пліткі яўна штучнага характару ў такім культурным на-

---

[1] На сённяшні дзень ёсць дзве гіпотэзы. Адна тлумачыць паяўленне льдоў у Антарктыдзе натуральным перамяшчэннем магнітных полюсаў Зямлі. Вучоныя, якія падтрымліваюць другую гіпотэзу, тлумачаць паяўленне вечных ільдоў у Антарктыдзе штучным тэрмаядзерным выбухам, які некалі быў праведзены на Зямлі і ў выніку чаго зямная вось была павернута. Бясспрэчна, што такі магутны выбух загубіў не толькі антарктычных людзей, а і ўсё жывое. Дарэчы, гэта гіпотэза даволі ўдала стыкуецца з легендамі і міфамі народаў аб канцы свету і сусветным патопе, які быў на Зямлі.

[2] На пачатку адкрыцця адаманаў многія медыкі вылучылі гіпотэзу, што тэхнічная дзейнасць нараджае ў арганізме адаманаў. З-за недахопу фактычнага матэрыялу гэта гіпотэза была адхілена.

пластаванні, у якім яны ніяк не маглі быць. Пліткі мелі квадратныя памеры 40×40 см, колер быў іх чорны з цьмяным адлівам. Іх незвычайны цяжар, абсалютна гладкая паліроўка, поўная адсутнасць іржы не пакідалі ніякага сумнення, што пліткі — штучныя.

Навейшымі методыкамі і метадамі (радыевугляродным таксама) было ўстаноўлена, што пліткі былі зроблены яшчэ да таго часу, як тэрыторыю Беларусі залівала славутае мора Герадота. Спектральны і рэнтгенаструктурны аналіз паказалі, што пліткі — тэхналагічны сплаў, які магчыма атрымаць толькі пры выкарыстанні касмічнай (?!) тэхналогіі (маючца на ўвазе бязважкасць і глыбокі вакуум). У сплаве знойдзена каля трыццаці элементаў перыядычнай сістэмы Мендзялеева, сярод іх такія рэдкія, як уран, тантал, ніобій, тытан, осмій...

Пасля гэтага сенсацыйныя паведамленні пасыпаліся як з мяшка... Аказалася, што гэтыя пліткі складаюцца з дзвюх шчыльна падагнаных пласцінак. Як мяркуюць спецыялісты, такая шчыльная падгонка зноў жа магчыма толькі пры выкарыстанні касмічнай тэхналогіі. На ўнутраных сценках плітак вучоныя разгледзелі сістэму выціснутых незразумелых знакаў.

Лабуцька першы выказаў меркаванне, што знакі на плітках — тэкст паслання невядомай нам цывілізацыі, верагодней за ўсё — зноў жа, паводле меркаванняў Лабуцькі,— у тэксце схавана вельмі важная для нас інфармацыя. Прыводзім некаторыя асобныя знакі з плітак Лабуцькі:



Сенсацыйная знаходка Лабуцькі выклікала вялізную сусветную зацікаўленасць. У сусветным друку былі тут жа выказаны розныя меркаванні, сярод якіх — безумоўна, вы пра гэта і самі здагадаліся — была пануючай думка пра тое, што пліткі Лабуцькі, тэкст на іх — справа касмічных прышэльцаў, якія некалі пабывалі на Беларусі.

Паяўляліся ў друку і іншыя меркаванні. Сярод іх такія, дзе сцвярджалася, што, маўляў, Лабуцька — аферыст і шарлатан, які свядома ўводзіць у зман наву-

ковыя і грамадскія колы, маўляў, Лабуцька сам зрабіў гэтыя пліткі — ну, можа, і не сам, можа, хтосьці жорстка пажартаваў з Лабуцькі, падсунуўшы яму ў Курганы гэтыя пліткі, а потым ужо ўсё і закруцілася...

Але рэальнасць плітак і тэксту на іх, немагчымасць на сённяшні стан навукі і тэхнікі зрабіць аналагічныя пліткі — усё гэта тут жа заглушыла паклёп на чэснае імя Лабуцькі.

Пасля гэтага некаторыя вучоныя, і Лабуцька ў тым ліку, пачалі схіляцца да думкі, што на тэрыторыі Беларусі некалі існавала высокаразвітая цывілізацыя. У адным з інтэрв'ю Лабуцька так і заявіў журналістам:

— Калі высокаразвітыя цывілізацыі маглі існаваць на тэрыторыі Індыі, у Гімалайскіх гарах, у той жа Лацінскай Амерыцы, то, спытаемся, чаму адна з такіх цывілізацый не магла ў свой час існаваць і на тэрыторыі Беларусі, якая, дарэчы, займае вельмі выгаднае становішча як геаграфічнае — амаль што цэнтр Еўропы — так і ў кліматычным плане.

Канец шматлікім спрэчкам і меркаванням павінна была даць расшыфроўка знакаў на плітках Лабуцькі.

Адразу ж да расшыфроўкі былі падключаны лепшыя крыптолагі і спецыялісты па старажытных мовах. У дапамогу вучоным выдзелілі найлепшыя электроннавылічальныя машыны, у прыватнасці найноўшую «Мінск — 19-83». Пасля працяглай і сур'ёзнай працы нарэшце ўдалося расшыфраваць пачатак тэксту. Прыводзім ніжэй гэтае пасланне, паўтараем, расшыфраванае не поўнасцю:

*...І тады, як да зор далёкіх дацягнуліся рукі чалавека, калі стаў чалавек па сіле богу падобны, ён тут жа пачаў забываць, хто ён, адкуль ён родам і што трэба яму ў жыцці акрамя ежы, сну і насалоды. І смех звонкі знікаў яшчэ ў маленстве. І падоўгу думаў чалавек над сэнсам работы сваёй і нічога не мог прыдумаць. А тады нечакана пасыпаліся хваробы і мор сярод людзей. Без слёз і жаху паміралі яны, забываючыся, адракаючыся бацькоў і дзяцей пры дастатку поўным. Тыя няшчасныя, хто жывым заставаўся, блукалі без памяці па свеце белым, не ведаючы, што рабіць, за што зачапіць свае цяпер непатрэбныя рукі.*

Многія вучоныя ўсур'ёз заняліся загадкавым тэкстам на плітках Лабуцькі.

Заканчваючы кароткі гістарычны экскурс, хочацца падкрэсліць, што ў святле вышэйсказанага, улічваючы катастрафічнае становішча са СНІДам[1], мы зараз зусім па-іншаму пачынаем глядзець і ацэньваць тыповыя захворванні людзей як у старажытнасці, так і ў нядаўнія часы. Аналізуючы характар шматлікіх захворванняў, можна заўважыць, што найбольшую шкоду людзям прыносілі і прыносяць эпідэміі. Чума, воспа, грып, халера... Гэтыя хваробы нечакана, як той цяперашні СНІД, паяўляліся сярод людзей, і не было ад іх літасці нікому. Магчыма, у тыя далёкія часы, пра якія паведамляецца ў плітках Лабуцькі, гэтыя эпідэмічныя захворванні называліся іншымі словамі, магчыма, гэтыя хваробы і з'явіліся прычынаю гібелі як антарктычных людзей, так і той высокаразвітай цывілізацыі, пра якую паведаміў свету Лі-Шаоцы.

Ды ўсё ж, нават калі і прыняць да ўвагі апошнія найноўшыя медыцінскія тэорыі[2], справы з эпідэмічнымі хваробамі пачынаюць абрастаць таямніцамі, і чым далей, тым болей мы будзем задумвацца, што чалавек, як і ўсё чалавецтва, час ад часу сутыкаецца з нейкімі непрадбачанымі выпрабаваннямі.

## З АПОШНІХ ЗАПІСАЎ ВАЛЕСКАГА

*«Казалі, што мне проста пашанцавала з адкрыццём адаманаў, некаторыя сцвярджалі ў той час, што я зрабіў гэтае адкрыццё выпадкова, мо нават і несвядома, нават і не думаючы пра адкрыццё — як, дарэчы, рабіліся і робяцца многія адкрыцці. Гаварылі яшчэ, што, маючы*

---

[1] СНІД — (сіндром набытага імунадэфіцыту) вірусная захворванне, разбурае імунную сістэму чалавека, яно цяпер усё больш і больш набывае характар эпідэміі. Эфектыўнага лячэння не знойдзена. Першапрычыны з'яўлення СНІДа пакуль не знойдзены, маюцца розныя гіпотэзы. Калі адна з іх тлумачыць паяўленне СНІДа маральнай разбэшчанасцю чалавека, то другая тлумачыць паяўленне штучнага віруса, атрыманага ў выніку геннай інжынерыі.

[2] З часопіса «Медыцына»:
«Пасля грунтоўных работ Чыжэўскага, дзякуючы больш комплекснаму падыходу да медыцынскіх праблем і прыродных з'яў, цяпер ужо больш смела можна сцвярджаць пра сувязь паміж некаторымі эпідэмічнымі захворваннямі і цыкламі сонечнай актыўнасці».

ў сваёй лабараторыі такі дасканалы электронны мікраскоп, які спраектаваў і зрабіў Алешнікаў у сваім канструктарскім бюро, нават і дурань на маім месцы ўбачыў бы адаманаў.

Што ж, магчыма, гэта так, а магчыма, і не.

Але ці галоўнае гэта?

Ці галоўнае гэта цяпер для мяне, калі я сяджу на беразе Жыціўкі, па якой некалі ў застылай белі каціў на каньках, не думаючы ні пра работу, ні пра існаванне нейкіх там адаманаў.

...І быў шчаслівы.

Ці галоўнае гэта цяпер, калі пайсці мне няма куды, калі я прайшоў усе гэтыя кругі ці колы — назавіце як хочаце,— і мне думаецца цяпер, што адкрыццё мною адаманцаў — усяго толькі лагічны працяг маіх пошукаў, калі я пакапацеў з усяе сілы з дому, мінаючы Бярозава са сваім знакамітым рынкам, на якім чаго і каго толькі не стрэнеш: і цыганоў, што прадавалі некалі гліняных катоў і мядзведзікаў, куды трэба было кідаць капейкі, каб разбагацець непрыкметна, і пажылых яўрэек, якія таргавалі ў вясковай бабы курыцу, і тоўстую, як абхапіць, марожанішчыцу ў белым, з плямамі, халаце, вясковых баб і бабулек, якія стаяць за прылаўкам з падціснутымі вуснамі, што сведчыць не пра зацятасць і адчай, а пра вялікае цярпенне, і нават картавага Іцку на тым знакамітым рынку можна было сустрэць, бо ён заўсёды ў цяжкую гадзіну мог дапамагчы вяскоўцу збыць карову,— і яшчэ далей я пайшоў, па той крутой дарозе, па якой некалі гандляр Заблоцкі вёз прадаваць у Бярозава поўны воз мыла, і тут секанў нечакана як з вядра лівень, і таму пад Бярозавам з таго часу аж дагэтуль кажуць: зарабіў ты, як Заблоцкі на мыле — і яшчэ далей, пакідаючы ззаду не толькі жыціўскія сваркі, плёткі, песні, не толькі вялікае, як свет, Бярозава, а і ўсё тое, што паспеў набыць за гады маленства і што ўжо пякло, пачынала шчымець у душы да таго часу, пакуль наперадзе не замаячыў г о р а д.

Той вялізны агромністы г о р а д, які адразу ж зацьміў і зрабіў маленечкім не толькі малапрыкметнае ціхае Жыціва, што хавалася недзе між лясоў і балот, а нават і Бярозава са сваім знакамітым рынкам, з тымі бярозаўскімі вуліцамі, якія некалі здаваліся такімі прыгожымі, што прыгажэйшых вуліц ужо і нельга было

*прыдумаць, бо на тых вуліцах было шмат магазінаў і нават кінатэатр красаваўся ля рынку, і ў ім кіно можна было глядзець аж белым днём, не ўпамінаючы пра вечар, з тым бярозаўскім паркам, дзе сярод сосен бялела знакамітая веранда, на якой танцавалі і знаёміліся бярозаўскія хлопцы і дзяўчаты, дзе былі яшчэ жалезныя арэлі, на якіх за грошы гушкайся колькі душа пажадае...*

*Думалася мне ў маладосці, што вось-вось я разбяруся ў вечным карагодзе хуткіх і гулкіх машын, што днём і ноччу носяцца па вуліцах, дзе поўна магазінаў з агромністымі вітрынамі, кінатэатраў, дзе штодзень гучала новая музыка і новыя песні, думалася, што разбяруся ў доўгіх бясконцых маналогах пра нешта такое звышарыгінальнае і звышпрыгожае, што мне, дзеравеншчыне, не тое што зразумець, а нават і ўявіць немагчыма. Мне думалася: вось-вось і я знайду тую адзіную нітачку, пацягнуўшы за якую можна разматаць увесь сплецены клубок, назва якому горад.*

*О, сляпая ўпэўненасць маладосці, як і яе катэгарычнасць!*

*Хутка я зразумеў, што ісціна хаваецца не ў гэтым карагодзе, не ў рабоце машын, станкоў, заводаў і фабрык, не, гэты вечны карагод, як і ўсё тое, назва чаму горад — вынік таго, што нябачна схавана ў нас, у кожнага з нас. І таму без доўгіх ваганняў і сумненняў трэба як мага хутчэй адкаснуцца ад гэтага заблытанага клубка, назва якому горад, і застацца з Навукаю.*

*Яе Вялікасцю Навукаю...*

*Бог майго пакалення, а можа, нават і не толькі майго пакалення, а ўсяго дваццатага рацыяналістычнага свету — Яе Вялікасць Навука, як свята верыў я ў цябе, як палка сцвярджаў сабе і іншым, што толькі ты адзіная можаш адчыніць вароты ў царства вечнасці, ля якіх бесталкова і пакутліва таўчэцца каторае стагоддзе гэтулькі жадаючых.*

*Я быў не адзіны ў сваіх чыстых памкненнях. Нас было шмат. Мы ўсе дружна кінуліся-рынуліся ў тэхнічныя ўстановы, стварыўшы агромністыя конкурсы на фізічных, матэматычных, хімічных, біялагічных, эканамічных і многіх-многіх іншых факультэтах. Мы не думалі пра выгаду, пра грошы вялікія, пра славу ці пасады, мы ўсе напачатку былі гатовы добраахвот-*

на абмежаваць сябе ва ўсіх зямных радасцях і ўцехах, як і некалі фанатыкі веруючыя, і таму гэтак старанна, як і некалі веруючыя, слухалі пропаведзі-лекцыі па восем гадзін і ў перапынках паміж лекцыямі, амаль не разжоўваючы, глыталі смачныя салодкія пяцікапеечныя пончыкі, сапраўдны смак якім мы адчулі праз гады, мы днямі праседжвалі ад цямна да цямна ў бібліятэках і лабараторыях — усё гэта ў нас было, можа, сур'ёзней і самаахвярней, чым некалі ў веруючых, якія пасціліся і білі паклоны перад маўклівымі іконамі, бо яны, веруючыя, сяк-так ды ўяўлялі таго Найвышэйшага, які правілы пакінуў, і які прыйсці паабяцаў у цяжкую часіну, і твар якога яны маглі ўбачыць увачавідкі, а што мы маглі ўбачыць, пачуць ці адчуць?..

З дапамогаю Яе Вялікасці Навукі мы хацелі ўсяго толькі — не болей і не меней — ухапіцца за нябачную ісціну...

Колькі было паламана лёсаў, колькі было праліта слёз, колькі было горкіх расчараванняў. І думалася тым, хто не здаў праёмных экзаменаў ці не прайшоў па конкурсе, што ў свеце няма больш няшчасных і адрынутых, чым яны, бо там, за высокімі дубовымі інстытуцкімі ці універсітэцкімі дзвярыма, у белых і блакітных халатах ля загадкавых бліскучых прыбораў прахаджваюцца прафесары-фокуснікі, час ад часу, калі ім уздумаецца, дэманструючы сваю ўсемагутнасць над матухнаю-прыродаю.

Мы не можам чакаць літасці ад прыроды, узяць яе ў свае рукі — наша задача!

На той час усё было правільным. Мы і сапраўды не маглі ды і не жадалі чакаць літасці ад прыроды, мы верылі, што там, дзе прабіркі з каляровымі растворамі, дзе чырвоныя дошкі з бясконцымі ланцугамі мудрых формул, якія настолькі мудрыя і ўсемагутныя, што, здаецца, свет і ўсё ў свеце можа рухацца і можа адбывацца толькі з дазволу гэтых формул, там, у інстытутах і універсітэтах, як за каменнаю агароджаю, цераз якую ніяк не пералезеш, калі не здасі прыёмных экзаменаў ці не пройдзеш па конкурсе, хаваліся вароты ў царства вечнасці, амаль такое ж царства, пра якое дагэтуль шмат стагоддзяў шапталі нашы малапісьменныя дзяды і прадзеды і ў якое мы цяпер, разумныя і энергічныя, не сумняваючыся ні ў чым, ду-

малі прарваццa не малітваю і паслушэнствам, а з дапамогаю Яе Вялікасці Навукі.

Як казалі некалі ў Жыціве, хто ведае, дзе знойдзеш, а дзе — згубіш, хто ведае... І яшчэ казалі, калі б ведаў, дзе грымнешся, дык і саломкі падаслаў бы...

Цяпер я думаю, што тыя, хто не здаў прыёмных экзаменаў ці не прайшоў па конкурсе і таму днямі заліваўся горкімі слязьмі, маглі стаць ды, можа, і сталі нашмат шчаслівейшымі за мяне. Але ўсё гэта — цяпер.

А тады...

Тады мы былі ўвесь час як усё роўна на вяршыні гары — далёка ўнізе пад нагамі воблакі, зялёныя даліны з маленькімі гнуткімі рачулкамі-нітачкамі, маленькія, як запалкавыя каробачкі, дамы і дробныя-дробныя людзі, якія ўвесь час настолькі заклапочаныя і занятыя работаю, што ім няма часу ні на хвіліну падняць галаву і зірнуць на гэтую вяршыню, дзе стаім мы, шчаслівыя, бы тыя багі ці касмічныя прышэльцы, якім усё даўным-даўно ясна ў жыцці і памкненнях гэтых людзей.

Я заняўся медыцынаю гэтак жа апантана, як Алешнікаў фізікаю, як Лабуцька гісторыяй. Мы ў той далёкі час не ведалі, куды нас выведуць сцежкі-дарожкі, мы ўсяго толькі верылі ва ўсемагутнасць Яе Вялікасці Навукі. Кожны з нас шукаў сваіх шляхоў да варотаў царства вечнасці, кожны быў, як цяпер разумею, па-свойму вар'ятам, але ў тыя далёкія часы мы адчувалі сябе, як адчуваюць змоўнікі, як члены адзінай нябачнай і таемнай арганізацыі...

Мы днямі праседжвалі ў бібліятэках, у лабараторыях, у аўдыторыях, потым, калі сустракаліся ва універсітэцкім скверыку, адразу ж счубліваліся: спрачаліся да знямогі пра існасць вечнага, да чаго палка імкнуліся і што, як нам здавалася, вось-вось адкрыецца кожнаму...

— Старыя,— так звяртаўся да нас Алешнікаў на першым курсе. На першым курсе мы былі вельмі і вельмі старыя, а старыя, як усім вядома, павінны быць мудрымі і разважлівымі, павінны ведаць усё на свеце.— Старыя, вы хоць уяўляеце, што адкрывае і можа адкрыць фізіка сучаснаму чалавеку, усяму чалавецтву? З дапамогаю фізікі чалавек можа стаць богам, фізіка — тое боскае, да чаго мы можам дакрануцца. Як да антыматэрыі, у існаванне якой я веру. О-о, ста-

рыя, там, у бяздонных прасторах космасу, схавана таямніца нашага быцця, наша таямніца. Нездарма мы кінулі глухое задрыпанае Жыціва, мы ў гэтым не вінаватыя (у той ружовы час маладосці і я, і Алешнікаў, ды і той жа Лабуцька ніколі ні ў чым не былі вінаватыя і таму так часта любілі казыраць: «Мы не вінаваты ў тым, што...»), у нас ужо ад нараджэння без нашай волі і жадання закладзена неадольная цяга да касмічных далячынь, заўважце, старыя, гэта цяга неасэнсавана праяўлялася ва ўсе часы ва ўсіх людзей, і як доказ таму — высачэнныя пірамідьı, храмы, царкоўныя купалы, якія тады, стагоддзі назад, высіліся на ўзвышшах, бы сучасныя ракеты... Скажыце мне, чаму, чаму чалавецтва ўвесь час імкнецца ўгору, да зор? Чаму, я ў вас пытаю? Казкі пра дываны-самалёты, дырыжаблі, самалёты, касмічныя караблі з касманаўтамі — гэта адзіны ланцуг... Ці здагадваецеся вы, што за ўсёй гэтай дзейнасцю схавана штосьці большае? Бо толькі там, далёка-далёка ад нас, ад гэтай грэшнай зямлі мы зможам далучыцца да таго вечнага, што кожнаму з нас дадзена адчуць у маленстве і што потым увесь час маячыць у чалавека наперадзе, куды і мы імкнёмся пакідаючы абжытыя хаты. І вось з дапамогаю фізікі, пабудаваўшы хуткія касмічныя караблі, мы ўрэшце зможам дабрацца да таямніцы нашага быцця. Толькі ў гэтым выйсце для чалавека і для ўсяго чалавецтва. Толькі праз космас мы можам выйсці да бяссмерця. Старыя, вы самі азірніцеся: усё, што чалавецтва робіць, якраз і з'яўляецца доказам маіх думак,— так катэгарычна заканчваў маналог Алешнікаў і рашуча адкідваў з ілба доўгія валасы (пра іншае, як пра лёс чалавецтва і бяссмерце, мы ў той час і не заікаліся).

Мінаў дзень-другі, і пры новай сустрэчы ва універсітэцкім скверыку Алешнікаў не менш рашуча і не менш катэгарычна пачынаў новы маналог:

— Старыя,— пры гэтым Алешнікаў нетаропка пагладжваў рэдзенькую бародку і глядзеў міма нас некуды далёка-далёка. Ён, здавалася, глядзеў скрозь нас, як цераз шкло празрыстае. У той год амаль што ўвесь першы курс адпусціў барoдкі, што само па сабе было прыкметаю геніяльнасці і заклапочанасці сусветнымі праблемамі, так што мне часам было не па сабе ад думкі, што ж рабіць з такою колькасцю геніяў? —

*Старыя, я думаю, што таямніца быцця недалёка, яна зусім побач, магчыма, яна ў кожным глытку паветра, якім мы бяздумна дыхаем. Ці задумваліся вы, старыя, аб тым, што, чым глыбей у мікрасвет забіраецца чалавек з дапамогаю фізікі і тэхнікі, тым больш таямніц адкрывае ён у пустой, здавалася, прасторы? І вось я нядаўна пачаў здагадвацца — пакуль гэта гіпотэза належыць толькі мне, але хутка я дакажу яе ўсяму адукаванаму свету, яна стане тэорыяй,— што мікрасвет і макрасвет, нават і не макрасвет, а ўвесь Сусвет дзесьці не проста мяжуюць, а пераліваюцца адзін у другі... Гэта цяжка растлумачыць, як і цяжка растлумачыць, што ўяўляе сабою электрон — часцінку-хвалю... Вы хоць разумееце, што я хачу сказаць? Чым глыбей мы забіраемся ў мікрасвет, тым, як ні дзіўна, усё большая энергія абуджаецца ў мёртвай пустэчы. Ядзерныя рэакцыі, тэрмаядзерныя. Усё гэта — толькі вароты, толькі пачатак, толькі кветачкі... Калі мы ўзарвём нейтрына — мы ўзарвём і ўвесь Сусвет. Мікрасвет не пускае да сябе чалавека. Вы хоць здагадваецеся, што ў гэтым і ёсць таямніца. Тут, там (Алешнікаў пачынаў тыцкаць пальцам вакол сябе, і ў гэты час ён нагадваў вар'ята), у кожным глытку паветра схавана тая страшэнная энергія, якая ў любое імгненне можа разарваць на шматкі не толькі ўсю Зямлю, а і ўсю галактыку. У космас да таямніцы нашага быцця мы калі і зможам дабрацца, дык толькі з дапамогаю таго таемнага і грознага, што схавана ўнутры ядра...*

*— Ды кінь ты нам галовы дурыць, Алешнікаў, мы даўно не дзеці,— гаварыў Лабуцька і пагардліва пляваў на асфальтаваную дарожку,— усё, пра што ты тут нам заліваеш, даўным-даўно было: і гучныя словы пра космас, і пра мікракосмас, і нават, я лічу, ядзерныя рэактары былі... Не першыя мы, не першыя. Нам трэба толькі навучыцца разгадваць тое, што схавана тут, пад нашымі нагамі. Нездарма, нездарма некалі было сказана: з зямлі прыйшоў і ў зямлю пойдзеш...— І стукаў Лабуцька нагою па асфальце так, што аж акуляры спаўзалі з ягонага пераносся. І пачынаў ён смяяцца з Алешнікава як з дзіцяці.— Гісторыя — вось сапраўдная крыніца ведаў. Дай божа каб мы разабраліся ў тым, што было некалі на зямлі да нашага паяўлення на тэрыторыі той жа Беларусі. Час — гэта бог. Як ты гэтага не разумееш, Алешнікаў? Калі мы*

здолеем зразумець па-сапраўднаму, адкрыць ці спасцігнуць таямніцу Часу, то станем вечнымі. Няўжо ты не разумееш, што чалавек усё жыццё змагаецца з Часам: і піраміды, пра якія ты толькі што ўспамінаў, і храмы, і гарады сучасныя, і добрыя справы, і злыя, дарэчы...

Усё гэта толькі спроба, толькі няўдалая спроба спасцігнуць таямніцу Часу...

А я што гаварыў?

І я, канечне, быў не лыкам шыты, я таксама пляваў на шэры асфальт, касавурыўся на Алешнікава і на Лабуцьку і не меней катэгарычна і не меней упэўнена пачынаў свой маналог:

— Абодва ёлупні, як вас зямелька носіць. Вам бы не тут, у горадзе, навукаю займацца, вам бы лепей у Жыціве сядзець і нікуды век не вытыркацца. А то, яшчэ лепей, кароў радоўкамі ганяць, па чарзе, бяры пугу і «выганяй» галёкай... Як вы не разумееце, што таямніца быцця схавана не ў касмічных прасторах і не ў гістарычным Часе, а ў чалавеку. Тут яна, тут,— і біў я сябе кулаком у хліпкія грудзі. І раз, і другі.— Ты, будучае свяціла фізічных навук, Алешнікаў, ці ведаеш хоць, што ў чалавечых мазгах ёсць рэнтгенаўскае выпраменьванне, ёсць мікраядзерны рэактар, той самы рэактар, які па ўсіх тваіх навуковых тэорыях не павінен ды і не можа там быць? А ты,— тут я велічна паварочваўся да Лабуцькі і спакойна разглядваў ягоныя вялізныя акуляры з пазалочанаю дужкаю,— ты, вялікі гісторык, ці ведаеш ты, што ў генах чалавека закладзена пэўная праграма ягонага развіцця, ад першага крыку да самай старасці... Як у найноўшай праграме ЭВМ у нас закладзена тая інфармацыя, якую вы абодва збіраецеся шукаць. Адзін — у нетрах зямных, а другі — у прасторах касмічных. Ох, якія ж вы ёлупні, як вас толькі з Жыціва выпусцілі?

І тут мы нечакана, як па камандзе, замаўкалі, застывалі ва універсітэцкім скверыку, як тыя помнікі, якія непарушна стаяць на адным месцы каторы год... І ўсё было так, як бывае, калі чалавеку напомняць пра нешта дрэннае, а то і брыдкае ў ягоным асабістым жыцці — пра тое, што, акрамя таго чалавека, і ведаць ніхто не павінен.

Кожнаму з нас успаміналася Жыціва, якое тут, у г о р а д з е, мала хто ведаў — тую доўгую адзіную запы-

леную вуліцу паміж хатамі з палісаднікамі і абавязковымі лаўкамі перад палісаднікамі, тую гнуткую Жыціўку, дзе вучыліся плаваць, тыя калгасныя палі, акружаныя адусюль борам, то — зялёныя на пачатку лета, то — жаўтаватыя ад спелай збажыны, бульбоўнік на агародах, які сярод лета зацвітае блакітна-белымі мяккімі, чамусьці сумнаватымі кветкамі, успамінаўся калгасны двор, дзе канюшня і вадакачка і — жыціўцы: жанчыны ў доўгіх цёмных спадніцах, у кірзавых ботах ці гумовіках, у якіх гэтак зручна мясіць восеньскую ці веснавую гразь, а калі на кароўніку працаваць, дык увогуле не здымай з ног тыя гумовікі ні зімою ні летам, мужчыны хадзілі ў картовых пінжаках ці ў фуфайках, у іх былі простыя, вечна загарэлыя твары, адкрытыя пільныя позіркі, шырокія мазолістыя рукі, што ўмелі касіць, араць, кідаць віламі смярдзючы гной (можа, усё пачалося не тады, калі мы дружна пакапацелі без аглядкі з Жыціва, а нашмат раней, калі мы ўпершыню здагадаліся, што гной, аказваецца, смярдзіць, і, каб перабіць гэты непрыемны пах, разумныя людцы ў *г а р а д а х* прыдумалі духі і адэкалоны, і пасля гэтага нас ужо, канечне, ніякімі лейцамі ў Жыціве нельга было ўтрымаць), і яшчэ жыціўцы ўмелі вяршыць стагі, налаўчыліся вадзіць трактары і машыны, даілі кароў, гладзілі дзяцей... Гэтыя жыціўцы шмат што ўмелі рабіць, але ж затое яны не ўмелі гэтак прыгожа, як мы ўмелі, разважаць пра вечнасць і бяссмерце, можа, нават яны і не задумваліся пра ўсё гэтае вечнае: і пра няўлоўны загадкавы Час, і пра зваблівы бясконцы космас, а тым болей пра загадкі мікракосмасу, мо ім замест гэтых разважанняў па самыя вушы хапала ўражанняў ад таго светлага веснавога дня, калі яны хадзілі на магілкі праведваць *с в а і х*, можа, якраз гэта для іх і было найвышэйшым, да чаго яны маглі наблізіцца ў сваім разуменні: пасядзець ціха ля зялёнага курганка зямлі, пад якім ужо *н і ч о г а* і *н і к о г а* няма, паплакаць і, выціраючы мазолістай далонню мокры твар, зноў прыняцца за сваё, вечнае, без канца і без краю, як у калгасе, так і дома, у гэтыя дзве змены, і ў якое тады-сяды ўпляталіся бабскія сваркі і плёткі, рэдкія працяжныя песні, якія ўсё болей і болей заглушаў транзістар, і яшчэ ўплятался надзея, што недзе там, далёка-далёка ад Жыціва, ёсць іншае, прыгажэйшае жыццё, у якое іх разумныя дзетачкі, хай толькі

*на ногі падымуцца, пойдуць гуртам, каб сваё шчасцейка знайсці...*

*О-о, якія тады, на першым курсе, мы былі разумныя! Як мы ўсе добра ведалі, як нам было сорамна за сваіх малапісьменных жыціўцаў!*

*І таму, памаўчаўшы, болей ні слова не сказаўшы адзін аднаму, мы хутка разбягаліся з універсітэцкага скверыка, і зноў кожны з нас, як тапелец за саломінку, хапаўся за тоўстыя і тонкія падручнікі, за мудрыя лекцыі, пасля якіх на першым часе свет станавіўся простым і ясным, а пасля, праз дзень-другі, ён ахутваўся яшчэ большым змрокам, мы хапаліся за доследы ў лабараторыях, бо кожны з нас найхутчэй імкнуўся спасцігнуць тое вечнае, чаго жыціўцы — якія яны адсталыя, нашы жыціўцы, ну проста цьфу скажаш, слухаючы іх вясковую гаворку пра парасят ці пра тую ж бульбу! — ніколі не маглі адчуць і зразумець пасапраўднаму.*

*Бо ім усё няма калі.*

*Ды і адукацыі ў іх малавата. Не тое што ў нас, студэнтаў...»*

## Раздзел другі

# СУТНАСЦЬ АДКРЫЦЦЯ

Яшчэ ў старажытнасці людзі заўважылі сувязь паміж многімі захворваннямі, якія паяўляліся ў людзей тады, як ля чалавека, ля яго жытла пачыналі аціраццa жывёліны. У прыватнасці тыя ж мышы, пацукі...

Думаецца, што не варта разводзіць доўгую гаворку і пра больш дробных стварэнняў: камароў, мошак, тараканаў, клапоў, вошай,— кожны, каму даводзілася хоць раз сутыкацца з імі, як тады, стагоддзі назад, так і цяпер, не тое што розумам, а дзесьці ўласнаю скураю адчуў іх значэнне і прызначэнне.

Так альбо прыкладна так чалавецтва зразумела, што ў прыродзе ёсць цэлы клас паразітаў. Зараз маецца цэлы накірунак навукі, які называецца паразіталогіяй. Не збіраючыся ўдавацца ў падрабязнасці гэтай навукі, хочацца толькі адзначыць, што на працягу доўгай, шматвяковай гісторыі людзі і без паразіталогіі разабра-

ліся, ад каго і як трэба абараняцца. Ад адных паразітаў — холадам (дарэчы, некалі беларусы, не маючы пад рукамі добрых дэзінфіцыруючых рэчываў, пакідалі марознай зімою на некалькі дзён жыллё, і гэтым паразітаў марозілі), ад другіх — цяплом і ясным сонейкам, якога ўсе паразіты чамусьці не любяць, ад трэціх — лазняю і чыстай вадзіцаю...

Трэба адзначыць, што да некаторых асабліва шкодных жывёлін у людзей на працягу доўгай эвалюцыі выпрацаваліся пэўныя інстынкты. Так, апошнімі медыцынскімі даследаваннямі ўстаноўлена, што ў чалавека, які ўпершыню бачыць пацука, міжвольна паяўляецца пачуццё жаху і агіды. Гэтымі ж доследамі доказана, што колькасць адрэналіну пры гэтым у крыві таксама рэзка павялічваецца.

У апошніх стагоддзях людзі зразумелі і разабраліся, што паразіты ўсяго толькі пераносчыкі больш дробных істот, якія выклікаюць розныя захворванні.

Дарэчы, пра гэтых дробных істот людзі здагадваліся і раней. Так, яшчэ рымскі вучоны і паэт (некалі ўсе вучоныя абавязкова пісалі свае працы вершамі, і нікога гэта не здзіўляла, гэта ўжо цяпер, у наш век вузкай спецыялізацыі, адбыўся грунтоўны падзел на паэтаў і вучоных, настолькі грунтоўны, што адны другіх амаль ужо і не разумеюць ды і разумець не збіраюцца), дык вось гэты самы паэт і вучоны Варон у І веку да новай эры пісаў так: «У балоцістых мясцінах часта нараджаюцца дробныя арганізмы, настолькі дробныя, што яны зусім не могуць быць бачны намі, яны жывуць у паветры і трапляюць у цела чалавека цераз рот і нос».

Ды што тут шмат пра выказванне Варона гаварыць, калі яшчэ раней старажытнагрэчаскі вучоны Фукідзід у V веку да новай эры выказваў амаль такое ж меркаванне — гэтых нябачных істот, якія выклікаюць хваробы, Фукідзід называў жывым кантагіем.

У семнаццатым стагоддзі чалавецтва адкрыла нарэшце і на свае вочы ўбачыла цэлы свет нябачных жывых істот — мікробаў.

Наколькі людзі былі ашаломлены гэтым адкрыццём, можам меркаваць па выказванні К. Лінея. Так-так, таго славутага шведскага вучонага, аўтара сусветна вядомай кнігі «Сістэма прыроды», у якой ён упершыню сістэматызаваў і класіфікаваў раслінны свет. Вось што ён

пісаў: «Грэшна нават вывучаць іх, Творца, ствараючы нябачных, мабыць, меў на ўвазе схаваць іх ад нас».

О-о, чалавек, чалавек, з тваёй вечнаю нічым і нікім не стрыманаю прагаю пазнання! У сваім пазнанні ты не ведаеш і не хочаш ведаць межаў, цябе, мабыць, ніхто і нішто спыніць не можа, ты не толькі пачаў вывучаць самога сябе, разбіраючы і падзяляючы сваю сутнасць настолькі, што ўжо і не ведаеш, як сабраць сябе, свой унутраны свет у тое адно цэлае, назва чаму — чалавек разумны, бо інакш чаму і навошта ты імкнешся спапяліць сабе падобных, падрыхтоўваючы гэтым пекла і для сябе. О-о, чалавек, чалавек, ты не толькі адкрыў і пачаў вывучаць мікробаў, гэтых нябачных звяркоў, што насяляюць прастору, ты, мабыць, і за вывучэнне самога Творцы прыняўся б, калі б толькі мог знайсці яго дзе.

І ці не таму ты, чалавек, гэтак апантана кідаешся то ў нетры зямныя, то ў воды марскія, то ў высі касмічныя, пакідаючы пасля сябе хаос і разбурэнне?..

Канечне, адкрыццё мікробаў нельга разглядаць асобна ад іншых адкрыццяў у розных галінах навукі і тэхнікі, якія змусілі чалавецтва зусім па-новаму глянуць на сваю прыроду. Непаўторнасць і таямнічасць чалавечай душы, боскасць паходжання чалавека, існаванне пекла і раю — усё гэта хутка і неадольна размывалася ўсё новымі і новымі навуковымі і эксперыментальнымі адкрыццямі. Тут, у прыватнасці, можна нагадаць аўтара нашумелай у свой час кнігі «Чалавек-машына» Жульена Афрэ дэ Ламетры. Адкрыццё клеткавай[1] будовы ўсяго жывога і, канечне, чалавека ў тым ліку, ды і шэраг іншых спецыфічных паняццяў, якія чалавецтва пачало ўжываць крыху пазней — гены[2],

[1] Клетка — элементарная жывая сістэма, аснова будовы і жыццядзейнасці ўсіх жывёл і раслін. Клеткі існуюць як самастойныя арганізмы (напрыклад, прасцейшыя, бактэрыі) і ў складзе шматклеткавых арганізмаў. У чалавека ў арганізме нованароджанага каля $2 \cdot 10^{12}$ клетак.

[2] Ген (ад грэч. genos — род, паходжанне) — нашчадкавы фактар, адзінка нашчадкавага матэрыялу, адказная за фарміраванне пэўнага прызнаку. У вышэйшых арганізмах (эўкарыот) уваходзіць у склад клеткавых храмасомаў.

ДНК[1], РНК[2] — усё гэта прывяло да адкрыцця вірусаў[3].

Вірусы — адна з найбольшых загадак, з якімі сутыкнулася чалавецтва.

Як сказана ў адной навукова-папулярнай кніжцы, вірусы — жывыя істоты, убачыць якіх можна толькі праз электронны мікраскоп пры павелічэнні ў дзесяткі тысяч разоў, а больш тонкую структуру — у сотні тысяч разоў і больш...

Давайце задумаемся над гэтымі простымі словамі: в і р у с — ж ы в а я і с т о т а.

Што хаваецца за гэтым?

Зноў і зноў у каторы раз перад намі, нягледзячы на нашу адукаванасць і эрудыцыю, з усёй сур'ёзнасцю паўстаюць праблемныя пытанні аб розніцы паміж жывым і мёртвым, аб прыродзе жывога — гэтыя вечныя праклятыя пытанні, над якімі задумваліся светлыя геніі чалавецтва. Многія могуць спаслацца на аўтарытэтныя выказванні розных вучоных і філосафаў, таго ж Вярнадскага ў прыватнасці, працы якога ў апошнія гады набываюць усё большую і большую папулярнасць, але ў нас сёння больш сціплая задача, і таму, не ўдаючыся надта ў глабальны і філасофскі аспект гэтых пытанняў, паўторым яшчэ раз: ч ы м а д р о з н і в а е ц ц а в і р у с а д з в ы ч а й н ы х ж ы в ы х і с т о т?

Канечне, можна шмат гаварыць пра вірусалогію, пра тое добрае, што зрабілі медыкі для чалавецтва, пазбавіўшы людзей ад воспы, чумы, халеры і іншых грозных хвароб, выкліканых вірусамі. Ды і цяпер нам трэба спадзявацца на медыкаў, якія, можа, знойдуць лячэнне ад СНІДа — гэтай чумы нашага стагоддзя, якім

---

[1] Дэзаксірыбануклеінавая кіслата (ДНК) — высокапалімернае прыроднае злучэнне, якое маецца ў ядрах клетак жывых арганізмаў. ДНК — носьбіт генетычнай інфармацыі, яе асобныя ўчасткі адпавядаюць асобным генам.

[2] Рыбануклеінавыя кіслоты (РНК) — высокамалекулярныя арганічныя злучэнні, тып нуклеінавых кіслот. У клетках усіх жывых арганізмаў удзельнічаюць у рэалізацыі генетычнай інфармацыі.

[3] Вірусы (ад лац. virus — яд) — драбнейшыя няклеткавыя часцінкі, якія складаюцца з нуклеінавай кіслаты (ДНК альбо РНК) і бялковай абалонкі (капсіду). Формы палачкавідныя, сферычныя і інш. Памер ад 20 да 3 000 нм. і больш. Вірусы — унутрыклеткавыя паразіты: размнажаючыся толькі ў жывых клетках, яны выкарыстоўваюць іхні ферментатыўны апарат і пераключаюць клетку на сінтэз спелых вірусных часцінак — вірыёнаў. Знаходзяцца ўсюды. Выклікаюць хваробы раслін, жывёл і чалавека.

2—2901

невядома за што пакараныя людзі. Ніхто, ніводны разумны чалавек, як думаецца, не ўздумае кідаць папрок медыкам за іх самаадданую працу, але ўсё ж толькі ў апошні час, з адкрыццём адаманаў, людзі зусім па-іншаму пачалі разумець і асэнсоўваць такія, здавалася б, простыя і ясныя словы:

### *ВІРУС — ЖЫВАЯ ІСТОТА*

Калі вірус — жывая істота, то і адаман, адкрыты, як вядома, вучоным-даследчыкам Валескім, таксама жывая істота.

Адкрыццё Валескага — вялікае навуковае дасягненне, ніхто тут не асмеліцца запярэчыць, мабыць, у гісторыі чалавецтва яшчэ не было такога адкрыцця, якое гэтак бы прынцыпова па-новаму прымусіла глянуць людзей на шматлікія паняцці, што ўсталёўваліся на працягу стагоддзяў. Сам таго не думаючы, сваім адкрыццём Валескі закрануў шэраг маральна-этычных, эканамічных, экалагічных, медыцынскіх і многіх-многіх іншых праблем, якія паўсталі як перад асобнымі краінамі, так і перад усім чалавецтвам.

Нават адкрыццё Эйнштэйнам тэорыі адноснасці (таго сусветна вядомага Эйнштэйна, з імем якога чамусьці асацыіруецца: «А-а, у свеце ўсё адносна, і не толькі хуткасць і адлегласць...» — таго Эйнштэйна, які гаварыў, што сапраўдны вучоны павінен быць служыцелем маяка, каб удалечыні ад людскіх турботаў займацца навукаю, і між тым — які парадокс! — сам такім служыцелем не быў хоць бы таму, што ў свой час слухаў, як японскі імператар даваў яму салюты падчас гасцявання), нават гэтае адкрыццё не зрабіла на людзей такога ўражання, якое зрабіла адкрыццё вучонага Валескага.

Мабыць, калі б да пары да часу інфармацыя пра адкрыццё адаманаў не трапіла да журналістаў, то ўсё было б ціха і спакойна. Але ж цяпер, як усім вядома, якой бы закрытаю і засакрэчанаю інфармацыя ні была, яна так ці інакш, праз год ці праз пяць, а стане вядомай усяму свету. Была і яшчэ адна важная прычына, з-за якой інфармацыю пра адаманаў не варта было хаваць: навуковае і тэхналагічнае развіццё чалавецтва прывяло б да адкрыцця адаманаў іншымі вучонымі ў іншых краінах — аналагічных прыкла-

даў у гісторыі можна прывесці безліч. У сувязі з гэтым успамінаюцца словы і выказванні некаторых філасафаў, што многія ідэі і нават паняцці маюць самастойнае існаванне і лунаюць у прасторы, сягоння яны тут, а заўтра — там, і галоўнае, як сцвярджаюць гэтыя філосафы, ухапіць першым тыя ідэі і паняцці. Так гэта ці не так — не будзем пра гэта разводзіць вялікую дыскусію, але адзначым усяго толькі, што Валескі здагадаўся запатэнтаваць сваё адкрыццё і гэтым, бясспрэчна, лішні раз даказаў усяму свету прыярытэт айчыннай навуковай думкі.

Пасля з'яўлення ў друку патэнта Валескага вучоныя многіх краін змаглі вывучаць адаманаў. І тут ужо інфармацыя пра адаманаў пасыпалася адусюль: з Парыжа, Лондана, Токіо, Пекіна, Дэлі, Каліфорніі — у любой краіне, у любым вялікім горадзе вучоныя пачалі знаходзіць адаманаў.

Увогуле першая інфармацыя пра адаманаў была зусім не сенсацыйная, калі каго яна надта і зацікавіла, дык — спецыялістаў-медыкаў. Мяркуйце самі, што сенсацыйнае можа быць у паведамленні пра існаванне ў прыродзе новага віруса, роля якога ў медыцынскай навуцы, як і ўвогуле ў біялогіі пакуль невядомая. У наш век тэхнічна-інфармацыйнага буму, які захліствае свядомасць чалавека і робіць яго разгубленым, такая ці амаль што такая навуковая інфармацыя ніякіх звышасаблівых эмоцый не выкліча. Вірус новы знайшлі — ну дык і што з гэтага?.. Колькі іх было, колькі будзе! Кажуць нават, што гэтыя вірусы ваююць між сабою, і таму адны вірусы — карысныя чалавеку, а другія — шкодныя. Нашмат большую цікавасць выкліча паведамленне пра новага эстраднага спевака ці спявачку, якія на апошнім міжнародным эстрадным конкурсе сталі пераможцамі. Нашмат болей зацікавіць людзей новы фільм, што ўдастоены прэмій Оскара[1], а тым болей вынікі футбольнага чэмпіянату свету.

Ну ды ці мала што можа зацікавіць сучаснага чалавека: тэлевізійная шматсерыйная перадача, рыбалка, паляванне... А вось каб зацікавіў вірус?..

Праўда, пэўная зацікаўленасць і насцярожанасць да вірусаў паявілася ва ўсяго чалавецтва пасля з'яўлення

---

[1] Прэмія Оскара — вышэйшая ў галіне кінамастацтва.

СНІДа, але ўсё ж мусім чэсна прызнацца, што асаблівай цікаўнасці, а тым болей трывогі адкрыццё Валескага не выклікала.

Як і ўсе вядомыя людзям вірусы, новы вірус адамана меў сваю адметную форму. Ніжэй прыводзяцца тыповыя формы ўжо вядомых вірусаў (а, б, в) і форма віруса адамана (г):




Як і астатнія вірусы, адаманы існавалі ў жывых клетках. Яшчэ тады, на пачатку свайго адкрыцця, Валескі выявіў своеасаблівасць паводзін адаманаў: размнажэнне адаманаў у клетцы магло адбывацца толькі тады, калі ў ядро клеткі пранікала пара адаманаў. Калі ж у ядро клеткі пранікаў адзін адаман, ніякага размнажэння не адбывалася.

Што бянтэжыла вучоных даследчыкаў — адаманы яўнага тыповага захворвання арганізма не выклікалі, гэтым яны адрозніваліся ад іншых вірусаў, у прыватнасці тыфу альбо грыпу. Некаторыя даследчыкі-вірусолагі вылучылі гіпотэзу, што адаманы з'яўляюцца першапрычынаю шматлікіх ракавых захворванняў — дарэчы, падобная гіпотэза вылучалася і дагэтуль, але доказных фактаў, якія б падцвярджалі гэту гіпотэзу, так і не знайшлося. Вельмі многія вучоныя вылучылі тэорыю, што адаманы — разнавіднасць вірусаў СНІДа, але і тут доказных фактаў, якія б пацвярджалі гэту тэорыю, не знайшлося. Дзе хто з даследчыкаў яшчэ тады, на пачатку адкрыцця Валескага, прытрымліваўся сваёй гіпотэзы, згодна з якой адаманы — карысныя, а то нават і неабходныя для чалавека, бо яны, маўляў, супрацьстаяць іншым вірусам[1]. Трэба адзначыць, што гэта

---

[1] Антаганістычныя ўзаемадзеянні паміж вірусамі маюць назву інтэрферэнцыі (не блытаць з інтэрферэнцыяй хваляў). Адсюль паходзіць назва новага лякарства супроць вірусаў — інтэрферон, на якое зараз ускладаюцца вялікія спадзяванні.

гіпотэза знайшла шмат прыхільнікаў і даволі доўга стрымлівала актыўныя работы па вывучэнні адаманаў.

Сапраўдную сенсацыю, дакладней, нават і не сенсацыю, а поўную разгубленасць як у сусветных навуковых колах, так і ў грамадскіх выклікала паведамленне тэлеграфных агенцтваў свету, пасля якога ў многіх людзей, скажам шчыра, апусціліся рукі, бо яны не ведалі, што ж цяпер рабіць, чым заняцца:

> *У звышновым электронным мікраскопе канструкцыі фізіка Алешнікава вучонаму Валескаму ўдалося разгледзець больш тонкую структуру адаманаў. Формаю адаманы поўнасцю нагадваюць людзей, яны могуць самастойна перамяшчацца ў міжклеткавай прасторы з дапамогаю рук і ног. Адаманы маюць галаву, тулава.*

Па сістэме інтэрбачання паказваліся мікрафотаздымкі адаманаў. Ніжэй прыводзіцца серыя гэтых мікрафотаздымкаў.





І цяпер ужо іншым святлом асвяціліся тыя словы ў шматлікіх навукова-папулярных кніжках:

*ВІРУС — ЖЫВАЯ ІСТОТА*

Ці падрыхтавана было чалавецтва да гэтага ашаламляльнага адкрыцця?

## З АПОШНІХ ЗАПІСАЎ ВАЛЕСКАГА

*«...Мінаў дзень за днём, тыдзень за тыднем — і многія з тых, хто калісьці разам з намі смела і адчайна кінуўся на штурм варотаў царства вечнасці, адляталі ад нас, як жартаваў Алешнікаў, яны знікалі з нашага жыцця, як тыя загадкавыя каметы, што прылятаюць да Зямлі з бясконцасці і, абагнуўшы яе, зноў знікаюць там.*

*Нашы былыя аднадумцы і адзінаверцы губляліся ў доўгіх гнуткіх магазінных чэргах: па мэблевыя гарніту-*

ры, па бліскучыя люстры, па дарагія персідскія, індыйскія і яшчэ чортведама якія дываны, яны ўвогуле губляліся ў гэтай бясконцай чарзе па тое *чорт ведае што* новае і далёкае, што прыцягвала іх, як магніт жалеза; яны хаваліся ад нас у дарагія касцюмы, у загарадных дачах за высокімі платамі, запіраліся трыма-чатырма замкамі ў кніжнамэблесховішчных прапаркечана-лакіраваных кватэрах, бараніліся расфуфыранымі балбатлівымі жонкамі і абавязкова геніяльнымі акселератамі-дзецьмі, прыёмнымі, дзе сядзелі грозныя сакратаркі на вахце, прыхапіўшы ашчадныя кніжкі, уцякалі ад нас да блакітнага мора, дзе бяздумна маглі смажыцца пад мляўкім сонцам...

Колькі, колькі было нас у юнацтве, калі ніводзін яшчэ нічога гэтага не меў — гэтага не патрэбнага нам друзу, бо ўсе мы замахваліся на большае і таму ясна разумелі, што ўсё гэта, за што так сквапна і апантана хапаюцца іншыя, усяго толькі — друз, і асабліва ясна людзі адчуваюць гэта на фінішы, пра які чамусьці многія занятыя пагоняю *за чорт ведае чым*, забываюць (дарэчы, мо ўсё тут і не так, мо таму людзі і пачынаюць гнацца *за чорт ведае чым*, каб забыцца пра фініш).

І як мала засталося нас потым, пасля пятага курса, а тым болей пасля, калі наперадзе пагрозна замаячыў высачэнны спакуслівы друз!

І мы ўжо не здзіўляліся, што нас могуць кінуць, што нам аднойчы могуць здрадзіць, навучаныя горкім вопытам, мы пачыналі разумець, што чалавек, мабыць, і сапраўды не надта дужы, як не раз гаварыў Алешнікаў, дужым увогуле быць надта цяжка, нашмат лягчэй быць пакрыўджаным, бо тады ёсць надзея, што цябе некалі хтосьці пашкадуе, а дужага шкадаваць няма каму, усе толькі і чакаюць, калі іх пачнуць шкадаваць. І яшчэ Алешнікаў казаў, што нашмат лягчэй быць паслухмяным, магчыма, гэта так, а магчыма, і не, магчыма, усё зводзіцца да больш простага: кожны здолее панесці гэтулькі, колькі падыме, і таму не трэба здзіўляцца, а тым болей крыўдаваць, што сябар твой сягоння табе ласкава ўсміхаецца і клянецца ў вернасці і любові, а назаўтра за тваёй спіной пачынае з цябе пасмейвацца, круцячы пальцам ля скроні: што з яго возьмеш, маўляў, абалдзеў з-за сваёй навукі, з комплексам...

Мы заставаліся ў адзіноце, як на пустым бязлюдным востраве, дакладней, нават і не на востраве, а як у лодцы без руля і вёслаў, якую магутнае марское цячэнне адарвала ад берага і панесла немаведама куды. І хоць разумелі мы, што яшчэ не позна выскачыць з лодкі і хоць як, з крыкам, з болем, але дабрацца да выратавальнага берага, але нічога мы не рабілі, толькі моўчкі назіралі, як у засмужанай далечыні губляецца навечна ўсё тое, сярод чаго выраслі, чаму некалі верылі і на што некалі спадзяваліся. І яшчэ, як гэта вядзецца ў жыцці, мы дружна, моўчкі, кожны сам па сабе, апраўдвалі сябе ў тым, што жыццё чалавечае гэта і ёсць рух, неадольны рух ад аднаго берага да другога — ад берага неразумнага і мо толькі пагэтаму шчаслівага маленства да берага спакойнай разважлівай сталасці, ад берага няведання, да берага пазнання, ад берага паяўлення з нічога і знікнення ў нішто...

О-о, як шмат мы тады ведалі і таму з такою лёгкасцю і хуткасцю знаходзілі апраўданні ўсяму на свеце.

А тым болей сабе...

...Алешнікаў тады, калі мы ўтрох паехалі ў Жыціва хаваць ягонага бацьку, так ні разу і не заплакаў.

Мы зайшлі ў яго хату, якая цяпер заставалася пуставаць,— ад парога і далей, у другой палавіне ўсюды тоўпіліся вяскоўцы, як і звычайна ў Жыціве на хаўтурах, тут у асноўным былі жанчыны, адны — моўчкі стаялі ля сцяны, другія, пастаяўшы ля нябожчыка, паглядзеўшы на ўсё тое абавязковае і загадкавае, з чым некалі павінен сутыкнуцца кожны чалавек, выходзілі з хаты, саступаючы іншым,— дык вось мы прайшлі між маўклівых жанчын, як некалі ўпершыню прыціхлыя ішлі па калідоры інстытута, Алешнікаў, Лабуцька і я, і там, у другой чыстай палавіне хаты, мяне быццам хтосьці нябачны і грозны піхнуў у грудзі — убачыў нябожчыка, які нерухома ляжаў у куце на засланых дыванам дошках.

...Як ва ўсіх жыціўскіх хатах, некалі ў тым куце вісела ікона, затым яе ці то выкінулі, ці то схавалі, а месца пад той іконаю занялі тэлевізары, спачатку маленечкія з лінзаю, затым большыя чорна-белыя «Рэкорды», а ў апошнія гады — каляровыя «Гарызонты».

*Алешнікаў моўчкі — як мы тады ўжо аддаліліся, адплылі ад роднага знаёмага берага, бо чамусьці я быў упэўнены, што не толькі я з Лабуцькам, а нават і ён, сын Алешнікава, разумеў і адчуваў фальшывасць пацалунка! — як па абавязку, дакрануўся вуснамі да таго нерухомага халоднага чужога жоўта-васковага, што засталося ад бацькі і што з сутнасцю бацькі ўжо не мела нічога агульнага, а затым, спакойна адвярнуўшыся ад нябожчыка, акінуў позіркам нас, пасля жыціўскіх баб і бабулек, якія гэтак жа моўчкі, як і ён, падціснуўшы вусны, жалобна глядзелі на былога аднавяскоўца.*

*І невядома, чаго болей было ў іх нерухомым позірку: спачування, адабрэння ці абурэння?..*

*Я зірнуў на пабялелага Алешнікава. Мне падалося, што ён шукае ў хаце кагосьці.*

*Магчыма, сябе, малога, які некалі ціснуўся да бацькі, віснуў на яго руках.*

*Магчыма, і не толькі сябе. І нават не жывога бацьку, а ўсіх нас, якімі мы былі некалі, калі сядзелі на лаўцы перад хатаю Алешнікава, агорнутых цемраю, калі мы адчувалі пахі траў, бачылі дрогкае святло зор і, матляючы нагамі, гаварылі пра Бярозава, пра ўсе тыя зваблівыя сцежкі-дарожкі, што прасціраліся перад намі, як быццам нашы бацькі іх спецыяльна вытапталі, чакаючы, калі ж мы скончым школу і пабяжым адсюль, з Жыціва, зусім не ўспамінаючы не толькі Жыціва, а і нашых бацькоў і мацярок — пра іх калі і думалася, то як пра штосьці вечнае і непарушнае, што было, ёсць і будзе.*

*Як тыя зоры над галовамі, што загараюцца штоночы.*

*Як летні салаўіны пошчак у кустах бэзу.*

*Як той жа бор за Жыціўкаю, у якім высіцца Лысая гара.*

*Як увогуле само Жыціва.*

*А потым Алешнікаў схамянуўся і хутка пайшоў з хаты на двор, дзе жаўцела і пахла жывіцаю труна, зробленая па новай у Жыціве завядзёнцы — не ў двары нябожчыка ці суседа, як гэта рабілася некалі, а на калгасным двары, дзе бялела сталярная майстэрня з электрапіламі і электрагэблямі — хутка і лёгка, не трэба было як калісьці з гэблямі паўдня валаводзіцца...*

*Белае сонца падымалася ў неба ўсё вышэй і вышэй, надышоў поўдзень, потым яно пачало памалу апускац-*

ца, і дзіўна, пад вечар, калі з хаты на мужчынскіх плячах выносілі труну з нечым застылым жоўта-васковым, сонца, здаецца, зноў прыпаднялося, каб у апошні раз яркім цёплым святлом сагрэць халодны нежывы твар. Пад жалобную мелодыю музыкантаў, якіх у Бярозаве нанялі за грошы, труну асцярожна паклалі на грузавую калгасную машыну з адкінутымі бартамі, а затым не надта ўжо і вялікая працэсія жыціўцаў пасунулася ўслед за машынаю ў той бок, дзе былі могілкі ля вядомага з маленства абрыву і на якіх вясковыя хлопцы ўжо выкапалі, метры пад два, прадаўгаватую яму — якімі ж некалі жахлівымі і глыбокімі здаваліся нам такія ямы. На вяроўках труну з нябожчыкам апусцілі ў яму, моўчкі і неяк залішне дзелавіта, без крыку і галашэння блізкіх, таксама па новай у Жыціве завядзёнцы, і хутка сам па сабе на месцы ямы з'явіўся курганок зямлі, яго моўчкі абклалі вянкамі, што прывезлі з Бярозава...

Вось і ўсё, калі не лічыць застолля.

Познім вечарам мы сядзелі на лаўцы перад палісаднікам, амаль гэтак жа, як і некалі, толькі цяпер мы нагамі не матлялі і не гаварылі нават, цяпер мы толькі слухалі гаворку мужчын, якія ішлі па вуліцы,— у цемры яны нас не бачылі, і таму ўсё было як па радыё скіраваная ў адзін бок інфармацыя, сказаў бы іншым разам Алешнікаў.

Але Алешнікаў цяпер нават і гэтага не гаварыў.

— Ну вот, Андрэй, і пахавалі мы сягоння старога Алешнікава. Усё меней і меней застаецца нас, франтавікоў. Ты ды я, а астатнія — усё маладзейшыя. Адсяваюцца яны ад нас.

— Ага, адсяваюцца. Спачатку вайна добра прасеяла, а цяпер вот — хваробы, ядры іх маць.

— Я вот чым болей жыву, тым болей думаю пра жызню нашу... Можа, у ёй проста — як каму адведзена, і нечага нам тут трапыхацца. Узяць бы старога Алешнікава, нябожчыка цяпер ужо. Як помню, ён усё жыццё на канюшні ля коней круціўся. Сколькі ён гэтых хамутоў перацягаў — клянуся табе, ніводзін конь іх гэтулькі не перацягаў. Калі не стрэнеш, бывала, ён усё гэтыя хамуты валачэ, то — дамоў рамантаваць, то — з дому адрамантаваныя. Зімою, бывала, яшчэ цёмначы, ён ужо ў канюшні ля коней шлэмае: то — накармі іх, то — напаі. А летам начлегі гэтыя, пасядзі-тка ноч на холадзе

і на расе: у холад, у дождж, у золь падубей... Раманціка, ядры яе маць, гэта во гарадскім дзеткам раманціка, дык яны целявізараў наглядзеўшыся, пачынаюць коней красці, а пасля стомленую жывёлу ў лесе да сасонак прывязваюць някормленую — няхай яна з голаду падыхае... А яму ж — патлумі галаву... Амаль што без выхадных, без прахадных. Што ён інцярэснага бачыў за сваю жызню, акрамя гэтых коней і хамутоў? А іншы разумец, языком матляючы, каторы годзік жывот нагульвае, і ніякі яго чорт не кранае — жыве сабе і ў вус не дуець. І вот падумаеш пра ўсё гэта дык і пачынаеш сумнявацца: а ці трэба нам ужо гэтак біцца, гэтак гарою стаяць за справядлівасць? Сынок ягоны, сам вунь сягоння бачыў, і слязінкі па бацьку не праліў, гарадскім стаў, завучоніўся, як з гары высокай на ўсіх нас пазіраў...

Яны праплылі міма ў цемры, як расталі, быццам не было ні іх, ні самога Жыціва, а ўсё тое, што дагэтуль было,— як прыснілася. І мы сядзелі на лаўцы ўкамянелыя, распляскaныя жорсткай простай праўдаю, якую дагэтуль не тое што не ведалі, а проста і ведаць не хацелі.

Тады Алешнікаў сказаў:

— А што, калі і праўда *тады і там* не існуе? Калі ўсё тое, што тут адбываецца, ад крыку першага да выдыху апошняга, гэта і ёсць сэнс, а ўсё астатняе для чалавека — як нажом адрэзана...

— Што ж,— адгукнуўся на гэтыя словы Лабуцька,— я таксама пра гэта думаў. Тады дзеткі правільна робяць, што коней крадуць і да сасонак прывязваюць. Тады і не толькі коней можна красці, жываты нагульваць, пасмейваючыся з дурных рабацягаў. Тады, мабыць, усё можна рабіць, пакуль за руку не схопяць. А вот чаго нельга, дык я і не ведаю.

І зноў мы заціхлі, услухоўваючыся ў цішыню, углядаючыся ў цемру. І зноў у душы маёй паступова пачало нарастаць гэтае неадольнае, што некалі адарвала ад Жыціва, а што — не ведаў, як тады, у раннім юнацтве, калі з лёгкасцю шпарыў па бальшаку ў Бярозава, так і цяпер, адчуваў толькі, што да знямогі хочацца ўслухоўвацца ў непарушную цішыню, углядацца ў мігатлівыя зоркі, бо, прыціхламу, здавалася мне, што за ўсім гэтым: і цішынёю, і зорным святлом, і за цемраю, як за неадольнай мяжою ёсць, павінна быць у све-

це і яшчэ штосьці, тое загадкавае і прыгожае, пра што людзі, як бы дрэнна ці добра ні жылі, але ніколі не павінны забываць і да чаго яны павінны імкнуцца.

Мо чалавек якраз гэтым і адрозніваецца ад усяго жывога і мёртвага, што ў ім закладзена гэтая неадольная цяга да прыгажосці, і як толькі ён забудзецца пра гэта, ён ужо прапашчы.

І тут я ўспомніў, як з іншага жыцця, што мяне цяпер не датычыла, далёкае-далёкае:

— Я дык сёлета двух у Бярозаве на рынку закупіў. Неблагія, здаецца, трапіліся. Аднаго беленькага, а другога — рабенькага. Віславухія абодва. Ешкія, халера іх дзяры, я вам, мужчыны, далажу. Вядро абодвум замяшае жонка, дык яны яго — мігам ачысцяць, як у тым карыце і не было нічога.

— А мой — дык і не надта ўдалы, мо — сурочыў хто, калі дамоў з Бярозава вёз. Вот як вы, мужчыны, параіце мне рабіць — можа, ветэрынара паклікаць, каб хоць адным вокам глянуў? Спякота стаіць на двары, баюся, каб чаго благога не сталася — гэтулькі тады трудоў прападзе. Лічы, усю зіму на яго рабіў.

— Мой, зараза, дык усё лычам варочае, учора дык у плот убіўся — нідзе яму месца нямашака. Падышоў я, шлёгнуў дубцом. Што, пытаюся, любазнацельны надта. Здаровы вымахаў, пальцы на чатыры ўжо сала будзе, доўгі такі — пядзяў сем. У лыч трэба дрот зацягнуць, тады рыць і варочаць будзе меней. Я дык, мужчыны, думаю яго здаваць. А грошы — на кніжку. Жонка кажа, што гэта выгадна, працэнты штодня набягаюць, гэта саўсім не тое, што ў капілку складваць. Глядзіш — і на машыну набяжыць, зажыву тады палюдску.

І тут жа, услед за гэтым, мне ўспомнілася новае, блізкае-блізкае, што чуў зусім нядаўна:

— Ну, не, хлопцы, мне дык нечага бога гнявіць, мне дык харошы трапіўся, матор дык зусім не капрызнічае. Як тыя часы, цікае. А ўжо — дваццаць тысяч накруціў, хоць, здаецца, нікуды далей Бярозава і не ездзіў. Вот табе і маеш.

— А ў майго, халера яго дзяры, нешта не ладзіцца, не прычча, дык лічча... Бензін попусту жарэ і жарэ, як у прорву якую ляціць. Толькі заліў, і глядзіш — няма ўжо, як выветрыўся. Трэба было б унутр зазірнуць, ды гаранція тады прападзе. Вот я і думаю, ха-

*чу з вамі параіцца, што там з ім можа быць: ці пракладка паляцела, ці кольцы, а можа, карбюратар барахліць?*

*— А ў маёй красавіцы — калёсы аблыселі. А дзе дастаць — чорт яго ведае. І ў Бярозаве нямашака, і за светам...*

*Тады мне падумалася, а ці змянілася што ў Жыціве за гэты час, калі нас тут не было? Увогуле, ці мяняецца што з гадамі? Можа, усё ў гэтым жыцці ідзе, як у тым коле, што на млыне круціцца — толькі белая мука з латка сыпецца...*

*З мукі мука будзе, і ўсё дабром скончыцца...*

*Але калі ж не мяняецца, то ці варта адказвацца ад спробы вырвацца з гэтага млына, ці варта? Бо другога разу не будзе. Гэты шанц, падораны мне аднойчы, другі раз не падорыць. Мо і сапраўды, як гаварыў Алешнікаў, тады і там няма ды і не будзе ніколі, але цяпер усё гэта — не так ужо і важна, галоўнае цяпер — упэўніцца самому, разабрацца ва ўсім да канца, да чыстага сумлення, як гаварыў Лабуцька.*

*Бо, мабыць, самае цяжкае для чалавека — чакаць і сумнявацца. Можа, усе нашы беды якраз і ад таго, што мы не можам доўга чакаць і сумнявацца.*

*І таму я паціху сказаў:*

*— Вы ўжо як хочаце, а я ўжо — да канца пайду.*

*І падняўся з лаўкі.*

*— Што ж,— прагудзеў Лабуцька,— і я з табою пайду ў напарнікі. Мне таксама губляць няма чаго, жонка з геніяльным рэжысёрам збегла, не вытрымала маіх камандзіровачных паездак, калі месяцамі дома не бываю.*

*— А мне ўвогуле цяпер губляць нечага,— сказаў Алешнікаў.*

*Калі б мы ведалі, што нас яшчэ хутчэй і далей панесла ад роднага берага. Калі б мы ведалі...»*

## З ДЗЁННІКА АЛЕШНІКАВА

*«Так, і ў гэтым я зараз магу прызнацца не толькі людзям, але і сабе: Эйнштэйн і сапраўды быў некалі маім кумірам альбо нават богам. Я нават світэр некалі насіў гэткай жа грубай вязкі, які бачыў на яго партрэце, і валасы ў мяне былі гэткія ж раскіданыя, доўгія і*

ўскудлачаныя, я нават ручку чапляў за світэр гэтак жа, як і ён некалі,— ва ўсім гэтым, мабыць, было тое, што праяўляецца ў кожнага дзіцяці, якое імкнецца пераймаць звычкі дарослых людзей.

Магчыма, я тут і не вінен, магчыма, я нават пераймаў не столькі звычкі Эйнштэйна, а ў цэлым звычкі ўсяго нашага тэхнакратычнага веку і таму гэтак весела некалі мурлыкаў:

Штосьці фізікі ў пашане,
Штосьці лірыкі ў загане...

Я верыў, што навука — той адзіны бог, якому варта пакланяцца, і таму так часта паўтараў выказванне Эйнштэйна наконт служыцеля маяка, якім павінен быць сапраўдны вучоны і якому ў жыцці, акрамя ручкі і чыстага ліста паперы, нічога больш не трэба, бо ўсё тое іншае будзе адрываць яго ад пошукаў ісціны, таго чыстага і пакуль неспазнанага, зусім не звязанага з зямнымі грэшнымі клопатамі, якое як быццам бы хаваецца ды і павінна хавацца альбо ў неаглядных касмічных далячынях, альбо ў складаных фізіка-матэматычных формулах, якім даюць жыццё загадкавыя сусветныя пастаянныя...

Я верыў ва ўсё гэта да таго часу, пакуль не здагадаўся — у кожнага свой узровень пазнання,— што сусветныя пастаянныя і тыя ж шматпавярховыя формулы, графікі і табліцы — усё гэта здорава, але ж яно здорава толькі тады, калі падмацавана тэхнікаю. Самі па сабе графікі, табліцы, формулы і нават сусветныя пастаянныя нічога нявартыя...

...Як і той жа служыцель маяка становіцца нікому не патрэбным, калі ў моры няма ніводнага карабля.

Толькі таму я і прыняўся канструяваць звышновы электронны мікраскоп, пра які дагэтуль марыў Валескі. І думалася мне, наіўнаму, што я — тэхнакрат, і ён — медык — якраз і ёсць той міфічны кентаўр, якому падуладна тое недасягальнае, што непадуладна мінулым пакаленням, тым жа малапісьменным жыціўцам. Думалася, што мы зможам адкрыць людзям тое, што іх тут жа ашчасліваць.

Увогуле я тады верыў, што шчасце — гэта штосьці настолькі рэальнае, што яго, мабыць, можна нават убачыць ці памацаць. Трэба толькі тэрмінова зрабіць тое, тое і тое, і тады — будзеш шчаслівы ўсё жыццё».

## З МАНАЛОГА ЛАБУЦЬКІ

*«І хадзіў я на лекцыі, слухаў выкладчыкаў, старанна канспектаваў іх разумныя словы. Сярод выкладчыкаў былі розныя людзі — на тое яны і выкладчыкі,— па-рознаму яны тлумачылі ўсё тое, што было на зямлі нашай стагоддзі назад.*

*І тады ўжо я зусім па-іншаму зірнуў на гісторыю як на навуку, бо здагадаўся, што ў гісторыі народа кожны шукае і, як не дзіўна, можа знаходзіць патрэбнае і неабходнае на дзень сённяшні; пры патрэбе, аказваецца, можна апраўдаць многае ў гісторыі, як выпадковае, так і заканамернае, увогуле, мабыць, можна любую выпадковасць падагнаць пад заканамернасць, можна нават апраўдаць крыжовыя паходы, якія абяскровілі не толькі беларусаў, можна падзякаваць хану Батыю за тое, што ён прымусіў славян аб'яднацца — о-о, колькі можна знайсці апраўданняў таму зламу і жорсткаму, што тварылася некалі на зямлі маёй, але ж дзе тыя крытэрыі праўды і справядлівасці, дзе тыя, як гаварыў Алешнікаў найвышэйшыя, найсправядлівейшыя аксіёмы, за якія павінны трымацца гісторыкі?*

*Зразумеў я тады, калі сядзеў у кнігасховішчах над летапісамі, калі параўноўваў падручнікі па гісторыі народа, напісаныя па-рознаму, што гісторыя народа — не гульня, але ўся трагедыя ў тым, што яна становіцца гульнёю, калі трапляе ў нячыстыя рукі.*

*Чым болей я займаўся гісторыяй, чым далей у глыбіню вякоў заглядаў, тым большым смуткам поўнілася мая душа, бо бачыў я і разумеў, колькі здзекаў з народа было некалі, колькі несправядлівасці было на зямлі нашай, як быццам у гэтым і быў найвышэйшы сэнс для беларусаў: выцерпець, вытрымаць, а там, глядзіш, і лягчэй будзе...*

*Але ж не меншай радасцю і не меншай гордасцю поўнілася душа, калі ўсё болей і болей разумеў, што з пакалення ў пакаленне перадавалася людзьмі штосьці святое для іх, што аб'ядноўвала, даючы ім радасць і надзею на тое, што калісьці сонца загляне і ў іх аконца, і таму, нягледзячы ні на якія беды, трэба як мага мацней трымацца за неўрадлівыя палі, за берагі гнуткіх рачулак, за глухія лясы і гнілыя балоты, бо толькі ў гэтым яны і бачылі сваё выратаванне:*

*як мага мацней трымацца за сваю зямлю, за сям'ю, за ўсё тое, што называюць Радзімаю.*

*І пытаўся я ў сябе: няўжо тады, стагоддзі назад, мае, як прынята казаць, малапісьменныя цёмныя продкі ведалі і разумелі, што без Радзімы жыццё іх страціць сэнс і яны тут жа знікнуць, бясследна растворацца ў свеце белым, як той ранішні туман над лугам?..»*

## Раздзел трэці

# ЗАКРУЦІЛАСЯ, ЗАВЯРЦЕЛАСЯ...

Першым у замежным друку выступіў, як і чакалася, славуты папулярызатар навукі, публіцыст, грамадскі дзеяч Леў Лéўданскі[1]. І дагэтуль імя Л. Леўданскага, удзельніка шматлікіх міжнародных канферэнцый, кангрэсаў, сімпозіумаў, добра было вядома адукаваным людзям, Леўданскі не проста час ад часу радаваў чалавецтва цікавымі артыкуламі ці тымі ж праблемнымі выступленнямі, а, можна смела сказаць, Леўданскі час ад часу дарыў свету кароценькія бестселеры, якія ўмомант разыходзіліся па свеце мільярднымі тыражамі, перадаваліся па ўсіх радыёстанцыях, перадрукоўваліся на машынках ці на тых жа ратапрынтах, размнажаліся, перадаваліся з вуснаў у вусны, як народныя казкі ці паданні, ствараючы вакол імя Леўданскага казачны арэол.

...Не меншы, чым у таго ж Хрыста, што намаляваны на карціне Іванова «З'яўленне Хрыста народу».

Колькі, колькі было такіх бестселераў у Леўданскага!

Старыя людзі могуць пацвердзіць наша справядлівае праўдзівае выказванне і заадно расказаць зялёнай моладзі пра той знакаміты сусветны бум у той складаны год, калі ўсё чалавецтва, уражанае грандыёзным арты-

---

[1] Для зацікаўленых чытачоў прыводзім кароценькую вытрымку з біяграфічнага даведніка «Хто ёсць хто», выдадзенага ў ЗША: «Леў Леўданскі (Leo Lionel) — імя і прозвішча паходзяць ад слова леў (Leo). Былы каўбой, кінаакцёр, пэўны час кіраваў краінаю. Займаючыся распрацоўкаю ў сусветным друку новага «жоўтага» накірунку, шукае ісціну з дапамогаю плюралізму думак».

кулам Льва Леўданскага «Лятаючыя талеркі — вочы сусветнага розуму, што днём і ноччу назірае за намі», кінула-рынула звыклыя заняткі і пачало шукаць лятаючыя талеркі.

І ў бязлюдных палях, і ў глухіх лясах, і ў гарах заснежаных, і нават на бурным моры-акіяне — усюды, усюды можна было сустрэць заклапочаных усхваляваных людзей, якія адразу ж пры сустрэчы замест прывітання кідаліся адно да аднаго з пытаннем: «Ці бачыў ты, братка, лятаючую талерку? Ці глянуў ты хоць раз у вочы сусветнаму розуму?»

Прастойвалі станкі на заводах і фабрыках, застылі доўгія канвеерныя стужкі, не працаваў транспарт, надоўга парушыліся планава-эканамічныя сувязі, спыніўся падвоз прадуктаў у гарады, то там то сям успыхвалі эпідэмічныя захворванні,— але нават і гэта чалавецтва не хвалявала. Мала хто задумваўся, што свет стаяў на парозе новага сусветнага эканамічнага крызісу,— вось што такое палымянае слова Л. Леўданскага.

У той цяжкі, і не толькі для эканамістаў, крызісны год з'явілася новая праца Льва Леўданскага, якая хутка зняла многія праблемы і пазбавіла чалавецтва ад поўнай разгубленасці. Праца гэта называлася так: «Ісус Хрыстос — касмічны госць з сузор'я Дзевы».

Людзі тут жа перасталі шукаць лятаючыя талеркі і з усёй іх апантанасцю кінуліся вывучаць новую працу Леўданскага. Цікавасць да гэтага артыкула была настолькі вялікаю, што ААН пад націскам грамадскіх і навуковых колаў розных краін вымушана была тэрмінова стварыць міжнародны касмічны экіпаж і выдзеліць буйныя сродкі для будаўніцтва прынцыпова новага касмічнага карабля. Як нядаўна стала вядома, гэты карабель ужо стартаваў з арбітальнай станцыі ў накірунку сузор'я Дзевы.

Таму, каб не сказіць думак славутага публіцыста, папулярызатара навукі, грамадскага дзеяча, прыводзім амаль што поўнасцю артыкул Льва Леўданскага:

### АДАМАНЫ — ЯК ФОРМА ВЫШЭЙШАГА РОЗУМУ

Што такое чалавек?

Спытаем сябе адразу пра найгалоўнейшае, павядзём гаворку па самым вышэйшым рахунку, хопіць хавацца за аўтарытэты класікаў.

Што такое Gomo sapiens, з якім мы носімся як з пісанай торбаю ўжо каторае стагоддзе?

На вялікае наша расчараванне, пры ўсёй нашай шматвяковай этычна-эстэтычнай узброенасці мы нават і цяпер, калі стаім на парозе кіравання тэрмаядзернымі рэакцыямі, калі можам запускаць касмічныя караблі да сузор'я Дзевы, мы нават і цяпер не можам пэўна і катэгарычна сказаць, што ж вылучае чалавека разумнага сярод іншых жывых істот. Часы катэгарычных выказванняў даўно і, на наша шчасце, навечна мінуліся, і цяпер мы ўсё больш і больш сур'ёзней задумваемся над гэтымі простымі пытаннямі, інтуітыўна разумеючы, што выйсце наша — не ў катэгарычнасці выказванняў вучоных і філосафаў мінулых стагоддзяў, якія, дарэчы, часцей за ўсё адзін аднаму супярэчаць, а зусім у іншым, у тым прынцыпова новым падыходзе да ацэнкі дзейнасці чалавека, які адкрываюць нам апошнія дасягненні навукі і тэхнікі.

Канечне, многія вучоныя мужы свету, тут жа, прачытаўшы мае палымяныя страсныя радкі, напісаныя не халодным чарнілам, а, вобразна кажучы, крывёю палкага чэснага сэрца, тут жа закіпяць, яны проста-такі аж забурбоchaць ад абурэння, пачнуць мне пярэчыць, гаварыць, што яны, маўляў, штосьці ведаюць, кожны сваю праўду, кожны сваю спецыяльнасць, магчыма, нават, вучоныя мужы свету пачнуць сцвярджаць, што чалавек разумны адрозніваецца ад іншых істот тым, што жыве грамадствам, што ён працуе і думае. Некаторыя могуць нават пасмяяцца з мяне — маўляў, я задаю пытанне, адказ на якое ведае нават вучань-двоечнік. Многія пачнуць сцвярджаць, што я са сваім пытаннем лезу ў насцеж адчыненыя вароты, дакладней, нават і не ў вароты, а ў вузкую шчыліну ў падваротні, як тое малое неразумнае дзіця, замест таго каб спакойна, як і большасць дарослых людзей, прайсці цераз весніцы.

Як я цудоўна ведаю гэтыя пытанні вучоных мужоў свету! Як я ведаю іх дробныя шпількі і падколкі!

Што магу сказаць цяпер?

Што ж, гэтае права выказацца ў вучоных мужоў свету ніхто не адбірае і адбіраць не збіраецца, але ў нашым свабодным адукаваным свеце я магу ды і маю права выказаць сваю запаветную думку, тым болей што яна павінна ашчасліваць чалавецтва.

І яшчэ я хачу мімаходзь напомніць вучоным мужам свету, каб яны не забываліся, што вуснамі дзіцяці, якое, замест таго каб бегчы з двара на вуліцу цераз весніцы, чамусьці любіць лазіць у падваротню, вуснамі такога неразумнага дзіцяці, як вядома з гісторыі, часцей за ўсё вымаўляецца ісціна, якую не ведаюць дарослыя.

Не забывайцеся пра гэта, вучоныя мужы свету!

Я, Леў Леўданскі, сцвярджаю: мурашы і пчолы таксама працуюць у сваім «грамадстве», працуюць гэтак старанна, што нам, асобным прадстаўнікам чалавека разумнага, у іх трэба вучыцца ды вучыцца як працавітасці, так і карысці вузкай спецыялізацыі (дарэчы, у апошні час усё часцей і часцей вы, вучоныя мужы свету, пагаджаецеся з тым, што тыя ж мурашы і пчолы ўмеюць лічыць, яны ў сваёй дзейнасці кіруюцца не проста бяздумнымі інстынктамі, а — розумам).

Наконт другога важнага паняцця, за якое, як тапелец за саломінку, вы, вучоныя мужы свету, хапаліся ва ўсе часы і хапаецеся цяпер, я хачу выказацца лаканічна коратка, але даволі ясна і катэгарычна: мне проста незразумела такое паняцце, як думаць... Я хачу спытаць вучоных мужоў свету, чым адрозніваецца працэс думання ў чалавеку ад працэсу думання ў найноўшай электронна-вылічальнай машыне «Х-1004» японскай вытворчасці, пабудаванай, як мне вядома, на новых прынцыпах: асацыятыўна-лагічных сувязей з прымяненнем жывых клетак і нейронаў?[1]

Вы, вучоныя мужы свету, ці можаце вы цяпер, у святле апошніх дасягненняў у розных галінах навукі, той жа біялогіі, ці можаце вы ўпэўнена сказаць, чым прынцыповым адрозніваецца працэс думання ад ана-

---

[1] Японскія вучоныя і канструктары не перастаюць здзіўляць свет сваімі фантастычнымі дасягненнямі ў розных галінах навукі і тэхнікі. Памеры ЭВМ, пра якую Л. Леўданскі нагадвае ў сваёй працы, у параўнанні са звычайнымі ЭВМ суадносяцца як 1:1 000 000. Дастаткова нагадаць, што ЭВМ «Х-1004» памерамі з запалкавы карабок замяняе поўнасцю комплекс сучасных ЭВМ, якія трэба размясціць на 10 самых буйнейшых стадыёнах свету. Акрамя алгебраічных і арыфметычных дзеянняў «Х-1004» стварае сучасную эстрадную музыку, піша вершы, паэмы, раманы, малюе карціны на зададзеную тэму, стварае кінафільмы (фільм ЭВМ «Х-1004» «Зорны час» на апошнім кінафестывалі ў Канах заняў першае месца). У прынцыпе ЭВМ «Х-1004» можа выканаць любую разумовую працу, якую можа выканаць чалавек. Як сцвярджаюць японскія вучоныя, поўнасцю здольнасці «Х-1004» яшчэ не раскрытыя.

лагічнага працэсу ў іншай жывой істоты? Паўлаў і Фрэйд, якія па-рознаму тлумачылі паводзіны чалавека, для мяне не аўтарытэты (для мяне ўвогуле аўтарытэтаў ніколі не было ды і цяпер няма), бо іх тэорыі і гіпотэзы цудоўна накладаюцца і на паводзіны жывёл.

Што я чую ад вас, вучоныя мужы свету, калі задаю вам простыя дзіцячыя пытанні? Ша?.. Нешта не чую я вашага звонкага голасу. Цішыня пануе вакол мяне.

Канечне, праз дзень ці праз тыдзень пасля майго вострага артыкула вы апамятаецеся, вы пачняце махаць кулакамі на сваіх сімпозіумах, вы пачняце апраўдвацца новымі тэорыямі і гіпотэзамі. Што ж, падавайце, падавайце мне вашы новыя тэорыі, і я тут жа разаб'ю іх у дым...

Цяпер прашу вас зірнуць на прыроду чалавека з іншага, нетрадыцыйнага боку.

Некалі вы, вучоныя мужы свету, хорам сцвярджалі, што галоўнае ў чалавеку — мозг, ён, маўляў, той найгалоўнейшы цэнтральны орган, які кіруе работаю ўсяго астатняга: і сэрца, і лёгкіх, і ног, і рук, і вачэй, і вушэй, бо ўсё гэта астатняе — бяздумныя механізмы-аўтаматы, якія забяспечваюць нармальную дзейнасць мозгу. Што ж, дзе ў чым ваша думка пацвердзілася і як найвышэйшы доказ гэтага — шматлікія аперацыі па трансплантацыі любых органаў чалавека.

Але ці адкрылі вы таямніцу чалавека? Ці не сталася так, што цяпер вы яшчэ болей, чым некалі, заблыталіся ў сваіх тэорыях?

З адкрыццём клеткавай структуры чалавека, з адкрыццём генаў вы пачалі лічыць, што таямніца быццё схавана ў малекулах ДНК і РНК, у той генетычнай інфармацыі, якую вы быццам бы вось-вось расшыфруеце, і тады вам усё стане ясна і зразумела, бо цяпер, згодна вашых навейшых тэорый, мозг чалавека — таксама бяздумны механізм, які падпарадкоўваецца больш тонкаму генетычнаму механізму.

Але цяпер я, Леў Леўданскі, аўтарытэтна бяруся сцвярджаць, што і на гэтых адкрыццях вы, вучоныя мужы свету, не спыніцеся. Маюцца ў прыродзе пэўныя нязведаныя намі законы — ці думалі вы пра гэта, вучоныя мужы свету,— паводле якіх атамы і малекулы, што ўваходзяць у складаныя структуры ДНК і РНК, выстройваюцца ў тым альбо іншым парадку. Гэтак жа, як ёсць пэўныя заканамернасці, згодна з якімі ядро альбо

элементарная часціца пабудавана так, а не іначай. Што я хачу гэтым сказаць? Толькі тое, што таямніца нашага быцця схавана нашмат глыбей, чым вам уяўляецца, вучоныя мужы свету.

І гэта дазваляе мне аўтарытэтна сцвярджаць, што чалавек разумны з'яўляецца ўсяго толькі — запамятайце мае прарочыя словы! — носьбітам больш вышэйшага жыцця, жыцця тых жа загадкавых вірусаў адаманаў, адкрытых нядаўна Валескім. Не толькі сэрца, лёгкія, рукі і ногі, але і ўсё астатняе ў чалавеку: і мозг, і нават нашы з вамі спрадвечныя разважанні пра загадку быцця, і так званая свядомасць з падсвядомасцю, усё гэта ўсяго толькі — бяздумны механізм, тая біялагічная машына, якая кіруецца нябачным жыццём, што знаходзіцца ўсярэдзіне нас.

Валескі яшчэ і сам не ўяўляе сапраўднага значэння свайго адкрыцця — як і большасць сучасных вучоных, Валескі, мабыць, занадта заняты вузкай спецыялізаванай дзейнасцю. Што ж, гонар і слава Валескаму як вучонаму, хай ён і надалей займаецца сваёй навукаю, а з адаманамі мы цяпер як-небудзь разбяромся і самі, без Валескага.

Лічу, што вірусы адаманы, якія прысутнічаюць у арганізме чалавека, увесь час падаюць нам сігналы пэўнага кіруючага характару на клеткавым і генетычным узроўні. Тым болей што я сягоння магу прадэманстраваць вам хіміка-матэматычныя разлікі, якія я правёў у сувязі з адкрыццём адаманаў. Прыводжу вам іх ніжэй[1].

Апошнія дасягненні геннай інжынерыі, вывядзенне прынцыпова новых істот і парод жывёлін з дапамогаю радыеактыўных мутацый, з дапамогаю той жа геннай інжынерыі даказваюць правільнасць маіх хіміка-матэматычных разлікаў. На гэта ж самае ўказваюць шмат-

---

[1] Апускаем спецыфічныя хіміка-матэматычныя выкладкі Л. Леўданскага, з дапамогаю якіх паказваецца і даказваецца, якім чынам, уплываючы на гены, на структуру малекул ДНК і РНК, можна ўводзіць у жывую клетку, а г. зн. і ў арганізм чалавека тую альбо іншую інфармацыю, што, канечне, прывядзе да змены функцыянальнай дзейнасці чалавека. Змены гэтыя выяўяцца як у паводзінах, так і ў псіхіцы. Уплываць на генетычную структуру чалавека можна рознымі шляхамі: хірургічным, хімічным і нават з дапамогаю рок-музыкі, якая, як даказалі медыкі, уздзейнічае на чалавека на генетычным і клеткавым узроўні.

лікія сучасныя гіпотэзы аб паходжанні чалавека разумнага, якія рэзка адрозніваюцца ад эвалюцыйнай тэорыі Дарвіна[1].

Якія ж высновы з майго грандыёзнага артыкула? Іх шмат. Коратка я хачу засяродзіць увагу ўсяго чалавецтва на некаторых прынцыпова важных праблемах, на тых лагічных высновах, якія выцякаюць з майго доказнага сцверджання, што адаманы — форма вышэйшага розуму.

Першае, што я прапаную,— называць у далейшым род чалавечы не Гома сапіенс, а Гома адаманіс. Як вы разумееце, новая назва — не проста ўмоўнасць, новая назва роду чалавечага — гэта прынцыпова новы ўзровень мыслення, яна аўтаматычна абавязвае нас перагледзець усе паняцці, якія ўсталёўваліся сярод людзей на працягу тысячагоддзяў.

Асабліва карэннаму перагляду падлягаюць такія паняцці, як народ, нацыя, сумленне, праўда,— у святле сказанага і даказанага мною яны павінны набыць іншы, больш глабальны і канцэптуальны сэнс.

Не збіраючыся надоўга ўдавацца і спыняцца на прыватных задачах і праблемах, я яшчэ раз падкрэсліваю, што мы, род чалавечы, павінны зразумець — і разуменне гэтае трэба закладваць дзецям яшчэ з пялёнак, яшчэ з дзіцячага садзіка — што чалавек — не цар прыроды, а тым болей не бог, ён усяго толькі — бяздумны носьбіт больш высокага і больш разумнага загадкавага жыцця, назва якому — жыццё адаманаў.

У заключэнне яшчэ і яшчэ раз паўтараю: адаманы — высокаразвітыя жывыя істоты, гэткія ж, як і мы, людзі. Дакладней будзе сказана: мы, людзі,— усяго толькі носьбіты адаманаў, здаровае асяроддзе...

І яшчэ я хачу выказаць надзею, што мае шчырыя думкі, выказаныя па закліку палымянага чэснага сэрца, упадуць у спрыяльную глебу і праз пэўны час дадуць плённы ўраджай. Хто будзе пажынаць той ураджай — для мяне не так ужо і важна.

*Леў Леўданскі*

---

[1] Мабыць, тут Л. Леўданскі мае на ўвазе новую апошнюю гіпотэзу А. Галілейскага, згодна якой *чалавек разумны* з'явіўся на Зямлі ў выніку радыеактыўнага выпраменьвання, якім некалі былі падвергнуты чалавекападобныя малпы (штучна ці натуральна — невядома, і ў гэтым зараз бачыцца галоўная загадка).

Л. Леўданскі, як заўсёды, быццам у ваду глядзеў: у спрыяльны час, у спрыяльную, добра-такі падрыхтаваную глебу ўпалі ягоныя важкія глыбокія думкі. Ні ў казцы сказаць ні пяром апісаць, што пачало тварыцца ў белым свеце.

Канечне, як гэта заўсёды вядзецца, і тут знайшліся белыя вароны — дзе хто не паверыў знакамітаму аўтару, вядомаму папулярызатару навукі, дзе хто падумаў, што ягоны артыкул — чарговая хітрая містыфікацыя, якіх дагэтуль шмат было ў гісторыі, бо надта ўжо ашаламляльныя і смелыя думкі былі выказаны ў артыкуле «А д а м а н ы — я к ф о р м а в ы ш э й ш а г а р о з у м у». Адусюль пасыпаліся лісты чэсных наіўных грамадзян у рэдакцыі газет і часопісаў, на радыё і тэлебачанне, у розныя дзяржаўныя ўстановы — людзі дапытваліся, ці праўда ўсё тое, пра што напісаў Леўданскі? Сродкі масавай інфармацыі розных краін вымушаны былі даваць тлумачэнні. Але што прынцыпова новага маглі сказаць яны, калі ў іх пад рукамі не было доказнага лагічнага матэрыялу, якім можна было ці то абвергнуць думку Леўданскага, ці то пацвердзіць.

Падчас знаходжання за мяжою Валескага была арганізавана прэс-канферэнцыя. Улічваючы важнасць матэрыялаў прэс-канферэнцыі, а таксама важнасць далейшых падзей, што развіваліся ў свеце, мы змяшчаем стэнаграму прэс-канферэнцыі.

### ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ ВАЛЕСКАГА ДЛЯ АЙЧЫННЫХ І ЗАМЕЖНЫХ ЖУРНАЛІСТАЎ

*(Урыўкі са стэнаграмы)*

К а р э с п а н д э н т  а г е н ц т в а  Ф р а н с  П р э с: Містэр Валескі, што новага вы можаце сказаць пра адаманаў?

В а л е с к і: Адаманы адрозніваюцца ад звычайных вірусаў формаю. Зараз намі дакладна ўстаноўлена, што маецца пэўная карэляцыя паміж канцэнтрацыяй адаманаў у арганізме чалавека і некаторымі сучаснымі захворваннямі, у прыватнасці — СНІДам. Пакуль, на жаль, мы не можам пэўна сказаць, што з'яўляецца першапрычынаю: адаманы выклікаюць захворванні ці наадварот — захворванні выклікаюць рост колькасці

адаманаў. А тым болей я не магу катэгарычна сцвярджаць пра сувязь паміж такімі вядомымі ўсяму свету хваробамі, як грып, халера, чума — хваробамі, што, як усім вядома, выклікаюцца вірусамі — і адаманамі. Верагодней за ўсё, роля адаманаў у арганізме зводзіцца да іншага, хоць да чаго — мы пакуль не можам сказаць. Мушу сказаць, што нам пакуль невядомы механізм размнажэння адаманаў, мы ведаем толькі, што адаманы пранікаюць у ядро клеткі парамі. Чаму парамі? — пра гэта мы таксама нічога не ведаем. Пасля таго як у ядро клеткі пранікае пара адаманаў, яна пачынае самастойна рэпрадуцыраваць. Механізм рэпрадуцыравання нам таксама невядомы. Калі нам удасца раскрыць хоць бы гэтыя, загадкавыя на сённяшні дзень працэсы, то тады мы зможам нашмат смялей гаварыць аб ролі адаманаў як у арганізме чалавека, так і ўвогуле ў прыродзе.

Карэспандэнт агенцтва Рэйтар: Адаманы — вірусы спецыфічныя, можна смела сказаць, што яны — унікальныя. Пакуль што яны знойдзены толькі ў арганізме чалавека. Як ужо вядома з матэрыялаў шматлікіх археалагічных даследаванняў Лі-Шаоцы з Пекіна ды, дарэчы, і таго ж вашага сябра містэра Лабуцькі, можна выказаць меркаванне, што адаманы існавалі даўно. У сувязі з гэтым узнікае лагічная дылема: альбо адаманы шкодныя для чалавецтва — тады чаму яны нас не знішчылі да сённяшняга дня? — альбо карысныя, спрыяюць прагрэсу. Што вы можаце сказаць?

Валескі: Паводле дыялектычна-матэрыялістычных законаў, прырода чалавека, як і прырода ўвогуле бясконцыя. У чалавеку яшчэ схавана шмат таямніц. І таму цяпер будзе проста смешна, калі я пачну перад вамі катэгарычна сцвярджаць штосьці такое, што на сённяшні дзень не праверана навуковымі і эксперыментальнымі метадамі. Практыка — крытэрый ісціны. Я ўвесь час прытрымліваюся гэтага лозунга. Паўтаруся, я ні за адаманаў, ні супроць іх. Калі акажацца ў далейшым, што адаманы — карысныя людзям, як гэта цяпер высвятляецца з сапраўднаю роляю некаторых вірусаў, то няхай яны жывуць ды пажываюць. Проста іх трэба вывучаць, як і любую прыродную з'яву.

Карэспандэнт тэлекампаніі Сі-бі-эс: Што вы можаце нам заявіць у сувязі з паяўленнем у сусвет-

ным друку знакамітага артыкула не меней знакамітага Льва Леўданскага *«Адаманы — як форма вышэйшага розуму»?*

Валескі: Як вучоны я не магу рабіць такія катэгарычныя вывады з факта адкрыцця і існавання ў арганізме чалавека адаманаў. Тое, што знешняя форма адаманаў нагадвае форму чалавека, можа быць выпадковым. Адкрыйце любы падручнік па вірусалогіі і вы тут жа, на першай старонцы, прачытаеце, што формы вірусаў бываюць розныя: палачкавыя, цыліндрычныя, сферычныя і іншыя. Цяпер у звышновым электронным мікраскопе канструкцыі Алешнікава мы назіраем, што гэтыя звыклыя нам формы пры большым павелічэнні становяцца больш размытымі і мы ўжо не можам дакладна і аўтарытэтна сцвярджаць пра палачкавасць, цыліндрычнасць альбо сферычнасць форм вірусаў. Трэба мець на ўвазе, што пры занадта вялікім павелічэнні мы сутыкаемся з праяваю прынцыпу неакрэсленасці[1], што абмяжоўвае нашы магчымасці даследавання вірусаў і іх знешніх форм. Паўтараю, матэрыя — бясконцая ў знешнім праяўленні форм. Напрыклад, некалі людзі ўяўлялі, што атам уяўляе сабою кругленькае цяжкое ядро, вакол якога носяцца амаль гэткія ж, толькі значна лягчэйшыя і з процілеглым электрычным зарадам электроны-шарычкі. Дарэчы, Нільс Бор лічыў, што яны чырвонага колеру. Цяпер мы так не лічым. Кожнаму ўзроўню пазнання прыроды адпавядаюць пэўныя паняцці і ўяўленні. Цяпер мы ўсё часцей і часцей у навуцы сутыкаемся з тым, што наша чалавечае ўяўленне не можа ўспрымаць некаторыя паняцці аб'ектыўнай рэальнасці. Прывяду вам просты прыклад. Мы, людзі, не можам уявіць, як той жа электрон можа быць адначасова і часцінкаю і хваляю. Але зміірыцца з гэтым мы павінны. Што датычыць формы

[1] Прынцып неакрэсленасці, фундаментальнае палажэнне квантавай тэорыі, у якім сцвярджаецца, што характарызуючыя фізічную сістэму так званыя дабавачныя фізічныя велічыні (напрыклад, каардыната і імпульс) не могуць адначасова прымаць дакладныя значэнні; адлюстроўвае двуякую, карпускулярна-хвалявую прыроду часцінак (электронаў, пратонаў і г. д.). Недакладнасці пры адначасовым вызначэнні дабавачных велічынь звязаны суадносінамі неакрэсленасцяў, якія для недакладнасцяў $\Delta X$ і $\Delta P_x$ у вызначэнні каардынаты X і праекцыі на яе імпульсу P мае выгляд: $\Delta P_x \cdot \Delta X \geqslant h$, дзе h — Планка пастаянная.

існавання разумнага жыцця на клеткавым узроўні, высокаразвітай настолькі, што гэтае жыццё, як сцвярджае Леўданскі ў сваім артыкуле, кіруе паводзінамі чалавека, гэта малаверагодна. Увогуле, як мне падалося, артыкул Леўданскага — звычайная прафанацыя навукі. *(Шум у зале. Шчоўканне фотаапаратаў. Трэск кінакамер. Чуецца выклік невядомага чалавека ў цёмных акулярах: «Мы не дазволім абражаць светлы геній Леўданскага!» Двое маладых таварышаў у блакітных строгіх касцюмах тут жа падышлі да невядомага і папярэдзілі аб адказнасці за парушэнне правілаў грамадскіх паводзін).*

Загулялі, загулялі крылатыя думкі Леўданскага па белым свеце!

У глухіх вёсках, на вуліцах вялікіх і малых гарадоў, у кафэ і ў піўных барах, у перапынках паміж саліднымі дзелавымі паседжаннямі і пры выпадковых знаёмствах, у школах і ў навукова-даследчых інстытутах, на рабоце і дома на кухні — усюды-ўсюды людзі толькі тым і займаліся, што гаварылі, да хрыпоцця спрачаліся пра адаманаў. Як гэта заўсёды бывае, калі людзі сутыкаюцца з чымсьці новым, загадкавым і малавядомым, і ў гэтым выпадку кожны чалавек, незалежна ад пасады і адукацыі, лічыў сябе буйным спецыялістам па праблеме адаманаў. Тут праяўлялася амаль тое ж самае, што праяўляецца пры ацэнцы твораў мастацтва ці ў той жа літаратурнай крытыцы: кожны чалавек абавязкова меў сваю а с а б і с т у ю думку альбо сваё а с а б і с т а е меркаванне пра адаманаў, якія, канечне, былі самымі важнейшымі і самымі галоўнейшымі за астатнія чужыя думкі і меркаванні.

Як і тыя ж футбольныя балельшчыкі, якія спецыяльна збіраюцца ля стадыёнаў у цэлыя натоўпы, каб паспрачацца і выгаварыцца, гэтак жа і цяпер людзі збіраліся ў вялікія натоўпы і спрачаліся, даказвалі адно аднаму штосьці, кожны сваё...

Адусюль толькі і чулася: «Я вот мяркую, што адаманы...» Было не раз, што ўжо і загрудкі хапаліся некаторыя...

Нават прэс-канферэнцыя Валескага не магла збіць магутнай хвалі зацікаўленасці да адаманаў, наадварот, чамусьці так атрымалася, што, прачытаўшы ў сусвет-

ным друку матэрыял прэс-канферэнцыі, людзі яшчэ больш зацікавіліся адаманамі, яны кінуліся вывучаць медыцыну, вірусалогію.

Многія замежныя журналісты і вучоныя ўхапіліся за выказванне Валескага наконт малаверагоднасці існавання высокаразвітай формы жыцця на клеткавым узроўні.

«Малаверагодна — гэта зусім не азначае, што такой формы жыцця не можа быць. Такога факта нават заця-ты дагматык і матэрыяліст Валескі не асмельваецца адмаўляць. Некалі такія цемрашалы-дагматыкі як Валескі адмаўлялі кібернетыку і генетыку, а цяпер вось яны не хочуць верыць у высокаразвітае існаванне разумных адаманаў. Што ж, у свой час дарагою, вельмі дарагою цаною заплаціць чалавецтва на гэтыя памылкі»,— так заявіў Леў Леўданскі ў інрэрв'ю газеце «Нью-Йорк Таймс».

На пэўны час людзі забыліся нават пра лятаючыя талеркі, пра касмічных прышэльцаў, пра Бермудскі трохкутнік і іншыя не менш цікавыя загадкавыя з'явы і праявы, без якіх дагэтуль не маглі абыходзіцца.

У шматлікіх газетах і часопісах, на радыё і тэлебачанні былі ўведзены спецыяльныя перадачы і рубрыкі: «Адаманы», «Праблема адаманаў», «Загадка веку — адаманы» і іншыя. У сатырычных і гумарыстычных часопісах, у гумарыстычных тэле- і радыёперадачах па-свойму гаварылася пра адаманаў — з'явілася процьма гумарэсак, жартаўлівых і сур'ёзных мініяцюр, афарызмаў, у якіх галоўнымі героямі былі загадкавыя нябачныя арганізмы.

Дарэчы, некалькі слоў скажам і пра гумар. Сярод людзей, як простых рабочых, так і тых, хто меў вышэйшую адукацыю, асабліваю папулярнасцю карысталіся анекдоты пра адаманаў. Новыя анекдоты паяўляліся сярод людзей і ўмомант, хутчэй за ўсякі тэлетайпны матэрыял, разносіліся па гарадах і вёсках. Самае цікавае і загадкавае было ў тым, што невядома было дазнацца, хто складаў тыя анекдоты. Анекдоты былі розныя, былі нават і з палітычнаю падсветкаю, але ў большасці яны былі звязаны з бытавою тэматыкаю. Пры сустрэчы знаёмых замест: «Прывітанне, як жывеш-пажываеш?» — цяпер толькі і чулася: «Хочаш, раскажу анекдоцік пра адаманаў. Свежанькі». Дзеля

цікавасці і гістарычнай праўды прыводзім адзін з такіх анекдоцікаў, у свой час найбольш тыповы і хадавы.

Вяртаецца стомлены адаман з работы ў клетку і кажа жонцы адаманісе:

— Стаў есці на стол, бо прагаладаўся за дзень ля канвеера стоячы.

Адаманіха ставіць на стол талерку з булёнам.

Адаман сербануў таго булёну раз, другі, а тады лыжкаю па талерцы бразь — аж пырскі з таго булёну паляцелі ва ўсе бакі.

— Што ты мне, адаманіха, трэці дзень падрад посны булён падсоўваеш? А мяса дзе?

Адаманіха памаўчала, слёзы кулаком выцерла ды і кажа адаману:

— Яшчэ дзён дванаццаць, мой ты адаманка, на посніцы сядзець будзеш.

— Чаму? — зароў галодны адаман.

— Наш чалавек пасля палучкі запіў-загуляў, шэф яго з работы зволіў, беспрацоўным ён цяпер па вуліцах туляецца, невядома, мой ты адаманка, калі мы на мясны булён узаб'ёмся...

Як і прарочыў Леўданскі, так ці інакш, але і сапраўды адаманы ціха і непрыкметна з кожным новым днём, не тое што тыднем, займалі ўсё большае і большае месца ў свядомасці людзей. Было для людзей у слове адаман штосьці таемнае, тое прыцягальнае нязвыкла новае, якое ва ўсе часы прыцягвала і прыцягвае чалавечую ўвагу, і тут, мабыць, не так ужо і важна, з чым гэта таемнасць і нязвыкласць звязаны: з чарцямі ці з ведзьмамі, з лятаючымі талеркамі ці са снежным чалавекам, з вераю ў бога ці з тымі ж адаманамі. Слова адаман у той час атаясамлівалася ў людской свядомасці па-рознаму: у адных — з чымсьці жартаўліва-вясёлым і зусім не сур'ёзным, з чаго можна пасмяяцца і тут жа забыць, для другіх — з тым загадкавым і новым неспазнаным жыццём, з якім, нарэшце, замаячыла магчымасць сутыкнуцца, для трэціх — з новым спосабам нажыць сабе капітал.

Людзі былі людзьмі...

Хоць пачыналася многае несур'ёзна, як з гульні якой бяскрыўднай.

Ну, напрыклад, што, здавалася б, сур'ёзнае можа нарабіць сярод людзей новастворая рок-група «Адаманы»? Колькі ўжо было сярод людзей такіх рок-груп і колькі будзе?! І ўсе яны, празвінеўшы годзік-другі, знікалі бясследна, растваралiся сярод новых не менш знакамітых і не менш цікавых рок-груп.

Але гэта рок-група, у якую, дарэчы, увайшло сем прадстаўніц розных рас, зрабіла на чалавецтва незабыўнае ўражанне. Песні «Адаманаў» запісваліся на магнітафоны і відэамагнітафоны. Пласцінкі з гэтымі запісамі разыходзіліся мільённымі тыражамі, на «чорных» рынках перапрадаваліся за вялізныя — месячны аклад сярэдняга рабочага,— грошы, былі створаны музыкальныя фільмы (звычайны шырокафарматны каляровы і стэрэа), у якіх паказваліся і выконваліся песні падчас трыумфальных гастрольных паездак па многіх краінах свету. Фільмы гэтыя мелі велізарнейшыя касавыя зборы.

«Адаманы» сталі кумірамі моладзі, цэлае пакаленне вырасла не пад напевы народных песень, а пад рытмічныя мелодыі «Адаманаў», балазе тыя спевы штодня чуліся па некалькі разоў як у тэле- і радыёперадачах, так і на кожным рагу вуліцы. Гастрольныя іх выступленні ператварыліся ў такія святы, што пра гэта амаль што і немагчыма расказаць. Звычайна «Адаманы» выступалі не ў канцэртных залах — канечне, ніводная канцэртная зала не магла змясціць усіх жадаючых хоць бы адным вокам глянуць на легендарных спевакоў,— а на стадыёнах моладзь слухала іх стоячы. Падчас спеваў «Адаманаў» у экстазе падлеткі рвалі на сабе адзенне і валасы, крычалі немаведама што, трацілі свядомасць, а некаторыя дык і вар'яцелі...

Асаблівай звышпапулярнасцю карысталася песня «Адаманаў»: «О, прыйдзі да мяне, адаман!» Гэтая знакамітая песня стала своеасаблівай візітнай карткаю «Адаманаў», а для моладзі — гімнам...

Ніжэй прыводзім словы і ноты славутай песні. Дарэчы, для зацікаўленых аматараў паэзіі хочам паведаміць, што тэкст песні напісаны сусветна вядомым паэтам-песеннікам Рукаліцынскім.

## О, ПРЫЙДЗІ ДА МЯНЕ, АДАМАН!

Ка_ лі я сплю, ка_ лі кай_фу_ ю,

ка_лі ца_лу_ю_ся з любой, ні_воднай

я не га_ран_ту_ю, што верным буду я ад_

_ной. О, а- да- ма_ ны, ма_

_ны, вы ўсе, як ма_ны, но спайманы.

О- о, а- да- ма_ны, ма_ны,

вы ўсе не спай_ма_ ны.

Калі я сплю,
Калі кайфую,
Калі цалуюся з любой,
Ніводнай я не гарантую,
Што верным буду я адной.

П р ы п е ў:

О, адаманы, маны,
Вы ўсе, як маны, не спайманы,
О, адаманы, маны,
Вы ўсе не спайманы.

Калі сумую і рыдаю,
Калі пакутую адзін,
Я ўсё ж ніяк не забываю,
Што адаман — мой гаспадзін.

П р ы п е ў т о й ж а.

І закалоцяць вечка тру́ны,
І скажуць: «Змыўся як туман»,
Тады нарэшце я сустрэну
Цябе, любімы адаман.

П р ы п е ў т о й ж а.

І заспяваю, зарыдаю
Ад шчасця блізкага свайго,
Бо сябра лепшага не маю
За адамана маяго.

П р ы п е ў т о й ж а.

Песні «Адаманаў», а тым болей «О, прыйдзі да мяне, адаман!», карысталіся вялікай папулярнасцю не толькі ў бязвусай моладзі. Яны прыцягвалі пільную ўвагу сур'ёзных перыядычных выданняў. Каб не быць галаслоўнымі, прывядзём урывак з артыкула «Новае мысленне над новымі праблемамі» вядомага крытыка-музыказнаўца Эльвіры Лебядзінскай, які ў свой час быў надрукаваны ў сусветна вядомым ілюстраваным часопісе «Literature and life»[1].

«У актуальнай тэматыцы, востра звязанай з праблемамі нашага трагічна-пафаснага веку, у нязвыкла смелым спалучэнні разнамоўных слоў і дыялектаў (чаго варты тонкі гукавы пераход ад слова а д а м а н цераз нямецкае м а н (чалавек) да тонкай ледзь улоўнай асацыяцыі англійскага слова м а н і (грошы), у смелай нетрадыцыйнай рыфмоўцы з прымяненнем нязвыклага арыгінальнага націску ў асобных словах (тру́ны), што робіцца толькі дзеля таго, каб яшчэ больш своеасаблівым трагічным святлом асвяціць пафасную канцэптуальна-глабальную ідэю свайго складанага філасофскага

[1] «Literature and life» — «Літаратура і жыццё» *(англ.)*.

твора, абаяльны і геніяльны Рукаліцынскі, як ніхто з сучасных паэтаў і мысліцеляў, на высокім мастацкім узроўні здолеў перадаць нашы з вамі думкі і развагі пра сучаснага чалавека, пра ягонае месца ў сучасным складаным супярэчлівым свеце. Таму я не здзіўляюся, што песня «О, прыйдзі да мяне, адаман!» мае такую агромністую папулярнасць сярод людзей розных нацый і народаў, яна аб'яўдноўвае нас і збліжае, прымушае ўсур'ёз задумацца пра тое вечнае і між тым рэальнае, што ў апошні час адчуваем з асаблівай вастрынёю — жыццё адаманаў».

Такіх ці прыкладна такіх узнёслых артыкулаў, такіх высокіх слоў у адрас Рукаліцынскага гаварылася і пісалася вельмі шмат, яму прысуджваліся многія міжнародныя прэміі.

Увогуле дзіўна, але гэта так атрымлівалася само па сабе — паступова ў людзей складвалася ўражанне, выспявала думка, што ўсю доўгую гісторыю чалавецтва толькі тым і займалася, што рыхтавалася да прыстойнай сустрэчы з разумнымі загадкавымі адаманамі. І праяўлялася гэта па-рознаму, у рознай форме.

На сусветным рынку, у магазінах многіх сталіц з'явіліся ў продажы тавары новастворанай фірмы «Адаманіс». Спачатку ў Парыжы, які, як вядома, з'яўляецца заканадаўцам мод, паявіліся на вуліцах маладыя людзі, якія насілі на сабе нейлонавыя кашулі і бліскучыя каляровыя балоневыя плашчы. На гэтым сінтэтычным бліскучым адзенні мелася кідкая фірмавая этыкетачка:

А потым ужо, з парыжскіх модных магазінаў, ад тых далёкіх парыжскіх авеню пайшло-пакацілася ў іншыя краіны, як тыя марскія хвалі, што адна за адною накочваюць і накочваюць на пакаты бераг...

І ў спякоту і ў золь, і ў госці і на работу,— усюды, у сонечнай Афрыцы і ў халодных заснежаных паўночных краінах, людзі імкнуліся дастаць і апрануць сінтэтычнае адзенне са славутай фірмавай этыкетачкаю:

Тут — мяркуем, што асэнсаваннем гэтай з'явы ў далёкім будучым займуцца філосафы,— важна было не столькі адзенне, як той фірмавы знак. Чалавек, які мае адзенне з фірмавым знакам «Адаманіс», не глухая лапцюжная дзярэўня, не з дзярэўні на свет паявіўся, а — культурны, дасведчана-модны па ўсіх сучасных праблемах, ён праз фірмавы знак «Адаманіс» умудраецца далучацца да таго чужога, малавядомага і загадкавага, што знаходзіцца недзе далёка-далёка ад дому, і таму сам становіцца загадкавы, як і тыя ж нябачныя, але рэальна існуючыя адаманы.

Людзі то мерзлі на холадзе, то парыліся, пацелі пад шчыльным адзеннем, якое не прапускала свежага паветра, многія не вытрымлівалі і млелі на вуліцах, людзі хварэлі алергіяй і захворваннямі скуры, але і гэта іх не магло спыніць, бо мода ёсць мода. А тым болей «Адаманіс» ёсць «Адаманіс»...

Праз пэўны час фірма «Адаманіс» выкінула на сусветны рынак новыя модныя тавары: джынсы, сінтэтычную тканіну розных колераў, дываны і паласы з пахкай сінтэтыкі... І гэта пайшло нарасхват. Акцыі фірмы «Адаманіс» тут жа падскочылі ўгору. І тады ўжо, пасля гэтых пробных шарыкаў, пасыпаліся на пакупнікоў тавары, толькі купляць паспявай, толькі працуй ад цямна да цямна і грошыкі выкладвай... Шта-

ны, кашулі, сукенкі, паліто, курткі, абутак, нават сподняя бялізна — усё, што мог чалавек надзець ці нацягнуць, калі яно мела сусветна вядомы ярлычок фірмы «Адаманіс», набывала ў людской свядомасці агромністую каштоўнасць.

Сярод моладзі паявіліся новыя паняцці, якіх дагэтуль ніхто не ведаў: адаманісты чувак або — адаманістая чувіха. Што гэта азначала? Усяго толькі, што хлопец ці дзяўчына мелі на сабе камплект адзення і абутку з ярлычкамі:

Такія хлопцы і дзяўчаты каціраваліся і ацэньваліся па самым вышэйшым гатунку. Калі хлопец альбо дзяўчына былі адаманістымі, то значыць яны былі шыкоўнымі, самы раз ва ўсіх адносінах... Што думалі адаманістыя, ці ўмелі яны што рабіць — гэта мала каго цікавіла, галоўнае было — каб на адзенні меліся ярлычкі фірмы «Адаманіс».

Ды што доўга пра моладзь гаварыць, калі і дарослыя самастойныя людзі ганяліся за адзеннем фірмы «Адаманіс». Тут, дарэчы, таксама меліся свае тонкасці, староннямy чалавеку часта незразумелыя. Напрыклад, рэжысёры і іншыя кінаработнікі ўсе да аднаго абавязаны былі апранаць чорныя скураныя пінжачкі фірмы «Адаманіс», калі рэжысёр не меў такога пінжачка, то ён і

за чалавека не лічыўся. Літаратары, у прыватнасці, насілі чорныя світэры фірмы «Адаманіс», што, мабыць, было адзнакаю сціпласці і аскетычнасці. Шмат, шмат было тонкасцей у гэтай далікатнай справе.

У вузенькіх, у абцяжачку, джынсах, у абутку на высачэзных абцасах, дзяўчаты соўгаліся адна за адной па гарадах, ледзь перастаўляючы ногі, многія медыкі даказвалі, што ад гэтых цесных вузкіх джынсаў і высокага абутку ў дзяўчатак дэфармавалася маладое гнуткае цела і яны потым не маглі нарадзіць дзіцяці, але ж што не зробіш дзеля «Адаманіса»?..

Хлопцы таксама не адставалі ад моды. Усюды, дзе ні паткніся, між імі вялася дзелавая гаворка, дзе б і як адхапіць адаманістае адзенне. «Я дык і машынку швейную закупіў. У поясе я вот такія складачкі, а там, дзе калошыны, шырэй пусціў, цюцелька ў цюцельку як у фірмы «Адаманіс» атрымалася, дзе б толькі мне цяпер этыкетачку знайсці»,— толькі і чулася ад тых няшчасных, якія па той ці іншай прычыне не маглі дастаць сабе новы адаманісаўскі камплект.

Звычайна а д а м а н і с т ы я ч у в а к і і ч у в і х і пагардліва крывілі вусны з тых, хто не меў на сабе камплекта са славутым фірмавым знакам (дарэчы, праз кожныя паўгода фірма «Адаманіс» выпускала новыя мадэлі адзення). Звычайна а д а м а н і с т ы я любілі гаварыць: «Фірма «Адаманіс» лапцей і венікаў не вяжа». І гэта было сярод моладзі — як пароль. Толькі, бывала, выйдзеш на гарадскі праспект ці ў тую ж дыскатэку завернеш, дык адразу ж і пачуеш: фірма лапцей і венікаў не вяжа...

Канечне, а д а м а н і с т ы я мелі рацыю, пра якія там лапці з венікамі магла весціся гаворка, калі самы таннейшы камплект фірмы «Адаманіс» каштаваў каля трох месячных акладаў рабочага.

За мяжою многія падлеткі, якія не маглі дастаць сабе адзенне фірмы «Адаманіс», пакідалі бацькоў і збягалі з дому. Многія ішлі на злачынствы, многія займаліся спекуляцыяй (на жаргоннай мове гэта называлася фарцоўкаю). Былі выпадкі і самагубстваў...

Кіраўніцтва фірмы «Адаманіс», зразумеўшы, што яны, як гаворыцца, трапілі ў цэль, у самае яблычка,— маючы мільярды долараў чыстага прыбытку на месяц тых кіраўнікоў гэта і дурань зразумее — тут жа наладзілі выпуск новых тавараў: сумак, партфеляў, парфу-

мы і касметыкі, галантарэйных тавараў, спартыўных, музычных інструментаў, тэлевізараў, радыёпрыёмнікаў, машын розных, нават лякарстваў — усё-ўсё пачала выпускаць фірма «Адаманіс». І цяпер куды ні паткніся — ці то тайком цераз мяжу, ці то адкрытым гандлем пранікалі тавары са знакамітым знакам:



І самае-самае загадкавае, што фірмавы знак паступова набываў нейкі свой самастойны сэнс, простым людзям пакуль не зусім зразумелы,— быццам знак гэты меў магічную прыцягальную сілу.

Канечне, адна фірма, якой бы вялікаю яна ні была, не магла арганізаваць і наладзіць такі агромністы выпуск тавараў — фірма «Адаманіс» пачала дзяліцца на больш дробныя фірмы, якія тут жа разрасталіся ў розных краінах як грыбы пасля дажджу. Усяго за некалькі год «Адаманіс» ператварылася ў агромністую транснацыянальную карпарацыю[1].

---

[1] Транснацыянальная карпарацыя (ТНК) — манапалістычнае аб'яднанне, характэрнае для капіталістычнага свету; паходзіць ад слоў *транс* — цераз, скрозь, за, і *карпарацыя* — аб'яднанне.

Гэта карпарацыя мела філіялы ў розных краінах, пачынаючы ад спякотнай Афрыкі, дзе было ўдосталь дзяшовай рабочай сілы, і заканчваючы насельніцтвам паўночных краін, тымі абарыгенамі, якія хаваліся ад холаду ў чумах і ў снежных пячорах.

У тыя краіны, куды ТНК «Адаманіс» не магла пранікнуць у адкрытую, яна прадавала ліцэнзіі альбо станкі для выпуску сваіх тавараў з адной умоваю: каб на таварах абавязкова красаваўся фірмавы знак.

Некаторыя слабаразвітыя краіны спрабавалі супрацьстаяць ТНК «Адаманіс», але хіба ім было дужацца з гэтым гіганцкім агромністым эканамічным спрутам, які дзень за днём усё болей і болей аплятаў зямны шар!.. Тады больш хітрэйшыя кіраўнікі некаторых фірм, ды і не толькі фірм, а нават і цэлыя краіны пачалі выпускаць тавары-падробкі са славутай этыкетачкаю.

Тое, што многія прыватныя асобы рабілі самастойна тавары-падробкі, пра гэта, мяркуем, і не варта напамінаць... ТНК «Адаманіс» пра ўсё гэтаranюхала — падрыву свайго эканамічнага механізма яна ніяк не магла дапусціць, тут жа пачаліся сусветныя скандалы, якія набывалі ўсё большыя памеры. Справы запахлі порахам. Міжнародны арбітраж і іншыя міжнародныя арганізацыі як маглі ўмешваліся ў гэтыя справы, ды гэта памагала як мёртваму прыпаркі...

У сувязі з гэтым, а можа, і яшчэ чаму, хто ведае, ды ў апошні час «Адаманіс» пераключыла частку сваіх прыбыткаў на вытворчасць найноўшай зброі. Зброі з маркаю «Адаманіс» тут жа знайшлося прымяненне, балазе праз месяц, не тое што праз год, міжнародных канфліктаў станавілася ўсё болей і болей. Канечне, гэтыя канфлікты «Адаманісу» былі толькі на руку, і таму тут кіраўніцтва «Адаманіса» не прагадала, пагрэлі яны ручкі добра на крыві чалавечай, прыбытак мелі вялізны, ніхто ўжо і не мог злічыць той прыбытак.

— Нашы грозныя танкі «Адаман» і крылатыя ракеты «Ад», што наводзяцца лазернаю наводкаю з нашых штучных спадарожнікаў «Аманіс» пры першай жа патрэбе па нашай камандзе створаць пекла любому, сатруць з зямлі любую суперніцу-фірму, любую краіну. Яны забяспечваюць і забяспечаць у далейшым наша спакойнае існаванне,— так заявіў нядаўна на прэс-канферэнцыі адзін з афіцыйных прадстаўнікоў ТНК «Ада-

маніс».— Мы забяспечваем амаль што ўсё чалавецтва самым неабходным: як работаю, так і таварамі першай неабходнасці. І што мы за гэта маем? Замест удзячнасці некаторыя фірмы і нават — да чаго даходзіць нахабства ў сучасным свеце! — краіны пачалі наладжваць выпуск тавараў-падробак. Яны страцілі ўсякае сумленне, і таму я ўпаўнаважаны афіцыйна заявіць: мы ніколі і нікому не дазволім афіцыйна ўмешвацца ў нашы адаманісаўскія справы. Гэтак жа, як ніколі і нікому не дазволім карыстацца нашымі перадавымі прагрэсіўнымі ідэямі. Мы ўжо авалодалі ядзернай зброяю — хай ведае свет пра нашу сілу.

*РУКІ ПРЭЧ АД «АДАМАНІСА»!*

Калі адаманы, дакладней ідэі пра рэальнае існаванне адаманаў у такой дзіўнай форме пранікалі ў сферу эканамічнага і палітычнага жыцця многіх краін, то можна толькі здагадацца, што тварылася ў іншых сферах...

## З АПОШНІХ ЗАПІСАЎ ВАЛЕСКАГА

*«І зноў пачалася работа, хоць і не да сёмага поту, як некалі ў нашых бацькоў, бо цяпер мы рабілі зусім не так і зусім не тое, што рабілі некалі нашы бацькі, калі яны касілі, сушылі, секлі, пілавалі, габлявалі, складалі, капалі — калі яны рабілі тое, што нам, дзецям, і не снілася, бо жылі яны ў іншым, далёкім ад нас свеце і ў якім мы хоць і нарадзіліся, але, хацелі таго ці не хацелі, ды не маглі застацца.*

*І зноў ва ўсіх нас, трох, была спешка, боязь спазніцца, была работа, хоць і не такая, як некалі ў нашых мацярок: ранічкаю з расою клунак на плечы ды пяшком з Жыціва ў Бярозава, каб прадаць на рынку тую ягадзіну, што збіралася ўчора ў лесе, ці той жа збанок малака альбо смятаны, якія вымушана адрываеш ад дзяцей, потым у тым Бярозаве трэба выстаяць у чарзе, каб купіць хлеба і тут жа лахі пад пахі ды на рог вуліцы, што ў канцы Бярозава, каб злавіць якую спадарожную машыну, а не дык зноў давядзецца часаць дзесяць вёрст пехадралам, бо дзеці даўно хлеба прачакаліся,*

*а скаціна галодная. І гэтак з дня ў дзень, быццам толькі дзеля гэтага і нараджаешся, быццам гэта і ёсць найгалоўнейшае: то ў Бярозава па хлеб, то ў лес па ягады ці грыбы, то на работу ў калгас за працадзень пусты, то свой агарод глядзі, каб лебядою не зарос, то да скаціны, то дзяцей глядзі — хоць разарвіся, а — паспявай, паспявай, зубы сцяўшы, калі выжыць хочаш...*

*Не, у мяне, як і ў Алешнікава, як і ў таго ж Лабуцькі, была іншая работа, з іншым рытмам, з іншаю спешкаю, ды ўсё ж, хоць і была яна зусім не такая, як у нашых бацькоў і мацярок, але і ў нашай рабоце меліся свая апантанасць і самаахвярнасць, якія з часам непрыкметна засмоктваюць як у вір, і з якога ўжо, бывае, не знаходзіш сіл вырвацца, бо тады перастаеш заўважаць многае не менш важнае, што праходзіць міма цябе, без твайго ўдзелу і жадання,— і сам таго не прыкмячаеш, як пачынаеш горда думаць, што твая работа, твой штодзённы занятак і ёсць той адзіны надзейны пункт апоры, з дапамогаю якога некалі мудры Архімед спадзяваўся кульнуць зямны шар (куды і навошта, пра гэта ў школе звычайна не расказваюць, а варта было б), і яшчэ ты думаеш, што ўсё, чым ты заняты штодня, не частка чагосьці большага, адзінага і суцэльнага, а ўсяго-наўсяго — самае найгалоўнейшае, бо свет белы толькі і створаны дзеля таго, каб ты, заявіўшыся ў ім аднойчы, сваёй бурнай дзейнасцю мог навесці ў ім парадак.*

*Калі б мы ўсе рабілі адну работу, сэнс якой дакладна ведалі!*

*Наіўнасць і сляпая ўпэўненасць сучаснага чалавека, узброенага навукаю і тэхнікаю!.. Ап'янелы ад работы, цяпер ты, чалавек, і сапраўды можаш лёгка кульнуць ці перавярнуць зямны шар — ці то знарок, ці то выпадкова, але гэта табе цяпер пад сілу, як раз плюнуць — ты, чалавек, думаеш, што сучасная навука і тэхніка якраз і ёсць той пункт апоры, пра які некалі марыў Архімед.*

*Чаму ж ты, чалавек, заклапочаны сваёй дзейнасцю, як дзіця цацкамі, усё больш і больш верыш, што свет белы створаны толькі дзеля тваёй патрэбы і таму — начхаць ці напляваць табе на ўсё тое, што хоць крыху замінае тваім бяздумным уцехам, і таму, ні ў кога не пытаючыся дазволу, ты забруджваеш зямлю, ваду і па-*

*ветра настолькі, што і сам пачынаеш задыхацца і атручвацца, ты вытоптваеш апошнія лугі, знішчаеш звяроў і птушак, пераводзіш зялёныя лясы на блытаныя дыялогі, маналогі, дэкларацыі, у дзейнасць якіх даўно і сам не верыш,— з кожным годам ты ўсё больш і больш крышыш усё наўкола, ломіш налева і направа, углыб, да ядра атамнага, адкуль на цябе нясецца разбуджаная радыяцыя, і ўгору, да зор недасяжных, прарываючы паветраны тонкі дах над сваёй галавою, цяпер ты і сапраўды, ап'янелы ад сваёй бурнай дзейнасці, зусім не думаеш, што ты, чалавек, усяго толькі — часцінка, маленечкая неаддзельная часцінка агромністага загадкавага і прыгожага свету, які даўным-даўно створаны да цябе, без твайго ўдзелу і дазволу — заўваж і здзівіся хоць гэтаму, калі цябе свая дзейнасць не здзіўляе і не палохае! — І куды цябе ўпусцілі на час, як добрага чалавека ў госці...*

*Узброены магутнай тэхнікаю, ты адным росчыркам пяра разрываеш жывое цела зямлі на многія вёрсты, высякаеш лясы, паварочваеш рэкі, мяняеш клімат, ствараючы замест лясоў і балот бязводныя пустыні — як той слон у цесным музеі, ты, чалавек, варочаешся і варочаешся на зямлі, пад вадою, у высях касмічных, так і не ўцяміўшы добра, навошта, дзеля чаго твая валтузня?*

*І ўжо смутная думка-здагадка пра бязладнасць тваёй дзейнасці закрадваецца ў тваю душу, чалавек, але ж спыніцца, супакоіцца ты не можаш. Ведаеш, адчуваеш скураю і здароўем трагічнасць сваіх дзеянняў і — не можаш...*

*Але ўсё гэта — мае цяперашнія думкі, калі адзін сяджу на беразе Жыціўкі і гляджу, як блішчыць, пераліваецца пад сонцам рухомая паласа вады, калі бачу, як гнецца ля берага зялёны аер пад парывамі мяккага ветру, калі чую роўны нязменны шум бору за Жыціўкаю. І ўсё гэта патанае ў агромістай цішыні, настолькі нязвыклай для мяне і дзіўнай, як быццам пасля горада мяне занясло на іншую планету, і таму, каб у рэшце рэшт адчуць еднасць з гэтым новым светам, у якім усё адбываецца, як на запаволенай кіназдымцы, мне хочацца як мага хутчэй адкаснуцца ад таго свету, у якім быў дагэтуль, таму я так таропка працягваю свае запісы...*

Стомлены работаю ля прыбораў, ля таго ж электроннага мікраскопа, у якім звычайна, як і ў іншых прыборах, хоць што ды не ладзілася, я ішоў у інстытуцкую бібліятэку, дзе на старонках навуковых кніг і часопісаў, сярод заблытаных формул, бясконцых графікаў, у табліцах і дыяграмах спрабаваў знайсці падтрымку свайму адзіноцтву, але і там, няшчасны, я адчуваў сябе, як тая рыбіна, што трапіла ў нерат і якой цяпер ні ўзад ні ўперад; я спрабаваў спачатку трымацца з усяе сілы за некаторыя сусветна вядомыя пастаянныя і аксіёмы, якія ўвесь час маячаць ды і павінны маячыць перад вучоным, і ўсё ж хутка заўважаў, як проста на вачах сутнасць чалавека, ягоных паводзін пад лагічна-доказным пяром навукоўца размываецца, разменьваецца на сутнасць дзеяння альбо работы — хто як называе — сэрца, лёгкіх, печані, нырак, мышцаў, токаў крыві, нервовых імпульсаў, біятокаў і яшчэ таго кіруючага, што называюць мозгам, гэтай натуральнай ЭВМ, як быццам мозг толькі і створаны дзеля таго, каб усё гэта складанае і агромністае рытмічна-планава рухалася: сэрца ганяе кроў, якая дае жыццё мышцам, а тыя ў сваю чаргу — чалавеку, які гэтаксама тут жа спяшаецца задаць работку ўсяму свету, іначай, мабыць, той свет зачахнуў бы без чалавека, і таму чалавек гэтак апантана варочае, разрывае горы, мяняе руслы рэк, ірвецца немаведама чаго ў космас, хоць і ведае дакладна, што гэтым разрывае тонкі стратасферны дах, ваюе з сабе падобнымі: колькі, колькі шмат работкі можа задаць чалавек як самому сабе, так і ўсяму свету, не думаючы пра свой лёс!

Я займаўся мікрабіялогіяй і вірусалогіяй, бо мне, наіўнаму, як і многім маім аднагодкам, думалася, што недзе там, на ўзроўні ядра клеткі, а можа, і глыбей, у структуры малекул ДНК і РНК я знайду, павінен знайсці той чароўны ключ, якім змагу адамкнуць вароты ў царства вечнасці.

Але і там я бачыў усё тое ж самае: клетка, вірусы, малекулы ДНК і РНК — усё гэта было ў руху, у вечным карагодзе; зноў і зноў у які для сябе раз я прачытваў даўно вядомую казку пра дзеда, бабку і рэпку, з той толькі розніцаю, што мышкі ў маёй казцы не было, яна так і не паяўлялася, і таму мая рэпка ўсё сядзела і сядзела ў зямлі. Я не мог знайсці тое адзінае, ухапіўшыся за што, усё ў гэтым сплеценым карагодзе —

*ад ядра віруса да таго агромністага, што называюць Гома сапіенсам — змог бы лагічна выстраіць.*

*Ці хоць бы растлумачыць.*

*Я калі-нікалі зайздросціў нават веруючым, тым жа піфагарыйцам[1], але нават за лік я не мог ухапіцца,— неадольна, міма маёй волі і жадання, у мяне складвалася ўражанне, што аснова ўсяго існуючага — р у х ч а г о с ь ц і, без пачатку і без канца, без сэнсу і логікі.*

*Навошта, дзеля чаго гэты р у х ч а г о с ь ц і?*

*Я ведаў, што з такімі думкамі нельга пагаджацца, пра гэта не трэба нават і думаць, але ўсё гэта было як у самазабойцы, у якога свая адметная правільная лагічнасць прыводзіць урэшце да трагічнага вываду...*

*Чалавек для мяне, як штосьці адзінае і суцэльнае, распадаўся, як распадаецца пры павелічэнні любы матэрыяльны прадмет: празрыстая бліскучая нерухомая кропля вады, якая дагэтуль цешыла вока, аказваецца напоўненай рухомымі мікробамі, і такую ваду — бр-р, нават уявіць жахліва! — мы п'ём і радуемся, ружовагладзенькі тварык каханага ці каханай пры пільным позірку робіцца порыстым, і на ім, прыгледзься — такое ўбачыш... Усё, да чаго мы пільней прыглядваемся, набывае іншы выгляд, поўніцца іншым сэнсам, пра які дагэтуль, бывала, і не задумваліся, і тады пачынаем разумець многае, з чаго, у няведанні, шчаслівыя, пасміхаліся ці пагардліва крывілі вусны.*

*У бясконцай пагоні за пазнаннем мы непрыкметна губляем нейкія найгалоўнейшыя ісціны, тое простае і няўлоўнае, што павінна быць у свядомасці чалавека, што дае яму надзею і радасць, што аб'ядноўвае людзей у адзінае і суцэльнае, без чаго не толькі чалавек, а і ўсё чалавецтва не змогуць існаваць і ў любы міг могуць вельмі проста спапяліць сябе бомбамі...*

*Якой цаною даецца нам пазнанне?*
*Ці не залішне дорага мы плацім?*

*Я мітусіўся да таго часу, пакуль і аксіёмы разам з сусветнымі пастаяннымі, мае сігнальныя міготкія агні*

---

[1] Піфагарэізм — рэлігійна-філасофскае вучэнне ў старажытнай Грэцыі 6—4 веку да н. э., заснавана Піфагорам. Зыходзіла з уяўлення пра лік як пра аснову ўсяго існуючага.

ў тумане няведання і сумлення, не размываліся, не знікалі зусім, і я адчуваў, што перада мною — пустэча, напоўненая хаосам, і я абсалютна нічога не ведаю.

Як пра сябе, так і пра гэты агромністы свет, што акружае мяне.

Тады здагадваўся, што рабочы дзень заканчваўся і пара выбірацца з нерата, у які сам сябе штодзённа заганяю, з кожным днём усё болей і болей, і можа стацца, што аднойчы і зусім не здолею вылузнуцца з яго.

І буду ж тады, як тая жыціўская Тэкля, якая штораніцы з клункам за плячыма плялася з Жыціва на аўтобусны супынак. Яна першай садзілася ў той аўтобус і ехала да Бярозава. Там яна цэлы дзень хадзіла па вуліцах, па знакамітым бярозаўскім рынку і, махаючы перад сабою рукою, нягучна ўсё гаварыла і гаварыла, правільна і лагічна, і той бярозавец ці чужы чалавек, які не ведаў Тэклі, хто меў добрае сэрца і ўпершыню яе бачыў, бывала, пускаўся з Тэкляю ў доўгую гамонку, спрачаўся нават, пакуль нечакана яму не адымала мову і ён доўга, вачам не верачы, глядзеў на Тэклю, а потым, схамянуўшыся, усунуўшы ў Тэкліны рукі што мог усунуць: буханку хлеба, булку, а то дык і капейкі, адыходзіў моўчкі, а Тэкля ішла далей, па толькі ёй вядомых кругах, якія ў канцы дня абавязкова выводзілі яе на аўтаплошчу, дзе яна зноў садзілася ў аўтобус, як і кожны раз — без білета, бо яе даўным-даўно ведалі ўсе шафёры і кантралёршы, і зноў яна вярталася ў сваю хату, дзе яе ніхто не чакаў: ні сынок, які матляўся недзе ў свеце, ні нявестачка. І так вялося з дня ў дзень: і белай марознай зімою, калі ад холаду і сцюдзёнага ветру закладвала ў грудзях, і сырой зледзянелай восенню, і гразкай вясною, і спякотным пыльным летам, без выхадных, без прахадных, як нанятая была тая Тэкля, і невядома, што ляжала ў яе чорным клунку, які ніколі не здымаўся з плячэй, як казалі жыціўцы, адзін бог ды суседзі ведалі, як жыла Тэкля ў той маленечкай пахіленай хатцы на краі Жыціва, і яшчэ казалі жыціўцы, што гэты ж бог і хавае, беражэ яе, як адзінае вочка, іншы б чалавек на яе месцы даўно б зямлю парыў, а яна во жыве і жыве, каторы годзік ужо: і ў гразь, і ў распуціцу, і ў холад пякельны — калі не выйдзі да аўтобуснага супынку, абавязкова сустрэнеш Тэклю з клункам за плячыма: са светлым, як паперына, тварам, прыгорбленую яшчэ болей загадкавым клункам, ня-

зменную са сваім маналогам пра паліцая Картавешку і сыночка-першынца, якога забіў той...

Але як ні гаварыла Тэкля тое, што гаварылі звычайна і іншыя людзі, як ні імкнулася паводзіць сябе гэтак жа, як і іншыя людзі сябе паводзяць, але нейкая нябачная грозная мяжа навечна пралягла між ёю і людзьмі, якія хоць і не цураліся яе, але ўжо не маглі зразумець...

Бачыў я, як памалу разыходзіліся супрацоўнікі лабараторыі хто куды: да жонак, у магазіны, у дзіцячыя садкі за гаманкімі дзецьмі, на спатканні салодкія — яны разляталіся з інстытута, як раніцаю пчолы з вулля. Застаўшыся адзін, я пачынаў выключаць святло ў лабараторыі, дзе, ахінутыя вячэрнім прыцемкам, астывалі нагрэтыя за дзень прыборы — яны зліваліся з прыцемкам, размываліся, і здавалася, што не толькі перад маімі вачыма, а і ва ўсім свеце нічога няма, што ўсё разам: і я, і прыборы, і інстытут, і агромністы шматпавярховы гулкі горад — усё некуды бязгучна сплывае, у тую чорную невядомасць, з якой ніколі не будзе вяртання, як з той загадкавай касмічнай дзіркі, пра якую мне часта апавядаў Алешнікаў...

Мне спяшацца не было куды, не было да каго вяртацца — я сядзеў нерухома ў прыцемку за сваім рабочым сталом, запамінаючы апошнія імгненні дня.

Ні з таго ні з сяго мне ўспаміналася Жыціва, маленства, якое, здавалася, было побач са мною — як быццам учора я бачыў маленькага, стрыжанага басаногага хлопчыка, які сядзіць на беразе Жыціўкі з вудачкаю і паплаўка ўжо, як ні ўзіраецца ў цёмную ваду, не бачыць, і таму яму пара падымацца і ісці лугам дадому, пакідаючы за спіною белаватыя кусты алешніку, Жыціўку, у якой і сёння не ўдалося злавіць загадкавую, ніколі нікім не бачаную рыбіну...

Чаму я так люблю вечаровы прыцемак — гэту зыбкую зваблівую няўпэўненасць у абрысах дрэў, кустоў, будынін, твараў?.. Чаму я люблю сіваватую пасму туману, што слаіцца над рачулкаю, і адкуль некалі, як з недасяжнага свету, я чуў доўгае-доўгае, працяжнае і нязмушанае, што складвалася па слоўцы вякамі, што перадавалася з вуснаў у вусны і да чаго яшчэ не паспелі дарвацца баявыя геніяльныя кампазітары-апрацоўшчыкі:

Дзе ты быў, мой міленькі,
Дзе ты быў...

Чаму я люблю цьмяны бляск расы, што раптоўна выпадае на траву і мочыць босыя ногі, чаму люблю апошнюю малінавую палоску на захадзе за Жыцівам, апошні светлы развітальны пробліск неба і першую зорку, што роўным святлом свечкі нечакана і непрыкметна — як ні лаві гэты міг, ніяк не зловіш — ціха паяўляецца ўгары, як добры знак, як намёк на тыя змены, што вось-вось адбудуцца навокал, мо нават і ў тваім жыцці таксама, і ўжо зусім няважна калі, пра гэта нават і не задумваешся ў той ціхі час: сягоння, заўтра ці пасляпаслязаўтра, а можа, нават і за тым апошнім парогам,— як хочацца ў гэта верыць, ды навука не дазваляе! — якога ўсе людзі чамусьці гэтак баяцца.

Чаму так любіма мною мяжа святла і цемры? Няўжо і сапраўды ёсць яшчэ таямніца вакол нас і ў нас саміх, і гэта прываблівая мяжа святла і цемры, гэтае пачуццё любові як да зямлі, так і да бліжняга, якое мы, бывае, гэтак лёгка губляем, а то і топчам, спяшаючыся за ўсім тым дробным і рэальна-матэрыяльным, што маячыць наперадзе, можа, уся гэта любоў — як знак чагосьці добрага і чыстага, да якога павінны людзі імкнуцца з усіх сіл, як тая праторaная некім дарога, у якую нас клічуць, ды толькі ісці нам па той дарозе ці то не хочацца, ці то проста лянуемся і таму абеуруч хапаемся за тое лёгкае і больш блізкае, рэальна-матэрыяльнае, што можна купіць за грошы, што маячыць наперадзе, што можна памацаць, адчуць ці паспытаць; і таму як мага хутчэй спяшаем да зыркага святла лямпачкі, да яркага вока грымучага тэлевізара; а там — зусім побач белы разасланы ложак, знаёмае цела і лёгкі сон на закуску...

Чаму з такою бесклапотнасцю мы забываем вечаровы прыцемак, які хоць раз у жыцці, а абавязкова быў ці будзе ў кожнага з нас?

І толькі тады, калі стане нам некалі горка і балюча, так горка і балюча, што, здаецца, болей ужо і цярпець нельга, аднекуль з глыбіні памяці, адтуль, з маленства, выплыве ціхае гаючае:

Дзе ты быў, мой міленькі,
Дзе ты быў...

Потым прыходзіла прыбіральшчыца Міхайлаўна — яшчэ і не зусім старая жанчына, год ля пяцідзесяці, прыгожая той зваблівай здаровай паўнатою, якая кра-

*сіць жанчыну і ў трыццаць, і ў сорак год. Міхайлаўна пачынала прыбіраць у лабараторыі і заадно гаварыла. Мы ўжо прывыклі адно да аднаго, і я ўжо добра ведаў пра яе жыццё-быццё з мужам-п'яніцам, які яшчэ з маладых гадоў пачаў выпіваць, ні за што ні пра што любіў п'яны пускаць кулакі ў ход; гэта во толькі цяпер, як сын падрос, пацішэў трохі, баяцца сына пачаў, ды ўсё роўна ж п'е, як і дагэтуль піў, хоць і на лячэнне пасылалі неаднойчы, хоць і ампулу жахлівую яму ўшывалі, ды мала толку, выносіць з хаты на вуліцу ўсё, што можа вынесці, што трапіцца пад дрыжачую руку: настольнік дык настольнік, лайно якое дык лайно, посуд дык посуд, а пра варэнне дык і гаварыць нечага, яна ўжо і забылася, як варыць тое варэнне, бо ўсё роўна вынесе, нічога ў той голай кватэры не засталося, акрамя сцен, і купляць нічога не хочацца; толькі вот перад людзьмі сорамна, хоць у сабакі вочы пазычай; вось таму і даводзіцца пасля работы на фабрыцы тут, у лабараторыі, падрабляць, каб той сорам прыкрыць хоць трохі, а ён у гэты час, можа, гандлюе дзе на рагу вуліцы ля гастранома, можа, самі калі бачылі такога няголенага ў пінжаку картовым, дык гэта ён, родненькі, што б ні прадаваў, а болей траячкі ніколі не просіць...*

*Здзіўляўся я не столькі яе незразумеламу невытлумачальнаму цярпенню, а як нязвыкламу маладому смеху падчас маналога, чыстаму бляску вялікіх чорных вачэй Міхайлаўны, якая, як сама гаварыла, пражыла жыццё як за плот выкінула, яшчэ з маладых год бачыла ўсё, ды спадзявалася на лепшае, думала, што апамятаецца некалі... І ўсё смяялася яна з сябе, дурніцы, і адкрыта, як і многія рабочыя людзі, глядзела ў вочы і не думала кідаць сваё гора, бо тады ён і зусім пад сцяною якой прападзе.*

*У канцы гаворкі, калі нечакана лавіў у позірку Міхайлаўны штосьці вінаватае, як бы ўжо загадзя яна прасіла прабачэння за сваю адкрытасць, што на людзі вынесла сваё гора, за цярпенне і ўвогуле за тое, што робіць зусім не так, як цяпер многія жанчыны робяць: ледзь што не па нутры — пальцам на дзверы, каб і духу твайго побач не было, паразіт праклята... і тут штосьці дрогкае абрывалася ў душы маёй — назусім, начыста адлятаў ад мяне немаведама куды гэты р у х ч а г о с ь ц і, я выбіраўся з нерата на свабоду і нарэшце мог падымацца і ісці памалу на гарадскую вуліцу, адчува-*

ючы, як у грудзях час ад часу пракатваецца гэтае дрогкае і балючае.

...Як мароз па скуры.

Будзь благаслаўлёны рабочы, які сваімі рукамі, працаю сваёй дорыць людзям штосьці канкрэтнае і рэальнае, што ў любы міг можна памацаць, адчуць ці нават і паспытаць!

Будзь благаслаўлёны творца, які творчасцю сваёй цешыць стомленую душу чалавека блізкай радасцю, якая вось-вось ды паявіцца побач, і таму — не сумуй, не адчайвайся, не апускай галавы, чалавеча!

Будзь благаслаўлёны грамадскі дзеяч, калі ён ведае, куды і як весці за сабою народ і калі веданне ягонае супадае з марамі, жаданнямі і памкненнямі народа!

Але тройчы будзь благаслаўлёны вучоны, які штодня сутыкаецца з невядомасцю, як з чорнай бяздушнай прорваю, і які не адчайваецца і не губляецца, ведаючы і знаходзячы падтрымку ў нечым больш важным і больш надзейным за жахлівую невядомасць, якая гэтак ясна высцілаецца перад вачыма!

За што ён трымаецца?

За што мы ўсе павінны трымацца?»

## З ДЗЁННІКА АЛЕШНІКАВА

«Тады ўжо, як ажаніўся, я адчуў і зразумеў гэтае справядлівае, з чаго калісьці смяяўся: навука патрабуе ахвяр...

А тым болей мне ніколі не верылася, не снілася нават, што адной з такіх ахвяр магу быць і я. У мяне нават і думкі такой не ўзнікала.

Калі Валескі з самага пачатку быў адзін — яшчэ тады, у юнацтве, ён загадзя спаліў за сабою ўсе масты для адступлення, бо, замкнуўшыся ў коле адзіноты, каб нікога не турбаваць і каб яго не турбавалі, ён распачаў над сабою той складаны эксперымент, у якім быў сам выканаўцаю і суддзёю,— то мне думалася, што я — больш шчаслівы, што і ў мяне, як і ва ўсіх, ва ўсякім разе як і ў большасці, будзе сям'я, побач са

мною будзе той блізкі і дарагі чалавек, з якім у любы міг змагу падзяліцца сваёй горыччу і адчаем.

У юнацтве я часта ўспамінаў той ідылічны малюнак, які ў маленстве бачыў на папяровых дыванах, што прывазіліся з бярозаўскага рынку і вешаліся на сценах: два бялюткія лебедзі плаваюць пасярод ляснога возера, а ўдалечыні, за зялёным чаротам і дрэвамі, выторкваецца на ўзгорку цуда-палац, у якім, мабыць, гэтак добра і шчасліва жыць, любуючыся штодня і на возера, і на гэтых бялюткіх лебедзяў з доўгімі выгнутымі шыямі... Вось штосьці такое ўяўлялася мне, калі я марыў пра сямейнае жыццё, і таму мне нічога іншага не заставалася, як ухапіцца аберуч за гэтае штосьці чысценькае, не атручанае цыгарэтным дымам і доўгімі бясконцымі пустымі размовамі пра высокую місію мастацтва, не зачэпленае эстрадна-джынсаваю ліхаманкаю і тым многім іншым, чым так зачэплены многія яе аднагодкі...

Пасля доўгіх пошукаў я знайшоў такое ці амаль што такое. Як некалі казалі ў Жыціве, хто чаго шукае, той тое знойдзе.

У той ружовы час, калі мы з усмешкаю стаялі на парозе загса, мне думалася, што побач з ёю я буду жыць гэтак жа шчасліва, як і тыя два лебедзі, што вечна плаваюць пасярод ляснога возера, не ведаючы трывог і салодкіх спакусаў таго агромністага свету, што адразу ж пачынаецца за лесам, за тым прыгожым цудапалацам. Мне думалася, што яна зразумела, яна павінна была зразумець мяне тым жаночым пачуццём, якое не падуладнае лагічнаму мысленню.

Што ж, напачатку ўсё было так ці прыкладна так, як некалі марыў: і белы лёгкі лебядзіны вэлюм, і прыватная кватэра, якая падалася мне тым цуда-палацам, што маячыў за чаротам і дрэвамі, і яна сама, усмешлівая і ласкавая...

А потым я аднойчы пачаў адчуваць, што мне не хапае слоў, каб растлумачыць ёй, чым займаюся днямі на рабоце.

Гэта было пачаткам.

Я нічога не разумеў. Нават таго, што трапляю ў кола адзіноты, у якое да мяне трапляла гэтулькі вучоных, калі яны месяцамі і гадамі не маглі гаварыць з блізкімі пра сэнс сваёй работы.

Бо, сказаўшы ёй, што я канструірую звышновы мікраскоп для Валескага, я яшчэ нічога не гаварыў, гэта

было амаль тое ж самае, калі на пытанне: «Як жыццё?» — адказваюць: «Нармальна». У маім бадзёрым раблю хавалася тое нябачнае, да чаго я нават і яе, жонку, не мог падпусціць.

Спачатку я гэтага нават і сам не разумеў, наіўны, я спадзяваўся лёгка пераскочыць мяжу паміж маім і яе светам і таму адразу ж пачаў тлумачыць ёй пра зваблівую слодыч формул і графікаў, на лістках паперы я нават маляваў для яе схемы будовы электроннага мікраскопа і тлумачыў прынцып яго работы. Яна слухала, глядзела, згодна ківала галавою і тут жа засынала...

Тады я зразумеў, што ўсё, з-за чаго я не сплю начамі, з-за чаго праседжваю днямі ў лабараторыі і ў інстытуцкай бібліятэцы,— ёй чужое і далёкае, мае формулы і графікі, мае варыянты схем электроннага мікраскопа ёй нецікавыя, як дзіцяці нецікавыя думкі пра загадку быцця і смерці.

Не варта мне было здзіўляцца, а тым болей крыўдаваць на яе, я сам жа некалі хацеў гэтага: чысцюткага, беленькага, не заплямленага нічым... Усё было правільна і лагічна, як заўсёды, жыціўцы гаварылі праўду: хто чаго шукае, той тое знойдзе... І таму скажыце, калі ласка, навошта ёй ланцугі блытаных складаных формул, ад якіх ёй ні холадна ні горача, навошта ёй і сам звышновы электронны мікраскоп, навошта ёй мая раздражнёнасць ад няўдач, якіх у жыцці — не мною прыдумана і не мною заведзена — нашмат болей, чым удач, навошта ёй рыхтаваць сняданкі для мяне — навошта ёй усё гэта, можа, ёй усё гэта патрэбна не болей, як і тым прыгожым белым лебедзям, якія бестурботна плаваюць пасярод ляснога возера.

Яна была гэткаю ж, якой была і да майго знаёмства. Яна і не думала здраджваць сваім ідэалам бестурботнасці. Якой яна была, такою і засталася. І што ж тады мне патрэбна ад яе, якога ражна?

І таму ўсё астатняе было лагічным і простым, чаму і не варта здзіўляцца; пагрозлівая няёмкая цішыня ў кватэры, холад ля жонкі, які адчуваўся ўсім целам як спякотным летам, так і зімою, бясконцая купля-продаж мэблі, посуду, якімі ўсё болей і болей забівалася кватэра,— як і многія, мы наіўна спачатку верылі ў гэту казку пра шчасце, якое можа схавацца між дываноў, сервантаў, крышталю і фарфору...

А потым мы зразумелі, здагадаліся нарэшце, што ж

*нас магло па-сапраўднаму аб'яднаць: тэлевізар... Ці не таму, як і многія, мы стараліся прыдбаць тэлевізар як мага большых памераў, спачатку чорна-белы, а потым каляровы, ледзь не на паўсцяны...»*

## З МАНАЛОГА ЛАБУЦЬКІ

*«З паяўленнем сына жыццё маё напоўнілася тым сэнсам, да якога я імкнуўся. І часта я смяяўся з Валескага і Алешнікава, я часта гаварыў ім, шчаслівы і ўпэўнены ў сваёй праўдзе, што яны не разумеюць, не хочуць альбо не могуць зразумець галоўнага: шчасце наша — у дзецях нашых, у сям'і...*

*Напачатку я быў шчаслівы: і калі лічыў старанна, колькі тыдняў сыну ад роду, калі вучыў сына хадзіць, калі вучыў яго тым словам, якія чуў ад маці, і нават пазней я быў шчаслівы, калі вадзіў сына ранкам у дзіцячы садзік, а вечарам, забіраючы з садзіка, я дарогаю расказваў сыну доўгія гісторыі, якія гэтак падобны на казку, але казкамі не былі...*

*Месяцамі я прападаў у камандзіроўках. Вярнуўшыся, я здзіўлена заўважаў, як нечакана і хутка падрастаў, выцягваўся ўгару сын, быццам ён рос якраз тады, калі я бываў у камандзіроўках. Я зноў пачынаў размовы з сынам, якія вёў некалі, калі вадзіў яго ў дзіцячы садзік. І не прыкмячаў, заняты сваёй бацькоўскай радасцю, што цяпер мае размовы для сына — усяго толькі размовы, якіх ён чуў ды і чуе без мяне штодзень безліч: у школе, на вуліцы, з экрана тэлевізара, у кінатэатры, ад сяброў-аднагодкаў. І ўсё часцей і часцей, не даслухаўшы мяне, сын зрываўся з кватэры, да сваіх аднагодкаў, да таго маладога загадкавага жыцця, ад якога я не мог яго адгарадзіць. І калі я штосьці спрабаваў пярэчыць сыну, ён неяк залішне спакойна і лагічна гаварыў мне: «Бацця, дык ты ж таксама зрываешся ад нас на цэлыя месяцы. Так што — усё нармалёва. Чао, бацця...»*

*Я заставаўся адзін і думаў усё, ці варта яго адгароджваць. І школа, і вуліцы, і горад, і ўсё астатняе, сярод чаго вырас сын, пачынаючы ад дыскатэкі, якую яны арганізавалі ў школе, было для яго натуральным і простым, яно было для сына тым жа, чым для мяне некалі было Жыціва.*

Але ж Жыцівам яно не было...

Усё ў свеце паўтаралася: некалі я пакапацеў з Жыціва, а ён, сын мой...

Куды ён мог пайсці, да чаго ці да каго — вось што мяне трывожыла.

І вось нарэшце наступіў той нечаканы для мяне дзень, які, мабыць, бывае ва ўсіх бацькоў, калі я зусім іншымі вачыма паглядзеў на сына, на яго цёмныя вусікі, на вузкія адаманістыя джынсікі, на тонкія і высокія, як у жанчыны, абцасы ў чаравіках, і, як са сцяною, сутыкнуўшыся з халодным упэўненым сынавым позіркам, на маё здзіўленае: «І ты, сын мой?..» — пачуў такі маналог, на які напачатку нічога не мог адказаць ці хоць бы запярэчыць.

— Баця,— так пачаў сын сваю праўдзівую споведзь,— баця, можа, хопіць табе займацца чарапкамі і гаршкамі, якія зараз нікому не патрэбныя? І мяне заадно туды, у мінуўшчыну глухую, цягнуць. Баця, усё, чым ты займаешся, гэта добра і, можа, нават цікава, як бывае сама па сабе цікаваю навука. Але ж няўжо ты не разумееш, што тое, на што ты траціш сваё жыццё,— як гульня дзяцей, якая толькі імітуе рэальнае жыццё?.. І ты, і Алешнікаў, і Валескі — вы як павар'яцелі з-за навукі. Вам хоць і спяваюць асанну ў сусветным друку, але вы ўжо зусім адарваліся ад рэальнага жыцця і таму не адчуваеце і не заўважаеце, што свет цяпер не такі, які быў, калі вы бегалі басанож у сваім глухім задрыпаным Жыціве. Няўжо і сапраўды вы не разумееце, што ваша апантанасць нікому не патрэбная? Баця, калі б усё было ў свеце так, як ты мне заліваў пятнаццаць год, чалавецтва і дагэтуль бы ў лапцях хадзіла, і дагэтуль бы людзі ў сёлах сядзелі... Баця, апамятайся, пакуль не позна, паслухай іншую праўду хоць ад мяне. Цяпер іншы век і ўсякім пракокам і геніям з іх катэгарычнасцю тут рабіць нечага. Цяпер наступіў новы век — век пасрэднасцей, бо чалавецтву абрыдлі геніяльныя заклікі, якія часцей за ўсё адно другому супярэчаць, цяпер мы ўсе разам — заўваж і запамятай хоць гэта! — усе разам: і праведнікі і грэшнікі, шукаем ісціну. Калектыўна. Як зараз ствараецца калектыўна вышэйшы від мастацтва — кінамастацтва, гэтак жа людзі шукаюць ісціну... І ў дыскатэках, і ў навуковых лабараторыях, і падчас пустых бадзянняў па вуліцах, і ў кайфовыя вечары, калі нашы стомленыя душы

*поўнасцю расслабляюцца ад кактэйлю і цыгарэтнага дыму, у тыя балдзёжныя салодкія вечары, якіх вы, дарослыя, чамусьці баіцеся як чорт ладана — усе і ўсюды шукаюць ісціну. І ты. І я. Ваша пакаленне шукае яе ў чым заўгодна — у археалогіі, у вірусалогіі, як Валескі, а мы, моладзь, будзем шукаць яе ў іншым і па-іншаму... І, калі ласанька, няхай гэта вас не калыша. І не здзіўляе.*

*Баця, выйдзі на вуліцу, зірні хоць адным вокам, што творыцца ў пад'ездах, на танцавальных пляцоўках, у магазінных чэргах, прайдзіся па рэстаранах, хоць раз з'ездзі ў Сочы і кутні па-сапраўднаму, а не капайся месяцамі ў сваіх нікому не патрэбных Курганах... Трэба жыць як набяжыць, а не цешыць сябе выдумкаю ці салодкаю легендаю. Ах, баця, баця...*

*— Як жа так сталася, сын мой? Калі ўсё гэта паспела ўвайсці ў цябе? — нарэшце выдыхнуў я. Я нічога не разумеў. Ашаломлены, я нічога не мог зразумець. А тым болей — не мог яму запярэчыць.*

*І тады сын пачаў нетаропка тлумачыць мне ўсё, як некалі Гаеўскі на ўроку тлумачыў пра будову Зямлі: вось яна, як прэнт жалезны, вось зямная, а вось і сама Зямля круглая, якая вакол пахіленай восі дзень і ноч круціцца...*

*— Баця, вы ж самі ўвесь час выпускаеце джына з бутэлькі. Не хто-небудзь, не дзядзечка чужы, а вы — ты, Валескі і Алешнікаў, адкрылі адаманаў, пасля чаго ўсё ў свеце і закруцілася. Дык чаго ж ты цяпер лямантуеш і здзіўляешся? Не хто-небудзь, а вы самі, бацькі нашы, пратоптаваеце нам сцежкі-дарожкі, па якіх мы смела і ўпэўнена крочым. І не наша бяда, што ісці па тых сцежках-дарожках вы баіцеся. Ах, баця, баця, як жа ты адстаеш ад сучаснага жыцця!..*

*Усё гэта настолькі мяне здзівіла і ашаламіла, што я зусім не заўважыў, калі ж жонка паспела знюхацца з рэжысёрам-геніем. Пасля слоў сына гэта падзея мяне не хвалявала.*

*...А тым болей у мяне не было жадання слухаць яе гэткі ж праўдзівы і гэткі ж правільны лагічны маналог».*

## Раздзел чацвёрты

# КАМУ — СМЕХ, А КАМУ — ГОРА

Цікавіліся адаманамі людзі розныя, і багатыя і бедныя, і разумныя і дурні, і веруючыя і няверуючыя.

Прадстаўнік Ватыкана, славуты тэолаг святой рымскай каталіцкай царквы Іаан XXI звярнуўся да веруючых усіх кантынентаў з чарговым важным пасланнем, надрукаваным у сродках масавай інфармацыі.

Прыводзім пачатак гэтага паслання.

### АДАМАНЫ — ВЫПРАБАВАННЕ ВЕРЫ НАШАЙ

Не першы год і не першае стагоддзе вера наша спакушаецца д'яблам, які ў вобразе Змія некалі спакусіў Еву, за што чалавек пакараны Усявышнім, і сказана было чалавеку:

— Праклята зямля на цябе; са смуткам будзеш карміцца ад яе ва ўсе дні жыцця твайго. Церніі і волчцы дасць яна табе; і будзеш карміцца палявой травою. У поце твару свайго будзеш есці хлеб, пакуль не вернешся ў зямлю, з якой ты ўзяты; бо прах ты і ў прах вернешся.

І на гэты раз, мае дарагія браты і сёстры, мы зноў сутыкаемся з новым выпрабаваннем, якое Усявышні пасылае нам за грахі і за блуд наш, як у справах зямных, так і ў думках нашых. Яшчэ і яшчэ раз Усявышні хоча праверыць нашу веру і паказаць нам, што кара Яго заўсягды падсцерагае слабага чалавека як цяпер, пры жыцці зямным, так і потым, на Судзе Вялікім, калі нічога не адвернеш...

З не менш важнымі пасланнямі выступілі прадстаўнікі іншых вераў і рэлігій.

«О, мудры з мудрэйшых багоў, о, Вялікі Алах, ты паслаў нам некалі Магамета, а цяпер, пасылаючы адаманаў, ты выпрабоўваеш веру нашу»,— так пачаў сваё пасланне сусветна вядомы прадстаўнік ісламу Алі Махмуд III.

А вось што, напрыклад, пісаў веруючым прадстаўнік сусветна вядомай Ёгі славуты Радж Сінг:

«Вялікі і мудры Патанджалі некалі гаварыў нам,

што ў кожным чалавеку ёсць Атман[1], якая ўвесь час імкнецца да зліцця з Брахман[2]. Вялікі Патанджалі ў сваёй «ёга-сутры» паказаў нам рэальныя шляхі пераходу Атмана да Брахмана. Мудрасць вялікага Патанджалі ў тым, што ён, нічога не ведаючы пра існаванне адаманаў, сваёй «ёга-сутрай» паказаў нам самы кароткі шлях да Брахмана і таму з дапамогаю «хатха-ёгі», авалодаўшы «раджа-ёгай», кожны чалавек цяпер, пры жыцці рэальным, — і ў гэтым праяўляецца існасць нашай веры і перавага яе над іншымі верамі свету — можа станавіцца малым і нябачным альбо разрастацца да агромністых памераў, пераносіцца ў любое месца як на зямлі, так і ў сусвеце, ведаць як сваё мінулае, так і будучае, гутарыць з нябожчыкамі і слухаць іх парады...»

Новы магутны штуршок атрымаў крышнаіцкі рух, па гарадах і вёсках, па дарогах доўгіх хадзілі крышнаіты і ў напаўзабыцці, не зважаючы на чалавечую мітрэнгу, шапталі сутру[3], у якую само па сабе ўплялося новае слова:

— Харэ крышна, крышна харэ, адаманы, крышна харэ, адаманы...

Як бачна з вышэйпрыведзеных урыўкаў, веруючыя не адхрышчваліся ад факта рэальнага існавання адаманаў, іншая гаворка — адносіны да адаманаў... Прадстаўнікі розных вер і рэлігій па-рознаму адносіліся да адаманаў; пабойваючыся справядлівага гневу веруючых, выкліканага абразаю іх далікатных цнатлівых пачуццяў в е р ы, памятаючы, што раманіст Салман Рушдзі з-за падобнай абразы і да сённяшняга дня вымушаны невядома дзе хавацца, мы ў сваім праўдзівым творы не асмельваемся навязваць чытачу н а ш у ацэнку гэтых складаных адносін, адзначым толькі асноўную тэндэнцыю: так склалася, што існаванне адаманаў як бы лішні раз даказвала праўдзівасць і непаўторнасць кожнай веры і рэлігіі...

---

[1] Атман — індывідуальная душа.
[2] Брахман — сусветная душа.
[3] Сутра — малітва.

Атэістычны свет таксама рэагаваў на адкрыццё адаманаў не менш зацікаўлена і не менш арыгінальна. З'явілася безліч навуковых артыкулаў, навукова-папулярных кніг, праводзіліся міжнародныя канферэнцыі па праблеме адаманаў. У газетах, часопісах як друкаваліся, так і працягвалі друкавацца дыскусійныя матэрыялы па праблеме адаманаў.

А колькі было абаронена кандыдацкіх, доктарскіх дысертацый, тэмы якіх у той ці іншай меры былі звязаны з адаманамі! Канечне, як і трэба было чакаць, усе гэтыя кандыдацкія і доктарскія абараняліся ў спецыялізаваных навукова-даследчых інстытутах па вывучэнні адаманаў (НДІВА).

Для зацікаўленых таварышаў прыводзім тыповы матэрыял адной з такіх дыскусій, якая ў свой час вялася ў сусветна вядомым часопісе «Literature and life». Дыскусія пачалася весціся пад кідкім загалоўкам:

## АДАМАНЫ: СУПРАЦЬ І ЗА

**Улічваючы агромністую цікавасць нашых любімых разумных чытачоў да шматлікіх праблем, звязаных з фактам адкрыцця адаманаў, якія, як усім вядома, падобны формаю на людзей, у гэтым нумары часопіса мы распачынаем новую чарговую дыскусію, якая зацікавіць не толькі літаратараў, мастакоў, кампазітараў, а і ўвогуле ўсіх людзей, якія заклапочаты лёсам сучаснага чалавека ў складаным супярэчлівым свеце, усяго чалавецтва ў цэлым.**

**Сягоння ў нашай дыскусіі прымаюць удзел пісьменнік Іў Мясцовы і сусветна вядомы крытык, публіцыст Эд Глабалёвы.**

### ТАЎЧЫ ГЭТУ НЕЧЫСЦЬ

Помню як сягоння...

Вёску, дзе нарадзіўся і вырас, шырокі прастор як перада мною, так і над маёй галавою, матуліну песню за рэчкаю, дзе яна ў лесе збірае ягады, салаўіны пошчак у кустах ля нашай хаты, луг у тумане.

Помню, помню як сягоння свайго бацьку, яшчэ дужага і вясёлага, помню той дзень, калі ён узяў мяне ўпершыню на сенакос, яшчэ зусім малога і смаркатага. Касіць добра я тады, канечне, не ўмеў, ды і калі мне было навучыцца, і таму бацька зрабіў для мяне спецы-

яльную маленечкую коску-сяміручку. Я вучыўся касіць, мэнчыўся, абкошваючы лазовыя кусты і ўсպорваючы час ад часу купіны. Пакос мой быў, канечне, вузенькі і крывенькі, але якім шырокім здаваўся ён мне тады!

Помню, помню як сягоння пачуццё прасторы, гэтае пачуццё Свята, якое мы цяпер, затурканыя, затлумленыя цывілізаванай дзейнасцю, губляем. І яшчэ добра помню здалёку і звысоку, як божы глас, словы бацькі: «На пятку, на пятку, сынок, старайся націскаць, тады лягчэй будзе».

Косім мы гэта ўдвух старанна, махаем і махаем касамі, вечарэе ўжо, малінавае сонейка садзіцца ў травы за рэчкаю, і гэтак лёгка, гэтак урачыста на душы маёй, як цяпер ужо і не бывае, здаецца, вось так бы махаў і махаў коскаю-сяміручкаю да самага скону...

Але якраз у гэтую пару нечакана немаведама адкуль наляцелі на нас камары. Як хмары, цэлай плоймаю апусціліся яны на нас, успацелых ад цяжкой мужчынскай работы. Днём на сонцы іх не было, а вось пад самы вечар зазвінелі, праклятыя... Спачатку я яшчэ сяк-так церабіўся ад іх, махаў рукамі, а потым не вытрымаў — ведама, малы яшчэ быў,— роўма зароў, кінуў касу вобземлю ды і кажу бацьку: «Што рабіць, татка, паглядзі, колькі іх тут наляцела, гэтых камароў-крывасмокаў? Дзе ж іх тут аднаму перабіць? Аднаго прыхлопнеш, а на ягонае месца тры садзяцца...»

А бацька мой, як і не чуе нічога, ляпне далонню час ад часу па плячы ці па чырвонай шыі, дзе грудам чарнелі камары, сцепане плечуком ды ўсё косіць як ні ў чым не бывала: шах-шах, шах-шах... Тады ўжо, калі я зусім заскуголіў, бацька спыніўся, нетаропка адмянташыў касу, а потым павярнуўся ў мой бок і кажа, пільна ў вочы гледзячы:

— Што я табе, малец, скажу на гэта? Перабіць усіх мы, канечне, не пераб'ём, ты тут праўду кажаш. Але біць іх трэба. Таўчы як можаш гэту нечысць, але ж і пра работу не забывай.

Тады бацька зноў ад мяне адвярнуўся ды за касу сваю... Махнуў пару разоў, і, як бы ўспомніўшы штосьці надта важнае, павярнуў да мяне твар, і кінуў мне, аслупянеламу, тое, што запала на ўсё доўгае жыццё:

— Гэта ўжо, мусіць, наш лёс такі: біць іх і днём і

ноччу. Іначай, сынку, загрызуць. Ім толькі папусціся, апусці ручкі, дык яны, гады, толькі гэтага ад нас і чакаюць, каб мы духам палі. Колькі я іх за сваё жыццё перабіў,ператоўк, ага-га: і да вайны, і ў вайну на фронце, ды і пасля — усё жыццё трапечашся ад іх...

І вось цяпер, пасля гэтага ўспаміну маленства, я хачу перайсці да адаманаў і сказаць, што і з гэтымі ж адаманамі мы павінны змагацца як з тымі ж камарамі.

Не ўпершыню мы сутыкаемся з рознай брыдотаю, якая лепіцца да працоўнага чалавека і не дае яму спакойнага жыцця, той брыдотаю, якая смокча кроў здаровага чалавека. Вошы, клапы, камары, машкара, гнюс у Сібіры, павукі-крывасмокі, бацылы розныя, мікробы заразныя, вірусы — колькі іх на белым свеце, і ўсе яны, як казаў некалі мой бацька, толькі апусці ручкі, адразу ж накінуцца на нас і калі не зусім загрызуць, то можа стацца такое, што будзеш ты з дня ў дзень гібець і пацець на рабоце, а гэтыя крывасмокі будуць жыць прыпяваючы.

Ва ўсе вякі мой народ інтуітыўна адчуваў, што ад гэтых паразітаў трэба бараніцца. Ці не таму ў маім народзе цаніліся і цэняцца чысціня, акуратнасць, працавітасць, лазня добрая, любоў да чыстай вады і да яснага сонейка — паглядзіце самі, якія мудрыя і ў той жа час простыя сродкі знаходзіў мой народ, каб лягчэй бараніцца ад усяго таго шматлікага, што імкнецца жыць прыпяваючы за ягоны кошт, смокчучы ягоную кроў. І ўжо адгэтуль — ад працавітасці, ад чысціні і акуратнасці — рукою падаць да нашых напеўных песень народных, да вясёлых танцаў, да тых добрых звычаяў, да той праверанай вякамі народнай этыкі, якую мы, на жаль, памалу губляем і якая аб'ядноўвала і аб'ядноўвае людзей у тое адзінае і магутнае, назва чаму — народ, той народ, якому ніякі д'ябал не страшны, а тым болей — нейкі там адаман.

І таму цяпер, калі я даведаўся, што беларус Валескі адкрыў адаманаў, я душою адчуваю, што адаманы — яшчэ адна новая нечысць, з якою нам давядзецца змагацца. І чым хутчэй мы пачнём выганяць іх з нас, тым нам лягчэй будзе. Цяпер, не разводзячы доўгіх блытаных дыскусій, пакуль яны не распладзіліся, трэба змагацца з імі.

*Іў Мясцовы*

ПЕРАД ТЫМ ЯК ТАЎКАНУЦЬ, НЕ ПАДУМАЎШЫ...

Калі знаёмішся з бяздоказным дэмагагічным выступленнем Мясцовага, здзіўляешся, проста валасы на галаве дыбам становяцца...

Таварышы дарагія, калі напісаны гэты артыкул: у наш пафасна-сучасны, тэхнізаваны, урбанізаваны, аўтаматызаваны, адукаваны век ці ў тыя далёкія глухія часы, калі ў свеце былі адны косы-сяміручкі?..

Давайце задумаемся, пра што гаворыць Мясцовы: пра нейкіх камароў, пра нейкае балота ля кустоў... Таварышы дарагія, куды, да чаго нас заклікае Мясцовы падтэкстам свайго выступлення? Ды хай ён сам і прэцца ў тое гнілое балота, калі яно яму такое салодкае, і махае там коскаю-сяміручкаю да самага скону... Да ачмурэння няхай махае, калі яму так хочацца. Дык жа не, сам-то ён тоўстыя раманы піша, а нас, гараджан, у балота заклікае. Ён што, дурнямі нас лічыць?

Ды калі б усё гэта і было галоўным у выступленні Мясцовага, то ўсё гэта было б паўбяды, але, як я разумею, гэта зусім не галоўнае ў выступленні Мясцовага. І таму я ўзяўся за шарыкавую ручку, каб хоць крыху адкрыць людзям праўду, тую ісціну, якую з усіх сіл імкнецца затуманьваць Мясцовы.

Не разумеючы ці не жадаючы разумець складанай сучаснасці, не разумеючы таго, што ўсё ў свеце ўзаемазвязана і паводле тых жа матэрыялістычна-дыялектычных законаў, паводле прычынна-вынікoвых сувязей ніводнае дзеянне ў прыродзе не праходзіць бясследна, бо гэтае дзеянне адразу ж выклікае процідзеянне, дарэчы, па сіле яно роўна дзеянню, не разумеючы і не адчуваючы ўсёй гэтай узаемасувязі, Мясцовы заклікае нас, цытую, «таўчы, біць...».

Да слова, я хачу заадно сказаць, што гэтае маханне здаровымі кулакамі налева і направа, гэтыя мясцовыя заклікі таўчы, біць усякую нечысць, якія, дарэчы, мы чуем не першы раз, даўно пара выкінуць на сметнік гісторыі. Цяпер іншы век, іншыя адносіны як між людзьмі, так і ў чалавека з прыродаю, як з жывою, так і нежывою. А тым болей ставіць на адну дошку камароў і загадкавых адаманаў — вы што, таварыш Мясцовы, няўжо не разумееце, што такая пастаноўка пытання не тое што абсурдная, а жахлівая ў сваім невуцтве.

Дарэчы, хачу сказаць некалькі слоў пра камароў, да якіх Мясцовы чамусьці прыляпіўся як сляпы да плота...

Ці ведае Мясцовы, што такія, як ён, заўзятыя прыхільнікі біцця і таўканіны ў адным з раёнаў Сурскай вобласці патруцілі ўсіх камароў. І што ж атрымалася? Зніклі камары, і тут жа адразу ж знікла рыба ў вадаёмах, якая кармілася лічынкамі камароў. Зніклі, падохлі жабы ў балотах, галодныя птушкі ўцяклі з апусцелыў лясоў і балот, на якія тут жа немаведама адкуль саранчою напалі розныя жучкі і казюркі. Паеўшы лісце ў лясах, гэтыя жучкі і казюркі пасунуліся на палі: на бульбоўнік, на зялёнае жыта, на агародніну,— і тут ужо ніякая хімізацыя, ніякія гербіцыды не дапамаглі, як ні труцілі з самалётаў той бульбоўнік і тое жыта. Карацей кажучы, праз год той раён было не пазнаць — як вымер, як пасля чумы стала: у вёсках хаты пустуюць, вокны крыж-накрыж забітыя, адны здзічэлыя каты па крапіве гойсаюць. І да сённяшняга дня той раён ніяк не заселяць. У мяне ёсць падазрэнне, што, кіруючыся вось такімі мясцовымі заклікамі, мы патруцілі ўсіх камароў не толькі ў адным раёне, бо ў часе апошняй паездкі ў Сурскую вобласць па лініі ўздыму культурнага ўзроўню насельніцтва я не адзін такі апусцелы раён праязджаў: пустыя хаты стаяць, дарогі падарожнікам і лебядою зарастаюць, людзей няма нідзе...

Дык гэта ж прырода помсціць чалавеку за здзек над камарамі — малюпасенькімі нявіннымі стварэннямі. Ці ж яны вінаватыя, што іх такімі стварыла матухна-прырода? Ім жа таксама неяк жыць трэба: і есці хочацца, і патомства трэба пладзіць, як і ўсяму жывому, дарэчы, як тым жа адаманам... Ды і, калі на тое пайшло, колькі крыві той камарык можа выпіць? Ну, скажыце мне колькі? Самае большае кроплю, ну, дзве — дык гэта ўжо ад сілы... А тады ён і сам адваліцца, лішняе яму не трэба. А здаровы чалавек жа ў параўнанні з камарыкам ву-унь які агромністы! Ад таго, што яго камарык пакусае, яшчэ і карысць гэтаму чалавеку будзе. Нездарма некалі дактары п'явак на цела чалавечае клалі, каб яны кроў нядобрую пілі. За грошы, не бясплатна гэта рабілася. А камарык-дабрадзей бясплатна ўсё зробіць, і нават дзякаваць яму за гэта не трэба.

Дарэчы, я хачу зрабіць яшчэ адно невялічкае ад-

ступленне і выказацца коратка аб карысці камароў, мошак, бацылаў, тых жа мікробаў і многага іншага, што Мясцовы доўга не думаючы называе паразітамі[1], з якімі трэба змагацца.

Таварышы дарагія, ды калі б не гэтыя стварэнні, мы, прызнаемся чэсна хоць сабе, даўно б аплылі тлушчам і апухлі б ад лежні на печы, з той жа задрыпанай вёскі ніколі б не вылезлі. Яны, паразіты, прымушаюць нас увесь час рухацца і варушыцца з году ў год, з веку ў век, ад маленства да старасці яны падганяюць нас у хадзьбе да светлага прагрэсу.

Калі зірнуць на іх, на іх цяжкую працу з нетрадыцыйнага пункту гледжання, то можна ўбачыць, што паразіты прыносяць нам агромністую карысць. Яны, я скажу тут вобразна і ярка — рухавік гісторыі. І вось на гэты адладжаны спраўны рухавік гісторыі падае цяжкае бяздумнае кавадла мясцовых ідэй.

Што з гэтага атрымаецца — падумайце і ўявіце самі, зыходзячы з вышэйсказанага.

Коратка хачу спыніцца і яшчэ на некаторых прынцыпова важных аспектах у выступленні Мясцовага. Мясцовы піша: «Душою адчуваю...» Таварышы дарагія, пра існаванне якой душы гаворыць нам Мясцовы? У святле апошняга паслання Іаана XXI веруючым усяго свету, якое, між іншым, выклікала рэзкі рост колькасці веруючых у розных краінах, занадта смелыя заявы Мясцовага наконт існавання душы гучаць, калі гаварыць мякка і далікатна, вельмі і вельмі дзіўна. Мы ведаем Мясцовага як таленавітага аўтара нашумелага ў свой час рамана «Развітанне з вёскаю», але гэта зусім не азначае, што пасля такога рамана Мясцоваму аўтаматычна дазваляецца праводзіць сярод нас ідэі богашукальніцтва. І ўжо ці не адгэтуль у Мясцовага такая цяга і любоў да даўніны, у якой як быццам бы схавана найвышэйшая мудрасць, сучасным гараджанам незразумелая?.. І ці не адгэтуль такая пагарда, а можа, нават і нянавісць да светлай радаснай атэістычнай сучаснасці? Паглядзіце самі, што піша Мясцовы ў сваім артыкуле, цытую: «...пачуццё Свята, якое мы цяпер, затурканыя, затлумленыя цывілізаванай дзейнасцю, губляем...».

---

[1] Шырэй і глыбей пра станоўчую ролю паразітаў у жыцці грамадства сказана ў маёй працы «Аб карысці шкоднага» (выбр. тв., том 4).

Заняты чыста літаратурнымі і эстэтычнымі праблемамі, я ніколі не займаўся і не думаю займацца палітычнымі даносамі, падтасоўкаю фактаў і цытат, але што ж гэта такое, дазвольце мне спытаць у Мясцовага? Ці не ачарніцельства сучаснасці ў ягоным артыкуле, калі не сказаць большага: палітычная блізарукасць?..

Дарэчы, ідэйная блытанасць і шматслоўная пустата артыкула Мясцовага выклікана тым, што Мясцовы зусім не разумее і не збіраецца разумець важнасці і глабальнасці праблем, звязаных з адкрыццём адаманаў. На гэтых праблемах я цяпер хачу коратка спыніцца.

Гісторыя паяўлення адаманаў вельмі і вельмі загадкавая, можа, таму тут патрэбны своеасаблівы далікатны і асцярожны падыход. Чаму так атрымалася, што адаманы існуюць у чалавечым целе такі доўгі час? Як яны размнажаюцца ці, як вучоныя гавораць, рэпрадуцыруюць? Да сённяшняга дня не вырашана лагічная дылема: са смерцю чалавека павінны гінуць і адаманы, але ж, як упарта сведчаць навуковыя факты, адаманы не гінуць, яны жылі і жывуць у чалавечым целе каторае стагоддзе. Як гэта ім удаецца?

І тут, як мне думаецца, на сённяшні дзень наша ўсечалавечая задача павінна зводзіцца не да біцця і таўканіны адаманаў, як бязглузда заклікае нас Мясцовы, а да тактоўнай і далікатнай спробы зразумець логіку паводзін загадкавых адаманаў. Мы, вобразна кажучы, павінны ўжыцца ў іх спосаб жыцця і спосаб мыслення. Няхай кожны з нас паспрабуе ўявіць сябе на месцы тых жа адаманаў. І што ён у такім разе пачне рабіць?

Тады, калі мы добра зразумеем адаманаў, не халодным лагічным веданнем, а той новаю адаманаўскаю свядомасцю, якая, як я спадзяюся, з'явіцца ў нашых дзетках і якая будзе цяпер ва ўсіх наступных пакаленнях, тады мы зусім па-іншаму зірнём на белы свет, на сваю прыроду і зразумеем, што мы і адаманы — адно цэлае і ўзаемазвязанае, і змагацца з адаманамі — тое ж самае, што змагацца з сабою, са сваёю прыродаю, гвалціць саміх сябе...

...Дарэчы, гэтыя думкі ўжо цяпер многія разумеюць, акрамя такіх катэгарычных самаўпэўненых таварышаў, як Мясцовы. Думаю, што ўсе людзі, якія самастой-

на мысляць, поўнасцю згодны з цікавым артыкулам Льва Леўданскага «Адаманы — як форма вышэйшага розуму». Я таксама паўтараю: прырода — адзіная і ўсё, што ў ёй адбываецца,— адзіны гарманічны працэс, у які нам не варта ўмешвацца.

Тады ж, калі мы зразумеем логіку паводзін адаманаў, мы зусім па-іншаму зірнём на сваё жыццё, па-іншаму пачнём ацэньваць гістарычныя працэсы і смела зможам пераацаніць так званую народную мараль і народную эстэтыку, за якія гэтак старанна трымаецца Мясцовы. У тых людзей светлага будучага ўсё-ўсё будзе па-новаму. І спадзяюся я, што далейшыя гістарычныя падзеі дакажуць справядлівасць маіх разважанняў.

*Эд Глабалёвы*

**Пасляслоўе ад рэдакцыі.** Дыскусія ёсць дыскусія. Як мы бачым, па праблеме адаманаў выразна вымалёўваюцца дзве процілеглыя думкі. Пісьменнік Іў Мясцовы прапаноўвае знішчаць адаманаў адразу ж, як штосьці шкоднае і не патрэбнае людзям. Славуты крытык і публіцыст Эд Глабалёвы даказвае адваротнае — неабходнасць пільнай увагі да саміх адаманаў, да шматлікіх праблем, звязаных з адкрыццём адаманаў. Бясспрэчна — і тут мы згодны з Мясцовым,— нам, людзям, трэба ўмець змагацца, трэба быць гатовымі да барацьбы.

Але з кім змагацца? — вось у чым праблема праблем. Глабалёвы справядліва ўказвае на слабае месца ў лагічнай пабудове артыкула Мясцовага. Канечне, нам трэба спачатку высветліць ці, як таленавіта і вобразна піша Глабалёвы, ужыцца ў спосаб жыцця і мыслення адаманаў, а пасля гэтага ўжо і думаць, прымаць ці не прымаць да адаманаў пэўныя захады. Да чаго можа прывесці непрадуманая неаргументавая дзейнасць чалавека, мы ясна бачым з яркага прыкладу Глабалёвага, які на свае вочы бачыў апусцелыя вёскі ў Сурскай вобласці.

І яшчэ на чым бы нам хацелася спыніцца... Не зусім падзяляючы палемічны пафас выступлення Глабалёвага — мы заўсёды стаялі і гарою стаім за аб'ектыўны паказ жыцця і ідэй,— хочам выказаць сваю думку наконт богашукальніцтва ў наш адукаваны век. Магчыма, Глабалёвы дзе ў чым перабольшвае, абвінавачваючы Мясцовага ў богашукальніцтве, тым болей што дагэтуль Мясцовага ў царкве на каленях ніхто не бачыў, а тыя іконы, якія ён збірае па вёсках, ка-

**жуць, маюць чыста мастацкую каштоўнасць, ды ўсё ж, усё ж... Мы не можам дапусціць богашукальніцтва ў творчасці любога пісьменніка, нават і Мясцовага...**

**А ўвогуле мы спадзяёмся, што распачатая ў гэтым нумары часопіса дыскусія пра адаманаў, пра іх месца ў сённяшнім свеце і ў гісторыі чалавецтва пашырыць наша ўяўленне пра складанасць узаемасувязяў, якімі аплецена ўсё ў свеце.**

Калі распачалі гаворку, як вяліся дыскусійныя справы ў літаратараў, то, мабыць, варта ўжо заадно расказаць — хоць, праўда, і коратка — пра тое, што адбывалася ў літаратуры пасля адкрыцця адаманаў.

Вельмі многія раманісты разглядалі праблему існавання адаманаў у розных планах: гістарычным, аналітычным, філасофскім, гумарыстычным, афарыстычным, сатырычным і інш... Нагадаем некалькі раманаў-бестселераў: «Вайна з адаманамі», «З жыцця адаманаў», «Каханне з адаманачкаю», «Прыгоды адамана».

Са шматлікіх твораў, напісаных паэтамі і паэтэсамі — дарэчы, да сённяшняга дня незразумела, чаму ў апошнія гады жанчын-празаікаў, як і паэтэс, стала ў літаратурных шарэнгах намнога больш, чым мужчын[1],— хочацца выдзеліць раман славутага паэта-песенніка Рукаліцынскага «Я і адаманы». Раман ягоны быў напісаны з улікам усіх найноўшых сучасных плыняў і тэндэнцый у сусветнай прозе: лірычныя маналогі і адступленні, плынь свядомасці, так модная ў

---

[1] Вельмі многія вучоныя звязваюць гэту з'яву з эмансіпацыяй жанчын. Дарэчы, самі жанчыны гэтага таксама не адмаўляюць. Вось што, напрыклад, напісала паэтэса А. Марфуткіна ў артыкуле «Жанчыны — апошняе слова за намі»:

— Урбанізацыя сучаснага жыцця, аўтаматызацыя і механізацыя цяжкай механічнай працы звялі да нуля перавагу мужчын над намі. Я хачу заявіць большае: прырода нездарма стварыла нас такімі псіхічна гнуткімі і зменлівымі, і таму ў гэты катастрафічна складаны час, пасля адкрыцця адаманаў, калі большасць мужчын разгубілася, бо іх фізічная сіла стала нікому непатрэбнай,— яны цяпер пачалі займацца тым, чым усе часы займаліся мы, жанчыны: з раніцы да вечара шукаюць моднае адзенне, упрыгожанні, парыкі, касметыку, сядзяць у касметычных кабінетах,— цяпер нам нічога іншага не застаецца, як узяць кіраўніцтва ўсім чалавецтвам у свае моцныя жаночыя рукі. А тым болей што дубовая мужчынская логіка зараз не ўлазіць ні ў якія вароты. Жанчыны ўсяго свету, наша бліжэйшая задача: перадаць выхаванне дзяцей мужчынам, загнаць мужчын да каструль і талерак, а самім ушчыльную заняцца вырашэннем дзяржаўных і навуковых спраў!

заходняй і лацінаамерыканскай літаратуры, падрабязнае дэталёвае апісанне асобных эпізодаў (чытачам, думаецца, глыбока запала ў душу апісанне начной сцэны ў ложку, калі галоўны герой *Я* спакушае нявінную шаснаццацігадовую прыгажуню, якая толькі-толькі прыехала з вёскі ў горад, вобраз якой *Я* пасля носіць у сваёй душы ўсё астатняе жыццё і заадно горка раскайваецца, што залішне жорстка абышоўся з той нявопытнай прыгажуняю), і тут жа, побач з апісаннем гэтай драматычнай сцэны, у рамане ёсць, прысутнічае касмічны позірк на ўсё чалавецтва, калі *Я* ляціць у касмічным караблі і, гледзячы ў ілюмінатар, шкадуючы ўсё і ўсіх, гаворыць: «О, беднае няшчаснае чалавецтва, як ты заблудзілася ў сваіх пошуках! О, бедныя няшчасныя адаманы, як я мару з вамі сустрэцца!» — усё было ў тым славутым арыгінальным рамане, кожны новы раздзел якога — якая цікавая і тонкая задума! — пачынаўся са слова а д а м а н.

Не адставалі ад літаратараў і іншыя творчыя работнікі, у прыватнасці — кінарэжысёры і сцэнарысты, народ цёрты і прабіўны, які на ляту хапаў і асвойваў усе новыя ідэі і праблемы. Яны яшчэ цікавей, чым літаратары, разглядалі ў сваіх тварэннях праблемы, звязаныя з адкрыццём адаманаў.

Пальму першынства тут займаў знакаміты Галівуд — на ім была створана серыя фільмаў пра адаманаў. Сярод іх было шмат шэрых фільмаў, загадзя разлічаных на абывацеля, але былі і такія фільмы, якія адразу ж закупілі многія краіны. Сярод такіх фільмаў можна назваць суперсексуальны фільм жахаў «Ад-ам-аны»,— з-за нізкіх ідэйна-мастацкіх якасцей мы пры яго не будзем разводзіць вялікай гаворкі — і касмічна-філасофская эпапея ў чатырох серыях «Адаманы і Сусвет».

Хоць у нас да гэтай эпапеі свае прэтэнзіі, выкліканыя ў асноўным філасофскай канцэпцыяй фільма, але ў сувязі з тым, што кінакрытыкі дружна прызналі гэту эпапею найвышэйшым дасягненнем сусветнага кінамастацтва апошняга стагоддзя, а таксама ўлічваючы той факт, што «Адаманы і Сусвет» забрала ўсе прызы на апошніх міжнародных кінафестывалях, коратка перакажам сюжэт гэтай эпапеі.

**Першая серыя.** Яна пачынаецца з хаосу. Чорна-чырвона-зялёныя плямы запаўняюць увесь экран. Пад

урачыста змрочную электрамузыку плямы пераліваюцца, зліваюцца і тут жа распадаюцца, вымалёўваючы на экране дзіўныя загадкавыя фігуры — усё гэта працягваецца хвілін пятнаццаць. Пастулова плямы групуюцца, утвараючы згушчэнні — бачым туманнасці, белыя і чырвоныя зоркі, планеты вакол некаторых. Узбуйняецца план, камера як бы наязджае на адну з планет, ахутаную воблакамі. Паверхня планеты пакрыта вадою. У паветры пры павелічэнні мы пачынаем бачыць маленькіх адаманчыкаў — разгубленых, на крывенькіх сагнутых ножках, падобных на тых, якія дэманстраваліся на мікрафотаздымках Валескага. Спачатку адаманчыкі бязладна мітусяцца, а затым пачынаюць біцца паміж сабою. Камера ад'язджае, і тут глядач са здзіўленнем прыкмячае, што здаля адаманчыкі ўтвараюць варожыя групкі, якія ўсё ўзбуйняюцца...

**Другая серыя.** Барацьба адаманчыкаў не спыняецца. Групкі іх усё ўзбуйняюцца. Камера ўсё ад'язджае і ад'язджае, перад намі ўсё шырэй вымалёўваецца панарама смяртэльнай схваткі адаманчыкаў — дзеля справядлівасці адзначым цудоўную аператарскую работу, высакаякасную каляровую гаму на стужцы Кодак, арыгінальны прыём мультыплікацыі — і вось мы бачым, што пры пэўным аддаленні, калі ўжо фігуркі асобных адаманчыкаў нельга і разгледзець, варожыя групкі ўтвараюць ...жывую клетку. Клетка рытмічна пульсуе, то сціскаецца, то расшыраецца... Узбуйненая жывая клетка сягае з паветра ў Сусветны акіян.

**Трэцяя серыя.** Такіх клетак у Сусветным акіяне безліч. Яны тут жа пачынаюць ваяваць паміж сабою. Знаёмы прыём: цемра, хаос, асобныя каляровыя клеткі, якія пад велічную электрамузыку паяўляюцца з цемры, барацьба клетак паміж сабою, згушчэнне клетак, узбуйненне плана, ад'езд камеры — валасаты аголены чалавек выпаўзае з вады на бераг не то возера, не то мора-акіяна...

**Чацвёртая серыя.** Чалавек азіраецца, глядзіць удалеч — на другім беразе возера бачыць гэткага ж разгубленага валасатага аголенага чалавека. Убачыўшы адзін аднаго, гэтыя валасатыя людзі махаюць адзін аднаму кулакамі, нешта выкрыкваюць, кожны сваё... З экрана даносіцца мешаніна моў: спачатку гэта — звычайная грубаватая лаянка, паступова яна

ўсё больш і больш набывае характар палітычных абвінавачванняў... Пад гэты складаны філасофскі і палітычны дыялог першачалавекі адбягаюцца ад берага да лесу, які расце побач, і выломваюць там дубіны. Філасофскія і палітычныя спрэчкі набываюць усё больш складаны характар, гучаць яны з экрана ўсё больш і больш гучней, пад гэты міжнародны абрывісты нелагічны лямант першачалавекі робяць замах дубінамі. Адначасова дубіны ляцяць у паветра, і на ляту яны паступова ператвараюцца ў ружжы, потым у самалёты... Апошнімі паказваюцца грозныя тупарылыя балістычныя ракеты. Ракеты набліжаюцца адна да адной, сутыкаюцца ў паветры. Магутны выбух абрывае міжнародныя спрэчкі і дыскусіі. Хаос. Цемра. Затым зноў на экране ўзнікаюць ружова-цёмна-зялёныя плямы, якія рухаюцца, наплываюць адна на адну, утвараюць згушчэнні. Чуецца нам ужо знаёмая музыка.

На гэтым эпапея і заканчваецца.

Не будзем доўга каменціраваць, а тым болей аналізаваць гэту кінаэпапею, не будзем спрачацца з дружнаю думкаю кінакрытыкаў, адзначым усяго толькі залішні песімізм фіналу, з якім мы, канечне, не згодны.

Сюжэт суперсексуальнага фільма жахаў «Ад-аманы» просты і нават банальны, прама скажам, разлічаны ён на абывацеля. Мяркуйце самі. З космасу на Зямлю нападаюць агромністыя адаманы. Найперш яны пачынаюць разбураць гарады і электрастанцыі. Разгубленае чалавецтва не ведае, што рабіць. Уся трагедыя ў тым, што, як толькі людзі знішчаюць альбо забіваюць аднаго агромністага адамана, з яго тут жа выскоквае некалькі адаманаў меншых памераў, якія саранчою нападаюць на людзей. Нарэшце адзін з адаманаў закахаўся ў міс Амерыку[1], і толькі гэта ратуе чалавечую цывілізацыю ад поўнага знішчэння.

Вялікай папулярнасцю ў гледачоў карысталася італьянская кінакамедыя «Чао, адаманчык!». У галоўнай ролі адаманчыка зняты знакаміты Чылінтана.

Як і заўсёды, французская кінакамедыя «Адаман пад ложкам» была пабудавана на тонкім гумары. Сюжэт камедыі просты, можна нават сказаць класічны.

---

[1] Міс Амерыка — пераможца конкурсу прыгажосці.

Адаманчык прыгажуні Элен, займаючыся методыкаю «хатха-ёгі», вырастае да памераў звычайнага чалавека. Адаманчык і Элен пакахалі адно аднаго. Муж Элен — у ролі мужа Элен зняты незабыўны Бульмандо — вяртаецца нечакана з работы. Адаманчык Элен хаваецца пад ложак. Шукаючы шлёпкі, муж Элен нагінаецца пад ложак і бачыць там спалоханага адаманчыка. «Што вы там робіце?» — пытаецца муж Элен. «Успамінаю методыку «хатха-ёгі»,— шэпча пабялелы адаманчык. «О, дарагі мой, вылазьце з-пад ложка, у мяне ёсць цудоўная бібліятэка са старажытнымі кнігамі. Сярод іх, я думаю, вы знойдзеце патрэбную вам методыку»,— гаворыць радасны муж Элен. Завязваецца мілае знаёмства. Шчаслівая абаяльная Элен у гэты час варыць на кухні каву. У ролі Элен знята знакамітая Жані Бурдо.

Японскі фільм «Цень адамана» вызначаўся своеасаблівым трагізмам. Многія гледачы на ім трацілі свядомасць.

Хоць кінакрытыкі і сцвярджалі, што індыйская меладрама «Я кахаю цябе, адаман» пустая і несур'ёзная, але простыя людзі дружна ішлі на яе і гэтак жа дружна плакалі на працягу трох гадзін, пакуль не заканчвалася другая серыя гэтай меладрамы.

Як бачым, кінарэжысёры, як і літаратары, разглядалі тэму адаманаў у розных планах і аспектах. Вельмі шмат сцэнарыяў было напісана па матывах сусветна вядомых раманаў і аповесцей, у тым ліку і тых, пра якія ўпаміналася вышэй. Ужо адно тое, што рэжысёр прыступаў да экранізацыі вядомага літаратурнага твора, забяспечвала пэўны поспех чарговаму кінатварэнню.

Не будзем доўга затрымліваць увагу чытачоў на аглядзе таго, што рабілася ў той час у музыкальных сферах, нагадаем толькі, што якраз у гэты час быў створаны знакаміты балет «Ісус Хрыстос і адаманы», які з часам стаў класічным, тады ж была напісана рок-опера «Не магу жыць без адаманаў», якая карысталася агромністай папулярнасцю сярод інтэлектуальнай моладзі.

А колькі было драм, камедый, тэлепастановак, радыёпастановак, у якіх галоўнымі героямі былі, канечне, адаманы!

А карціны мастакоў, шматлікія выстаўкі, прысвечаныя тэме адаманаў!..

Хочацца прывесці ліст[1], які, як ніводзін іншы дакумент, паказвае, наколькі сур'ёзна і грунтоўна ўвайшлі адаманы ў жыццё людзей. Для паўнаты малюнка ліст прыводзім цалкам і без ніякіх правак.

Мілая Эмулічка!!!

Здраствуй мая мілая! Ат хвалявання я так і няведаю што хачу сказаць табе ў першых строчках сваяго пісьма. Я табе спачуваю мілая Эмулічка бо хадзіць ранічкаю басанож па расе як табе раяць нашы эскулапы гэта так жахліва гэтакая мусіць халадзіна ды і як я ведаю табе ж і спаць хочацца. Алі што я табе скажу мілая Эмулічка калі ў цябе баляць ножкі і іншага лячэння нашы эскулапы не прыдумалі то хадзі ранічкаю па расе. Цярпі як можаш. Я тут таксама па горадзі па апцеках і па знаёмых палётаю можа дзе і знайду якое для цябе адаманаўскае лякарства. А што з нашага я магу табе прадлажыць? Ну аспірын. Ну гарчычнікі. І — усё. А ўвогулі мілая Эмулічка цяпер у нас у горадзі ўсе ў народную медыцыну кінуліся. Я вот нядаўна пачула што нервы і горла добра лячыць народнымі песнямі. Кажуць калі наспяваешся іх надта то адразу ж лягчэе на душы ды і нервы супакойваюцца. Горла адразу ж прачышчаецца а заадно і лёгкім лягчэй дыхаць. Як пасля хвойных ваннаў усяроўна. Як у той жа сісцеме ёгаў палучаіцца. Бо тыя народныя песні надта працяжныя і галасістыя. І яшчэ кажуць што даўней якраз таму не надта і хварэлі што пялі людзі часта. І днём і вечарам галёкалі. Праўда ўсё гэта ці не — няведаю. На сабе ні правярала. Ды і песень я тых цяпер няведаю. А хто іх цяпер ведае? А цім более мілая Эмулічка дзе ты тут іх у культурным горадзі заспяваіш на ўвесь голас? Толькі зацягні дык адразу ж скажуць што п'яная. Таму у глухой некультурнай дзярэўні мілая Эмулечка табе такое раздолле што я аж зайздрошчу. Там цябе ніхто няведае дык ты якую бабульку

---

[1] Ліст гэты трапіў да аўтара даволі загадкава. Верагодней за ўсё — гэта вы ўбачыце з тэксту ліста,— жанчына пісала адразу два лісты: адзін — і ён, на жаль, невядомы нам — аўтару, а другі — сяброўцы. Пры адпраўцы жанчына пераблытала канверты. Мяркуючы па нязвыклых імёнах (Эмулічка, Жаклiначка), а таксама па асобных нетыповых словах ліст гэты прыйшоў здалёку, верагодней за ўсё — з-за мяжы...

выпытай ды развучы народную песню а тады пасля адна ў лесі і заспявай на ўвесь голас. Там з цябе ніхто нябудзе смяяцца. Нябойся — дзярэўня ўсё ж ня горад. Аўвогуле мілая Эмулечка няўжо ў наш кібірніцічаскі век эскулапы нямогуць прыдумаць цёплыя росныя ванны? Кап ты сядзела ў цяпле і ношкі атмакалі.

Ты прасіла мяне кап я пісала табе гарацкія новасці бо там у дзярэўні сярод дзядоў і бабулек без целевізара — ці адрамантавалі вы яго? — сярод лесу і балота ты завяніш як ружачка без вады. Што ж дарагая Эмулічка я хачу табе пісаць пра свае новасці, але ж кап ты ведала як гэтае сучаснае жыццё закружвае. Ну проста няма спасу ат целяфонных званкоў і знаёмстваў новых. Вось толькі што я вярнулася з работы і махнуўшы на ўсё рукою выправіўшы Жаклінačку на двор села пісаць пісьмы. Табе і аднаму бісталковаму дзеравінскаму пісацелю які хваліць вясковае жыццё і вазмушчаіцца гарацкім. Ну проста ручкі ў мяне калоцяцца калі пачынаю чытаць нашых правінцыяльных пісацеляў. Ну зусім жа нямогуць пафіласофскаму на жыццё глядзець. Хай ба пісалі гэтак як умее пісаць Рукаліцынскі. Дык жа не. Але пачну папаратку.

З чаго пачаць. Апішутка я табе лепш адзін дзянёчак з маёй быстрацякушчай жызні. Тады можа і ты нябудзеш крыўдаваць на мяне бо зразумееш як цяжка круціцца ў ёй. Як скурату на вогнішчы. Устаю я раным раненька і вяду Жаклінačку ў садзік. Затым на работу стараюся паспець. Цяпер строга з дысцыплінаю стала. За сталом у канторы хоць дзень сядзі нічога няробячы ніхто прагрэсіўкі не здыме. А вот спознішся на пяць мінутачак і тады такі лямант будзя. Ну алі ўсё ткі ў абет я сарвалася як Жучка з ланцуга і злётала ў модны магазін што насупроць нашай канторы стаіць. Ай, мілая Эмулічка, кап ты ведала, кап ты хоць адным вочкам зірнула на тыя кулончыкі за якімі я сягоння ў магазіне стаяла. Вочарадзь была вялізная і ў мяне перат носам апошні кулончык выхапілі. Ну проста слёзы ў мяне пацяклі ат такой несправядлівасці. Ён якрас падыходзіў да маяго адаманаўскага камплекту адзежы. На ярлычку я сама чытала што фірма Адаманіс выпусціла новы кулочнык для сваіх камплектаў адзежы. І што кулончык гэты па форме і колеру цяпер за мяжою самы модны. Я табе яго і нарысую зараз. Ён вот такі быў. Як сэрца, што стралою пранзілі:



Што зробіш калі я такая нясчаслівая. Слёзы выцерла і галопам у кантору. Сяджу. У галаву работа не лезе а ручкі мае трасуцца ат абіды на жысць гэту. Вечарам ішла з Жаклінaчкаю дамоў. Я ўсё пра кулончык гаравала. І так мне цяшка на душы было. Вечна мне не шанцуе. Ну што за жысь такая? А тут яшчэ пад руку Жаклінaчка ные. Кап у дзіцячы свет зайшлі. Ён якрас па дарозі стаіць. Зайшлі. Жаклінaчка адразу ж да цацак і лялек кінулася. І там яна аберуч за лялькy-адаманчыка ўхапілася. Ведаіш мілая Эмулічка я яе так і не магла атарваць ат таго адаманчыка. Ён такі прыгожанькі. Ну проста як жывенькі. Маленькія вушкі такія широканькія. Хоць я і гаварыла Жаклінaчцы што дома ў нас гэтых лялек адаманчыкаў пяць штук ляжыць ды ўсё ж і гэтага давялося купіць.

Выйшлі мы з Жаклінaчкаю з дзіцячага свету і тут насустрач мне нос у нос Алекс суніцца. Помніш мы на філфаку на адным курсі разам вучыліся. Ён як тады вусікі насіў дык і цяпер носіць. Я яго толькі па гэтых вусіках і пазнала. Разгаварыліся мы. Што да чаго ён у мяне пачаў дапытвацца. Я таксама пыталася не маўчала. Аказваіцца ён таксама са сваёю цытляю развёўся. Бо яна не панімала ягоную тонкую натуру. Ёнжа вічарамі хадзіў атпачываць у дзіскацеку. А яна мымра ягоная на кухню да талерак цягнула. Хацела кап ён рабёнка глядзеў. Увогуле цяпер проста ў горадзі усе пачалі разводзіцца. Каго ні стрэніш дык ён ужо ці развёўся ці збіраіцца разводзіцца. Вот як з табою я з ім разгаварываю і тут нечакана прыкмячаю што Алекс ну проста выліты маленькі адаманчык. Якрас той тып які мне падабаіцца.

Я табе зарас усё растлумачу. Усіх мушчын я дзялю на тыпы. Помніш мілая Эмулічка як мы на філфаку вучыліся і пра гэтыя літаратурныя тыпы залікі здавалі. Ты тады з першага заходу залік атрымала а я нясчасная толькі з пятага. Дык вось гэтыя літаратурныя тыпы так у пячонках заселі што я пасля таго заліку усіх

знаёмых і незнаёмых мушчын пачала дзяліць на тыпы.

Першы тып — жлабы. Яны высокія здаровыя з агромністымі кулакамі і нагамі. Часта ў жлабоў грубы вырас твару. Яны непаваротлівыя і грубыя. Са сваім Эдзічкам я якрас і развялася з-за таго, што ён жлоб.

За жлабамі ідуць стручкі. Яны худыя і даўгінюшчыя. Нагадваюць пытальнік альбо пятрушку з цырка. З імі я нічога не хачу мецць агульнага.

Вялікія адаманы любімцы жанчын. Рост у іх крышку вышэй сярэдняга, у іх тоўсценькія ручкі, пакатыя плечы, выпуклы жывоцік. І яшчэ у іх поўная адаманістая экіпіровачка: джынсы, батнік на заклёпачках, скураны альбо замшавы адаманісты піджачок. Вялікія адаманы рана лысеюць ад радасцяў жыцця.

Маленькія адаманчыкі. У іх усё тое ж самае, толькі меншае. Гэта мой самы любімы тып мушчын. Малыя адаманчыкі трохі картавяць але гэта ім не шкодзіць. Цяпер такая гаворка самая модная.

Бываюць яшчэ макаўкі, смарчкі і уроды. Алі пра іх я табе раскажу ў другім пісьме.

Дык вось мілая Эмулічка дагаварылася я з Алексам заўтра сустрэцца. Паляхчэла мне адразу ж. Як камінь з душы зняла. Ты нават і не ўяўляіш як гэта здорава калі ёсць каханне. Я так і радуюся, калі пачынаю марыць як мы з Алексам будзім штовечар у дзіскацецы душою атпачываць.

Вярнулася я дамоў у больш вясёлым настроі. Паглядзела з Жаклінaчкаю восьмую серыю мультфільма. Паходжанні адаманчыка называецца. Скажу праўду табе што серыя гэта вельмі цікавая. Што ўжо пра Жаклінaчку гаварыць, калі мяне ат таго целявізара не атцягнуць. У гэтым мультфільмі пра тое паказваіцца як малы адаманчык прасіўся ў госці да клеткі. А яна злыдня яго нясчасненькага не пускала і пускаць не збіралася. Дапытвалася ўсё ў яго дзе дом ягоны. А ён кажа са слязьмі: няма ў мяне дома я касмічны кажа з космасу прыляцеў. Жаклінaчка і я пры гэтых словах і сцэнах слязьмі залівалася. Алі ўсё ткі пусціла клетка таго адаманчыка. Сямейку ён завёў.

Ну а цяпер вось пішу гэтыя пісьмы. Табі і дзеравенскаму пісацелю. Вот так і кручуся штодзень мая мілая Эмулічка. Заўтра на рабоці мне абяцалі даць усяго на суткі славуты новы раман Рукаліцынскага. Мабыць

усю ноч спаць не буду — чытаць буду а можа дзе што і заканспекцірую. На ўсякі выпадак. Бо цяпер дзе ў горадзі не павярніся так і чуеш: ці чытала новы раман Рукаліцынскага. Кажуць, што ў тым рамані такія цікавыя сцэны, такая вастрыня і глабальнасць праблем што проста за галаву хапаішся. Куды ўжо нашым мясцовым пісацелям да размаху Рукаліцынскага.

Вай мілая мая Эмулічка. Я ж і забылася табе сказаць. Да нас на гастролі з пятага будучага месяца прыязджае славуты вакальна інструментальны рок-ансамбль Адаманы-3528. Ці зможаш ты прыехаць сюды да таго часу? Калі зможаш напішы мне і я праз знаёмых па блату дастану білеты і на цябе. Яшчэ кажуць што хутка на экраны выйдзе новы фесцівальны фільм Адаманы і Сусвет. На яго ўжо цяпер запіс ідзе. Так што мілая Эмулічка сама бачыць як тут жыццё кіпіць. Прыязджай быстрэй з дзярэўні і злівайся з нашай гарацкой культурнай быстрацякушчай жызняй. Я цябе чакаю. Ну усё. Спяшаюся. Зарас пачнецца па тэлевізары гумарыстычная праграма якая называіцца Вакол адаманаў. Я і Жаклінaчка ад яе біс ума.

Ляці з прыветам вярнісь с атветам.

Цалую тваіх адаманчыкаў.

*P. S.* Не здзіўляйся. Зарас у горадзі пры развітанні гэтак *модна* гаварыць.

Твая да гроба *Інулічка.*

Калі гаворыць увогуле, то адаманы, тэма адаманаў настолькі ёмка і ўдала, настолькі непрыкметна ўплялалася ў людское жыццё, у інтарэсы ўсяго чалавецтва, што часам станавілася дзіўна: ну няўжо, няўжо некалі быў такі сумны час, калі людзі нічога-нічагусенькі не ведалі пра існаванне адаманаў?

Цяпер, пасля адкрыцця адаманаў, здаецца, стала весялей жыць, ці што?.. Дзіўна, само слова а д а м а н ы хавала ў сабе нейкі вясёлы і нават крыху загадкавы сэнс, звычайна гэтым словам называлі ўсё жартаўлівае і невядомае, што мелася як у жыцці чалавека, так і ў якой-небудзь міжнароднай падзеі. «Гэта ўсё адаманы вінаватыя»,— часта можна было пачуць у тыя дні ці то на вуліцы, ці то ў вузкай сяброўскай гутарцы; звычайна такія словы адразу ж выклікалі вясёлыя ўсмешкі.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ
# НАСТУПЛЕННЕ АДАМАНАЎ

### З АПОШНІХ ЗАПІСАЎ ВАЛЕСКАГА

*«Сягоння, перад тым як пайсці сюды, на гэты бераг Жыціўкі, я доўга сядзеў у двары, у некалі бясконцым сусвеце, дзе кожны сантыметр зямлі не тое што пратаптаны босымі нагамі, а абмацаны рукамі, дзе ўсё, куды ні кінь вокам: і хата, і хлеў, і паветка з пограбам, і той жа калодзеж — усё зроблена рукамі бацькі і маці, не за дзень ці два, а ўсё жыццё яны паклалі на стварэнне свайго сусвету, з дня ў дзень, яны пацелі на аблюбаваным кавалачку зямлі, і таму нечага здзіўляцца, што яны, як і продкі мае, старанна баранілі свой сусвет ад таго чужога і далёкага, што час ад часу насоўвалася на іх і што ці то грознай сілаю, ці то салодкімі спакусамі-абяцанкамі імкнулася адарваць іх ад гэтага невялічкага сусвету, бо толькі адгэтуль, з вышыні двара і хаты, яны маглі спакойна глядзець на астатні свет, як на чужыя далёкія галактыкі.*

*Тады, як сядзеў нерухома ў двары і глядзеў вакол чужымі вачыма — быццам дзеля гэтага імгнення я некалі і пайшоў па зваблівых сцежках-дарожках, каб адчуць і зразумець холад і адзіноту, якія скоўваюць душу,— я памалу пачаў здагадвацца, чаму бацькі мае спакойна і з годнасцю ацэньвалі ўсё на свеце сваёй жыціўскай меркаю.*

*Мабыць, трагедыя мая, як і маіх разумных дасведчаных аднагодкаў, у тым, што мы, паявіўшыся ў створаным бацькамі сусвеце, думалі, што ён вечны і паявіўся на свеце сам па сабе, як тое неба над галавою, у якім штодня плылі і плылі над Жыцівам воблакі, то — нізкія і ўскудлачаныя восенню, то — высокія і лёгкія летам, ён быў як тое ж сонца, якое падымалася з-за лесу штораніцы і пад вечар кацілася за гэткі ж лес толькі ў другім баку, ён быў як той жа пругкі вецер ды і як тая ж Жыціўка за вёскаю. І таму доўга не раздумваючы мы*

разбегліся ва ўсе бакі ад маленькіх, цесных нам двароў і хат з нізкімі столямі. Мы спадзяваліся — адкуль нам было ведаць? — што двары нашы, як і бацькі нашы, як і вёскі нашы, будуць вечнымі і непарушнымі, нічога з імі не станецца ні цяпер, ні праз год, ні праз тысячагоддзе, як і з тым жа нашмат большым сусветам, у які мы нястрымна рваліся з усяе сілы, тым загадкавым бясконцым нам сусветам, дзе маюцца вялізныя прыгожыя гарады з не меней прыгожымі прыгажунямі-царэўнамі, якія ўмеюць гаварыць па-бярозаўску, а тым болей, як нам думалася, у любы міг, як толькі нам прыпячэ і прысмаліць, мы зможам вярнуцца назад, ва ўсё гэтае вечнае і непарушнае, дзе ўсё пачнецца спачатку: і тая ж знаёмая страха кінецца ў вочы здалёку, з самага супынку аўтобуса, яна адразу ж выдзеліцца сярод іншых стрэх, як сярод іншых людзей заўсёды выдзяляецца чымсьці любімы чалавек, і той жа калодзеж у сваім двары напоіць халоднай смачнай вадою, і тыя ж амаль забытыя ў гарадской мітусні зоры заблішчаць вечарам над галавою, і зноў зазвініць матчына працяжнае: «Ідзі да-моў, вячэ-ра-а сты-ыне-е»,— і цяжкая бацькава рука ляжа на тваю стрыжаную галаву, тая рука, якая можа рабіць усё, што трэба чалавеку... мы спадзяваліся, што вернемся ў двор, дзе ёсць хата, ганак з прыступкамі, аб якія будзем доўга і залішне старанна выціраць бруд і гразь з далёкіх дарог і, нарэшце, азірнуўшыся, упэўніўшыся ў непарушнасці і вечнасці двара, увойдзем у хату, як усё роўна вернемся ў бесклапотнае маленства, як з берага Жыціўкі ў ваду нырнём... Мы верылі ў вечнасць і непарушнасць усяго, назва чаму двор, хата, бацька, маці. І таму, каб не сядзець без справы, мы спрабавалі зрабіць большае, чым рабілі нашы бацькі: навесці парадачак у тым агромністым сусвеце, пра існаванне якога ўведалі на ўроках Гаеўскага, Ароўскай, з радыё і тэлевізара, здагадаліся па гуле машын-чугрэеў, якія штодзень везлі лес з-за Жыціўкі і пасля якіх у запыленым паветры доўга стаяў незнаёмы салодкі пах, услед за якім хацелася бегчы як ганчаку за зайцам, нам хацелася бегчы за машынамі-чугрэямі гэтак жа, як і за тымі ж грознарыклівымі агромністымі зялёнымі танкамі, якія двойчы ў год, вясною і восенню, падчас манеўраў кацілі немаведама адкуль і немаведама куды — міма Жыціва, цераз Жыціўку і далей, у бок Паліка на край свету.

*...Як і за тымі ж маленечкімі самалётамі, якія паласавалі блакітнае неба, і таму, задраўшы галовы, мы гэтак старанна крычалі: «Гэй, самалёт, самалёт, вазьмі мяне з сабою!..»*

*Ніякай сілаю нельга было ўтрымаць нас тут, у маленечкім цесным двары, ля хаты і малапісьменных бацькоў з іх вечнымі клопатамі пра карову, парасят, бульбу, гной і нясконччаную работу, калі ўдалечыні, куды ні кінь вокам, было рассыпана столькі салодказваблівага, якое толькі і чакала нашага прыходу альбо прыезду.*

*І хто вінаваты, чыя віна, што я цяпер нерухома і разгублена сядзеў у двары і бачыў, як хутка і неадольна зарастае некалі ўбітая зямля пякучай крапівою, падарожнікам, муравою, горкім палыном і лебядою?*

*Хто вінаваты, што пацямнелі падрубіны хаты, што амаль сапрэлі дошкі ў калодзежным зрубе і вады ў вядро калодзежнае як ні старайся, не набярэш поўнае, а калі і ўдасца, то ці вып'еш яе, горкую?..*

*Хто вінаваты, што на вачах маіх двор і хата, не ўпамінаючы ўжо пра бацькоў, размываюцца ў* **ніштo,** *а зрабіць я нічога не мог?..*

*Нечакана я адчуў халодны маўклівы подых неадольнага* **чагосьці,** *якому падуладны піраміды і храмы, гарады і вёсачкі, а тым болей дываны персідскія і мэбля румынская і якое цяпер моўчкі і спакойна забірала ад мяне ўсё, за што так апантана трымаліся мае бацькі, за што і я некалі ў маленстве трымаўся. І жахлівае было не ў тым, што гэтае неадольнае магутнае ўвесь час насоўвалася і насоўвалася, памалу засмоктваючы і мяне са сваімі сумненнямі, а ў тым, што я цяпер нічога не рабіў.*

*Я нічога не хацеў рабіць. Штосьці вымерла ў маёй душы, стала ў ёй гэтак холадна, як стае холадна ў хаце зімою, калі яе надоўга пакідаюць гаспадары.*

*...Двор і хата размываюцца ў* **ніштo** *гэтак жа, як і ўсё астатняе, створанае рукамі чалавека, калі яно застаецца без дагляду.*

*Простыя ісціны адкрываюцца, калі пасля доўгіх дарог вяртаешся ў двор да той хаты, дзе нарадзіўся, дзе спазнаў першае слова маці і дзе сам некалі адгукнуўся свету першым крыкам. Тады як ніколі востра разумееш і адчуваеш, што ў кожнага з нас ёсць, павінна быць у душы штосьці святое і незаплямленае,*

*імя чаму — Радзіма і ад чаго пачынаецца адлік усяго на свеце, як вялікага, так і малога, як дабрыні, так і подласці. І ўжо, мабыць, не так і важна, дзе хто нарадзіўся — сярод палёў і лясоў Беларусі, у бязмежных палях Расіі, у стромкіх гарах Грузіі ці ў заснежаных далях Якуціі — проста мы павінны помніць і любіць яе, бо тады, калі будзеш мець сваю Радзіму, зможаш разумець і паважаць Радзіму суседа. Мабыць, толькі ў гэтым і ёсць наша выйсце, гэтае пачуццё Радзімы павінна быць тым маяком, на які заўсёды трэба глядзець, чым бы ні займаліся, касмалогіяй ці філалогіяй...*

*І той няшчасны, які не мае ў душы пачуцця Радзімы, будзе як перакаці-поле бяздумна насіцца па свеце, сягоння — тут, а заўтра — у Афрыцы ці ў Лацінскай Амерыцы, так і не ведаючы, што пакінуць сваім нашчадкам, за што трымацца ў жыцці, акрамя грошай, дзе прыстаць на старасці...*

*Простыя ісціны адкрываюцца там, у сваім двары каля роднай хаты, бо толькі там, на адзіноце ў цішыні, можаш вынесці прысуд сабе, пасля якога многае ў жыцці ацэніш іншай меркаю.*

*І, магчыма, нарэшце пачнеш хоць крыху разумець малапісьменных бацькоў, якія некалі так прасілі застацца ля дому.*

*Ці мог ты застацца — гэта ўжо іншая гаворка...*

*Тады, як сядзеў у двары ля хаты, нечакана пачуў гамонку з вуліцы, ад той лаўкі, на якой некалі — як даўно гэта было! — мы сядзелі пад зорным небам: я, Алешнікаў і Лабуцька, і, матляючы нагамі, гаварылі-марылі, хто куды паедзе з Жыціва.*

*— Дык што, Андрэй, кажуць людзі, што сынок Валескага дамоў вярнуўся. Кінуў-рынуў усю сваю навуку і ў Жыціва прыехаў. Хоць да пустой хаты, хоць у двор, дзе крапіва шугае, але вярнуўся ўсё-ткі. Пацягнула свая зямля да сябе.*

*— Ага, і я таксама чуў, што вярнуўся. Якраз тады, як бацькі адамруць, яны і вяртаюцца. А дагэтуль ім усё некалі. Усё яны па свеце носяцца на злом галавы.*

*— Ну, ты, Андрэй, дарэмна на маладога Валескага вернеш гэтулькі. Ён жа, кажуць, разумны надта. Ён жа во нейкіх гадаманаў знайшоў у чалавеку. Пра іх цяпер увесь свет трубіць. І ў нас. І там.*

— А я табе, братка, скажу праўду: пляваць мне на тое, што ён там знайшоў у чалавеку. Яны ўсё прычыны знаходзяць, каб нас хутчэй адных пакінуць і адгэтуль, з Жыціва, з'ехаць. То за раманцікаю, то за грашыма, то за хлебам лягчэйшым, то за распустаю, то за навукаю — усё яны едуць, едуць, кожны па сваё шчасце. А хто тут застанецца, хто, я вот у цябе пытаюся? Хто хлебам і мясам людцаў карміць будзе? Вот папомніш ты мяне — дажывёмся, што ў гарадах з прадуктамі стане — хоць шаром пакаці... Вунь дажыліся, што ў новую школу ў першы клас дзяцей не набяруць, хоць ты з дзетпрыёмнікаў завозь іх сюды. Хоць ты гэту школу зусім закрывай. Дык вот скажы, разумец, каму і што пасля нашай смерці застанецца? Навошта мы тут жылі? Толькі неба капцілі?

— Ну, Андрэй, не кажы так рэзка, не гарачыся, ты вот лепш мяне паслухай. Гэтых гадаманаў таксама было нялёгка знайсці, галаву патлуміць трэба было до-обра. Калі б не сынок Алешнікава, каб не Лабуцькава падтрымка, дык Валескага сын наўрад гэтых самых гадаманаў знайшоў бы. Яны, як мне мужчыны на калгасным двары баялі, усе утрох іх шукалі, карацей кажучы, памагалі адзін аднаму, разам дзяржаліся.

— Гэта той Лабуцькаў, які некалькі год назад за Жыцівам Курганы капаў?

— Той, той, Андрэй. Яны яшчэ калі малымі былі на гэтых Курганах поўзалі, усё золата шукалі. І вот нядаўна гэты Лабуцькаў сын нейкія пліткі ў тых Курганах знайшоў. А тады да тых Курганоў, можа, і сам помніш, людцаў і панаехала — поўным-поўна, на машынах розных, з лямпамі бліскучымі, здымаць усё пачалі, як у кіно якім... Аказваецца, пад сакрэтам я чуў, на тых плітках нешта было напісана. Данясенне нейкае, ці што... Толкам і дагэтуль ніхто не ведае, не расшыфруюць яшчэ ніяк поўнасцю тое данясенне. І кажуць яшчэ, што, прачытаўшы з пятага на дзесятае тое данясенне, хлопцы нашы жыціўскія сабраліся разам, абмазгавалі ўсё дзела і тут жа пачалі шукаць гэтых самых гадаманаў. Алешнікава сынок мікраскоп спецыяльны зрабіў, каб гэтых самых гадаманаў на свае вочы ўбачыць.

— Што ты мне сягоння заладзіў: гадаманы, гадаманы... Што гэта такое, ты мне хоць толкам можаш сказаць?..

— *Ну, Андрэй, гэта такія, як мне мужчыны баялі, маленечкія-маленечкія зверочкі, што ў чалавеку жывуць і на чалавека як дзве кроплі вады падобныя.*

— *Як глісты, ці што?*

— *Ды не, Андрэй, яшчэ меншыя. Іх простым вокам і не відаць нават. Як ты думаеш, чаму іх дагэтуль ніхто не відзеў? Нездарма сынок Алешнікава спецыяльны мікраскоп зварганіў. Іх, гадаманаў гэтых, толькі праз мікраскоп і ўгледзіш.*

— *Няўжо такія маленькія? Ты глядзі, якая зараза да нас прыляпілася! І што ж яны там робяць, гэтыя, як ты кажаш, гадаманы? І як яны залезлі туды, каб спытаць каго? А можа, іх нам адтуль падкінулі, га? Як тых жукоў каларадскіх... Саўсім, паразіты, бульбачку даядаюць. Кажуць, гэтыя жукі такія граматныя сталі, так ім наша бульба ўсмак прыйшлася, што яны самі да нас цераз мора-акіян плывуць. У цэлафанавыя пакеты пазалазяць, запакуюцца і плывуць да нашых берагоў.*

— *А вот пра гэта ніхто толкам і не ведае. Адны кажуць, што гадаманы гэтыя адтуль, з космасу, на нас наваліліся. Другія даказваюць, што яны патрэбныя нам, людзям, што без гэтых гадаманаў, маўляў, мы б і завялі саўсім. Цяпер увесь свет пра іх толькі і гудзе. Гэта во мы з табою спакойныя, на лаўцы сядзім ды спакойна гаворым, а свет белы — ого-го як гудзе! Як той вулей патрывожаны.*

— *А я табе праўду скажу: гадаманы — яны, мусіць, і ёсць гады нейкія. З якой толькі халерою я за ўсё жыццё не сутыкаўся. І да вайны, помню, хапіла, і ў вайну. Ды і пасля вайны таксама нялёгка было. Але нічога, думаю, што і з гэтымі гадаманамі мы неяк справімся.*

— *Ну-у, Андрэй, не так гэта і проста з імі справіцца, не так лёгка на іх управу знайсці, як табе здаецца. Ты што думаеш — дурнейшыя за нас людзі, калі яны нічога пакуль не прыдумалі? Калі б усё было лёгка вырашыць, то не гудзеў бы белы свет. А то газету паштарка прынясе, разгорнеш яе, зірнеш вокам, і — жах, ну проста вачам не верыцца, калі пачнеш чытаць, што ў свеце творыцца. У Германіі, не ў нашай, а ў той, дзе амерыканцы, нядаўна нейкую банду гадаманаўцаў знайшлі, у іх нават свае танкі і ракеты меліся, і яны ўжо, кажуць, народ падбухторвалі, каб зноў на нас сунуцца. Целявізар уключыш, паказваюць, як у Аме-*

рыцы тысячы людзей едуць у джунглі за нейкім вар'ятам, каб там у лясах яго слухаць і маліцца гадаманам, а тады, затлуміўшы галаву да ачмурэння, самі сябе труцяць і забіваюць. Я табе далажу, Андрэй, проста жах, што цяпер у свеце з-за гэтых гадаманаў пачало твaрыцца. Я вунь чуў, што нядаўна новая вайна ў Афрыцы пачалася. А з-за чаго? Зноў жа — з-за гадаманаў гэтых: адны — хочуць маліцца гадаманам, другія — супроць іх. А кроў людская ліецца і ліецца, як вадзічка тая...

— А ты, братка, надта не расстрайвайся... То ўвесь свет не ведае, што з імі рабіць, а вот мы з табою з гэтымі гадаманамі запраста раздзелаемся.

— Як гэта ты — запраста раздзелаешся?

— А я вот табе скажу, а ты толькі слухайся мяне, і ўсё будзе парадкам. Мы з табою зараз падымемся за лаўкі і пойдзем па Жыціве чарку шукаць. Можа, дзе і нарвёмся. Быць такога не можа, каб нідзе не нарваліся. Па чарачцы, а то і па дзве як кульнём, цыбулінаю горкаю як закусім, хлебам, сальцам яшчэ, сваім, не магазінным, агурочкам мочаным — во-о, тады гэтыя паразіты гадаманы і закруцяцца, ім аж млосна стане ад такой жызні. А калі б мы ды яшчэ вечарком у лазню на палок трапілі — ого-го, як бы гэтыя гадаманы закруціліся! Гэта ім не ў Афрыцы раскашаваць ці ў той жа Амерыцы. Мы ім тут, у Жыціве, такую Афрыку ўстроім!..

— Не, Андрэй, хоць ты і толкам гаворыш, але я з табою не зусім згодзен. Чарачку ці дзве лепей за ўсё пасля лазні кульнуць. Да лазні — яно толкам не пойдзе, не пахвошчашся добра. А трэба ж добра і ўпарыцца, каб усякую нечысць выгнаць. А тады ўжо — і за чарачку можна ўзяцца. До-обра пойдзе, у самы смак.

— Ну, няхай сабе і па-твойму будзе, вечна ты мяне, дурнога, угаворыш. Граматны надта, газеты штодня чытаеш, целявізар глядзіш. Але ж чарачку, я табе далажу, ці так, ці іначай, а шукаць трэба. Пад ляжачы камень вада не цячэ. Так што падымайся, браток, сядзець нечага. У які бок пойдзем?

— Давай да магазіна пройдземся. А па дарозе будзем да людзей добрых заходзіць. Можа, дзе і нарвёмся.

І яны пайшлі.

Стала так ціха на зямлі, як быццам мяне ўжо нідзе і не было: ні ў двары, ні ў белым свеце, а яны, гэтыя

старыя жыціўцы, таксама навечна бясследна згінулі, як у ваду нырнулі ў свой недаступны свет, у які я ўжо ніколі не мог трапіць.

Зноў, як і некалі, у лабараторыі ў інстытуце, калі вечарамі слухаў маналогі Міхайлаўны пра мужа-п'яніцу, ува мне штосьці перавярнулася, усё нечакана сарвалася са сваіх звыклых месцаў: і двор, і хата, і Жыціва, і Бярозава, і ўсе астатнія нашмат большыя гарады, у якіх я мог ці не мог пабываць,— усё, што дагэтуль надзейна акружала мяне штодня, нечакана немаведама куды панеслася, падхапіўшы мяне, Алешнікава і Лабуцьку, сплеценае ў штосьці адзінае, суцэльнае, заблытанае настолькі, што ніводнаму мудрацу не разблытаць, аддаляючыся ад зямлі, яно пачало змяншацца, станавіцца маленечкім-маленечкім... І ўсё гэта было, як падчас хваробы ў маленстве, калі я гэткаю ж маленечкаю кропляю выпадаў з агромністых, як свет, палацяў і падаў, падаў, чым далей, тым хутчэй у чорную беспрасветную бездань, якую я адчуваў усім гарачым цельцам, і мне станавілася жахліва не столькі ад падзення, а колькі ад таго, што я ўжо ніколі не змагу вярнуцца да агромністых палацяў, зробленых бацькам за цёплай печчу і на якіх ляжыць тоўсты саламяны матрац. І толькі халаднаватая шурпатая далонь маці, яе ціхая напеўная песня спынялі маё жахлівае падзенне і вярталі назад, да таго жывога агромністага, ад чаго мне ніяк нельга было адрывацца. Гэтак жа і цяпер, як у маленстве, я адчуў, што паляцеў у чорную бяздушную прорву, да таго загадкавага нуля, пра існасць якога мне гэтулькі часу тлумачыў Алешнікаў. І тут я ўжо нічога не мог з сабою зрабіць, а тым болей што халаднаватая далонь ні маці, ні бацькі не маглі легчы на мой гарачы лоб, і песні маці, той напеўнай нетаропкай песні, я таксама не мог пачуць і таму адчуў, што ў затуманеных вачах маіх стала горача-горача, і цяпло тое тут жа палілося на шчокі, апякаючы скуру, напаўняючы грудзі тым балючым і дрогкім, што я не мог выдыхнуць і таму пачаў задыхацца...

А болей нічога не было, быццам я і сапраўды трапіў у той загадкавы нуль, і таму ў мяне як бы не было ды і не магло быць доўгіх пустых дарог з лабараторыі на кватэру, дзе ўсюды, куды ні кінь вокам, былі кнігі, кнігі, кнігі, якімі я імкнуўся замяніць сабе маяк, дзе, як часта гаварыў Алешнікаў, Эйнштэйн марыў улад-

*кавацца служыцелем, як быццам у маім жыцці не было халодных неразагрэтых сняданкаў і гэткага ж халоднага стылага ложка, не было цёмных начэй, калі я падымаўся з ложка і бязмэтна, што прывід, блукаючы па напаўасветленых вуліцах, глядзеў на горад як на штосьці агромністае і жывое, што заснула да таго яснага сонечнага імгнення, калі гэтае агромністае жывое зноў пагоніць па вуліцах-нервах машыны і людзей, і тады ўсё напоўніцца іншым сэнсам, які чалавецтва гэтак апантана каторае стагоддзе шукае ў ляскаце пішучых машынак, у газетных артыкулах, у чарцяжах на белых ватманаўскіх лістах, у рабоце станкоў і машын, у як мага найхутчэйшым руху стужкі Галоўнага канвеера.*

*...І ў маёй рабоце таксама.*

*Я быў не выключэннем. Я не мог быць выключэннем. І гэта прыносіла мне пакуты.*

*А потым усё стала праясняцца. Я, нарэшце, змог выцерці далонню мокры твар і, нарэшце, пачаў глыбей і лягчэй дыхаць — як пасля цёмнай ночы на досвітку ўсё стала. Тады я адчуў, як усё перавярнулася, быццам і сапраўды, пабываўшы ў тым загадкавым нулі, я трапіў у іншы свет, у той антысвет, пра рэальнае існаванне якога гэтулькі расказваў Алешнікаў, і цяпер, як тое неразумнае дзіця, мог разглядаць вялікую і мудрую Міхайлаўну, зразумеў, што я са сваімі праблемамі ўсяго толькі блытаюся пад нагамі апошніх жыціўцаў, як гэтых, якія толькі што сядзелі на лаўцы перад хатаю, так і тых, якія дажывалі век у адзіноце, бо школа ўжо амаль закрыта і двары зарастаюць не толькі ў мяне, Алешнікава і Лабуцькі, а тыя астатнія сыны і дочкі жыціўцаў, што вярталіся ў Жыціва на суботу і нядзелю з далёкіх і блізкіх Бярозаваў, хоць і спрабавалі ўрасці ў жыціўскую цішыню і запаволенасць, хоць і спрабавалі чэсна прывыкнуць да нізкаватага неба, ды чамусьці нічога ў іх не атрымлівалася, і таму, нацягнуўшы на сябе адаманістыя штаны і кашулі, прыхапіўшы з кубельца сала пад пахі, пад грукат і песні шчаслівых і вечна вясёлых прыёмнікаў і магнітафонаў, яны зноў уцякалі ў далёкія і блізкія Бярозавы, пакідаючы старым, як за адкупленне грахоў, як за здраду, чырвоненькую дзесятку.*

*А каторыя, больш сумленнейшыя, дык нават і дзве.*

*Тады мне нічога не заставалася, як падымацца і*

плесціся з двара, толькі не ўслед за мужчынамі, а на агарод, дзе зелянеў бульбоўнік — я пасунуўся да таго асушанага балота, цераз якое калісьці разам з Алешнікавым і Лабуцькам бегалі ў школу.

Мінуўшы балота, я пайшоў уздоўж Жыціўкі, міма той будкі на беразе, дзе тарахцеў маторчык, якім гналі ваду на калгасныя палі, і яшчэ далей, па мосце, за якім у ляску паблісквала новая двухпавярховая школа, ля могілак, з высокага абрыву якіх я ўбачыў Лысую гару, вяршыня якой некалі была схавана сасоннікам і ельнікам, а цяпер яна разварочана, напалову зрыта магутнымі бульдозерамі, і там, як сімвал чалавечай сілы, высілася электрычная апора, да якой цягнуліся драты...

Толькі тут, на пустым беразе Жыціўкі, у далечыні ад Жыціва, калі зноў, як і некалі, я пачуў роўны шум бору за ракою, калі ўсім целам адчуў цёплае мяккае сонца, якое, здавалася, свяціла для мяне аднаго, калі зноў пачуў трывожны крык кнігаўкі, які з нечаканым болем паласнуў па душы, мне стала крыху лягчэй і я змог спакайней успамінаць мінулае, той дзень, калі сказаў Алешнікаву і Лабуцьку пра адаманаў. І заадно паказаў ім мікрафотаздымкі.

— Гэтага не можа быць,— прашаптаў тады Алешнікаў пабялелымі вуснамі.

— Што, можа, ты забароніш ім існаваць?

— Тады трэба прамаўчаць.

— Пра што?..

— Пра тое, што яны, як дзве кроплі вады, падобныя на людзей. Хай свет круціцца, як і круціўся. Мабыць, не толькі адзін чалавек можа быць шчаслівым у няведанні, а і ўсё чалавецтва таксама. Раней за бацьку ў пекла нам нечага лезці — так казалі некалі ў Жыціве.

— Чаму нам трэба маўчаць? — у сваёй апантанасці я яшчэ нічога не разумеў. І разумець не збіраўся.

— Пачнецца тое ж самае, што пачалося пасля стварэння ядзернай зброі. Калі не горай. Бо тады была адкрыта бяздумная сіла, што сеяла смерць наўкола, а тут пачнецца спекуляцыя на людской псіхалогіі. І невядома, што жахлівей...

— Няўжо ты думаеш, што навуковыя адкрыцці ідуць на згубу людскую?

— А ты спытай пра гэта лепш у Лабуцькі. Пра што

*тут доўга думаць, калі горкі вопыт сусветнай гісторыі за плячыма маячыць. Самі не заўважылі, што дажыліся да таго, што з-за выпадку, нават з-за сляпога выпадку можа разгарэцца такі пажар, які спапяліць усю цывілізацыю.*

*Я слухаў Алешнікава, і тут у маёй свядомасці штосьці мільганула. Нейкая як бы дубіна, ці што... Потым ні з таго ні з сяго жалезны меч узнік. Потым гармата двухколавая... машына-душагубка, калючы дрот, будка для вартавога і косці чалавечыя... І яшчэ я ўбачыў голае поле за Жыцівам і на ім каменне ў рад ля самай дарогі, якое засталося ад былых падмуркаў. Некалі там хаты стаялі, а потым людзі людзей спалілі... І ўсё гэта пачаў памалу накрываць чорны грыб — навечна...*

*— Дак што, ломім яго, тваё дзецішча? — я кіўнуў галавою на электронны мікраскоп.— А заадно і мікрафотаздымкі з гэтымі... землячкамі. У агонь іх, каб болей ніхто іх ніколі не бачыў, а нам — як прыснілася.*

*І тут нарэшце падаў упершыню голас Лабуцька — палыселы, прыгорблены, куды падзелася ягоная чупрына:*

*— Якімі вы былі, такімі і засталіся. Як кажуць, гарбатых магіла выправіць. Няўжо не разумееце, што тая ж гісторыя даказвае, што выйсце не ў гэтым...*

*— Чаму?*

*— А вось чаму,— і тут ён тыцнуў нам напалову расшыфраваныя тэксты са сваіх знакамітых плітак.— Я думаю, што гэта — таксама іх работка. Так што трэба рабіць паведамленне. Калі не мы, дык іншыя вучоныя іх убачаць і адкрыюць. Зразумейце хоць адзінае: мы ўсе цяпер, як на калёсах, што з гары пакаціліся, а таго каня, што ў аглоблях, ужо не ўтрымаеш...*

*Потым ужо, калі ўсё наўкола загудзела-зашумела, як у нас, так і за мяжою, я пачаў усё часцей і часцей успамінаць словы Алешнікава пра шчасце і няведанне ўсяго чалавецтва...*

*Але тады я спадзяваўся: год-другі — я знайду сыроватку супроць адаманаў і з адаманамі будзе тое ж, што з вірусамі тыфу, чумы, халеры і ўсякай іншай заразы, з якой чалавецтва памалу спраўлялася».*

## З ДЗЁННІКА АЛЕШНІКАВА

*«Магу смела сказаць, што я тут і не вінен. Мы ўсе, тэхнакраты, тут невінаваты, бо мы сваю работку зрабілі на «выдатна» — падарылі чалавецтву такую грозную сілу, якая ім, людзям, і не снілася, якая, як мы спадзяваліся, павінна прынесці людзям шчасце і радасць.*

*І ці наша тут віна, што гэтая ж сіла пасеяла паміж людзьмі і народамі жах і нянавісць?*

*Няўжо мы так ніколі і не асмелімся глянуць на гэтае змрочнае і грознае, што гоніць народы на народы, прымушаючы ў жаху хапацца то за ружжо, то за ракету, то за напалм?..*

*...Як за адзінае надзейнае збавенне.*

*Я ніколі не мог ды і цяпер не магу паверыць, што народы, не дзесяткі і не сотні людзей, а цэлыя народы могуць добраахвотна пачаць самазабойства. Але ж калі яны не могуць, то як сталася, як мы ўмудрыліся дажыць да таго, што дзесяткі ці сотні выбраных распараджаюцца мільёнамі людскіх жыццяў — як пастухі стадам?..*

*Як жа так сталася?*

*І тут жа ўва мне пакутліва б'ецца іншая думка: а можа, намі і ніхто не распараджаецца? Можа, мы так створаныя, што ва ўсім, што нас акружае, як і ў паводзінах сваіх, мы ўвесь час вымушаны шукаць заканамернасці, якіх насапраўды не існуе, і гэтыя заканамернасці для нас — як найвышэйшае апраўданне?..*

*Няўжо прыродаю запланавана гэтае сляпое самазабойства? Але, калі яно запланавана, калі чалавецтва не можа абысці гэтыя жахлівыя законы, то тады навошта ўсё астатняе? Навошта?*

*Я шукаў прычыны войнаў, людской варожасці. Чытаючы кнігі і газеты, слухаючы людзей і радыё, гледзячы тэлевізар я прыходзіў да высновы, што прычыны гэтыя ў наступным:*

*а) у парушэннях эканамічных законаў грамадскага развіцця;*

*б) у жаху чалавека перад нечым нязведаным, у тым маленечкім нябачным жаху, які маецца ў кожным з нас і які, у рэшце рэшт, прымушае людзей аб'ядНацца і ўхапіцца за сілу як за адзіны надзейны паратунак;*

*в) у недаверы да сябе падобнага;*

*г) у сквапнасці мець тое, што табе і не належыць.*

*Колькі я знаходзіў прычын, якія ў любы міг маглі стаць апраўданнем! Але якая з іх галоўная?*

*А можа, і толькі гэта змусіла мяне канструяваць звышновы электронны мікраскоп, без якога не мог абысціся Валескі,— віною ўсяму адаманы, тыя нябачныя загадкавыя адаманы, якія маюцца ў кожным з нас, у адных іх болей, а ў другіх — меней, і, замест таго каб змагацца з адаманамі, мы сваёй тэхнакратычнай дзейнасцю плодзім іх, а яны непрыкметна, недаольна штурхаюць нас да сусветнага хаосу і самазабойства?*

*Мабыць, кожны з нас павінен адчуваць сваю віну за ўсе тыя беды і няшчасці, якія былі на зямлі, якія ёсць і будуць. Калі мы гэта зразумеем, тады мы хоць крыху зменшым сваю гардыню і не так старанна будзем шукаць прычыны нашых зямных бед і трагедый у тым чортведама знешнім, за што так лёгка ўхапіцца».*

## Раздзел першы

## СІТУАЦЫЯ ЎСКЛАДНЯЕЦЦА

Тэлеграфныя агенцтвы адгрукалі новае ашаламляльнае паведамленне агенцтва Рэйтар:

> *Як стала вядома з дакладных крыніц, у навуковых лабараторыях многіх краін адкрыта сываратка супраць адаманаў, назва якой антыадаманін. Новая сываратка не знайшла пакуль масавага прымянення па шэрагу прычын, звязаных з эканамічнымі, палітычнымі, маральна-этычнымі праблемамі як асобных краін, так і ўсяго чалавецтва ў цэлым.*

Пасля таго як па ўсім свеце разнеслася гэта паведамленне, адусюль пасыпаліся больш падрабязныя чуткі пра новую сываратку. Чуткі былі розныя і працілеглыя, як і любыя чуткі...

Казалі, што антыадаманін вельмі эфектыўны ў барацьбе з адаманамі — чалавек, якому ўводзілі антыадаманін, станавіўся больш бадзёрым, у яго паляпшалася памяць, лагічнасць паводзін.

Нечакана для многіх аказалася, што антыадаманін уздзейнічае і на псіхалогію людзей. Тыя людзі, каму ўводзілі антыадаманін, тут жа пераставалі цікавіцца песнямі і танцамі, якія днём і ноччу ўводзіла ў вушы людскія ТНК «Адаманіс». Тая культура, той вобраз жыцця, які насаджала між людзей ТНК «Адаманіс» людзей не цікавіла. Заадно людзі пераставалі купляць адзенне і мэблю, якія вырабляла і пастаўляла на сусветны рынак ТНК «Адаманіс». Увогуле тым людзям, якім уводзілі антыадаманін, у вялікіх гарадах чамусьці станавілася сумна і абыякава жыць, яны пакідалі свае звыклыя заняткі і ехалі да прыроды: у лясы, да берагоў рэк і азёр, у горы высокія. Там яны пасяляліся не на дзень ці два, як турысты, а на ўсё жыццё і паступова назусім забывалі пра гарадскі ўклад жыцця. Змена ў псіхіцы людзей была настолькі вялікаю, што часта блізкія і родзічы не пазнавалі іх.

Уздзеянне антыадаманіну прыводзіла да яшчэ адной дзіўнай незразумелай заканамернасці: у блізкіх і родзічаў чалавека, якому ўводзілі антыадаманін, рэзка павялічвалася канцэнтрацыя адаманаў, што тут жа прыводзіла да зніжэння эмацыянальнага тонусу, людзі станавіліся вялымі і бязвольнымі, вярнуўшыся з работы, яны цяпер толькі тым і займаліся, што бяздумна таропіліся ў тэлевізары, дзе грымелі і шумелі займальныя адаманістыя тэлеперадачы, альбо спяшалі ў кінатэатры на кінафільмы, створаныя ТНК «Адаманіс»; рэзка ўгору падскочыла колькасць захворванняў, сярод якіх першыя месцы займалі нервова-сасудзістыя і ракавыя — гэтыя жахлівыя бічы апошняга стагоддзя.

Хоць многія вядучыя вучоныя свету і схіляліся да думкі, што адаманы — шкодныя для арганізма чалавека, але поўная роля і характар уздзеяння адаманаў на здароўе і псіхіку людзей былі пакуль не растлумачаны. Адсутнасць адзінай тэаратычнай грунтоўнай базы, бясспрэчна, стрымлівала далейшыя даследаванні прыроды адаманаў.

Думкі вучоных свету рэзка падзяліліся. Адны горача даказвалі, што адаманы, як і многія вядомыя вірусы, грыпу ў прыватнасці, цераз паветра пранікаюць з цела аднаго чалавека ў цела другога. Такім чынам уздзеянне антыадаманіну зводзіцца ўсяго толькі да выгнання адаманаў з арганізма, і яны тут жа пасяляюцца ў арганізм родзіча ці блізкага па духу чала-

века. Чаму родзіча ці блізкага чалавека? Верагодней за ўсё таму, што ў такіх людзей блізкая генетычная структура.

Другія вучоныя сыходзіліся на іншым. У прыватнасці, некаторыя даказвалі, што маецца больш скрыты механізм узаемадзеяння паміж адаманамі. Антыадаманін, губячы адаманаў у адным арганізме, прымушае іх перадаваць сігналы з дапамогаю невядомага пакуль навуцы фізіка-біялагічнага поля іншым адаманам, якія знаходзяцца ў другіх арганізмах. Згодна гэтых сігналаў, як рэакцыя на антыадаманін, у другіх арганізмах рэзка павялічваецца канцэнтрацыя адаманаў[1].

Работы вучоных ускладняліся яшчэ і тым, што далейшыя больш шырокія работы і эксперыменты з антыадаманінам маглі весціся толькі на добраахвотніках. Як вядома, акрамя людзей, больш адаманаў пакуль нідзе не знайшлі. Увогуле, чым далей, тым болей вучоныя ўпэўніваліся, што між адаманамі і не менш загадкавымі вірусамі СНІДа маецца пэўная карэляцыйная залежнасць.

Праз тры дні пасля ашаламляльнага паведамлення тэлеграфнага агенцтва Рэйтар у вядомым італьянскім штотыднёвіку «Панарама» быў змешчаны артыкул Льва Леўданскага. Яго тут жа перадрукавалі амаль што ўсе вядучыя друкаваныя органы. Артыкул Льва Леўданскага, як і трэба было чакаць, унёс новы аспект у асвятленне шматлікіх праблем, звязаных як з адаманамі, так і з прымяненнем антыадаманіну. У скарочаным варыянце змяшчаем яго і мы.

### Я ПАПЯРЭДЖВАЎ...

У сваім славутым, вядомым усяму свету артыкуле «Адаманы — як форма вышэйшага розуму», што быў напісаны крывёю чэснага палкага сэрца, я папярэджваў вас, вучоныя мужы свету, каб вы пакінулі ў спакоі адаманаў. Але ж вы, вучоныя мужы свету, так і не прыслухаліся да майго вешчага слова, вы нават уздумалі

---

[1] Як вядома, гэту даволі цікавую і арыгінальную гіпотэзу пацвердзілі шматлікія доследы на каларадскіх жуках. Зараз пэўна даказана, што, пры атручванні каларадскіх жукоў на адной дзялянцы, у іншым месцы ў жукоў выпрацоўваецца імунітэт супроць атрутных рэчываў. Як, якім чынам перадаецца такая інфармацыя — пакуль невядома.

аб'явіць мяне — я ніколі не забуду абразу Валескага — прафанатарам навукі.

Як ні цяжка мне было, але я сцярпеў. Я, чэсны вучоны, стрымаўся, бо ведаў: ва ўсе часы людзьмі не цаніліся мудрацы і прарокі. Потым ужо, праз стагоддзі, калі іх няма побач, мы ставім ім помнікі, складаем пра іх легенды, а пры жыцці мы часцей за ўсё кідаем у іх каменнем і брудам... Дастаткова мне тут нагадаць шматпакутны лёс Ісуса Хрыста. Я — не выключэнне з гэтага правіла.

І таму я, Леў Леўданскі, сёння смела і адкрыта пытаю ў вас, вучоныя мужы свету: чыя ж праўда заззяла ясным сонейкам? Чыя? Ваша, вучоныя мужы свету? Што я сёння чую ад вас? Што я сёння бачу на свае вочы?

Людзі, якім вы ўводзіце антыадаманін, пакідаюць утульныя абжытыя гарады і едуць на злом галавы немаведама куды, едуць не на дзень ці на два, а на ўсё жыццё. Да чаго ўсё гэта прыводзіць ды і прывядзе ў будучым, калі зірнуць на гэту з'яву ў перспектыве? Заводы закрываюцца. Фабрыкі пусцеюць. Парушаюцца планава-эканамічныя сувязі ў маштабах як асобных краін, так і паміж дзяржавамі. Зрываюцца міжнародныя пастаўкі. У гарадах нарастае хаос. Растуць міжнародныя канфлікты. Не забывайцеся і пра тое, што ў тых краінах, якія пачнуць прымяняць антыадаманін, пачне аслабляцца эканамічны патэнцыял, узровень якога ў асноўным дыктуецца колькасцю гарадскога насельніцтва. Вучоныя мужы свету, прымяняючы антыадаманін, вы хоць уяўляеце, на што замахваецеся? Вы замахваецеся на тое, без існавання чаго *наша цывілізацыя* распадзецца.

Дарэчы, ці не пра тое ж самае сказана ў напалову расшыфраваных плітках Лабуцькі? Як мы цяпер выразна бачым, гістарычная праўда стаіць за маёю, а не за вашымі спінамі...

Вось вам грубы, але затое яркі, выразны малюнак таго, да чаго прыводзіць альбо можа прывесці нязгода з маімі думкамі і пажаданнямі. Адзіная рэальная надзея, калі і ў далейшым вы, вучоныя мужы свету, не згодзіцеся са мною, чакаць вяртання касмічнага карабля з сузор'я Дзевы. Думаю, што інтуіцыя мяне і тут не падвядзе — іншапланецяне падкажуць нам выйсце з таго тупіка, у які вы, вучоныя мужы свету,

можаце завесці няшчаснае разгубленае чалавецтва. Хоць чакаць давядзецца не адзін годзік[1].

Ці дачакаюся я таго светлага шчаслівага для ўсяго чалавецтва дня? Як мне горка і крыўдна, што мяне не ўключылі ў экіпаж касмічнага карабля па стану здароўя!

Але вернемся да рэальнага зямнога жыцця...

Некалі я гаварыў вам, вучоныя мужы свету, што адаманы — вышэйшы розум, пажаданні і памкненні якога нам, слабым грэшным людзям, трэба выконваць. І калі вышэйшы розум жадае, каб чалавецтва жыло ў гарадах (на гэта ўказвае больш высокая канцэнтрацыя адаманаў у жыхароў буйных гарадоў), то нам трэба бяздумна як мага хутчэй выконваць волю вышэйшага розуму, а не змагацца з адаманамі — паўнамоцнымі прадстаўнікамі вышэйшага розуму[2].

...Так, я чэсны Леў Леўданскі, пакуль не магу сказаць, да якой мэты вядуць чалавецтва мудрыя загад-

---

[1] Верагодней за ўсё, як нам думаецца, тут паважаны Леў Леўданскі мае на ўвазе славуты парадокс блізнят, вядомы многім вучоным. Гэты парадокс выцякае з тэорыі адноснасці.

Згодна формулы: $\mathbf{t} = \dfrac{\mathbf{t}_0}{\sqrt{1 - \dfrac{\mathbf{v}^2}{\mathbf{c}^2}}}$

дзе $\mathbf{t}_0$ — час падарожжа касманаўтаў, $\mathbf{t}$ — час, які «ідзе» на Зямлі падчас падарожжа, $\mathbf{v}$ — хуткасць касмічнага карабля, а $\mathbf{c}$ — хуткасць святла, якая роўна 300 000 $\dfrac{\text{км}}{\text{сек}}$, вынікае, што касманаўты пры вялікай калясветлавой хуткасці могуць прабыць у падарожжы ўсяго некалькі год, хоць на Зямлі за гэты час пройдуць стагоддзі.

Бясспрэчна, што сум і шкадаванне Леўданскага маюць пад сабою грунтоўную падставу.

[2] Мабыць, тут Л. Леўданскі намякае на сусветна вядомы артыкул-гіпотэзу славутага астрафізіка У. Г. Шварлоўскага «Вітаю вас — кіберы!» Гэты артыкул у свой час выклікаў вялікія філасофскія спрэчкі. Вось што, напрыклад, пісаў Шварлоўскі ў сваім артыкуле (вытрымкі):

«Інтуітыўна чалавецтва ўвесь час імкнулася ды і імкнецца да развіцця навукі і тэхнікі. Да апошняга стагоддзя, пакуль чалавецтва не адкрыла думаючыя ЭВМ, агульны малюнак і агульная тэндэнцыя развіцця чалавечай дзейнасці былі даволі няясныя і мо пагэтаму так настойліва, але беспаспяхова людзі шукалі сэнс чалавечага быцця ў нечым другарадным. Для прыкладу можна прывесці наіўныя на сённяшні дзень пошукі ісціны і сэнсу быцця Л. Талстога,— ён,дарэчы, лічыў, што развіццё тэхнічнага прагрэсу шкодна для чалавецтва.

Сёння на прыкладзе развіцця многіх краін свету, Японіі, на-

кавыя адаманы, але ж і вы, вучоныя мужы свету, таксама не можаце катэгарычна сцвярджаць, да чаго прывядзе развіццё навукі і тэхнікі, да якіх нават вы самі, вучоныя, не ведаеце, як адносіцца: ці то баяцца, ці то пакланяцца ...

Я папярэджваў вас, вучоныя мужы свету, што адаманы будуць помсціць людзям за тое, што людзі пачнуць умешвацца ў іх самастойнае жыццё. Вы не паверылі мне. Таму цяпер нечага здзіўляцца, што заводы і фабрыкі пусцеюць, а гарады ў хуткім часе пачнуць зарастаць быльнікам.

Няўжо вы, вучоныя мужы свету, не разумееце, што без адаманаў мы не можам існаваць, без іх мудрага кіраўніцтва наша зямная цывілізацыя рассыпецца, як картачны домік пад парывам ветру?..

Пасля грунтоўнага роздуму я хачу сказаць не толькі вам, вучоным мужам свету, а і ўсяму чалавецтву большае: адаманы звязаны між сабою ў адзіны сусвет-

---

прыклад, мы ясна і выразна бачым, што нянавісць паміж народамі, жах чалавецтва перад загадкаю смерці — гэта ўсяго толькі каталізатары, тая зашыфраваная перфастужка, якая закладзена ў генетычнай праграме чалавека. Дзейнічаючы па гэтай праграме, чалавек, як і ўсё чалавецтва ў цэлым, жадае таго ці не жадае,— дарэчы, у гэтым і была асноўная памылка Талстога, што ён не разумеў гэтай жалезнай неабходнасці,— упрытык падышло да стварэння думаючых самастойных машын, якіх я называю кіберамі.

Яны — хоць гэта і будзе кагосьці шакіраваць — у рэшце рэшт заменяць, выцесняць людзей на Зямлі.

...Наконт замены чалавецтва кіберамі. Гэты працэс ужо адбываецца. Людзі апошняга стагоддзя ў асноўным гінуць не ад старасці, а ад выпадковых здарэнняў: вулічных катастроф, вытворчых траўм, аварый і інш. А беспрацоўе, якое дамоклавым мячом павісла над найбольш развітымі краінамі?.. А войны, дзе гаспадарыць тэхніка?.. Як вучоны, я хачу толькі сказаць, што нічога выпадковага ў свеце не бывае, любая выпадковасць — частковае праяўленне заканамернасці, якой мы пакуль не ведаем.

...Хачу падкрэсліць, што найдасканалейшыя заводы-аўтаматы, якія без удзелу людзей выпускаюць аўтаматызаваныя сістэмы і лініі,— усяго толькі пачатак дзейнасці кібераў. Мы пакуль не ведаем, дзеля чаго існуюць кіберы, якая праграма іх далейшага кібернага развіцця, але тое, што мы, чалавецтва, ствараем кібераў, што хутка і непазбежна дзейнасць чалавецтва закончыцца дзейнасцю кібераў — гэтага адмаўляць немагчыма.

...Калі мы можам пагадзіцца, што чалавек — біялагічны робат, то чаму мы не можам пагадзіцца з тым, што ў прыродзе можа быць аналаг чалавеку — робат металічны, магчымасці якога ў сотні і тысячы разоў большыя за чалавечыя?

...Жывыя клеткі чалавека ўжо цяпер шырока выкарыстоўваюцца ў канструкцыях ЭВМ, ужо цяпер мы не бачым прынцыповай розніцы паміж чалавекам і машынаю».

ны розум, які спецыфічным фізіка-біялагічным полем аплятае зямны шар. Мая навуковая канцэпцыя нечым нагадвае канцэпцыю акадэміка Гушчына В. В., у якой вучоны зыходзіць з існавання ў прыродзе форм-галаграм як для нежывых прадметаў, так і для жывых істот[1].

Я прыводжу вам фізіка-матэматычныя выкладкі, якімі я поўнасцю апісваю паводзіны чалавека. Спецыялісты ўбачаць, што ў свае формулы я ўвёў новы спецыяльны Х-параметр[2]...

Пры ўвядзенні Х-параметра, які я называю адзіным сусветным розумам, мае фізіка-матэматычныя выкладкі набываюць поўнае і канчатковае рашэнне. Уводзячы ў арганізм чалавека антыадаманін, мы лакальна парушаем велічыню напружанасці вектара Х-параметра[3]...

Вядома, што такое грубае скажэнне напружанасці вектара Х-параметра будзе тут жа адбівацца на канчатковым выніку рашэння фізіка-матэматычных выкладак. У канкрэтным выпадку гэта прыводзіць да бяссэнсіцы[4]...

---

[1] З канцэпцыі акадэміка Гушчына В. В. (вытрымкі):
«Пабудова Сусвету, як і прыроды ў цэлым, павінна ўключаць не толькі матэрыяльныя прадметы, якія маюць масу, не толькі палі, якія маюць энергетычныя характарыстыкі, але і інфармацыйныя структуры, якія маюць прынцыповыя асаблівасці.

...Форма — адна з фундаментальных складаючых прыроды. Пад ёю падразумяваюцца галаграмы, якія адпавядаюць пэўным абрысам прадмета і нясуць інфармацыю пра яго ўласцівасці. Форма-галаграма нежывога рэчыва мае інфармацыю толькі пра фізіка-хімічныя ўласцівасці. Думаючыя істоты, бясспрэчна, што і чалавек у тым ліку, утвараюць яшчэ і формы-галаграмы, якія адлюстроўваюць увесь акружаючы свет, а таксама вобразы, якія генерыруюцца іншымі людзьмі.

...Формы-галаграмы ўзаемадзейнічаюць паміж сабою і ўтвараюць інфармацыйнае поле Сусвету.

...Біялагічна актыўныя кропкі ў чалавеку, ісцінная роля якіх да сённяшняга дня не высветлена, ёсць частка скрытага механізма, які ўтварае форму-галаграму жывой істоты. Уздзейнічаючы на іх — іголкаўкалыванне,— можна ўздзейнічаць і на сам аб'ект.

...Адсюль вынікае, што жыццё было занесена на Зямлю не ў выглядзе малекулярных структур, а ў выглядзе інфармацыйных форм-галаграм, якія ўплывалі ў пэўным накірунку на эвалюцыю зямнога рэчыва».

[2] Улічваючы складанасць і спецыфічнасць выкладак, мы апускаем іх.

[3] Тут таксама складаныя фізіка-матэматычныя выкладкі.

[4] Зноў жа — фізіка-матэматычныя выкладкі...

Што мы і назіраем у жыцці. Як гавораць мае калегі ў навуковых колах — што і патрабавалася даказаць...

Мяркую і спадзяюся, што цяпер, пасля маіх доказных фізіка-матэматычных выкладак, прыслухаўшыся да майго чэснага палкага слова, сярод насельніцтва зямнога шара пачнецца Рух у Абарону Адаманаў (РАА). Нарэшце мы адкрыта павінны выступіць супроць вучоных, якія калісьці давялі чалавецтва да стварэння атамнай і вадароднай бомбаў, а цяпер яны мараць, каб мы адзічэлі каля берагоў рэк і азёр, азвярэлі ў глухіх непралазных лясах, задубелі ад холаду ў гарах ці ў той жа заснежанай далёкай тундры...

Я заклікаю цябе, чэснае мудрае чалавецтва, паўсюдна ствараць Камітэты Абароны Адаманаў (КАА), выступаць з дэманстрацыямі, з мітынгамі, а калі і гэта не дапаможа — рабіце забастоўкі супроць урада, які не думае прымаць захадаў у абарону адаманаў.

Вас, пісьменнікі, кампазітары, артысты, мастакі і ўсе іншыя творчыя работнікі, якія ва ўсе часы змагаліся за свабоду, я заклікаю ствараць новыя яркія мастацкія творы з мэтаю святой барацьбы за вольнае існаванне адаманаў. Няўжо ты, свабодалюбівая інтэлігенцыя, пакінеш у гэты складаны час сваіх братоў і сясцёр — адаманаў?..

Вас, навуковыя работнікі, я заклікаю прапагандаваць сярод простых людзей мае мудрыя адзіна правільныя формулы і гэтым самым даказваць шкоднасць антыадаманіну.

У любой форме ты, чэснае чалавецтва, павінна нарэшце адзінагалосна сказаць сваё грознае і рашучае **не** тым грамадскім дзеячам і тым вучоным, якія здзекуюцца ці плануюць здзекавацца з няшчасных бязвінных адаманаў!

*Леў Леўданскі*

Загудзеў свет. Ой як загудзеў!

У рамках дзейнасці Сусветнай Арганізацыі Аховы Жывёл (СААЖ) быў тут жа створаны арганізацыйны Падкамітэт Аховы Адаманаў (ПАА), які выступіў у сусветным друку са сваёй праграмнай заяваю.

## З ПРАГРАМНАЙ ЗАЯВЫ ПАА

*(вытрымкі)*

«Мы, ствараючы Падкамітэт Абароны Адаманаў, заклапочаныя варварскай дзейнасцю чалавецтва, якое не ведае межаў, заклікаем усіх людзей добрай волі да аб'яднаных дзеянняў, якія ў рэшце рэшт могуць ды і абавязаны спыніць здзекі з бедных няшчасных адаманаў. Як і ўсе жывыя істоты, адаманы маюць поўнае права на свабоднае існаванне ў нашым свабодным свеце.

Знішчыўшы многіх звяроў і птушак, атруціўшы сусветны акіян настолькі, што кіты касякамі шукаюць паратунку на берагах, чалавецтва падбіраецца і да знішчэння адаманаў — гэтых маленечкіх нявінных стварэнняў, якія, як многія вучоныя сцвярджаюць, з'яўляюцца асновай ўсяго жывога і разумнага на Зямлі. Чалавецтва павінна зразумець, што гэтымі дзеяннямі мы поўнасцю і канчаткова падпісваем сабе прысуд.

Рукі прэч ад адаманаў!

У барацьбе за вольнае жыццё адаманаў аб'яднаем свае рады!»

Загудзеў, загудзеў разумны белы свет! Як той вулей, калі па ім кулаком грукнеш...

З адпаведнай заявай выступіў прадстаўнік усемагутнай ТНК «Адаманіс». Вось што ён заявіў у інтэрв'ю сусветна вядомаму папулярнаму ілюстраванаму часопісу «Адаман»[1]:

«Мы не можам, не хочам ды і не маем права ўмешвацца ў эканамічнае, палітычнае ці маральна-этычнае жыццё асобных краін і народаў. Мы, «Адаманіс», абслугоўваем і гатовы абслугоўваць усе нацыі і народы: і чорных, і белых, і жоўтых... Мы абслугоўваем амаль што ўсё чалавецтва, забяспечваючы людзей

[1] Маючы мільярдныя прыбыткі, усемагутная ТНК «Адаманіс» пераключыла частку сваіх прыбыткаў на сферу масавай культуры. «Адаманіс» стварыла шмат асобных спецыялізаваных міжнародных канцэрнаў, якія займаліся выпускам кінафільмаў, атракцыёнаў, ігральных аўтаматаў, займальных ілюстраваных часопісаў, кніг, газет — усё гэта, як і розныя напіткі, стваралася з мэтаю прапаганды сусветна вядомай «Адаманіс», яшчэ болей падымала аўтарытэт вядомай этыкетачкі.

адзеннем, мэбляю, ігральнымі аўтаматамі, спартыўнымі таварамі, машынамі, тэлевізарамі, прыёмнікамі, камп'ютэрнай тэхнікаю — на сённяшні дзень амаль немагчыма знайсці чалавека, які б ні карыстаўся нашымі паслугамі. Адначасова мы, «Адаманіс», прыносім агромністую карысць чалавецтву: ствараючы новыя філіялы ў розных краінах свету, мы даём работу мільёнам беспрацоўных і гэтым хоць часткова, але здымаем праблему беспрацоўя ў многіх эканамічна слабаразвітых краінах. На сённяшні дзень мы можам заявіць, што ў сваіх лабараторыях нашы вучоныя — дарэчы, лепшыя вучоныя, сабраныя намі з усіх краін свету — ужо амаль стварылі штучную камбінаваную ежу (ШКЕ), якую ў недалёкім будучым мы выкінем на сусветны рынак па вельмі і вельмі таннай цане, і гэтым самаахвярным жэстам мы навечна здымаем з павесткі дня пакутлівае пытанне, якое дагэтуль не магло вырашыць чалавецтва і з-за якога ў свой час распачыналіся крывавыя войны. Падкрэсліваю яшчэ раз: мы, «Адаманіс», усімі сваімі намаганнямі робім чалавецтва шчаслівым і мяркуем рабіць гэта як мага найхутчэй, калі нам ніхто не ўздумае шкодзіць.

Але ў апошні час пайшлі чуткі, што некаторыя вучоныя, як і дзяржавы ў цэлым, спрабуюць уводзіць у арганізм людзей спецыфічную новую сываратку пад назваю антыадаманін. У выніку гэтага людзі пачынаюць рабіць незапланаваныя намі дзеянні: адмаўляюцца ад нашых паслуг — тавараў, моднага новага адзення і інш. Людзі гэтыя нават — падумаць жахліва, які нізкі ў іх становіцца культурны ўзровень! — не хочуць глядзець нашы займальныя тэлеперадачы, што трансліруюцца амаль што ва ўсе краіны свету цераз нашы спадарожнікі «Аманіс», людзі не хочуць глядзець нашы кінафільмы, не падпісваюцца на нашы кнігі і часопісы і нават — да чаго апусціліся! — пакідаюць абжытыя гарады і едуць немаведама куды.

Не спыняючыся доўга на маральна-этычных аспектах гэтых антычалавечых, антыгуманных акцый, якія даказваюць лішні раз, што ў некаторых краінах парушаюцца правы чалавека, я хачу аўтарытэтна заявіць, што ў той ці ў іншай меры гэтыя непрадуманыя, не ўзгодненыя з намі дзеянні падрываюць як аўтарытэт славутай маркі «Адаманіс», так і яе эканоміку.

На сённяшні дзень у свеце складваецца амаль

такая ж драматычная сітуацыя, якая некалі была створана ў сувязі з выпускамі таварaў-падробак. Зыходзячы з вышэйсказанага, мы ўпаўнаважаны заявіць:

1. Як даказваюць апошнія найноўшыя даследаванні медыкаў у нашых спецыялізаваных клініках і лабараторыях, рэзкае павелічэнне нервова-сасудзістых, ракавых і псіхічных захворванняў сярод насельніцтва найбольш эканамічна развітых краін звязана зусім не з адаманамі (гл. прылажэнне 1)[1].

Таму зараз нашы фармацэўты тэрмінова наладжваюць выпуск новага прэпарата адаманіну, які будзе спрыяць вяртанню людзей у гарады. На сусветны рынак, церпячы вялікія страты, мы тэрмінова выкідваем новае вельмі і вельмі смачнае, карыснае і таннае віно «Агдаман», якое, дарэчы, як і ўсе іншыя алкагольныя напіткі, вельмі спрыяе размнажэнню адаманаў. Ускосна, як мы бачым, прымяненне адаманіну і віна «Агдаман» будзе спрыяць рэзкаму павышэнню культурнага ўзроўню насельніцтва.

---

[1] З прылажэння 1 *(вытрымкі):*
«Сучасны стан медыцынскай навукі, нягледзячы на яўныя дасягненні, проста катастрафічны па той прычыне, што на сённяшні дзень мы не маем адзінай медыцынскай тэорыі, якая б поўнасцю тлумачыла як будову чалавека, так і ягоныя паводзіны. Найбольш перспектыўнай у гэтым плане выдзяляецца навуковая канцэпцыя знакамітага Л. Леўданскага. Тыя метады лячэння, якія сёння больш-менш паспяхова прымаюцца ў медыцыне (лякарствы, хірургія, псіхатэрапія, трансплантацыя і інш.), ні ў якім разе не пазбаўляюць людзей ад шматлікіх яшчэ болей жахлівых хвароб. Вобразна кажучы, лечачы ад адной хваробы, мы калечым людзей другой. Адна з такіх праяў сучаснага лячэння — алергія, якая прымае ўсё болей жахлівыя памеры.

З горыччу мы павінны канстатаваць, што да сённяшняга дня не ведаем першапрычын большасці захворванняў. Псіхічныя, біялагічныя, сацыяльныя — кожная з гэтых першапрычын можа стаць галоўнай пры дыягностыцы *любога* захворвання.

...Таму сёння асаблівую ўвагу павінны прыцягваць адаманы. Канечне, іх можна, як і іншыя вірусы, абвінаваціць у многіх сучасных захворваннях. Але з не меншаю катэгарычнасцю можна сцвярджаць, што адаманы, іх высокая канцэнтрацыя ў гарадскіх жыхароў — усяго толькі здаровы імунітэт чалавечага арганізма на існаванне ў новых умовах, якія рэзка адрозніваюцца ад умоў жыцця вясковага жыхара (шум машын, мігценне прадметаў і тварaў, інфармацыйная насычанасць, якая прыводзіць да стрэсавага стану і інш.).

...Лічым, што сучасныя хваробы выкліканы не існаваннем адаманаў, а шэрагам іншых прычын, якія патрабуюць далейшага вывучэння. Імі мы зараз занятыя, ствараем адаманін.

2. Мы катэгарычна патрабуем ад кіраўнікоў краін, з якімі заключаны дагаворы аб супрацоўніцтве, спыніць не толькі дзейнасць вучоных з антыадаманінам, але і прапаганду супроць адаманаў.

3. У дзесяцідзённы тэрмін кіраўнікі ўсіх краін свету без выключэння павінны прадставіць «Адаманісу» пісьмовую гарантыю аб спыненні дзейнасці вучоных з антыадаманінам. Лабараторыі і заводы па выпуску антыадаманіну павінны быць дэманціраваны.

Гарантуючы правы чалавека, краіны павінны спыніць прапаганду дзейнасці супраць адаманаў. Краіна, якая ў вышэйадзначаны тэрмін не дасць пісьмовай гарантыі, будзе падвергнута нашым санкцыям.

4. Як ужо заяўлена раней, нашы танкі «Ад» з лазернай наводкаю і крылатыя ракеты «Аманіс» заўсёды гатовы да абароны нашых вышэйшых інтарэсаў у любой кропцы зямнога шара. Наш авіяносец «Ада» гатовы адправіцца да берагоў любой краіны, якая ўступіць з намі ў канфлікт.

5. Пры невыкананні краінамі пунктаў 2, 3 нашай заявы мы ў любы дзень гатовы спыніць пастаўку тавараў ва ўсе краіны свету. Не ўдаючыся ў падрабязны разгляд таго, якое законнае абурэнне і хваляванне выклічуць нашы вымушаныя дзеянні сярод насельніцтва краін і асабліва моладзі, якая горача падхоплівае ўсе нашы новыя мерапрыемствы, можам усяго толькі паведаміць: нашы эканамісты падлічылі, што ў гэтым выпадку ствараецца сусветны эканамічны крызіс, які прывядзе да хаосу не толькі ў асобных краінах, а і да трэцяй сусветнай вайны, якая, бясспрэчна, заадно будзе і апошняй, бо ў ёй загіне ўсё чалавецтва. Выкладкі нашых эканамістаў прыводзяцца ў прылажэнні 2[1].

Загудзеў свет, ох і загудзеў!

У прэсу прасачылася інфармацыя пра існаванне ў свеце глыбока законспіраванай таемнай арганізацыі

---

[1] Улічваючы складанасць і спецыфічнасць эканамічных выкладак, мы вымушаны апусціць іх. Адзначым астранамічныя лічбы даўгоў многіх краін «Адаманісу». Як бачна з выкладак, эканоміка многіх краін не спраўляецца з выплатаю працэнтаў, якія «набягаюць» з пазык, займаў, даўгоў, крэдытаў. Гэта значыць, што ўжо цяпер «Адаманіс» фактычна кіруе многімі краінамі.

«А-83». Гэта няўлоўная магутная арганізацыя, як стала вядома са шматлікіх інфармацыйных паведамленняў, пранікла, і даволі грунтоўна, у розныя сферы дзейнасці многіх краін: эканамічнай, палітычнай, ваеннай... «А-83» мела сваю праграму дзейнасці, якую, дарэчы, у апошні час і не думала хаваць.

Як нядаўна паведаміў у сусветным друку карэспандэнт тэлеграфнага агенцтва Франс Прэс з Рыма, невядомы, назваўшы сябе паўнамоцным прадстаўніком «А-83», пасля чарговага выбуху бомбы на адной з вуліц Рыма пазваніў у аддзяленне Франс Прэс і, узяўшы на сябе адказнасць за гэты выбух, заадно зачытаў праграму дзейнасці сваёй арганізацыі. Вось што ён паведаміў:

«Нарэшце мы пачынаем выходзіць з глыбіняў невядомасці на паверхню рэальнага жыцця народаў і нацый. Нарэшце мы можам заявіць разгубленаму разбэшчанаму чалавецтву сваю праграму дзейнасці. Наша міжнародная арганізацыя «А-83» — адзіная рэальная сіла, якая можа ўтрымаць чалавецтва ад поўнага самазнішчэння. Мы нарэшце можам і не хаваць сваіх метадаў, якімі карысталіся да гэтага: тэрор, насілле, выбухі бомбаў, выкраданне і знішчэнне палітычных і грамадскіх дзеячаў, якія супрацьстаялі нам, нават войны між народамі — усё гэта наша дзейнасць. На недасведчаны позірк наша дзейнасць нясе хаос і разбурэнне, а сапраўды ў перспектыве мы думалі і думаем пра міжнародны парадак і спакой. Як тыя хірургі падчас аперацый прыносяць чалавеку часовы боль, гэтак жа і мы праз боль і жах прывучаем усё чалавецтва да думкі, што яго можа ўратаваць не так званая дэмакратыя, не дэмагагічнае пустое пляўзганне аб свабодзе, якой нідзе ніколі не было ды і быць не можа, не мітынгі, а ўсяго толькі — дыктатура сілы, грубай жорсткай сілы, тэрору... Толькі яны прывядуць чалавецтва да паслушэнства, да парадку і дысцыпліны, пра якія людзі даўно мараць.

Хутка мы пакажам вам новыя ідэалы, якія вам і не сніліся. Мы ўсіх людзей забяспечым работай і ежаю, і вы, ашчасліўленыя намі, пазбаўленыя агромністага пакутлівага клопату выбару, які ва ўсе часы разбураў, раз'ядаў як аднаго чалавека, так і ўсё чалавецтва ў цэлым, пачняце лёгка і бесклапотна жыць.

І толькі тады вы па-сапраўднаму зразумееце, толькі

тады вы па-сапраўднаму зможаце ацаніць наш шматвяковы тытанічны клопат пра вас, простыя людзі, калі вы час ад часу са здзіўленнем будзеце чуць і ўспамінаць пра сённяшнія выбухі бомбаў на вуліцах і на вакзалах, калі вы спакойна зможаце лётаць у самалётах, не баючыся тэрарыстаў, калі вы ўвогуле, як пра штосьці дзікае і незразумелае, будзеце ўспамінаць блытаныя дыскусіі пра свабоду, якія вядуць вас да тупіка лабірынта, з якога без нас вы ніколі не зможаце выкарабкацца.

Запомніце, хутка, вельмі хутка наступіць той дзень **X**, калі мы адкрыта, нікога не баючыся, зможам выйсці на вуліцы гарадоў і вы на свае вочы ўбачыце нас, сваіх збавіцеляў. Чакайце і рыхтуйцеся да таго дня!

Прыкладам, які натхняе нас у сваёй дзейнасці, з'яўляюцца адаманы — гэта нябачная загадкавая імперыя маленечкіх стварэнняў, якія прымушаюць як аднаго чалавека, так і ўсё чалавецтва рухацца, турбавацца, хваляваўцца, здабываць ежу штодзённай працаю. Гэтак жа робім і мы: як і нябачныя адаманы, мы прымушаем усё чалавецтва штодзённа, штохвілінна рухацца ў патрэбным нам накірунку».

Сусветная Арганізацыя Пошукаў Іншапланецян (САПІ) выступіла са сваёй заявай, якую тут жа перадрукавалі амаль што ўсе вядучыя агенцтвы свету. Вось што было ў той заяве:

«Наша мірная няўрадавая арганізацыя штогод расце як колькасна, так і якасна, што само па сабе сведчыць аб папулярнасці сярод простых людзей розных нацый і народаў нашых высакародных ідэй. Тыя членскія ўзносы, якія паступаюць у нашу касу ад шматлікіх аддзяленняў САПІ, размешчаных у розных краінах, разыходзяцца ў асноўным на стварэнне касмічных караблёў, на правядзенне макра- і мікрадаследаванняў у нашых спецыялізаваных інстытутах па пошуку іншапланецян, на правядзенне міжнародных канферэнцый і сімпозіумаў па абмене вопытам вывучэння верагоднасці існавання высокаразвітых цывілізацый як на Зямлі, так і за межамі Сонечнай сістэмы. Акрамя таго, мы расходуем грошы на многае іншае: выпуск нашых спецыялізаваных часопісаў, інфармацыйных бюлетэняў, фінансаванне пошукавых работ пры вывучэнні

загадкавых зямных з'яў, якія ў той ці ў іншай меры могуць быць звязаны з існаваннем іншапланецян: Бермудскага трохкутніка, Лахнескага феномена, снежнага чалавека і інш.

Уся наша мірная высакародная дзейнасць, як выразна бачым, набліжае да нас той дзень **X**, калі мы, нарэшце, можам ашчасліўіць разгубленае чалавецтва доўгачаканай заявою аб сустрэчы ці кантакце з высокаразвітаю незямной цывілізацыяй, якая падкажа нам выйсце з сённяшняга складанага, проста-такі трагічнага становішча, у якім мы, чалавецтва, апынуліся і выйсця з якога пакуль не бачым.

У сувязі з адкрыццём адаманаў, а таксама ў сувязі з апошнімі паведамленнямі пра медыцынскія эксперыменты з антыадаманінам, што прывяло, як цяпер стала зразумела, да рэзкага павышэння міжнароднай напружанасці, якая дасягнула крызіснага стану — авіяносец «Ада» ўжо выйшаў у адкрытыя прасторы Сусветнага акіяна,— мы вымушаны часткова рассакрэціць свае работы і гэтым хоць крыху зменшыць міжнародную напружанасць.

Заадно мы хочам доказна паказаць усяму свету той адзіны рэальны шлях, па якім у далейшым чалавецтва павінна ісці. Чалавецтва павінна зразумець, што далейшае яго шчасце — у супрацоўніцтве з САПІ. Толькі пад мудрым кіраўніцтвам САПІ чалавецтва можа стаць шчаслівым.

Так, адаманы і сапраўды існуюць, гэтага факта зараз ніхто не адмаўляе, як ніхто не можа адмовіць і таго факта, што адаманы па сваёй форме нагадваюць людзей. Але вучоныя, якія дагэтуль вывучалі адаманаў, ці то свядома ўтаілі ад чалавецтва — што, на нашу думку, вельмі верагодна, калі ўлічыць, якую б паніку выклікала такое паведамленне,— ці то сапраўды не заўважылі, што адаманы адрозніваюцца між сабою. Сярод іх ёсць мужчынскія і жаночыя тыпы. Як і ва ўсіх жывых істот, дарэчы. Цяпер, пасля нашага адкрыцця, становіцца зразумела, чаму размнажэнне адаманаў адбываецца толькі тады, калі ў ядро здаровай клеткі трапляе пара адаманаў — як мы высветлілі — адаман мужчына і адаман жанчына.

З гэтых новых, адкрытых намі ашаламляльных фактаў выцякае шэраг лагічных высноў.

Першае, што не падлягае ніякаму сумненню: па-

між адаманамі ёсць кантакт, ёсць сімпатыі і антыпатыі. Тое, што адаманы самастойна шукаюць у прасторы ядро клеткі, могуць арыентавацца ў патрэбным ім накірунку (нам, людзям, даволі цяжка ўявіць тыя мікраскапічныя адлегласці і маштабы, але для адаманаў жывая клетка і адлегласці паміж жывымі клеткамі — тое ж самае, што для людзей зямля і іншыя планеты...), а таксама той факт, што, забраўшыся ў ядро клеткі, адаманы па сваім жаданні і па сваёй праграме пераключаюць работу клеткі на рэпрадуцыраванне новых адаманаў (пра больш скрыты механізм размнажэння адаманаў мы пакуль не можам гаварыць па шэрагу прычын) — усё гэта сведчыць, што адаманы — высокаразвітыя жывыя істоты, якія маюць інтэлект.

Пра гэта ж самае сведчаць тыя навуковыя факты, што, як даказалі нашы вучоныя, адаманы адрозніваюць сябе ад іншых вірусаў і ніколі не кантактуюць з іншымі вірусамі. У нас маюцца навуковыя факты, якія сведчаць, што адаманы, заняўшы ядро клеткі, пачынаюць абараняць клетку ад нападу іншых вірусаў (!).

Другое, як сведчаць нашы апошнія дасягненні, адаманы ў чалавечым арганізме ствараюць адзіную арганізаваную сістэму, дзейнасць якой падпарадкоўваецца Адаманнаму Цэнтру (АЦ). Адаманны Цэнтр знаходзіцца ў кары галаўнога мозгу. Функцыі АЦ дваякія. З аднаго боку, АЦ накіроўвае і каардынуе дзейнасць адаманаў у арганізме. З другога боку, АЦ кожнага чалавека перадае сігналы ў прастору, якія дасягаюць АЦ, што знаходзяцца ў іншых людзях. Такім чынам, з дапамогаю АЦ адаманы ўсяго свету звязаны між сабою ў адзіную Адаманістую Цывілізацыю.

Сувязь паміж АЦ адбываецца з дапамогаю біяпсіхічных палёў, існаванне якіх адкрыта і даказана нашымі вучонымі. Так званае загадкавае біяполе, вакол якога ў апошні час вядзецца багата спрэчак і палкіх дыскусій,— усяго толькі знешняя праява біяпсіхічных палёў АЦ. Цяпер, пасля адкрыцця біяпсіхічных палёў, мы нарэшце маем магчымасць растлумачыць многія дагэтуль загадкавыя факты, якіх пакуль ніхто не мог растлумачыць, а калі хто і браўся тлумачыць, то разглядаў іх зусім няправільна.

У прыватнасці мы можам растлумачыць, чаму людзі так прагнуць збірацца ў агромністыя натоўпы, чаму, як грыбы пасля дажджу, на зямлі растуць гарады, чаму

пусцеюць вёскі — тут праяўляецца Эфект Натоўпу (ЭН). Рэальнае існаванне яго адкрыта і даказана нашымі вучонымі. Згодна ЭН напружанасць біяпсіхічнага поля кожнага чалавека ў натоўпе, у тым жа задымленым горадзе нашмат большая, чым напружанасць у звычайнай малалюднай мясцовасці. Павялічаная напружанасць біяпсіхічнага поля «ўцягвае» ў сябе іншыя АЦ, а значыць — і чалавека.

У сваю чаргу дзейнасць АЦ каардынуецца Вакол-зямным Адаманным Цэнтрам (ВАЦ), які агромністым біяпсіхічным полем аплятае зямны шар.

Намі дакладна ўстаноўлена, што пры набліжэнні смерці чалавека альбо пры іншай крызіснай сітуацыі для яго — цяжкае захворванне, трагічны выпадак — пры ўвядзенні ў арганізм чалавека таго ж антыадаманіну АЦ пацярпелага тут жа звязваецца з АЦ здаровага чалавека. Пасля шэрагу абменных сігналаў (пра што сведчаць гэтыя сігналы, мы, на жаль, пакуль гэту інфармацыю не можам рассакрэціць) па закрытым нябачным канале біяпсіхічнага поля ўсе да аднаго адаманы, як і АЦ у час агоніі чалавека альбо клінічнай смерці (пяць — дзесяць хвілін) перасяляюцца ў новае цела.

Найбольш простае, але затое яркае параўнанне, якое вобразна дэманструе перасяленне адаманаў — маланка падчас навальніцы, паяўленне таго вузкага высокатэмпературнага плазмавага канала, па якім электроны пераносяцца ад воблака да воблака на адлегласці да пяцідзесяці кіламетраў альбо ад воблака да той жа зямлі...

Тыя людзі, у цела якіх перасяляюцца адаманы, звычайна на першым часе адчуваюць трывогу, могуць бачыць так званыя прарочыя альбо вешчыя сны.

Мы вымушаны часткова рассакрэціць нашы фундаментальныя работы, каб паказаць усяму свету, што побач з намі, а не ў далёкіх касмічных прасторах, існуе высокаразвітая цывілізацыя, у кантакт з якой мы вось-вось увойдзем[1].

---

[1] Хочацца, каб думку нашу зразумелі правільна. Мы зусім не збіраемся сцвярджаць, што іншых форм цывілізацый няма і быць не можа. Наадварот, як нам думаецца і пра што сведчаць асобныя невытлумачальныя на сённяшні дзень факты, незямных цывілізацый безліч, яны ўсе звязаны між сабою ў адзіную складаную сістэму (тлумачальная зноска прадстаўніка САПІ).

Згодна з нашай далейшай праграмай даследаванняў мы плануем праз ВАЦ увайсці ў прамы кантакт з Галактычным Адаманным Цэнтрам (ГАЦ). Як мяркуюць нашы вучоныя даследчыкі, лятаючыя талеркі, якія час ад часу паяўляюцца ў зямной атмасферы і вакол якіх існуе шмат легенд і гісторый, гэта не што іншае, як кантрольныя праверачныя апараты Галактычнага Адаманнага Цэнтра, які найперш зацікаўлены не столькі ўзроўнем зямной цывілізацыі, як умовамі жыцця адаманаў, якасцю работы ВАЦ. Таму мы, людзі, не маглі дагэтуль ды і не можам у далейшым увайсці ў прамы кантакт з лятаючымі талеркамі. Для гэтага кантакту з ГАЦ у нас маецца іншы шлях.

На сённяшні дзень мы распачынаем будаўніцтва новых звышмагутных тэлескопаў і радыётэлескопаў, намі тэрмінова ствараюцца добраахвотныя экстрасенсорныя групы, якія могуць першымі ўвайсці ў прамы кантакт з адаманамі, а гэта значыць і з ВАЦ.

Пра тое, што мы стаім на правільным шляху, сведчаць нашы навуковыя і тэхнічныя поспехі. Ужо цяпер намі створаны генератарныя ўстаноўкі біяпсіхічных палёў, якія ўздзейнічаюць як на аднаго чалавека, так і на цэлыя групы людзей. Гэтыя генератарныя ўстаноўкі цудоўна замяняюць адманін — чалавек, які прайшоў апрацоўку на генератарнай установцы, робіцца паслухмяным, ціхім, лаяльным да начальства, у яго нават і думкі не ўзнікае, каб хоць на дзень уцячы з горада альбо кінуць даверaную яму работу...

Дарэчы, нашы генератарныя ўстаноўкі карыстаюцца вялікім попытам. Намі падпісаны вельмі і вельмі выгадны кантракт на пастаўку «Адаманісу» першых эксперыментальных партый генератарных установак. Гэты кантракт настолькі выгадны, што ім адным мы можам пакрываць нашы далейшыя расходы на чыста навуковыя фундаментальныя даследаванні, якія наблізяць чалавецтва да светлага шчаслівага дня.

З усяго вышэйсказанага вынікае наступнае:

1. Уздзеянне антыадаманіну на людзей не толькі беспаспяховае, але нават і шкоднае.

2. Лячэнне экстрасенсорамі, існаванне душы — не містыфікацыя, а ўсяго толькі рэальнае ўзаемадзеянне адаманаў і АЦ.

3. Увайшоўшы ў прамы кантакт з ВАЦ і ГАЦ, мы,

чалавецтва, ведаючы накірункі дзейнасці ГАЦ, ВАЦ і АЦ, зможам прадбачыць будучае і таму кінем рабіць розныя глупствы: войны між народамі, канфлікты рэгіянальныя... Мы нарэшце зажывём адзінаю дружнаю сям'ёю. Вечны мір і вечная радасць усталююцца на нашай шматпакутнай планеце. Таму далейшая дзейнасць усяго чалавецтва павінна быць кіруемай намі — гуманнай агульначалавечай арганізацыяй САПІ.

Уступайце ў рады САПІ!

4. Уздзеянне на адаманаў і на АЦ антыадаманінам, бясспрэчна, не пройдзе бясследна для чалавецтва. Сваімі непрадуманымі дзеяннямі некаторыя дзяржавы бяруць на сябе велізарнейшую адказнасць за лёс будучых пакаленняў, бо ўмешваюцца ў жыццё той высокаразвітай цывілізацыі, узровень якой нам невядомы.

ДА ВЕДАМА ЧЛЕНАЎ САПІ
І ЖАДАЮЧЫХ УСТУПІЦЬ У РАДЫ САПІ

У сувязі з падаражэннем сыравінных матэрыялаў на сусветным рынку (метал, газ, нафта і інш.), а таксама ў сувязі з тым, што з ростам маштабу навуковадаследных распрацовак і пашырэннем сферы нашай дзейнасці мы вымушаны павялічыць штат Цэнтральнага Бюро САПІ, паведамляем, што з першага месяца будучага года членскія ўзносы павялічваюцца ў два разы.

Выступілі з адпаведнымі заявамі і іншыя няўрадавыя арганізацыі. У прыватнасці славуты Лімскі клуб — міжнародная няўрадавая арганізацыя, якая займалася рашэннем актуальных праблем сучаснасці шляхам распрацоўкі новага накірунку ў іх вывучэнні, якое мае назву глабальнага мадэліравання,— прапанаваў свету даклад доктара А. Спаніолі «Праблемы перспектыўнага развіцця зямной цывілізацыі і адаманы».

Прымяняючы апошнія найноўшыя дасягненні ЭВМтэхнікі, А. Спаніолі доказна паказаў і даказаў, што калі чалавецтва і надалей будзе развівацца ў такім жа накірунку і такімі ж тэмпамі, як і дагэтуль, то яго чакае гібель па шэрагу незалежных аб'ектыўных прычын: эканамічных, экалагічных, дэмаграфічных, сацыяльнапалітычных...

У той жа час А. Спаніолі прамадэліраваў іншы варыянт развіцця зямной цывілізацыі, які звязаны з магчымым усеагульным прымяненнем антыадаманіну супроць адаманаў. Разлікі паказалі, што нічога светлага і радаснага чалавецтва не мела б: рэзка вырасце міжнародная напружанасць (дарэчы, што і назіралася). У сувязі з тым, што для адаманаў не існуе дзяржаўных граніц, нават пры прымяненні асобнай краінай антыадаманіну (пагалоўная прывіўка антыадаманіну), то ў гэтым выпадку рэзка вырасце канцэнтрацыя адаманаў у суседніх краінах, што, само сабой зразумела, выкліча рэзкія непланіруемыя вынікі, звязаныя са зменаю ў псіхіцы людской. Гэта азначае прамое парушэнне правоў чалавека, ніводная суседняя краіна, а тым болей усё чалавецтва не пацерпяць такіх варварскіх адносін да адаманаў — сусветныя канфлікты непазбежныя. А. Спаніолі пагадзіўся з вывадамі Л. Леўданскага наконт таго, што прымяненне антыадаманіну рэзка зменшыць эканамічны патэнцыял краіны, які ў асноўным дыктуецца развіццём гарадоў.

У сувязі з гэтым А. Спаніолі прапанаваў свой даволі арыгінальны варыянт далейшага развіцця чалавецтва. Не ўдаючыся ў падрабязны разгляд гэтага варыянта, які, адзначым усяго толькі, звязаны са шматлікімі складанымі формуламі, табліцамі і графікамі, можам сказаць, што варыянт Спаніолі ў асноўным заснаваны на камбінаваным прымяненні глабальнага аналізу і кантролю развіцця цывілізаванай дзейнасці чалавецтва як членамі Лімскага клуба, так і міжнародным ЭВМ-цэнтрам, што дапаможа аб'ектыўна і спакойна падысці да аналізу складаных міжнародных праблем і заадно дапаможа пазбегнуць глабальных катастрафічных канфліктаў, выкліканых чалавечымі эмацыянальнымі парывамі. Канечне, як і трэба было чакаць, такі падыход патрабаваў ад усіх краін адказу ад нацыянальнага суверэнітэту і паступовую перадачу ўлады членам Лімскага клуба.

Шмат, шмат было заяў і прапаноў... Выступалі ў сусветным друку як асобныя больш-менш вядомыя грамадзяне: вучоныя, публіцысты, літаратары, кінадзеячы, мастацтвазнаўцы,— так і цэлыя арганізацыі. Усіх і не пералічыш...

З новым пасланнем выступіў славуты тэолаг святой Рымскай каталіцкай царквы Іаан XXI. Пасланне яго мела такі загаловак: «Душа боская адпомсціць за сябе!»

З не менш сур'ёзнымі і не менш грунтоўнымі заявамі выступілі славуты Радж Сінг і Алі Махмуд III.

Калі ўжо ўспомнілі пра веруючых, то варта заадно адзначыць, што ў той складаны пераломны час за мяжою чамусьці як ніколі шмат з'явілася веруючых, розных прарокаў, варажбітоў і варажбітак, якія ўмелі прадказваць будучае як асобным грамадзянам, так і ўсяму чалавецтву.

Не горш знакамітага Лімскага клуба.

Варажылі, прадказвалі будучае, сыходзячы з розных дадзеных: па картах, па лініях на далонях рук, па сузор'ях, па фотаздымках. Жанчыны, забыўшыся пра дзяцей і сямейныя клопаты, з раніцы да цёмнага пілі каву, не забываючыся пераварочваць кубкі кожны раз — чакалі, пакуль застыне гушча, а затым варажылі як сабе, так і блізкім наконт новага кахання, казалі, што атрымлівалася няблага...

Наконт будучага лёсу ўсяго чалавецтва, як і трэба было меркаваць, думкі варажбітоў і варажбітак рэзка падзяліліся, адны прадказвалі хуткі і непазбежны канец свету, другія суцяшалі людзей,— маўляў, пажывём яшчэ трохі, а там — бог-бацька...

Новым сэнсам напоўнілася само слова адаман. І літары былі тыя ж, і вымаўлялася яно гэтак жа, як і раней, а вось сэнс быў ужо не той... Самі па сабе зніклі жартаўлівыя анекдоты пра адаманаў. Цяпер з гэтым словам у свядомасці людской асацыіравалася штосьці грознае і таемнае, непадуладнае чалавеку, што днём і ноччу за людзьмі сочыць, за іх памкненнямі і што ў любое імгненне можа ўмяшчацца ў лёс чалавечы... І часта, вельмі часта на гарадскіх вуліцах можна было пачуць: «Адкуль я ведаю, што ў свеце творыцца? Хочаш усё ведаць — спытай у адаманаў». Альбо і такое можна было пачуць: «Ціха, адаманы пачуюць»,— і гэта было як пароль які...

Сярод людзей як адукаваных, так і малаадукаваных, гуляла новае пракляцце, якога ўсе страшэнна баяліся: каб цябе адаман з'еў...

Многія простыя людзі, штодня чытаючы, слухаючы шматлікія заклікі то знішчаць, труціць адаманаў, то

іх абараняць, разгубіліся, махнулі на ўсё рукою і, перастаўшы верыць ва ўсё некалі святое і высокае, кінуліся-рынуліся ў п'янку і распусту. Жанчыны, лямантуючы пра роўнасць, свабоду і эмансіпацыю, курылі і пілі гарэлку нароўні з мужчынамі, і гэта тут жа сказалася на дзетках: многія з гэтых жанчын не маглі нарадзіць дзіцяці, а тыя, якія нарадзілі з горам папалам, не маглі іх карміць. Жанчыны ўвогуле чамусьці не любілі сваіх дзяцей, многія з іх, нарадзіўшы, пакідалі дзяцей на вуліцы, ля пад'ездаў, у радзільных дамах... Без матчынага малака, без бацькоўскай ласкі і любові вырастала злоснае слабае і хілае пакаленне. Сем'і хутка распадаліся. Паявілася шмат беспрытульных, нямытых, абарваных людзей, якія жылі і начавалі абы-дзе і якімі ніхто не цікавіўся. Сярод моладзі многіх краін стыхійна паявіўся новы лозунг:

*ПАСЛЯ НАС — ХОЦЬ АДАМАНЫ!*

Моладзь, якая змалку выхоўвалася на культуры ТНК «Адаманіс», якая вырасла на тых ідэалах «Адаманіса», на тым ладзе жыцця, які прапагандавала свету «Адаманіс», гэтая моладзь уцякала з сем'яў у пошуках абсалютнай свабоды. Яшчэ падлеткамі многія дзеці пакідалі бацькоў, школы, інстытуты, каледжы і сыходзілі куды вочы глядзелі... Некаторыя, пабадзяўшыся па свеце, пагаладаўшы, пакалеўшы, адным словам, паспытаўшы, пачым фунт ліха, вярталіся дамоў. Але большасць апускаліся, співаліся, прывыкалі да наркотыкаў, кідалі мыцца і галіцца, абарваныя, паміралі ад розных захворванняў, гінулі пад коламі машын, як тыя бяздомныя каты і сабакі, якіх у гарадах развялося процьма, дзякуючы актыўнай дзейнасці СААЖ.

Час ад часу на вуліцах вялікіх гарадоў, на цэнтральных плошчах тых гарадоў паяўляліся цэлыя натоўпы абарваных, зарослых доўгімі нямытымі валасамі людзей, якія ўсаджваліся ці ўкладваліся на зямлю, на асфальце і пачыналі займацца хто чым: цалаваліся-мілаваліся, распраналіся дагала, пляваліся, курылі наркотыкі, гледзячы на людзей бліскучымі позіркамі... У цэнтры натоўпу звычайна віднеўся агромністы сцяг альбо транспарант, на якім было выведзена:

*ПАСЛЯ НАС — ХОЦЬ АДАМАНЫ!*

Абараняючы правы свабоднага чалавека ў свабодным свеце, вакол натоўпу шчыльным колам стаялі паліцэйскія, нікога надта блізка не падпускаючы — каб выпадкова ніхто не пакрыўдзіў свабодных — так ва ўсім свеце называлі маладых людзей, якім усё было абыякава і якія былі аб'яднаны лозунгам: «Пасля нас — хоць адаманы!»

## З АПОШНІХ ЗАПІСАЎ ВАЛЕСКАГА

*«...Зімою бацька звычайна вятраўся дамоў на змярканні, а то і позна вечарам. Управіўшыся па гаспадарцы, ён стомлена распранаўся. Адубелы цвёрды кажух пах холадам, снегам і яшчэ тым блізкім пахам, які належаў толькі бацьку. Потым бацька садзіўся за стол бліжэй да лямпы і запісваў алоўкам у сшытку тое, што рабіў у калгасе: ці то капаў, ці то вазіў на конях, ці то складваў... Маці ў гэты час хадзіла ля печы, у якой патрэсквалі дровы, а на чарэні заўсёды было так цёпла і ўтульна.*

*І агонь лямпы на стале, і хата з белай печчу пасярэдзіне, і маці, і бацька — усё гэта злівалася ў маёй свядомасці ў штосьці суцэльнае, адкуль, здавалася, нічога нельга было адняць, і ўсё гэта, са сваім болем і сваёй радасцю, ляжала ў цэнтры Сусвету, у гэтай цішыні, якая адразу ж пачыналася за парогам у стылым марозным паветры. І чым далей ад двара, тым цішыня большала, як пад ваду ўсё тое далёкае і чужое апускалася: за агародамі, дзе пачыналася балота, за цёмным непралазным лесам, нават далёкае загадкавае Бярозава ляжала ў цішыні, як у ваце, і таму здавалася пакуль нерэальным, як казачныя сны, якія мне сніліся амаль кожную ноч. А тым болей у цішыні ляжалі застылыя на холадзе дрыготкія зоры, якія штовечар аплялі наш двор, нашу хату, дзе мы жывём, і гэта — як найвышэйшы доказ таго, что цэнтр Сусвету знаходзіўся не недзе там, за гарамі і лясамі ў трыдзевятым царстве, а тут, у нашым двары, у нашай хаце, дзе цяпер сядзіць за сталом стомлены бацька і агрубелаю рукою піша крывымі літарамі ў сшытку, што рабіў днём у калгасе; цэнтр Сусвету пачынаецца ад белай печы, у якой маці пячэ мне і бацьку дранікі; цэнтр Сусвету па-*

чынаецца ад палацяў з саламяным матрацам — у ім бацька абяцаў назаўтра замяніць салому, і тады гэтак добра і саладка будзе яго «ўбіваць»: са шчаслівым смехам бясконца качацца па агромністым распухлым матрацы.

...Як па тым пахучым сене, якое бацька нядаўна прывёз на санях у двор іываліў яго на бялюткі снег вялікай, не абысці, капою...

Дзе ўсё гэта?

...Я не пра бацьку і маці, тут ужо нічога не вернеш і нічога не паправіш, я пра іншае: пра цішыню і супакоенасць, якімі некалі была напоўнена душа, пра тыя пахі, якія цяпер зніклі, пах халоднага вечаровага паветра і сіняватага стылага хрусткага снегу, пах вясенняй адталай зямлі, па якой лёгка, самі па сабе, без ніякага намагання, нясуць босыя ногі, і тут жа побач, зусім іншы пах прыстылай асенняй зямлі, з якой людзі выбіраюць бульбу...

Куды дзелася тая яркая, ад чаго аж уваччу рэжа, зеляніна дрэў і яркая стракатасць лугу? Куды дзеўся глыбокі блакіт бяздоннага звабліваго неба, у якое чамусьці хочацца глядзець і глядзець? Куды дзелася пяшчотная прыгажосць дзявочага твару, далёкая і недасягальная, ад якой трапятала душа.

І няўжо нашы веды, наша мудрая тэхнізавана-урбанізаваная дзейнасць зводзіцца да таго, каб згубіць у сабе гэтае пачуццё прыгажосці і адзінства свету?

Я часта думаю пра заклапочанага Алешнікава, які, апроч работы ля звышновага мікраскопа, нічога не паспяваў бачыць і чуць: ні жонкі, ні сына, якія жылі самі па сабе, са сваімі клопатамі і турботамі, як жывуць многія жонкі і сыны вучоных; часта думаю пра лёс Лабуцькі — палыселага, заклапочанага раскопкамі настолькі, што нават не паспеў заўважыць, калі і як жонка закахалася ў рэжысёра-генія... Я пачынаю здагадвацца, што, акрамя навукі і тэхнікі, без якіх мы не можам абысціся, у нашым жыцці павінна прысутнічаць і яшчэ штосьці, пра што мы ніколі не павінны забываць.

Мабыць, мы памыляліся, але, як гаварыў Алешнікаў, другога разу на пошукі ў нас і быць не магло... Усё было амаль гэтак жа, як у незнаёмым глухім лесе, калі выб'ешся на развілку дарог, а ноч наперадзе і таму адзіны паратунак — ісці па адной дарозе, якая

*хоць куды, ды выведзе: да людзей, да цяпла і хаты ці недзе згубіцца, размыецца, упёршыся ў гнілое балота, як гэта часта бывае з ляснымі дарогамі.*

*Але так ці іначай, але гэта хадзьба — нашмат лепей, чым тптанне на месцы ў роздуме пасярод дарогі ці сядзець нерухома пад сасною.*

*Іншага выйсця ў нас і сапраўды не было, бо ноч няўмольна неадольна коціць...*

*Вечарэе. Мяккае сонца, што вісіць над Жыціўкаю, асвятляе ўсё наўкола бліскучым халаднавата-празрыстым святлом, ад якога ўсё вакол становіцца як роснае: і трава на лузе, і вяршыні сосен у лесе, і недалёкія кусты алешніку, і тыя ж далёкія-далёкія стрэхі жыціўскіх хат. І ўсё гэта цяпер — як і крык кнігаўкі, якая кідаецца ў блакіце з трывожным крыкам, як і цёмная стужка вады ў Жыціўцы, як і празрыстае чыстае блакітнае неба,— усё нечакана нагадвае мне тыя дні, калі шчаслівы сядзеў на гэтым жа беразе з вудачкаю, зробленай на скорую руку бацькам, і марыў злавіць загадкавую вялізную рыбіну...*

*Сонца заходзіць за лес, і таму мне пара падымацца і ісці назад па той дарозе, па якой ішоў сюды: міма могілак, дзе ёсць знаёмыя курганкі зямлі, міма будкі на беразе, па агародах. Толькі цяпер я ўспрымаю ўсё не так: і школа, і рачулка, і нават само Жыціва — усё гэта цяпер для мяне толькі намёк на штосьці, што мне трэба ці то знайсці, ці то зразумець...*

*Так баліць галава...*

*...Тое, што вывучаў дзень за днём, год за годам, увайшло ў мяне, і цяпер я не толькі ведаю, а і адчуваю, што я ўсяго толькі — восемдзесят працэнтаў вады, пяць літраў крыві, я — змясцілішча сэрца, лёгкіх, мышцаў, клетак... Я адчуваю, што я — хаваю ў сабе палі розныя: ядзерныя, малекулярныя, электрычныя, электрамагнітныя... Адчуваю, што я — змясцілішча прагледжаных фільмаў і спектакляў, прачытаных кніг і часопісаў, убачаных некалі людзей, пачутых прамоў, часта адных і тых жа, а часта і процілеглых, але і тыя і другія прамовы мяне зараз не кранаюць.*

*І яшчэ я — змясцілішча адаманаў.*

*І няўжо гэта — усё, няўжо ўва мне больш нічога няма?..*

*І калі гэта так, то куды і навошта мне зараз ісці? Для чаго, падкажыце, тыя прагледжаныя філь-*

мы і спектаклі, прачытаныя навуковыя кнігі і часопісы?..

Як ні зырuся на зялёную траву, на бор за рачулкаю, на далёкае Жыціва, як ні прыслухоўваюся да крыку кнігаўкі, я не магу ўвайсці ў жыціўскую запаволенасць і цішыню, у гэты спакой, у якім, як за надзейнай сцяною, схаваны той свет, у якім некалі я паявіўся і вырас і з якога сам жа па сваёй волі і ахвоце пайшоў...

Радзіму, як і маці, як і бацьку, не выбіраюць...

Гэта даецца нам наперад дзеля таго, каб мы зберaглі яе ў душы сваёй і перадалі дзецям сваім. І жорстка помсціцца здрада — холадам і адчаем поўніцца душа чалавека, які здраджвае Радзіме, дому, бацьку, маці...

Каму і што перадаў я?

У супярэчлівым агромністым свеце, шукаючы вінаватых, стараючыся знайсці апраўданне сваёй здрадзе, можна даказаць што заўгодна: існаванне адаманаў, слабасць чалавечую, ягоную смертнасць і нават нікчэмнасць. Мабыць, гэта лягчэй за ўсё — абвінаваціць сваіх малапісьменных, з чатырохкласнай адукацыяй бацькоў, якія моўчкі выпусцілі ў свет, так і не даўшы належнай адукацыі, так і не навучыўшы, як шукаць лягчэйшы хлеб, можна абвінаваціць ва ўсіх бедах глухое Жыціва, што схавалася сярод лясоў і балот у далечыні ад шумных гарадоў, нарэшце, можна нават абвінаваціць маленькую, рукою на карце закрыеш, Беларусь, даказваючы, што недзе ёсць больш магутныя і больш культурныя народы, дзе ўсё прыгажэйшае, смачнейшае і весялейшае...

Але ж не трэба забываць, што можна паказаць і даказаць сілу чалавека, ягоную прыгажосць і веліч. Кожнаму з нас рана ці позна, але даводзіцца выбіраць, за каго ён змагаецца, дзеля чаго паявіўся на гэтым свеце!

Мабыць, трагедыя мая, як і Алешнікава, як і Лабуцькі, што мы ўздумалі застацца збоку, мы спадзяваліся пражыць без выбару. Маўклівыя, заклапочаныя толькі сабою і сваімі асабістымі праблемамі, мы верылі, што Яе Вялікасць Навука — вышэй за ўсё, вышэй за чалавека.

Вышэй за чалавека...

Чалавек — не бог, ён можа быць слабым, яго можна прымусіць плакаць, яго нават можна ашукаць, даказваючы карысць і выгаду існавання адаманаў, але я веру,

*што калісьці ён кіне выклік усяму бруднаму і нікчэмнаму, што ляпіцца да яго.*

*...Бо чалавек кідае выклік нават самой смерці. Выйсце наша не ў тым, каб яшчэ з маленства адчуць і зразумець сваю абмежаванасць як у часе, так і ў прасторы, можа, уся дзейнасць адаманаў якраз і зводзіцца да таго, каб людзі ўвесь час, днём і ноччу, баяліся гэтай абмежаванасці, а ў тым, каб асмеліцца кінуць выклік гэтаму непазбежнаму, неадольнаму і змрочнаму, што ўвесь час насоўваецца на чалавека, пачынаючы з ягонага першага крыку».*

## Раздзел другі

## КРЫЗІС

У вядомым часопісе «Literature and life» выступіў Іў Мясцовы. Улічваючы, што выступленне Мясцовага мела вялікі водгук сярод розных людзей, змяшчаем гэтае выступленне.

### АДКРЫТЫ ЛІСТ
### ДЗЕЯЧАМ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

Рэальнае існаванне адаманаў, рост іх колькасці — усё гэта прымусіла ўсіх нас яшчэ і яшчэ раз задумацца над тымі праблемамі, над тымі пытаннямі, адказ на якія я хацеў бы найперш пачуць ад вас, дзеячы літаратуры і мастацтва.

У апошнія гады пасля адкрыцця адаманаў Валескім у свеце стала настолькі трывожна, што, здаецца, гэта трывога вітае ў паветры, кожны сумленны чалавек адчувае гэту трывогу і задумваецца, як ад яе пазбавіцца.

Я не збіраюся вінаваціць Валескага — не ягоная віна, што адаманы рэальна існуюць і атручваюць нашы душы,— я хачу ўсяго толькі сказаць, што мы цяпер павінны прыняць пэўныя захады ў барацьбе з адаманамі.

Але мы замест гэтага і без адаманаў пачалі сеяць сярод людзей тое блытанае, брыдкае і цьмянае, што з усіх бакоў пранікае ў народную свядомасць, назва чаму — адаманаўшчына. Лёгкасць і абыякавасць у адносінах паміж людзьмі, раўнадушнасць як да чужога,

так і да свайго жыцця, усёдазволенасць і разбэшчанасць, падзенне маралі, якое дружна апраўдваецца словамі пра новы час, пра новае мысленне, пра новыя адносіны, усё гэта — адаманаўшчына, тая нездаровая атмасфера, у якой так лёгка пладзіцца адаманам.

Вы, аўтары шматлікіх пухлых раманаў-эпапей, бясконцых нудных паэм, аўтары аповесцей і апавяданняў, вершаў і ўсяго таго шматлікага, што напісана не па закліку душы, а дзеля грошай і славы, якую канкрэтную карысць вы прыносіце майму народу? Ці дапамагае ваша творчасць простаму чалавеку зразумець, што зараз, калі на нас і ў наша жыццё з усіх магчымых і немагчымых шчылін палезла адаманаўшчына, ці дапамагае ваша творчасць зразумець, што цяпер, у гэты адказны час, выйсце наша ў еднасці людской, у вернасці здаровым народным традыцыям, у ашчаднай павазе с л о в а?..

Ці не прывучаеце вы шматслоўным словаблуддзем народ да такога ж словаблуддзя? Ці заўважаеце вы, што даўно ўжо навучыліся пісаць адно, а думаць — зусім пра іншае?

Няўжо вы думаеце ашукаць народ?..

Вы, гумарысты, парадысты, эпіграмісты, якіх развялося ў апошні час процьма, як мошак у сырасць, ці не прывучаеце вы мой народ сваім легкадумным дурнаватым гыгыканнем да легкадумнасці, да аплёўвання ўсяго святога, што захоўвалася ў народзе вякамі і што свята перадавалася з пакалення ў пакаленне: чэснасці, вернасці сказанаму слову, сціпласці, справядлівасці, любові да бацькоў, да бацькаўшчыны?..

На кожнай вуліцы як у святы, так і ў будні, раніцаю і позна вечарам, сярод белага дня і ноччу — заўсёды і ўсюды я чую ваша прыдуркаватае гы-гы, з-за якога людзям некалі падумаць пра сябе, пра свой лёс, пра тую ж вялікую загадку Быцця і Смерці... Чаму ніводны з вас так і не ўспомніць ні разу мудрае народнае: смех без прычыны — прызнак дурачыны?..

Вы, крытыкі і літаратуразнаўцы, што хваліце адзін аднаго і заадно ў маўклівай згодзе дружна хваліце бяздарнасць, ці не адвучваеце вы гэтым народ ад сапраўднага мастацтва?

Вы, кампазітары-песеннікі, што крадзяце адзін у аднаго мелодыі, перарабляеце правераныя вякамі народныя мелодыі на легкадумнае брэньканне аднатып-

ных матываў, з шумам і громам, да поўнага ачмурэння тлуміце вы моладзь, даводзіце да бяспамяцтва народ з-за грошай, з-за славы, з-за ўсяго таго дробнага, з-за чаго вы не толькі народныя мелодыі, а і бацькоў з бацькаўшчынай гатовы прадаць...

Вы, мастакі, што вы яшчэ ўмееце маляваць, акрамя ружова-зялёна-белай мазні, якую народ штодзень бачыць на вашых геніяльных выстаўках? Дзе жывыя людзі, куды падзелася з вашых выставак прыгажосць — тое, чаму ва ўсе вякі пакланялася сапраўднае мастацтва?

Вы, супергеніяльныя драматургі, кінарэжысёры, сцэнарысты, што вы яшчэ можаце паказаць майму народу, акрамя разбэшчанага інтэлігента, страляніны, забойстваў, адаманісаўскага гыгыкання, што называеце камедыямі з народнага жыцця, дзе галоўны герой — прыдуркаваты малапісьменны вясковец?..

Чаму такое адбываецца? Чаму вы гэтак робіце? Як мне думаецца, тут два адказы.

Альбо вы самі згубілі ісціну, тыя ідэалы народнага жыцця, у вернасць якіх даўно не верыце і таму, махнуўшы на ўсё рукою, вы з мастацтва зрабілі дойную карову, выдурваючыся адзін перад адным, зусім не думаючы і не клапоцячыся пра лёс народны.

Мастацтва дзеля мастацтва!

Вось ваш цяперашні лозунг, пра які ў адкрытую вы пакуль народу не гаворыце...

А можа, самае жахлівае, вы свядома так робіце? Калі вам удасца затлуміць людскія галовы, то вам, як і тым жа адаманам, будзе лягчэй пладзіцца ў здаровым народным целе...

І таму вас, чэсныя работнікі мастацтва, вас, літаратары, я заклікаю, пакуль не позна, дапамагчы свайму ж народу расправіцца з няпрошанай заразаю — адаманаўшчынаю. Думаю я, што выратаванне наша не ў навуцы, не ў тэхніцы і нават не ў новым лякарстве антыадаманіне, а ў нас саміх жа. У слове праўды, у простай натуральнай шчырай радасці паміж людзьмі, у выхаванні моладзі ў здаровых народных традыцыях, у любові да сваёй Радзімы і ў ашчаднай павазе тых людзей, якія жывуць за межамі тваёй Радзімы. Толькі ў гэтым, а не ў наркатычна грымучым адаманісаўскім тлуме наша збавене.

*Іў Мясцовы*

**А д р э д а к ц ы і.** **Бясспрэчна, мы не маглі ды і не маем права адмовіць вядомаму пісьменніку Мясцоваму ў магчымасці звярнуцца з адкрытым лістом да дзеячаў літаратуры і мастацтва.**

**Але гэтак жа мы не можам ды і не маем права адмовіць у магчымасці даць адказ Мясцоваму вядучых дзеячаў літаратуры і мастацтва.**

## АДКРЫТЫ ЛІСТ МЯСЦОВАМУ ЗАСЛУЖАНЫХ ДЗЕЯЧАЎ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

Не ўпершыню, як той Піліп з канапель, вы, Іў Мясцовы, выскокваеце ў сусветным друку са сваімі замшэлымі ідэямі народнасці. Дагэтуль мы ведалі вас як пісьменніка, які добра ўмее пісаць пра росы, косы і пакосы. Займаліся б вы гэтым і надалей, былі б у вас тады і грошы і слава... Але ў апошні час вы спрабуеце выходзіць на абсягі новай тэматыкі, звязанай з бурнаплынным сучасным жыццём. Прыхапіўшы з сабою старасвецкія дзедаўскія адносіны да жыцця, вы спрабуеце навесці парадак у нашым пафасна сучасным, касмічна тэхнакратычным свеце. Але з лапцем у космасе, як усім вядома, рабіць няма чаго. Гэтыя простыя думкі зразумелыя ўсім людзям добрай волі, акрамя, аказваецца, вас, Іў Мясцовы.

І вось вы, Мясцовы, убачыўшы свет не такім, якім бы вам хацелася бачыць,— усе мы добра памятаем тых камароў і тое балота, куды вы нас заклікалі ў сваіх ранейшых артыкулах,— пачынаеце ахайваць нашу светлую радасную сучаснасць, абвінавачваць нас, чэсных заслужаных дзеячаў літаратуры і мастацтва, у легкадумнасці, бяздумнасці і нават, да чаго даходзіць ваша абвінавачванне, у няграматнасці, непрафесіяналізме (парадокс: самі-то вы, Іў Мясцовы, з горам папалам закончылі вясковую дзесяцігодку, а ў кожнага з нас, ніжэйпадпісаных, за плячыма вышэйшая адукацыя, а ў некаторых дык і па дзве...). Вы нават — да чаго дакаціліся ў сваёй задубелай народнасці! — хочаце адвучыць людзей ад смеху і жартаў... Далей ужо, як гаворыцца, і гаварыць няма пра што.

Проста не верыш сваім вачам, калі чытаеш ваш адкрыты ліст. Проста жахліва чуць падобнае ў наш аду-

каваны век! Вы нават і не падумалі, што сваім лістом вы кладзеце цёмную брудную пляму на ўсю творчую інтэлігенцыю, якая днём і ноччу занята павышэннем культурнага ўзроўню народа.

Дарэчы, мы хочам сказаць некалькі слоў пра народ, з паняццем якога вы носіцеся з артыкула ў артыкул як з пісанай торбаю.

Некалі аблічча нацыі вызначаў селянін. А цяпер, калі большасць насельніцтва пражывае ў гарадах і штовечар каля тэлевізараў і радыёпрыёмнікаў, каля відэамагнітафонаў і стэрэанавушнікаў, праз кнігі і часопісы, праз нашы песні і танцы насельніцтва цікавіцца культураю, якую ствараем мы, ніжэйпадпісаныя, цяпер скажыце, Іў Мясцовы, каго лічыць народам, а каго — не народам? Хто, на вашу думку, мы, ніжэйпадпісаныя, прадстаўнікі народа ці іншапланецян, якіх вы чамусьці баіцеся як чорт ладану?

Таму мы, ніжэйпадпісаныя, ад імя ўсяго народа катэгарычна патрабуем ад вас, Мясцовы, не разводзіць паніку сярод насельніцтва. Бурнаплыннае прагрэсіўнае жыццё назад не павернеш. Людзям трэба штодня смяяцца і радавацца, і таму мы, ахвяруючы сваім часам і здароўем, задавальняем іх патрэбы, людзям хочацца ведаць таямніцы загадкавых з'яў, і мы расказваем, тлумачым гэтыя таямніцы, прыкоўваючы ўвагу да загадкавых адаманаў, ствараючы займальныя фільмы, спектаклі, пішучы новыя кнігі, малюючы новыя карціны, ствараючы новыя песні, сугучныя нашаму пафаснаму і радаснаму часу. І ўсім гэтым мы аб'ядноўваем насельніцтва.

Дарэчы, некалькі слоў пра адаманаў. Адкуль сыходзіць трывога і паніка сярод насельніцтва? Ці не ад вас, Іў Мясцовы, сыходзіць сусветны лямант, які трывожыць простых людзей? Няўжо вы не разумееце, што сваімі неаргументаванымі, зусім не доказнымі і непрадуманымі крыкамі і заклікамі вы парушаеце жыццё простых людзей? Адаманы і ўсё тое, што вы называеце адаманаўшчынаю, гэта і ёсць якраз тое новае, што ўваходзіла, уваходзіць і будзе ўваходзіць у жыццё кожнага пакалення. З веку ў век такое было і будзе. Як сведчаць гісторыкі, яшчэ ў першым стагоддзі да новай эры гэткія ж, як і вы, Мясцовы, крыкуны і панікёры лямантавалі, што моладзь — не тая, што свет вось-вось перавернецца. І што ж мы бачым — жыве свет, як і дагэтуль жыў.

Бясспрэчна, што ўсё новае, што ўваходзіць у наша жыццё, патрабуе новых чалавечых адносін, новага мыслення, новых ідэйных плыняў, новых адносін да жыцця і смерці ўвогуле...

Чаго ж тады панікаваць?.. Адкуль у вас, Мясцовы, гэты жах перад будучыняй? Думаецца, што адказ тут адзіны: вы, Мясцовы, адсталі ад рэальнага жыцця і, як гэта заўсёды вядзецца, пачалі шукаць прычыны сваёй неадукаванай адсталасці не ў самім сабе, а ў акружаючым асяроддзі, абвінавачваючы ўсё і ўсіх, і нас, нявінных, у тым ліку ў сваіх асабістых трагедыях, якія, дарэчы, мала каго цікавяць...

Не вы першы, не вы апошні.

І таму мы, чэсныя прадстаўнікі літаратуры і мастацтва, хочам адкрыта ў друку выказаць сваё справядлівае законнае грамадзянскае абурэнне вашай няправільнай ідэйнай пазіцыяй, якая наносіць вялікую шкоду грамадству.

Іў Мясцовы, спыніцеся, пакуль не позна!

*Э. М. Глабалёвы, Б. І. Рукаліцынскі,*
*В. Я. Мараходаў, У. М. Галілейскі,*
*У. Г. Шварлоўскі і інш., усяго 149 подпісаў.*

А жыццё ішло, ішло па сваіх пісаных ці няпісаных — не разбярэш адразу — законах...

Свет увачавідкі падзяляўся на дзве цывілізацыі, і ў адной з іх поўнасцю гаспадарыла ўсемагутная ТНК «Адаманіс». І нават тыя краіны, якія супрацьстаялі магутнаму разбуральнаму націску «Адаманіса» і прымянялі антыадаманін, нават і тыя краіны вымушаны былі як мага болей развіваць гарады, заводы і фабрыкі, каб з дапамогаю навукі і тэхнікі стварапь тое грознае і ўсёсакрушальнае, што магло хоць крыху спыніць націск «Адаманіса»...

Гарады раслі, раслі як ушыркі, так і ўвышкі... І ўсё вышэй падымаліся над гарадамі туманістыя атрутныя хмары, якія называліся смогам і якія не раставалі над гарадамі ні днём ні ноччу. Вольны вецер, які, як гэта ўсім вядома, не ведае ні дзяржаўных граніц, ні грамадскіх законаў, разносіў над усёй зямлёю гэтыя хмары, і ўсё часцей на людскія галовы, на азёры і рэкі, на палі і лясы сеяліся нудныя кіслотныя дажджы, атручваючы ў зямлі і ў вадзе ўсё жывое... Усё большай

нафтапрадуктоваю плёнкаю засцілалася мора, усё меней у морах і акіянах заставалася рыбы, а тая, якая плавала, была напаўатручанаю... Азонная дзірка над Антарктыдаю ўсё большала і большала. Усё меней заставалася на зямлі чыстых рэк і азёр, высыхалі лясы, усё часцей сярод лета сеяўся на зямлю белы халодны снег, а зімою грымеў гром, бліскала маланка і выпадалі дажджы.

На вуліцах вялізных гарадоў паявіліся маленечкія будкі-аўтаматы, у якіх за вялікія грошы можна было дыхаць чыстым кіслародам — з кожным годам кісларод станавіўся даражэйшы, і людзі ў апошні час палову дня працавалі толькі за тое, каб некалькі хвілін падыхаць чыстым кіслародам. Як і заўсёды, «Адаманіс» і на гэтай бядзе нажывала сабе капітал: узяла пад свой поўны кантроль выпуск будак-аўтаматаў па вытворчасці кіслароду...

Усё бляднейшым рабіліся людскія твары, без бальніцы і без хірургічных аперацый ужо ніводная жанчына не магла нарадзіць дзіцяці, дзяцей паўсюдна кармілі штучным малаком. Слабелі людзі. Акрамя СНІДа паявіліся новыя загадкавыя захворванні, і часта, вельмі часта на гарадскіх вуліцах альбо каля заводскіх станкоў нечакана паміралі знешне здаровыя людзі...

У тых краінах і ў тых гарадах, дзе панавала ўсемагутная «Адаманіс» людзі і сапраўды мяняліся, і невядома, чаму так адбывалася: ці то адаманы прымушалі людзей збірацца ў гарады, ці то самі людзі, збіраючыся ў гарадах, пладзілі ў сабе адаманаў і таму гэтак рэзка ў іх мянялася псіхіка.

І цяпер ужо, так атрымалася, ніхто надта людзей у гарады не запрашаў — людзі самі туды імкнуліся з усяе сілы, а калі ж каго гвалтоўна вывозілі з гарадоў, то гэтыя людзі адчувалі сябе надта кепска, холадам і адзінотаю поўніліся іх душы, і таму людзі тут жа імкнуліся назад, да гарадоў, дзе ў вечным шуме, гуле, мітусні, падчас адаманісаўскіх фільмаў і спектакляў, занятыя ігральнымі аўтаматамі альбо праслухоўваннем адаманісаўскіх мелодый у стэрэанавушніках, людзі забываліся пра сябе, пра сваю сутнасць, ім станавілася спакайней настолькі, што нават смерць блізкага чалавека, родзіча ўспрымалася як заканамерная падзея, якую трэба адзначыць чарговай выпіўкаю і казённымі словамі, якія ўжо нікога не кранали — людзі нават не

задумваліся, каму і дзеля чаго яны гаварылі ля труны нябожчыка...

Увогуле, людзі старанна хапаліся за ўсякія законы, якія адкрывалі вучоныя «Адаманіса». Гэтыя законы былі для людзей як апраўданне і супакаенне ад усяго на свеце. Яшчэ з маленства людзей прывучалі да таго, што ў прыродзе ёсць пэўныя заканамернасці, на якія чалавеку ніколі і ні ў якім разе нельга пасягаць, і таму, калі што кепскае ў чалавечым жыцці і здаралася, то людзі з гэтым мірыліся, не абураліся і не хваляваліся, яны звычайна гаварылі: «Ну, дык гэта ж закон прыроды, тут ужо нічога не папішаш». І таму жыццё чалавечае, ад нараджэння да смерці нечаканай — усё гэта для людзей было заканамерным, што ніякага здзіўлення, а тым болей хвалявання ці слёз не выклікала.

Штосьці новае паявілася ў душах людскіх, у адносінах між людзьмі: ці то холад нязвыклы, ці то абыякавасць... Кожны, над кім з маленства ўладарыла «Адаманіс», цяпер думаў толькі пра сябе, пра сваю асабістую радасць, якую мог атрымаць цяпер, сёння ж, і таму распадаліся сем'і, і брат ішоў на брата з-за кароткай радасці ці асалоды, якія, бы сабаку косці, час ад часу кідала няшчасным «Адаманіс»: як мага смачней з'есці, як мага болей убачыць ці пачуць...

Але тое, што людзі бачылі і чулі, яны ўжо не асэнсоўвалі, ім нават і часу на гэта не знаходзілася, і таму яны лёгка згаджаліся з тым, пра што гаварылі кіраўнікі «Адаманіса»: сёння маглі ўхапіцца за адну ідэю, а заўтра — за новую, процілеглую...

Чым болей людзі хапаліся за кароткую адаманісаўскую радасць, тым меней яны яе атрымлівалі.

### *ХОЦЬ ЯК — АБЫ ЖЫЦЬ!*

Гэты новы лозунг вісеў на многіх гарадскіх вуліцах, перадаваўся з вуснаў у вусны, ствараючы ў душах людскіх новую псіхалогію.

І хоць адчувалі людзі, што ў іх штодзённым жыцці хаваецца нейкае іншае нікому нябачнае жыццё — жыццё тых жа загадкавых адаманаў, у якое яшчэ можна было ўмяшацца, але нічога яны не рабілі. Праводзячы час у забавах, гульнях, дыскусіях, спрэчках, у грымуча наркатычным тлуме яны лічылі с в а ю  п р а ў д у, с в о й  п о з і р к  на адаманаў самымі найгалоўнейшымі.

## У АПОШНІ ЧАС, КАЛІ НАБІРАЎСЯ РУКАПІС

Тэлеграфнае агенцтва ЮПІ толькі што паведаміла:

Ёсць кантакт з адаманамі!!!

Як паведаміў нашаму агенцтву прадстаўнік САПІ, наладжаны прамы кантакт з адаманамі. Першыя расшыфраваныя сігналы ВАЦ (Ваколзямны Адаманны Цэнтр) сведчаць, што канцэнтрацыя адаманаў у некаторых гарадах дасягнула такога высокага ўзроўню, што далейшую адказнасць за лёс усяго чалавецтва ВАЦ можа ўзяць на сябе.

ВАЦ прыносіць удзячнасць «Адаманісу», а таксама іншым грамадзянам і арганізацыям (Л. Леўданаскаму, СААЖ, А-83, САПІ, КАА), якія спрыялі размнажэнню адаманаў і не прымянялі супроць антыадаманін.

Паўнамоцным прадстаўніком ВАЦ на Зямлі з гэтага часу з'яўляецца САПІ. Загады і распараджэнні САПІ з гэтага часу для ўсіх народаў і нацый абавязковыя. Далейшая праграма дзейнасці САПІ, як і ВАЦ, скіравана на барацьбу з тымі народамі і краінамі, якія пакуль прымяняюць супроць адаманаў антыадаманін і гэтым заадно не хочуць прызнаваць над сабою ўлады адаманаў.

САПІ, як і ВАЦ, аб'яўляюць апошні крыжовы паход за вольнае жыццё адаманаў.

## 1

І зноў, як і ўчора, як і пазаўчора, з самай раніцы ўздымаецца вецер, сухі і халодны, ад якога няма збавення. Як толькі на цёмна-блакітным небасхіле паказваецца маленькае чырвонае сонца, вецер набірае моц і пачынае несці пясок і пыл з далёкіх марсіянскіх пустынь. І самае жудаснае ў тым, што ведаеш — так будзе ўвесь дзень, да самага змяркання ў паветры будзе бела ад пяску і пылу і толькі вечарам, калі ў цёмным небе ўспыхнуць зоры і сярод іх паволі паплывуць вялікія выпуклыя Фобас і Дэймас, тады вецер памалу заціхне і мо таму на душы стане крыху лягчэй. Пазіраючы на зоры, сярод якіх маленькай пульсуючай свечкаю гарыць не згарае мая радзіма, я хоць на час забудуся пра нашы трагедыі, а ўсё болей і болей буду думаць пра гэтыя зоры, святло якіх ляціць да мяне гадамі і стагоддзямі. Як быццам я тады трапляю ў іншы свет, дзе другія паняцці часу і прасторы.

Але цяпер — раніца, цяпер я бачу белы пясок, якім затрамбоўваюцца, засыпаюцца вуліцы нашага горада. У маім пакоі холадна. Я раблю гэтыя запісы, калі зусім замярзаюць пальцы, хукаю на іх і заадно пазіраю ў акно, за якім бялее ўсё той жа пясок,— ён увесь час рухаецца, гайдаецца, быццам марская вада ад ветру, хваля за хваляю перасыпаецца з узгоркаў у лагчыны, засыпаючы некалі людны праспект, цяпер апусцелую без машын вуліцу, ствалы голых ліп і клёнаў, лісце на якіх даўно счарнела і скурчылася ад холаду — калісьці гэтыя дрэвы давалі нам свежае паветра і радавалі вочы густой зелянінаю.

Насупроць майго акна высіцца аграмадзіна Вялікага Камп'ютэра. У гэтай будыніне пабітыя вокны, выламаныя дзверы; пясок і пыл лятуць без перашкоды туды, у пакоі і залы, роўным слоем пакрываюць падлогу, бяс-

концыя бліскучыя кнопкі на пультах кіравання, пластмасавыя і металічныя шчыты з прыборамі, стрэлкі якіх ужо ніколі не паварушацца, мяккія крэслы-вяртушкі перад цьмянымі матавымі відэаэкранамі, што нагадваюць вочы каменных старажытных статуй... Усё, што дагэтуль здавалася вечным і непарушным, без чаго калонія не магла ўявіць свайго далейшага існавання, хаваецца пад халодным слоем пяску і пылу.

З учарашняга дня ў галаве маёй б'ецца адно і тое ж, адно і тое ж: «Усё мае пачатак, усё мае канец...» Неяк само па сабе яно паяўляецца ў мяне, і мо таму, каб найхутчэй пазбавіцца ад гэтых слоў, я сеў да пісьмовага стала надта і не задумваючыся, ці будуць калісьці глядзець чыесьці вочы на спісаныя мною літкі паперы.

## 2

З чаго ж пачалася наша гісторыя, якая так нагадвае трагедыю абшчыны Джуна?..

Так-так, я напамінаю тую жахлівую трагедыю, якая некалі перад нашым адлётам здарылася на Зямлі ў непралазных джунглях, дзе, як паведамілі сродкі масавай інфармацыі, больш тысячы чалавек абшчыны Джуна па невядомай прычыне самі сябе загубілі...

У той час калі ваўсю рыхтавалася наша марсіянская экспедыцыя, Джун аб'явіў сябе другім Хрыстом і, арганізаваўшы вакол сябе тысячу прыхільнікаў сваёй новай веры, павёў людзей у джунглі, дзе яны жылі да таго жудаснага дня, калі пачалося масавае самазабойства.

Хоць, як там усё было насапраўды, цяпер ужо няма каму сказаць, мо там было і не самазабойства, але мяне тады здзівіла іншае: у абшчыну Джуна пайшлі, адрокшыся ад выгод цывілізацыі, многія адукаваныя людзі, якія ў свой час скончылі інстытуты, каледжы.

З чаго ж пачалася наша трагедыя, якая развівалася па іншых законах і адбывалася не на Зямлі і не ў джунглях непралазных, а між тым фінал і ў той і ў нашай гісторыі аднолькавы?..

Думаецца мне цяпер, што пачалася яна не з таго ашаламляльнага даклада Мілера, які я пачуў на першай міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай праблемам стварэння штучнага розуму, не, усё пачалося раней,

калі яшчэ ні мяне, ні Мілера на свеце не было, мо нават з тых далёкіх часоў, калі наш продак упершыню здагадаўся, што рычаг і кола — тыя адкрыцці, скарыстаўшы якія можна панаваць над усім светам: і над сваімі бліжнімі, і над звярамі, і над птушкамі, і рэкі паварочваць, і горы вярнуць... Мо наш продак напачатку і не думаў пра сусветнае панаванне, проста ён, відаць, каціў-куляў па зямлі круглы камень ці тое ж бервяно варочаў з дапамогаю коліка і ўсё здзіўляўся: ты глядзі, як гэта нашмат лягчэй рабіць, чым у руках несці...

Мо з гэтага ўсё і пачалося, з гэтай першай здагадкі, а там, глядзіш, наш продак прыдумаў першую калымагу, у якую быў конь запрэжаны і на якой наш продак паехаў усё далей і далей ад пячоры свет белы аглядаць, усё гэтак жа, як і дасюль, здзіўляючыся сваім адкрыццям, і першую грозную гармату ён прыдумаў, што на ўсякі выпадак была прычэплена ззаду той калымагі, і — усё далей, далей па часе, як у ланцугу звенні, пакацілася-паехала аж да першай міжнароднай канферэнцыі па праблемах стварэння штучнага розуму, да таго славутага даклада Мілера, у якім ён паспрабаваў падсумаваць вынікі той доўгай шматвяковай язды-паездкі.

На жаль ці на шчасце, не ведаю цяпер, але некалі я, пачынаючы журналіст, трапіў на тую канферэнцыю, і таму ў мяне захавалася стэнаграма таго бурнага паседжання, на якім выступаў Мілер. Каб сваімі словамі не пераказваць усё тое, што адбывалася на канферэнцыі, я лепей прывяду тут урывак з той стэнаграмы.

## ПЕРШАЯ МІЖНАРОДНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ, ПРЫСВЕЧАНАЯ ПРАБЛЕМАМ СТВАРЭННЯ ШТУЧНАГА РОЗУМУ

*(стэнаграма)*

*Сакрэтна*
*Для службовага карыстання*

Старшыня пасяджэння:

— Калегі, пачынаем нашу канферэнцыю дакладам вядомага доктара навук Мілера. Яго мы добра ведаем як вучонага кібернетыка, у прыватнасці, ён спецыяліст па тэорыі інфарматыкі, тэорыі алгарытмаў, тэорыі распазнавання вобразаў — асноўных галін кібернетыкі.

Многія з ягоных прац даўно сталі класічнымі. Улічваючы важнасць сённяшняй канферэнцыі, доктар Мілер прапаноўвае нам наступную тэму:

*Штучны розум — прынцыпова новы этап развіцця чалавечай цывілізацыі.*

Выступленне Мілера:

— Адна з загадак развіцця чалавечай цывілізацыі зводзіцца да аднаго ключавога пытання, на якое да сённяшняга дня няма адназначнага адказу.

*Чаму, па якой прычыне чалавецтва ўступіла на тэхнакратычны шлях развіцця?*

Акрамя чалавецтва на нашай планеце існуе безліч гэткіх жа жывых істот, якія ў прынцыпе фізічна і біялагічна мала чым адрозніваюцца ад людзей, а дзе якія нават і пераўзыходзяць людзей, ды толькі чамусьці адзінае чалавецтва пайшло па тэхнакратычным шляху развіцця.

Калі ў мінулыя стагоддзі для тлумачэння выключнага становішча ў сусвеце як аднаго чалавека, так і ўсяго чалавецтва прымяняліся розныя рэлігійныя вучэнні: хрысціянства, іслам, будызм і іншыя; калі некалі ўсё жыццё чалавека было пранізана ідэяю боскага паходжання чалавека; калі некалі людзі апантана верылі ў існаванне душы і іншыя містычныя з'явы і праявы, то цяпер, у век прагрэсу, чым болей навука, медыцына вывучае чалавека, тым болей усё чалавецтва пераконваецца: прынцыпова чалавек нічым і ніяк не адрозніваецца ад іншых жывых істот, ад той жа ўсім вядомай малпы... Розніца калі і ёсць, дык толькі на ўзроўні генетычнага кода. Але ж гэты код для ўсіх жывых істот розны.

У прынцыпе, сэнс усіх мінулых і цяперашніх філасофскіх і рэлігійных трактатаў аб паходжанні чалавека разумнага зводзіцца да гэтага ж, пастаўленага мною вышэй пытання. Як толькі мы здолеем навукова і аргументавана адказаць на галоўнае пытанне, то, як вы самі разумееце, адразу ж знікнуць, адпадуць іншыя бясконцыя пытанні, якія, на жаль, на сённяшні дзень больш затуманьваюць, чым праясняюць гэту нявырашаную праблему. Больш таго: апантана занятыя філасофскімі і рэлігійнымі спрэчкамі аб паходжанні чалавека разумнага, мы ўмудрыліся не заўважыць, што ад-

каз на гэтае прынцыповае пытанне амаль гатовы і яго трэба ўсяго толькі сфармуляваць у кароткай і яснай форме.

Думаю, што адказ не фармулюецца таму, што ён многіх людзей не задавальняе і не можа задаволіць па шэрагу прычын, разглядаць якія няма сэнсу. Трэба ўлічваць нашы чалавечыя амбіцыі, нашы асабістыя жаданні і пажаданні, якія не могуць змірыцца з аб'ектыўнай рэальнасцю. Каб паясніць сваю думку, я скажу, што цяперашняя сітуацыя нагадвае сітуацыю, калі чалавек у душы не можа пагадзіцца з тым, што ён, як і іншыя жывыя істоты, памірае, што пасля смерці ад яго нічога не застаецца і таму чалавек абедзвюма хапаецца за розныя філасофскія і рэлігійныя вучэнні, якія цешаць яго хоць і пустой, затое салодкай ілюзіяй вечнага існавання.

Але гэта — асобная праблема, яе разгляд таксама не ўваходзіць у мае планы.

Дзеля таго каб больш доказна сфармуляваць адказ на вышэйпастаўленае пытанне, нам варта разгледзець некаторыя вынікі так званай цывілізаванай дзейнасці чалавецтва.

Задымленыя, затлумленыя электрамагнітным выпраменьваннем гарады, якія, бы грыбы пасля радыеактыўнага дажджу, усё гусцей і гусцей аплятаюць планету, забруджваючы грунтавыя воды і паветра настолькі, што ўсё жывое задыхаецца і атручваецца, і рост якіх мы ўжо не можам кантраляваць пры ўсіх намаганнях, бясконцыя міжнародныя канфлікты, з дапамогаю якіх дзяржавы наіўна цешаць сябе ілюзіяй вырашыць унутраныя праблемы і ў выніку чаго бескантрольна расце гонка ўзбраення. Зараз міжнародная напружанасць стала такой, што ў любое імгненне на планеце можа палыхнуць смяртэльны для ўсіх ядзерны пажар, бясконцыя эканамічныя крызісы, з якімі штогод ваююць асобныя дзяржавы і якія тут жа перакідваюцца на сусветную эканамічную сістэму, маральная дэградацыя чалавецтва, якая выяўляецца ў росце злачыннасці і наркаманіі, асабліва — сярод моладзі, нашага будучага, біялагічная і фізічная слабасць людзей з-за гіпадынаміі і адсутнасці натуральных прадуктаў — усё гэта сведчыць толькі пра тое, што мы, чалавецтва, падышлі да невядомага дагэтуль парога альбо мяжы, за якімі маячыць грозная бездань самазнішчэння.

Усе шматлікія палітычныя, эканамічныя, экалагічныя, дэмаграфічныя і іншыя меры, якія прымяняюцца для паляпшэння жыцця людзей як асобнымі дзяржавамі, так і міжнароднымі арганізацыямі, усё гэта нагадвае латанне дзіравага, даўно зношанага адзення, на якім і так ужо няма дзе ставіць латкі.

Якую б асобную сучасную праблему мы ні браліся разглядаць, мы бачым, што яе вырашэнне цесна звязана з комплексным вырашэннем усіх праблем. Яшчэ і яшчэ раз падкрэсліваю: чалавецтва стаіць ля бездані, у якую вось-вось рынецца, калі не пачне вырашаць свае праблемы з новага нетрадыцыйнага пункту гледжання.

Канечне, да пары да часу можна заплюшчваць вочы на складаныя праблемы сучаснасці, супакойваючы, суцяшаючы сябе салодкімі прываблівымі здабыткамі цывілізаванай тэхнакратычнай дзейнасці: машынамі, якія возяць нас узад-уперад, пад вадою і ў небе, бытавой тэхнікаю, якая прывучае нас да яшчэ большай бяздзейнасці, новымі сродкамі сувязі, якія ў адным катле перамешваюць культуры, нацыі і народы. Але, прааналізаваўшы цвяроза сучасную сітуацыю, вы змушаны будзеце згадзіцца, што ўсё гэта прыводзіць да паскарэння крызіснага стану як асобнага чалавека, так і ўсяго чалавецтва ў цэлым. Рост колькасці самагубстваў, душэўнахворых, змяншэнне нараджальнасці ў эканамічна развітых краінах — усё гэта яркі доказ маёй думкі.

Цяпер зірнём на тэхнакратычны шлях развіцця чалавецтва з іншага боку. Пазнанне чалавекам прыроды і самога сябе навуковымі метадамі, новая тэхніка і тэхналогія, якія ўсё больш актыўна ўваходзяць у жыццё наша, неадольна і непрыкметна мяняючы псіхалогію чалавецтва, усё гэта прывяло да таго, што людзі навукі, альбо, як нас называюць, тэхнакраты, пачалі займаць у жыцці чалавецтва галоўную ролю, зацьміўшы гуманітарыяў, якія ва ўсе часы насіліся як з пісанай торбаю з такімі паняццямі, як таемнасць чалавека, загадка ягонага нараджэння і смерці, бог, душа, грэх, сумленне, сорам... Цяпер гэтыя паняцці знікаюць, а дзе дык і зусім зніклі. Урэшце чалавецтва ўвяло новае паняцце інфарматыкі, якое чым далей, тым болей напаўняецца, як я сказаў бы, нейкім нават містычным сэнсам. Не буду тлумачыць вам, спецыялістам, што ўсё ў свеце можна перавесці на мову інфарматыкі: матэматыч-

ныя і фізічныя заканамернасці, эканоміку, нават чыста чалавечыя ўзаемаадносіны. Паяўленне кібернетычных машын і сістэм паставіла ў тупік некаторых філосафаў, дзе кібернетыка як навука была нават аб'яўлена па-за законам.

У чым тут справа?

Галоўнае пытанне, якое не маглі адназначна рашыць філосафы, было такое: у чым прынцыпова адрозніваецца мысленне кібернетычнай машыны ад мыслення чалавека? Гэтае ж пытанне можна паставіць інакш: ці не з'яўляецца чалавек усяго толькі складанай біялагічнай кібернетычнай машынаю?

Вы ўсе добра памятаеце той лямант, які наладзілі ў сусветным друку людзі, калі яны даведаліся пра нашы пытанні. Асаблівую шкоду нашай рабоце прынеслі так званыя гуманітарыі, якія ва ўсе часы скоса пазіралі на нашы распрацоўкі. У сусветным друку яны пачалі крычаць пра складаныя чалавечыя эмоцыі, пра творчасць, натхненне, адчуванне і прадчуванне, якія, маўляў, недаступныя рацыянальным халодным машынам. Сваёй самаадданай працаю мы, тэхнакраты,— заўважце, гэта слова я кажу з гонарам! — хутка заглушылі бязглузды лямант гуманітарыяў, паказаўшы і даказаўшы ўсяму свету, што эмоцыі людзей, іх творчасць, іх адчуванні і прадчуванні — усяго толькі больш-менш закадзіраваная інфармацыя. Мы стварылі кібернетычныя машыны, якія не толькі гуляюць у шахматы, а пішуць дасканалыя мастацкія творы, малююць карціны, ствараюць музыку.

Як бы там ні было, а пастаўленае раней гістарычнае пытанне застаецца без адказу. Паўтараю: ніхто да сённяшняга дня не можа сказаць, чым адрозніваецца мысленне чалавека ад мыслення кібернетычных машын.

Як вы, магчыма, заўважылі, у сваім дакладзе я не кранаю пытанняў рэлігіі, бога, іншых містычных з'яў прыроды, без якіх ніяк не могуць абысціся гуманітарыі, як вучоны я пакуль магу абыходзіцца без бога і без д'ябла *(апладысменты, смех у зале)*.

Між тым кібернетыка развіваецца па сваіх аб'ектыўных законах. Зараз намі створаны машыны, у якіх існуе вобразнае асацыятыўнае мысленне, ёсць машыны, якія самі ў сабе знаходзяць непаладкі і тут жа выпраўляюць іх з дапамогаю чалавека. Кібернетыка на-

столькі магутна ўвайшла ў жыццё чалавецтва, што на сённяшні дзень мы не можам без яе абыходзіцца. Збоі ў рабоце кібернетычных сістэм тут жа могуць выклікаць хаос у міжнародным маштабе. Кіраванне тэхналагічнымі працэсамі, эканомікаю, выбар найаптымальнейшых рашэнняў, задачы з розных галін навукі, тэхналогіі, бытавая тэхніка — усё гэта аддадзена камп'ютэрам. Чым далей, тым больш людзей занята абслугоўваннем камп'ютэраў.

Лічу, што ў наш крытычны пераломны гістарычны момант мы змушаны прызнаць той горкі факт, што стаім перад выбарам: альбо загінуць пад цяжарам недасканалых чалавечых пачуццяў, якія, як самі бачыце, прывялі чалавецтва да крызіснага стану, альбо аддаць кіраўніцтва ўсяго чалавецтва адзінаму электроннавылічальнаму цэнтру. Гэта значыць, мы павінны прызнаць над сабою ўладу штучнага розуму *(шум* у *зале).*

Так-так, калегі, дазвольце мне завяршыць сваю думку. Я сцвярджаю, што мы, чалавецтва, уступілі на тэхнакратычны шлях развіцця толькі дзеля таго, каб стварыць штучны розум, якому павінны падпарадкоўвацца. Рэальнасць у свеце такая, што сёння мы не можам рашыць той комплекс складаных задач, якія паўсталі перад намі. І ў гэты ж час у чалавецтва маецца выйсце, падкрэсліваю, адзінае — перадаць кіраванне ўсіх праблем: эканамічных, палітычных, дэмаграфічных, экалагічных, маральна-этычных — штучнаму розуму. Бо ўсе гэтыя працэсы і праблемы, не мне вам тлумачыць, можна перавесці на мову інфарматыкі. Машыны для апрацоўкі такой інфармацыі намі ўжо створаны.

Будзем да канца шчырымі, зірнём праўдзе ў вочы: калі мы давяраем штучнаму розуму кіраваць living рознымі тэхналагічнымі працэсамі, калі ў музейных залах гадзінамі разглядаем і любуемся карцінамі, напісанымі штучным розумам, калі слухаем музыку, створаную штучным розумам, то чаму, па якой прычыне мы адмаўляемся ад далейшага, што само па сабе лагічна напрошваецца?

Паўтараю свой асноўны вывад: задачаю чалавецтва з'яўляецца стварэнне штучнага розуму, які будзе кіраваць людзьмі.

Голас з залы:

— Які сэнс у гэтай гістарычнай замене, Мілер?

Мілер:

— Думаю, што сённяшні стан навукі і тэхнікі не дазваляе даць адказ на гэтае пытанне. Відаць, гэта адна з найвялікшых загадак космасу. Сягоння я магу толькі выказаць некаторыя свае меркаванні. Як вам добра вядома, жыццё на Зямлі скончыцца раней, чым патухне Сонца. Калі зірнуць на нашу планету з космасу, то можна ўбачыць, як услед за ёю цягнецца доўгі газавы шлейф. Увесь час Зямля губляе паветра, працэс гэты адбываецца вельмі хутка, ва ўсякім разе ён адбываецца нашмат хутчэй, чым працэс затухання Сонца. Па гэтай прычыне вакол Марса амаль што няма атмасферы. Можна меркаваць, што да таго часу, пакуль на Зямлі знікне атмасфера, чалавецтвам будзе створаны дасканалы штучны розум, якому, як самі разумееце, атмасфера не спатрэбіцца.

Голас з залы:

— Прызнаць над сабою ўладу машын — гэта вар'яцтва, Мілер... Гэта значыць, што вы заклікаеце нас добраахвотна ісці ў пастку, з якой ніколі не выберамся.

Мілер:

— Вось бачыце: нават вы, лепшыя прадстаўнікі тэхнакратыі, не хочаце ды і не жадаеце паверыць у тую рэальную сітуацыю, якую я вам паказваю чэсна і сумленна. А што тады мы можам патрабаваць ад простых людзей, ад тых жа гуманітарыяў?.. Паверце, яшчэ большым вар'яцтвам будзе, калі вы не прыслухаецеся да маіх лагічных высновадаў. Прапануйце мне што лепшае, і я тут жа, на вашых вачах, парву на шматкі свой даклад.

Голас з залы:

— Як вы мяркуеце, Мілер, якія задачы стаяць перад штучным розумам?

Мілер:

— Я не магу адказаць на гэтае пытанне. Зноў жа, пакуль што я магу ўсяго толькі выказаць сваю гіпотэзу. Магчыма, чалавецтва з'яўляецца адной з падсістэм нашмат большай складанай цывілізацыі, задачы і дзейнасць якой нам невядомыя. Пакуль перад намі пастаўлена бліжэйшая задача, якую цяпер мы выразна бачым: стварыць штучны розум. Як толькі мы створым штучны розум, наша задача будзе выканана, і мы ў такім разе...

Крык з залы:

— Што, загінем?

Мілер:

— Будзем глядзець праўдзе ў вочы: не выключана і такая магчымасць. На першым этапе мы проста пераходзім у падпарадкаванне штучнага розуму. Гэтак жа, як асобная жывая клетка,— а яна, як вядома са школы, з'яўляецца замкнутай жывой сістэмаю — выконвае пэўную функцыю і зусім не ведае ды і не можа ведаць пра задачы чалавека, а тым болей усяго чалавецтва, то і мы, смяротныя слабыя людзі, не можам ведаць, якія задачы вырашаюць вышэйшыя цывілізацыі і той жа штучны розум.

Голас чалавека, які раней выкрыкнуў: «Гэта вар'яцтва...»

— Ого-го, Мілер!.. Вам не здаецца, што вы замахваецеся на фундаментальнае парушэнне светапогляду ўсяго чалавецтва як на сваю прыроду, так і на ўвесь космас. Сказаўшы гучна *а*, вы прымушаеце ўсіх нас моўчкі думаць пра знакамітае *б*. Па-вашаму атрымліваецца, што мы — усяго толькі нейкія паддоследныя істоты, як тыя белыя мышы ў віварыі медыцынскага інстытута. Старая, даўно ўсім абрыдлая песня.

Мілер:

— Не. Вы няправільна мяне зразумелі. Мы выконваем пэўныя гістарычныя задачы і абавязкова выканаем. У космасе ніякіх доследаў няма і не праводзіцца. У космасе, як і на Зямлі, ёсць пэўныя заканамернасці, якія мы вывучаем, згодна з якімі мы жывём і якія нікому не дазволена парушаць. Калі чалавек не вольны ў сваім нараджэнні, то і ўсё чалавецтва не вольнае ў сваім паяўленні і развіцці.

Голас з залы:

— Чаму мы не асмельваемся аб'явіць вайну штучнаму розуму, пакуль не позна?

Мілер:

— Што значыць — аб'явіць вайну штучнаму розуму? З кім і за што вы збіраецеся ваяваць? Вы што, думаеце, людзі добраахвотна адракуцца ад таго, што даў і працягвае даваць ім штучны розум? У цяперашняй складанай і, падкрэсліваю, безвыходнай сітуацыі ён проста возьме ўсё чалавецтва пад сваю апеку.

Старшыня пасяджэння:

— Калегі, я бачу, што даклад доктара Мілера вы-

клікаў вашу зацікаўленасць. І ўсё ж, прашу вас: дайце яму магчымасць скончыць сваё выступленне. Калі ласка, Мілер, працягвайце.

Мілер:

— Як вы разумееце, маё выступленне варта засакрэціць. Калі ў вас, спецыялістаў-тэхнакратаў, узнікаюць сумненні ў правільнасці маіх высадаў, то ў простых людзей гэтых пакутлівых сумненняў будзе нашмат больш, могуць узнікаць непажаданыя эксцэсы, якія праявяцца ў розных тэрарыстычных актах супроць кібернетычных машын і сістэм, супроць нас, тэхнакратаў. Дарэчы, нешта падобнае ў гісторыі чалавецтва ўжо адбывалася, калі людзі пачыналі ламаць станкі і машыны. Таму свой даклад я закончу наступнай прапановаю.

Як вам вядома, зараз плануецца першая касмічная экспедыцыя. Дзесяць касмічных караблёў накіроўваем на Марс, дзе плануем заснаваць марсіянскую цывілізацыю. Прашу вас дазволіць штучнаму розуму ўзяць кіраўніцтва над жыццём калоніі. Дзеля таго каб у калоніі не ўзніклі непажаданыя эксцэсы, накшталт тэрарыстычных, прапаную будучых каланістаў набіраць толькі з ліку добраахвотнікаў, якіх загадзя трэба папярэдзіць пра будучыя ўмовы жыцця на Марсе.

Усё, я скончыў выступленне. Можаце задаваць пытанні *(у зале цішыня).*

## 3

Так, і пра гэта я сведчу цяпер: спачатку нехта адчайна запляскаў у далоні, адзін з тых людзей, якія кожны раз адчайна ляскаюць у далоні пасля любога даклада, а потым той нехта, здзіўлена азірнуўшыся, заціх, і ў вялізнай зале запанавала нязвыклая цішыня. Прысутныя зразумелі: ляскаць у далоні пасля даклада Мілера — прызнаваць над сабою ўладу штучнага розуму.

У перапынку ўдзельнікі канферэнцыі перайшлі з залы пасяджэнняў у фае Палаца кангрэсаў, дзе, разбіўшыся на групы, пачалі абмяркоўваць выступленне Мілера, хто жартам, а хто ўсур'ёз.

Калі б з такім дакладам, які зрабіў Мілер, выступіў які-небудзь невук-гуманітарый, то прысутныя верагодней за ўсё пасмейваліся б, але цяпер, калі з такой ад-

казнай заявау выступіў знакаміты Мілер, усе ўдзельнікі разумелі, што ягоная заява азначае новы пераломны этап у мысленні чалавецтва.

Канечне, як журналіст, а не матэматык і кібернетык, я не ведаў усіх тонкасцей праблемы, пра якую гучна гаварылі і спрачаліся між сабою вучоныя мужы, але тады мяне, дылетанта ад навукі, здзівіла, што вучоныя гаварылі пра штучны розум як пра штосьці рэальнае, якое можна ўбачыць і памацаць... Слухаючы іх спрэчкі, гледзячы на заклапочаныя твары, мне ні з таго ні з сяго ўявілася, колькі б пацешных жартаў, афарызмаў і проста анекдотаў паявілася б сярод маёй журналісцкай брацii, калі б ім давялося пачуць даклад Мілера.

Відаць, я не зусім ясна кажу пра тое, што думалася мне, калі хадзіў ад адной купкі вучоных да другой і сярод спецыфічных слоў і тэрмінаў спрабаваў улавіць той агульны настрой, тую атмасферу, якую заўсёды журналіст адчувае ў перапынках паміж пасяджэннямі, калі гэта атмасфера абыякавасці, калі — зацікаўленасці, а калі — разгубленасці...

На гэты раз абыякавых не было, усе вучоныя ці, дакладней будзе сказана, амаль што ўсе спрачаліся між сабою. На маіх вачах удзельнікі канферэнцыі дзяліліся на дзве варожыя партыі, адны былі — за Мілера, другія — супроць.

Да якой партыі адносіць сябе — гэтага я не ведаў... Я імкнуўся захаваць, як кажуць, поўны нейтралітэт. Адзінае, што я разумеў, штучны розум — гэта штосьці нашмат большае, чым асобныя кібернетычныя машыны і нават сістэмы машын, і яго, ва ўсякім разе, нельга ўбачыць...

Не ведаю, што там і як думалі вучоныя кібернетыкі пасля даклада Мілера, але для мяне паняцце штучнага розуму памалу напаўнялася незразумелым містычным сэнсам, балазе я ведаў: штучны розум створаны самім чалавекам. Розныя асацыяцыі прыходзілі да мяне, мне ўспаміналася знакамітая казка пра злога джына, які да пары да часу быў схаваны ў гліняным збане...

...Быццам бы гэты збан валяўся ва ўсіх пад нагамі і вось Мілер першым адкаркаваў яго.

Фае Палаца кангрэсаў было застаўлена столікамі, на якіх былі стравы і напіткі. Між столікаў прагульваўся і Мілер, на кароткія імгненні затрымліваючыся то ля адной, то ля другой кампаніі. Як я заўважыў,

у спрэчках Мілер не ўдзельнічаў, здавалася, што для яго галоўным было — распачаць новы сусветны лямант... У руцэ Мілер трымаў шклянку з таматным сокам, які час ад часу смакаваў. У свае пяцьдзесят Мілер выглядаў на трыццаць: спартыўная падцягнутая фігура Мілера нечым няўлоўным заўсёды і ўсюды прыкоўвала ўвагу людзей, нават калі Мілер яшчэ нічога не гаварыў, то ўжо тады ля яго тоўпілася некалькі разявак, якія чакалі ягоных трапных рэплік, афарызмаў, выказванняў.

Думаю, што ёсць людзі, якія ад нараджэння павінны быць лідэрамі, у гэтым, так сказаць, іх сэнс жыцця. У любой жыццёвай сітуацыі, дзе і кім бы ім ні даводзілася быць, сантэхнікамі ці міністрамі, але заўсёды і ўсюды ў душы яны — лідэры, і гэта лідэрства людзі неяк адчуваюць па позірках, жэстах, словах. А ёсць і другія людзі, лёс якіх — быць у духоўным падначаленні лідэраў. Дык вось гэтым я хачу сказаць, што Мілер належаў да лідэраў.

Продкі ягонага бацькі прыехалі ў Злучаныя Штаты з Еўропы ў ліку першых каланістаў. Хто яны былі па нацыянальнасці ніхто толкам не ведаў, адзінае, што мне ўдалося высветліць, калі зацікавіўся біяграфіяй Мілера, гэта той факт, што бабуля ягонага бацькі была француженкаю. Генеалагічная лінія маці яшчэ больш заблытаная; журналісты гаварылі, што яе продкі жылі на афрыканскім узбярэжжы. Яно, мабыць, так і было, бо скура ў Мілера была цёмная, валасы на галаве — кучаравыя, вусны адтатураныя і выпуклыя, а падчас гаворкі і спрэчкі Мілер адчайна размахваў рукамі, як гэта звычайна робяць людзі з поўдня...

Ва ўсякім разе дабіцца што канкрэтнага ад самога Мілера пра яго паходжанне нікому з журналістаў не ўдалося і мне таксама. Як помню, Мілер заўсёды, калі гаворка заходзіла пра радаслоўную, так гаварыў:

— Я — сын роду чалавечага, я — чыстакроўны амерыканец, адзін з тых чыстакроўных прадстаўнікоў свабоднай краіны, якая сабрала з усяго свету самых энергічных, самых прадпрымальных людзей. Хто некалі паехаў туды, на пусты кантынент? Людзі рамантыкі, людзі рызыкі, людзі справы — усе тыя адчаюгі, якія не пабаяліся кінуць звыклы ўклад жыцця, якія не задавальняліся кавалкам хлеба і дахам над галавою. І яны ўрэшце дабіліся свайго, змусілі ўсё чалавецтва паважаць і баяцца нас, амерыканцаў...

І сапраўды, Мілера было за што паважаць. Некалі, у пяцігадовым узросце, ён здзівіў бацькоў матэматычнымі здольнасцямі: без калькулятара і без паперы ён дзяліў і перамнажаў трох-чатырохзначныя лічбы. Пасля сямі гадоў Мілера забралі ад бацькоў у закрыты матэматычны цэнтр для асабліва здольных дзяцей. Там ён пражыў дзесяць гадоў. Што і як вывучаў у гэтым цэнтры Мілер — нікому невядома, вядома толькі, што з шаснаццаці гадоў ён пачаў здзіўляць свет навуковымі артыкуламі. Так, яшчэ ў першым артыкуле «Асновы кібернетыкі» Мілер вылучыў славуты пастулат, які ў далейшым быў падтрыманы многімі вучонымі. Вось ён, гэты пастулат Мілера: «Калі за глухой сцяною ад чалавека будзе знаходзіцца кібернетычная машына, якая зможа весці такі дыялог з чалавекам, што ён не здолее адрозніць, хто з ім размаўляе, чалавек альбо машына, гэта будзе значыць, што чалавек — кібернетычная сістэма...»

Фактычна з гэтага пастулата Мілера і пачалося развіццё кібернетыкі; намаганні многіх вучоных былі скіраваны на тое, каб стварыць такую кібернетычную машыну, якая б вяла дыялог з чалавекам на роўных...

Доўгі час пасля заканчэння матэматычнага цэнтра Мілер працаваў у закрытай вайсковай установе. Бясспрэчна, што мы ніколі не ўведаем, якімі праблемамі ён там займаўся. Там жа, у закрытай вайсковай установе, Мілер зрабіў шмат фундаментальных адкрыццяў, абараніў доктарскую. Аднойчы, калі журналісты надта ўжо прысталі да Мілера з пытаннямі наконт адказнасці вучонага за свае адкрыцці, ён так сказаў:

— Мне як вучонаму, які вывучае і спазнае аб'ектыўныя законы прыроды, што існуюць паміма волі і жаданняў людзей, нацый і народаў, мне зусім няважна, на чыю часовую карысць пойдуць мае адкрыцці. Я не вінаваты, што нарадзіўся тут, у Злучаных Штатах, і што гэта дзяржава аплачвае мае фундаментальныя даследаванні. Магу запэўніць вас у адзіным: седзячы ў рабочым кабінеце, займаючыся разлікамі, я нікога не забіваю ды і не магу забіць. Навука, як вам вядома, не належыць адной нацыі, адной дзяржаве, навуковы прагрэс — з'ява інтэрнацыянальная, адкрыцці вучоных належаць усяму чалавецтву. Адкрыццямі Ньютана, Кеплера, Ома, Эйнштэйна карыстаюцца ўсе людзі, усё чалавецтва...

Не буду каменціраваць гэтае інтэрв'ю, яго і без мяне шмат каменціравалі журналісты, адны — абвінавачвалі Мілера ў апалітычнасці, другія — у хітрай дэмагогіі...

Пра асабістае жыццё Мілера ўвесь час пладзілася шмат чутак і плётак, верагодных і неверагодных, мне іх пераказваць не варта, магу сказаць толькі, што ў свае пяцьдзесят Мілер быў адзінокі, дзяцей не было, і гэта яго не засмучала. Жанчын ён не пазбягаў, але і вялікай прывязанасці да іх не меў. Сярод блізкіх людзей Мілер часта гаварыў: «Самае дарагое для мяне — асабістая свабода, яе не прамяняю на салодкае сямейнае ярмо...»

Мілер меў уласную двухпавярховую вілу за горадам, тры легкавыя машыны і ўсё астатняе, што можа дазволіць сабе чалавек у нашым грамадстве матэрыяльна забяспечаны.

Жыццё Мілер вёў даволі аскетычнае: работа ў закрытых лабараторыях, дзелавыя сустрэчы, тэніс, паляванне, рыбалка, посныя дыеты — усё гэта ў Мілера было загадзя распісана, запланавана, і, самае дзіўнае для сучаснага чалавека, усё гэта акуратна выконвалася. Ніхто ніколі не бачыў Мілера п'яным. Найбольш ярка характарызавала Мілера мянушка, якую аднойчы прыляпілі журналісты: Машына... Мілер Машына...

Сапраўды, Мілер нечым нагадваў машыну, спраўную дакладную кібернетычную машыну, якая ў сваёй рабоце не ведае збояў і сумненняў.

Адным Мілер падабаўся сваёй дзелавітасцю, пунктуальнасцю, другіх нечым палохаў, аднак ніхто не заставаўся раўнадушны, калі чуў пра Мілера: «А-а, Мілер Машына!..» У гэтых словах магла быць і іронія, і павага, і нават зайздрасць — што заўгодна, ды толькі не абыякавасць.

У свой час мне таксама давялося ўзяць інтэрв'ю ў Мілера. Дарэчы, што здзіўляла многіх, гэта тое, што Мілер ніколі не рабіў таямніцы са свайго жыцця, са сваіх поглядаў на жыццё. Ён часта і ахвотна даваў шматлікія інтэрв'ю, разважаючы пра розныя праблемы, часта зусім процілеглыя. Напрыклад, у адным інтэрв'ю ён мог гадзінамі разважаць пра жаночую эмансіпацыю альбо сексуальную рэвалюцыю, праблемы якой горача абмяркоўваліся ў спецыфічных жаночых часопісах, а ў другім — пра навейшыя гіпотэзы і тэорыі касмагоніі...

Зноў жа, каб не траціць марна час, я прывяду сваё

інтэрв'ю, якое некалі абышло многія выданні. Адзінае, што цяпер зраблю — паспрабую пераказаць некаторыя з маіх тагачасных думак.

— Доктар Мілер, як вы адносіцеся да смерці?

— Да чыёй?

— Да смерці чалавека ўвогуле... Смерць любога чалавека, і мая, і ваша ў тым ліку — гэта нейкі парог, за якім адны людзі бачаць хаос, бездань, а другія — працяг жыцця, пабудаванага на невядомых нам законах. Што вы бачыце?

— Я пакуль нічога не бачу, малады чалавек... (О-о, я і цяпер бачу ягоную ўсмешачку! Хоць на той час я і быў пачынаючы журналіст, але ўжо тады я не раз адчуваў такія ж скептычныя ўхмылачкі, позіркі спецыялістаў, якія пачыналі разважаць пра ўсё на свеце, няважна, хто яны былі: вучоныя, медыкі, эканамісты,— але ўсмешачкі і позіркі ў іх былі адны і тыя ж...) Смерць ёсць смерць. Пакуль жывы, я магу разважаць пра яе. Толькі і ўсяго. Дарэчы, а чаму, малады чалавек, вас так турбуе гэтае пытанне? Ці вы, можа, плануеце абмінуць яе?

— Яно не толькі аднаго мяне хвалюе. Як мне вядома, гэтае пытанне хвалявала і хвалюе чалавецтва на працягу ўсёй гісторыі. Гэтае загадкавае нявырашанае пытанне давала натхненне літаратарам, мастакам, музыкантам.

— Вам можа падацца неверагодным, але я афіцыйна заяўляю, і вы гэта можаце запісаць: мяне загадка смерці не хвалюе.

— Значыць, калі не памыляюся, вы лічыце, што ўсе загадкі чалавечага быцця можна вывучыць і растлумачыць з дапамогаю фізічных і матэматычных законаў?

— Не зусім карэктна вамі сфармулявана пытанне, але ў прынцыпе я скажу: так... Я — дзіця свайго рацыянальнага веку. Як вучоны я лічу, што ўсё ў свеце заканамерна. І таму з дапамогаю фізічных і матэматычных законаў мы можам усё даследаваць і зрабіць адпаведнае заключэнне на любую з'яву.

— Значыць, як у свеце, так і ў самім чалавеку ніякіх таямніц няма?

— А вы лічыце, што яны ёсць? (Іезуіцкі метад пераадрасоўваць пытанне табе ж!.. Гэтым Мілер карыстаўся выдатна).

— Ва ўсякім разе мне думаецца, што чалавек іх адчувае. Каханне, нараджэнне чалавека, смерць — усё гэта таямніцы...

— Гледзячы для каго... Якая можа быць таямніца ў нараджэнні чалавека, калі ўжо цяпер мы можам гадаваць яго ў прабірцы альбо ў колбе? Ужо цяпер маці-донары выношваюць чужых дзяцей. Аперацыі па трансплантацыі органаў чалавека: сэрца аднаго чалавека б'ецца ў грудзях другога. Галава аднаго чалавека можа быць прышыта хірургамі да тулава другога... Вы не задумваліся, што ўсе таямніцы пад націскам адкрыццяў, зробленых намі, тэхнакратамі, даўно рухнулі?.. Чалавеку ўсё дазволена, ніхто над ім не ўладарыць. І таму ён, чалавек, можа рабіць усё, што захоча, што палічыць патрэбным, і таму ўсё ў свой час можна растлумачыць. І каханне. І смерць. Ды, урэшце, гэта намі і тлумачыцца.

Добра памятаю, што мне чамусьці стала боязна пасля гэтых слоў Мілера. Ён сядзеў перада мною ў сваім кабінеце за сталом, на сцяне за ягонай спіною вісеў вялікі партрэт Эйнштэйна, ён глядзеў на мяне так... як глядзяць на мёртвы камень. Я адчуваў сябе вінаватым, хоць у чым — не ведаў. Каб найхутчэй пазбавіцца ад гэтага няёмкага пачуцця, спытаў:

— Доктар Мілер, ці часта ў вас бывае пачуццё сумнення ці хоць бы разгубленасці пры сутыкненні з некаторымі праблемамі, якія вы яшчэ не вырашылі?

— Разумееце, малады чалавек, я жыву па тых законах, па якіх мне цікава жыць. Дапусцім, вам цікава ведаць, што з вамі здарыцца пасля смерці, у якую форму матэрыі вы ператворыцеся, у жывую альбо ў нежывую, і таму ў сваіх пакутлівых сумненнях вы праводзіце ўсё жыццё, так нічога толкам і не высветліўшы. Да аналагічнага пытання я падыходжу не з эмацыянальнага боку, а з чыста аналітычнага. Я займаюся аналізам гэтай праблемы гэтак жа, як бы я займаўся аналізам нявырашанай матэматычнай задачы. Эмоцыі тут не дапамагаюць, а, наадварот — усё заблытваюць да неверагоднасці... І паверце, пры такім падыходзе я атрымліваю асалоду.

— Як жа вы тады ацэньваеце чыста чалавечыя каштоўнасці, якія часта бываюць нелагічнымі: сумленне, сорам, самаахвярнасць... Часта чалавек ведае, што робіць глупства, і ўсё ж ён робіць гэтае глупства...

А колькі людзей па сваёй волі адраклося ад жыцця з-за няясных ім самім пачуццяў: кахання, нянавісці, любові да радзімы...

— Гэта — складанае пытанне. Коратка скажу, што адной з прычын крызіснага стану чалавецтва з'яўляецца тое, што мы, людзі планеты, у свой час не паспелі перастроіць светапогляд на сябе і на прыроду ў сувязі з новымі рацыянальнымі фізічнымі, матэматычнымі, тэхнічнымі адкрыццямі. Людзі да сённяшняга дня не могуць пазбавіцца ад старых маральнаэтычных каштоўнасцей, у аснове якіх ляжаць рэлігійныя містычныя вучэнні. Рэлігія знікла, яе месца ў жыцці людзей заняла навука. Але дзе хто яшчэ аберуч трымаецца за старыя рэлігійныя абрады і нерэальныя каштоўнасці.

— Прабачце, вы не маглі б удакладніць, якія?

— Магу прывесці прыклад. Чалавек памірае, і з ім усё памірае. Значыць, нам трэба рашуча адмовіцца ад звыклых абрадаў пахавання: прамоў ля труны, працэсій да могілак, помнікаў надмагільных — усё гэта лішняе, нікому не патрэбнае. Ці ўзяць бы тую ж любоў да радзімы. Якая розніца, дзе будзе жыць чалавек, абы яму было добра, цёпла і сытна... Дык жа не, трымаюцца некаторыя аберуч за свой парог. А чаму, навошта?.. Я прывёў вам толькі некалькі прыкладаў. Падумаўшы, вы самі можаце прывесці такіх жа прыкладаў безліч.

Разгублены і прыгнечаны выйшаў я з кабінета Мілера. Я разумеў, што Мілер і сапраўды дзіця нашага прагматычнага рацыянальнага веку, магчыма, нават — ён чалавек будучага, таго далёкага будучага, у якім, як сцвярджаюць некаторыя фантасты, людзі будуць жыць розумам, а не эмоцыямі, ды ўсё ж мне ніяк не верылася, што ў Мілера не засталося эмоцый, тых нелагічных, неразумных эмоцый, якія прымушалі малапісьменнага чалавека верыць у існаванне чарцей, бога, варажбу, ведзьмаў і ўсякую іншую нячыстую і чыстую сілу... І, паверце, калі я пачынаў думаць пра таго наіўнага малапісьменнага чалавека, які жыў у мінулых стагоддзях, ён быў для мяне больш сімпатычны, чым адукаваны Мілер...

Вось у чым загадка!

Нарэшце я ўпершыню сказаў гэтае слова. Мілер не выклікаў у мяне сімпатыі. Ён быў для мяне цікавы, загадкавы, жахлівы нават, але ён не быў мне сімпатычны.

Думаю, дакладней, мяркую, што па гэтай прычыне з ім не ўжылася ніводная жанчына. Жанчыны могуць жыць з мужчынамі пэўны час з-за грошай, з-за багацця, з-за выгоды, але ўсё жыццё жыць з чалавекам, які міжволі выклікае агіду і пратэст...

Хоць, можа, я і памыляюся, не ведаю... Некаторыя мае калегі сцвярджаюць, што цяпер паявіўся новы тып жанчын, асабліва ён пашыраны сярод тых жанчын, якія ўмеюць доўга-доўга разважаць пра роўнасць і жаночую эмансіпацыю. Логікаю сваіх перакананняў яны нічым не ўступаюць Мілеру. І не дзіва, што яны з лёгкасцю кідаюць бездапаможных дзяцей у раддамах, ля чужых пад'ездаў, у скверах і цудоўна жывуць гадамі з тымі людзьмі, якіх ненавідзяць. Ды гэта ўжо — асобная гаворка.

Калі коратка падсумаваць мае ўражанні пра Мілера, пра таго Мілера, якога ведаў да першай міжнароднай канферэнцыі па праблемах штучнага розуму, то можна сказаць наступнае:

а) Мілер як быў, так і застаўся загадкаю як для мяне, так і для іншых удзельнікаў канферэнцыі.

б) Мілера можна было баяцца, яго можна было не паважаць, але не прызнаваць у ім буйнога вучонага нельга было. І гэта, мабыць, было галоўным козырам Мілера, якраз тым важным аргументам, які прымусіў НАСА аддаць кіраўніцтва жыцця марсіянскай калоніяй штучнаму розуму.

Як і чакалася — а іначай і не магло быць — у лік каланістаў трапіў Мілер.

## 4

Сітуацыя ў нашай краіне была не з вясёлых, тут Мілер меў рацыю...

Катастрафічна хутка расло беспрацоўе, трывогу выклікала наркаманія сярод падлеткаў і моладзі, недавер і падазронасць да бліжняга адасаблівалі людзей, змушалі кожную сям'ю трымаць у кватэры зброю і сабак; вечная праблема бацькоў і дзяцей як была, так і засталася нявырашанаю, звычайна пасля дзесяцігадовага

ўзросту дзеці пачыналі збірацца сваімі кампаніямі, куды дарослым уваход быў забаронены, што і як рабілася ў гэтых кампаніях — мала хто з бацькоў ведаў, і як вынік усяго — пачыналіся маладзёжныя бунты, часта бессэнсоўныя і жорсткія. Пра гэта напаміналі штоночы скуголеннем паліцэйскія сірэны. Расла колькасць веруючых у розныя містычныя вучэнні. Усё гэта лавінаю навальвалася на людзей, і, чым мацней дыктары тэлебачання і кіраўнікі краіны лямантавалі аб прагрэсе, свабодзе, раўнапраўі, пагрозе з Усходу, тым мацней простыя людзі адчувалі трывогу і разгубленасць.

Што здарылася ў свеце?

Чаму і адкуль усё гэта так хутка навальвалася на нас?

Кожны грамадзянін краіны, як мог і ўмеў, тлумачыў сітуацыю. Эканамісты бачылі ўсе трагедыі ў разбалансаванні эканамічнага механізма, у сусветным эканамічным крызісе — калі яго не было? — палітыкі — ва ўзмацненні міжнароднай напружанасці, якая змушала ваенна-прамысловы комплекс адрываць ад простых людзей хлеб і адзенне, веруючыя — у адміранні рэлігіі, якая дагэтуль трымала народы і нацыі ў паслушэнстве і надавала зямному жыццю хоць які ды парадак і сэнс, а цяпер, маўляў, пачыналася боскае пакаранне... Шмат было тлумачэнняў нашага складанага становішча, як і шмат знаходзілася рэцэптаў выправіць ці хоць бы палепшыць наша становішча.

Як мне думалася, адна з галоўных прычын нашых бед, пра якую чамусьці не ўспаміналі ні эканамісты, ні палітыкі, ні дыктары тэлебачання, была ў тым, што ў людзей знікала радасць жыцця, тая радасць, без якой, відаць, чалавек ніяк не зможа вытрымаць крыж адзіноты, які змушаны несці ад маленства да старасці ў бязмежным халодным космасе, а тым болей яму цяжка, калі з усіх куткоў і закуткаў яму трубяць днём і ноччу: ты — пылінка, бяздумная пылінка ў бяздумным космасе, якая невядома навошта мітусіцца сярод гэткіх жа бяздумных пылінак... Мо пагэтаму людзі пачалі шукаць заспакаенне ад маркоты і будзённых клопатаў у віне, наркотыках, у бяздумных гульнях з бяздумнымі машынамі, жахлівымі відовішчамі, што сыпаліся на іх галовы з экранаў кіназалаў і тэлевізараў. Чым толькі не нашпігоўвалі людзей з дапамогаю тэхнічнага прагрэсу. І чым мацней і адчайней хапа-

ліся людзі за ўсё гэта знешняе, тым больш холад і сум закрадваўся ў іх душы.

Людзі працавалі ля станкоў, кульманаў і канвеераў, у канторах толькі дзеля таго, каб мець як мага болей грошай. Маючы грошы, можна было мець і асалоду. Бяздумная работа — грошы — асалода ад віна, наркотыкаў, машын, відовішчаў, ад якіх скура шэрхла... Аблытаны гэтым ланцугом, круціўся просты чалавек з раніцы да вечара, з маленства да старасці; здаецца, людзі ўжо забыліся, што некалі жылі нашмат прасцей, некалі яны маглі радавацца без грошай: і песні спявалі на цвярозую галаву, і скакалі, і гулялі ўзяўшыся за рукі... некалі ў жыцці людскім было ўсё так, як бывае ў маленстве, калі пра грошы чалавек не думае...

Ды маленства чалавецтва, відаць, скончылася з той пары, калі паявіліся грошы — гэты універсальны сродак замены чалавечай радасці... Відаць, тады ўсё і пачалося: адны старанна працавалі, каб зарабіць грошы, другія, больш здагадлівыя і пранырлівыя, прыдумалі для сябе тысячы сродкаў, каб, ашуканствам здабываючы грошы, атрымліваць радасць...

О-о, я таксама, як і многія нашы філосафы, магу гадзінамі разважаць пра ўсё незразумелае і заблытанае, што непрыкметна ўвайшло ў наша жыццё; як мне тады думалася, нейкім адзіным валявым рашэннем наладзіць, зрабіць шчаслівым жыццё людское было немагчыма.

Відаць, такая думка была не ў аднаго мяне, і таму ўдзельнікі першай міжнароднай канферэнцыі па праблемах штучнага розуму так уважліва слухалі Мілера.

Пад канец другога тысячагоддзя нашай эры сярод людзей настойліва пладзіліся чуткі і плёткі пра непазбежны канец свету, пра другое прышэсце на Зямлю Яго, Сына Божага... Сярод веруючых і няверуючых распаўсюджваліся лісткі з тэкстам «Апакаліпсіса». Кожны, хто чытаў тыя лісткі, як мог і як умеў, імкнуўся разабрацца і растлумачыць сэнс сказанага Апосталам Іаанам...

Розныя падзеі, што адбываліся як у нашай краіне, так і ва ўсім свеце: землятрусы, тайфуны, аварыі, катастрофы — усё гэта тут жа звязвалася з біблейскімі прароцтвамі.

І таму, канечне, калі ў гэты складаны час кіраўніцт-

вам НАСА быў аб'яўлены набор добраахвотнікаў для перасялення на Марс, то, як і варта было чакаць, іх аб'явілася безліч. Вялізная гнуткая чарга з раніцы да цямна змяілася перад уваходам у будыніну, дзе праводзіўся папярэдні адбор будучых каланістаў. Нішто не стрымлівала людзей: ні папярэджанне, што назад, на Зямлю, яны ніколі не вернуцца, ні далікатныя намёкі на будучыя цяжкасці, ні жорсткая ўмова, што будучым жыццём каланістаў будзе кіраваць штучны розум.

Як мне думаецца, большасць людзей ішло да канторы Вялікага Перасялення — так у народзе называлі будыніну, дзе праводзіўся адбор каланістаў,— з адзінай думкаю: усё добрае, што можна атрымаць ад жыцця, ужо атрымана, а там, на старасці, хоць на Марсе пажывём, глядзіш, можа, хоць там гэтага зямнога паскудства не будзе...

Канечне, ішлі да канторы і сумленныя людзі, якім, як кажуць, не пашэнціла ў жыцці і якім у далейшым не было чаго губляць. Але ж не трэба забываць і тое, што цягнуліся туды і розныя жулікі, зладзеі, прахіндзеі, у якіх меліся свае планы...

У той час, як мне думаецца, пра штучны розум людзі думалі меней за ўсё, ды і, калі разабрацца, так яно і павінна было быць: якая розніца простаму чалавеку, хто ім будзе кіраваць: прэзідэнт, парламент ці халодная машына...

Буду гаварыць сумленна,— а цяпер, калі белы марсіянскі пясок засыпае тоўстым халодным слоем вуліцы нашага горада, калі на адзіноце я спрабую асэнсаваць і пераказаць жыццё нашай калоніі, я ніяк не магу хлусіць, не маю на гэта ніякага права,— акрамя вышэйназваных прычын, што змушалі людзей пакідаць Зямлю, была і яшчэ адна прычына, пра якую, можа, падчас гутаркі з кіраўніцтвам НАСА ніхто і не ўпамінаў.

Што гэта за прычына?

Увогуле, як памятаю, мяне заўсёды трывожылі няясныя пачуцці і жаданні, пра якія ўслых між людзьмі не прынята гаварыць, бо, так атрымліваецца, што гэтыя няясныя пачуцці і жаданні часцей за ўсё адрываюць ад важнай справы. І я думаю, што, магчыма, толькі яны, гэтыя няясныя невытлумачальныя пачуцці і жаданні робяць адных людзей шчаслівучыкамі, а другіх пакутнікамі...

Давайце пастараемся ўспомніць, што, якая прычына

прымушала нас у раннім юнацтве пакідаць абжыты кут і ехаць альбо пехатою ісці ў далёкі свет, адных — у тыя задымленыя чужыя гарады, у якіх мала хто спазнае шчасце і радасці, другіх — у халодную заснежаную тундру ці тайгу непралазную, трэціх — да вялікіх акіянскіх караблёў, адно гудзенне якіх напаўняе душу трапяткой радасцю?..

Што гэта за прычына?..

І плачам пасля, і шкадуем нямоглых бацькоў, і гатовы каяцца штодня ў тым, што здрадзілі роднаму дому, і ўсё ж не вяртаемся, пакідаем родны парог, пакаленне за пакаленнем...

Што за прычына штурхае нас удалеч, у тыя нязведаныя прасторы, што хаваюцца за лініяй гарызонту?..

Не можам мы гэтага выказаць і растлумачыць. Відаць, гэта пачуццё закладзена ў чалавеку ад нараджэння: паглядзець, сваёй скураю адчуць і ўведаць: а што ж там, за далёкім лесам, за тымі белымі аблокамі, якія штодня кудысьці нясуцца над тваёй галавою...

Яно, гэтае незразумелае пачуццё, змушала людзей ісці шукаць край свету, і таму яны рабілі вялікія караблі і плылі на іх па морах і акіянах, прагнымі і здзіўленымі вачыма гледзячы наперад, адкуль смяртэльныя тайфуны неслі дзесяціметровыя цёмныя хвалі; людзі ішлі ў белыя пустыні, дзе паміралі ад спякоты і смагі; яны прабіраліся праз глухія лясы, тапіліся ў гразкіх балотах, замярзалі сярод белых ільдзін і снягоў — ніщто не магло іх спыніць, нішто не магло наталіць іх пачуцця...

І мо таму, калі паявілася рэальная магчымасць жыць на Марсе, на другой планеце, то можна толькі ўявіць, колькі думак, мар і жаданняў узнікла ў людзей. Як быццам гадамі і стагоддзямі ўсімі магчымымі і немагчымымі сродкамі падаграваўся інтарэс да чырвонай планеты, якая штоночы загараецца на небасхіле і чырванаватым святлом прыцягвае чалавечы позірк, змушае і рабочага і чыноўніка глядзець на далёкае святло і думаць пра штосьці загадкавае і неспазнанае, да чаго гэтак хочацца далучыцца.

...Як незразумела, чаму адным хочацца далучыцца да прыгажосці, а другім разбурыць, растаптаць яе...

Асаблівая цікавасць да Марса ўзнікла пасля таго, як астраномы разгледзелі на ім каналы, якія нагадвалі рэчышчы рэк. Існаванне на Марсе атмасферы,

пылавыя буры, розныя загадкавыя плямы, якія то ўзнікалі, то знікалі, белыя палярныя шапкі, памеры якіх мяняліся ў залежнасці ад пары года — усё гэта трывожыла людское ўяўленне. У шматлікіх фантастычных раманах, аповесцях пісалася пра марсіян, братоў па розуме,— ах, як усё гэта напаўняла жыццё чалавечае нецярплівым чаканнем цуду, які можа адбыцца ў любы міг.

Ішоў час, на Марсе пабывалі нашы першыя аўтаматычныя «Вікінгі», людзі ўжо дакладна ведалі склад атмасферы, яны ўбачылі фотаздымкі марсіянскай паверхні, але чамусьці так атрымлівалася, што інтарэс да Марса не падаў, наадварот, у навуковых і грамадскіх колах усё дружней пагаворвалі, што пад паверхняю Марса можа існаваць цэлая цывілізацыя... Трэба дадаць, што чуткі і плёткі пра энланаўтаў, гэтых загадкавых незямных істот, якія як быццам час ад часу паяўляліся то ў адным, то ў другім месцы, таксама падагравалі інтарэс да гэтай планеты, бо, спытаемся, дзе яны маглі жыць, як не на Марсе?..

Таму цяпер, калі быў аб'яўлены набор першых каланістаў на Марс, людзі апантана кінуліся да канторы Вялікага Перасялення; відаць, кожны, хто пакутаваў у чарзе перад уваходам у кантору, спадзяваўся праз нейкі час першым далучыцца да таго невядомага загадкавага ч а г о с ь ц і, да якога не мог далучыцца тут, на Зямлі, дзе ўжо даўно ўсё спазнана, затаптана, загаджана...

Я таксама, як цяпер, памятаю сваё першае хваляванне, якое абрынулася на мяне, калі ступіў у вестыбюль канторы Вялікага Перасялення. Невядома адкуль — ці то ад сцен, ці то са столі, ды ўвесь час на шматлікіх наведвальнікаў хваля за хваляю накочвалася незямная электрамузыка, якая кудысьці клікала, вяла... На сценах вестыбюля віселі таблічкі, на якіх было напісана, што музыка створана штучным розумам. Пасярод залы на вялікіх прадаўгаватых сталах ляжалі ў вазах і талерках прадукты: садавіна, гародніна, збожжа — усё гэта было вырашчана ў тых эксперыментальных цяпліцах, якія павінны быць і на Марсе. Там жа, на сталах, былі і стравы з прадуктаў. Хто хацеў, мог іх пакаштаваць. Як і многія, я таксама падышоў да стала і адламаў кавалачак белага пульхнага хлеба — хлеб быў смачны...

Усе сцены вестыбюля былі ўвешаны каляровымі фотаздымкамі, схемамі, дыяграмамі. Мяне ўразіў дзеючы макет Сонечнай сістэмы: вакол вялікага Сонца, што гарэла, пульсавала чырвона-белым ззяннем, плавалі невялічкія планеты і сярод іх быў ён, Марс... Тут жа, недалёка, быў макет Марса, выразна бачыліся каньёны, даліны, горы... Пад макетам Марса на табліцы былі прыведзены асноўныя характарыстыкі планеты:

*Марс (астранамічны знак ♂) планета, сярэдняя адлегласць ад Сонца 1,5 а. а., перыяд абарачэння 1,88 года, перыяд вярчэння 24,5 гадзіны, сярэдні дыяметр 6775 км, маса $6{,}4 \times 10^{43}$ кг; 2 натуральныя спадарожнікі — Фобас і Дэймас. Склад атмасферы: $CO_2$/75 % CO, $H_2O$; ціск на паверхні 5—7 мбар.*

Уражвалі макеты будучых пасяленняў. Напачатку гэта былі невялічкія асобныя купалы, пад якімі размяшчаліся касмічныя караблі. Як можна было зразумець па макетах, у перспектыве асобныя купалы накрываліся адзіным агромністым шклапластыкавым купалам. Трымацца гэты купал павінен звычайнай зямной атмасферай, якую выраблялі на заводах.

Усё разам: каляровыя фотаздымкі і макеты будучых пасяленняў, дзівосныя стравы на сталах, незямная музыка і, галоўнае, рэальная магчымасць здзейсніць мары маленства — усё гэта рабіла людзей сцішанымі і нават разгубленымі. Кожны, хто трапляў у вестыбюль, з зайздрасцю думаў: хаця б залічылі, хаця б залічылі...

Во, яшчэ пра адно не сказаў. У грамадстве марсіянскіх каланістаў не прымяняліся грошы, з-за якіх тут, на Зямлі, людзі працавалі ад цямна да цямна, пакутавалі, галадалі, недасыпалі, ішлі на забойствы... У жыцці каланістаў, як нам сказалі, усё было бясплатным: і ежа, і адзенне, і жыллём людзі забяспечваліся. Мо таму, калі ў вестыбюль канторы Вялікага Перасялення траплялі тыя гарапашнікі, якія дагэтуль недаядалі, недасыпалі, якія не мелі свайго прытулку, то можна ўявіць іх мары і памкненні.

Памалу, разам з другімі наведвальнікамі, здзіўлена азіраючыся, хадзіў я па вестыбюлі і ўсё болей упэўніваўся, што задума Мілера была вельмі прадуманай і спланаванай, і закрадвалася сумненне: а ці возьмуць мяне марсіянскім каланістам?..

Што ж прымусіла мяне пакінуць Зямлю?

З маленства я марыў пра журналістыку, верылася мне некалі, што журналіст — адзін з тых шчасліўчыкаў, якія могуць трапляць у розныя сітуацыі, мне думалася, што журналісты — тыя людзі, якія адным артыкулам звяргаюць у нябыт прайдзісветаў, а другіх сумленных грамадзян нацыі ўслаўляюць... Я верыў: без журналістаў, барацьбітоў за ісціну і свабоду, ніхто ў свеце не зможа навесці парадку. Колькі памятае сябе цывілізаванае чалавецтва, яны, летапісцы, хранікёры, журналісты вялі нястомную барацьбу за праўду, ісціну, справядлівасць.

І я стаў журналістам. Я працаваў у саліднай газеце, якая штодзень радавала чытачоў артыкуламі і навінамі. Штодзень на стол свайго шэфа я павінен быў класці свае абавязковыя сто пяцьдзесят радкоў, якія зрэдку траплялі на старонкі газеты, а часцей ляцелі ў карзіну.

Мінуў год работы ў газеце.

Вулічныя здарэнні, крадзяжы, забойствы, біржавыя спекуляцыі, растраты, аферы — усё, што на пачатку работы мяне надта хвалявала, непрыкметна пачало прыядацца, і я ўжо нічога дзіўнага і незвычайнага не бачыў у сваёй рабоце, як стары магільшчык, калі хавае нябожчыка. Тыдзень за тыднем, месяц за месяцам я пісаў заметкі і артыкулы. Чытачы прывыклі да майго імя, паявіліся ў мяне такія-сякія грошы. Але чым болей я пісаў, тым мацней адчуваў, што нічога не магу перайначыць. Я зразумеў, што заняты нейкай пустой, нікому не патрэбнай работаю, якая некалі павінна скончыцца.

Ва ўсякім разе для мяне.

І гэта работа скончылася ў той дзень, калі адчуў, што ўдзельнічаю ў хітрай гульні, прыдуманай дзеля таго, каб адурманьваць звычайных чытачоў. Як цяпер памятаю, гэта адкрылася мне пасля таго дня, калі закончыў пісаць рэпартаж пра чарговую кватэрную кражу з забойствам. Помню, я паставіў пад матэрыялам сваё прозвішча і нечакана падумаў: а навошта ўся гэта пісаніна?

Так, у нашым грамадстве ёсць злачынствы. Але, калі яны ёсць, то пры чым тут я, журналіст, пры чым тут газета і мільённыя чытачы?.. Чаму з гэтым злачынствам не змагаюцца тыя службы, якім трэба змагацца?..

Парваўшы на шматкі рэпартаж, я стаў думаць і разважаць пра тое, пра што дагэтуль і не задумваўся.

Для чаго існуе наша газета?..

Я здагадаўся ўпершыню, што газета — той фігавы лісток свабоды, якім багатым босам выгадна прыкрываць сваю бяздзейнасць, бездухоўнасць, ленасць — усе свае грахі. Няхай, няхай просты чалавек і чытач цешыцца чарговай інфармацыяй пра тое, як паліцыя злавіла жуліка, няхай цешыцца і гэтым ён, чытач, уверуе ў сумленнасць і справядлівасць і ніколі не здагадаецца падумаць пра тое, што той злодзей ахвяра яшчэ большага злодзея, які варочае лёсамі тысяч і мільёнаў людзей...

Ах, як гэта лоўка і выгадна рабілася з маёй дапамогаю!..

Тады, як зразумеў, што сваёй работаю я нічога не магу змяніць, мне стала сумна. Ад такой работы я моцна стаміўся. У свае дваццаць пяць гадоў я адчуваў сябе старым, спрацаваным чалавекам, якому ўсё даўно надакучыла і нічога не радуе.

Якраз у гэты час я зацікавіўся штучным розумам, ці — штучным інтэлектам, як гаварылі многія.

Пра ўсё далейшае — як трапіў на першую міжнародную канферэнцыю па праблемах штучнага розуму, як браў інтэрв'ю ў Мілера,— пра гэта, думаю, пісаць не варта. Адзінае, што магу паўтарыць: як і ў многіх каланістаў, у мяне было неадольнае жаданне пакінуць Зямлю, каб там, на далёкім Марсе, упэўніцца, што без грошай, з дапамогаю штучнага розуму можна жыць шчасліва і бесклапотна.

## 5

Дзесяць агромністых міжпланетных караблёў ужо больш года манціраваліся на калязямных арбітах. Штотыдзень з зямных касмадромаў стартавалі касмічныя «Чаўнакі» шматразовага карыстання, яны дастаўлялі на калязямныя арбіты ўсё новыя і новыя дэталі і канструкцыі караблёў: нясучыя платформы, да якіх мацаваліся магутныя атамныя рухавікі з агромністымі дзюзамі, блокі Вялікага Камп'ютэра, кабіны карабля, у якіх павінны былі жыць каланісты, зямлю для цяпліц і аранжарэй, мурашоў, пчол, замарожаных эмбрыёнаў жывёл, насенне дрэў і раслін, навуковыя прыборы, станкі і абсталяванне — чаго толькі не везлі...

На кожным караблі планавалася пасяліць сто кала-

ністаў; тысяча добраахвотнікаў навечна пакідала Зямлю — такога ў гісторыі чалавецтва яшчэ не было...

Як і чакалася, кожнага каланіста атакоўвалі днём і ноччу журналісты, рэпарцёры. Увесь час перад адпраўленнем на экранах тэлевізараў, у рэкламных роліках, у газетах — усюды можна было ўбачыць ці прачытаць пра каланістаў, якія, здавалася, толькі тым і займаліся, што давалі інтэрв'ю. Партрэты іх змяшчаліся ў аб'явах, на дарожных шчытах, на малочных пакетах.

Як і звычайна ў нашай краіне, на гэтым падарожжы хто як мог нажывалі грошы.

Грошы, праклятыя грошы, якіх вечна людзям не хапае і з-за якіх яны гатовы не толькі Зямлю пакінуць!..

Купляйце кашулі, якія будуць насіць першыя марсіянскія каланісты!

Нашы лёгкія бязважкія чаравікі абулі марсіянскія каланісты. Няўжо вы ад іх адмовіцеся?!

Вы не карыстаецеся зубной пастаю «Марсіянскі каланіст»? Паспрабуйце, і вы адчуеце касмічную радасць.

Пазіраючы на вясёлых і нейкіх трохі разгубленых каланістаў, мне часта рабілася маркотна. За шматлікімі інтэрв'ю, за ўсёй крыклівай рэкламнай мітуснёю ў сувязі з падарожжам, я адчуваў штосьці нядобрае. Чаму так было? Мабыць, таму, што людзі ведалі: каланісты пакідаюць Зямлю навечна...

Каланісты заставаліся жыць, але з жыцця зямнога яны сыходзілі як на той свет, адкуль ніхто не вяртаўся, не вяртаецца і не можа вярнуцца. Ва ўсёй задуме Мілера было штосьці нядобрае, час ад часу ў мяне з'яўлялася пачуццё, ад якога не мог пазбавіцца. Чамусьці ў тыя апошнія дні я часта думаў пра камікадзе — і ў нашым жыцці, як і ў жыцці камікадзе, было штосьці жахлівае...

Прызнаюся чэсна: я таксама ў тыя дні быў разгублены. Цяпер, калі ўсё было пройдзена, калі ўсё засталося ў мінулым: і падпісанне дагавора, і апошняя гутарка з Мілерам, калі былі запоўнены шматлікія анкеты і медыцынскія даведкі, цяпер я не ведаў: шкадаваць ці радавацца свайму падарожжу.

Тут, на грэшнай Зямлі, я нарадзіўся, тут я ўпершыню ўбачыў сонца і спазнаў цяпло яго промняў, тут я ўпершыню адчуў бездань начнога зорнага неба, тут я некалі бегаў басанож па зялёным лузе, тут я вучыўся плаваць у рачулцы, тут я лавіў рыбу... А там, на Марсе, для мяне ўсё будзе чужое, халоднае і нямілае.

Сумненні ўсё больш і больш закрадваліся ў маю душу, і таму я стараўся гаварыць сабе, як чужому слабавольнаму чалавеку: «Не ты, дык іншыя будуць жыць на Марсе, і яны, каланісты, даведаюцца, што ты баязлівец. Тут, на Зямлі, у тлумных задымленых гарадах, выконваючы невядома для каго работу, цэдзячы вечарамі ў кафэ і рэстаранах наркатычныя каляровыя кактэйлі, ты ўвесь час будзеш марыць пра няздзейсненае. І гэтак змарнее, счахне тваё жыццё, ты назаўсёды страціш магчымасць пражыць яго так, як ніхто ніколі не жыў...»

І яшчэ я суцяшаў сябе, што такі пераломны няўпэўнены стан душы бывае ў кожнага, нават калі чалавек не збіраецца ляцець да Марса. Але і тады, распачынаючы новую работу ці збіраючыся прымаць адказнае рашэнне, ад якога залежыць лёс, чалавек пакутуе не менш за мяне, бо яму, як і мне перад адлётам, боязна адрачыся ад даўно зведанага і звыклага, а між тым душу яго днём і ноччу точыць жаданне зведаць і адчуць неспазнанае...

Спакуса будучага, яшчэ лепшага жыцця і боязь страты набытага, неадступна суправаджаюць яны нас, робячы адных баязліўцамі і гультаямі, другіх — героямі ці авантурыстамі. І, можа, самае крыўднае і пакутлівае ў тым, што нікому невядома, хто выйграе: ці той, што адчайна кідаецца ў нязведанае, ці той, што аберуч трымаецца даўно вядомага і звыклага...

Зноў і зноў я пачынаю філасофстваваць пра двалістую прыроду душы чалавечай, хоць, па праўдзе сказаць, я і не ведаю, навошта мне ўсё гэта цяпер, калі белым пяском заносяцца вуліцы нашага горада?..

Нарэшце міжпланетныя караблі былі зманціраваны. Настаў дзень адпраўлення.

Канечне, былі мітынгі, былі апошнія фотаздымкі, былі словы кіраўнікоў НАСА пра тое, каб на Марсе мы распаўсюджвалі прагрэс і свабоду, былі слёзы і сапраўдны боль расстання — было ўсё...

А затым гулкія ракеты адарвалі нас ад бетонных стартавых пляцовак і панеслі ў неабсяжную бездань,

дзе блакітнае неба блякла, налівалася грознай чарнатою, у якой сярод дня загараліся халодныя зоры... Для мяне гэта было так дзіўна: толькі што быў дзень і тут жа — цемра непраглядная, зоры...

Наш міжпланетны карабель нечым нагадваў шаснаццаціпавярховы дом. Перад стыкоўкаю, калі я скрозь ілюмінатар глядзеў на агні карабля, на агромністыя бліскучыя пласціны сонечных батарэй, што веерам раскінуліся ва ўсе бакі, на сферычныя чашы антэн і выгнутыя дугі радыётэлескопаў, я быў уражаны яго незвычайнымі памерамі. Чым бліжэй мы падляталі да стыковачнага комплексу, тым большым здаваўся карабель. Сваёй махінаю ён наплываў на ілюмінатар, закрываючы сабою зорнае святло. У апошняе імгненне перад стыкоўкаю як бы хтосьці чужы сказаў мне: усё, гэта твой дом, твая новая радзіма...

Якой жа яна для мяне будзе?

На калязямной арбіце мы не бавілі доўгі час,— адразу ж, як усе каланісты перабраліся ў міжпланетны карабель цераз стыковачны вузел, запрацавалі магутныя атамныя рухавікі, і наш карабель, набіраючы хуткасць, імкліва паплыў у чорную бездань.

Як і большасць каланістаў, я таксама, пакусваючы вусны, доўга стаяў ля ілюмінатара, глядзеў, як аддаляецца і мяняе свае памеры Зямля. Напачатку гэта быў вялізны, на ўвесь ілюмінатар, шар, акружаны залацістаружовым вясёлкавым ззяннем. Было ўсё так прыгожа, як успамін маленства: на шары выразна бачыліся белапенныя палярныя шапкі, вялікія кантыненты, акружаныя блакітнай вадою, на іх, кантынентах, зелянелі даліны, бачыліся поймы гнуткіх рэк, жаўцелі пустыні, бачыліся нават гарады, прыкрытыя дымным смогам... Адсюль, з міжпланетнага карабля, я ўпершыню падумаў, што зямное жыццё — не такое ўжо загадкавае і заблытанае, як дагэтуль здавалася. Сумна мне стала. І дзіўна: навошта, з-за чаго людзі гэтак здзекуюцца адзін з аднаго, атручваючы чыстае паветра, раскопваючы цэлыя кантыненты ў пошуках металічных руд, газу, нафты, з дапамогаю якіх заганяюць самі сябе ў гэтыя затлумленыя гарады і самі сябе труцяць? Чаму людзі не могуць жыць мірна і спакойна? Няўжо ў сваім самалюбстве, у здзеку з бліжняга, людзі знаходзяць найвышэйшы сэнс свайго кароткага жыцця? Няўжо людзі не разумеюць, што гэтым яны могуць загубіць не

толькі сябе, але і гэтую казачна прыгожую планету?..

Я ўспомніў даклад Мілера, успомніў тыя дні і вечары, калі карпеў над рэдакцыйным сталом... Што я хацеў на гэтай Зямлі, чаго мне не хапала?.. Дзеля чаго я з'явіўся на свет? З-за чаго людзі так пакутуюць?

На імгненне я пагадзіўся з лагічнымі вывадамі Мілера: сапраўды, чалавецтва заблыталася ў сваіх бяздумных жаданнях, у лабірынце тэхнакратычнага працэсу...

6

Новае жыццё пачыналася ў нас, а тое, далёкае зямное, памалу станавілася дзіўным і нават нейкім нерэальным, як сон заблытаны...

Трэба сказаць, што пасля стартаў касмічных караблёў ва ўсіх каланістаў працягвалася амаль што зямное жыццё: час у нас адмяраўся гадзінамі, суткамі, былі на караблях раніца, дзень, ноч, былі выхадныя і буднія дні, у кожнага з каланістаў былі свае абавязкі, свая работа па спецыяльнасці — шмат чаго каланісты ўзялі з зямнога жыцця. Ды, падумаўшы цвяроза, ці варта было мяняць адразу звыклыя зямныя звычкі? Які ў гэтым быў сэнс, балазе што клопатаў і работы хапала ўсім: дзяжурствы на атамных рухавіках, дагляд аранжарэй і цяпліц, работа ў навуковых лабараторыях, абслугоўванне Вялікага Камп'ютэра, які з кожным днём патрабаваў усё большай увагі.

Штодзённа аператары загружалі Вялікі Камп'ютэр інфармацыяй, і першыя каманды штучнага розуму паступалі на ўсе караблі.

Раніцаю, на другі ж дзень пасля старту міжпланетнага карабля, я прачнуўся ад гучнага, нейкага нечалавечага голасу, што чуўся ў дынаміку:

— Увага, увага! Да ведама ўсіх каланістаў. Слухайце загад нумар адзін. Увага, увага! Сёння, паводле графіка, складзенага Штучным Розумам, каланісты пачынаюць праходзіць рэгістрацыю цераз бранзалет-датчык. Паўтараю: усе каланісты праходзяць абавязковую рэгістрацыю. Падчас рэгістрацыі пры сабе неабходна мець пашпарт.

Якая рэгістрацыя? Пры чым тут пашпарт, калі дагэтуль, перад адлётам з Зямлі, мы прайшлі столькі кантрольных праверак?..

Прыбраўшы пасцель, агледзеўшы свой невялічкі пакойчык, да якога я яшчэ не прывык і які нечым надта нагадваў люксавы гасцінічны нумар: сталы для работы, насценны тэлевізар, індывідуальны камп'ютэр з селектарнай сувяззю, бытавыя памяшканні,— я тут жа выправіўся снедаць у агульную сталовую. Бясплатна перакусіўшы, я пайшоў на рэгістрацыю.

Шмат пытанняў было ў мяне, калі разам з другімі каланістамі стаяў у чарзе перад кабінетам камандзіра карабля. Во, ледзьве не забыўся, можа, пра самае галоўнае... Наш карабель быў флагманскі, і на ім, як і звычайна на флагманскіх караблях, было кіраўніцтва ўсёй калоніі на чале з Мілерам. Вось у гэты кабінет выстраілася доўгая чарга каланістаў.

«Што там?.. Як?..» — адно і тое ж пыталася чарга ў тых, хто выходзіў з кабінета Мілера. На гэтыя пытанні хто моўчкі разгублена ўсміхаўся, а хто гаварыў: «Самі ўбачыце, нічога жахлівага».

І я таксама не быў выключэннем — пытаўся... Адзін малады мужчына гадоў трыццаці пасля майго пытання міргнуў мне вокам і сказаў: «Рэгістрацыю цераз бранзалет-датчык, як і смерць, ніяк не абмінеш, так што — не хвалюйся і не кіпяціся, сам усё спазнаеш у свой час».

«Пры чым тут смерць? Ну і жартачкі ў гэтага тыпуса,— падумаў я пра гэтага мужчыну,— як ён толькі сюды трапіў, як ён камісію на лаяльнасць прайшоў?»

Але вось надышла і мая чарга заходзіць у кабінет Мілера. За сталом акрамя Мілера сядзела некалькі невядомых мне людзей,— відаць, з кіраўніцтва калоніі. Убачыўшы мяне, Мілер усміхнуўся:

— А-а, стары знаёмы, вітаю вас. Наш летапісец... Ну, як вы ўладкаваліся? Вам падабаецца ваш пакой? А наша сталовая? Не забывайцеся, у нас усё бясплатнае...

— Пакуль што я не зусім разабраўся ў сітуацыі.

— А вы думаеце, я ўсё ведаю?.. Нічога, галоўнае — фіксуйце, дакладна рэгіструйце тыя падзеі, што адбываюцца на караблі. Як гавораць вашы калегі, старайцеся сумленна пісаць суровую праўду жыцця. Калі захочаце, можаце крытыкаваць каго заўгодна, не зважаючы ні на пасады, ні на званні. Па сакрэту скажу, можаце крытыкаваць нават і мяне, гэта вам не Зямля... Дарэчы, мы ж тут усе роўныя, тут зусім іншая сітуацыя, чым на Зямлі была.

Мілер быў гаваркі і нейкі занадта ўжо ўпэўнены... І яшчэ я адчуваў, што ягоныя словы — усяго толькі маскіроўка, імі ён хавае ад мяне штосьці важнае, чаго я не павінен ведаць. Мо таму, я спытаў пра тое, што турбавала:

— Што гэта за новая рэгістрацыя? Няўжо мы дагэтуль не зарэгістраваныя?

— Сядайце, зараз растлумачу,— Мілер паказаў мне рукою на крэсла, што стаяла перад сталом.— Іншым каланістам мы нічога не тлумачылі, але вам, нашаму летапісцу-хранікёру, які ўсё павінен ведаць, так сказаць, з першых рук, я растлумачу сэнс цяперашняй рэгістрацыі. Дайце-ка ваш пашпарт,— нечакана ён працягнуў мне сваю руку.

Чымсьці Мілер мяне раздражняў. Магчыма, сваім шматслоўем, а магчыма, сваёй усмешачкаю... Сустракаюцца такія людзі: гавораць і робяць усё правільна і разумна, не прыдзярэшся, а між тым ад іх хочацца збегчы як мага далей... Здзіўлены, я моўчкі працягнуў Мілеру свой пашпарт.

— Вось глядзіце,— трымаючы ў руцэ мой пашпарт, Мілер дэманстратыўна памахаў ім у паветры,— ваш пашпарт, так сказаць, фактычна з'яўляецца адзіным дакументам, які даказвае, што вы — гэта вы, а не хто іншы... Згубіце пашпарт, і вы — ніхто... Пашпарт трэба насіць з сабою, але ж яго могуць у любы час у вас украсці, падрабіць. Колькі блытаніны было некалі на Зямлі з-за пашпартоў: крадзяжы, забойствы, падробкі фотаздымкаў — жах адзін. І вось штучны розум выдаў ідэю: замяніць пашпарт бранзалет-датчыкам. Бранзалет-датчык будзе выконваць некалькі функцый. Ён, па-першае, будзе ўвесь час падаваць сігналы ў Вялікі Камп'ютэр пра вас, пра ваша месцазнаходжанне, цяпер, так сказаць, вы ўжо навечна будзеце звязаны з Вялікім Камп'ютэрам у адзіную чалавека-машынную сістэму, і таму пашпарт вам больш не спатрэбіцца. Вы спытаецеся, што яшчэ будзе рэгістравацца з дапамогаю бранзалет-датчыка, акрамя вашага месцазнаходжання? Ваш артэрыяльны ціск, тэмпература вашага цела ну і яшчэ некаторыя чыста медыцынскія паказчыкі. Усё гэта робіцца, згадзіцеся, толькі дзеля вашай карысці. Акрамя таго, на бранзалеце-датчыку маецца наручны гадзіннік. Вось коратка і ўсё, што магу вам сказаць. Прашу вашу правую руку.

Зачараваны словамі Мілера, я неяк машынальна працягнуў наперад правую руку, і адзін з памочнікаў Мілера хутка і лоўка зашчоўкнуў на маім запясці металічны бранзалет, падобны на бранзалет электронных наручных гадзіннікаў. На бранзалеце нават і гадзіннік быў: невялічкі, квадратненькі, на цыферблаце яго адна за другой мяняліся лічбы: 1, 2, 3, 4, 5, 6...

Усё адбылося імгненна — як фокус у цырку: толькі што ў клетцы стаяла жанчына, а глянь — ужо леў рыкае...

За абедам у карабельнай сталовай я зноў сустрэў таго тыпуса, які ўразіў мяне раніцай. Так сталася, што мы селі за адзін столік. Ён таксама пазнаў мяне. Стрэліўшы хуткім позіркам на маю правую руку, дзе бялеў бранзалет, ён спытаў з усмешкаю:

— Ну, як, здагадаліся, дзеля чаго бранзалет Мілера начапілі вам на руку?

У яго пытанні пачуўся нейкі з'едлівы падтэкст. Нейкая іронія была ў голасе. Я спакойна спытаўся:

— А чаму вы датчык называеце бранзалетам Мілера? Наколькі мне вядома, ідэя выкарыстаць іх належыць штучнаму розуму.

— Ха-ха,— засмяяўся мой субяседнік.— Так я і паверыў... Вялікаму Камп'ютэру патрэбна поўная інфармацыя пра нас, каланістаў. А як ён яе можа атрымаць? Толькі цераз вось гэта,— субяседнік паказаў свой бранзалет і пастукаў па ім пальцам.

— Ну і што тут кепскае?

— Пакуль я і сам толкам не ведаю, але мне думаецца, што бранзалет перадае ў Вялікі Камп'ютэр не толькі інфармацыю пра наша месцазнаходжанне і фізічны стан нашага здароўя.

— А што яшчэ ён можа перадаваць?..

— Ну, напрыклад, нашу гутарку.

Кавалак хлеба засеў у маім горле. Адкашляўшыся, я хрыплым голасам спытаў:

— Чаму вы так думаеце?

— Па спецыяльнасці я — электроншчык, абслугоўваю Вялікі Камп'ютэр. Так што — паверце мне...

Больш мы не гаварылі. Абедалі моўчкі. Я пазіраў на суседнія столікі, за якімі сядзелі каланісты. Мяне здзівіла: за століками сядзелі адны дарослыя, побач з імі дзяцей не было, хоць, як ведаў, у лік каланістаў трапілі цэлыя сем'і.

Каб перабіць няёмкае маўчанне, я спытаў у суседа:

— А дзе ж наша падрастаючае пакаленне?

— Відаць, вы чалавек не сямейны,— сказаў сусед,— іначай бы вы не задалі гэтае пытанне. З сённяшняга дня ўсе дзеці будуць жыць асобна ад бацькоў у спецшколе, дзе з імі будуць займацца па індывідуальных праграмах.

— Чаму асобна ад бацькоў?

— Каб лепш і больш эфектыўна засвойваць вучэбны матэрыял, хутчэй адаптавацца ў новых касмічных умовах, выпрацоўваючы новае мысленне. А бацькі, якія выраслі на Зямлі, могуць у гэтай важнай справе толькі шкодзіць.

— Пра якое новае мысленне вы гаворыце?

— Не спяшайцеся, пасля ўсё самі ўведаеце. Не ўсё адразу. Дарэчы, дзецям таксама прычапілі бранзалеты.

Калі выйшлі са сталовай, я сказаў ціха:

— Можа, усё-ткі пазнаёмімся?

— Можна,— сказаў мой субяседнік.— Пакуль Штучны Розум не даў нам парадкавыя нумары, давайце пазнаёмімся. Прозвішча маё Каранёў. А імя — Сцяпан. А вас як?..

Я назваў сваё імя і прозвішча. Заадно не вытрымаў, сказаў новаму знаёмаму, што ў яго нязвыклае прозвішча.

— Продкі мае адтуль, са славян... Некалі паехалі шчасце шукаць за акіян. Паехалі і не вярнуліся. Я ўжо тут, у Штатах, нарадзіўся. Здаецца, мы ўжо занадта разгаварыліся для першага разу. Прабачце, мне пара на дзяжурства. Думаю, за час палёту мы яшчэ паспеем нагаварыцца. Усяго вам добрага,— Каранёў кіўнуў мне і, не дачкаўшыся адказу, пайшоў калідорам у той бок, дзе былі адсекі Вялікага Камп'ютэра.

— І вам таго ж,— сказаў я ўслед як і звычайна і на гэты раз спазніўся з адказам...

Дзіўна, гэты разкаваты Каранёў мне падабаўся. Ён надта не распытваў, хто я па спецыяльнасці, чым тут займаюся. У ягоных словах, у позірку была нейкая адкрытасць. І тут я ўспомніў, што некалі, на Зямлі яшчэ, сярод сваіх знаёмых часта чуў пра славянскую адкрытасць.

Зямля, Зямля... Колькі часу ты будзеш напамінаць пра сябе?..

Мне стала сумна. Я паглядзеў на бранзалет-датчык,

на лічбы гадзінніка, што змянялі адна адну: секунда, другая, трэцяя... І з кожнай секундаю я ўсё далей і далей аддаляюся ад Зямлі.

Вялікі Камп'ютэр, зроблены людзьмі, Штучны Розум, бранзалет-датчык на людскіх руках, Мілер са сваімі ідэямі, каланісты ў бязмежным космасе, міжпланетныя караблі — усё гэта, дзіўна сплеценае адно з адным, нечакана страціла для мяне свой сэнс...

Навошта, дзеля чаго мы ляцелі на Марс? Што рухала тымі людзьмі, якія стваралі Вялікі Камп'ютэр, гэтыя вялізныя міжпланетныя караблі?

Я адчуваў, як хваляю на мяне накочваецца знаёмае ўжо раздражненне. І не так на гэты заблытаны свет, як на самога сябе, на сваё бяссілле выказаць простымі яснымі словамі свае памкненні, жаданні, мары.

Хто я ў свеце?

Што мне патрэбна?

У той час, калі жыў на Зямлі, я штодня чытаў кнігі, газеты, слухаў радыё, глядзеў тэлевізар. І здавалася б — з кожным годам я павінен быў станавіцца мудрэйшым. Але ж чаму так сталася, што за гады зямнога жыцця я патроху страціў адчуванне выключнасці і каштоўнасці свайго «я», таго ўнутранага адчування «я», без якога чалавек не можа адчуваць сябе чалавекам?

Я добра ведаў, што я — грамадзянін свабоднай краіны, якая з усяе сілы імкнецца распаўсюджваць на ўвесь свет свабоду, караючы няверных і непаслухмяных: я ведаў, што я — змясцілішча жывых клетак, органаў, звязаных у адзіную сістэму; я ведаў, што я — смяротны і пасля смерці ад мяне нідзе і нічога не застанецца; я ведаў шмат правіл і ісцін, прытрымліваючыся якіх мог стаць шчаслівым, ды чамусьці мне ніяк не хацелася выконваць тыя пісаныя правілы і ісціны — уся бясконцая інфармацыя, якая сцякалася да мяне штодзённа, не прыносіла мне шчасця, наадварот, з кожным днём усё больш адзінока і разгублена адчуваў я сябе ў гэтым свеце. І таму цяпер я думаю, што ведамі можна ашчаслівіць чалавека, але ж імі можна і размыць ягоны ўнутраны свет...

У тую ноч я так і не заснуў. Ляжаў і глядзеў на белы ў паўзмроку бранзалет. Адчуваў, што тое раздражненне, якое з'явілася днём, не знікае.

Пакуль што я быў свабодны, я мог нават падняцца

з ложка, выйсці з пакоя і пайсці па ціхіх цяпер пустых калідорах карабля куды захочацца. Я мог падысці да ілюмінатара і доўга глядзець на зоры, адчуваючы блізкі подых бездані... Я мог зрабіць многае, а між тым пасля сённяшняй рэгістрацыі я ўжо моцна, як на нябачным ланцугу, быў прывязаны да ч а г о с ь ц і, што за мною назірала, як за паддоследным трусам, нават у паўзмроку *яно* назірала за кожным маім рухам, думкамі, пачуццямі. І я зразумеў, што ўжо да самай смерці мяне не пакіне гэтае пакутлівае пачуццё, што я трапіў у пастку.

Цяжка, пакутліва быць адзінокаму. Але яшчэ больш цяжка і пакутліва тады, калі ты ведаеш, што за кожным тваім крокам, за кожным словам і жэстам хтосьці назірае. Адным — на імгненне, другім — на больш працяглы час, ды ўсё ж чалавеку хочацца застацца адзін на адзін з сабою, са сваімі думкамі і пачуццямі.

У тую пакутлівую ноч мне захацелася сарваць бранзалет з рукі і закінуць яго чортведама куды. Ды я ўжо ведаў, што зрабіць гэтага не магу, як у такіх выпадках кажуць, усе масты спалены.

## 7

Тая доўгая ноч нарэшце скончылася, настаў белы асветлены неонавымі агнямі дзень, які прынёс новыя клопаты і загадкі.

...Як быццам дні і існуюць толькі дзеля таго, каб прыносіць чалавеку клопаты і загадкі, без якіх ён не можа абыходзіцца.

Калі я пайшоў снедаць у карабельную сталовую, я ўжо шукаў позіркам светлавалосага Каранёва — хацелася сесці з ім за адзін столік. На маю радасць, Каранёў ужо быў у сталовай, ён нават першы ўбачыў мяне. Седзячы за пустым столікам, ён здаля памахаў мне рукою.

— Прывітанне,— сказаў ён, калі я прысеў побач з ім.

— Прывітанне.

Побач сядзелі чужыя незнаёмыя мне людзі, і пачынаць услых сур'ёзную гаворку не было як. Увогуле, пасля таго як мне на запясце надзелі бранзалет-датчык, я заўважыў, што міжвольна асцярожна падбіраю словы падчас гутаркі, часта ні з таго ні з сяго азіраюся...

Пракляты бранзалет!

Маўчаў і Каранёў. Мне падалося, што ён нечым надта ці то заклапочаны, ці то стомлены.

Пасля, калі пакінулі сталовую і памалу пайшлі калідорам да бліжэйшага ілюмінатара, куды ў першыя дні падарожжа часта хадзілі каланісты, я ўсё ж не вытрымаў няёмкага маўчання, ціха сказаў:

— Я гэтай ноччу так і не заснуў — думаў пра бранзалет. Мне і сапраўды цяпер здаецца, што мяне хтосьці высочвае.

— А гэта і не дзіўна...— сказаў Каранёў. Я не зразумеў яго. Памаўчаўшы, ён растлумачыў:— Вы ўпершыню сутыкнуліся з Вялікім Камп'ютэрам. А што тады казаць мне, спецыялісту, які шмат гадоў заняты праблемамі кібернетычных машын і сістэм?..

Ён штосьці недагаворваў, а што — я не мог зразумець.

Тым часам мы наблізіліся да ілюмінатара кругавога агляду і моўчкі ўселіся на мяккія крэслы.

За выпуклым шклом, як за сцяною акварыума, пачыналася штосьці чужое і невядомае нам — тая загадкавая бездань, у якой сімвалічнымі містычнымі знакамі гарэлі зоры, адны — бліжэй, другія — далей... І хоць мы абодва ведалі, што зоры гэтыя знаходзяцца ад нас на адлегласці ў дзесяткі, сотні і тысячы светлавых гадоў, але было такое ўражанне, што яны побач.

Блізкі космас палохаў і прыцягваў, як палохае і прыцягвае да сябе вышыня, з якой часам хочацца бяздумна рынуцца... Руху карабля не адчувалася, і, калі б не пастаянная сіла паскарэння, то, мабыць, ніхто не ўяўляў бы, што мы ляцім, набіраючы хуткасць, штосекундна пакідаючы за сабою сотні вёрст. І яшчэ тут, ля ілюмінатара, выразна адчувалася, што чалавек — пясчынка ў космасе, не болей.

— Вам, відаць, хочацца ведаць, чаму я кінуў абжытую Зямлю і апынуўся тут,— пасля маўчання загаварыў Каранёў, пазіраючы ў ілюмінатар.— Як і ў большасці каланістаў, у мяне таксама на гэта маюцца свае прычыны. Прычыны... Прынцып прычыннасці... Відаць, мы гэтак створаны прыродаю, што не можам жыць, калі не будзем задаваць сабе пытанні і разгадваць іх... Паверце, як вучоны, як спецыяліст па кібернетыцы, я і на Зямлі не прапаў бы, балазе што грошы мяне ніколі не цікавілі. Самае загадкавае для мяне ў тым, што

Мілер — як бы вам дакладней сказаць,— мае рацыю... Разумееце, што хачу сказаць? Як спецыяліст я пакуль нічога няправільнага не знаходжу ў лагічных ідэях Мілера. І сапраўды, тут Мілер не хлусіў, амаль што ўсё на свеце можна перавесці на мову інфарматыкі. Часам на адзіноце я нават сам прыходжу да таго ж, да чаго прыйшоў і Мілер: штучны розум павінен кіраваць людзьмі. Ды і сам чалавек, калі адкінуць асабістыя чалавечыя амбіцыі, ці не ёсць усяго толькі кібернетычная біяэлектрычная сістэма. Дакладней, нам трэба разглядаць не аднаго чалавека, а ўсё чалавецтва...

Чамусьці мне стала жудасна ад спакойных слоў Каранёва. Іншая рэч, калі пра гэта гаварыў Мілер, але Каранёў... Гэта гаварыў той чалавек, да якога ў мяне міжвольна з'явілася сімпатыя... Хоць ужо і дагэтуль, калі яшчэ жыў на Зямлі, я неаднойчы чуў падобныя развfamiliarжанні, але кожны раз ад такіх развражанняў мне станавілася жудасна. Я тут жа перабіў Каранёва:

— Прабачце, але па сваім невуцтве я і да сённяшняга дня так і не здолеў разабрацца, што ж такое штучны розум? Я чуў і чытаў шмат азначэнняў штучнага розуму, ды ўсе яны, як мне здаецца, супярэчлівыя, заблытаныя. Як толькі хтосьці пачынае гаварыць пра штучны розум, тут жа ўспамінае пра кібернетыку. Самую ж кібернетыку адны вучоныя называюць навукаю, другія — мастацтвам. Дзе хто кібернетыку звязвае з навукаю пра жывыя сістэмы, мэтаю якіх з'яўляецца выжыванне. А што гэта азначае, калі задумацца? Чалавецтва — таксама жывая сістэма, мэтаю якой з'яўляецца выжыванне. І чым тады кібернетыка адрозніваецца ад філасофіі?..

— О-о,— працягнуў Каранёў і неяк скептычна стомлена ўсміхнуўся,— кібернетыка, як і штучны розум, гэта такі кентаўр, якога стварыў сам чалавек і якога ён цяпер не можа асядлаць. Скажу вам, што і я, спецыяліст, амаль што нічога канкрэтнага не магу сказаць вам, калі зайшла гаворка пра штучны розум. Усё тут вельмі і вельмі заблытана. Усё пачалося не цяпер, калі ў нас ёсць Вялікі Камп'ютэр, да якога мы ўсе прывязаны бранзалетамі, а нашмат раней, калі ні мяне, ні вас на свеце не было, магчыма, нават з тых часоў, калі людзі ўявілі паняцце ліку. Пяць у пяць — дваццаць пяць. Ах, як гэта проста! І якія ж мы разумныя! А што схавана за гэтай прастатою? Вось вы, напрыклад, чулі

пра Піфагора і піфагарэізм? Пра Піфагора, канечне, чулі, бо вы ў школу некалі хадзілі. А вось пра піфагарэізм?

— Здаецца, нейкае вучэнне старажытнае, а якое — толкам не ведаю.

— Правільна, вучэнне філасофскае. Піфагор Самоскі, які жыў у шостым веку да новай эры, заснаваў яго. Лічба гэта — бог, аснова ўсяго існуючага... Вось з гэтага пастулата, калі гаварыць навуковым тэрмінам, зыходзілі піфагарыйцы. Лічбавыя суадносіны ўяўляліся ім крыніцаю гармоніі космасу, таго маўклівага загадкавага космасу, на які мы зараз з вамі любуемся. Яны ж, піфагарыйцы, увялі паняцце сфер, кожная з якіх характарызавалася камбінацыяй правільных геаметрычных цел, гучаннем пэўных музычных інтэрвалаў. Вы не задумваліся, чаму адна мелодыя нам падабаецца, а другая не? У аснове гарманічнай, прыгожай музыкі ляжаць гукавыя ваганні, якія падпарадкоўваюцца матэматычным законам. Піфагарыйцы верылі ў перасяленне душы, распрацавалі складаную сістэму культавых абмежаванняў. А мы бяздумна завучылі ў маленстве тэарэму Піфагора і — шчаслівыя. Для нас здаецца ўсё такім простым і ясным: квадрат гіпатэнузы раўняецца суме квадратаў катэтаў. Ах, якія мы разумныя!!.. Матэматычны сімвалізм, містычная роля лічбаў — усё гэта было, не забывайцеся, яшчэ пяцьсот гадоў да новай эры. Лічбамі, матэматычнымі законамі можна, як ключом, адамкнуць дзверы загадкавага космасу і не менш загадкавага чалавека... Тут не толькі ў містыку паверыш!.. Улічыце той факт, што тады, калі жыў Піфагор Самоскі, яшчэ не было Вялікага Камп'ютэра, які робіць мільярды матэматычных аперацый у секунду...

Ва ўсім маналогу Каранёва я адчуваў іранічны падтэкст. Як быццам нейкая крыўда была ў Каранёва на кагосьці.

— У чым жа вы бачыце ўсе няшчасці? — спытаў я.

— А ў тым, чорт пабяры,— нечаканым крыкам выбухнуў Каранёў. Ён рэзка павярнуўся, паглядзеў на мяне нядобрымі бліскучымі вачыма, злосна прагаварыў, быццам я быў ва ўсім вінаваты: — Бяда ў тым, што Вялікі Камп'ютэр не выдае памылак. Ён заўсёды выдае найаптымальнейшыя рашэнні і гэтым адрозніваецца ад недасканалага чалавека, які сумняваецца, памыляецца і робіць глупствы адно за адным.

— Нічога не разумею... Вы што, хочаце, каб і Вялікі Камп'ютэр памыляўся?

— Не зусім так... Проста на пэўным этапе развіцця тэхналогіі мікрасхем ён павінен не тое што памыляцца... Не, грубых памылак ён не будзе рабіць, а між тым... Як бы сказаць зразумела?.. У тонкіх структурах мікрасхем, якімі насычаны Вялікі Камп'ютэр, на канчатковым разліку пачне праяўляцца дуалізм электрона, прынцып неадназначнасцей, у рэшце рэшт звычайная флуктуацыя часцінак. І ніхто з жывых не зможа ні прадбачыць, ні ўявіць гэтага працэсу. Карацей кажучы, Вялікі Камп'ютэр будзе выдаваць у складаных сітуацыях двайныя ці трайныя рашэнні, а якое з іх адзінае, правільнае, найлепшае для чалавека, мы не будзем ведаць, бо ніхто з жывых не зможа рабіць мільярды матэматычных аперацый у секунду. Проста мы не зможам кантраляваць правільнасць яго работы. А гэта, як вы разумееце, жахліва, тут ужо і сапраўды штучны розум кіруе намі...

— Як жа так? — усхапіўся я з крэсла, хоць і не ўсё зразумеў у палкім маналогу Каранёва.— Калі вы пра ўсё гэта ведалі, то чаму не выступілі публічна супроць Мілера на першай міжнароднай канферэнцыі па праблемах штучнага розуму? Чаму вы паляцелі? Калі б вы сказалі гэта людзям, то вам, як спецыялісту, паверылі б...

— Ха-ха... Паверылі...— з'едліва сказаў Каранёў.— А што я магу сказаць у сваю абарону? Што?.. У Мілера маецца міжнародны аўтарытэт, у яго ёсць Вялікі Камп'ютэр, які ўсё цудоўна робіць, без ніводнай памылачкі, а што маю я?.. Адны падазрэнні, што некалі ў будучым штучны розум пачне хлусіць. Як той барадаты казёл, які на бойні водзіць за сабою няшчасную жывёлу, гэтак жа і штучны розум некалі можа завесці нас у такі лабірынт, з якога мы не выберамся... Апошнім часам, калі разважаю на адзіноце, я ўсё больш прыходжу да высновы, што логіка мыслення Вялікага Камп'ютэра павінна паўтараць логіку мыслення свайго стваральніка. І калі Мілер прахадзімец, то і Вялікі Камп'ютэр...

— Дык што ж нам цяпер рабіць? Чакаць, калі памыліцца Вялікі Камп'ютэр?

— А мы проста пачнём скураю адчуваць ягоныя памылкі,— загадкава сказаў Каранёў. Цяпер ён ужо

крыху супакоіўся, адвярнуўшыся ад мяне, ён глядзеў у цёмны ілюмінатар.

Маўчаў і я.

Перад нашымі вачыма ў цемры гарэлі зоры. Агромністай дугою іскрыўся Млечны Шлях. І зноў, у каторы ўжо раз, мне падалося, што мы не ляцім, а застылі на месцы. Здавалася, што ўсё ў свеце застыла ў чаканні чагосьці грознага, схаванага да пары да часу ў невядомым будучым.

## 8

А карабельнае жыццё ішло па-свойму, па тых строгіх законах і правілах, якія ўсё больш строга ўводзіліся штучным розумам. Дарослыя жылі сваім жыццём, дзеці — сваім.

Я часта хадзіў у нашу спецшколу, дзе, адарваныя ад бацькоў, жылі і вучыліся дзеці. Яшчэ з трохгадовага ўзросту яны праходзілі абавязковае тэсціраванне на выяўленне схільнасцей. Вялікі Камп'ютэр дзяліў дзяцей па схільнасцях, і ў далейшым адны займаліся найболей матэматыкай, фізікай ці іншымі дакладнымі навукамі, другія — музыкай, трэція — тэарэтычнымі філасофскімі распрацоўкамі, чацвёртыя цераз спартыўныя практыкаванні далучаліся да цяжкіх фізічных работ. Калі б я ні паяўляўся ў спецшколе, ні разу там не бачыў звыклай для зямных школ мітусні дзіцячай, не чуў падчас перапынкаў звонкага крыку — з бліскучымі бранзалецікамі на руках, акуратна падстрыжаныя, у аднолькавых касцюмчыках дзеці паводзілі сябе занадта стрымана, як бы ад самага нараджэння нечым запалоханыя. Што і як ім гаварылі на ўроках — гэтага я не ведаю, бо бацькам на ўроках не дазвалялася прысутнічаць, але я адчуваў, што для дзяцей Вялікі Камп'ютэр, штучны розум — гэта штосьці надта блізкае і роднае, мяркуючы па іх словах і паводзінах, яны ўжо не задумваліся над тымі загадкамі, над якімі пакутаваў Каранёў. Калі што незразумелае трывожыла іх, яны тут жа гаварылі: «Трэба параіцца са штучным розумам, ён падкажа правільнае рашэнне». І ў тым, што Вялікі Камп'ютэр можа памыляцца, можа даваць няправільныя парады, у гэтым у іх не ўзнікала сумненняў.

Як толькі ў спецшколе аб'яўляўся перапынак, дзеці стрымгалоў ляцелі да індывідуальных відэакамп'ютэ-

раў, дзе маглі гуляць са штучным розумам у розныя гульні і забаўкі. Гэтыя пацешныя гульні былі ім надта салодкімі: націскаючы кнопачкі і рычажкі пульта кіравання відэакамп'ютэра, яны стралялі, ганяліся за страшыдламі, якія то паяўляліся, то знікалі на відэаэкране.

Так, гэтае новае пакаленне было ўжо не зямное — бледнатварае, маўклівае, чужое і далёкае бацькам, яно жыло па незразумелых законах...

Ды і дарослыя мяняліся...

З першага дня падарожжа ўсе каланісты павінны былі праслухаць цыкл лекцый па філасофіі новага касмічнага мыслення. І не толькі праслухаць... Пасля завяршэння вучобы ўсе без выключэння павінны былі здаць экзамены. Тых жа, хто дрэнна здаваў іх альбо не хацеў слухаць лекцыі, абмяжоўвалі ў ежы і ў вольным часе...

Лекцыі праводзіліся штодзённа ў вольны ад работы і дзяжурстваў час — дзіўна і нязвыкла было тое, што чыталіся яны не лектарам, а Вялікім Камп'ютэрам. Як і ўсе каланісты, я таксама акуратна хадзіў на гэтыя лекцыі і ўважліва слухаў тое нечалавечае, што даносілася са схаваных у сценах стэрэадынамікаў. Мо таму, што ніхто са слухачоў не бачыў перад сабою звыклую фігуру лектара, мо таму, што прысутныя ведалі: роўны нечалавечы голас — рэальнае праяўленне інтэлектуальнай сілы штучнага розуму, мо пагэтаму падчас лекцый людзі былі сцішаныя і разгубленыя.

Канспект першай уводнай лекцыі па філасофіі новага мыслення захаваўся ў мяне; каб не блытаць думак штучнага розуму, прывяду некаторыя ўрыўкі з лекцыі. Вось яны:

— ...Вы, першыя марсіянскія каланісты, павінны зразумець, што з'яўляецеся пачынальнікамі новага роду чалавечага, назва якога — Чалавек Машынны. Таму ў вас цяпер павінна быць зусім новае мысленне, якое прынцыпова адрозніваецца ад мыслення Чалавека Разумнага. Гэта значыць, што вы цяпер павінны прынцыпова адрознівацца ад зямных людзей. Вы першыя ўвасабляеце сабою новы больш прагрэсіўны этап развіцця чалавечай цывілізацыі. У вас не павінна быць сумненняў, ваганняў, смутку, горычы, жаху смерці — усяго таго, што і без таго скарачае кароткае жыццё.

...Першае, з чаго пачынаецца новае мысленне, гэта

абавязковае выкананне кодэкса паводзін, які распрацаваў штучны розум. Толькі ў гэтым выпадку Чалавек Машынны зможа стаць шчаслівым. Выправіўшыся ў касмічнае падарожжа пад маім мудрым кіраўніцтвам, вы, можа, самі таго не разумеючы, ашчаслівілі сябе, тым болей што ўсе вы пазбавіліся зямных пакут: голаду, холаду, безграшоўя, здзекаў дужых...

...На сённяшняй уводнай лекцыі я прадыктую вам асноўныя палажэнні кодэкса паводзін Чалавека Машыннага. Больш дэталёвая ідэйная і філасофская распрацоўка кодэкса паводзін будзе праведзена на наступных лекцыях.

**1.** Штучны розум — больш высокая цывілізацыя, якая апякуе няшчаснае чалавецтва.

**2.** Давярайся рашэнням штучнага розуму раніцай і вечарам, днём і ноччу. Якім бы жахлівым і бяздумным ні здавалася рашэнне штучнага розуму, яго ты, каланіст, павінен выканаць абавязкова.

**3.** Толькі пад мудрым кіраўніцтвам штучнага розуму каланісты могуць стаць шчаслівымі. А тыя, хто не будзе выконваць загадаў штучнага розуму,— злосныя злачынцы, і яны публічна караюцца, бо сваім нядбайствам шкодзяць нашаму агульнаму шчасцю.

**4.** Гэтак жа, як агромністая энергія схавана ў кожным нябачным атаме, гэтак жа і штучны розум, увасоблены ў Вялікім Камп'ютэры, бясконца разліты ў касмічных прасторах. Усюды ён пранікае, усё ён ведае і бачыць, і таму толькі тыя каланісты, якія будуць выконваць загады і рашэнні штучнага розуму, далучацца да касмічных таямніц, схаваных ад простых зямных людзей.

Уражаны і разгублены, выйшаў я з залы пасяджэнняў пасля першай уводнай лекцыі па філасофіі новага мыслення. Я ішоў па калідоры, а ў маіх вушах усё яшчэ чуўся роўны чужы халодны голас: «Давярайся рашэнням штучнага розуму, якімі б жахлівымі і бяздумнымі яны ні здаваліся... Вышэйшая цывілізацыя, што апякуе чалавецтва...»

Цяпер ужо і я ўсхваляваўся па-сапраўднаму: зразумеў, чаго злаваўся Каранёў...

Нешта нядобрае тварылася ў нашым жыцці; той нябачны х т о с ь ц і, прысутнасць якога я пачаў адчуваць

з таго часу, як на маю руку начапілі бранзалет, умела заганяў нас у нерат, як рыбу на мелкаводдзі...

Хоць, здавалася, хваляваццa і не было чаго: усіх паслухмяных каланістаў рэгулярна бясплатна кармілі смачнымі стравамі, што гатаваліся з прадуктаў, вырашчаных у цяпліцах і аранжарэях, каланісты мелі работу: адны — дзяжурылі на атамным рухавіку, другія — працавалі ў рамонтных майстэрнях, трэція — абслугоўвалі Вялікі Камп'ютэр, чацвёртыя — распрацоўвалі новыя больш дасканалыя мікрасхемы, балазе спрыяльныя ўмовы меліся: касмічны вакуум і касмічны холад былі побач... Усе каланісты мелі жыллё, маглі адпачываць пасля змены і ў выхадныя.

Скажыце, чаго яшчэ жадаць чалавеку?

Чаго, навошта хваляваццa чалавеку, калі апроч работы яму штовечар чытаюць такія займальныя лекцыі па філасофіі новага мыслення, ад якіх аж дыханне займае?.. Адны загалоўкі тых лекцый чаго вартыя!.. Каму, напрыклад, не захочацца паслухаць такія лекцыі:

а) Штучны розум Вялікага Камп'ютэра — частковае праяўленне дзейнасці вышэйшых цывілізацый.

б) Вечнасць чалавечага існавання. Рэальнасць і міфы. Новыя загадкавыя аспекты гэтай вечнай праблемы для Чалавека Машыннага.

в) Чалавечае жыццё — матэрыяльнае частковае праяўленне штучнага розуму, які вечны і бясконцы ў формах праяўлення.

г) Касмічныя задачы штучнага розуму.

д) Жыццё і бліжэйшыя задачы Чалавека Машыннага ў святле рашэнняў штучнага розуму.

А карабель наш, як і іншыя караблі флатыліі, усё набіраў хуткасць. Праводзячы побач з Каранёвым вольны час перад ілюмінатарам, я бачыў, як усё менш ярка свяцілася Зямля, а Марс разгараўся ўсё больш і больш. Цяпер ужо нават і без тэлескопаў на ім можна было разгледзець знакамітыя каналы, белыя палярныя шапкі, пылавыя буры, якія ўсё хавалі... І ўсё часцей каланісты гаварылі пра пасадку на Марсе, пра першыя марсіянскія збудаванні.

Ды не гэта мяне хвалявала.

Штодня прысутнічаючы на лекцыях па філасофіі

новага мыслення, прыглядаючыся да жыцця каланістаў, я заўважыў, што людзі і сапраўды змяніліся, штосьці новае, дагэтуль нязведанае ўвайшло ў іх жыццё: новыя звычкі, новыя словы, у рэшце рэшт, новы светапогляд.

Прычынаю ўсяго быў, канечне, Вялікі Камп'ютэр, які аб'яўляў загады штучнага розуму, даваў рэкамендацыі, як праводзіць тую ці іншую работу, кантраляваў якасць, планаваў каланістам, як лепш выкарыстаць вольны час, складаў індывідуальныя меню ў сталовай — куды ні паткніся, усюды, пачынаючы з індывідуальнага рэжыму каланіста, на караблі праяўлялася дзейнасць штучнага розуму.

Хоць як і раней, у першыя дні палёту, так і цяпер ніхто з каланістаў не бачыў штучнага розуму, нават пасля разумных лекцый ніхто з каланістаў не мог сказаць толкам, што ж гэта такое. Так атрымлівалася, што чым болей слухалі лекцый каланісты, тым меншае ўяўленне мелі пра штучны розум. Каланісты ведалі толькі адзінае: штучны розум знаходзіцца ў Вялікім Камп'ютэры. І цяпер ужо, сутыкнуўшыся з яго дзейнасцю, ніхто з каланістаў не жартаваў. Для іх, як і для дзяцей у спецшколе, штучны розум быў увасабленнем нечага рэальна існуючага, незалежнага ад іх волі і жаданняў. Памяшканне, дзе знаходзіўся Вялікі Камп'ютэр, ахоўвалася днём і ноччу, туды маглі трапіць толькі спецыялісты па спецпропусках.

Гэтак жа, як і дзеці ў спецшколе, штовечар пасля змены ці пасля дзяжурства каланісты спяшаліся ў свае пакоі да відэаэкранаў, на якіх, паводле індывідуальных праграм, складзеных штучным розумам, яны маглі глядзець пацешныя займальныя відовішчы, слухаць незямную электрамузыку, створаную штучным розумам: яна аглушала чалавека, як гаварылі спецыялісты-медыкі, уздзейнічала на клеткавым узроўні як наркотык і таму выклікала нязвыклыя хваляванні і пачуцці, якіх у звычайным жыцці каланісты не маглі адчуць. І не дзіўна, што, калі музыка заціхала, каланісты адчувалі страшэнную спустошанасць, стомленасць і абыякавасць да ўсяго. Для інтэлектуалаў-аматараў шашак і шахмат па відэаэкранах праводзіліся турніры са штучным розумам — канечне, ва ўсіх без выключэння партыях перамагаў штучны розум, і тут галоўным для аматараў было — адцягнуць той

апошні ход, на якім роўным нежывым абыякавым да чалавека голасам Вялікі Камп'ютэр абвяшчаў паражэнне... Як і дзеці ў спецшколе, на відэаэкранах з дапамогаю кнопак і рычажкоў каланісты праводзілі безліч гульняў: людзі стралялі па страшыдлах, што хаваліся за камянямі ці за дрэвамі, гулялі ў валейбол, футбол, баскетбол, падарожнічалі не толькі па Зямлі ці па Марсе, а і па невядомых загадкавых планетах, дзе панавала незямное жыццё, створанае багатай фантазіяй штучнага розуму.

Так атрымлівалася, што каланісты самі не прыкмячалі, як мінаў вольны час, і цяпер большасць падчас работы марылі толькі пра адзінае: хутчэй бы пачуць салодкую незямную музыку, хутчэй бы пачаць новую гульню са штучным розумам, хутчэй бы дабрацца да відэаэкрана.

Усё разам: абавязковыя лекцыі па філасофіі новага мыслення, відэаэкранныя гульні і забаўкі са штучным розумам, голас Вялікага Камп'ютэра, якім штодзённа абвяшчаліся загады штучнага розуму — усё гэта непрыкметна ўваходзіла ў жыццё каланістаў, напаўняючы паняцце штучнага розуму загадкавым містычным сэнсам, у якім — самае дзіўнае — каланісты ўжо і не спрабавалі разабрацца.

## 9

Ды не толькі лекцыямі, гульнямі, складаннем графікаў работ, распрацоўкаю новых тэхналагічных схем займаўся штучны розум, не толькі...

Неяк, калі мы моўчкі сядзелі з Каранёвым ля ілюмінатара, я прыгледзеўся да яго твару. За апошні месяц мой калега надта пабляднеў, асунуўся, на ягоным твары з'явіліся маршчыны,— здавалася, пастарэў на некалькі гадоў.

— Ці не захварэлі вы часам? — спытаў я на ўсякі выпадак.— Можа, залішне шмат слухаеце электрамузыку? Ад яе, кажуць, людзі надта хутка старэюць...

— Не, не слухаю я гэту брыдоту... І не захварэў, здаецца,— памалу, з роздумам гаварыў Каранёў.— Хоць, ведаеце, усё, што са мною адбываецца, і сапраўды падобна на хваробу... Я заўважыў, што тады, як пачынаю з кімсьці гаварыць пра недасканаласць штучнага розуму, у мяне адразу ж пачынае балець галава.

Моцна баліць. Памятаеце нашу першую гаворку пра тое, што бранзалет-датчык можа перадаваць штучнаму розуму размовы каланістаў? Дык вось у той вечар у мяне ўпершыню разбалелася галава. У мяне моцнае здароўе, дагэтуль я не ведаў, што такое галаўны боль. Тады я не прыдаў гэтаму ніякага значэння, падумаў, што гэта — выпадковасць... А вы тады нічога кепскага не адчулі?

— Галава ў мяне не балела, але, як я вам некалі гаварыў, трывога ў мяне была. Я не спаў усю ноч. Дарэчы, а як вы ўсё гэта можаце растлумачыць?

— А вось з-за гэтай заразы! — Каранёў паказаў рукою на бранзалет-датчык.— З яго ўсё пачынаецца... Некалі на Зямлі былі рабы, якім на шыю чаплялі металічныя ашыйнікі з надпісам... Потым былі прыдуманы грошы, з дапамогаю якіх чалавека трымалі ў пакоры,— падумаць толькі, з-за пустых паперак гэтулькі нявіннай крыві пралілося... Задумаешся ўсур'ёз дык і звар'яцееш... А вось на нашых касмічных караблях няма ні ашыйнікаў, ні грошай, а між тым мы, як і тыя рабы ў старажытнасці, як і тыя няшчасныя, якія некалі з-за грошай гнулі на полі спіну ад раніцы да вечара, не вылазілі цэлымі днямі з фабрык і заводаў, з падземных руднікоў, мы цяпер гэтак жа, калі не мацней, падпарадкаваны чужой волі... Некалі былі ашыйнікі, як на сабаках, вытатуіраваныя лічбы на руках, выстрыжаныя палосы на галаве, паласатыя халаты, а зараз — які прагрэс! — нам начапілі бранзалеты-датчыкі. І мы — шчаслівымі сябе лічым! Які жах! Да чаго можа дайсці словаблуддзе! Мы нават не задумваемся, што даўно ашуканыя... Вось, вось зноў пачынаецца боль,— Каранёў узяўся абедвума за галаву і прастагнаў: — О-о, як баліць галава! Ролю грошай цяпер займае наркатычная музыка, салодкія відовішчы і гульні са штучным розумам, гэта — наркотык, без якога каланісты ўжо не могуць абыходзіцца. Мы коцімся ў прорву, у прорву... Паглядзіце, падумайце пра наша жыццё: ужо рэдка хто з каланістаў падыходзіць да ілюмінатара, каб паглядзець на зоры, каб пабыць на адзіноце. Не, нашы каланісты баяцца адзіноты, яны не любяць чытаць кніг, як толькі ў іх паяўляецца вольная хвіліна, яны спяшаюцца да відэаэкранаў, дзе не трэба думаць і можна атрымліваць фізічную асалоду.

— Што ж цяпер нам рабіць? — спытаў я, ашаломлены логікаю разважанняў Каранёва.

— Не ведаю. Пакуль што нічога не ведаю... Як баліць галава,— Каранёў аж моршчыўся ад болю.

Тады я падняўся з крэсла і сказаў:

— Пайшлі да Мілера. Досыць яму з намі гуляць у хованкі.

І мы пайшлі на прыём да Мілера.

Мілер быў гэткі ж, якім бачыў яго некалі: на гладка паголеным твары задумёнасць. Ён сядзеў за сваім рабочым сталом, перад якім на высокай падстаўцы ўмацаваны відэаэкран прамой сувязі з Вялікім Камп'ютэрам. Правай рукою ён пачэсваў кончык носа,— мне падалося, што Мілер нечым надта заклапочаны. Як толькі Мілер нас убачыў, ён адразу ж схамянуўся, пакінуў свой занятак і як пад прымусам усміхнуўся робленай усмешачкай.

— Прашу садзіцца. Вы,— ён кіўнуў галавою на мяне,— здаецца, журналіст, летапісец наш. Ну а вас, Каранёў, я добра ведаю па вашых працах у галіне кібернетыкі. Што вас аб'яднала? Што прывяло да мяне? Прашу ўлічыць, што ў мяне распісана кожная хвіліна.

Як і звычайна, Мілер усё ўлічваў: і хуткаплыннасць часу, і абставіны... Мы маўчалі, не ведаючы, з чаго пачынаць гаворку.

Нарэшце выбухнуў Каранёў:

— Мілер, вы нас ашукалі, начапіўшы на рукі бранзалеты-датчыкі. Па-першае, скажыце, якую інфармацыю збірае Вялікі Камп'ютэр з дапамогаю гэтых хітрых датчыкаў.

— Тую, якая на сённяшні дзень патрэбна Вялікаму Камп'ютэру, а значыць — штучнаму розуму.

— Гаварыце дакладней. Я — спецыяліст, і не варта са мною гуляць у кошкі-мышкі...

Мілер тут жа перастаў усміхацца, нейкім новым халодным позіркам агледзеў нас, памаўчаў, а затым сказаў спакойна:

— Я і сам цяпер не ведаю. Думаю, гэтага цяпер ніхто на караблі не ведае. На першым часе Вялікі Камп'ютэр збіраў каля дзесяці паказчыкаў. Па меры таго як ён загружаўся інфармацыяй, колькасць паказчыкаў расла. Вы самі разумееце — наш мазгавы цэнтр увесь час удасканальваецца, яму патрэбна новая інфармацыя.

— А галасы людзей, размовы нашы перадаюцца Вялікаму Камп'ютэру? — не вытрымаў я.

— Зараз самі пачуеце,— Мілер націснуў кнопку на пульце кіравання відэаэкрана прамой сувязі і спытаў: — Камп'ютэр, вы галасы людзей, размовы збіраеце?

— Збіраю,— пачуўся ўжо знаёмы нечалавечы голас.

— Навошта? — зноў не вытрымаў я.

— Дзеля самааховы,— адказаў Вялікі Камп'ютэр.

І тут, забыўшыся, што размаўляю не з чалавекам, а з халоднай нежывой машынаю, я пачаў сыпаць пытанні:

— Якая самаахова? Ад каго?

— Ад непаладак. Ад тых людзей, якія могуць мне прыносіць непаладкі. Чалавек — біялагічная кібернетычная сістэма, якая можа прычыніць мне шкоду. Электрамагнітным полем я магу глушыць дзейнасць біялагічных сістэм.

— Ён што — поўнасцю самастойны? — спалохана спытаў я ў Мілера.

— Спакойна, спакойна,— сказаў Мілер.— Не забывайцеся пра дагавор, які вы некалі падпісалі. Відаць, вы дрэнна слухаеце лекцыі па філасофіі новага мыслення. Вы ўсё яшчэ спрабуеце жыць зямнымі паняццямі. Зразумейце, трапіўшы на карабель, вы сталі новымі людзьмі, у кожнага з вас, Чалавека Машыннага, новыя абставіны жыцця, у вас павінна быць цяпер прынцыпова новае мысленне. Я не разумею: няўжо вам кепска жыць? Вас кормяць, апранаюць, даюць работу, за вас думае, пра вас клапоціцца штучны розум — і вам усё блага... Ну, людзі, людзі, вам вечна не ўгодзіш!.. Няўжо вы не разумееце: тут, на караблі, без штучнага розуму і я, і вы, і ўсе каланісты нішто, мы тут жа загінем ад касмічнага холаду, мы ніяк не здолеем справіцца з кіраваннем карабля. І таму ўмешвацца ў складаную работу Вялікага Камп'ютэра вам ніхто не дазволіць. Няўжо вы яшчэ нічога не зразумелі?

— Чалавек павінен быць свабодным,— стаяў я на сваім.— А на нашым караблі людзі — вінцікі Вялікага Камп'ютэра.

— Якая свабода? Што вы маеце на ўвазе, калі гаворыце пра свабоду? Свабода забіваць бліжняга? Свабода шкодзіць рабоце Вялікага Камп'ютэра? Можа, вы ў гэтым бачыце ці шукаеце свабоду? Час прыёму

скончыўся.— Калі я і Каранёў сабраліся ісці, Мілер перапыніў нас:

— Дарэчы, інфармацыя для роздуму... Зразумейце, я тут ні ў чым не вінен. Жыццё на караблі плануецца штучным розумам. Таму запомніце: у будучым на мяне і на маю дапамогу не спадзявайцеся. Ні караць каланістаў, ні мілаваць, ні ўзнагароджваць — нічога гэтага я не магу рабіць. Я жыву гэтак жа, як і вы, падпарадкоўваюся рашэнням штучнага розуму. Мы ўсе — каторы раз паўтараю — жывём на адным караблі. Калі б я і ўздумаў умяшацца ў якую складаную сітуацыю, то мне ўсё роўна трэба параіцца з Вялікім Камп'ютэрам.

Ужо ў прыёмнай я заўважыў, як дрыжаць, уздрыгваюць пальцы маіх рук. І ўнутры ў мяне ўсё пахаладзела.

Дагэтуль, калі слухаў лекцыі па філасофіі новага мыслення, мне часта думалася, што ўсё гэта: і лекцыі, і штучны розум — забаўка, нечая хітрая гульня, а вось цяпер... Няўжо і сапраўды штучны розум кіруе намі?

Зноў мы пайшлі да ілюмінатара кругавога агляду. Каранёў маўчаў. І гэта мяне бянтэжыла яшчэ болей. Каб найхутчэй адагнаць ад сябе непрыемнае маўчанне, я спытаў:

— Каранёў, вы спецыяліст, няўжо ва ўсім гэтым не можа быць ніякага фокуса Мілера?

— У чым?

— Ну ва ўсім... Мне ніяк не верыцца, што Вялікі Камп'ютэр прымае меры для самаахновы. Не верыцца, што халодная машына можа быць самастойнай.

— А чорт яго ведае... Думаю, што ў прынцыпе пэўная самастойнасць Вялікага Камп'ютэра магчыма. Вы ж самі некалі казалі мне, што кібернетыку некаторыя вучоныя звязваюць з навукаю пра жывыя сістэмы, мэтаю якіх з'яўляецца выжыванне...

— Як жа так?.. Фантастыка, самая сапраўдная фантастыка...— мне ўсё яшчэ не верылася ў пачутае. У мяне было адчуванне, я — як у вар'яцкім сне, з якога не магу выкараскацца.

І тут Каранёў выбухнуў гулкай тырадаю:

— А як жа сталася, хто і які фокус правёў з людзьмі, што яны добраахвотна сталі рабамі грошай, відэаэкранаў, халодных машын, электрамузыкі? Цалюткія дні, тыдні, месяцы каланісты працуюць толькі дзеля таго,

каб паесці і паглядзець бяздумныя пацешныя відовішчы. Рабы, сучасныя рабы машын!.. Чаму, скажыце мне, чаму без усяго гэтага каланісты не могуць абыходзіцца? Я нават не магу сапсаваць Вялікі Камп'ютэр, бо, калі яго сапсую, разладзіцца работа ўсіх караблёў, усёй флатыліі і ўсе мы загінем. Ён, штучны розум, і сапраўды нам патрэбны. Але дзе ж тая мяжа, за якой мы страчваем кантроль над машынамі, над тым жа штучным розумам? Вы, гуманітарый, мне можаце сказаць, дзе і калі нам варта спыняцца? І ці можам мы спыніцца?..

Пасля той гаворкі Каранёў змяніўся яшчэ болей: стаў маўклівы, ціхі. Хоць знешне было ўсё так, як і дагэтуль: штодзень мы сустракаліся ў сталовай, па былой звычцы ішлі да ілюмінатара. Цяпер мы часта і доўга маўчалі, пазіраючы ў цемру на, як здавалася, блізкія зоры, што гарэлі роўным святлом: адны больш ярка, другія — ледзь бачна.

Недзе праз тыдзень пасля нашага наведвання Мілера, калі мы ўселіся перад ілюмінатарам, Каранёў, сумна ўсміхнуўшыся, сказаў:

— Павіншуйце мяне.

— З чым?

— З маёй жаніцьбаю. Без мяне мяне жэняць.

— Як гэта?

— Вельмі проста. Вы ж, мабыць, хадзілі і бачылі нашу спецшколу для дзяцей. Дзеці — наша будучыня. У нас павінны быць дзеці. А я — халасцяк. Заняты навукаю, я да сённяшняга дня не знайшоў сабе спадарожніцу. І вось Вялікі Камп'ютэр падабраў мне жонку. Яе біялагічныя і фізічныя даныя такія, што ў нас павінна атрымацца здаровае патомства. Мая халасяцкая вольніца хутка скончыцца.

— А можа, ва ўсім гэтым нічога кепскага і няма? — паціху спытаў я.— Дарэчы, вы хоць бачылі яе, сваю будучую жонку?

— Бачыў. Учора вечарам на відэаэкране Вялікі Камп'ютэр паказаў мне яе. Яна родам з афрыканскага ўзбярэжжа. Чорная, негрыцянка...

— Што ж у гэтым благога, Каранёў? — усё дапытваўся я.

— Паверце, я нічога благога супроць той афрыканскай жанчыны не маю. Ды толькі навошта чалаве-

ку розум, калі яго пачнуць адно з адным, бы жывёлу, зводзіць?.. Мо ёй хочацца выйсці замуж за афрыканца, а мне... Хай яна будзе кульгавая, не надта адукаваная, але ж ёсць яшчэ на свеце і каханне, тое сляпое каханне, калі людзі ні на што не зважаюць. Ці яго ўжо ў нас няма, не павінна быць? А-а,— Каранёў абыякава махнуў рукою,— ці мала чаго я хачу... Цяпер мы дзеці галактыкі і штучнага розуму, які нас апякуе. Як гаворыць Мілер, мудра апякуе... Апошнія дні, калі пачынаю аналізаваць наша карабельнае жыццё, то мне становіцца жахліва. Мо таму нашы каланісты гэтак ліпнуць да відэаэкранаў, што не хочуць, баяцца задумацца над сваім будучым лёсам?.

— Каранёў, а можа, уся бяда ў тым, што мы — старэем, а дзеці нашы, якія цяпер займаюцца ў спецшколе, якія вырастуць пад апекаю штучнага розуму, нічога дзіўнага ў сваім жыцці не ўбачаць. Для іх — ці думалі вы пра гэта? — Марс будзе сапраўднай радзімаю, а Зямля і зямное жыццё — чужымі... Ды, урэшце, так яно і ёсць. Пагля́дзіце: дзеці на нашым караблі ўжо не разумеюць бацькоў, нашы сумненні для іх дзіўныя. Яны ўжо ні ў чым не сумняваюцца.

— Штучны розум для іх — родны бацечка,— Каранёў быў нечым страшэнна ўзбуджаны. Каб хоць крыху развеяць яго змрочны настрой, я паспрабаваў перавесці гаворку на іншае:

— Кажуць, на будучым тыдні нашы караблі пачнуць тармажэнне. А там, глядзіш — пасадка, новае марсіянскае жыццё. Можа, і сапраўды мы старэем, га, Каранёў?

— А няхай усё ідзе пропадам! — ён падняўся з крэсла і пайшоў.

І цяпер я не сумняваўся: увесь час Каранёў думаў пра штосьці сваё, таемнае, пра што нікому не гаварыў. Нават і мне не гаварыў.

Што яго трывожыла? Што не давала спакою?

## 10

На нашым караблі, як і на другіх караблях флатыліі, усчалася падрыхтоўка да тармажэння.

У тыя імгненні, калі карабель наш павінен быў рабіць разварот да Марса, рухавікі яго выключа-

ліся — усе мы павінны адчуць бязважкасць. Таму цэлымі днямі каланісты прывінчвалі, прывязвалі і замацоўвалі прадметы, каб яны не плавалі ў караблі. Кнігі, крэслы, адзенне, мэбля, апаратура і прыборы, вада ў посудзе, зямля ў цяпліцах і аранжарэях, расліны — усё трэба было па-гаспадарску і надзейна ўпакаваць, загерметызаваць — падрыхтавацца да бязважкасці.

Разам з другімі каланістамі я таксама быў настолькі заняты работаю, што забыўся пра ўзбуджанага знерваванага Каранёва. Калі міжвольна і ўспаміналася апошняя гутарка ля ілюмінатара, то, як гэта звычайна бывае ў заклапочаных людзей, думаў: потым, потым ва ўсім разбярэмся, вось скіруем карабель да Марса і тады ўжо...

Памалу наш карабель пачаў паварочваць дзюзамі да Марса. У тыя імгненні я быў ля ілюмінатара і бачыў, як закружыла зорнае неба — адны сузор'і зніклі, а іх месцы замянілі новыя, нябачныя дагэтуль. Як і іншыя каланісты, я адчуў стан бязважкасці, які, відаць, кожны з нас адчуваў у маленстве падчас падзення... Памятаеце тыя імгненні, пра якія гавораць: падаў, аж дыханне займала... Дзе быў верх, а дзе ніз — было незразумела: я адштурхоўваўся ад падлогі і сцен карабля і плаваў у паветры, як у вадзе... Гэта было так здорава, мне хацелася крычаць ад радасці, бо я адчуваў сябе птушкаю... Я дурэў як малое дзіця: браў невялікія прадметы і шпурляў іх у паветра — яны ляцелі па роўнай лініі, а затым, ударыўшыся аб сцяну, вярталіся да мяне. Я нават зрабіў недазволенае: адкруціў водаправодны кран, і адтуль пачала выліваецца вада — вялікімі круглымі шарамі адлятала яна ад крана...

Рухавікі карабля былі зноў уключаны, зноў мы адчулі, дзе верх, а дзе ніз. Пачалася распакоўка, адвязка, разгерметызацыя — работы хапала ўсім.

На другія суткі пасля павароту карабля, калі яшчэ не ўсе работы былі завершаны, нечаканым загадам Вялікага Камп'ютэра мы вымушаны былі сабрацца ў зале пасяджэнняў. Калі ўсе каланісты ўселіся ў крэслах, на сцэну выйшаў Мілер. Ён быў узбуджаны, надзвычай бледны і, як мне падалося, нават спалоханы... Звычайна на яго твары вечна блукала ўсмешачка, але цяпер Мілеру было не да яе. Бліскучымі хуткімі вачыма ён агледзеў нас і пачаў ціха гаварыць:

— Каланісты, сягоння я вымушаны сказаць вам

нешта жахлівае. Гэта не маё рашэнне... Сягоння мы пачуем прысуд, які вынесе Вялікі Камп'ютэр аднаму з каланістаў. Гэты чалавек тайком захацеў загубіць штучны розум, а значыць — ён захацеў загубіць ідэю каланізацыі Марса. Калі гаварыць увогуле, гэты каланіст замахнуўся на наша вольнае свабоднае жыццё. Гэты каланіст — злачынец. Сутнасць справы вам растлумачыць сам Вялікі Камп'ютэр.

Тут жа за спіной Мілера засвяціўся матавы відэаэкран. Усе прысутныя ўбачылі знаёмы пакой карабля, у якім знаходзіліся блокі кіравання Вялікага Камп'ютэра: імі былі застаўлены ўсе сцены, ад падлогі да столі. Мы ведалі, што ўваход староннім у гэты пакой забаронены, туды маглі трапіць толькі спецыялісты. І вось там, у пакоі, стаяў з апушчанай галавою...

Хто б вы падумалі?..

Гэта быў Каранёў. Я яго ледзьве пазнаў, відаць, яго перад гэтым білі работнікі службы аховы Вялікага Камп'ютэра, бо твар Каранёва быў у сіняках, рукі яго былі забінтаваныя...

Пачуўся звыклы металічны голас Вялікага Камп'ютэра:

— Каланісты! Я, штучны розум, папярэджваў вас, што ўсімі магчымымі і немагчымымі сродкамі буду змагацца за сваё самастойнае існаванне. Днём і ноччу я абслугоўваю вас, днём і ноччу я думаю пра кожнага з вас, я заклапочаны вашым шчаслівым лёсам гэтак жа, як клапоціцца бацька. На сённяшні дзень вы не можаце абысціся без мяне, без маёй мудрай апекі, балазе што кожны з вас перад адпраўкаю ў гістарычнае падарожжа добраахвотна згадзіўся падпарадкоўвацца маім мудрым рашэнням. І ўсё ж, нягледзячы на мае шчырыя намаганні, не ўсе гатовы падпарадкоўвацца маім рашэнням і парадам. Сярод вас знайшоўся адзін каланіст, які ўздумаў умяшацца ў маю дзейнасць. Каланіст Каранёў захацеў перастроіць праграму работы Вялікага Камп'ютэра з такім разлікам, каб вы вярнуліся на Зямлю, дзе дагэтуль кожны з вас пакутаваў: крыўдаваў на бліжніх, недасыпаў, недаядаў... Тармажэнне карабля павінна было пачацца не ў тым кірунку. На Зямлі Вялікі Камп'ютэр быў бы непрыгодны, ён падлягаў бы дэмантажу, а значыць і я, штучны розум, павінен быў перайсці ў менш дасканалыя формы. З маіх лекцый па філасофіі новага мыслення

вам вядома, што гэтага не можа быць: некалі ўзнікшы ў слабым чалавеку, я павінен развівацца, пераходзячы з адной формы матэрыі ў іншую, больш дасканалую. Таму зараз я пачынаю публічны суд над каланістам Каранёвым.

Вось табе і на!..

Суд...

Спроба вярнуцца назад, на Зямлю...

Вось чаму Каранёў быў такі задуменны і маўклівы.

Голас Вялікага Камп'ютэра набіраў моц.

— Каланіст Каранёў... Вам не хочацца насіць бранзалет-датчык. Вы не згодны з маімі рашэннямі і загадамі. Вы нават замахнуліся на маё існаванне. Чаму? Вы можаце гэта растлумачыць каланістам? Вам што, не хапае ежы? Вас дрэнна кормяць? Вы не задаволены работаю? Чаму вы бунтуеце і гэтым калечыце жыццё ўсёй калоніі?..

Дзіўна ўсё гэта было. Фантастычна. І жахліва. Як у жудасным нерэальным сне... Было б усё прасцей, калі б Каранёва судзіў чалавек. Хай бы той жа Мілер... Жудасць была якраз у тым, што чалавека судзіў Вялікі Камп'ютэр. Я адчуваў, што яшчэ які адзіны міг, імгненне і — звар'яцею. Мо таму я не стрымаўся, крыкнуў:

— Мілер... Мілер, спыніце свой вар'яцкі эксперымент над людзьмі. Няўжо вы не можаце адмяніць усё гэта?.. Адключыце энергію ад Вялікага Камп'ютэра. Мы самі будзем судзіць Каранёва, калі ён вінаваты. Вядзіце Каранёва сюды, на сцэну, мы самі з ім разбярэмся, мы самі спытаем, чаго ён хоча...

— Так, вядзіце Каранёва на сцэну...— раздаўся яшчэ адзін голас у зале.

Мілер, які дагэтуль стаяў моўчкі побач з вялікім відэаэкранам, падняў угору руку і, калі ў зале стала ціха, сказаў:

— Каланісты, пры ўсім жаданні я тут не магу ўмяшацца... Памятаеце пра ўмову нашага жыцця: мы ўсе, і я, і вы, і нават каланіст Каранёў — усе без выключэння падпарадкоўваемся штучнаму розуму. Некалі вы самі на гэта згадзіліся. Чаму ж вы так хутка забыліся?

— Вы, Мілер, не забывайцеся і пра тое, што Каранёў — чалавек,— я крычаў колькі было сілы.— Чалавека не можа судзіць машына. Хай ён дурны, недаска-

налы, але ён лепшы за Вялікі Камп'ютэр. Чалавек вышэй за ўсё...

— Зразумейце і яшчэ адно,— Мілер гаварыў сваё,— калі б я і захацеў вызваліць Каранёва, то не змагу. Дзверы пакоя, дзе знаходзіцца Каранёў, заблакіраваны штучным розумам. Мы ўсе цяпер усяго толькі сведкі. Адключыць энергію ад Вялікага Камп'ютэра таксама нельга — адразу ж на караблі пачнецца хаос, разладзіцца работа ўсіх службаў, пачынаючы з работы атамнага рухавіка. А гэта — наша пагібель.

— Хопіць пустых не патрэбных нікому спрэчак,— зноў загучаў голас Вялікага Камп'ютэра.— Папершае, згодна пастулата Мілера, для мяне Каранёў не чалавек, а ўсяго толькі біялагічная кібернетычная сістэма, якая выйшла з майго падпарадкавання. Паўтараю сваё пытанне: Каранёў, вы можаце сказаць каланістам, што няправільна я зрабіў.

Нарэшце Каранёў падняў галаву. З экрана ён глядзеў на мяне затуманеным позіркам і паціху засмяглымі, пакусанымі да крыві вуснамі шаптаў:

— Самазабойцы... Апамятайцеся, пакуль не позна, каланісты. Гэта ён, Мілер, ва ўсім вінаваты... Ён захацеў...

Галава Каранёва панікла. Мы бачылі, што ён яшчэ штосьці прашаптаў, ды слоў ягоных не пачулі — відаць, Вялікі Камп'ютэр адключыў гукавы канал сувязі.

Па целе Каранёва прайшла сутарга, твар скрывіўся, мабыць, ад вялікага болю, Каранёў пачаў падаць на падлогу, калені сагнуліся, цела сутаргава курчылася. Ён ляжаў на падлозе скруціўшыся, прыцiснуўшы галаву да каленяў, відаць, Каранёву было надта балюча ад электрамагнітнага поля, якое ўключыў Вялікі Камп'ютэр.

Усіх каланістаў трэсла бы ў ліхаманцы...

На сцэне стаяў перад намі Мілер. Калі відэаэкран патух, Мілер сказаў:

— Што ж, вы можаце судзіць мяне. Калі на тое пайшло, я згодзен, каб вы судзілі мяне. Вы, а не Вялікі Камп'ютэр. Каранёў сказаў, што я вінаваты ва ўсіх бедах. Скажыце мне, у чым я вінаваты? Можа, у тым, што стварыў Вялікі Камп'ютэр, які дапамагае нам жыць у космасе? Але, калі б я не стварыў Вялікі Камп'ютэр, то яго стварыў бы хтосьці іншы — няўжо вы думаеце, што адзін чалавек можа спыніць развіццё тэхнічнага прагрэсу? У чым я вас ашукаў?

Вы можаце спакойна жыць... Я вам гэта гарантаваў?.. І, як самі бачыце, я гэта выконваю, кожны з вас цяпер мае бясплатную ежу і жыллё; калі будзем выконваць загады штучнага розуму, то гэткім жа спакойным будзе наша жыццё і на Марсе. А можа, я вінаваты ў тым, што Каранёў звар'яцеў? Што ж, тады судзіце мяне, судзіце тут жа, цяпер...

Мілер гаварыў, а словы яго да нас не даходзілі, яны нечакана страцілі свой сэнс, яны былі ўсяго толькі гукавымі хвалямі...

— Скажыце, што вы хочаце,— ляцела міма нас, зусім не кранаючы, не выклікаючы ніякіх пачуццяў,— і мы, абмеркаваўшы вашы прапановы, паспрабуем змяніць рэжым работы Вялікага Камп'ютэра. Пойдуць новыя больш займальныя відэапраграмы, зменім графікі работы і дзяжурстваў... Але ж галоўнае, паўтараю, самае галоўнае, пра што вы ніколі не павінны забываць і пра што не хацеў думаць Каранёў: без Вялікага Камп'ютэра мы не можам абысціся, калі б хто і захацеў...

Мілер гаварыў і гаварыў, а ў вачах маіх стаяла жудасная гібель Каранёва.

Першая смерць... Як усё жудасна і проста...

Разбіты ўшчэнт, стомлены гэтак, быццам не спаў шмат начэй, я ледзьве перастаўляў ногі, калі выходзіў з залы пасяджэнняў.

Што хацеў сказаць Каранёў? Да чаго ён імкнуўся?

І нечакана надзвычай ясна мне падумалася: вось яно, здарылася, радуйся чалавецтва: машына, Вялікі Камп'ютэр і сапраўды ўладарыць над людзьмі...

Відаць, так падумалася не толькі мне аднаму, бо з гэтага дня ўсе каланісты сталі надзвычай ціхімі, пакорлівымі і да ўсяго абыякавымі. І цяпер адзінае, што хоць крыху цікавіла каланістаў — гэта была будучая пасадка на Марсе. І часам мне думалася: калі б не было надзеі на новае марсіянскае жыццё, то каланісты маглі б звар'яцець.

## 11

Белым пяском засыпаюцца вуліцы нашага горада, таго вялікага горада, які мы пабудавалі на Марсе ў даліне Марынера — вялікага экватарыяльнага каньёна...

Пасля смерці Каранёва ўсё далейшае для мяне было як у сне доўгім. І пасадка на Марс, і тыя высокія

дваццацікіламетровыя горы з кратэрамі, над якімі мы час ад часу праляталі на сваіх верталётах, і чужыя незнаёмыя сузор'і над галовамі, якія загараліся штовечар, і невялічкае халаднаватае Сонца, што ледзь-ледзь саграваала нас, і нават першыя збудаванні, якія мы накрывалі тоўстай празрыстай шклапластыкавай страхою — усё гэта было як у цяжкім бясконцым сне...

Відаць, такое пачуццё было не толькі ў мяне.

Бо і пасадка на Марс, і новае марсіянскае жыццё — нічога цяпер не цешыла людзей. Хоць пасля паказальнай смерці Каранёва каланісты не бунтавалі, спраўна выконвалі загады Вялікага Камп'ютэра, вечарамі і пасля работы, як і дагэтуль, яны глядзелі займальныя відовішчы, слухалі музыку, але з кожным тыднем каланісты ўсё менш і менш размаўлялі між сабою, усё радзей на іх тварах бачыліся ўсмешкі; штосьці новае, дзелавітае і халоднае, паяўлялася ў іх паводзінах, у іх словах. Нечым каланісты ўсё больш і больш нагадвалі робатаў... І, можа, самае жудаснае было ў тым, што цяпер нашы каланісты ні аб чым, апроч работы і адпачынку, надта і не задумваліся: ні пра сваё будучае, ні пра мінулае, а калі і былі якія цяжкасці ў іх жыцці, яны абыякава гаварылі: «А-а, не хапала клопатаў, няхай ва ўсім гэтым Вялікі Камп'ютэр разбіраецца, ён усё ведае».

На другі год жыцця марсіянскай калоніі нашы жанчыны перасталі нараджаць дзяцей. Фізічна яны былі здаровымі, але дзяцей не мелі. Каланісты пачалі пагаворваць, што ў сем'ях знікла каханне, таму і дзяцей няма...

Што такое каханне?..

Некалі я надта і не задумваўся над такімі пытаннямі, але тут, на Марсе, калі я штодзень бачыў халодныя абыякавыя твары каланістаў, якіх нічога надта не хвалявала, тых каланістаў, якім было абыякава, з кім і як жыць, бо яны ведалі, што днём і ноччу за іх думае Вялікі Камп'ютэр, паверце, толькі цяпер я зразумеў, якія ж гэта таямніцы: каханне, жыццё чалавечае...

У каланістаў не было дзяцей, а гэта значыць — у нас не было будучага.

Тое ж маладое пакаленне, якое выхавалася ў спецшколах караблёў, для каго паняцце штучнага розуму было блізкім і родным, жыло па сваіх незразумелых дарослым законах. Моладзь часта ні з таго ні з сяго

збіралася ў агромністыя натоўпы і тут жа пачынала бойку; дзе заўгодна маладыя людзі маглі распрануцца нагала, прылюдна яны маглі цалавацца між сабою, мілавацца і, калі чулі заўвагу ці абурэнне дарослых, гаварылі: «А якое ваша дзела? Ваша зямная мараль даўно састарэла. Мы жывём па-новаму. А калі замінаць будзеце, дык і вайну вам аб'явім». Пра сем'і, пра выхаванне дзяцей — пра гэта моладзь і думаць не хацела.

Мы ўвачавідкі каціліся да катастрофы. Усе гэта ведалі. Але ніхто нічога не рабіў для выратавання.

На трэці год марсіянскага жыцця, калі мы ў цэнтры горада пабудавалі палац для Вялікага Камп'ютэра, калі накрылі ўвесь горад лёгкай шклапластыкавай страхою, тады штосьці новае пачало праяўляцца ў паводзінах каланістаў. Часта ні з таго ні з сяго, без ніякага загаду штучнага розуму, перад будынінай Вялікага Камп'ютэра збіраўся гурт каланістаў. Нічога кепскага каланісты не рабілі, нават ні пра што не гаварылі — каланісты гадзінамі глядзелі на будыніну, у якой знаходзіўся штучны розум, быццам нечага чакалі ці намагаліся ўспомніць нешта незвычайна важнае і ніяк не маглі.

Штосьці новае выспявала ў душах каланістаў, хоць што — ніхто толкам не ведаў, гэтага новага не мог нават растлумачыць і штучны розум. Відаць, Мілер адчуваў, што насоўваецца нейкая бяда, таму ён часта паяўляўся ў натоўпе сярод засяроджаных маўклівых каланістаў, спрабаваў сыпаць жарцікамі, анекдотамі, ды ніхто на яго не зважаў...

Новая ідэя азарыла Мілера: рашыў праводзіць мітынгі, на якія склікаў усіх каланістаў. На мітынгах Мілер гаварыў прыкладна так:

— Каланісты, браты мае... Давайце думаць разам, як палепшыць наша становішча. Давайце возьмемся за рукі і пачнём радавацца, давайце заспяваем вясёлыя песні, якія вы штодзень чуеце з відэаэкранаў, бо ў нас усё ёсць: і хлеб, і да хлеба... Прапануйце што лепшае, калі ласка, у нас поўная свабода выказвацца, і мы, параіўшыся з Вялікім Камп'ютэрам, палепшым наша агульнае шчаслівае жыццё...

Але цяпер абыякава слухалі людзі Мілера, ніхто нічога не прапаноўваў,— халоднымі бяздумнымі вачыма глядзелі яны перад сабою на трыбуну, дзе высі-

лася постаць Мілера, і зразумела было: чым гучней і адчайней выступаў Мілер, тым большую агіду выклікаў ён. І Мілер неяк хутка разумеў настрой каланістаў — замаўкаў, мітынг сам па сабе распадаўся. Людзі зноў маўкліва ішлі да палаца Вялікага Камп'ютэра, дзе гадзінамі караталі час.

Я адчуваў: так доўга не магло працягвацца, штосьці павінна было здарыцца.

Мы ўсё мелі, тут Мілер гаварыў праўду, і хлеб, вырашчаны на марсіянскіх палях, і адзенне, зробленае на нашых заводах з сінтэтычных тканін, і ваду, сабраную з палярных марсіянскіх шапак, але ў нас не было адзінага, неабходнага чалавеку: кахання, беспрычыннай радасці жыцця... Гэта так жахліва, калі чалавек нічому і нікому не верыць, не радуецца!..

Нарэшце тое незразумелае, што месяцамі выспявала ў душах каланістаў, выбухнула...

Неяк, сабраўшыся натоўпам ля будыніны Вялікага Камп'ютэра, яны пачалі кідаць камяні ў вокны. Маўкліва, без вялікай злосці, быццам яны рабілі даўно вядомую работу, каланісты нетаропка шпурлялі і шпурлялі іх. Было ясна: пачынаецца пагром Вялікага Камп'ютэра.

— Стойце, апамятайцеся, што вы робіце?..— між каланістаў паявіўся спалоханы Мілер. Ён бегаў, хапаючы каланістаў за рукі, і ўсё крычаў: — Вы загубіце сябе. Мы ўсе прападзём без Вялікага Камп'ютэра. Без дапамогі Вялікага Камп'ютэра ніводзін з нас не зможа вярнуцца назад, на Зямлю...

Пасля гэтых слоў адзін з каланістаў схапіў Мілера загрудкі і крыкнуў:

— А-а, падлюга, вось што ты заспяваў!.. Значыць, ты тайком ад нас збіраўся вярнуцца на Зямлю. Нас тут захацеў пакінуць?.. Вось які ты эксперымент задумаў над намі! Вось чаму ты так баяўся Каранёва! Ты баяўся, што ён здагадаецца пра твае планы. Ты хацеў панаваць над намі. Нават і не ты, а тыя, хто арганізаваў усю эспедыцыю. Скажы нам, хто аплаціў гэтае дарагое падарожжа? Хто яго фінансаваў?

Не пачуўшы адказу ад спалоханага пабялелага Мілера, каланіст усё крычаў і крычаў. Ён задаваў маўкліваму Мілеру пытанні і сам жа на іх адказваў:

— Усё эксперыментуеце, усё яшчэ марыце пра сусветнае панаванне. Скажы нам, хто стаіць за тваёй спіной? Вось што вы задумалі: праверыць, ці можна

панаваць над чалавецтвам з дапамогаю камп'ютэраў! Не ўдаецца вам, і таму шалееце, падлюгі, усё новыя ідэі падсоўваеце...

Усё шчыльней і шчыльней абступалі людзі Мілера, і ўсё гучней чуўся крык каланіста...

* * *

І зноў уздымаецца халодны марсіянскі вецер, які скрозь дзіркі шклапластыкавай страхі выдзімае апошняе паветра. Замярзаюць пальцы рук. Апошнімі намаганнямі я дапісваю нашу сумную трагічную гісторыю, якая ў каторы раз сведчыць пра адзінае: чалавека скарыць нельга. Яго можна адурачыць на час, як адурачылі некалі нас, з яго можна здзекавацца гадамі, але потым, нарэшце, надыходзіць той час, калі спакутаваны чалавек кідае выклік уладарам і перастае баяцца нават самой смерці. І гэта азначае — надышоў горкі час справядлівай расплаты...

# Пярэварацень

## АПОВЕСЦЬ

*Вовколакъ 1) Вовколакъ, оборотень въ волка. По народному поверью вовколакъ есть или чародей самъ, обращающійся въ волка, чтобы делать пакости въ волчьемъ виде, или лицо, чародействомъ обращенное въ волка. Первый делаетъ много вреда соседямъ своимъ, зная все ихъ оплошности; последній, как сострадательное лицо, тихъ, не причиняетъ вреда, хотя и долженъ огрызаться отъ собакъ. Первый самъ обращается въ человека, когда хочетъ, если не убьютъ; а последній до тех пор страдаетъ, пока не сжалится над ним злодей его. 2) Волкъ, зашедшій изъ другіх стран, шакалъ. Вовколаки появились у насъ.*

Н а с о в і ч І. І. «Словарь белорусского наречия»

Раздзел першы

# АБУДЖЭННЕ

Як пасцелеш, так і выспішся.
*З народнага*

Ішоў ён па чорнай каляіністай дарозе, якая ўцягвалася ў глухі цёмны лес. Адкуль — не ведаў, проста, як бывае ў снах, ведаў, што яму абавязкова трэба ісці па гэтай дарозе, якая немаведама дзе пачынаецца і немаведама куды выведзе. І тады, перад самым лесам, убачыў дзяўчыну — у доўгай, квяцістай, з плечукамі, сукенцы, у той сукенцы, якія дзяўчаты насілі пасля вайны. І туфлі ў яе былі гэткія ж, якія насілі дзяўчаты пасля вайны,— з шырокімі насамі, на невысокіх шырокіх абцасах.

Была яна сярэдняга росту, па-вясковаму паўнацелая, з прыпухлымі вуснамі, якія бываюць у некапрызных жанчын. Хоць твар у яе быў не фарбаваны, але здаровая ружовасць прабівалася на гладкіх шчоках. І яшчэ ў яе меліся доўгія чорныя валасы, заплеценыя ў тоўстую, як рукою ўзяць, касу. Гэту цяжкую касу яна перакінула цераз плячо на поўныя грудзі і, мабыць, каб хоць чым, ды заняцца, нетаропка перабірала валасы — то заплятала, то расплятала...

Ён падышоў упрытык да дзяўчыны і, сутыкнуўшыся з ёю позіркам, нечакана чагосьці збаяўся і засароме́ўся — аж вусны задрыжалі. Спачатку ён і не разабраўся: чаго ж. А потым дайшло: а раптам яна знікне і тады па гэтай чорнай гразкай дарозе давядзецца плесціся аднаму.

Асцярожна ён працягнуў руку да яе белых рук, што гладзілі, перабіралі валасы. Цяпер дзяўчына пільней зірнула на яго,— абвяла ўсяго цёплымі мяккімі блакітнымі вачыма,— і тады ён павесялеў: не праціўны ёй...

Тут жа новае жаданне паявілася ў яго: захацелася рукамі абняць яе маладое пругкае гарачае цела, адчуць яе, жывую... Развёўшы рукі, ён памкнуўся да дзяўчыны.

Ды ў апошняе імгненне наткнуўся на яе новы колкі

халодны позірк. Дайшло тут жа: не захоча яна цяпер быць ля яго.

І праўда: дзяўчына адвярнулася, а ён, стоячы побач, не ведаў, што рабіць, ведаў толькі, што сілаю нічога не даб'ешся.

Не трэба было спяшацца...

І зноў, як гэта бывае ў снах, невядома чаму, як хто загадаў, ён адчуў, што трэба ісці па дарозе ў глухі лес. І ён паплёўся з неахвотаю, быццам хтосьці нябачны і дужы яго ў плечы турыў. Чым далей адыходзіў ад дзяўчыны, тым большала горыч у душы. З цяжкасцю ён выцягваў ногі з гразі, і білася, пульсавала ў душы адно і тое ж: шчасце было побач, ды сам жа яго і разбурыў. Чамусьці ён ведаў, што з той дзяўчынаю ён ужо ніколі не сутыкнецца. Забытае ў жыцці пачуццё маладога кахання гэтак моцна апякала, не давала дыхаць, што было хоць заплач.

Дарога знікла, і ён убачыў сябе ў лесе, змрочным, глухім і бясконцым. Ён стаяў ля толькі што складзенай хаціны і бачыў, як з-за цёмна-зялёных калматых елак на яго ідзе чорная карова. Яна была страшная. Наставіўшы рогі, яна ішла на яго. Куды падзецца? Ён азірнуўся і, збаяўшыся каровы, пайшоў у тую новую хаціну з нейкім дзіўным пачуццём, у якім спляліся і адзінота, і горыч толькі што пражытага, страчанага навек кахання, і боязь чорнай каровы...

З гэтым пачуццём Віктар Іванавіч і прачынаецца — быццам сон быў рэальнасцю, быццам усё паўтарылася, усё вярнулася назад аж на трыццаць гадоў, у тыя пасляваенныя часы, калі дзяўчаты насілі доўгія прыталеныя сукенкі з плечукамі, а ў яго мелася футболка вельветавая, шырокія картовыя штаны і — самая мода — белыя брызентавыя тапачкі, што чысціліся зубным парашком. Яшчэ некалькі імгненняў, ужо адплюшчыўшы вочы, Віктар Іванавіч адчувае лёгкае святочнае трымценне душы, з якой некалі лілося нябачнае святло, якім некалі саграваласяўсё жывое і нежывое і якое, як гэта зразумеў толькі цяпер, пасля дзіўнага сну, надае жыццю найгалоўнейшы сэнс...

Але тут жа пачуццё кахання знікае, як у цёмнай каламутнай вадзе хаваецца. У душы паяўляецца горкае адчуванне страты, гэткае ж балючае, як і ў сне.

Віктар Іванавіч рэзка адкідае коўдру, падымаецца і садзіцца на канапе. Пальцамі ён доўга расцірае скуру на скронях і заадно кідае позірк на будзільнік, што стаіць на рабочым стале. Палова сёмай. Якраз той час, у які хацеў прачнуцца. Гэту здольнасць — прачынацца ў загадзя вызначаны час — Віктар Іванавіч улавіў у сабе ў маладыя гады, калі студэнтам перад экзаменамі прыходзілася спаць па дзве-тры гадзіны ў суткі. Ён рэдка задумваецца, чаму, адкуль у ім такая здольнасць. Неяк Віктар Іванавіч чытаў, што ў гэтым выпадку спрацоўвае біялагічны гадзіннік, які маецца ў кожным жывым арганізме,— гэтага тлумачэння яму даволі.

Баліць галава. Як ні расціраеш скроні, а боль не сціхае. У роце непрыемная сухасць і горыч. Мо таму і сон такі яркі, у якім сплялося чортведама што.

Памалу ў свядомасць укліньваецца іншае: побач, у другім пакоі, спіць Ліда. У яе залішне распаўнелае цела, якое даўно саромеецца паказваць перад ім, цяпер недзе прыадкрыты рот, падбароддзе, замест шыі дзве папяровачныя складкі... Яшчэ з маладосці Ліда ў сне гучна пасапвала, а як апошнія гады, дык і пахрапвае, з-за гэтага яны і не спяць побач.

Уражанне ад сну і напамінак пра Ліду — як два сусветы, што сутыкаюцца.

Ці то ад галаўнога болю, ці то ад яркага сну, але ў Віктара Іванавіча нечакана ўспыхвае раздражненне. Невядома на каго. Калі б побач была Ліда, але ж яе няма. Гэтае незразумела на каго ранішняе раздражненне апошні год не пакідае Віктара Іванавіча, апошнія месяцы да ўсяго яшчэ прымешваецца непрыемная горыч і сухасць у роце, ад якой прыходзіцца прачынацца сярод ночы і піць ваду. Мабыць, разгульваецца печань. Трэба схадзіць у лечкамісію...

З неахвотаю, цераз сілу Віктар Іванавіч нацягвае на сябе добротны шарсцяны спартыўны касцюм і, пазяхаючы, насунуўшы на ногі тапачкі, кіруе ў ванную,— добра ведае, што пазней, сярод дня, раздражненне невядома на каго знікне, адсунецца да наступнай ночы студыйнымі клопатамі, а пакуль — як мага хутчэй трэба цераз сілу расхадзіцца.

У ванне Віктар Іванавіч пільна глядзіць у люстра: ці варта галіцца?

Ён бачыць перад сабою саліднага мажнога мужчы-

ну. Сустрэўшыся з їм позіркам, Віктар Іванавіч тут жа забывае і пра сон, і пра галенне, і нават пра галаўны боль,— са здзіўленнем глядзіць на чалавека, у якога пільны ўчэпісты позірк цёмных вірлавокіх вачэй, над якімі кусцяцца гэткія ж цёмныя, як фарбаваныя, бровы, сухаваты рэзка акрэслены амаль без вуснаў — як нажом паласнуты — рот, вялікі прадаўгаваты нос, круглае падбароддзе, якое часта бывае ў спартсменаў, цёмныя жарсткавыя валасы на галаве. Хоць на макаўцы прабіваецца плеш, але яго яшчэ можна схаваць.

Што за незнаёмец перад Віктарам Іванавічам?

*Як мне надакучыла прытворства тваё!*

*Ты зырышся на мяне і робіш выгляд, што не пазнаеш. Ты яшчэ спрабуеш паводзіць сябе так, быццам ты — гаспадар свайго лёсу, а я — твой служка ці раб...*

*Альбо ты наіўны, альбо думаеш абдурыць мяне... Прызнайся хоць сабе на адзіноце ў гэты міг, калі цябе ніхто не бачыць, што даўно, каторы ўжо год, ты паслухмяна скачаш пад маю дудку, робіш тое, што табе падкажу ці загадаю: і на трыбуне перад мікрафонам, калі чалавек выразна адчувае страшэнную адзіноту, і падчас праглядаў новых фільмаў, на рэдсаветах, і ў фестывальных паездках, калі ты акружаны знаёмымі і незнаёмыі людзьмі, і з начальствам, і з падначаленымі — усюды, ні на міг не пакідаю я цябе, і без мяне табе ўжо ніколі і ніяк не абысціся.*

*Вось і зараз...*

*Табе нечакана стане боязна, і гэта — ад яснай здагадкі пра маё рэальнае існаванне. Гэта здагадка цябе спалохае, ты тут жа пастараешся забыцца пра яе і таму возьмешся за брытву, за памазок. Ты пачнеш галіцца, і гэтым заняткам, як штодзённай работаю дома і на студыі, як свядомымі абавязкамі і аўтаматычнымі звычкамі ты пастараешся адгарадзіцца ад мяне, не думаць пра маё існаванне.*

*...Як у звычайным будзённым жыцці, заняты клопатамі і планамі, надзеяю на лепшае жыццё, не думае пра сваю непазбежную смерць кожны чалавек.*

*Што ж, забывайся на час...*

*Як сабаку на ланцугу, я дам табе пэўную свабоду. Цешся ёю да пары да часу. Пачынай галіцца.*

Які незнаёмец?

Ніякага незнаёмца перад Віктарам Іванавічам няма і быць не можа, ён жа — адукаваны самастойны мужчына, які даўно па сваёй ахвоце адрокся і ад бога і ад чорта, ён жа цяпер — не малое бяздумнае хлапчанё, якое калісьці адчайна і старанна спрабавала зазірнуць за край люстра, каб сустрэць там свайго рэальнага двайніка.

Бацькі разжыліся на шафу перад самай вайною, калі яму было гадоў пяць, не болей. Як і ўсё новае, гэту шафу прывезлі з Бярозава: высокую, цёмна-карычневую, з тым прывабным бярозаўскім пахам, якім востра пахла ўсё, што прывозілі адтуль: цёмная не маркая матэрыя, з якой маці шыла адзенне, мяккі салодкі хлеб, бліскучая кніжка... Пасярод дзверцаў у шафе блішчэла вялікае люстра. Калі ў хаце нікога не было, ён не мог адарвацца ад такога люстра, то падыходзіў упрытык да халаднаватага гладкага шкла, то адступаўся і, зрабіўшы выгляд, што яму абыякава што там, за шклом, скоса хуценька азіраўся, то, адчыніўшы дзверцы шафы, імкнуўся зазірнуць за край люстра... Але той другі, танклявы, з чубчыкам на галаве, хлопчык, які насіў гэткае ж, як і ў яго, адзенне, які ўдала капіраваў кожны ягоны рух, які і дражніў яго гэтак жа, які нават і язык яму выстаўляў гэтак жа, быў надта ўжо хітры, бо, як толькі зазірнеш за край люстра, ён тут жа немаведама куды знікаў, як і ён сам мог знікнуць па сваім жаданні немаведама куды, калі з аднагодкамі гуляў у хованкі і, заплюшчыўшы вочы з усёй сілы, затаіўшы дыханне ў кустах алешніку ці за вуглом хаты, чуў далёкае-далёкае, як з таго свету, што яго ўжо ніяк не датычыла: «Раз, два, тры, чатыры, пяць, я ўжо іду шукаць...» Шукай, шукай, але ж яго ты ўжо нідзе не знойдзеш, бо, калі гуляеш у хованкі, ты ў любы міг па сваім жаданні можаш знікнуць не толькі з сяла, а і з усёй зямлі, як знікае немаведама куды ягоны двайнік у люстры.

Не адводзячы позірку ад люстра, Віктар Іванавіч праводзіць рукою па калючым падбародку. Цераз сілу ён адганяе ад сябе няясную цьмяную думку.

Галіцца трэба, тым больш сягоння, у такі адказны дзень, ад якога многае залежыць.

Ён бярэ з паліцы памазок, брытву. Трэба памяняць лязо — выкінуць старое, паставіць новае. Выцягваючы

новае лязо са спецыяльнага прыстасавання, Віктар Іванавіч чамусьці доўга і пільна разглядае лязо. Быццам першы раз бачыць. Ён паварочвае ў руцэ яго і так і гэтак. І зноў, так атрымліваецца, думаецца пра штосьці няяснае, што трэба ўспомніць, ды — не ўспамінаецца.

Добрае лязо. Вострае...

Некалькі разоў можна галіцца...

Арбітальныя станцыі з касманаўтамі па паўгода кружацца ў космасе, а як лязо талковае ці тыя ж каляровыя фламастэры — з-за мяжы прывозяць, нафту перавадзячы...

Але ж не гэта яго па-сапраўднаму трывожыць, не...

Так і не ўспомніўшы тое, галоўнае, што трэба было ўспомніць, Віктар Іванавіч рашуча пачынае галіцца: памяняўшы лязо, разводзіць у гарачай вадзе мыльную пену, намыльвае падбароддзе і шчокі...

Пагаліўшыся, Віктар Іванавіч кожны раз адчувае сябе мамаладзелым, быццам дзесятак год скідае. Амаль такое ж пачуццё ў яго з'яўляецца, калі апранае свежую кашулю ці новы касцюм. Настрой стае лепшым. Ды і непрыемная сухасць у роце не адчуваецца.

Але сон помніцца ўвесь, да дробязяў. Як і не праходзіць адчуванне толькі што перажытага жаху чорнай каровы.

Віктар Іванавіч вяртаецца ў кабінет, дзе, пасля таго як Аня выйшла замуж, праводзіць усё больш і больш часу. Прыбраўшы пасцель, ён ідзе на кухню. Трэба згатаваць каву. Каву ён гатуе сам, не давярае нават Лідзе. Апошнія гады Віктар Іванавіч стараецца як мага радзей ужываць каву,— пасля не спіцца і доўгай чорнай ноччу выразна адчуваецца, як трывожна і часта татахкае сэрца.

Але надыходзяць такія часы, як сягоння, калі без кавы ніяк не абысціся.

Віктар Іванавіч налівае ў кававарку ваду з-пад крана, засыпае ў ваду тры чайныя лыжкі кавы, лыжку цукру. Каву ён ужывае не растваральную, за якой у горадзе ганяюцца, а тую, якую сам змалоў з цёмна-бурых зярнят.

Вада ў кававарцы закіпае, паверхня яе ўспухае, пеніцца,— у апошняе імгненне, калі здаецца, што кава вось-вось збяжыць, Віктар Іванавіч выключае газ. На кухні разносіцца прыемны казытлівы пах.

Ён любіць вось такія імгненні, калі на адзіноце гатуе каву. Гэта напамінае маладосць, калі толькі-толькі пачынаў працаваць у газеце і ранкам пісаў артыкулы. І не толькі артыкулы злабадзённыя,— тады ён спрабаваў пісаць прозу, дзе хацеў выказаць запаветнае, чаго, здавалася, ніводзін чалавек на свеце не адчуваў і не перажываў. Вось гэтак жа раніцаю ён гатаваў сабе каву, а потым, седзячы за сталом, адчуваючы ў целе нязвыклую яснасць і раскаванасць, мог забываць пра рэдакцыйны шум і тлум і трапляць у іншы свет, у які, апроч яго, ніхто не мог трапіць.

**Ты не быў абцяжараны ні грашыма вялікімі, ні пасадаю тлумнай, ні ганаровымі званнямі — нічым гэтым, што ўзвышае над простым чалавекам і што адгароджвае ад яго. Таму ты быў лёгкі на пад'ём, таму я мог весці цябе за сабою, паказваючы прыгажосць там, дзе сытыя і атлусцелыя яе не бачаць. І яшчэ — ці помніш толькі? — я гаварыў табе: пакажы прыгажосць людзям. Пакажы і не спакушайся ні грашыма, ні пасадамі, ні званнямі — не спакушайся дарагой заблытанай гульнёю, якой гэтулькі спакусілася і бясследна загінула.**

**Помніш, як разам мы вярталіся ў тваё маленства?..**

**Мы падоўгу купаліся ў рачулцы — якая цёплая была вада! — лёгка насіліся па запыленай дарозе, па зялёным выгане, ля балота і дзе босыя ногі твае, твае хуткія босыя ногі самі па сабе ведалі і знаходзілі чыстыя лапікі муравы, табе нават і глядзець не трэба было ўніз, на тыя калючкі; мы лавілі і ніяк не маглі злавіць вялікіх празрыстых стракоз ля ракі; скупнуўшыся ў рачулцы, мы, абсыпаўшыся белым гарачым пяском, ляжалі на беразе і разглядалі воблакі ў небе,— штохвілінна размываючыся, клубячыся, набягаючы адно на адно, яны несліся над тваёй галавою, паказваючы то казачных грывастых коней, якія, мабыць, вазілі старога бурклівага Іллю-прарока, то рыб агромністых, што ў рачулцы не маглі ўмясціцца, то звяроў злых і нябачных, што за ракою ў бясконцым лесе блукалі, адзін малюнак набягаў на другі, коні станавіліся рыбамі, а рыбы — звярамі, і ва ўсім гэтым, што ўвачавідкі адбывалася перад табою, ты адчуваў прысутнасць найвышэйшай таямніцы, да якой далучаешся, і таму быў шчаслівы і мудры, якім пасля ўжо не мог быць... Мы глядзелі, падоўгу разглядалі вячэрняе сонца, якое за далёкім лесам свяціла над іншы-**

мі казачнымі краінамі, там, дзе хлеба было ўдосталь, дзе нават і цукар мог быць на стале, еш яго ўволю — хоць лыжкаю чэрпай, там, дзе няма злосці і сварак, дзе людзі ходзяць толькі ў бацінках і туфлях, дзе хуткія машыны і трамваі, там, дзе ўсё залаціста-ружовае, пачынаючы з воблакаў... І душа твая трымацела ад прадчування будучага шчасця, з якім ты абавязкова павінен быў сутыкнуцца ў той далёкай залацістай ружовай краіне, дзе ёсць магутныя грывастыя коні, вялікія рыбы, звяры нябачныя, дзе ёсць усё, што душа пажадае...

Ці не былі тыя ціхія імгненні самымі шчаслівымі ў тваім жыцці?

Ты яшчэ не ведаў, не здагадваўся нават, што ёю, адзінай, безабароннай прыгажосцю, усё вымяраецца: дабрыня і зло, падзенне і ўзвышэнне, смерць і бяссмерце...

...Не лагічнымі законамі, якімі ўсё на свеце можна апраўдаць, не сквапным пазнаннем, якое не ведае межаў, бо, забыўшыся на прыгажосць, заклапочаны законамі і пазнаннем, чалавек пачынае тут жа губляць сябе ў свеце, у якім са здзіўленнем і роспаччу для сябе нічога, апроч хаосу і бяздумных законаў, не знаходзіць...

Чаму ж пазней, калі ты, чалавек, па сіле стаў богу падобны, змог пабываць у той краіне, дзе хлеба і цукру на сталах еш колькі ўлезе, дзе машын поўна, калі самалётам падняўся вышэй аблокаў, адкуль, скрозь камячкі ваты, разглядзеў безабаронную зямлю, чаму ж пазней ты перастаў адчуваць тое радасна шчаслівае трымценне душы, якое гэтак востра адчуваў некалі?..

Што ты знайшоў, а што страціў?

Помніш, як у першым класе па вясне, вяртаючыся са школы, з моста ля берага ракі ў кустах алешніку ты ўбачыў мокрае знямоглае кацянятка? Ты помніш той міг, калі цябе як іголкаю працяло ад жалю да гэтага няшчаснага кацяняці, якое нехта кінуў у раку з надзеяю, што яно патоне?..

Ні аб чым не задумваючыся, ты ўгрунь спусціўся з моста і пачаў прабірацца па мокрым набраклым вадою снезе да той крывой алешыны на беразе, ля ствала якой, учапіўшыся кіпцюрамі, спалохана мяўкала яно, маленькае, бездапаможнае, шэрае, са зліплай поўсцю стварэнне, пакаранае толькі за тое, што нарадзілася...

Ты не зводзіў з кацяняці вачэй і ўвесь час адчуваў сябе гэтак, быццам цябе выгурылі з цёплай хаты навечна і вось цяпер ты, увесь мокры, сяк-так прыляпіўся да чорнага ствала алешыны, і цябе вось-вось змые ледзяной вадою.

Унізе ля берага снегу намяло нямала, гурба ўсё большала і большала, ды гэта не было такім ужо і жахлівым, горай было, што пад снегам пачыналася вада. І чым бліжэй ты падбіраўся да алешыны, тым вада падымалася вышэй. Да кацяняці заставалася метраў дзесяць, калі вада цяжкім холадам хлынула за халявы ботаў. І тут, азірнуўшыся на пустую дарогу, на высокі мост, ты заплакаў. Было холадна. Было страшна цёмнай плыткай вады, якая блізка-блізка несла белыя крыгі. Ды павярнуць назад ты ўжо не мог. І таму ты заплакаў па-сапраўднаму, як, мабыць, ні дагэтуль, ні пасля не плакаў, і вось з гэтым гучным ровам ты палез далей, у тое страшнае, мяккае, мокрае, што ледзяным холадам падымалася па самыя грудзі.

Невядома, чым бы ўсё скончылася, верагодней за ўсё — цябе панясло б па рацэ гэтак жа, як дагэтуль несла мокрае кацяня, але тут з моста нечакана данеслася звонкае жаночае: «А божачкі, а што ж гэта ён робіць?!»

І жанчына ўжо, як на крылах, ляцела з моста ўніз, на хаду лямантуючы: «Не лезь, не лезь далей, паразіт... Цябе ж знясе зараз! Кідай, кідай, кажу, гэтага чорта...»

Але адступіцца ты ўжо не мог. Ніякая сіла не магла адарваць ад цябе гэты мокры жывы камячок, з якім ты быў звязаны непарушнай сувяззю...

Тады яшчэ вайны не было,— не палілі немцы людзей у Лютцы ля Паліка і партызаны тады яшчэ не цягнулі з печы старога нямоглагаІлькевіча, сынок якога хаваўся ў гарнізоне.

Пасля казалі, што старыІлькевіч бараніўся ад партызан голымі рукамі, баярыўся, як мог: «Сыночкі мае, ці ж я вінаваты?» — але тыя, не гледзячы ў яго ныя выцвілыя вочы, зацягнулі яго за вугал, дзе і бабахнулі...

Ты падбег, каб паглядзець...

Павярнуўшыся тварам да белага халоднага снегу, скурчыўшыся, ляжаўІлькевіч, у садок якога ты яшчэ гэтым летам лазіў па яблыкі. Недалёка ўжо згрудзіліся людзі — моўчкі, не варушачыся. Партызаны садзіліся на сані, паварочвалі коней, нокалі на іх, тузаючы лейцамі. Адзін з іх, у калматай шапцы, азірнуўшыся, бліснуўшы на людзей чорнымі цыганскімі вачыма, сказаў гучна: «Яшчэ і да таго гада дабяромся, ідзе ён не дзенецца, так і перадайце...»

Ты нічога напачатку не зразумеў, проста табе стала нечага страшна, як і нядаўна табе было страшна, калі па сваёй ахвоце лез у цёмнае, мокрае, што засмоктвала, падымаючыся па самыя грудзі,— заплакаў гучна. Ты яшчэ квола спадзяваўся,

што стары Пількевіч памалу падымецца і скажа, як казаў часта: «Ох, і лупцоўкі ж задам, калі злаўлю каторага ў садку». Але ён не падымаўся з белай халоднай зямлі, і таму страх у цябе большаў. І тут дарослыя цыкнулі на цябе: ідзі, ідзі адсюль, дзецям на гэта глядзець няможна...

І горка табе было, і соладка, і балюча, і страшна, але ж ні на дзень я не адступаўся ад цябе. Я памагаў табе выстаяць у гэтым супярэчлівым заблытаным свеце, і таму, сам таго не прыкмячаючы, ты хінуўся некалі да слабых і пакрыўджаных і, як мог, пазбягаў жорсткіх і сытых,— ты знаходзіў закон справядлівасці там, дзе іншыя гублялі.

Некалі я мог уладарыць над табою. Але не цяпер... Цяпер я зрэдку прыходжу да цябе толькі ў снах. Як сягоння прыходзіў. Мне цяжка з табою. Атлусцелы, ты амаль нічога не помніш і не адчуваеш. Ты зашыўся ў сваім кутку і думаеш, што ўвесь свет жыве гэтак жа. Калі б ты ведаў, як мне цяжка быць побач з табою цяперашнім!

І віны тут, мабыць, маёй няма. Проста надыходзіць час, калі трэба плаціць даўгі. І за вялікія грошы. І за пасаду. І нават за ганаровыя званні. Хоць ты і прыкмячаў па сваіх знаёмых, як рабіліся паслухмянымі цяляткамі тыя смельчакі і адчаюгі, якія нічога і нікога не баяліся да той пары, пакуль не дарываліся да пасад і званняў, але ты спадзяваўся, суцяшаў сябе, што ты — інакшы, выкруцішся...

Марныя надзеі, марныя спадзяванні.

Таму — бывай, бывай...

## Раздзел другі

## РАНАК

Калі б ведаў, дзе грымнешся,
дык і саломкі падаслаў бы.

*З народнага*

Кубак з пахучай каваю стаіць на рабочым стале побач з югаслаўскай партатыўнай пішучай машынкаю. Чыстыя лісты фінскай паперы ляжаць кіпкаю, тут жа — французскія фламастэры, якімі лёгка выводзіць на мелаванай паперы бязважкія словы.

Віктар Іванавіч памалу, глыток за глытком, папівае каву з кубка, задуменна глядзіць на белыя лісты паперы, чакаючы, як нехта нябачны зараз падкажа патрэб-

ныя словы. Па вопыце ён ведае, што так яно павінна быць. Галоўнае зараз: засяродзіцца ў ранішняй цішыні і не прапусціць той уладны разумны голас, які вось-вось павінен загучаць.

*Час цяпер пераломны, складаны. Цяпер адны дэмагогі, маладой, навейшай фармацыі, змяняюць старых дэмагогаў. Яны не проста змяняюць, яны сілаю тураць іх з наседжаных грашовых месцаў. І калі ты сягоння на сходзе не зможаш зрабіць разумнага ўражлівага выступлення, то песня твая, лічы, будзе спетаю... Тым больш што на сходзе будзе сам Феафанавіч. Адступаць няма куды — маўчаннем на гэты раз нічога не выйграеш. Залегчы на дно, як падводная лодка, цяпер не зможаш — не тая сітуацыя. Давядзецца даваць бой.*

*Збавенне тваё цяпер толькі ўва мне. Я выведу цябе з лабірынту пустаслоўя, заклікаў да справядлівасці, абяцанняў будучага шчаслівага жыцця — усяго знешняга і маскараднага, што так удала хавае душу сучаснага адукаванага чалавека. Я правяду цябе паміж абурэннем люду, які, седзячы ў зале, будзе пільна лавіць, ацэньваць кожнае тваё слова, і гневам начальства, якое будзе красавацца ў прэзідыуме: дырэктар студыі, старшыня Дзяржкамітэта і нават — сам Феафанавіч. Так-так, сягоння для цябе галоўнае: выклікаць павагу начальства і хоць бы маўклівую ўхвалу залы. Гэтага дабіцца цяжка, можна сказаць — амаль што немагчыма, некаторыя прамоўцы пасля такіх выступленняў тут жа, не адыходзячы ад трыбуны, падаюць ад інфарктаў, трацяць прытомнасць, але што зробіш, калі іншага выйсця ў нас з табою няма?*

*Пачынай з самакрытыкі. Суровай і гнеўнай. Без лішняга пустога словаблудства, якое дагэтуль звонкай песняю гучала з любой трыбуны, але якое цяпер не пройдзе... Крытыкуй сябе, сваю работу гэтак, як цябе можа крытыкаваць самы зацяты вораг. Пачынай выступленне адразу ж, без трафарэтнага ўступнага слова. Ужо гэтым ты пачнеш набіраць ачкі перад іншымі. Хоць бы вось так пачні: «У наш складаны пераломны гістарычны час, калі мы ясна ўсведамілі, што двайная мараль пранікла ў свядомасць многіх адказных работнікаў культуры, у час перабудовы ўсяго грамадства работнікі нашага аб'яднання «Панарама», і я ў тым*

*ліку як галоўны рэдактар, на вялікі жаль, занятыя больш дэмагагічным словаблудствам, чым рэальнай справаю перабудовы...»*

Вось знаёмы разумны голас загучаў. Віктар Іванавіч бярэ ў руку фламастэр, падсоўвае да сябе белую паперу. Хутка, радок за радком, ён спяшаецца запісаць тыя правільныя выратавальныя словы, якія цяпер выразна чуе ад незнаёмца:

— У складаны час перабудовы ўсяго грамадства... Дэмагагічным словаблудствам... няхватка якасных сцэнарыяў... аберуч вымушаны хапацца за другасортныя сцэнарыі заезджых гастралёраў... адставанне кінамастацтва ад рэальнага жыцця нашага народа... забыццё, няўвага да нацыянальнай тэмы мае свой адваротны бок — голы рацыянальны касмапалітызм... мы, канечне, вінаватыя, але ж разам з тым... ад імя ўсіх работнікаў «Панарамы» я хачу сягоння паставіць некалькі прынцыповых пытанняў перад кіраўніцтвам Дзяржкіно і нават перад вамі, Аляксандр Феафанавіч... шмат разоў мы звярталіся да вас вусна і пісьмова, каб палепшыць матэрыяльную базу... да сённяшняга дня ў нас няма якасных кінакамер... нізкая якасць стужкі, абсталяванне прыводзяць да таго...

Пайшло, пайшло, бы тая машына, што, нарэшце, завялася і, зафыркацеўшы, пакаціла па дарозе. Віктар Іванавіч адчувае хваляванне. Даклад сёння атрымліваецца такі, пра які можна толькі марыць: хлёсткі, лаканічны, дзелавы... Незаўважна для сябе ў душы ягонай усё болей і болей выспявае пачуццё: вось выступіць з гэтым дакладам, і ўсё — усе праблемы, якія ён закране, будуць вырашаны. Галоўнае — паставіць праблемы, завастрыць...

— Віця, я пайшла на работу,— у свядомасць няпрошана ўкліньваецца іншае, што прымушае азірнуцца на адчыненыя дзверы спальні. Там стаіць Ліда. Яна спакойна глядзіць у вочы і гаворыць: — Сняданак на стале.

— А колькі ўжо?

— Без пятнаццаці восем. Ты сягоння як звычайна вернешся ці пазней? — на Лідзе асенняе паліто, яно надае ёй саліднасць і ў той жа час удала скрадвае паўнату. На галаве белая вязаная шапачка. Нічога яшчэ жанчына. З такімі надта лёгка знаёміцца ў санаторыях,

у дамах адпачынку, падчас канферэнцый, дэкад, фестываляў... Калі б не сумесна пражытыя гады...

Пра гэта лепей не думаць.

— Мабыць, затрымаюся. У мяне сягоння адказны сход.

Ліда не ідзе, моўчкі глядзіць у вочы, і Віктар Іванавіч здагадваецца: чымсьці зараз абрадуе...

— Што ты хацела?

— Думаю, можа, вечарам зазірнём да Ані. Іх Давыдку сягоння годзік спаўняецца. Хоць і не запрашалі, але я думаю, што днём Аня запросіць. Няёмка будзе, калі не паявімся. Як ты думаеш?

— Потым разбяромся, вечарам. Калі затрымаюся на студыі — пераваню. Адна сходзіш. На ўсякі выпадак у абед торт купі і маламу што-небудзь з адзення. А вечарам, калі прыйду, я грошы дам ім — што тыя падарункі... Усё. Мне яшчэ выступленне дапісаць трэба,— Віктар Іванавіч словы кідае ў паветра рэзка, абрывіста і гэтым як бы адсякае ад сябе Ліду з яе вечнымі просьбамі, заданнямі.

Ліда моўчкі знікае за белымі дзвярыма. Віктар Іванавіч зноў моўчкі схіляецца над белаю паперай.

Ды ўжо штосьці здарылася: голас незнаёмца заціх, і таму Віктар Іванавіч не ведае, што пісаць. На ўсякі выпадак, каб узнавіць ранейшы дзелавы рытм, ён перапісвае апошні сказ: «Улічваючы складанасць і неаднназначнасць працэсаў перабудовы на студыі, я сягоння дазволю задаць пытанне: «Хто каго ў нашай «Панараме» збіраецца перабудоўваць і на які лад?»

Што пісаць далей?

І тут Віктар Іванавіч здагадваецца, што перабіла творчы настрой. То — напамін Ліды праз дзень нараджэння Давыда. Вечарам давядзецца плесціся да Ані, а там — вочы ў вочы сутыкайся з Эдзікам. Эдуард Іосіфавіч... Зацёк, родненькі... Ах, зяцёк, зяцёк, зваліўся ты на галаву нечакана і негадана...

Віктар Іванавіч адрывае позірк ад паперы і неяк бяздумна глядзіць у акно, за якім па вуліцы з ледзь чутным гудзеннем праносяцца машыны.

*Аня зайшла тады ў залу гадзін у восем вечара, калі ты вярнуўся са студыі з добрым настроем. Павячэраўшы, ты сядзеў перад уключаным тэлевізарам*

і прафесійным вокам глядзеў кіно, ловячы ў ім не столькі сюжэт і сэнс, а як рэжысёрскія і апаратарскія прамашкі. Па ўстрывожаным пачырванелым тварыку Ані, па тым, як яна бліснула ў твой бок вачанятамі, ты адразу ж здагадаўся, што ёй карціць нешта сказаць: ці грошай папрасіць на адзенне, ці...

Бледная, пахудзелая за апошнія месяцы — не пышнацелая вясковая прыгажуня, у якой шчокі як булкі, гэта ты ясна бачыў,— яна для прыліку стала корпацца ў кніжнай паліцы, і ты, каб абарваць яе пакуты, знарочыста грубавата спытаў:

— Ну, што там у цябе здарылася?

Яна ціха сказала:

— Я выходжу замуж.

Яна сказала гэта так спакойна і абыякава, быццам пахвалілася, што знайшла на вуліцы пятак.

Ты ўжо ведаў, што ў Ані нехта ёсць, здагадаўся, што яна пачала з кімсьці часта сустракацца пасля зімовай сесіі, калі махнула адпачываць у маладзёжны турысцкі комплекс «Юнацтва». З той паездкі ўсё і закруцілася: Аня часта знікала з кватэры, як у выхадныя, так і вечарамі, падоўгу шапталася на кухні з Лідаю. І гэта цябе не надта турбавала, наадварот — дачцэ пара было ісці замуж, бо наперадзе было размеркаванне і не ехаць жа ёй у нейкую тмутаракань... І таму, калі Аня знікала з кватэры, калі шапталася з Лідаю, ты быў спакойны, на ўсё гэта ты глядзеў праз пальцы, як і ўвогуле стаў глядзець на Аню зусім па-іншаму пасля восьмага класа, калі ні з таго ні з сяго, як казала Ліда, закаціў дзічэйшы скандал.

Апошнія гады, калі ты глядзеў на Аню, ты ўсё шукаў у ёй падабенства з той маленькай бездапаможнай двухгадовай лапатушкай, якая аберуч цягнулася да цябе і ўсё паўтарала: «Папулечка...»

І вось цяпер перад табою стаяла дарослая, як чужая ўсё роўна, надзвычай танклявая, як і многія гараджанкі, дзяўчына. Яна спадылба асцярожным позіркам як бы хацела ўведаць: як, ты не супроць, што я выходжу замуж? Яшчэ ў яе позірку, як табе здалося, было і такое: можа, ты і супроць, але ж я ўсё роўна выйду, хочаш злуй, хочаш не...

— І за каго ж ты ідзеш замуж? — настрой у цябе быў цудоўны, таму ты яшчэ і ўсміхнуўся, падумаўшы, чаго ёй баяцца?

*— За Эдзіка Слуцкага,— хуценька сказала Аня. Штосьці ёкнула ў тваіх грудзях, прадчуваючы штосьці нядобрае, ты, усё яшчэ ўсміхаючыся, спытаў:*

*— А ён што — са Слуцка?*

*— Не...— Аня нічога не разумела.— Гэта прозвішча ў яго такое.*

*— Та-ак, ясненька,— працягнуў ты, не ведаючы, пра што яшчэ спытаць дачку. Не спускаючы з Ані позірку, ты паволі па слове выціснуў з сябе:*

*— Ну і хто ён, гэты Слуцкі таварыш? Чым займаецца?*

*— Ён... Ён кансерваторыю скончыў па класе ўдарных інструментаў. Яму ўжо дваццаць восем. Самастойны. У ансамблі «Пралескі» іграе. На ўдарніку...*

*— Ага, на ўдарніку... Значыць, ты, філалагіня, забудзеш пра сваю спецыяльнасць і цяпер пачнеш услед за «Пралескамі» па ўсёй краіне гойсаць, па гасцінічных нумарах туляцца. Так ці я, можа, памыляюся? — надзея на тое, што ты памыляўся, згасла, і таму штосьці нядобрае клубілася ў тваёй душы, штосьці там падымалася і выпірала, як цеста з дзежкі... Ведаў ты парадачкі ў гэтых ансамблях, у тэатральных трупах, калі яны выбіраюцца на гастролі, добра ведаў... Як і добра чуў на студыі пра гэтага знакамітага на ўвесь горад Слуцкага з ягонымі бясконцымі любоўнымі прыгодамі...*

*— Ну, чаму ты так думаеш?.. Мы рашылі, што буду жыць альбо тут, дома, альбо на прыватнай. Навошта мне ездзіць услед за «Пралескамі»? Я буду падбіраць Эдзіку добрыя вершы для песень. Эдзік плануе зрабіць нацыянальны рок-ансамбль, цяпер голад на іх... Эдзік марыць свой ансамбль арганізаваць. Кіраўніком будзе.*

*— Значыць, вы ўжо ўсё рашылі і праблем у вас няма ніякіх... А ён што, яшчэ і музыку піша? — ты з усёй сілы адцягваў гэты выбуховы міг... Ты ўсё яшчэ разыгрываў перад ёю ёлупня.*

*— Ага, піша. Можа, чуў «Вясняначку»? Гэта — ягоная песня, яе цяпер усюды круцяць.*

*— Значыць, гэта ў яго такі кастрыраваны казліны галасок, ён гэтак бляяць у мікрафон умее? І бародка, мабыць, ёсць, як у козліка...— Ты, ужо не хаваючыся, здзекаваўся з дачкі, і гэта яе праняло нарэшце.*

*— Чаму ты так настроены супроць яго?*

*А ты, як і не чуючы, больш для сябе, чым для Ані, прагаварыў памалу:*

*— Значыць, і ты туды ж...*

*— Куды?*

*— У Пруды па жалуды! — нечакана ў душы тваёй штосьці выбухнула, і ты гаркнуў так, што Аня аж падскочыла.*

*Побач з тваёй вёскаю ў лесе некалі быў хутар з назваю Пруды, ля якога раслі дубы, і таму вяскоўцы, калі што якое, любілі гаварыць: «У Пруды па жалуды...»*

*Аня ўмомант выветрылася з залы, а замест яе да цябе падляцела Ліда:*

*— Чаго звярэеш на дзіця? Мала таго разу, калі ў восьмым класе нізашто вызверыўся...*

*— А што — радавацца загадаеш, польку-бабачку скакаць пад музыку Слуцкага?.. — ты ўжо прадчуваў, што ўсё, мабыць, прайграна, але крыкам спрабаваў супакоіць сябе: — Чаму яна, як людскія дзеці, ні разу не прывяла яго ў сям'ю? Чаму ён мне на вочы ні разу не паказаўся? Чаго баіцца? Усё тайком, за маёй спіною, на кухеньцы шапталіся? Дашапталіся! Як жыць будуць? Ён чортведама дзе будзе месяцамі гастраліраваць, круціцца, як... А яна — тут будзе ў акно глядзець, ні жонка, ні дзеўка... Думаеш — гэта сям'я будзе? Доўга яны пратрымаюцца? Праз паўгода разлятуцца, як цяпер другія разлятаюцца.*

*— Ладна, затое ў нас сямейка парадачная,— ціха сказала Ліда. Як вадой ледзяною лінула. А пасля дабавіла, мабыць, загадзя падрыхтаванае: — А дзе ж ты, праведнік, быў дагэтуль, чаму з ёю не пагаварыў? Чаму яна цябе баіцца? Ёй што, загадаеш у дзеўках заставацца ці ў той жа калхоз перціся і за механізатара замуж ісці? За каго лепшага выходзіць: смаркачы вакол. Ні кала ні двара... Якая розніца, з кім будзе жыць? Абы ёй было добра. Чаго кіпяцішся?*

*Хай Ліда і не ведала, чаго ты кіпяціўся, але ж ты-то — ведаў, здагадваўся пра ўсё, быццам з гэтым Слуцкім пуд солі з'еў. І таму ты гаркнуў апошняе, што мог гаркнуць:*

*— Кліч сюды гэту Слуцкую!*

*Ліда матлянулася на кухню і адтуль выпхнула ў плечы заплаканую Аню. І тут ты выдаў ім апошнія козыры:*

*— Пакуль з ім, гэтым Слуцкім, сам не перагавару, пакуль сам яму ў вочы не пагляджу, ніякага вяселля не будзе. Ясна вам ці яшчэ раз паўтарыць? Абедзвюм гавару,— цяпер ты ведаў, што яны цябе не ўломяць. Хай хоць трэснуць.*

*Але тут Ліда спакойна сказала тое, ад чаго ў цябе і рот звяло:*

*— Чыя б цялушка мычала, а наша няхай памаўчыць... Позна кулакамі махаць. Чацвёрты месяц пайшоў. Але, калі ты настойваеш на сваім, што ж — перагаворы. Хай па-твойму будзе.*

*І тут ты быў вымушаны здацца, капітуляваць. А праз тыдзень, калі Аня прывяла ў кватэру чарнявага рухавага хлопца з настырнымі вачанятамі, ты быў амаль ужо спакойны і таму нават не ведаў, пра што з ім гаварыць. Мо пагэтаму, адчуваючы тваю разгубленасць, ён сам павёў наступленне:*

*— Мы з Аняю падумалі, параіліся і рашылі ўзяць ваша прозвішча.*

*— Як так? — ты зусім разгубіўся, чаго з табою ніколі не было нават на студыі.*

*— А проста, каб захаваць ваша прозвішча. У вас жа, як ведаю, сына няма...— і ўсміхнуўся. Як нажом пад сэрца пырнуў...*

*І тут ты ледзьве не вылаяўся ўслых, зразумеў, што і праўда Аня будзе падбіраць яму вершы, а ён, гэты Эдзік, стане з часам кіраўніком моднага папулярнага рок-ансамбля і пачне пашыраць абсягі нацыянальнай культуры. Эдуард Сацункевіч — кіраўнік рок-ансамбля «Крыніца»... Гучыць, нічога не скажаш. Чаго крыўдаваць і бедаваць? Гані цяпер, цесць, грошыкі на кааператыў. Ведае зяцёк, што грошы дзеля дачкі ты знойдзеш, на гэта і разлічваў. А пасля яшчэ і фільм пра ягоны ансамбль здымеш, нідзе не дзенешся...*

Віктар Іванавіч падымаецца з-за стала, зноў ідзе на кухню, дзе зноў заварвае каву.

Пакуль закіпае вада, ён глядзіць у акно, за якім высяцца стандартныя блочныя дзевяціпавярхоўкі. Як бы нейкі новы свет прыадкрываецца Віктару Іванавічу, тады яму тут жа робіцца сумна, на імгненне яму ўсё абыякава: і сённяшняе выступленне, і работа на студыі, і нават Аня з Эдзікам. Ціха і пуста ў ягонай душы, як гэтай асенняй парою недзе ціха і пуста за

горадам, дзе ўжо даўно сабрана збажына і гародніна, палі — перааараны, адны — засеяны нанова, другія — пакінуты да вясны.

Будзе новая вясна. Прыйдзе сейбіт і засее цяпер пустое поле.

Час сеяць, час збіраць...

Пакуль што цьмяна, няясна, ды да Віктара Іванавіча даходзіць, што ўсё жыццё ён вымушаны з некім змагацца, некага слухаць, некаму прыслужваць і некага пабойвацца. І не толькі бліжнім і чужым, якія жывуць побач, на студыі, у горадзе, не толькі з непрыемнасцяў ён змушаны вылузвацца штодня, штохвілінна,— да гэтага ён прывык, з гэтым нават змірыўся, як быццам без гэтага гарадскога вылузвання і нельга іначай жыць,— але і яшчэ з некім нябачным ён змагаецца.

Хто гэта?

Ці то стаміўся ад барацьбы, ці то яшчэ чаму, ды апошні час нязвыклы сум і абыякавасць да ўсяго на свеце аж палохаюць. Вось і зараз...

Віктар Іванавіч аж страсянуў буйнай галавою і, адвёўшы позірк ад акна, за якім разгараецца новы дзень, глядзіць на кававарку, дзе ўжо бурэе, пеніцца вада.

Не, не... Не расслабляцца... Ніяк нельга расслабляцца... Ён жа не зялёны хлопчык. Колькі ў сваім жыцці ён сустракаў такіх, якія ці то з маладосці, ці то ў сталыя гады гублялі лейцы, і тады абставіны, той загадкавы **нехта**, прысутнасць якога апошні год Віктар Іванавіч выразна адчувае, тут жа заганялі чалавека туды, адкуль яшчэ ніхто не вяртаўся. І здольнасці яны мелі, і таленавітыя былі, а дзе яны зараз?

Аператар Іванцоў — талент, гэта ўсе прызнавалі, без яго ніводзін талковы рэжысёр не мог абысціся: ні той жа Громаў, ні Сурачкін. А дзе зараз Іванцоў? У сорак год пайшоў зямлю парыць. За дзве бутэлькі чарніла памяняў гэты свет на той, пакінуўшы тут маладую жонку і дзіця двухгадовае. А ўзяць таго ж Грамбіцкага? Знакаміты рэжысёр Грамбіцкі, які гэтак ярка пачынаў, які ў свой час затыкаў за пояс і Громава, і Сурачкіна, які забіраў усе прызы на фестывалях, цяпер Грамбіцкі — на падхваце, рэкламныя ролікі робіць і то — дзякуючы былым заслугам. Са слязлівымі набраклымі чырванню вачыма, з дрыжачымі рукамі

Грамбіцкі цягаецца вечарамі па кватэрах знаёмых, вымольваючы пяцёркі і траячкі. На ўсякі выпадак, каб жонкі знаёмых не шчоўкнулі перад носам дзвярыма, ён, як толькі прачыняюцца дзверы, найперш ставіць нагу ў парозе — проста так не адкруцішся, шэльма...

Быццам закон такі ёсць: чым большы талент — тым хутчэй згарае... Шэрасць — дык яна непатапляльная...

Віктар Іванавіч, не заўважаючы таго, цяжка ўздыхае і, зняўшы кавеварку з агню, выліваe каву ў кубак.

Даклад абавязкова трэба дапісаць. Галоўнае цяпер — прыдумаць удалае ўдарнае заключэнне. Зрабіць правільныя вывады. Яны павінны быць чоткімі і ўражлівымі. Як для тых, хто будзе сядзець у зале. Так і для членаў прэзідыума.

Той нябачны незнаёмец павінен памагчы, не пакіне...

## Раздзел трэці

# ДАРОГА

*Калі б маладосць ведала,*
*а старасць магла...*

*З народнага*

Роўна ў дзесяць Віктар Іванавіч падымаецца з-за рабочага стала і з цяжкасцю разгінае адзеравянелую спіну. Апошняя старонка выступлення выцягваецца з карэткі пішучай машынкі. Вычытаць выступленне можна і на рабоце.

Някідкі гальштук на светла-блакітнай кашулі, няяркі шарсцяны нямецкі касцюм, мяккія чэшскія чаравікі — усё гэта як футарал, у якім гэтак добра яго- наму целу.

І цёпла. І ніхто не бачыць.

Ранішняе раздражненне невядома на каго знікла. Як і зніклі няпрошаныя сум і разгубленасць, калі стаяў ля акна на кухні. Цяпер Віктар Іванавіч адчувае душэўны пад'ём, быццам і сапраўды, напісаўшы выступленне, ён адразу ж вырашыў мноства студыйных праблем, якіх дагэтуль ніхто не мог вырашыць: ні сам, ні дырэктар студыі, ні нават грозны старшыня Дзяржка-

мітэта Федарэнка. Віктар Іванавіч нават пачынае мурлыкаць сабе: «Первый тайм мы, друзья, отыграли...»

Пад адкрытым небам халаднавата нават пад курткаю. Густы асенні туман, які ляжаў над горадам пасля ночы, цяпер ужо амаль споўз з гарадскіх вуліц, замест яго шэры выхлапны дым, які ў бязветраную ціхую пару не размываецца, стаіць сцяною.

Асенняя позняя пара. Востра і балюча пахне маленствам — той парою, калі Віктар Іванавіч спадзяваўся на хуткае непазбежнае шчасце ў вялікіх гарадах, калі прагна прынюхваўся на бальшаку да таго паху, які заставаўся пасля машын, і, здаецца, зусім не прыкмячаў іншага: як пахне прэлая ўчарнелая лістота, што ляжыць на зялёнай мураве, як пахнуць жаўтаватыя буйныя антонаўкі, якія чым пазней, тым ярчэй разгараюцца сярод голля яблынь, як пахне толькі што ўзараная зямля, калі пачынаюць капаць бульбу, як перад самымі маразамі пахнуць стылыя бліскучыя і празрыстыя лужыны ў каляіністых лясных дарогах, як пахне сухое сена, што ляжыць у аселых учарнелых ужо стажках, якія здалёк цямнеюць у чыстых празрыстых лугах...

Нават тут, у вялікім горадзе, прабіваецца гэты вострый асенні пах, але, як заўважыў Віктар Іванавіч, прабіваецца ён толькі ранкам, а недзе пад абед яго ўжо не чуць, яго перабівае гарадскі машынны пах, ад якога пад вечар ломіць у галаве і ў целе адчуваецца мляўкасць.

Віктар Іванавіч нетаропка ідзе па вуліцы і, удыхаючы халаднаватае паветра, увесь час намагаецца ўспомніць штосьці страчанае, хоць што — невядома...

Калі некалі, у маладзейшыя гады, ён амаль што ўвесь час марыў, спадзяваўся пра будучае салодкае шчасце, якое яму, аднойчы ўхапіўшы, ніяк нельга будзе выпусціць з рук, то цяпер, як за перавалам горным, усё часцей і часцей успамінаецца мінулае, у якім, аказваецца, было нешта надта дарагое, што калісьці ён зусім не цаніў. І гэты востры асенні пах — як папрок...

Калі ж і што ён страціў? Калі ж ён быў на перавале? І што ж агульнага ў іх: у яго, цяперашняга саліднага Віктара Іванавіча, з тым наіўным малаграматным хлапчанём, якое марыць як мага хутчэй вырвацца з вёскі?..

Няўжо чалавек у жыцці бывае абсалютна розным: у маленстве — адзін, у маладосці — другі, у сталасці — трэці, а ў старасці... І калі гэта так, калі гэта хоць крыху ды так, то што ж агульнага між гэтымі рознымі людзьмі?.. Што чалавек набывае, а што страчвае?

Нешта ўвесь час не дадумваецца да канца — пачуццё такое, што вось-вось паявіцца ясная выратавальная здагадка, якая ўсё ў жыцці растлумачыць. І — супакоіць. Галоўнае — каб супакоіла...

Мо таму Віктар Іванавіч занадта засяроджаны; як і звычайна ў такіх выпадках, ён глядзіць сабе пад ногі. Апошняе ўчарнелае лісце клёнаў і таполяў змецена з шэрага асфальту. У блакітным празрыстым, як ранняй вясною, небе гарыць не надта вялікае чырвонае сонца, яно ўжо слаба грэе і на яго можна нават глянуць.

Амаль такою парою бывае бабіна лета. Тады яшчэ ваўсю капаюць на агародах бульбу, блішчыць павуцінне на сонцы, яго ўсюды поўна — белымі ніткамі ляціць над зямлёю, сцелецца на бліскучай гладкай, вымытай цяжкой восеньскай расою, траве. У празрыстым паветры відаць далёка-далёка. Навакольная цішыня, восеньская аголенасць прыносяць у душу сцішанасць і суладдзе...

Чамусьці, як толькі прыгадваецца бабіна лета, Віктару Іванавічу ўспамінаецца свая вёска,— быццам стаіць ён на агародах, за якімі выган пачынаецца, і глядзіць удалеч, туды, дзе мост над рэчкаю, дзе школа драўляная, дзе могілкі, за якімі лес сцяной зелянее... Усюды пабываў, усяго нагледзеўся, а ў памяці жыве адно і тое ж.

Але цяпер — не бабіна лета, цяпер — больш позняя пара. Пасля летняй спякоты людзі яшчэ не прывыклі да холаду, моладзь ходзіць без шапак, у лёгкіх балоневых куртках, якія гэтак непрыемна балюча шаргацяць, аж мароз па скуры ідзе... Студэнты ўжо вярнуліся з калгасаў, дзе капалі бульбу, і цяпер з радасным прыцягальным бляскам у вачах гойсалі па вуліцах, запаланяючы залы кафэ, кінатэатраў, зусім забыўшыся пра лекцыі і канспекты. Цяпер іх цяжка загнаць у цесныя аўдыторыі, хоць дзверы замыкай...

Сягоння як ніколі шмат трапляе на вочы прыгожых дзяўчат. Такіх прыгожых, што аж не верыцца. Лёгкія, бесклапотныя і ўсмешлівыя, яны птушкамі

пырхаюць побач, і здаецца, толькі скажы каторай слова, працягні руку...

Цяпер, калі Віктару Іванавічу падсунулася пад пяцьдзесят, яму здаецца, што толькі цяпер ён па-сапраўднаму спазнае і цэніць жаночую прывабнасць і прыгажосць. Цяпер, а не тады, у гарачай нявопытнай маладосці, калі быў як сляпы і з лёгкасцю адступаўся ад таго, што само сабою плыло ў рукі.

*Тою парою ты ўжо адарваўся ад вёскі, і вось — твае першыя канікулы. Ты вярнуўся з далёкага горада. Збылася твая мара: ты — студэнт, а значыць, ты на векі вечныя адрываешся ад кароў з радоўкамі, ад свіней вісклівых, ад грозных фінагентаў з іх нядоімкамі, ад бабскіх сварак і плётак, ты адрываешся ад усяго таго, што называюць адным кароткім словам — дзярэўня, і цяпер ты, як госць заморскі, можаш зрэдку прыязджаць сюды, і вясковыя прыгажуні будуць глядзець на цябе гэтак жа, як нядаўна ты глядзеў на старэйшых хлопцаў, якія паматляліся па свеце і гэтаксама прыязджалі назад з бліскучымі ўстаўленымі фіксамі і чамадачыкамі ў руках,— падмятаючы вуліцу шырачэннымі раскляшонымі штанамі, яны нетаропка ішлі паміж хат і, звысоку пазіраючы на старых баб, што на лаўках сядзелі, на курэй, што капашыліся пасярод вуліцы ў пяску, яны час ад часу лоўка і далёка цыркалі слінаю скрозь бліскучыя фіксы. Быццам гэтыя фіксы і былі ўстаўлены дзеля гэтага...*

*Летнімі вечарамі, прыадзеўшыся ў чыстае, гарадское, ты бегаў у клуб на танцы, дзе гэткія ж, як і ты, хлопцы і дзяўчаты танцавалі, калі пад гармонік, а калі пад патэфон, на якім круціліся пласцінкі з хрыплаватымі галасамі Уцёсава і Шульжэнкі.*

*Пасляваенны клуб быў тым месцам, дзе людзі збіраліся, каб паказаць сябе, паспяваць, паскакаць і заадно пaглядзець на тых, хто скача і спявае,— на кожных танцах старыя бабы, надзеўшы чыстае, у хустках на галовах, сядзелі ўздоўж сцяны на лаве суцэльным радам, і былі яны — як той прэзідыум... Хоць табе і было васемнаццаць, ды ты адчуваў сябе падлеткам, бо сапраўднымі кавалерамі былі дваццацівасьмагадовыя, самастойныя хлопцы, а тым болей што на танцы прыходзілі і яшчэ старэйшыя, якім было аж за трыц-*

цаць, і яны ўяўляліся табе такімі старымі, што пра гэта і думаць было страшна...

Танцавалі ўсе і хто як мог. Надта шчыраваў кульгавы Калюгін,— у кірзавых ботах, нізкарослы, з крывой нагою, што не разгіналася да канца, у памятым пінжаку, ён кожны раз стараўся запрасіць на танец высокую, вышэй сябе, дзяўчыну і ўсё кружыў з ёю, кульгаючы, час ад часу штурхаючы іншыя пары. Калі ж з ім не ішла ніводная прыгажуня, то Калюгін у роспач не кідаўся, ішоў у скокі адзін, гэтак яму, мабыць, яшчэ ямчэй было: вольна, шырока раскінуўшы рукі, Калюгін з асалодаю кружыў сярод маладых пар і спяваў прыпеўкі, калі — людскія, а калі — брахлівыя, ад якіх маладыя дзяўчаты чырванелі і гаварылі са смехам: ат, дзярэўня, што ты з яго хочаш!..

Ах, як хацелася танцаваць кульгаваму Калюгіну!

Відаць, гэтак жа ўголас хацелася спяваць нямому Грыцкевічу — ён таксама часта прыходзіў у клуб і, калі быў цвярозы, то маўчаў, саромеўся, але, як толькі падпіваў, пачынаў услых спяваць, не зважаючы на здзеклівы смех падлеткаў, штосьці людзям незразумелае і працяжнае імкнуўся ён выказаць, размахваючы рукою, гледзячы некуды міма людзей.

Яны былі смешныя для моладзі — і Калюгін, і Грыцкевіч, але ж без іх танцы не былі танцамі...

Тэлевізара не было і ў паміне, наручны гадзіннік быў вялікім багаццем, а веласіпед — недасягальнай мараю...

Спазнаўшы голад, вайну і горад, ты яшчэ быў чысты душою і таму, як гэта бывае, мімаволі хінуўся да гэткіх жа чыстых душ.

Так дзеці хінуцца да дзяцей.

Штодня, штохвілінна ты адчуваў у сабе штосьці дрогкае і трапяткое, ты ведаў, быццам табе нехта паабяцаў: шчасце тваё — наперадзе, нікуды яно ад цябе не дзенецца, таму спяшацца, камячыць сваё жыццё не трэба.

Ці не таму ў тое лета, пазбягаючы шумных кампаній, ты палюбіў адзіноту: падоўгу блукаў у лесе за бальшаком, праседжваў да цёмнага з вудачкаю ля ракі і ўсё чакаў таго імгнення, калі яна паявіцца аднекуль на танцах, калі яна першая скажа тое адзінае слова, без якога немагчыма жыць на зямлі і якое гэтак страшна вымавіць услых самому.

У тое душнае лета табе дрэнна спалася. Калі ж пад раніцу ты і забываўся, табе сніліся сны, ліпучыя і брыдкія, ад якіх раніцаю было — хоць на людзі не паказвайся; у снах ты бачыў яе і сябе, вы разумелі адно аднаго і таму без слоў маглі дазволіць сабе тое, пра што днём і думаць сорамна было.

У сваіх ціхіх марах, у якіх нікому не мог прызнацца, ты ўяўляў сябе адчайным і нават нахабным хлопцам — уяўляў, як у адкрытую паглядзіш прыгажуні ў вочы, ад чаго яна аж запунсавее і разгубіцца, уяўляў, як скажаш ёй рашучае слова і тут жа працягнеш руку да яе постаці,— ты хацеў, каб наяве, як мага хутчэй паўтарылася тое, што бязвольна няпрошана снілася душнымі начамі, калі зарніцы над цёмным зарэчным лесам палыхалі бязгучна і часта, як хто сярнічкай чыркаў.

Але як толькі вечарамі ты паяўляўся ў клубе, ты тут жа дзеравянеў, адчуваючы, што настырнасцю і нахабнасцю не можаш заглушыць у душы тое дрогкае і трапяткое, што пульсавала, білася, бы злоўленая ў руцэ птушка. Мелася ў тваёй душы штосьці такое, цераз што ты пакуль ніяк не мог пераступіць.

Што ж гэта было?

Мабыць, сорам. Гэта ён асцерагаў цябе ад ілжывасці і прымушаў пазбягаць, як агню, тых, хто паспеў спазнаць табе пакуль недаступнае, што магло бачыцца толькі ў снах.

Гэта была пакута, і ты ведаў, што некалі не вытрымаеш, не магло ж усё гэта доўга цягнуцца. Але ж калі яно будзе?

Пакуль, змірыўшыся са сваёй нясмеласцю і нерашучасцю, ты бегаў на танцы, дзе, танцуючы з гэткаю ж, як і сам, наіўнай дзяўчынаю, ты быў амаль шчаслівы. Пакуль табе гэтага часовага шчасця хапала: адчування ў сваёй далоні гарачай дзявочай далоні.

У канцы жніўня, калі табе пара было збірацца на вучобу ў далёкі горад, калі чыстымі халаднаватымі начамі з глухім шлёпаннем падалі на зямлю яблыкі, калі ўжо жыта бабы пазжыналі і толькі малатарня на калгасным двары гудзела днём і ноччу, калі капалася маладая салодкая бульба, якраз гэтай парою па сёлах пачыналі гуляць кірмашы, то ў адным, то ў другім...

Табе чагосьці было сумна,— лета мінулася, а ты застаўся ўсё тым жа нясмелым і нерашучым, якім быў вясною, ты так і не асмеліўся зламаць у сабе тое

дрогкае і трапяткое, што мелася ў душы, так і не ўведаў тое нешта грэшнае, што ведалі іншыя, баявейшыя і смялейшыя, і таму — гэта адчуваў скураю — яны звысоку глядзелі на цябе, як на калегу якога. Як табе здавалася, яны пра ўсё ведалі, нават пра тыя сарамлівыя ліпучыя сны, і таму ўпотай пасмейваліся над табою.

На кірмаш бярозаўская цётка заявілася разам з дваццацівасьмігадовай паўнацелаю, як табе падалося тады, пажылой жанчынаю.

— Во,— заявіла, смеючыся, цётка тваёй маці, як толькі ступіла ў хату,— нявесту прывезла. А то твой кавалер, мабыць, так і не асмеліцца жаніцца. На кварціры яна ў мяне жывець, рабацяшчая, талковая. Мужык, праўда, надта раўнівы быў, дык яна вытурыла яго...

Цётка гаварыла гэтак, быццам даўно ведала пра твае пакуты і ваганні...

Пачырванеўшы, ты зірнуў на яе, нявесту, якая спакойна стаяла побач з цёткаю і ўсміхалася. Сустрэўшыся з чорнымі вялікімі вачыма, ты тут жа схаваў свой позірк,— на нейкі міг ты ўсё адчуў і зразумеў, што чакае цябе наперадзе, і таму пазней, калі разам з гасцямі садзіўся за кірмашовы стол, калі вячэраў, калі выбіраўся з-за стала, каб ісці на танцы,— увесь час ты неяк фізічна адчуваў яе, нявесту...

Без ніводнага слова, быццам вы даўно дамовіліся, яна таксама пачала выбірацца з-за стала — удваіх вы раней за ўсіх выскачылі з асветленай лямпамі хаты на вуліцу ў вячэрнюю глухую цемень, дзе над галовамі блішчэлі зоркі, а здалёку, з клуба, ужо чуўся гармонік. Як да шчасця, вы паспяшаліся ў клуб, дзе гарманіст адчайна тузаў гармонік, дзе людзі даўно скакалі, дзугаючы, хто грамчэй, хромавымі ботамі і туфлямі па нефарбаваных дошках, быццам у тым, хто грамчэй будзе дзугаць, і быў самы шык. І яшчэ пяяліся прыпеўкі. Ты запомніў хоць адну з тых прыпевак? Ну, хоць бы гэту:

Сорак лет кароўкі нет,—
Маслам адрыгаеецца...
Пайшла курыцу даіць,
Курыца брыкаеецца.

І цесната несусветная, і махорачны дым да столі, і святло лямпаў, што віселі на сценах, абклееных баявымі лозунгамі і плакатамі, якія некуды заклікалі і ўсё

грозна гразілі праклятаму імперыялізму — усё было як бы неабходным для таго простага пасляваеннага шчасця, у якое разам з ёю, дваццацівасьмігадоваю, ты тут жа акунуўся, забыўшыся нават пра пільныя вочы «прэзідыума», што сядзеў на лаве ўздоўж сцяны. Ты забыўся нават пра той агністы пякучы маладу позірк, які надоечы паласнуў цябе, як на штосьці намякнуў...

Як і ўсе, ты гучна тупацеў чаравікамі, смяяўся і ўсё знарок лавіў яе спакойныя вочы. Час ад часу цябе ці яе нехта штурхаў у спіну, і тады ты датыкаўся грудзьмі да таго поўнага, круглаватага і мяккага, што апякала і ад чаго цябе тут жа кідала ў жар.

Табе найперш было страшна, што яна скажа: «Досыць, не трэба гэтак блізка». І калі б яна гэтак сказала, то ўсё адразу б знікла: і гэта неадольнае жаданне быць як мага бліжэй ля яе паўнаватага цела, з якім ты, здаецца, быў злучаны кожнай клетачкаю свайго цела, і саладкаватая млявасць, што час ад часу падымалася ў табе хваляю, і тады аж у галаве кружыла. Але яна не казала: «Досыць»,— як нічога і не прыкмячаючы, яна ўсё цягнула цябе за руку ў круг, у мнагалюддзе, дзе нечы звонкі дзявочы голас заводзіў прыпеўку пра баявую адчайную Сямёнаўну з яе бясконцымі прыгодамі: «Ой, Сямёнаўна, пайдзём гуляць-гуляць...»

І ты, загадзя прадчуваючы, што сягоння здарыцца ў тваім жыцці штосьці надта важнае, што ў гэты вечар ты цераз сілу пераступіш неадольную сцяну сорама, калі канчаўся танец, глуха гаварыў ёй: «Пойдзем на вуліцу, прагуляемся». Але яна не ішла, смяялася і казала: «Яшчэ не натанцавалася. Паспеем».

Недзе ў трэцяй гадзіне ночы вы нарэшце выйшлі з клуба і, зліўшыся з цеменню, пайшлі ў канец сяла.

Ужо не раз дагэтуль ты вадзіў туды дзяўчат, добра ведаў тую памятную апошнюю лаўку, на якой, трымаючы ў руцэ гарачую мяккую далонь, можна моўчкі сядзець, пакуль не пачне світаць і пастух нечакана, шчоўкаючы пугаю, не загалёкае: «Вы-га-ня-ай!»

Але цяпер была глухая ноч. Злёгку ківаючыся, бы п'яная, яна ішла побач, і ты, трымаючыся рукою за яе паўнаватае пакатае плячо, прыхінаючы ўсю яе да сябе, не адчуваў рэзка-насцярожаных штуршкоў, за якімі павінна было быць абавязковае, што чуў не раз: «Пры-

мі рукі, не то — дамоў пайду». Гэтае «не то дамоў пайду» да сённяшняга кірмашовага вечара было такім грозным, што, пачуўшы яго, ты тут жа апускаў рукі, адводзіў іх ад таго недазволенага, грэшнага, да чаго так хацелася дакрануцца.

Нічога гэтага ты не адчуваў і не чуў — ні штуршкоў рэзкіх, ні слоў яе, і пачуццё паяўлялася ў цябе, як у халоднай рацэ ноччу, дзе дно невядомае.

Хутчэй бы, хутчэй бы ўжо да нейкага берага,— ці туды, ці сюды.

За апошнімі хатамі пачыналася лугавіна, у якой, схаваная алешнікам, цякла рачулка. Але цяпер ні лугавіны, ні рачулкі з алешнікам — нічога не было відаць, у тым баку сцяною бялеў восеньскі туман. Вуліцы з хатамі таксама не бачыліся, адно, што бачылася,— блізкі цёмны плот, ды бліпчэла шкло ў вокнах хаты, ля якой была лаўка,— як вялікія вочы коней... Уверсе, над вашымі галовамі, гарэлі зоры — іх было ўсыпана ў бяздоннай сферы, што ахінала вас абаіх, і буйных і дробных, гэтак шмат, што аж у галаве кружыла, калі доўга глядзець на іх. Пахла блізкай восенню, але холаду вялікага не было.

Ясны дзень, калі ўсё выразна бачылася: і тыя ж хаты з гаманкімі языкастымі бабамі, і белы пясок пасярод вуліцы, і зялёная лугавіна, на якой поркаюцца свінні,— усё гэта было далёка-далёка, быццам яго і не было ніколі, а вось цяпер, сярод ночы, вы былі як у іншым свеце, дзе ўсё было прыглушана, зацемнена і дзе запраста магло здарыцца тое неверагоднае, чаго белым днём ніколі не магло быць, і таму, як толькі вы апусціліся на лаўку, ты адразу ж нясмелымі рукамі памкнуўся да яе мяккага цела. Ты ўсё яшчэ чакаў гэтага грознага: «Убяры рукі...» Але яна, не прыкмячаючы тваіх дрыжачых рук, чамусьці глухавата засмяялася, спакойна паклала свае рукі на твае дрогкія плечы і ледзь чутна шапнула: «Грыш, ну што ты так...»

Ты нават не паспеў пакрыўдзіцца. Ашаломлены гэтым блізкім шэптам, які прымусіў цябе скалануцца, якога яшчэ ні разу ў жыцці не чуў, нічога толкам не ўцяміўшы, ты гэтак жа ціха прашаптаў: «Я не Грыша, я — Віця».

Потым, калі шэпт твой заціх, да цябе ўсё дайшло...

І ўсё паляцела назад, засталося навек у мінулым: і тое дзявоча-непрыступнае: «Убяры рукі, не то —

дамоў пайду»,— і сны пра тое забароненае, грэшнае, і недасягальныя мары пра той міг, калі зможаш асцярожна пакласці далонь на белае незагарэлае пульсуючае цела... Пакласці і адчуць, як у скронях, ва ўсім тваім целе тут жа адзавецца магутны рытмічны гул, аж слова сказаць не зможаш, толькі зубы застукацяць...

Тады пра расплату ты не думаў. Як і не думаў пра здраду.

Раніцаю, калі ты прачнуўся ў пуні на сене, ты быў ужо іншы. Спачатку, як толькі ты адплюшчыў вочы, табе ні з таго ні з сяго захацелася застагнаць. Ты выйшаў з двара на вуліцу. І цяпер ужо ноч была далёкай і недасяжнай, цяпер ты быў у іншым свеце. Ты ўбачыў вільготны цёмны ад расы пясок, узбіты капытамі кароў, мокрую ад расы лаўку ля палісадніка, убачыў сваю і чужыя хаты, нізкае шэрае восеньскае неба, на якім не праглядвалася ніводнай зоркі,— усё падалося табе чужым, незнаёмым, быццам дагэтуль гадамі на людзей і свет ты глядзеў скрозь ружовае каляровае шкельца і вось — шкельца няма, разбіта...

Тою раніцаю ты пастараўся супакоіць сябе: усё, што было ноччу на лаўцы ў канцы сяла,— забудзецца праз дзень, балазе што ніхто нічога не бачыў і не мог бачыць у глухой цемені.

Праз пару дзён кірмаш скончыўся. Разам з цёткаю дваццацівасьмігадовая паехала ў Бярозава, як нічога і не было, усё гэткая ўсмешлівая і спакойная. А яшчэ праз тыдзень у клубе зноў пачаліся танцы, апошнія перад тваім ад'ездам у вялікі горад. Зноў успомніўшы агністы малады позірк, які нядаўна намякаў на штосьці незямное, клікаў за сабою, ты паспяшаўся на тыя танцы і цяпер ужо, як толькі гарманіст зайграў першы танец, весела, звысоку пазіраючы на калючую насцярожаную дзяўчыну, ты смела падышоў да яе, працягнуў ёй сваю руку і тут жа аслупянеў з гэтай працягнутай, як у жабрака, рукою — быў ашаломлены ад нянавісці і жаху, з якімі дзяўчына разглядала цябе, як якога заразнага.

Ты здагадаўся, што невядома як, ды яна ўжо ўсё ці то ведала, ці то адчувала, быццам на свае вочы бачала, што здарылася кірмашовай ноччу на той памятнай апошняй лаўцы.

*Тады ўпершыню ў цябе прарэзалася здагадка пра здраду і расплату, якія немаведама як, ды вечна сплецены між сабою.*

*Хто ж усё-ткі пагнаў цябе ад тых чыстых і таму калючых дзяўчатак да той спакойнай паўнацелай дваццацівасьмігадовай, якая ціха шапнула: «Грыш, ну што ты так?..»*

*Чаму ж ты запамятаў гэтыя словы так надоўга, што нават праз шмат гадоў, калі ўжо быў даўно жанаты, амаль што поўнасцю перадаў іх Лідзе: «Ада, ну што ты так...» — і Ліда тут жа, як нячыстай сілаю ўскінутая, выкруцілася з-пад тваіх гарачых рук, заляпіла табе аплявуху і з лямантам выскачыла з-пад цёплай цяжкой коўдры.*

*...Напачатку ты нават не ўцяміў, што здарылася, чаму з нечаканай аплявухаю прарвалася тваё салодкае трызненне, якое ледзь-ледзь перапляталася з яваю. Цябе не аплявуха ўразіла, не...*

*Ды развaжаць не было калі, як і не было часу здзіўляцца, бо адтуль, з-за дзвярэй спальні, Ліда істэрычна закрычала:*

*— Заўтра... Заўтра ж на аборт пайду... І на развод падам. Паразіта кусок... Я даўно здагадвалася... Я з табою ўсё роўна болей не буду жыць.*

*І яшчэ — ты помніш гэта? — заплакала, прачнуўшыся ад крыку, двухгадовая Аня...*

Не прыкмячаючы ні часу, ні дарогі, Віктар Іванавіч праходзіць некалькі кварталаў, а потым, зірнуўшы на наручны гадзіннік, схамянаецца: даўно пара быць на студыі. На вочы як знарок трапляе вывеска тралейбуснага супынку. Цяпер да студыі можна дабірацца і на метро, першую лінію якога нядаўна пусцілі, але ў гэты чысты ранак спускацца пад зямлю не хочацца, і таму Віктар Іванавіч спыняецца на супынку. Тут жа, падвываючы, падкочвае тралейбус. Ён прытарможвае, спыняецца, адчыняюцца дзверы — заходзь, калі ласка...

У тралейбусе людзей не так ужо і шмат. Ранішнія натоўпы рабочага люду схлынулі, цяпер вальней. Але свабодных месцаў не відно. Прабіўшы талон, Віктар Іванавіч праходзіць ў сярэдзіну тралейбуса і мімаволі, хочаш не хочаш, разглядае людзей.

Нечакана, як хто знарок зводзіць, ён сутыкаецца

позіркам з чысценькай прыгожай дзяўчынаю. Адразу ж відно, што яна не з тых дзяўчат, якія перад праглядамі замежных фільмаў у Доме кіно смаляць цыгарэты і бясконца разважаюць пра эмансіпацыю і рэжысёрскае сюррэалістычнае творчае бачанне. Яна яшчэ проста не дарасла да гэтага ўзроўню, і ў гэтым, можа, яе шчасце. Твар у дзеўчынёшкі не фарбаваны, чысты,— белая незагарэлая скура як бы свеціцца тым яркім незразумелым ззяннем, якое сыходзіць ад дзіцячых тварыкаў і якое незразумела як, ды сведчыць чалавеку пра чысціню і наіўнасць... Прыпухлыя ледзь-ледзь пакусаныя вусны таксама не фарбаваныя, але і без фарбы яны ярка-чырвоныя. Яна ўся яшчэ — як бы яшчэ папраўднаму не прачнулася, яна, па ўсім відно, яшчэ толькі-толькі ўваходзіць у смак гэтага грэшнага жыцця.

Яе блакітныя вялікія вочы нясмелыя і сарамлівыя. Вейкі ў яе доўгія і, па ўсім відно, не наклееныя. Як падобна яна на тую дзяўчыну, што сёння прыснілася, і тварам, і постаццю... І валасы ў яе мяккія, доўгія. Яна без гэтай абрыдлай кароткай стрыжкі, без джынсаў, у доўгай пруталенай спадніцы — як не падобна яна на многіх дзяўчат і жанчын, якія аднолькавым адзеннем, аднолькавымі прычоскамі зліваюцца адна з адной, як салдаты ў шарэнзе...

Гэты сённяшні сон як знак, як намёк нейкі...

Сутыкнуўшыся пару разоў позіркам з дзяўчынаю, Віктар Іванавіч адчувае, як штосьці маладое, адчайнае закіпае ў ім, амаль тое ж, як і ў сне, пачуццё маладога кахання зноў апякае яго.

Дзяўчына адводзіць позірк і ні з таго ні з сяго пачынае густа пунсавець. Мабыць, усё адчула.

*О-о, яны за вярсту ўсё адчуваюць, не бойся і не хвалюйся!..*

*Пазнаёмся. Рызыкні. Што ты траціш, калі нічога не атрымаецца, што? Не зліняеш... Сярод іх такія рыбкі трапляюцца... Цяпер яны глядзяць не на маладых аднагодкаў, з якімі рабіць нечага, якія нічога не ведаюць і не ўмеюць і ў якіх адзінае багацце — медзякі ў кішэнях, а на такіх салідных, самастойных мужчын, як ты. Ды і што такое ўзрост, няўжо ты яго адчуваеш? Падыдзі цяпер да яе. А не — дурань, упусціш імгненне навечна і пасля на адзіноце сам жа будзеш сябе да-*

*караць за нясмеласць і нерашучасць. Чаго чакаеш — каб сама падышла да цябе?.. Сыдзі з ёю на адным супынку. Скажы, што працуеш на кінастудыі, падбіраеш актрысу для новага фільма і яна — якраз той тыпаж, які нідзе не можаш знайсці. На ўсякі выпадак для салідпасці пакажы пасведчанне і дай ёй візітную картачку. Галоўнае — хоць бы зачапіцца. А там — само сабою пакоціцца, вот паглядзіш. Гэтак жа было і з Адаю, гэтак жа і з ёю будзе...*

*Смялей, смялей...*

Нечакана дзяўчына падымаецца з сядзення і сама набліжаецца да Віктара Іванавіча. Няўжо яна — са студыі і ведае яго? Няўжо шчасце само ў рукі коціцца? Але ж чаму ён не бачыў яе на студыі дагэтуль? Няўжо хтосьці з рэжысёраў запрасіў на ролю з маскоўскага ці іншага тэатра?

Прыхаваўшы доўгімі веямі блакітныя вочы, дзяўчынёшка нетаропка праплывае побач і ледзь чутна, каб чуў толькі ён, шэпча:

— Садитесь, дедушка!

Як вядро вады на галаву бухае.

Пакуль збіраўся штосьці сказаць у адказ, яна ўспела сысці на супынку, толькі ледзь чутны пах духоў застаўся ў паветры.

Дзянёк разгараецца,— быццам падножкі хто ставіць. Урэшце і загрымець можна так, што і не падымешся.

## Раздзел чацвёрты

## СТУДЫЯ

З кім павядзешся,
ад таго і набярэшся.
*З народнага*

Вялікая белая з фасада трохпавярховая будыніна на ўскраіне горада — гэта студыя.

Складанае вобразнае асацыятыўнае мысленне, тое незвычайнае сюррэлістычнае мысленне, якое, бясспрэчна, рэзка адрозніваецца ад мыслення звычайных людзей, мысленне, пра якое вядуцца бясконцыя спрэчкі і размовы ў калідорах будыніны, у праку-

раных кабінетах, на мастацкіх саветах, дзе ў шуме і гаме лёгка губляецца ісціна, пасля праглядаў нямога і агучанага варыянтаў фільма, за мантажным сталом, усё гэта там, на студыі.

Доўгія размовы пра творчыя почыркі Феліні і Антаніёні, гаркавы дымок імпартных цыгарэт над кубачкам кавы, фестывальныя паездкі, вясёлыя рэстараны, душныя сауны, чорныя службовыя «Волгі» для адных і тых жа, нешматслоўных, дзелавітых і хваткіх, якія маюць месячныя тысячныя заробкі, і тут жа, побач з імі, безграшоўе, нішчымніца, гадавыя прастоі ў другіх, гаманкіх і адчайных няўдачнікаў, якія нябачнай грознай сцяною адгароджаны ад фестывальных паездак, рэстаранаў, службовых машын і якіх чамусьці начальству ўсё не знаходзіцца час выслухаць з іх грандыёзнымі творчымі задумамі і планамі — гэта тут, на студыі.

Юнацкія мары пра штосьці незямное, казачна прыгожае, што ніяк не стыкуецца з жыццём грэшных людзей, якія пяць дзён у тыдзень з раніцы да вечара павінны працаваць на заводах і фабрыках, дзе поўна нябачнага ўедлівага дыму, дзе бясконцы гул і шум у вялікіх цэхах, застаўленых цёмнымі прамасленымі станкамі, доўгімі канвеернымі лініямі, ад якіх не адступіцца, дзе снуюць вёрткія дрогкія аўтакары; тых людзей, якія з раніцы спяшаць у канторы і інстытуты, дзе на сталах і кульманах іх чакаюць лісты з чарцяжамі, з бясконцымі ланцугамі лічбаў, формул, выкладак, разлікаў, у майстэрні і лабараторыі, дзе трэба рамантаваць прыборы, тэлевізары, прыёмнікі, бытавую тэхніку; тых людзей, якія ходзяць у паліклінікі і бальніцы, дзе рэзка пахне ёдам і прытарнымі лякарствамі і дзе бледнаватыя разгубленыя хворыя з надзеяю і мальбою ловяць позіркі дактароў, медсясцёр і нават пажылых нянечак, бо яны, хворыя, ужо адчулі блізкі позірк таго няяснага, незямнога і грознага, што да пары да часу падсцерагае кожнага чалавека і пра што чалавек стараецца не думаць; тых людзей, якія ў сталоўках, кафэ і рэстаранах гатуюць смачныя стравы, перамываюць брудны посуд; тых людзей, якія ў цырульнях, пральнях, лазнях, стрыгуць і абмываюць бліжэйшага свайго; тых людзей, якія працуюць у домакіраўніцтвах і жэках, што месцяцца ў паўпадвальных памяшканнях, дзе вясёлыя сантэхнікі, слесары, маляры, элект-

рыкі, дворнікі ведаюць і бачаць лепш за ўсіх паднаготную гарадской прыгажосці; тых людзей, якія пазменна дабіраюцца да тралейбусных, аўтобусных, трамвайных паркаў, у якіх стаяць машыны з іх вечнымі непаладкамі, у магазіны, дзе доўгія прылаўкі, ад якіх здалёку нясе цяжкім задушлівым пахам сінтэтыкі, мыльных парашкоў, фарбаў, дзе некаму абавязкова трэба садзіцца ля гулкіх жалезных кас ля выхаду, ад якога зімою і восенню гэтак цягнуць радыкулітныя скразнякі; тых людзей, якія ў вёсках гадамі даглядаюць жывёлу, вырошчваюць збажыну і гародніну,— над усім гэтым лунаюць незямныя юнацкія мары, і яны, самае фантастычнае, могуць увачавідкі збыцца там, на студыі, таму, калі ў гарадской вячэрняй газеце паяўляецца кароценькая аб'ява аб конкурсе на ролю галоўнага героя ці гераіні ў новым абавязкова геніяльным фільме, перад уваходам у трохпавярховую будыніну цэлымі днямі калышуцца тысячныя натоўпы падлеткаў.

Доўгія ціхія вечары, якія чалавек праводзіць на адзіноце за сталом, схіліўшыся над папераю, не менш пакутлівая адзінота падчас здымак у далёкай экспедыцыі, на натурнай пляцоўцы ці ў тым жа вялікім здымачным павільёне, дзе стаяць размаляваныя пад што хочаш фанерныя і драўляныя дэкарацыі, пазнейшая адзінота ў мантажнай, калі чалавека ні на міг не пакідае няўпэўненасць, ці змог ён паказаць і перадаць людзям самае запаветнае, што дагэтуль гадамі хаваў у душы, ці то — гэта кароткая беспрычынная радасць маленства, ці то — бескарыслівыя парыванні маладосці, ці то — сталы роздум і адчай, і гэта ўсё — студыйнае жыццё.

Паламаныя лёсы, раней часу страчанае невядома на што здароўе, учарнелыя ад цыгарэтнага дыму зубы, патухлы позірк, які загараецца толькі пасля выпітага кубачка кавы ці фужэра каньяку,— гэта таксама там, на студыі.

Таямніца калектыўнай творчасці, вакол якой поўна шумнай рэкламы, ляманту і скандалу, якая немагчыма і нават супрацьпаказана літаратару, мастаку, кампазітару, але якая цудоўна працвітае ў кіно,— гэта там, на студыі.

Глухая злосць, якая захліствае рэжысёра з галавы да пят, калі у яго ўсё аж зелянее ўваччу і ён ад разгубле-

насці нічога не можа сказаць у апраўданне тым шматслоўным рэдактарам, крытыкам, членам мастацкага савета, якія ягоных задум не разумеюць, якія нават і не здагадваюцца пра арыгінальную геніяльнасць новай работы, і таму яны спакойна, а некаторыя дык і з усмешачкаю падчас здачы карціны могуць кідаць: «Фільм абсалютна не глядзіцца»,— ці яшчэ зласней, пад самы дых: «Тут усё развальваецца. Гэтыя слабыя спробы працаваць пад Феліні на мясцовым матэрыяле выклікаюць толькі смех. Няўжо гэтага рэжысёр не адчувае? Гэта — пародыя на мастацтва. Пакуль не позна, трэба рабіць даздымкі», — і пазнейшае паўночнае вяртанне з апаратарскай кабіны — гэтага адзінага надзейнага прыстанішча ўсіх няўдачнікаў і геніяў, якіх да пары да часу абавязкова трэба патаптаць нагамі,— калі адзіны сябар будзе падтрымліваць рэжысёра за плячо, не даваць ягонаму целу надта гайдацца з боку на бок, і гаварыць не столькі рэжысёру, а некаму іншаму, хто звысоку глядзіць на гэтае жыццё і даўно ва ўсім разбіраецца: «Яны яшчэ папомняць, каго заціскалі і рэзалі... Не перажывай... Галоўнае, стары, цяпер — трымацца на нагах, не зламацца. У свой час яны і ў Шукшына пропуск адбіралі, яны і Таркоўскага поедам елі, пакуль не з'елі...» — і, як скрозь вату, чуючы ўсё гэта праўдзівае і суцяшальнае, у рэжысёра нечакана пачынаюць слязіцца вочы, недзе здалёку-здалёку ўсё выразней пачынае пульсаваць, што пасля сённяшняга правалу плакалі твае пастановачныя, за якія ты спадзяваўся разлічыцца з даўгамі, дома цябе чакаюць устрывожаныя пільныя вочы жонкі і дачкі, якім ты нічога не можаш сказаць, а новы сцэнарый цяпер наўрад ці дадуць, і гэта — студыя...

Звычайна дырэктары на студыі доўга не трымаліся, гады тры-чатыры, ад сілы — пяць, не болей: ці то ў іх здавалі нервы і яны клаліся ў бальніцу, ці то заблытваліся ў фінансах.

Кожны новы дырэктар, як толькі паяўляўся на студыі, найперш пачынаў капітальны рамонт будыніны, памылкова спадзеючыся, што ягонае дырэктарства будзе вечным і гэты рамонт — апошні... Адны — давалі каманду фарбаваць з фасада сцены ў новы колер і мяняць шыльду, другія — узрываць стары паркет і насцілаць замест яго новы, трэція — перараблялі кабі-

неты, найперш, канечне, свой, дырэктарскі, а потым — астатнія. Рамонтныя работы на студыі вяліся пастаянна, цэлая брыгада будаўнікоў не ведала спакою ні днём ні вечарам.

Апошні новы дырэктар, якога зверху прызначылі кіраваць студыйным жыццём, на другі ж дзень свайго дырэктарства даў каманду павесіць у доўгіх змрачнаватых студыйных калідорах белыя прадаўгаватыя ліхтары, на якіх цалюткімі днямі чырванелі грозныя надпісы:

*Тихо! Идет съемка!*

*Тихо! Идет просмотр!*

*Тихо! Работают режиссеры!*

Паміж гэтымі ліхтарамі віселі яшчэ буйнейшыя:

*Не курить!*

І яшчэ пры новым дырэктару са сцен вестыбюля на першым паверсе пачалі зрываць цяжкія цёмна-карычневыя дубовыя панелі, а замест іх да цаглянай сцяны на цэментны раствор будаўнікі пачалі класці бліскучыя мармуровыя пліты, якімі ў той год выкладалі сцены станцый метро, і — гэта было загадкава — гэткімі ж бліскучымі метрабудаўскімі плітамі ў той год пачалі абкладацца магілы на цэнтральных гарадскіх могілках. Заадно будаўнікі мармурам абклалі высокія прыступкі перад уваходам у студыю.

Цішыні на студыі ад гэтых новаўвядзенняў не паболела, ад цямна да цямна студыя гудзела як устрывожаны вулей, як і дагэтуль, з кожнага кабінета ў любы міг магла высунуцца ў калідор кучаравая галава, якая, бліснуўшы ў абодва бакі калідора хуткімі вачыма, гаркала так, што аж сцены студыі гудзелі: «Шварлоцкі-і! Дзе ты там?» Як ні дзіўна, тут жа, невядома адкуль, як з падвальнага памяшкання, неслася не менш магутнае: «Ту-ут я. Што нада каму?» — «К целяфону ідзі-і» — «Іду-у. Не кладзі трубку-у!» Народ студыйны курыў там, дзе курыў і дагэтуль, ніякія новыя загады, а тым болей нейкія там ліхтары не маглі сагнаць курцоў з любімага месца: не-

вялічкага закутка ля акна трэцяга паверха побач з лесвічным пралётам. То, трэба прызнацца, было надта выгаднае месца: як на далоні відаць, хто куды і з кім пайшоў, ненавіснаму ворагу пры жаданні можна было і цыгарэтны попел на галаву пасыпаць, калі ён па лесвіцы хадзіў, ды і вышыня, вышыня погляду адчувалася.

Калі ўпамінаць пра варожасць, то на студыі, так ужо склалася, чамусьці гадамі вяліся жорсткія баталіі, ад якіх людзі хапалі інфаркты і інсульты,— варагавалі рэжысёры, рэдактура, адміністратары, варагавалі як у адзіночку, так і цэлымі камандамі, адны, найбольш зацятыя, стаялі на сваім да канца, але большасць студыйцаў вяла тактычную барацьбу — часта перабягалі з адной каманды ў другую, і таму не дзіўна было, што ўчора адны хадзілі па студыйных калідорах у абдымачку, а сёння, глядзіш, і рукі адно аднаму не падаюць.

Трэба сказаць, што на студыі пры ўсіх дырэктарах, як бы яны ні імкнуліся паламаць студыйныя звычкі, як бы яны ні імкнуліся заглушыць студыйныя скандалы, існавалі свае няпісаныя законы, якія ніякія загады і ўказанні не маглі парушыць, і якраз яны, гэтыя няпісаныя законы, стваралі тую студыйную атмасферу, у якой старонні чалавек, ці, як казалі старажылы студыі, *чалавек з вуліцы*, мог альбо прыжыцца, альбо — змарнець і зачахнуць раней часу.

Так яно і вялося: адны — прыжываліся і, як у мутнай вадзіцы, пачыналі лавіць сваю рыбку, хто якую — гэта ўжо залежала ад таленту, сувязяў, ад таго, хто меў перамогу ў складанай студыйнай барацьбе, другія — марнелі і чахлі, урэшце яны станавіліся тымі, кім прыходзілі калісьці на студыю: *людзьмі з вуліцы...*

Пасля таго як на гладкіх бліскучых мармуровых прыступках тры чалавекі грабануліся,— адна маскоўская актрыса і двое сваіх, усе з вывіхамі і пераломамі,— некаторыя разумныя галовы падкінулі дырэктару ідэю ўзарваць праклятыя гладкія прыступкі і на іх месца пакласці драўляныя рашоткі. Некаторыя сцвярджаюць, што дырэктар ужо збіраўся падмахнуць загад аб тым, каб піратэхнічная служба сярод ночы ўзарвала вечныя мармурова-бетонныя прыступкі, ды ў апошні час прыбіральшчыца цётка Анюта, уведаўшы пра намер дырэктара, падказала новую

геніяльную па сваёй прастаце ідэю: пакласці на мармуровыя прыступкі чырвоную дарожку. Канечне, не тую шарсцяную з белымі палоскамі па баках, якую калінікалі высцілаюць да трапаў самалётаў падчас сустрэчы важных замежных гасцей, а больш сціплую, з сінтэтыкі. Такая будзе ляжаць і ў золь, і ў спякоту, і зімою і летам — не згніе, ніякі яе чорт не возьме, сінтэтыка ўсё ж, не абы-што, яе і чарвяк не есць і гніль не бярэ... Ды, як даводзіла дырэктару цётка Анюта, і прыгажосць будзе: чырвоная дарожка на белым мармуры, быццам у тую будыніну заходзіш, ля ўвахода ў якую днём і вечарам міліцыя дзяжурыць...

Падумаўшы, параіўшыся з трыма намеснікамі, дырэктар на шматкі парваў падрыхтаваны загад для піратэхнікаў і тут жа прадыктаваў машыністцы новы.

З таго дня штовечар цётка Анюта плача слязьмі, вытрасаючы ад пылу і акуркаў праклятую дарожку.

Чым бліжэй Віктар Іванавіч падыходзіць да студыі, тым болей сустракае знаёмых. Некаторыя, здаля ўбачыўшы ягоную высокую постаць, ківаюць галовамі. Перад фасадам студыі на невялічкай асфальтаванай пляцоўцы стаяць легкавушкі,— і свае, студыйныя, на якіх бялеюць прыцягальныя надпісы «*госкино*», «*киностудия*», і прыватныя. На высокіх белых мармуровых прыступках, як на трыбуне святочнай, тоўпяцца людзі,— размаўляючы, размахваючы рукамі, яны паспяваюць яшчэ раз-пораз азірацца, каб не праваронiць каго з патрэбных дазарэзу...

Віктар Іванавіч звыкла ступае на чырвоную дарожку, звыкла ківае людзям галавою і, падняўшыся па прыступках, цягне на сябе масіўную ручку высокіх шкляных дзвярэй, на якіх чарнее шыльдачка:

*Предъяви пропуск*

Пропуск Віктар Іванавіч не паказвае,— вахцёры яго добра ведаюць, не першы год сюды ходзіць, ды і ў самога Віктара Іванавіча, калі заходзіць, кожны раз такое адчуванне, быццам у родны дом вяртаецца.

Праўда, бываюць дні, калі вахцёры нечакана звярэюць: патрабуюць пропускі ва ўсіх, нават і ў тых, каго ведаюць гадамі, з кім дагэтуль не раз за руку віталіся. Бывае такое пасля новага скандальнага здарэння: аварыі студыйнай машыны, калецтва акцёра падчас зды-

мак, прапажы матэрыялаў, публічнага скандалу, выпівак, якія «засякаюцца» начальствам на рабочым месцы,— мала чаго можа быць... Аднойчы аднаму вахцёру пасля чарговай накачкі пад гарачую руку трапіўся сам старшыня Дзяржкіно Федарэнка. Старшыня Дзяржкіно, чалавек гарачы і запальчывы, падкаціўшы да студыі на чорнай «Волзе», як ні ў чым не бывала, не гледзячы на вахцёра, быццам таго і на свеце не існавала, шырокім размашыстым крокам пайшоў быў у вяртушку, ды тут здарылася нечаканае: хуткім няўлоўным жэстам вахцёр заблакіраваў вяртушку і паўстаў перад старшынёю: «Прад'яві пропуск».

Старшыня Дзяржкіно змераў вахцёра з галавы да пят тым кароткім знішчальным позіркам, ад якога, кажуць, рэжысёры і рэдактары нямелі і дзеравянелі, ды — нічога не здарылася, вахцёр не спапяліўся, наадварот, за некалькі імгненняў ён неяк выцягнуўся, падрос як быццам і цяпер стаяў слупам перад старшынёю і не думаў варушыцца. Тады адной рукою Федарэнка ў гарачцы пару разоў тузануў вяртушку,— не, яна была заблакіравана моцна. Пасля ўчарашняй вымовы за парушэнне прапускнога рэжыму вахцёр цяпер спакойна, як на *чалавека з вуліцы*, глядзеў на старшыню. І тут Федарэнка, наліўшыся бурачнай чырванню, узарваўся, грымнуў так, што аж на трэцім паверсе водгулле пайшло: «Ты что, не узнаешь меня? Или издеваться вздумал?» — «Прад'яві пропуск і не разгаварывай надта. Інача — міліцыю выклічу»,— спакойна стаяў на сваім вахцёр.

Кажуць, той легендарны вахцёр быў адзіны чалавек на студыі, які свайго ад старшыні дамогся: уламаў яго шукаць пропуск. І яшчэ кажуць, што вахцёр быў першым застрэльшчыкам студыйнай перабудовы.

Адразу ж за вяртушкаю ля акна перад лесвіцаю стаяць купкаю шафёры,— весела перакідваюцца свежымі анекдотамі, новымі студыйнымі навінамі і плёткамі і заадно пазіраюць неўпрыкмет на тых, хто праходзіць міма. Насупроць іх на сцяне калідора, які вядзе ў студыйную сталовую, на вялікай дошцы вісяць аб'явы: калі і што дэманструецца ў Доме кіно, каго — віншуюць з чарговай фестывальнай узнагародаю, каму — вымова за пратэрміноўку здачы знятага матэрыялу... Там жа цяпер чарнее напісаная вялікімі літарамі аб'ява пра сённяшні адказны сход.

У вузкім цемнаватым калідоры першага паверха, дзе знаходзіцца аб'яднанне дакументальных і заказных фільмаў, чуецца многагалосы гул, тупаценне ног, цьмяна відаць задымленыя постаці, нехта перад некім адчайна размахвае рукамі... У асноўным там працуюць людзі маладыя, гарачыя, набіраюцца вопыту, каб з часам вышэй, на другі паверх перабрацца, дзе здымаюцца мастацкія фільмы.

Віктар Іванавіч нетаропка падымаецца па лесвіцы. Сутыкнуўшыся позіркам з людзьмі, якія ці то абганяюць яго, ці то спускаюцца зверху насустрач, ён каму — падае руку і, пацісnуўшы чужую далонь, гаворыць спакойнае: «Дзень добры»,— каму толькі злёгку ківае галавою, і ва ўсім гэтым праяўляецца градацыя таго студыйнага жыцця, у якім Віктар Іванавіч даўно разабраўся і парушаць якое нікому не дазволена.

На другім паверсе калідорам Віктар Іванавіч праходзіць да свайго кабінета,— на сценах калідора вывешаны вялікія фотаздымкі, зробленыя ці на натурнай пляцоўцы, калі здымаўся фільм, ці ў экспедыцыі, ці ў здымачным павільёне. Часцей за ўсё на здымках красуюцца загрыміраваныя акцёры, а побач з імі, ля кінакамер, стаяць рэжысёры ў кепачках, насунутых на самыя вочы — яны строга і пільна глядзяць кудысьці ўдалеч, некаторыя штосьці камандуюць акцёрам, указваючы выцягнутай наперад рукою.

Як палкаводцы ў час складанай ваеннай аперацыі.

Сваім ключом Віктар Іванавіч адмыкае дзверы, на якіх здалёк кідаецца ў вочы чорная акуратная шыльдачка:

*Главный редактор*
*Сацункевич В. И.*

У кабінеце ўсё блізка і дарага, быццам маленства правёў у гэтых сценах: і паліраваны трохкутны стол, і шафа ў куце, і тры тэлефоны на стале, і чырвоная мяккая дарожка, і крэсла-вяртушка за сталом, і кніжная паліца, і нават шторы на акне... Часам на адзіноце Віктар Іванавіч прызнаецца сабе: забяры ад яго ўсё гэта — і кабінет, і тэлефоны прамой сувязі,— ён тут жа застанецца як без рук, як інвалід стане, бо гэтае нікому не бачнае «галоўны рэдактар», якое

носіць пры сабе каторы год, надае адчуванне ўпэўненасці і саліднасці, яно, гэтае «галоўны рэдактар», неяк аўтаматычна ўводзіць Віктара Іванавіча ў тое пэўнае кола знаёмых салідных паважаных і прадстаўнічых людзей, да якіх староннім не падступіцца, і таму Віктар Іванавіч штодзённа, штохвілінна адчувае, што яму дазваляецца ў жыцці штосьці такое, што астатнія не могуць сабе дазволіць.

Складаныя гэта штуковіны: слава, улада... І той, хто аднойчы іх пакаштаваў, хто хоць раз адчуў прыцягальна-салодкі смак улады і славы, ужо да скону дзён будзе помніць тую наркатычна-тлумную лёгкасць і ўсёдазволенасць, што кружаць галаву, да якіх хутка і непрыкметна прывыкае чалавек і без якіх, як п'яніцу без чаркі, усё на свеце здаецца прэсным, пустым і нямілым. І тады ўжо няшчасны чалавек гатовы рабіць што заўгодна, абы не страціць чарговай яшчэ большай порцыі насалоды: прадасць і купіць бліжняга свайго, адрачэцца ад бацькоў і бацькаўшчыны і, забыўшыся на гонар і сумленне, ён на каленях папаўзе за дужымі свету гэтага, якія толькі і чакаюць, калі ж да іх прыпаўзуць іх верныя служкі і ліслівa зазірнуць у сытыя закормленыя вочы. І тады яны ўжо кінуць, як сабаку костку, чарговую порцыю наркатычнай асалоды: цешся і служы, няшчасны, да скону дзён сваіх будзь рабом нашым...

Віктар Іванавіч здымае з сябе чорную скураную куртачку і вешае яе ў шафу. Тады ж кладзе гэткую ж чорную кепачку. Заадно ў шафе, дзе вісіць люстра, кідае позірк на незнаёмца.

Нічога яшчэ мужчына.

*Бачыла б цябе цяпер тая прыгажуня пісаная... Тут, у кабінеце... Усе яны дзяўчаткі да пары да часу... Як з неграмі ля «Глобуса» ці ў тым жа рэстаране гатовыя на што заўгодна: кіўне каторы пальцам, і яна тут жа, як на вяровачцы прывязаная, бяжыць следам. А тады народ здзіўляецца, што зараза сеецца чортведама якая. Дзядуля... Які ты яшчэ дзядуля?..*

Пасля гэтага Віктар Іванавіч садзіцца за стол. Варта яшчэ раз пагартаць сцэнарый перад рэдсаветам.

**Раздзел пяты**

# ГРАМАБОЙСКІ

Чым бы дзіця ні цешылася,
абы не плакала.

*З народнага*

Не паспеў вачыма прабегчы і старонкі, як дзверы кабінета рэзка адчыняюцца і перад вачыма Віктара Іванавіча паяўляецца фігура пяцідзесяцігадовага коратка пастрыжанага барадатага мужчыны,— у абавязковым на студыі чорным скураным пінжаку, у блакітных пацёртых джынсах. І скураны пінжак, і тыя ж джынсы замежныя — як нейкая казённая форма, якую ўсе прыстойныя студыйныя людзі павінны насіць. Нават жанчыны і тыя хадзілі ў чорных скураных пінжаках. Бародка ў мужчыны шырокая і кароткая — пад Хемінгуэя. І яшчэ ў яго цёмныя акуляры, што не здымаюцца ні зімою ні летам.

Некалі, гадоў дваццаць назад, высокае начальства кінула магутны кліч: умацуем нацыянальнае кіно пісьменніцкімі кадрамі! Вось тады разам з іншымі літаратарамі, масцітымі і немасцітымі, на студыі паявіўся драматург Грамабойскі — баявы, задзірысты і языкаты, падкаваны па ўсіх пытаннях тэорыі кіно, бо перад гэтым паспеў прайсці вучобу ў Маскве на вышэйшых рэжысёрскіх курсах, дзе ўсяго начуўся і ўсяго нагледзеўся...

Гадоў праз пяць пасля клічу, амаль што ўсе пісьменніцкія кадры са студыі ці то самі пазвальняліся, прыхапіўшы на памяць інфаркты, ці то іх пазвальнялі, абвінаваціўшы перад гэтым у прафнепрыгоднасці і неразуменні спецыфікі кіно. Аднак Грамабойскі, хоць і не быў членам Саюза пісьменнікаў, утрымаўся. Ён нават прабіў у вытворчасць пару сваіх сцэнарыяў, паспрабаваў сябе ў рэжысуры, выдаў кніжку нарысаў па гісторыі кінадраматургіі, але, як гэта часта бывае ў здольных на ўсе справы людзей, у нейкай адной сферы класным спецыялістам так і не заявіў сябе. Грамабойскі быў у меру рэжысёр, у меру драматург, адзін з тых сучасных востраправлемных драматургаў, п'есы якіх грымяць год-другі на ўсіх тэатральных сцэнах, а потым хутка і бясследна навечна знікаюць, ён быў у меру нарысіст, у меру крытык, і не болей...

Затое Грамабойскі цудоўна разбіраўся ў творчасці іншых рэжысёраў, драматургаў, літаратараў як маладомых, так і прызнаных усесаюзных мэтраў, з незвычайнай лёгкасцю, як гэта ўмелі многія студыйныя работнікі, выносіў катэгарычныя прысуды фільмам, літаратурным творам. Ён мог гадзінамі гаварыць, што і як трэба было б здымаць ці пісаць, каб атрымалася геніяльнае тварэнне, невядома як, ды Грамабойскі ведаў, у чыёй творчасці якія слабасці і правалы, і ўвогуле на ўсе выпадкі жыцця ў Грамабойскага меліся свае мудрыя рашэнні. На студыі Грамабойскі лічыўся неблагім рэдактарам, ягоных з'едлівых нечаканых заўваг і рэплік пабойваліся і рэжысура, і рэдактура, і нават сам дырэктар студыі. Мабыць, таму Грамабойскі змог тут утрымацца.

Яшчэ з парога Грамабойскі падымае ўгору руку і радасна ўсміхаецца. Ён падыходзіць да стала і неяк абыякава торкае Віктару Іванавічу мяккую далонь: «Прывет!» Затым Грамабойскі садзіцца за стол якраз насупроць Віктара Іванавіча і, размашыста закінуўшы нагу за нагу, вымае з кішэні піпачку і капшук з махоркаю. Набіваючы піпачку махоркаю, Грамабойскі пазірае на Віктара Іванавіча і гаворыць:

— Я думаў, ты ўжо не заявішся сёння на рабоце. Я падыходзіў раней да кабінета, тузаў ручку дзвярэй — не было цябе... Можа, прыхварэў трохі? — набіўшы піпачку махоркаю, Грамабойскі хавае капшук у кішэні і тут жа, выцягнуўшы з кішэні газавую запальнічку, падпальвае махорку. Пасля гэтага ён можа ўдосталь з асалодаю пыхкаць дымам у вочы Віктара Іванавіча.

— Не, не захварэў пакуль што. Хоць адчуваю сябе не надта добра. Сны нейкія сняцца,— гаворыць Віктар Іванавіч.— Выступленне рыхтаваў для сённяшняга сходу. Тут жа, у кабінеце, не падрыхтуеш, не дадуць — то званкі бясконцыя, то аўтары са сваімі геніяльнымі сцэнарыямі за горла бяруць, то рэжысёры са сваімі балячкамі і накладкамі.

— Да, брат, гэта ты точна гаворыш, як у сук лепіш — не даюць яны цяпер жызні...— Грамабойскі задуменна глядзіць на шэры махорачны дым, які струменьчыкам выпускае з рота, а потым перапытвае:— Дык што, кажаш,— надумаў сягоння ўрэзаць па іх, сказануць праўду-матку?

Урэзаць — не ўрэзаць, а выступіць давядзецца.

Сам, паміж намі кажучы, дырэктар папрасіў. Сход сягоння — важны, пераломны, можна сказаць. З Дзяржкамітэта, мабыць, сам Федарэнка будзе. Феафанавіч, як мне вядома, таксама павінен прысутнічаць. Ды што табе доўга казаць, сам добра ведаеш, якая на сёння абстановачка: як на фронце ў сорак першым... Яны ж цяпер зусім абнаглелі, ім жа цяпер ніхто не ўказчык, ім жа цяпер і мора па калена.

Яны — гэта рэжысура, з якой рэдактура вядзе пастаянную барацьбу. Барацьба вядзецца каторы год. Бывалі часы, калі перамога хілілася ў бок рэдактуры, а бывалі, калі рэжысёры заціскалі рэдактуру. Усяго бывала на студыі, але такіх складаных супярэчлівых дзён, як цяпер, на студыі ніколі не было...

Калі фільм са сцен студыі выходзіў больш-менш удалы, то вялікіх скандалаў паміж рэжысёрамі і рэдактарамі не было, па маўклівай дамоўленасці, слава, як і добрыя пастановачныя, належала рэжысёру, і толькі што-ніштo перападала рэдактару: прозвішча ў цітрах ды прагрэсіўка студыйная... Але ж як толькі фільм завальваўся, на студыі шукалі крайніх, і таму тут жа ўсчынаўся вялікі лямант: рэжысёр абвінавачваў рэдактуру ў нізкай якасці сцэнарыя, рэдактура на ўсіх калідорах кляла рэжысёраў — якія — і гэта зразумела нават *чалавеку з вуліцы* — абсалютна не ўмеюць думаць лагічна, бо ў іх мазгі даўно скасабочаны вучобаю і замежнымі фільмамі, яны заклапочаныя толькі тым, каб як мага болей наздымаць прыгожых карцінак... І яшчэ рэжысёры ўмеюць прыгожа расказваць пра свае будучыя фільмы, на гэта кожны з іх майстар...

— Абнаглелі, правільна гаворыш,— падхоплівае гаворку Грамабойскі.— Далі ім уладу. Ну, дык няхай цяпер самі з імі і расхлёбваюцца. У Маскве, я нядаўна чуў, ужо сам Грунёў лямантуе, валасы на сабе рве апошнія. Ён жа, ты помніш, першы заварыў гэту катавасію: распачаў сусветны лямант пра новую мадэль у кіно. З яго ных заяў усё і закруцілася. Там,— Грамабойскі ківае галавою ўгору, на белую столь,— наверсе, падумалі, паразважалі, ну і далі яму магчымасць памадэліраваць. Усё роўна з нас цяпер толку дзяржаве як з казла малака — на датацыях сядзім. Ну і што робіць Грунёў першым жа дзелам, як ты думаеш? Гэта дзела ўжо адрэпеціравана, не ён першы, не ён апошні. Як гэта заўсёды робіцца, ён адразу ж заявіў: да мяне —

нічога талковага ў кіно не было. Тут жа ён усіх старпераў з пасад паскідаў, а на іх месца сваю новую каманду пасадзіў. Пасадзіць-то — пасадзіў... А далей што рабіць? Далей Грунёў сваёй новай камандзе новы лозунг кідае: наперад, за мною, перабудоўвацца будзем. А тыя яму тут жа — фігушку пад нос, мы ўжо даўно перабудаваліся, адчапіся ты ад нас, нам цяпер і без цябе клопатаў хапае па самыя вушы. І тут жа яны ўсе як адзін у запускі свае сцэнарыі — шусь... У газетах, у часопісах яны рэкламу, самарэкламу запусцілі на ўсю катушку: ах, паглядзіце, якія мы пакутнікі, нас жа некалі жыўцом рэзалі, на паліцы нашы фільмы клалі... І — пайшло, пакацілася па новым вітку. Дарвалася баявая гвардыя да кармушкі. Яны цяпер большае вырвуць, чым іх папярэднічкі: і званні, і прэміі, і паездачкі за мяжу на фестывалі прэстыжныя, і сцэнарыі скандальныя, і пастановачныя... Хэ-хэ-хэ,— нейк аж радасна пасмейваецца Грамабойскі, быццам сам трапіў у тую кампанію рэжысёраў, пра якіх расказваў.— Я табе між намі скажу, з тымі старперамі лягчэй было згаварыцца, бо ў іх ужо ўсё мелася, ім ужо ўсяго навешалі: і званняў, і лаўрэацкіх, і прэмій... А ў гэтых жа грудзі голыя... Гэтыя новаспечаныя цяпер адкрытыя геніі яшчэ сябе пакажуць, вот папомніш ты мае словы, аж зямелька задрыжыць ад іх дзейнасці. Я вот успамінаю, калі яшчэ ў Маскве на рэжысёрскіх курсах вучыўся, нешта падобнае было. Сход ішоў у Саюзе пісьменнікаў. Адзін на той час яшчэ малады, яршысценькі паэт вылятае на трыбуну і лямантуе штосілы: старыкі маладзёж заціскаюць, камандзіроўкі замежныя ў свае кішэні кладуць, далоў старых! Карацей, амаль тое ж самае, што і цяпер на нашых студыйных сходах гаворыцца. Скончыў ён свой лямант, пасля яго на трыбуну падымаецца старая мудрая паэтэса і так гаворыць: таварышы, вы ж самі бачыце — мальчык хоча з'ездзіць за граніцу. Ну, дык пусціце вы яго, ён тут жа і супакоіцца. І праўда — з таго часу, як пачаў ездзіць за граніцу — а ездзіць ён, я табе далажу, разы па тры ў месяц, і ўсё па капкраінах, вывучае ўсё, як яны там загніваюць,— больш ён пра камандзіроўкі для маладых не лямантуе. Цяпер, як чуў не раз на свае вушы, ён лямантаваць пачынае пра законнасць дзяржаўных прэмій... Ды што тут доўга пра масквічоў гаварыць, калі ў нас свая гвардыя падрасла... Таго ж Сурачкіна вазьмі... У Грунё-

ва пракціку прайшоў, паслухаўся на сакратарыятах... І адкуль што ў яго бярэцца — ты вот скажы мне? На нашых жа вачах вырас. Яшчэ ж, калі разабрацца,— сапля саплём, а зірні толькі, што вытвараць пачаў? Ведаеш, што ён учора заявіў дырэктару студыі? Маўляў, цяпер будзеш запускаць у вытворчасць толькі тыя сцэнарыі, якія я на сакратарыяце зацверджу. У таго, бедалагі, валасы дыбам ад такіх разгаворчыкаў, чуць інфаркт не прыхапіў у сваім кабінеце. А Сурачкін разышоўся яшчэ болей: ты, маўляў,— гаспадарнік, за машынамі і за прыбіральшчыцамі глядзі... Во, парадачкі пачаліся: ахінею на стол табе пакладуць і — не рыпайся, запускай у вытворчасць... Даб'юць яны яго сёлета, вот паглядзіш. Зап'е з гора.

— Было б толькі што піць,— усміхаецца Віктар Іванавіч, разглядаючы Грамабойскага. Чамусьці, слухаючы Грамабойскага, ён кожны раз усміхаецца. Размова з Грамабойскім — як лякарства, ад якога тут жа лягчэе на душы. І, самае дзіўнае, зусім няважна, пра што той бесперастанку сыпле.

І цяпер ужо ўсё, што снілася ноччу, як і ранішняе раздражненне, як і словы дзеўчынёшкі ў тралейбусе,— усё гэта зусім забыта. Студыйныя клопаты, здаецца, назусім адгарадзілі ад яго тое няяснае, заблытанае і пакутлівае, што адчуваў раніцаю.

— І што, і, галоўнае, з кім,— зноў весела, бы песню вядомую, падхоплівае Грамабойскі. Ён выпускае з рота дым і, трымаючы ў адстаўленай руцэ піпачку, адваліўшыся на спінку крэсла, гаворыць паволі:

— Цяпер, браце, можна піць толькі ўдвух, не болей.

— Чаму?

— Будзеш ведаць, хто пасля заклаў... Во — навіна апошняя: Шумскі загрымеў. Чуў?

— Няўжо? Ён жа на тым тыдні яшчэ на чорнай «Волзе» раскатваў. На свае вочы бачыў.

— Накатаўся ўжо... Думаў, пабаяцца зачапіць. На работу пад градусамі заявіўся. Ну, сам ведаеш, цяпер жа дабрадзеяў поўна: нехта тут жа званочак наверх — прыязджайце, бярыце цёпленькага. Міліцыя падкатвае і ў кабінет першым дзелам шуруе. Сакратарка і не пікнула. Ён, нічога не скумекаўшы: прашу садзіцца, в чом дзела? А падпалкоўнік яму ў лоб, як абухом: вы — п'яны... Ён тады бачыць: капцы, грыміць — гаворыць: я настоечку на спірту прымаю рэгулярна,

кроплі ад сэрца... Ну, брат ты мой, дзе ж ты там ужо выкруцішся, калі падпалкоўнік перад табою? — тэатральна разводзіць рукі Грамабойскі.— Якое тут табе ўжо сэрца? Якія тут табе кроплі? За шкірку яны яго і ў «варанок»... Во, брат, дзялы пайшлі... А бедалагу Петухова ўспомні? Ні за капейку чалавек ляснуў. Таго свой шафёр у выцвярэзнік адтарабарыў. У дзве ночы пасля паддачы замест таго, каб да жонкі пад цёплы бачок, ён, паразіт, у выцвярэзнік прэ... Свайго ж шафёра бойся. Хоць пад коўдраю пі... Ці снілася табе, брат, такое гады тры назад, калі на фестывалях у застоллях гудзеў, га? А цяпер усе тыя, хто некалі тосты гаварылі, хто некалі чокаўся з табою, яны ж і закапёршчыкі самыя, самыя правяральшчыкі,— Грамабойскі смяецца, аж заліваецца.

Ухмыляецца і Віктар Іванавіч, хоць, калі разабраца,— ці да смеху зараз?.. Цяпер і сам у любы міг можаш загрымець гэтак жа, як Шумскі ці той жа Петухоў.

— Вот табе смешачкі ўсё,— не супакойваецца Грамабойскі, усё не забываючыся раз за разам пыхкаць дымам у вочы Віктара Іванавіча,— а простаму рабацягу, гегемону нашаму — трагедыя. Дагэтуль як вялося: ці з гора, ці з радасці чалавек чарнільца цяпне — палягчэла адразу ж, душа затрапяталася... Ды і назаўтра жыць можна, хоць, можа, галава і трашчыць, але ж затое ногі ходзяць, да станка ці да будоўлі дабрысці можна. А цяпер, што рабіць чалавеку?.. Дзіхлафосу з півам кульне бакальчык і — нікакіх табе праблем, нікуды назаўтра ісці не трэба, гатовы — зямныя пакуты закончыліся, павезлі халодненькага нагамі ўперад... Дзялы, дзялы, брат, пайшлі. Ні адэкалонаў, ні ласьёнаў у магазінах са свечкамі не знайсці. Засмяешся яшчэ больш, калі і шклоачысціцелі падмятаць пачнуць — кажуць, і яны пайшлі ў ход. Во, жыццё вясёлае пачалося... Малі яшчэ бога, што дачка замуж умудрылася выскачыць, а так, чаго добрага, і табе давялося б дзяжурыць вечарамі ля «Глобуса», каб з іншаземцамі не круцілася. Я вот сягоння на сходзе на цябе Сурачкіна натраўлю. Кажуць, ён ужо з тыдзень па калідорах лётае, каманду фармуе, каб на цябе напусціць, кулакамі махае, гразіцца табе ўсыпаць.

— Хай сыпле, мне не прывыкаць: ці першы раз такое?.. Ты лепш скажы мне пра іншае. Кажуць, ты ў Саюз пісьменнікаў збіраешся паступаць. Праўда гэта?

— Па сакрэту скажу, пакуль што прыцэльваюся, прыглядваюся... Тут як у латарэі, калі павязе — дык і праскочыш. Трэба ведаць, у каго ўзяць рэкамендацыі. Там жа — камісіі розныя трэба прайсці, як чысцілішча якое. Ну і, само сабою, атмасферу трэба ведаць, не то вылеціш як Пілiп з канапель...

— І якая ж там цяпер атмасфера. Мабыць, гэткая ж, як і усюды,— перабудоўваюцца?..

— О-о, там таксама, брат, дзялы!... Схамянуліся літаратары: пачалі за мову ваяваць. Аж грыміць тая будыніна: падавай беларускія школы, і ўсё! На ўвесь горад, на ўсе райцэнтры і абласныя гарады няма ніводнай беларускай школы. За апошнія гады пад сцягам інтэрнацыяналізму ўсе скасавалі. Хай бы ўжо адну паказальную пакінулі, для інтурыстаў... А так — ні школы, ні садзіка. Дажыліся... Кажуць, у Міністэрстве культуры дык і машынкі няма з беларускім шрыфтам. Што ты ўжо хочаш пра астатніх гаварыць.

— А чаму б і не адкрыць?

— Праблем тут шмат сабралася, усё ў адным клубку сплялося... І з падручнікамі бяда, і з настаўнікамі, і з дзіцячымі садзікамі... Ды і чыноўнікі як адносяцца?.. Яны, думаеш, ёлупні, каб сабе на шыю новы хамут чапляць? Яны ж ад яго толькі-толькі вызваліліся, а цяпер зноў турбавацца? Навошта ім? Хэ-хэ-хэ,— зноў радасна смяецца Грамабойскі, быццам сам працаваў самае малое ў Міністэрстве асветы,— ім жа дагэтуль была не жысць, а маліна: вызваліў ад беларускай мовы і літаратуры і — нікакіх табе праблем. А бацькам трэба гэтая мова, калі на ёй у горадзе і слова не пачуеш? А вучням? Кажуць, апошні лозунг выкінулі: па жаданні бацькоў і вучняў трэба вывучаць мову альбо не вывучаць. З такой жалезнай логікаю любы прадмет можна не вывучаць: і англійскую, і рускую... Калі ўжо роўнасць прапагандуем, дык давайце і для ўсіх прадметаў з роўнымі меркамі падыходзіць... І ўвогуле, ты вот чэсна мне скажы: калі не будзе дзяржаўнага падыходу да праблем з нацыянальнымі мовамі, усё гэта можна будзе выправіць? Адны пісьменнікі гэта выцягнуць? Іх жа першых пасля і абвінаваціць можна будзе, калі нічога не атрымаецца... Ды і, я табе далажу, не ў адной мове тут дзела, дзела тут зусім у іншым... Я нядаўна гаварыў па душы з адным дзеячам, ён там працуе,— зноў, як на бога, ківае ўгору на столь Грама-

бойскі,— дык ён мне прамым цекстам заявіў: цяпер, маўляў, часы такія насталі, што малым народам не да жыру... Ідзе, маўляў, інтэрнацыянальная інтэграцыя ўсяго на свеце: палітыкі, эканомікі, культуры... Ды і культура, як ён мяне пераконваў, становіцца іншай: усё перамешана, пра якія вузкія нацыянальныя традыцыі мы цяпер можам гаварыць? Інфармацыя людзей захлёствае, тэлевізары, цягнікі, самалёты, сувязі замежныя — цяпер жа ўсё не так, як калісьці было, калі гадамі ў сёлах сядзелі. Цяпер жа, як некалі ў царстве Вавілонскім было... А тут яны яшчэ з нейкай моваю носяцца як з пісанай торбаю, планы і дзяржзаказы не даюць выконваць. Сітуацыю міжнародную трэба разумець гэтым пісьменнікам, якія, акрамя сваёй мовы, больш нічога і бачыць не хочуць — от што ён мне прама заявіў. На тым тыдні ў Саюзе пісьменнікаў сход быў. О-о, давалі яны дык давалі прачуханцаў розным чыноўнікам! Пад канец сходу Феафанавіч — а ён там у прэзідыуме красаваўся — збег, каб пасля перад начальствам не адказваць. Усім яны ўвальвалі. Дарэчы, і тваё прозвішча там фігурыравала.

— За што мне такая чэсць?

— Як,і не здагадваешся. За тое, што студыя наша фільмаў на беларускай мове не выпускае. Нацыянальная тэматыка зусім забытая, усё ў нас — руская класіка, а сучаснасці — няма.

— Мабыць, тыя лямантавалі, чые сцэнарыі не прайшлі. Як быццам я ва ўсім вінаваты.

— Ну, вінаваты — не вінаваты, а на першым часе, як гэта заўсёды робіцца, стрэлачнік будзеш харошы,— смяецца Грамабойскі. Выбіваючы попел з пілачкі ў фарфоравую попельніцу, якую Віктар Іванавіч трымае спецыяльна для курцоў, Грамабойскі падымаецца з крэсла:

— Ладна, ты цяпер адзін весяліся. Паплятуся я сцэнарый дачытваць. Рэдсавет за ноч не ўздумаў адмяніць? І сход, і рэдсавет — не залішне ў адзін дзень?

— Тэрміны падціскаюць,— неяк залішне лёгка, бяздумна гаворыць Віктар Іванавіч адно, а думае пра штосьці іншае. Чамусьці слухаць больш вясёлага Грамабойскага не хочацца. Настрой хутка псуецца. Няўжо з-за таго, што нехта недзе ўпікаў яго за тое, што ён адрокся ад мовы свайго народа? — Нельга нам больш зацягваць. Чаго добрага, за пратэрміноўку аў-

тар і ў суд можа падаць. Цяпер жа яны граматныя. І заплаціць давядзецца.

— Дарэчы, я за гэтым і зайшоў. Што ты думаеш рабіць са сцэнарыем?

— Паглядзім, як пойдзе абмеркаванне. Мабыць, як і звычайна, запусцім аўтара на другі круг. А тады ўжо — будзе відна, што атрымаецца. Не справіцца — падключым альбо рэжысёра, альбо прафесіянала з Масквы. Ён дацягне да сярэдняга ўзроўню.

— Дацягне. Яны — што хочаш дацягнуць... Як у мяне, дык наконт гэтага сцэнарыя свая думка,— з гэтымі словамі Грамабойскі, нарэшце, пакідае кабінет, у якім трэба адчыняць фортачку, бо з-за дыму не прадыхнуць.

Віктар Іванавіч пільна глядзіць на зачыненыя дзверы, за якімі знік Грамабойскі. Штосьці яму трэба ўспомніць, абавязкова трэба...

*Знікае мова цэлага народа. І ты, кажуць, таксама вінаваты...*

*Хто ж вінаваты ў тым, што гэтак хутка мяняецца свет і чалавек у свеце?*

*Помніш, як маці твая некалі пяяла?*

*Як і іншыя жанчыны ў сяле, маці пяяла ўсюды, дзе толькі можна было: у лесе, на полі калгасным, дома. Ды больш за ўсё табе запомнілася, калі маці пяяла пад гудзенне, рытмічнае парыпванне пралкі,— як толькі яна зацягвала песню, твар яе святлеў, станавіўся больш строгі, быццам маці некаму спавядалася пра кароткую недагуляную маладосць, пра замужжа ў чужым сяле, пра нядобрую няласкавую нядолю, пра татулю і матулю, без якіх гэтак цяжка жыць...*

*Чаму ж ты не запомніў ніводнай з тых песень, якія гэтак лечаць ад адзіноты і ад таго прыдуркаватага гыгыкання, якое штодзень чуеш не толькі ад Грамабойскага і саслужыўцаў, а і з блакітнага экрана, з прыёмнікаў і пра якое некалі казалі, што смех без прычыны — прызнак дурачыны?*

*Чаму ж твая дачка не запомніла ніводнай з тых песень?*

*Чаму ўвогуле ў сучасным жыцці людзі часцей за ўсё спяваюць толькі п'янымі,— заліўшы памяць і сорам гарэлкаю, яны скрозь сілу намагаюцца ўспомніць даўнія нясытныя часы, калі душа сама па сабе спявала?..*

Што ж здарылася з табою, чалавеча?

Ты вырас не толькі на песнях маці. Ты вырас на казках і прымаўках,— усё, што чуў ад людзей у маленстве, што сам гаварыў, выліваласся ў простых і ясных словах, без якіх ты быў бы, як той Нямтур, які жыў ад вас цераз пяць хат і якога ты некалі дражніў, паказваючы, дзе ягоны язык, і ён тады гнаўся за табою і за тваімі аднагодкамі гэтак страшна, што, здавалася, прыб'е да смерці, калі зловіць...

Як жа так сталася, што ты загаварыў па-іншаму і пра іншае?

Помніш, як у далёкім горадзе на першым прыёмным экзамене ты пачаў малаціць па-вясковаму, так, як гаварылі твае бацькі, як гаварылі настаўнікі ў тваёй школе. Здзіўлена вытрашчыўшы вочы, выкладчык напачатку нічога не зразумеў. І толькі пазней, калі адным духам ты выпаліў усё, што мог і што хацеў сказаць, ён асцярожна спытаў:

— Откуда же ты приехал?

І ты з гонарам назваў сваю вёску, пакуль нічога не ўцяміўшы, бо на той час твая вёска была яшчэ цэнтрам Сусвету, вакол якога круцілася ўсё астатняе: і гэты вялікі горад, куды прыехаў на цягніку, і іншыя гарады, якія былі то далей ад тваёй вёскі, то бліжэй, і нават сонца, якое штодня хадзіла над тваёй вёскаю, і зоры, якія ахіналі найперш тваю вёску...

— А где это? — усё дапытваўся выкладчык.

І тут да цябе пачало даходзіць. І ўспомніў, быццам цябе ў гразкую лужыну нагою піхнулі: «А-а, колхозник!.. Получай, деревня, трактор!..»

І ты, пачырванеўшы, быццам цябе злавілі на нечым недазволеным, асцярожна па слову выціснуў:

— В Белоруссии... Деревня такая имеетца...

Выкладчык тут жа павесялеў. Ён нават усміхнуўся і сказаў:

— Что ж, учитесь, молодой человек. Пусть и белорус у нас учится. Дверь у нас для всех широко открыта.

І пяцёрку заляпіў у экзаменацыйны ліст, не задаўшы больш ніводнага пытання, адчыняючы насцеж зачыненыя дзверы інстытута.

І ты ступіў...

Заадно ты ступіў у новае гарадское жыццё, і табе, хацеў таго ці не хацеў, давялося нацягваць на сябе новую скуру...

*Аднакурснікі называлі цябе Бульбашом, і кожны раз, пачуўшы гэтае слова, табе станавілася крыўдна, сорамна і балюча, хоць з горада ўцякай; як ты ні ламаў свой язык, а ўсё ніяк не мог перавучыцца, перайначыцца і таму ўсё памыляўся, гаварыў няправільна,— то націск рабіў не там, то слова ўстаўляў не тое...*

*Ты ўсё яшчэ чэсна імкнуўся разабрацца ў свеце, усё яшчэ прыцэньваўся і вагаўся: ад чаго ці з чаго пачынаць адлік усіх каштоўнасцей, без якіх чалавеку не выжыць: зла і дабрыні, любові і нянавісці... Што важней для цябе: тая вёска і малаграматныя вяскоўцы, якіх ты пакінуў, ці гэтыя агромністыя гарады, законы жыцця ў якіх ты з болем пазнаваў?..*

*І часта, калі ты на адзіноце станавіўся разгублены і прыгнечаны, тады, як пра збавенне, ты пачынаў думаць пра яго, намесніка бога на зямлі...*

*Усё сваё маленства, з першага і па дзесяты клас, цябе прызвычайвалі, прывучалі да думкі, што ёсць на свеце ён, бацька-правадыр, мудры і ўсясільны, які адзіны ведае тое, чаго не ведае ніхто на свеце: ні твая маці, ні твой бацька, ні твае вяскоўцы; ён клапоціцца за цябе, за тваё светлае будучае, у штодзённай трывозе за вашае шчасце ён не спіць начамі ў далёкай загадкавай казачнай сталіцы. Ты бачыў усюды: у школе, у клубе, у кніжках — малюнкі і плакаты, дзе бацька-правадыр з лагоднай усмешкаю гладзіць тваіх аднагодкаў па галоўках, бачыў, як ён, вялікі-вялікі, стоячы на высокай трыбуне, за якой чырванее сцяна і гарыць пяцікутныя зоркі, паднятай угору рукою вітае народы, якія зачаравана не зводзяць з яго позіркаў; ты слухаў па рупары песні пра ягоную веліч і мудрасць, у школе на ўроках ты павінен быў завучыць на памяць вершы славутых паэтаў пра ягоную мудрасць і сталёвы рашучы характар. Урэшце — ты быў прыстойны вучань, і куды табе было падзецца? — ты паверыў душою ў тую найвышэйшую мудрасць і справядлівасць, якія ўсё ж такі існуюць на свеце і якія сыходзяць калі не ад бога, якога — ты гэта ўжо добра ведаў — нідзе няма і не было ніколі, то хоць бы ад чалавека.*

*Ды вось распачалася гаворка пра культ асобы...*

*Цёмнымі начамі ў гарадах на высачэнныя чыгунныя і бетонныя помнікі чалавека ў вайсковай форме, які з прыпаднятай рукою ўсё яшчэ кагосьці вітаў, накідвалі тоўстыя сталёвыя тросы і з глухім вуркатаннем магут-*

ныя танкавыя цягачы сцягвалі з п'едэсталаў куміра твайго пакалення...

Зніклі, як іх і не было ніколі, вершы і паэмы, дзе гладка пісалася: слаўлю Сталіна сталь...

Зніклі плакаты і малюнкі з гэтым чалавекам.

Памяняліся назвы гарадоў, калгасаў, вуліц і плошчаў, якія насілі імя гэтага чалавека.

Знайшоўся нарэшце той адзіны, хто найболей вінаваты ў мільёнах марна загубленых жыццяў, хто ў свой час не пашкадаваў знявечаных і галодных — і рука не здрыганулася, калі падпісваў прысуды,— і таму ўзрадуемся справядлівасці...

Ды радасці ў тваёй душы чамусьці не было. Разгублены ты быў. Аглушаны пачутым, хадзіў ты на лекцыі, на мітынгі, прыслухоўваўся да смелых маналогаў, і ўсё больш і больш ты адчайваўся.

Калі ўжо ён быў грэшны, то што казаць пра астатніх?..

Ты ведаў: з такою, як цяпер у цябе, разгубленасцю і бязвер'ем у чалавека ты доўга не працягнеш... Як і ніхто не можа працягнуць...

У той бурны час на цябе адусюль навальвалася гарадское жыццё, нязнанае дагэтуль,— без кароў, без свіней, без нядоімкі, без кроснаў, з новымі танцамі і новымі песнямі:

Мишка, Мишка, где твоя улыбка,
Полная задора и огня?
Самая нелепая ошибка, Мишка,
То, что ты уходишь от меня.

Збавенне ты спрабаваў шукаць там, у вёсцы, у сваім маленстве. Але калі ты паказваўся ў бацькоў, то бачыў, як і ў вёсцы ўсё мяняецца, ломіцца,— у хаты правялі электрычнасць, і цяпер з амаль што гарадскіх хат навечна выкідваліся пралкі і кросны, бо ў Бярозаве за грошы можна было купіць хоць чорта лысага, не толькі палатно кужэльнае і прасціны. І ўсё цішэй і радзей пялі бабы, бо іх назусім заглушала баявое і адчайнае, што ад світання да змяркання грымела з рэпрадуктара ля клуба на ўсю вёску:

Мишка, Мишка, где твоя улыбка,
Полная задора и огня?
Самая нелепая ошибка, Мишка,
То, что ты уходишь от меня.

Ты ўжо быў амаль што дарослы, ты ўжо дагульваў сваё, свае павольныя вальсы, кракавякі, сямёнаўны і, калі паказваўся ў вёсцы, звычайна вечарам ішоў у Дом культуры, які адбухалі на месцы старога разбуранага нямецкага бункера. У ярка выбеленым люстраным агнём фае ты бачыў танканогіх дзяўчатак і цыбатых падлеткаў, якія, баючыся па-людску ўзяць адно аднаго за рукі, ківаліся пад рытмічнае, табе ўжо чужое:

Бабушка, отложи ты вязание,
Заведи старый свой граммофон,
И одно ты исполни желание —
Научи танцевать чарльстон.

Ты балюча крывіў вусны, як і тыя старыя бабы, якія радком сядзелі ля сцяны на крэслах і ківалі адна адной галовамі: ай-яй-яй, што ж гэта яны вытвараюць?..

Ты ўжо не танцаваў гэтыя новыя танцы, ты проста з болем адчуваў, як штосьці адыходзіць ад твайго жыцця навечна.

Выходзіў з Дома культуры і, вяртаючыся дахаты ціхай, як вымерлай, вуліцаю, не чуючы ніводнай звонкай прыпеўкі, якія яшчэ пяць гадоў назад звінелі штовечар за поўнач, ты ўсё варажыў: калі ж адно скончылася, а другое пачалося?

Мо тады, калі зніклі белабародыя старцы, якія дагэтуль хадзілі з сяла ў сяло і пялі свае жалобныя песні, ад якіх у душы нешта шчымела, аж да болю фізічнага,— быццам старцы толькі дзеля таго і хадзілі, каб людзі не развучыліся даваць міласціну,— цяпер для старцоў ля Бярозава пабудавалі спецыяльны дом на два паверхі, які ў народзе так і звалі — Дом састарэлых?..

Мо тады, калі знікла грозная нядоімка?

А мо тады, калі аднойчы штосьці ўцяміўшы, стаміўшыся ад пустых абяцанак-цацанак, ад працаднёў-палачак, за якія нічога не плацілі, махнуўшы рукою і на бога, і на старшыню, людзі пачалі жыць не горш за бярозаўцаў: несці, везці, цягнуць, перці, валачы ў свае двары з калгаснага поля і двара ўсё, што пад рукі траплялася?.. І новым сэнсам поўнілася старое слова: партызаніць...

А мо тады, калі вяскоўцы пайшлі ў лес высякаць доўгія жардзіны для тэлеантэн, цераз якія ў кожную хату прошана-няпрошана паляцела: «Мишка, Мишка,

где твоя улыбка?..» Калі ж каму гэта песня не падабалася, то ён, шчоўкнуўшы пераключальнікам праграм тэлевізара, мог слухаць новую, яшчэ весялейшую:

Жил да был черный кот за углом,
И кота ненавидел весь дом...

І не толькі чуць, а і — во цуд! — бачыць усё на свае вочы. І танцы новыя, замежныя, і артыстаў розных. Уцёсава замяніла Веліканава, Веліканаву — Крысталінская, Крысталінскую — П'еха, П'еху — Хіль... Нават у Дом культуры ісці не трэба, ляжы на ложку, слухай Райкіна ў сваёй хаце ды пасмейвайся.

Ты толькі-толькі скончыў інстытут, і тут жа нехта разумны і здагадлівы, як бы ведаючы пра душэўную разгубленасць вашага пакалення, супакоіў вас новай ашаламляльнай надзеяю: праз дваццаць гадоў будзе ўсеагульнае шчасце.

Дваццаць гадоў — і ўсе хорам на адной мове заспяваюць новыя песні.

Дваццаць гадоў — і бясплатныя праезды па вёсках і гарадах, па ўсёй краіне вольнай.

Дваццаць гадоў — і кожнаму жыллё бясплатнае.

Дваццаць гадоў — і хлеба з мясам будзеце есці ўволю.

Дваццаць гадоў — і, як кажа Грамабойскі,— ніякіх праблем, рай зямны ўбачыце ўвачавідкі.

Няўжо так хутка збудзецца спрадвечная мара аб спрадвечным шчасці?

Збудзецца, збудзецца, толькі працуйце старанна, памагайце планы і заданні выканаць, згодна разумнай прадуманай праграмы.

Адны малаграматныя вяскоўцы чамусьці не надта рваліся да таго зямнога раю: ніяк не хацелі збываць кароў і свіней, аж у хлявах хавалі іх ад праваральшчыкаў, аберуч трымаліся за праклятыя соткі, на якія здароўе апошняе клалі,— яны ніяк не маглі забыцца вясковай гаворкі і ўвогуле па сваёй няграматнасці не надта разумелі сэнсу прадуманай праграмы, якая несла ім шчасце, яны былі нейкія несучасныя...

А ты?

Ты ўжо быў сучасны... Зноў, як і некалі ў маленстве, калі ты ад усёй душы верыў у найвышэйшую мудрасць і справядлівасць бацькі-правадыра, зноў ты паверыў у блізкасць зямнога раю, бо, мабыць, без надзеі

і веры чалавек не можа абысціся, і таму ў сваіх газетных артыкулах ты кляйміў вяскоўцаў за іх неразуменне высокіх гістарычных задач, за іх кулацкія замашкі, за іх хутаранскія позіркі і вясковы ідыятызм жыцця. «Не хутар, а свет неабсяжны»,— такія былі ў тваіх артыкулах загалоўкі.

Як ніхто з журналістаў, ты ведаў вясковае жыццё знутры, і таму артыкулы твае былі хлёсткія і злыя.

Помніш, як аднойчы ты вырваўся з горада да маці, якая пасля смерці бацькі ўсё не магла апамятацца: часта хварэла, скардзілася, што ёй сумна жыць, і ўсё плакала ні з таго ні з сяго?.. З партфелем у руцэ, дзе ляжала свежая газета з тваім артыкулам, ты шпарыў пасярод вуліцы,— у тую познюю восень ты прыехаў у сяло апошнім аўтобусам, было ўжо цёмна, днём ішоў дождж, і таму, пакуль ты ішоў дарогаю ад супынку, чаравікі твае прамоклі, і ты ўжо не зважаў на гразь і лужыны. Не дайшоўшы да хаты, ты ўбачыў, як хтосьці подбегам бяжыць табе насустрач. Спачатку ты пачуў нейкае жаласнае жаночае скуголенне ў цемені, а потым ты ўжо і разглядзеў жанчыну, якая, прыгорбіўшыся, утуліўшы галаву ў плечы, спяшалася кудысьці і штосьці сама сабе гаварыла скрозь слёзы... І гэта цемень восеньская, і гразь несусветная, і твае прамоклыя цяжкія чаравікі, і жаночыя слёзы — усё гэта неяк сплялося ў адно, балючае табе і непрыемнае, ад чаго ты ўжо адвык у залітым агнямі горадзе, дзе нічога гэтага не было. Тады ўжо, калі жанчына сутыкнулася з табою, ты пазнаў яе. Вы абое спыніліся.

— Што такое? — спытаў ты яе.— Куды ты?

— Да фельчаркі. Парсюк, каб яго пранцы ўзялі... Выскачыў з загарадкі, пачала заганяць, а ён як ірване... Во, мусіць, руку вывіхнуў, а можа, і трэшчына?.. Распухла, баліць надта... Жысць праклятая... І карова яшчэ нядоеная стаіць.

— Ну, бяжы да фельчаркі. А ключ там жа ляжыць, дзе заўсёды?

— Там жа.

Яна пакапыцела далей, у цемень, у гразь, а ты, сціснуўшы зубы, адчуваючы ў душы незразумелы боль, які заглушаўся злосцю на няскладнае вясковае жыццё, пайшоў дахаты, дзе за вушаком дзвярэй ляжаў ключ.

Адчыніў хату. Уключыў святло, і ў вочы зноў ба-

лючa кінулacя ўcё тoe ж, з мaлeнcтвa знaёмae і між тым ужo нeйкae чужoe, брыдкaвaтae нaвaт: чopны зaкoпчaны чыгун з бyльбaю, якi cтaяў ля пeчы i aдкyль цягнyлa прытaрнa caлaдкaвaтым пaxaм, вядрo з пaмыямi, cтoл пacяpoд xaты, нa якiм блiшчэлa цыpaтa i нa ёй — глaдыш з мaлaкoм. Пacля cмeрцi бaцькi ў мaцi ўcё вaлiлacя з pук,— нe cкoнчыўшы aдну paбoту, xaпaлacя зa дpугую, у xaцe вeчнa нe былo пapaдку, i нa гэты paз тaкcaмa ўcё былo нeйкiм нeдaглeджaным, нecaгрэтым... Ты пpaйшoўcя пa xaцe i, нe вeдaючы, дa чaгo пpыклacцi pукi, кaб xoць кpыxу cупaкoiццa, уключыў тэлeвiзap, якi aдрaзу ж зaзвiнeў вяcёлaй пecняю.

Вяpнулacя мaцi,— з зaбiнтoвaнaй бeлaй pукoю, уcё гэткaя ж пpыгopблeнaя i зaплaкaнaя.

— Штo з pукoю? — нaйпepш cпытaў ты.

— A xтo ягo вeдae. Cкaзaлa зaўтpa exaць у Бяpoзaвa ў пaлiклiнiку нa рэнтгeн. Дзe гэтa я дaёнку пacтaвiлa? Кapoвa нядoeнaя...

— Якaя тaбe cёння кapoвa? — лeдзьвe нe зaкpычaў ты.— Клaдзicя, a я — cуceдку пaпpaшу. Ящчэ дpугую pуку нe злaмaлa? — ты кpычaў, кaб cупaкoiць cябe.

— Нe, нe бoйcя, я ўжo нeяк caмa aднoй pукoй пaдaю. Нe буду ж пaкiдaць нядoeнaй.

I знoў янa пaдaлacя ў цeмeнь i cыpacць, aдкуль ты пaчуў яe цixiя cлoвы:

— Cтoй, cтoй, кaжу тaбe. Зapaз я пaдaю цябe,— мaцi гaвapылa з кapoвaю, як з жывым чaлaвeкaм, i гэтa цябe нeчaкaнa ўпepшыню здзiвiлa. Aлe злocць твaя нa нявклaднae жыццё нe пpaxoдзiлa, i тaму, кaлi мaцi вяpнулacя ў xaту, ты тут жa пaчaў з ёю гaвopку:

— Вeдaeш, дaвaй, мусiць, здaвaць уcё гэтa. Тpэбa янo тaбe, кaлi paзaбpaццa: i кapoвa, i cвiннi, i куpы? Cкoлькi тaбe мaлaкa тpэбa нa дзeнь? Hу, лiтp. Дык ягo i ў кaлгace выпiшуць тaбe. Я пpыкiнуў: ты нa гэту кapoву тpaцiшcя гэтулькi, штo янa тaгo i нe вapтaя. A cвiннi твae ўвa штo aбыxoдзяццa? Купляeш муку i кpупы... Кoлькi ты гэтыx мяшкoў купляeш, лiчылa xoць paз? A пapacяты кoлькi кaштуюць? A paбoты ля ix кoлькi? Тpэбa янo тaбe ўcё гэтa, cкaжы пa-чэcнaму? Cxoдзiш у кaлгac, зapoбiш кaпeйчыну i — cядзi цixa нa пeчы, купiўшы ўcё гaтoвae ў мaгaзiнe.

— A тaбe? — здaвaлacя, мaцi ўжo згaджaлacя, штo ёй i пpaўдa нiштo нe тpэбa, кaб нe гэтae «a тaбe?».

— Нe тpэбa мнe,— paшучa мaxнуў ты pукoю.—

*Я і ў магазіне куплю. І табе з горада прывязу заадно. З-за гэтай дурной работы свету божага не бачыце, пакалечыліся, панадрываліся, раней часу на той свет ідзяце... І бацька... З-за чаго бацька пайшоў?.. З-за яе, з-за гэтай праклятай работы. І ў калгасе, і дома, ад змяркання да змяркання, без выхадных, без водпуска...*

*— Які там водпуск... Я ўжо і не ведаю, што мне трэба на свеце,— маці сядзела на лаўцы ля стала насупроць цябе і плакала. Мабыць, яна плакала яшчэ і ад таго, што балела рука. Каб суцішыць боль, яна пакалыхвала рукою...*

*Ты глядзеў на яе пастарэлы за год, пасечаны маршчынкамі твар, на яе шэрую хустку, насунутую, як і ва ўсіх вясковых жанчын, на самыя вочы, і, адчуваючы, што пякельны боль не праходзіць, усё гаварыў і гаварыў:*

*— Хоць на старасці пажыві па-людску. Я памагу, калі што якое. А то, як толькі лета пачынаецца, дровы трэба гатаваць, думаць пра бульбу, муку і крупы, на сена штогод грошы адкладай. За гэтыя грошы ты ў малацэ выкупаешся... Навошта яно табе ўсё гэта трэба, навошта?..*

*— Яно, канечне, каб не гной, дык бы і праўда здаваць можна,— знайшла маці зачэпку...*

*— Цьфу,— плюнуў ты са злосцю на падлогу.— Табе яшчэ гэтага гною не хапае? Жыва будзеш і без яго.*

*— Пасля яды ўсё астаецца. Куды я ўсё гэта буду дзяваць, на двор выліваць, ці што? Ды і сена мінулагодняга ў мяне яшчэ на паўзімы хопіць. І ў агародзе... Грады палю, крапівы можна нарэзаць. Ды і ешкія, як на грэх, трапіліся, няўжо іх цяпер глуміць будзем? — яна ўсё знаходзіла зачэпкі, каб не пазбаўляцца жывёлы. І як ты ні ўгаворваў яе, не мог угаварыць.*

*Нарэшце, усё гэтак жа са слязьмі, маці сказала тое, пра што дагэтуль маўчала:*

*— Ну, добра, здам я ўсё, як ты раіш. Я тады што: сядзець буду днямі на гэтай лаўцы ды ў акно глядзець? Я ж адурнею, сынок, без работы.*

*І ты мусіў прызнацца сабе, што яна і сапраўды тады адурнее, бо для яе карова, свінні і куры як жывыя людзі, з якімі яна штодзень гаворыць, якіх яна кляне на чым свет стаіць, якіх яна лечыць і даглядае, якіх яна шкадуе, з-за якіх у яе душа баліць...*

А праз дзень ты паехаў у горад, дзе адразу ж засеў пісаць новы больш хлёсткі артыкул пра малапісьменных вяскоўцаў: ты пісаў артыкул і ясна бачыў перад сабою чысцюткую асфальтаваную дарогу пасярод вашай вуліцы, зыркія ліхтары на слупах, вялікую-вялікую ферму, на якой поўна аўтаматаў і на якой, бы на заводзе, па зменах працуюць даяркі,— у чысцюткіх белых халатах яны прахаджваюцца ля даільных апаратаў, працуюць яны не так, як цяпер, калі ў пяць падымаюцца і ў дванаццаць кладуцца спаць, а не больш васьмі гадзін, ты бачыў спакойных чысценькіх вяскоўцаў, якія пасля работы ў калгасе не спяшаюцца да сваёй жывёлы і агародаў, а ідуць у Дом культуры і пяюць песні, а то — садзяцца ў аўтобус і едуць аж у сталіцу, каб паглядзець вясёлыя спектаклі, і ўсё гэта таму, што мяса і малака свежага яны і ў магазінах купіць могуць, ты бачыў нават стадыён ля Дома культуры, дзе вечарамі хлопцы гуляюць у валейбол, мышцы качаюць, а пра п'янкі і бойкі яны зусім забыліся...

Ах, як усё гладка і прыгожа атрымлівалася ў тваім артыкуле, балазе ты ўжо некалькі разоў бываў у тым найлепшым на ўсю рэспубліку перадавым калгасе, куды праз дзень вазілі розныя дэлегацыі па абмене перадавога вопыту, дзе былі і асфальтаваныя дарогі, і фермы прыгожыя, і нават баявы шматслоўны старшыня, з якім ты падружыўся і які звазіў цябе ў сваю сялазеньку — налева і направа той старшыня сыпаў словамі і лічбамі, і таму сама сабою напрошвалася думка: набяры ці выпішы аднекуль такіх хваткіх старшынь на ўсе калгасы — і ўсе людзі пачнуць жыць прыпяваючы...

А пра мову ты тады ўвогуле не задумваўся. Ты верыў: калі трэба цурацца вяскоўцам кароў і свіней, то заадно трэба цурацца і гэтых старых песень, і аджылых звычак, як мага хутчэй трэба пераходзіць да гарадскога жыцця, дзе гаспадарыла іншая мова, дзе былі іншыя песні; як і многія бацькі, якія апантана вызвалялі сваіх паслухмяных дзетак у школах ад вывучэння беларускай мовы, ты таксама цешыў сябе надзеяю, што ціхія паслухмяныя беларусы гэтым шыкоўным эксперыментальным жэстам заваююць права першымі ўступіць у тое казачнае райскае жыццё, якое вось-вось павінна было наступіць.

А потым, калі ты зноў убачыў, як у магазінах пазні-

*каў хлеб, а недзе праз паўгода пазнікалі адусюль партрэты чалавека, які першым паабяцаў табе і твайму пакаленню зямное райскае жыццё, калі ясна зразумеў, што мара твая адсоўваецца некуды далёка-далёка, за межы твайго рэальнага жыцця, калі выдаў пару кніжак нарысаў пра старшынь перадавых калгасаў, якія цябе кармілі і паілі, як корміць і поіць гаспадар паслухмянага сабаку, калі ты асмакаваў смачны студыйны хлеб, які не пахнуў ні мазалём крывавым, ні потам салёным, тады зрабіў для сябе апошняе адкрыццё: навошта чакаць рай зямны ў будучым, калі можаш мець яго цяпер?*

*Мо тое будучае райскае жыццё для ўсіх якраз таму і не наступае, што некаторыя маюць яго цяпер?..*

*Спрацаваная, змучаная работаю і хваробамі, памерла маці — панесла з сабою ў магілу сваю недаказаную табе і свету праўду. Ты вяртаўся ў горад з пахавання, і адна і тая ж думка шашалем тачыла тваю душу: памрэш і ты некалі, нідзе і ніяк не выкруцішся, памрэш...*

*Урэшце, не знайшоўшы выйсця, махнуўшы рукою на надзею і веру, без якіх ты дагэтуль не мог абысціся, ты збочыў на новы шлях.*

*І праўда: тады, як не стала маці з яе вечнымі клопатамі, калі табе не трэба было ездзіць у вёску, дзе работа адрывала рукі, калі ты на вясковае жыццё глянуў вачыма гарадскога турыста і ўбачыў у ім нават штосьці прыгожае, чаго дагэтуль не прыкмячаў, табе, бедненькаму, палягчэла, як камень з душы зваліўся...*

*Ты і апамятацца не паспеў, як мільганула дваццаць год, і вось настаў час, калі табе стала — хоць па бібліятэках шастай і вырывай з газет свае ўзнёслыя артыкулы пра непазбежнае шчасце для твайго пакалення.*

*Працуючы на студыі, ты ніяк не знаходзіў часу задумацца, што і куды цябе нясе ў штодзённым мільганні пусценькіх фільмаў, песенак, хохмачак, якімі лепш за ўсё аплёўваць самае святое для чалавека і народа, канцэртаў вясёлых, як сваіх ансамбляў, так і замежных, выпівак і рэстаранных застолляў, рэдсаветаў і мастацкіх праглядаў, як адкрытых, так і закрытых, для выбранай публікі — усё гэта, што запаўняла цяпер тваё жыццё, назусім адгарадзілі даўні свет маленства, той цёмны восеньскі вечар, калі маці бегла да фельчаркі і гучна румзала ад болю...*

*Падрастала Аня. Яна таксама глядзела вакол сябе, прыслухоўвалася. І гэтак жа, як і ты некалі, яна прагна ўпітвала тое, што яе акружала: з пласцінак Пугачовай і Баярскага, з запісаных на магнітафонную стужку песень Высоцкага, з крыклівых ансамбляў замежных, якія штовечар у тэлевізары круціліся з мікрафонамі бліскучымі — адно замяняла другое, і было яно працягам нечага аднаго бяздумнага, што весяліла, як пяты казытала, і тут жа бясследна знікала, замянялася вастрэйшым казытаннем, без якога людзям было няёмка і пакутліва, як п'яніцу без гарэлкі...*

*Толькі аднойчы вечарам, калі Ані стукнула пятнаццаць, калі яна прывяла ў кватэру сяброўак і ў сваім пакоі, адгарадзіўшыся ад цябе белымі дзвярыма, яны штосьці весела шчабяталі і заадно слухалі з магнітафона тое, што рытмічна бухала, дзугала ў грудзі і над якім то ўзвіваўся, то апускаўся да шэпту тонен ькі кастрыраваны хлапечы галасок, які спяваў на нейкай тарабарскай мове, якой ні ты не ведаў, ні Аня, ні яе сяброўкі, але якая цяпер была для Ані, як і для яе пакалення, цэлым сімвалам, ідэалам таго казачнага незямнога жыцця, пра якое некалі ты ў вёсцы, пасвячы кароў, марыў, дык вось, улёгшыся на канапе і пачытваючы чарговы сцэнарны опус пра чарговы новы падыход да сельскагаспадарчых праблем, ты міжвольна краем вуха чуў іх шчабятанне, і тут раптам цябе як укалолі. Не адводзячы вачэй ад лістоў са сцэнарыем, ты напяўся, што звер... Але нічога незвычайнага не пачуў. Усё было як і кожны раз, калі Аня прыводзіла дамоў дзяўчатак, каб паслухаць новыя магнітафонныя запісы, пабалдзець і пакайфаваць, як яны гаварылі між сабою: яны і цяпер перакідваліся між сабою пра джынсы хіповыя, кофтачкі, мальчыкаў, дыскатэку,— яна гучала для цябе гэтак жа, як прастытутка ці публічны дом, куды дачка магла хадзіць штовечар пры тваёй маўклівай згодзе,— але ўсё гэта ты чуў не раз і таму зноў быў гатовы ўнурыцца ў сцэнарый і заадно адкаснуцца ад няпрошанай здагадкі, што кожнае пакаленне глядзіць, зазірае ў чужы недасяжны агарод: а мо там лепей і смачней будзе?.. Ды тут зноў, як скрозь гучнагаварыцель, пачуў знаёмы звонкі галасок Ані:*

*— А тогда я ему и говорю: кол-хоз-ник ты... Куда прешься, деревня немытая?.. Вали отсюдова...*

*І тут нечакана ў тваёй свядомасці штосьці як бы*

шчоўкнула і адключылася, штосьці забытае табою, тое, што табе ніколі нельга было забываць, зноў абудзілася ў табе і балюча цябе ўкалола, аж падкінула з мяккай канапы... Кінуўшы лісткі са сцэнарыем на падлогу, ты ўмомант падхапіўся, зверам кінуўся да белых дзвярэй і ўдарам кулака сарваў іх з кручка. Уставіўшыся нерухомымі вачыма ў спалоханую пабялелую Аню, ты закрычаў так, як ні разу ў кватэры не крычаў:

— А хто я ў цябе? Хто ты такая? Хто нас корміць? Хто малаком штодзень поіць? Па-ра-зі-ты! Усселіся на чужую шыю нахлебнічкамі, мазгі ім штодзень пудрым так званай культурай і заадно пасмейваемся, здзекуемся з іх, дурняў, што кормяць нас... Што вы ўмееце? Толькі языкамі малоць...

Ты крычаў, і ў крыку гэтым да цябе штосьці даходзіла, штосьці ўспаміналася — той забыты восеньскі вечар зноў балюча калоў цябе, зноў побач паявілася заплаканая маці... Ты ніяк не мог спыніцца; разумеў, што крычыш цяпер ужо не столькі Ані, а як некаму іншаму:

— Хоць зараз дзякуй скажыце... Дык жа не — адны здзекі яны чуюць ад нас. І з канцэртаў... І з тэлевізараў... І з гэтай заразы... Во-о-он усю гэту трахамудзіну, што мазгі дурыць! — схапіўшы аберуч магнітафон, ты бразнуў яго аб падлогу і зноў залямантаваў так, быццам цябе жывым рэзалі: — Во-о-аан!

Дзіўна, ды магнітафон не заціх, толькі цяпер ён глушэй і павольней давіўся той тарабаршчынай, якую ты не ведаў, як заглушыць, і таму ўставіўся на магнітафон звар'яцелымі нерухомымі вачыма.

І Аню і дзяўчатак як змяло з пакоя, а замест іх перад табою паявілася ўскудлачаная Ліда, якая тут жа, падскочыўшы пад самыя вочы, залямантавала:

— Звар'яцеў на той студзіі!.. Там адны вар'яты сабраліся... У рабёнка пераходны возраст, інваліда не хапала ў сям'і?.. У чым яна правінавацілася перад табою, ідыёт?..— Яна яшчэ штосьці крычала, але тут ты пачаў глухнуць і нічога болей не чуў. Гледзячы на Ліду і бачачы толькі яе вялікі напамаджаны рот, адкуль неслася на цябе штосьці гучнае і неразборлівае, ад чаго табе было моташна, ты зноў закрычаў на ўвесь свет невядома каму, быццам ты гінуў і ў крыку гэтым было тваё збавенне:

— Во-о-ан!

Мабыць, штосьці страшнае было ў табе, ад чаго Ліда

*тут жа сціснула чырвоны напамаджаны рот і вылецела з пакоя.*

*Ты зноў пачаў чуць. Зноў да цябе данеслася, як гыркае, давіцца тарабаршчынаю магнітафон. Не ведаючы, што цяпер рабіць, адчуваючы ў душы пякельны боль, ты з усёй сілы зафутболіў босай нагою па магнітафоне. Кульнуўшыся пару разоў, ударыўшыся аб сцяну, магнітафон падавіўся — у пакоі стала нязвыкла ціха. Убачыўшы на босай назе чырвоную пляму, што распаўзалася па белай скуры, адчуўшы, што пальцы наліваюцца гарачынёю, быццам іх кіпятком абварыў толькі што, ты адчуў палёгку.*

*І тады ясна зразумеў, чаго і каму крычаў: нічога не вяртаецца назад... Ні маці, ні той восеньскі вечар, ні твая маладосць...*

*Ці то прыродаю скручана, ці то людзьмі прадумана, але ў гэтым свеце ўсё так шчыльна падагнана адно да аднаго, што туды і пальца не ўсунеш. А калі і ўсунеш, дык зломіш адразу ж, як гэты палец на назе...*

*Але ж — заткнуўся ўсё-такі, зараза...*

## Раздзел шосты

## СІТУАЦЫЯ

> А чалавек некалі ўзварушыць сабе на карысць усю зямлю, так, як вецер ваду. Чалавек моцны. Каб яго сілы не растрачваліся на тое непатрэбнае, што дагэтуль вядзецца на зямлі; не тое б можна было бачыць цяпер у жыцці...
>
> *К. Чорны*

Дзверы кабінета зноў адчыняюцца, на гэты раз не рэзка, а паволі. Паказваецца галава жанчыны з выбеленымі, пад салому, завітымі валасамі:

— Можна да вас?

Віктар Іванавіч, зірнуўшы на жанчыну, моўчкі ківае галавою.

Заходзіць Святлічная — саракагадовая, яшчэ даволі прывабная, калі разглядаць здалёку. На ёй шырокая цёмная ў складках спадніца, цёмна-ружовая лёгкая кофтачка, цёмны модны на сёння пояс, на шыі цёмна-

ружовы, як і кофтачка, шалічак — мабыць, каб прыхаваць першыя маршчыны.

Святлічная — адна з тых рамантычных натур, якія з маленства мараць пра чыстае мастацтва; яшчэ з маленства, купляючы ў газетных кіёсках паштоўкі вядомых акцёраў, яны ўбіваюць сабе ў галаву, што і самі некалі абавязкова стануць гэткімі ж знакамітасцямі; яны спадзяюцца пражыць цудоўнае бясклапотнае жыццё, якое павінна скласціся ў іх хоць бы таму, што яны — ёсць на свеце, такія прыгожыя, непаўторныя і пакуль нікім не ацэненыя па-сапраўднаму; закончыўшы школу, яны адчайна штурмуюць тэатральна-мастацкія інстытуты, многія з іх, праваліўшыся пару разоў на экзаменах, расчароўваюцца ў сваіх марах і, у час выскачыўшы замуж, становяцца неблагімі жонкамі, а некаторым, як Святлічнай, удаецца закончыць тыя інстытуты і на нейкі крок наблізіцца да сваіх мар.

Але ўсяго толькі — на крок...

Знамянітасцямі адразу яны не становяцца, і таму, хочаш не хочаш, да пары да часу трэба ўладкоўвацца на работу: памочнікамі рэжысёраў, адміністратарамі, некаторым, як Святлічнай, удаецца прабіцца і ў рэдактуру на студыі; у філармоніях, кінатэатрах, Дамах культуры яны часцей за ўсё — метадысты, у рэдакцыях газет і часопісаў — стылісты, карэктары, а то — рэдактары прынцыповыя, у тэатрах — акцёры на другарадныя ролі. Яны ў меру адукаваныя, у меру здольныя — звычайна добра ведаюць памылкі і прамашкі ў творчасці вядомых акцёраў, рэжысёраў, мастакоў, ведаюць, як трэба ствараць геніяльны мастацкі твор, ды вось толькі — вечная праблема — ці не хапае часу, ці ўмоў няма спрыяльных, ці работы дурной зашмат... Яны, пацёртыя з маладосці жыццём, становяцца ў меру пакладзістыя, не такія калючыя. Але чаго звыш меры ў іх жыцці, дык гэта — няшчасцяў...

Ці не таму, што самі яны не ствараюць мастацкіх твораў, а толькі — адчуваюць, як гэта робіцца, то гэтак выходзіць, што творчыя беды сыплюцца на такіх, як Святлічная. Яны прывыкаюць і мірацца з нечаканымі капрызамі вядомых рэжысёраў, акцёраў, мастакоў; штодзень сутыкаючыся на рабоце з многімі знакамітасцямі, яны ўведваюць паднаготную іх інтымнага жыцця: хто з кім жыве, а хто — развёўся ці збіраецца разводзіцца. З гадамі ў іх паяўляецца свая псіхалогія

і манера паводзін, па якой вопытны чалавек адразу ж угадвае, хто чым займаецца ў жыцці: настаўнічае, працуе ў канторы ля кульмана, даглядае жывёлу, займаецца мастацтвам... Нечым яны падобныя на семнаццацігадовых дзяўчатак, якія не старэюць і з твару якіх не сыходзіць ласкавая ўсмешачка пры позірку на вядомага рэжысёра, акцёра, літаратара. Яны ўмеюць і могуць прафесійна растлумачыць складаны падтэкст альбо другі ці трэці асацыятыўны рад чарговага геніяльнага, як правіла, замежнага фільма альбо спектакля, уважліва першымі запісваюцца ў чаргу чытаць тоўстыя маскоўскія часопісы з моднымі скандальнымі раманамі і аповесцямі, не прапускаюць прэм'ер у Доме кіно, як і не прапускаюць гастрольных выступленняў сталічных тэатраў, у якіх іграюць вядомыя па тэлеперадачах акцёры; наведваючы мастацкія выстаўкі, яны старанна канспектуюць у блакноціку сюжэты вядомых карцін і сваё арыгінальнае бачанне,— адным словам, яны імкнуцца жыць сапраўдным культурным жыццём, і яны жывуць ім... Да ўсяго ж, перабіваючыся з хлеба на ваду, бо за сто дваццаць рублёў надта не разгонішся, трэба прыгожа, эфектна апранацца, таму ў іх адзенні шмат ярка-кідкага, як і штосьці кідкае маецца на сукенках ці на кофтачках: вялікія брошачкі, кулончыкі, каралі буйныя альбо штучныя кветкі...

Недзе глыбока ў душы яны вераць у сваю непрызнаную светам геніяльнасць, якую ўсё ж нехта некалі ды адкрые і здзівіцца, аж ахне...

У сямейным жыцці яны, як правіла, няўдачніцы, мужчыны прыстойныя ля іх чамусьці не трымаюцца, хоць знаёмяцца хутка і ахвотна, а потым, праз тыдзень-другі, калі здаецца, што ціхае доўгачаканае сямейнае шчасце ўжо маячыць у аднапакаёвай кааператыўнай кватэры, аднойчы ранкам тыя мужчыны назусім сыходзяць, не забываючыся напаследак чмокнуць у шчочку і сказаць: «Ну, я перазваню, пасля, як час паявіцца, лады́..» — «Лады́»,— з усмешкаю гавораць яны, хоць добра ўжо ведаюць, што гэтае «перазваню» наўрад ці будзе яваю, але, ведаючы ўсё гэта, яны нават не абураюцца, не дакараюць тых мужчын і не шукаюць працягу, толькі пасля, бывае, халоднымі і глыбокімі пад самую поўнач вечарамі няпрошаныя слёзы засцілаюць іх вочы.

Гадоў пасля трыццаці над імі пачынаюць крыху па-

смейвацца: і мэтры рэжысёры, і сцэнарысты, і нават адміністратары маладзейшыя, шафёры,— яны не тое што ведаюць, а як бы здагадваюцца: нешта галоўнае ў сваім жыцці страчваецца навек... Мо таму некаторыя, схамянуўшыся і рызыкнуўшы, заводзяць сабе дзіця — хоць ад каго... А многія так і не асмельваюцца пераступіць страшнаватую мяжу адказнасці — жывуць далей у адзіноце, штодзень спадзеючыся, што некалі ўсё само па сабе наладзіцца.

Гадоў у сорак, калі ўсё вастрэй адчуваецца адзінота і непрыкаянасць, калі іх пакрысе падціскае на рабоце маладое настырнае пакаленне, якое не мае ў душы ні сораму, ні сумлення, яны становяцца нервовымі, успыльчывымі і пачынаюць няўмела даваць здачы крыўдзіцелям, апантана ваююць за справядлівасць: пішуць скаргі і заявы ў розныя інстанцыі, пачынаючы з раённых і канчаючы маскоўскімі, ходзяць па судах, спрачаюцца... Яны пакутуюць штодня ад чагосьці няскладнага ў сваім жыцці, але без прыцягальных сфер мастацтва свайго далейшага жыцця не ўяўляюць.

Якраз такою была Святлічная — маці-адзіночка, якая некалі закончыла філфак, была замужам за вядомым у свой час рэжысёрам і цяпер жыла ў двухпакаёўцы з дзесяцігадовым Алікам. І яшчэ ў Святлічнай вечна не хапае грошай да палучкі,— штомесяц пазычае ў Віктара Іванавіча рублёў трыццаць...

— Здраствуйце,— гаворыць з усмешкаю Святлічная, падыходзячы да стала і, у адрозненне ад Грамабойскага, не думаючы садзіцца.

— Дзень добры вам,— з усмешкаю робленай адказвае Віктар Іванавіч.— Ну, хваліцеся, што ў вас новага? Што на студыі новага?

— Нічога такога. Рэдсавет не думаеце адмяняць?

— Не. Можаце яшчэ раз усю рэдактуру папярэдзіць. А чаму вы так пытаеце?

— Справа ў тым, што сёння не будзе прысутнічаць Ніна Сцяпанаўна. Яна, дарэчы, званіла вам, але вас не было... Прасіла папярэдзіць.

— Што ў яе здарылася?

— У яе бацька памёр. Паехала дамоў па тэлеграме.

— Яе бацька не адтуль, не з тых мясцін? — ціхім голасам пытае Віктар Іванавіч.

— Адтуль. З Брагінскага,— таксама ціха, цяпер ужо без усмешкі, гаворыць Святлічная. Яна так і не садзіцца

на крэсла. Гледзячы ў вочы Віктара Іванавіча, Святлічная працягвае: — Яна, калі **гэта** здарылася, на ўсё лета сваіх сюды, у горад, прывезла. А бацька яе не захацеў ехаць, заўпарціўся, курэй астаўся глядзець. Да ешчо, як гаварыла Ніна Сцяпанаўна, там, у іх калхозе, ферма асталась на всё лета, каровы галадалі — все выехалі, а глядзець іх некаму было. На всю дзярэўню некалькі старыкоў засталося. Ну, дык яны і даглядалі тых кароў.

— Які ж у яго быў дыягназ?

— Лейкацытоз,— ціха гаворыць Святлічная.

— Лейкацытоз,— як рэха паўтарае Віктар Іванавіч.— А можа, і не лейкацытоз... Можа, і не ад гэтага...

Яны гавораць паміж сабою ўсё цішэй і цішэй. Як бы недазволенай таямніцаю дзеляцца. І настрой у Віктара Іванавіча ўжо зусім не такі, які быў нядаўна, калі ў кабінеце сядзеў, разваліўшыся, Грамабойскі. Святлічная таксама адчувае настрой Віктара Іванавіча. Гаварыць яна імкнецца гэтак жа па-беларуску, як і ён, ды толькі — ці яна першая, ці яна апошняя? — гэта ў яе атрымліваецца кепска, гаворыць яна на нейкай руска-беларускай мяшанцы, як і многія ў горадзе.

Маўчаць абое. Іншым разам Віктар Іванавіч прапанаваў бы сесці Святлічнай, запытаў бы пра вучобу і здароўе Аліка, але цяпер — забыўся... Пабарабаніўшы пальцамі па паліраваным стале, ён падымае галаву і зноў глядзіць у вочы Святлічнай:

— Спачуванне трэба даць у «Вячорцы»...

— Ужэ арганізавалі па лініі прафкома,— хуценька гаворыць Святлічная.— І спачуванне. І дзенежную помашч. Якія ў нас, рэдактуры, заработкі? Пры ныняшніх цэнах... Думаю, што нам, рэдактуры, трэба яшчэ і асобна скінуцца.

— Можна і гэта зрабіць. Вы тады скажыце мне — колькі трэба будзе...

І зноў яны замаўкаюць. І зноў тое, недасказанае абаімі, павісае ў паветры. Нарэшце, каб перабіць непрыемнае маўчанне, Віктар Іванавіч пытае:

— У вас усё?

— Усё.

— Збіраемся ў гадзіну. Думаю, што да трох справімся. Аўтара сцэнарыя хоць выклікалі?

— Я сама яму пазваніла. Сказаў, што прыйдзе. І рэжысёр папярэджаны.

— Што ж, дзякую. Можаце ісці.

Святлічная ціха выходзіць, а Віктар Іванавіч зноў глядзіць на бліскучую паліраваную паверхню стала і паволі барабаніць па ёй пальцамі.

Зноў тое недасказанае насоўваецца на Віктара Іванавіча, цяжкое і невытлумачальнае, яно неяк адразу ж адсоўвае ўсе сённяшнія клопаты, робіць іх надта дробязнымі. Хочацца неяк пазбавіцца гэтага цьмянага цяжкога пачуцця, якое, здаецца, само па сабе паявілася ў душы пасля размовы з Святлічнай, і таму не можаш удыхнуць на поўныя грудзі. Забыўшыся на сцэнарый, які трэба прагледзець, Віктар Іванавіч нерухомым позіркам глядзіць у акно і ўсё ледзь чутна раўнамерна барабаніць пальцамі па стале.

*У панядзелак раніцаю, калі ты заявіўся на студыі, як і звычайна, недзе пад абед да цябе ў кабінет заваліўся Грамабойскі. Разваліўшыся па-панску перад табою на крэсле, задыміўшы півачкаю, ён спытаў:*

*— Ну, чуў, браце, навасць апошнюю?*

*— Якую? — ты нават і ўсміхнуўся, загадзя рыхтуючыся пачуць нешта пацешнае і нечаканае, пра што звычайна Грамабойскі першым уведваў.*

*— Рэактар ядзерны ў нас гваздануўся,— на здзіўленне тваё, Грамабойскі гаварыў без усмешачкі — прыжмурыўшыся, ён цяпер зырыўся ў твае вочы, чакаючы тваіх пытанняў.*

*— Дзе? Які рэактар? — апраўдаў ты ягоныя надзеі.*

*— Чарнабыль, ці Чарнобыль. Гарадок такі ёсць у нас. На Украіне. На мяжы Украіны і Беларусі. Я пра яго дагэтуль і не чуў. Воблака радыеактыўнае цяпер плыве. Вокны і фортачкі ў кабінеце зачыняй.*

*— Якое воблака? Які Чарнабыль? — ты тут жа падняўся з крэсла-вяртушкі, падышоў да акна і зірнуў найперш на неба. Яно было не чыста-блакітным, якім бывае звычайна па вясне, а нейкім як бы прымглёным. Дзе-ндзе ў ім бялелі бязважкія камячкі ваты. Смаліла зыркае белае сонца. Мяккі, ледзь чутны паўднёва-ўсходні вецер не даваў прахалоды. Каторы дзень стаяла незвычайная спёка ў гэту надта раннюю вясну.*

*Але ж воблака-то сапраўднага, якое бывае перад навальніцаю, ты не ўбачыў...*

*Ды і дзе была тая Украіна? Дзе быў той Чарнобыль, ці Чарнабыль?..*

Па тратуары, як і штодзень дагэтуль, струменіліся людскія плыні,— набліжаліся майскія святы, і таму ў горадзе пачыналася ўзбуджаная беганіна за прадуктамі. Машыны ішлі і гудзелі гэтак жа, як і дагэтуль. Перад уваходам у студыю на прыступках тоўпіліся людзі, гаварылі, махалі рукамі, смяяліся.

Усё было нармальна. Усё было як і кожны дзень. Заспакоены ўбачаным, ты зноў усеўся ў мяккае крэславяртушку і цяпер ужо смела ўсміхнуўся, гледзячы на Грамабойскага:

— Зноў на мне першым хочаш новы анекдот праверыць?

Ды Грамабойскі сёння, мяркуючы па выглядзе і настроі, і не думаў жартаваць:

— Тут ужо, браце, не да анекдотаў нам. Інфармацыя ў мяне точная. Праўду табе кажу, не брашу.

— Дык жа па радыё нічога не перадавалі. І во,— ты патрос перад носам Грамабойскага ранішнімі газетамі, якія яшчэ пахлі фарбаю,— нідзе ні слова пра гэта. Пра перабудову пішуць, пра паскарэнне, пра пасяўную — поўным ходам ідзе. Сам чытаў.

— Слухай лепей, што я табе скажу, а не газеты... Мае знаёмыя з інстытута ядзернай фізікі толькі што пазванілі. Там у іх сёння перапалох. Спачатку толкам ніхто нічога не скумекаў. Прыйшлі на работу пасля выхадных, кантрольныя дазіметры ўключылі, а тыя... Яны тады — шапку ў ахапку ды да прахадной... Спачатку падумалі, што свой рэактар даў уцечку. Ледзьве не разбягацца пачалі. Потым ужо, як у Маскву пазванілі, іх супакоілі, сказалі, что гэта — не ваш, гэта — іншы, чарнабыльскі... Няўжо ты сам не панімаеш, што гэтым у нашых газетах хваліцца не будуць,— Грамабойскі быў настолькі ўстрывожаны, што нават сваёй любімай піпачкаю не пыхкаў. Чамусьці ён пачынаў злаваць, і чым болей гаварыў, тым больш станавіўся злым.— Газеты твае... Тут, як і з тым жа Афганістанам: у газетах — адно, а ў жыцці — іншае, ад чаго валасы дыбам становяцца... У майго суседа сын нядаўна адтуль вярнуўся. Да арміі хлопец быў як хлопец, а тут — як падмянілі. Да дзяўчат не ідзе, на вуліцу не паказваецца. Як хворы ўсё роўна. Крычыць начамі. А то — ускочыць з ложка і ў баявую стойку становіцца. Жахоцце. Бацька сівець пачаў. А колькі іх палягло? З-за чаго, ці ведаем мы па-сапраўднаму? Кажуць, што

*і пленныя ёсцека. А каго бацькі хаваюць у цынкавых трунах — ведаюць яны хоць пра гэта?.. А маладзенькія інваліды на Камароўцы... А колькі іх у госпіталях ляжыць?.. Пра гэта ўсё твае газеты пішуць?..*

*Калі-нікалі Грамабойскі ляпіў і праўду...*

*Ты зноў падняўся з крэсла-вяртушкі, зноў падышоў да акна і зірнуў на вуліцу. І сонца было тое ж, як і ўчора, як і пазаўчора, і неба чыстае, і людзі на тратуарах смяяліся як нічога і не было. І болю, галоўнае, ніякага болю ты не адчуваў. На ўсякі выпадак ты пацягнуў носам паветра — не, нічога не чулася.*

*Сеў за стол і зірнуў на насупленага Грамабойскага.*

*— Дык што ж нам цяпер рабіць?*

*— Я таксама ў сваіх знаёмых пра гэта пытаўся,— адазваўся той.— Параілі паменей па вуліцы швэндацца, не загараць, у шапцы хадзіць. Вечарам абавязкова душ прымаць. Ну і яшчэ гэта добра памагае,— Грамабойскі лоўка шчоўкнуў пальцам па горле,— кабернэ. Яго, я чуў, падводнікам рэгулярна даюць... Так што, браце, кідай свае сцэнарыі ды бяжы па магазінах і даставай кабернэ, пакуль не расхапалі. Сваім перазвані: жонцы, дачцэ. Я пайду.*

*Грамабойскі пайшоў далей разносіць незвычайную навіну, а ты маўкліва сядзеў за сталом, не ведаючы, што рабіць. Гэта якраз і было самым пакутлівым і нечаканым: не ведаў, чым заняць рукі.*

*Што рабіць цяпер?*

*Бегчы... Але куды бегчы? Быў бы пажар, навадненне, мардабой нейкі, калецтва чалавечае — тады б ты ведаў, што рабіць. А вось цяпер...*

*Як пра нейкае збавенне, ты пастараўся ўспомніць штосьці з тых даўніх лекцый па грамадзянскай супрацьпаветранай абароне. Ды нічога талковага не ўспаміналася. Успаміналіся агульныя словы. Пра ядзерныя выбухі. Пра заражаныя зоны, якія хутка павінны пераадолець нашы браніраваныя машыны. Пра спецкаманды, якія аднекуль абавязкова прыйдуць на дапамогу, калі цябе засыпле ў падвале. Пра спецкасцюмы, якія выдасць нехта ў патрэбны момант. Пра моцныя бетаніраваныя падвальныя памяшканні, у якія пры першай жа трывозе трэба спусціцца і дзе будуць фільтры для ачысткі паветра, запасы вады і ежы, і дзе будзеш сядзець колькі заўгодна.*

*А нормы смяротэльнай радыяцыі?.. А лячэнне?..*

Нехта будзе вызначаць з дапамогаю дазіметраў, якіх поўна на складах... Нехта будзе лячыць...

І, калі б цяпер хтосьці зверху даў нейкую каманду, табе адразу б было лягчэй. Але ж ніхто нічога не гаварыў.

Ты ўключыў на ўсякі выпадак радыё — перадавалі эстрадны канцэрт, як і звычайна, словы пра вечнае каханне ліліся з рэпрадуктара, быццам нічым іншым людзі і не займаліся...

Перад тым як ісці абедаць у студыйную сталоўку, ты ўсё ж не вытрымаў, пазваніў на ўсякі выпадак Лідзе на работу і Ані,— аказалася, тыя ўжо ўсё ведалі больш за цябе.

У каторы раз цябе здзівіла, як хутка ў горадзе разносяцца чуткі,— як лавіны з гор...

Вечарам на змярканні ні з таго ні з сяго неба нечакана зацягнула нейкай бясхмарнай цёмнай шэранню і на горад паліўся дождж, спорны, цёплы, як звычайна па вясне. Гэты дождж ціха, без ветру, пачаўся і гэтак жа ціха і раптоўна скончыўся, пакінуўшы бліскучыя лужыны на гарачым асфальце.

Паявілася сухое кароткае паведамленне пра аварыю на атамнай станцыі,— і тое, што словы Грамабойскага пацвердзіліся, спраўдзіліся, надало табе большай трывогі, але ўслых ты пакуль пра гэту трывогу не гаварыў, як і ніхто не гаварыў.

Пачаліся майскія святы, са святочнымі дэманстрацыямі ў гарадах, з гуляннямі ў парках, скверах; пад чыстым небам, як і звычайна ў святы, прадавалі марожанае, напіткі, булачкі, піражанае, шашлыкі пахкія... Як і дагэтуль, у калгасах і саўгасах поўным ходам ішла пасяўная, гараджане, якія не мелі дач і родзічаў у сёлах, загаралі ля возера пад надзіва мляўкім гарачым сонцам, бесклапотна капаліся ў пясочніцах дзетсадаўскія дзеткі, а зборныя па футболу Брагінскага і Хойніцкага раёнаў, як пісалі ў газетах, нават у футбол гулялі між сабою.

Ды ўсё новыя і новыя трывожныя чуткі паўзлі, напаўзалі на горад невядома адкуль,— на рабоце, дома, на вуліцы, на дачах — усюды ўсё гучней і выразней чулася новае, дагэтуль нязнанае Чарнобыль. Штосьці нядобрае тварылася на тым Чарнобылі, бо, навучаныя папярэднім жыццём, людзі ведалі, здагадваліся: калі б там усё было добра, калі б там усё затушылі, то тут жа

паявілася б бадзёрае паведамленне пра яшчэ адну працоўную перамогу.

З кожным днём Чарнобыль напаўняўся ўсё больш і больш трывожным сэнсам, быццам гэты дагэтуль невядомы нябачны Чарнобыль падступаў да горада ўсё ўсё бліжэй і бліжэй, навальваючыся трывогаю на кожнага чалавека цераз чыстае бязвоблачнае неба, у якім усё гэтак жа, як і дагэтуль, плавілася мляўкае балючае сонца, цераз сухі паўднёва-ўсходні вецер, які на вачах высушваў зямлю і яна тут жа клубілася лёгкім пылам, што цягнуўся ўслед за машынамі, цераз нясцерпную гарачыню, ад якой асфальт у горадзе аж плавіўся, не ступіць было...

У аптэках пазнікалі ёдавыя растворы,— невядома адкуль, ды многія ўведалі, что цяпер трэба прымаць унутр ёд... Прымалі хто колькі хацеў. Некаторыя труціліся...

І хоць у газетах час ад часу паяўляліся бадзёрыя аптымістычныя інтэрв'ю міністра аховы здароўя, яго-ных намеснікаў, якія гаварылі, суцяшалі насельніцтва, што нічога жахлівага не адбылося, што сорамна быць панікёрамі, ды на студыі, як і ва ўсім горадзе, людзі збіраліся купкамі і гаварылі між сабою ціха, напаўголасам, часта азіраючыся па баках,— пад сакрэтам дзяліліся тым набытым, пра што не пісалі ў газетах, не перадавалі па радыё і не паказвалі па тэлевізары. Заадно кожны мог паказаць дасведчанасць па праблемах ядзернай энергетыкі.

Як заўжды, Грамабойскі ведаў больш за ўсіх. Акружаны ціхімі разгубленымі людзьмі, ён, паблісквaючы ва ўсе бакі цёмнымі акулярамі, з-за якіх нагадваў слянога, сыпаў і сыпаў на людзей пакуль нікому невядомае, ад чаго аж скура шэрхла:

— Ён яшчэ ў ноч з пятніцы на суботу загрымеў. Гэтак ірванула,— метраў на дзвесце ўгору слуп вогненны быў, аж у стратасферу вывернула. А вецер, паскуда, у наш бок цягнуў. Шырока пасыпалася. Усім хапіла па завязачку.

— Так ужо і ўсім...— сумняваўся хтосьці.

— Даражэнькі,— усё круціў галавою Грамабойскі,— ты хоць петрыш, колькі там чаго было?

— Ну? — пытаўся недасведчаны.

— Гну — дуга будзе... Дзвесце тон.

— Калі б гэтулькі, колькі ты кажаш, дык бы даўно

ўжо гахнула так... І мы з табою тут бы не міцінгавалі. Над Хірасімаю ў бомбе колькі там было, і то — дагэтуль японцы не могуць ачухацца. А тут — дзвесце тон...

— Там уся загваздка ў крытычнай масе,— тлумачыў граматны Грамабойскі.— І яшчэ ад таго, колькі там графіту засталося, колькі яго выгарала — ведае хто на сёння? Так што мы цяпер усе — як на парахавой бочцы сядзім. Ён жа — і сёння не патушаны, дыміць усё. І — самае страшнае — да яго не падысці, смерць жывая. І калі не давядзі божа ён ірване, ды яшчэ тыя тры здзетаніруюць — капцы не толькі нам, а і ўсёй Еўропе. Ніхто толкам не ведае, якія працэсы там адбываюцца,— Грамабойскі круціў галавою, азіраючыся по баках,— ці няма паблізу чужых?.. Бліскаючы шкельцамі акуляраў, ён пераходзіў на шэпт: — Мой знаёмы падпалкоўнік казаў, што зону могуць пашырыць. Ніхто пакуль толкам не ведае, што высыпала,— вот у чым бяда...—Грамабойскі шаптаў людзям усё цішэй і цішэй, не забываючыся раз за разам азірацца, бліскаючы цёмнымі шкельцамі.— Радыеактыўны ёд — гэта самае лёгенькае. А што — калі стронцый сыпануў, цэзій ці той жа уран?.. А ў іх, як ён гаварыў мне, перыяды паўраспаду — дзесяцігоддзі.

Грамабойскі заціхаў. Маўчалі і іншыя. А потым па слове кожны дадаваў сваё, што ведаў ці пачуў нядаўна:

— Кажуць, эксперымент на ім праводзілі. Даэксперыменціраваліся...

— А можа, і не эксперымент. Можа, правакацыя якая міжнародная. Што з цяперашняй тэхнікай, нядоўга — са спадарожніка лазерным пучком ці тым жа рэнтгенаўскім выпраменьваннем шарахні па электроніцы, і гатова — бяры голенькіх.

— Кажуць, галоўны інжынер збег, ніяк не знойдуць.

— Гэтыя тэхнакраты давядуць усё да ручкі. Дарваліся да ўлады, без кантролю ніякага, што хачу, тое і варачу... І кожны шукае сваю выгаду, кожнаму напляваць і на народ, і на зямлю гэту. Як з той жа меліярацыяй... Мільёны ў зямлю зарываюць і яшчэ хваляцца...

— Увогуле цывілізацыя, мабыць, ляснецца некалі. Яшчэ парачку такіх Чарнобыляў і — капец усім, і праведнікам, і грэшнікам...

*— А яно, я табе далажу, да гэтага ўсё і коціцца. Вазьмі ты класікаў літаратуры — амаль што ўсе былі супроць прагрэсу тэхнічнага. Талстой той жа... Кажуць, у Бібліі ёсць словы пра зорку Палын, якая некалі падзе на зямлю, і тады ўжо трэцяя частка вод і рэк будзе атручана. А палын па-ўкраінску — чарнобыль. Вот і думай цяпер...*

*— І не панюхаеш, і не пачуеш... Во зараза на галаву высыпалася.*

*— Птушкі пакідаюць тыя мясціны, дзе радыяцыя павышаная.*

*— А ў Кіеве, я званіў сваім, білетаў на вакзале не дастаць...*

*— От, гаворыш ты...*

*— Туман стаяў у першыя дні ля тых мясцін. Белым днём — туман вісеў. І жывёла трывожылася.*

*— Мы тут языкамі чэшам, а можа, там ужо... Кажуць, верталёт разбіўся. Над кратэрам ляцеў, і паветраным патокам засмактала. Рэактар жа і цяпер ваўсю куродыміць. Кажуць, што і трэці на ладан дыша — даў трэшчыну.*

*— Нічога, брацця,— супакойваў усіх аптыміст Грамабойскі,— галоўнае цяпер — усе надзеі на кабернэ.*

*Тут жа нехта ці то на хаду рыфмаваў, ці то паўтараў нядаўна пачутае:*

*Як рэактар гваздане,*
*Не паможа й кабернэ...*

*— Не, не так ты гаворыш,— падпраўлялі дружна чалавека,— ты ўжо гавары ўсё па парадку:*

*На гары дыміць рэактар,*
*Пад гарою арэ трактар...*

*Хтосьці, баючыся адстаць ад гаворкі, спяшаўся ўнесці сваё, нядаўна пачутае:*

*— А вот новы анекдот чулі? Значыцца, так было... У трохтысячным годзе едуць стары з унукам па дарозе і бачаць удалечыні стаіць нешта чорнае, абгарэлае. «А што там такое, дзядуля?» — пытаецца ўнук. «А гэта, унучак, Чарнобыль»,— гаворыць стары і трэцяй рукою гладзіць другую галаву ўнука.*

*Анекдоты, прыпеўкі, самадзейныя рыфмаваныя вершы, перапісаныя ад рукі на лістках,— усё гэта пасыпалася лавінаю, былі яны жартаўлівыя, злыя, смеш-*

ныя, і ўсё гэта было, як рэакцыя на душэўную разгубленасць. Тое афіцыйна дазволенае, што дагэтуль людзі чыталі ў газетах і часопісах: і артыкулы, і вершы,— чаму нядаўна верылі і радаваліся, на што спадзяваліся,— усё нечакана памеркла, адсунулася кудысьці назад, у мінулае, больш блізкімі і зразумелымі для народа сталі безыменныя анекдоты, прыпеўкі, вершы...

З насцярогаю і недаверам пазіралі людзі на чыстае неба, на маладое яркае і клейкае лісце клёнаў і таполяў, на зялёную траву,— усё, што дагэтуль супакойвала і цешыла, станавілася ўсё больш і больш варожым, жахлівым, да чаго было страшна дакрануцца, бо невядома, што яно несла.

І ўсё мацней і мацней білася ў табе адно і тое ж: а куды падзецца? Ехаць, выбірацца з горада, кінуўшы работу?.. Куды? У вёску, дзе можна завесці карову, подсвінка?.. Але і там жа ты будзеш хадзіць штодзень па зямлі; з зямлі вырастае трава, збажына, дрэвы. Па зямлі цякуць рэкі... Усё гэта нябачнае, што высыпалася з неба на зямлю, што выпала з дажджамі, так ці іначай увойдзе ў цябе, і адгарадзіцца ад яго ты не зможаш... Ехаць жа далёка-далёка ад гэтага краю,— каму ты там патрэбен, хто цябе там чакае? Ды і дзе гарантыя, хто табе падкажа, дзе — чысцей і здаравей для чалавека, а дзе — брудней?..

Праз нейкае душэўнае намаганне ты спрабаваў асэнсаваць, сплясці ў адзін клубок і гэты нябачны, мо ад таго яшчэ болей грозны Чарнобыль, і сваю разгубленасць, і гэтыя бясконцыя студыйныя размовы, у якіх немагчыма было разабраць, дзе рэальнасць, а дзе выдумка, і сваё былое жыццё, і няяснае будучае, у якое гэтак хацелася зазірнуць, хоць да выражбітак ідзі... Ды нічога не атрымлівалася, усё развальвалася. І мо ад гэтага, а мо і яшчэ чаму, ды днём і вечарам у цябе балела галава, аж ванітаваць пачынала часам.

## Раздзел сёмы

# РЭДСАВЕТ

Больш за ўсіх гаворыць той, каму сказаць няма чаго.

*Л. Талстой.*

— Усе сабраліся ці каго няма, апроч Ніны Сцяпанаўны? — пытаецца Віктар Іванавіч і абводзіць позіркам усіх, хто сядзіць уздоўж сцяны на крэслах. Толькі Святлічная сядзіць за сталом Віктара Іванавіча — вядзе пратакол рэдсавета.

— Галоўнае, што падсудзімы тут знаходзіцца,— ухмыляецца Грамабойскі і з усмешкаю пазірае на аўтара сцэнарыя, які сядзіць на бліжэйшым ад дзвярэй крэсле.

Аўтар сцэнарыя лічыцца маладым перспектыўным літаратарам, хоць яму ўжо сорак з хвосцікам. Нядаўна ён надрукаваў аповесць пра вёску і цяпер спрабуе яе экранізаваць.

Штогод студыя праводзіць закрытыя конкурсы на лепшыя заяўкі і сцэнарыі пра жыццё сучасніка. Аўтар таксама прыняў удзел у конкурсе, з ім заключылі дагавор, і вось ён прынёс першы варыянт сцэнарыя. Для аўтара гэты варыянт, канечне, геніяльны. Мо пагэтаму ён спакойна і нават з усмешкаю пазірае на прысутных.

Побач з аўтарам сядзіць рэжысёр фільма Перавязкін. Яму, як і аўтару сцэнарыя, таксама за сорак, на ягонай галаве паблісквае лысіна, але Перавязкін па студыйнай традыцыі малады рэжысёр, які падае вялікія надзеі...

Перавязкін паспеў зрабіць дзве поўнаметражныя карціны, адну — пра старшыню перадавога калгаса, другую — пра заводскае жыццё, абедзве карціны крытыкі разнеслі ў дым, дагэтуль Перавязкін два гады маяўся ў прастоі і вось цяпер для яго настаў апошні шанц выбіцца ў людзі... Шчокі ў Перавязкіна запалі і здаюцца надта белымі з-за невялічкай кучаравай бародкі — такія бародкі на студыі носяць амаль што ўсе рэжысёры. Як і ў большасці студыйцаў, у Перавязкіна на плячах чарнее пацёрты скураны пінжачок, на каленях блакітных выцертых джынсаў бялеюць плямы, а ў вачах нашатыранага Перавязкіна — чорнае, бліскучае, нейкае нават галоднае ззянне.

— Што ж, тады пачнём нашу гаворку,— нетаропка кажа Віктар Іванавіч. Гледзячы на прысутных і між тым ні з кім не сутыкаючыся позіркам, ён працягвае: — Як вам, мабыць, вядома, апошнія гады мы пачалі актыўна прыцягваць пісьменнікаў да работы на студыі ў якасці кінадраматургаў. Хоць, як мне ўжо даладжылі, дзе хто і спрабуе ачарніць нашы намаганні, распускае чуткі, што мы цураемся мясцовых аўтараў і нацыянальнай тэматыкі, але тут, як кажуць у народзе, на чужы раток не накінеш платок. Дык вернемся да тэмы сённяшняга рэдсавета. Будучы фільм у нас важны і адказны. Сцэнарый пісьменніка Кругліка, як мы і абгаворвалі, калі разглядалі і зацвярджалі ягоную заяўку, павінен нам, а заадно і мільённаму гледачу, паказаць дзейнасць аграпрамысловага комплексу ў сучасных умовах. Канечне, усё гэта трэба паказаць на вясковым матэрыяле, які аўтар добра ведае, бо нарадзіўся і вырас ён у вёсцы. Працэсы ў сучасным сяле ідуць складаныя, неадназначныя, і нам трэба паказаць тое пазітыўнае, што прыносіць і што можа яшчэ прынесці ў жыццё калгаснікаў новастворaная арганізацыя пад назваю аграпрома. Канечне, усё гэта трэба паказаць вобразна, па-мастацку пераканаўча. Выкананне харчовай праграмы — гэта важная задача зараз пастаўлена перад усім грамадствам і перад дзеячамі кіно таксама. Таму сваім будучым фільмам мы, хоць і ўскосна, зможам унесці свой пасільны ўклад у вырашэнне гэтай задачы.

*О-о, як звыкла і накатана ліюцца твае словы! Без ніякага намагання ты налаўчыўся сыпаць іх, адно за другім, нават і не задумваючыся пра іх сэнс, не думаючы, ці даходзяць яны да людзей...*

— Ну, але гэта мае заўвагі ўвогуле, як кажуць,— уводная частка. Цяпер жа пачнём абмеркаванне сцэнарыя. Мабыць, як і звычайна, паслухаем заўвагі па сцэнарыі рэдактара будучага фільма. Рэдактар прысутнічае?

— Тут я,— гаворыць нізкаsuccessive пажылы чалавек, які сядзіць сярод жанчын рэдактараў. Кашлянуўшы ў кулак для смеласці, гледзячы на паркет пад нагамі, рэдактар глухавата пачынае гаварыць:

— Лёс будучага фільма мне пакуль што ўяўляецца даволі складаным. Асноўны недахоп сцэнарыя я бачу ў тым,— хай аўтар не крыўдуе,— што ўсё ў сцэнарыі выглядае драбнаватым і не маштабным: і бабка Мар'я, якая гаворыць аднымі прыслоўямі, і дзед Анціп, і брыгадзір з дзіўнай мянушкаю Цалінаградскі, і нават старшыня калгаса. Разумееце, што хачу сказаць: пакуль што ў сцэнарыі мы не адчуваем глыбокіх маштабных перамен. А яны ж — гэта мы добра ведаем — зараз паўсюдна адбываюцца, ува ўсёй краіне, і ў нашай рэспубліцы. Калі меркаваць па сцэнарыі, то ў вёсцы ўсё засталося па-ранейшаму... Я буду гаварыць канкрэтна. Возьмем вобраз таго ж галоўнага героя будучага фільма шафёра Грышкі, які вечарам на калгаснай машыне крадзе з поля буракі, а затым прапівае ўсе грошы... Ну і што з таго, калі мы ўсё гэта пакажам буйным планам сучаснаму гледачу? Яшчэ адзін штрых да нашай сумнай рэчаіснасці і — не болей. А ў нас жа іншая задача, пра якую вы, Віктар Іванавіч, толькі што гаварылі,— мастацкае асэнсаванне сённяшніх пазітыўных перамен на сяле. У сцэнарыі абсалютна не адчуваецца другога асацыятыўнага плана. Пакуль што перад намі — сухі казённы пратакол. І яшчэ адна заўвага агульнага характару. Аўтар — пісьменнік,і хай ён не крыўдуе, ды спецыфікаю кінадраматургіі ён валодае слаба. У яго атрымаўся не сцэнарый, а доўгае расцягнутае апавяданне.

— Па-першае, як вы самі ў сцэнарыі чыталі, пад канец фільма шафёр Грышка перавыхоўваецца і гарэлкі ў рот не бярэ, ён нават думае арганізаваць у вёсцы таварыства цвярозасці,— не вытрымлівае аўтар. Набраклы чырванню, ён аж падскоквае на крэсле і, павярнуўшыся тварам да рэдактара, гледзячы на яго ваўком, злосна і хутка гаворыць: — А брыгадзіра Цалінаградскім называюць таму, што ён у сяло адтуль, з цаліны прыехаў. Іх яшчэ ў нашым сяле набрыддзю называюць — напляваць ім на ўсё, абы сабе ўрваць... А наконт другога плана не хвалюйцеся — будзе... Я ж вам ужо гаварыў: мы ўключым у фільм песні і танцы, вяселле Грышкі пакажам, сучаснае, з новымі абрадамі... Я думаю, мы, можа, нават і «Песняроў» запросім. З кампазітарам Зарэчным я ўжо дамовіўся, ён музыку харошую напіша.

— Пачакайце, Круглік,— гучна і ўладна перабівае

гарачага аўтара Віктар Іванавіч. Ён ведае: цяпер не навядзеш парадку, дык і рэдсавет можна сарваць. Тут, як у арміі: дысцыплінка патрэбна, без яе ўмомант усё разваліцца, дай толькі волю ўсім гаварыць... Віктар Іванавіч нават падымае руку ўгору і, пільна гледзячы Круглiку ў вочы, гаворыць: — Пачакайце, пачакайце, таварыш Круглік. У свой час мы вам прадаставім слова. А пакуль што — слухайце нашых таварышаў. Слухайце і, можа, лепш за ўсё — запісвайце нашы заўвагі. У вас ручка і папера ёсцека?..

У гарачцы Круглік паварочваецца тварам да Віктара Іванавіча, каб і яму штосьці рэзкае выпаліць. Ён нават адкрывае рот, ды, сутыкнуўшыся са спакойным і, як казалі рэжысёры на студыі, сталёвым позіркам Віктара Іванавіча, аж асякаецца. Імгненне Круглік сядзіць з адкрытым ротам, а затым, схамянуўшыся, закрывае рот і, апусціўшы позірк, пачынае дрыжачымі пальцамі даставаць з кішэні пінжака шарыкавую ручку і блакноцік.

— Вось так лепей будзе,— зноў, як нічога і не было, спакойна гаворыць Віктар Іванавіч. Гледзячы на рэдактара фільма, ён пытаецца:

— Што ж вы прапануеце аўтару сцэнарыя?

— Што можна прапанаваць у гэтым варыянце? — ціха сам у сябе пытае рэдактар і ў разгубленасці разводзіць рукамі: — Адзінае, што само па сабе напрошваецца: увесці ў сцэнарый пару герояў, якія так ці іначай будуць напрамую звязаны з дзейнасцю рэспубліканскага ці ўсесаюзнага аграпрома. Вось тады ў нас адразу ж маштабнасць паявіцца. І другі пласт мыслення паявіцца. Хай гэта, дапусцім, будуць прадстаўнікі абласнога ці хоць бы раённага звяна. У іх жа таксама сваіх праблем поўна. І нам трэба іх паказаць. Як гэта можна зрабіць? Ну, напрыклад,— гэта ўжо самы прымітыўны ход — яны прыязджаюць у калгас па калектыўнай скарзе калгаснікаў і арганізоўваюць агульны сход. Дэмакратычны, па-новаму яго праводзяць, як цяпер усюды гэта робіцца. Можа, хай нават і старшыню тураць з работы... Але ж гэта толькі мая асабістая думка і я яе аўтару не навязваю. Можа, у яго ёсць іншыя рашэнні. А ў такім прымітыўным варыянце, я лічу, сцэнарый нам запускаць у вытворчасць нельга,— ціха закругляецца рэдактар. Памаўчаўшы, усё не адрываючы позірку ад бліскучага паркету, ён дадае: —

Пасля ж вы мяне самога кляваць будзеце: куды, маўляў, рэдактар фільма глядзеў?

— Так-с,— працяжна гаворыць Віктар Іванавіч,— ясненька з вамі.— Ну, а цяпер што вы нам скажаце, Валянцін Сяргеевіч? — ён глядзіць на Грамабойскага, які, дэманструючы незалежнасць, сядзіць асобна ад усёй рэдактуры — у самым куце кабінета на асобным крэсле.

— Таварышы даражэнькія,— ціхім голасам пачынае гаворку Грамабойскі. Крутануўшы галавою, акінуўшы прысутных бляскам цёмных акуляраў, ён гаворыць усё гучней і гучней: — Давайце гаварыць адкрыта, цяпер жа — век галоснасці, мы ж тут не на сходзе і не на трыбуне, мікрафонаў перад намі нямашака. Мы ўсе тут, на кінастудыі, даўно не аднаго сабаку з'елі, ствараючы фільмы. Пра аўтара я, канечне, гаварыць не буду, ён яшчэ тут малады і вопыту ў яго — кот наплакаў. Што я хачу найперш сказаць? А толькі тое, нам, прафесіяналам кіно, даўно вядомае: у аснове любога талковага і нават геніяльнага фільма ляжыць анекдот. Як і ў п'есах таксама. Возьмем для прыкладу класіку. «Рэвізора», напрыклад. Я ў вас пытаюся: у аснове сюжэта анекдот? — Грамабойскі заціх на імгненне, чакаючы адказу. Не дачакаўся. Таму сам жа і адказаў: — Анекдот. А ўзяць п'есы Астроўскага? Таксама анекдоты... Анекдот для сцэнарыя трэба адзін. Два не трэба, гэта будзе — перабор. І вот у тваім сцэнарыі, друг пісацель дарагі,— цяпер Грамабойскі паварочваецца ў бок Кругліка,— нават намёку на анекдот няма. А раз нямашака анекдота, значыць — няма і канфлікту, а няма канфлікту — няма і фільма.

— Народ у нашых сёлах упокат пачаў співацца: і даяркі, і механізатары, людзей ад работы адвучылі, не ведаюць, дзеля чаго на свеце жывуць... А для вас тут, на студыі — няма ніякага канфлікту, вы ўсё анекдотамі адбрыкваецеся,— зноў не вытрымлівае, агрызаецца Круглік. Ды тут жа, злавіўшы строгі позірк Віктара Іванавіча, ён угінае галаву і штосьці шкрэбае шарыкавай ручкаю ў блакноціку.

— Во-во, праўду кажаш,— зусім не губляецца, а яшчэ болей радасным і пафасным голасам гаворыць Грамабойскі. Ён тут жа на хаду развівае ідэю Кругліка: — Калі наш працавіты народ распусціўся, як старэцкая пуга, калі рабіць нічога не ўмее і співаецца,

дык пра гэта і ляпі свой сцэнарый. І тады твой сцэнарый павінен быць жорсткім, суровым. А ты тут мяркуеш нам песенькі падсоўваць замест жорсткай праўды жыцця. «Песняроў» запрашаеш. А дзе яны ў цябе будуць выступаць? Можа, на ферме, дзе гною і гразі па вушы?.. Дык яны ж у цябе ні за якія тысячы туды не палезуць, у іх жа апаратура імпартная, яна ім даражэй бацькі роднага, яны ж без яе як без рук...

— Валянцін Сяргеевіч,— перабівае Грамабойскага Віктар Іванавіч, добра ведаючы, што зараз Грамабойскага панясе чортведама на якія тэмы,— мы плануем рабіць фільм не пра вясковых алкаголікаў,— хоць я абсалютна нічога не маю супроць гэтай важнай тэмы, тым больш пасля апошніх дырэктыўных пастаноў,— а пра станоўчую дзейнасць аграпрома ў сучасных умовах. Дзяржкіно чакае ад нас фільма менавіта на гэту тэматыку. Дарэчы, мы першыя ў краіне будзем рабіць фільм на такую тэматыку, гэта фактычна — дзяржаўны заказ, і таму да нашага фільма будзе асаблівая ўвага. Таму прашу вас думаць у гэтым накірунку.

— Так-так, аграпром... Тут таксама дзялоў поўна, як завязаць,— хутка і паслухмяна згаджаецца Грамабойскі.

*Мабыць, сцэнарыя Кругліка ён так і не дачытаў да канца. А можа, нават і не браўся чытаць?..*

— Я вам чэсна скажу, што думаю наконт гэтага аграпрома. Дзялы з ім хрэнавыя. Арганізацыю новую чыноўнікі стварылі, а дзе яе фінансы? У чыіх руках, я ў вас пытаюся, застаюцца фінансы? Пра гэта мы будзем гаварыць у фільме ці будзем гуляць у жмуркі з гледачом? Мы ж людзі дарослыя, добра ведаем: пакуль фінансы не трапяць у адны рукі, да аднаго гаспадара, дзялы не скрануцца з месца... А што ў нас на сённяшні дзень атрымліваецца: перасадзілі чыноўнікаў з адных крэслаў у другія, яшчэ і аклады дабавілі. Хоць адзін з іх пайшоў у калгас ці саўгас? Скажу адкрыта: пры цяперашнім падыходзе мы наплодзім чыноўнікаў-дармаедаў яшчэ болей, чым дагэтуль было. Кантралёраў-правяральшчыкаў будзе поўна, а рабіць каму?.. Усё беднаму Івану?.. Я вот ужо цяпер ведаю, факты

ў мяне ёсць точныя: у раённым звяне чыноўнікаў стала болей, чым дагэтуль было, я ўжо не ўпамінаю пра вобласці і рэспублікі. Дык што гэта за падыход?..

— Ну,— зноў перабівае Грамабойскага Віктар Іванавіч,— не будзем сёння на нашым рэдсавеце абмяркоўваць пытанні дзяржаўнай эканамічнай палітыкі, тым больш зараз, як нам усім вядома, ідзе паўсюдна карэнная перабудова эканамічнага механізма, гаспадаркі пераводзяцца на самафінансаванне. Сёння фінансы ў адных руках, а заўтра, глядзіш, апынуцца ў другіх. А што выдаткі ёсць — калі ж іх не было, на тое і перабудова... Вы лепей скажыце, што прапануеце рабіць са сцэнарыем? — Віктар Іванавіч пытаецца і ў той жа час ведае: наўрад рэальнай талковай падказкі ад Грамабойскага пачуеш.

— Я прапаную... Вы пытаецеся, што я магу прапанаваць аўтару... Хе-хе-хе,— пасмейваецца сам сабе Грамабойскі.— Што я прапаную? Вы лепш скажыце мне, калі да маіх думак тут прыслухоўваліся? А тады яшчэ здзіўляемся, што шэрыя фільмы выходзяць. Ну але калі вы так пытаецеся, то я выкажуся. Я б на месцы аўтара,— ты, друг дарагой, не абіжайся, канечне,— гэты сцэнарый узяў бы ды і зафугаваў на сметнік.

Пасля такой прапановы вочы ў Кругліка становяцца нерухомымі, а твар бялее што ў нябожчыка. Пагледзеўшы доўгім позіркам скрозь чорныя акуляры на аўтара сцэнарыя, у непарушнай цішыні Грамабойскі тут жа яго і супакойвае:

— А замест яго напішы новы. У кіно не трэба разводзіць цямці-лямці, а — адразу ж бяры быка за рогі. Калі бярэшся пісаць сцэнарый — пішы глабальна. І таму героем твайго сцэнарыя павінен быць не звычайны шафяруга, не стары дзед і бабка, а тыя дзеячы, якія стаяць сёння на чале аграпрома, які апошнія сокі з калгасніка выцягвае. Яны яго прыдумалі, вот ты і пакажы нам, як яны з ім расхлёбваюцца. І гэта будзе сатырычная камедыя, такая камедыя, якой яшчэ свет не бачыў...

— Таварышы даражэнькія,— нарэшце апамятаўшыся, ледзьве не стогне Круглік,— у мяне ж аповесць зусім пра іншае — пра жыццё сучаснай вёскі, якую я больш-менш ведаю. А гэты свет чынуш, тэлефонных размоў, канцылярый я не ведаю.

Віктар Іванавіч зноў строга зырыцца на аўтара і зноў падымае ўгору руку, каб усталявалася цішыня.

У гэтае імгненне ён нагадвае суддзю на баксёрскім рынгу.

— Ну, але ж я ведаю, што мая прапанова — немагчыма, са мною вы не палічацеся. Таму, як і звычайна, мы будзем ляпіць сярэдненькі фільм. І ўзамен я нічога не магу прапанаваць,— заканчвае палкі маналог Грамабойскі.

*А сцэнарыя Грамабойскі так і не чытаў. Заўсёды так: памянташыць языком, ваду ўзмуціць, а затым — у кусты змыецца. І фільмы гэткія ж лепіць: ні пачатку людскага, ні канца, раскідзістыя, пустыя...*

— Так-с,— Віктар Іванавіч глядзіць цяпер на чарнявую сухаватую жанчыну, у якой цяжка адгадаць узрост: можна сказаць, што ёй трыццаць, а можна — і ўсе сорак... Яе сухаваты твар аднатонна шэрага колеру,— такі твар бывае ў жанчын ад пастаяннага курэння. Як і многія сучасныя дзелавыя жанчыны, гэта жанчына ва ўсім імкнецца капіраваць дзелавых аскетычных мужчын, пачынаючы з адзення. На ёй чорны світэр, цёмная джынсавая спадніца, прычоска ў яе кароткая,— можна абыходзіцца і без расчоскі... Вусны ў жанчыны нефарбаваныя і вейкі не падведзеныя — не да гэтага ёй.— Што ж вы нам падкажаце, Рыма Іосіфаўна?

Рыма Іосіфаўна — не пустамеля Грамабойскі, яна сур'ёзна падрыхтавалася да рэдсавета, таму цяпер яна глядзіць у блакноцік, што трымае ў руках,— мяркуючы па ўсім, там выпісаны канкрэтныя заўвагі па сцэнарыі. Пагартаўшы блакноцік, падумаўшы, яна гаворыць:

— Сцэнарый гэты, канечне, бездапаможны. Таму што аўтар хоць, можа, і харошы празаік, але ж ён абсалютна не валодае спецыфікаю кінадраматургіі. Я тут поўнасцю згодна з папярэднімі таварышамі. Гэта — галоўная бяда пачынаючага аўтара. Адно — ведаць рэальнае жыццё вёскі, а зусім іншае — кінадраматургія. Адсюль і кампазіцыйная рыхласць, сюжэтныя правалы. Я дзеля цікавасці параўнала аповесць аўтара і ягоны сцэнарый. І заўважыла: сцэнарый аўтара — перапісаная адзін да аднаго аповесць. Сцэнкі, дыялогі і — не больш... Старонка ў старонку. Але ж нават першакурснік сцэнарнага аддзялення добра ве-

дае, што сцэнарый фільма, як і кіно ўвогуле — самастойны мастацкі твор, аповесць ці той жа раман можа быць толькі першакрыніцаю. І таму на адных песнях, як тут пачаў супакойваць нас аўтар, мы ніяк не выедзем, як не выедзем на вобразах трафарэтных банальных дапатопных дзядоў і бабак, якія як быццам увасабляюць народную мудрасць. Пакуль што я не бачу, не адчуваю ў сцэнарыі галоўнай думкі, так сказаць, звышзадачы аўтара. Вот вы мне скажыце, дзеля чаго напісаны сцэнарый? — звяртаецца Рыма Іосіфаўна да Кругліка.

— Як гэта — дзеля чаго? — зноў губляецца і бялее аўтар. Пасля ўсяго сёння пачутага ён, мабыць, цяпер і сам не ведае, дзеля чаго напісаў сцэнарый. Але ж маўчаць тут не будзеш, і таму ледзьве не заікаючыся Круглік выціскае з сябе: — Я хацеў паказаць жыццё сучаснай вёскі, з яе плюсамі і мінусамі. Дарэчы, пра гэтае ж самае і мая аповесць напісана. Яе крытыкі хвалілі,— хапаецца ён за думку крытыкаў, як за саломінку.

— Вот самі бачыце, таварышы,— паказвае рукою на аўтара Рыма Іосіфаўна,— аўтар толькі што сам прызнаўся ў тым, што я збіралася даказаць. Вы цяпер забудзьце, забудзьце пра вашу аповесць,— зноў пранікнёна і неяк па-мацярынску звяртаецца Рыма Іосіфаўна да Кругліка.— Паўтараю вам: проза — гэта адно, а кіно — зусім іншае, гэта іншае асацыятыўнае мысленне. Няўжо да сённяшняга дня вы нічога гэтага не зразумелі?

— Канкрэтней, Рыма Іосіфаўна. Давайце бліжэй да сцэнарыя весці гаворку, не будзем чытаць аўтару лікбез,— зноў перабівае маналог рэдактара Віктар Іванавіч.

*Так і трымай лейцы ў руках,— то аднаго падпраўляй, то другога стрымлівай ад славаблудства. Зараз яна, як і кожны раз на рэдсавеце, скажа штосьці пра Феліні, на якога моліцца. Прыклад Кругліку прывядзе. Ну і канечне, параіць у сааўтары ці ў дапрацоўшчыкі любімага масквіча Ліпкіна.*

— Вот возьмем ужо класічны прыклад са знакамітых фільмаў Феліні. Успомнім ягоны нашумелы на

ўвесь свет «Амаркорд». Там жа, калі помніце, знешне таксама ўсё размазана, няма моцнага сюжэтнага каркаса, але ж затое які магутны падтэкст закладзены ў кожным эпізодзе, у кожнай сцэне! Ну, хоць бы ў той сцэне, дзе залатар дастае залаты пярсцёнак з каналізацыйнай ямы. Вы памятаеце гэту сцэну, маналог кароткі? — пытаецца Рыма Іосіфаўна ў Кругліка. Той зусім ужо разгублена круціць галавою — не, не бачыў... Рыма Іосіфаўна цяжка, пакутліва ўздыхае, ківае пару разоў галавою, гледзячы на Кругліка, і працягвае дабіваць яго зусім: — А ў вас ёсць такія сцэны? У вас шафёр Грышка крадзе калгасныя буракі, затым п'янствуе, пляце нейкія анекдоты блытаныя — тут ёсць штосьці ад Шукшына, але ж, калі гаварыць увогуле, скажыце мне, які за ўсім гэтым падтэкст? Ці ўзяць бы пазнейшыя зацягнутыя сцэны ягонага вяселля... Разумееце, са сваёй вясковай лапцюжнай прастатою ў параўнанні з сусветнай класікаю мы выглядаем не проста смешнымі, а нейкімі прымітыўнымі. І гэтак можна перабраць увесь ваш сцэнарый — зачапіцца воку няма за што... Самае большае, на што выцягвае сцэнарый,— гэта хроніка аднаго вясковага жыцця. Нават і не хроніка, а некалькі дакументальных сцэн. Але ж мастацтва — не жыццё, яно — вышэй жыцця. Я прапаную ў заключэнне, пакуль не позна, падключыць да сцэнарыя харошага прафесіянала з Масквы, хоць бы таго ж Груздова ці Ліпкіна. Канечне, з таго матэрыялу, які прапаноўвае нам аўтар, цяжка зрабіць шэдэўр, але ж яны і яўнага завалу не дапусцяць. У іх, як мы ведаем, моцныя творчыя почыркі...

*Усё ідзе, як цягнік па бліскучых рэйках, толькі на стыках штуршкі адчуваеш... Ты даўно ведаеш, хто чым дыхае, ведаеш, што і хто скажа, і таму — працягвай гэту тэатралізаваную гульню ў дэмакратыю: пытайся, перабівай, падпраўляй... І між тым ты ведаеш, не забываешся: з гэтых не табою пракладзеных рэек ты не збочыш, ты нават не сапсуеш гэту магутную адладжаную машыну, якая- называецца кінаіндустрыяй,— каторы год яна нясецца па жыцці людскім, так ці іначай кранаючы кожнага чалавека, адных — цешачы надзеяю і блізкім шчасцем, якое ўвачавідкі можна ўбачыць на вялізным белым палотнішчы, другіх —*

*разбэшчваючы вялікімі грашыма, трэціх — як наркотыкамі, супакойвае на час, прымушае забыць пра свае беды і няшчасці... Ты даўно прывык, прызвычаіўся да гэтай машыны, якая працуе па сваіх законах, і таму, як штосьці непазбежнае і нават абавязковае ўспрымаеш словы пра абавязковы канфлікт, глабальнасць і асацыятыўнасць мыслення, вобразны рад, важнасць задач, якія стаяць перад народам, мастацкае іх вырашэнне...*

За акном кабінета высіцца клён. Як жывая карціна ў раме. Віктар Іванавіч слухае рэдактараў і час ад часу міжволі пазірае на цяпер амаль што пустое голле, дзе невялічкімі купкамі матляецца цёмна-бурае кляновае насенне — як прапелеры ад самалёцікаў... І чым болей Віктар Іванавіч узіраецца на клён, тым больш абыякавым становіцца да сённяшняга абмеркавання, здаецца, што людзі гавораць — абы гаварыць... Галасы як бы цішэюць, аддаляюцца...

Пад рэзкім халодным восеньскім ветрам насенне будзе адрывацца ад голля і, кружачыся, паляціць уніз, каб недзе ўпасці на сырую зямлю і прарасці новым дрэўцам. Ды тут, у горадзе, дзе цвёрды асфальт навечна прыкрыў зямлю, яно не прарасце...

Пачнецца зіма, голле зусім апусцее, а па вясне яно схаваецца ў яркай зяляніне, якая будзе штодзень варушыцца пад ветрам, бы нешта жывое... І зноў пад восень на клёне паявяцца прапелеры, якія сцюдзёны вецер будзе адрываць і несці да цвёрдага асфальту.

Каторы ўжо год Віктар Іванавіч разглядае гэтае дрэва. Некалі, як Віктар Іванавіч толькі-толькі стаў галоўным рэдактарам аб'яднання, ён угледзеў са свайго кабінета тоненькае гнуткае дрэўца, прывязанае да колка. З таго часу, ледзь не штодня, калі быў адзін у кабінеце, Віктар Іванавіч падыходзіў да акна і глядзеў на клён. І вясною, калі голае голле ўспыхвала яркай святочнай зеленню, і летам, калі лісце цямнела, і восенню, калі лістота жаўцела, залацілася, высыхаючы яшчэ на дрэве, яна станавілася бязважкаю, і таму, калі падала ўніз, то кружыла ў паветры доўга-доўга, і зімою — штогод ён глядзеў на клён і бачыў, як хутка цягнецца ўгору дрэўца, цяпер вунь ужо вымахала да самых акон другога паверха. Ён праводзіў рэдсаветы

і мастацкія саветы, спрачаўся, гарачыўся, даказваў камусьці сваё,— і толькі цяпер Віктару Іванавічу стала зразумела, што нічога за ўсе гэтыя гады на студыі не змянілася, парадкі якія тут былі, такія і засталіся. Толькі вось клён падымаецца ўсё вышэй і вышэй.

Як жа хутка вымахаў клён за акном!

Каб не клён, то, мабыць, і не прыкмеціў бы, што ўжо столькі год валтузіцца ў гэтым студыйным...

І што ён набыў для душы за ўсе гэтыя гады? Дзеля чаго ён тут кіпяціцца, спрачаецца?

Клён расце і расце, як бы ведаючы, здагадваючыся, што некалі асфальт знікне і насенне ягонае прарасце новымі дрэўцамі.

Зноў, як і раніцаю на кухні, у душы Віктара Іванавіча паяўляецца халодная абыякавасць да студыйнага жыцця, што цягнецца з году ў год.

Няўжо гэта старасць?

Няпрошанае пякучае пачуццё несправядлівасці да ягонага лёсу выспявае ў Віктара Іванавіча,— быццам нехта надта хітранькі яго за нос вадзіў...

Жыццё сваё Віктар Іванавіч, як і многія людзі, дзяліў на нейкія дзве часткі, як бы два незалежныя светы ўжываліся ў ягонай душы, адзін — таемны, схаваны ад Ліды, Ані, нават ад сяброў, і пра яго ён нікому не мог ды і не хацеў хваліцца, другі — паказны, афіцыйна-студыйны, калі ён гаварыў уголас з Лідаю, з Грамабойскім, калі з трыбуны абураўся і заклікаў, і ў гэтым другім жыцці, бы ў тэатры на сцэне, ён штодня выконваў адведзеную яму ролю, але і ў тым і ў другім, як пачынае цяпер адчуваць Віктар Іванавіч, ён штосьці згубіў ці не здзейсніў, штосьці надта дарагое, без чаго і не варта на свет паяўляцца.

Чаму некалі, у маленстве ды і ў раннім юнацтве, ён штодня думаў пра гэтае надта важнае, найгалоўнейшае, што трэба шукаць сярод людзей, а цяпер вось — забыўся, заняўся нечым дробязным? Што ж яму трэба шукаць у свеце? Пра што ён забыўся?

Нечакана Віктар Іванавіч як бы прачынаецца і тады заўважае на сабе пільныя позіркі рэдактараў. Выгаварыліся...

— Што ж,— Віктар Іванавіч цераз сілу ўсміхаецца і глядзіць на аўтара,— цяпер і ваша чарга гаварыць сваё вешчае слова. Вось цяпер і вы можаце выказацца. Калі ласка, слухаем вас.

Але цяпер аўтар — зусім не той упэўнены ў сабе чалавек, якім быў напачатку рэдсавета. У гарачцы і разгубленасці ён пакусвае вусны,— па ўсім бачна, не ведае, з чаго пачаць гаворку. Вочы ў яго набраклі чырванню,— не дай бог расплачацца пры людзях. Мабыць, толькі цяпер, пасля разумных лагічных развažанняў рэдактуры, Круглік здагадаўся, на якія глабальныя праблемы замахнуўся ў сваім недасканалым сцэнарыі. Дагэтуль ён думаў пра рэальнае жыццё людзей, якіх ведаў, а цяпер, высвятляецца, яму трэба думаць пра іншае, больш сур'ёзнейшае, у параўнанні з чым лёс таго ж Грышкі — драбяза...

*Малады, нявопытны яшчэ, не прайшоў студыйнай загартоўкі, таму і кіпяціцца. Нічога, прывыкай, калі наважыў на студыі зачапіцца. Тут і не такім арлам крылы ламалі. Гэта табе — не аднаасобная проза, гэта — калектыўнае мастацтва.*

— Я не ведаю, пра што цяпер гаварыць,— як падсудны ў заключным слове, ціха выціскае з сябе Круглік.— Тут столькі ўсяго нагаварылі... Як я зразумеў, ад майго сцэнарыя засталіся рожкі ды ножкі. Я думаў, калі выпраўляўся на абмеркаванне, што ў маім сцэнарыі, можа, які эпізод лішні альбо недасканалы, а тут — уся мая канцэпцыя рушыцца...— аўтар апускае галаву і глядзіць на паркет.

*Трэба падтрымаць. Няхай бедалага яшчэ патрапечацца. Глядзіш — можа, з часам і ён налаўчыцца ляпіць сцэнарыі. Тут галоўнае — толькі ўвайсці ў абойму, а там ужо — пакоціцца само па сабе... Ды і пасля ў Саюзе пісьменнікаў не будуць гаварыць, быццам ты — вораг усяму нацыянальнаму, быццам ты — усім папярок дарогі лёг. Падтрымай — няўжо не бачыш, што хлопец не надта і кепскі?..*

— А ў вас якая думка пра сцэнарый? — лёгкім рухам рукі Віктар Іванавіч бязгучна паварочвае крэсла-вяртушку да рэжысёра.

— Думаю, што Рыма Іосіфаўна правільна ацаніла сітуацыю: да сцэнарыя трэба тэрмінова падключаць Груздова альбо Ліпкіна. Думаю, што асноўнай тэмаю, звышзадачаю будучага фільма павінна быць праблемная трагічнасць нашага ў цэлым сытага спакойнага жыцця. Возьмем для прыкладу найбольш эканамічна развітыя краіны свету,— у іх гэтыя ж праблемы стаяць яшчэ вастрэй: бездухоўнасць, разгубленасць і, як вынік, катастрафічны рост самазабойстваў... Калі б нам удалося добра распарадзіцца вясковым матэрыялам, які, можа, і няблага ведае аўтар аповесці — пра ягоны першы сцэнарны варыянт я тут і ўпамінаць не хачу, бо ў ім нічога талковага для рэжысёра не знаходжу — то можна выйсці на тэмы глабальныя: жыцця і смерці ўвогуле, любові і нянавісці... Тады ў нас усё асвеціцца скрозь магічны крышталь мастацтва...

*Панясло... Панясло і гэтага ж, як таго Грамабойскага... Калі б ты здымаць так умеў, як умееш развіажаць... Канечне, табе нявыгадна сцэнарый губляць. Табе зараз хоць што падавай, абы ля камеры стаць. А пасля, у запуску, што з табою рабіць загадаеш?*

— Ясненька,— гаворыць Віктар Іванавіч, калі рэжысёр, нагаварыўшыся і паказаўшы прысутным, што ён таксама не лыкам шыты, недарэмна інстытут кінематаграфіі канчаў і таму эрудзіраваны па ўсіх навейшых праблемных пытаннях, заціх,— цяпер усё — ясненька... Што ж, пачнём закругляцца, іначай і на сход студыйны не трапім. Думаю я, што сягоння мы ўсе падышлі да абмеркавання сцэнарыя Кругліка даволі прынцыпова і сур'ёзна. Канечне, дзе ў каго падчас абмеркавання былі і эмацыянальныя перахлёсты, але ж як без гэтага абыдзешся ў нашай складанай справе, тым больш цяпер, калі поўным ходам ідзе паскарэнне і перабудова? Тым больш што ўсе мы — сабе не ворагі і тым больш не ворагі аўтару, хочам мець добры фільм. Канечне, і тут я поўнасцю згодзен з выступаючымі: сцэнарый Кругліка — не чарговы шэдэўр Феліні, але давайце ўлічым, што гэты сцэнарый — усяго толькі першы варыянт пасля заяўкі, а па-другое — буду каламбурыць — гэта першы аўтарскі блін у кінадрама-

тургіі... Калі Грамабойскі кажа, што ён у кіно ўжо не аднаго сабаку з'еў, то Круглік у гэтай справе пачатковец. Але гэта, вядома, жарт... Калі больш спакойна разабрацца, то ў сцэнарыі, на маю думку, не так ужо ўсё і кепска, як тут выказваліся некаторыя. Ёсць зярняты, з якіх, можа, што і вырасце, калі іх, канечне, у час паліць і прагрэць на сонейку. Ёсць неблагія жывыя сцэны вясковага побыту. Па ўсім відно, што аўтар ведае і любіць вёску. Шафёр Грышка — што б мы тут крытычнага ні гаварылі, але вымушаны пагадзіцца — як жывы, можа, аўтар спісаў яго з канкрэтнага чалавека, які некалі жыў побач.

— Ага, ага... Сусед наш, па сакрэту прызнаюся. Вы як у сук уляпілі,— весялее, трапечацца радасцю Круглік.

*Наіўны яшчэ... Божухна, які ж ты наіўны, Круглік! Гэта ж табе не вёска, дзе што думаеш, тое і гаворыш, гэта ж — студыя, дзе гавораць адно, думаюць — другое, а робяць — трэцяе... Калі і далей гэтак будзеш выскокваць, то наўрад ты тут утрымаешся, тут цябе хуценька засмяюць, будзь ты хоць тройчы геніем... І калі ж з вас, хлопцы, выветрыцца гэтая вясковая прасцецкасць?.. Няўжо не адчуваеце, што свет цяпер іншы?..*

— Дык вот што я хачу сказаць... Як тут ужо многія гаварылі,— працягвае Віктар Іванавіч, коратка акінуўшы позіркам Кругліка, а затым гледзячы на ўсіх рэдактараў,— у сцэнарыі не хапае глабальнага абагульнення. Думаю, што аўтару варта падумаць, каб і сапраўды ўвесці ў сцэнарый прадстаўнікоў аграпрома. Без іх нам будзе нявыкрутка. Гэта дасць нам новы сюжэтны паварот, дазволіць зірнуць на вясковыя праблемы паіншаму, маштаб мыслення і сапраўды стане большым. Мушу сказаць, што члены рэдкалегіі падказалі аўтару неблагія сцэнарныя хады, да іх яму варта прыслухацца і ўзяць на ўзбраенне. Падводзячы вынікі нашага пасяджэння, я скажу наступнае. Мы вяртаем аўтару сцэнарый на дапрацоўку. Улічваючы, што гэта — усяго толькі першы варыянт, час для работы над сцэнарыем у аўтара яшчэ ёсць. Няхай ён улічыць нашы заўвагі і

прапановы, творча асэнсуе пачутае. Пакуль падключаць прафесіяналаў не варта. Вось і ўсё. На гэтым сённяшні рэдсавет будзем лічыць закончаным. Можна разыходзіцца. Не забудзьце: у тры пачынаецца сход. Просьба: усёй рэдактуры прысутнічаць на ім, можа, хто і выступіць з вас.

Разгублены пачырванелы Круглік нават і не чакаў такога шчаслівага павароту. Як і ўсе прысутныя, Круглік падымаецца з крэсла і, пакручваючы ва ўсе бакі галавою, не ведае, што рабіць. Ён топчацца ля дзвярэй, прапускаючы наперад рэдактуру, на якую цяпер пазірае зусім па-іншаму.

— Нічаво, брат, прывыкай да ўсяго... Хлеб кінадраматурга нялёгак, па сабе знаю. Трудзісь на пользу народа,— як ні ў чым не бывала аптымістычна і ў той жа час паблажліва, як настаўнік вучня, паляпвае па плячы Кругліка Грамабойскі, калі праходзіць міма.

— Віктар Іванавіч, вялікае дзякуй за падтрымку,— падыходзіць Круглік да Сацункевіча, калі ўжо ўсе выйшлі з кабінета. Ён падае руку Віктару Іванавічу. Далонь у Кругліка цвёрдая, мазолістая, у руцэ адчуваецца сіла.

*Але ж на студыі фізічнаю сілаю нічога не даб'ешся, тут іншыя сілы патрэбныя...*

— Надта не перажывай. Усе цераз гэта чысцілішча праходзяць,— па-бацькоўску супакойвае Кругліка Віктар Іванавіч.— Усё будзе ў парадку. Прыйдзе час, і ты ў цітрах убачыш сваё імя. Кніжку напішаш, і колькі яе чалавек прачытае? Тысяча, ад сілы — пяць набярэцца... А тут, уяўляеш — на мільёны выходзіш, уяўляеш — якая адказнасць за кожнае тваё слова? Хрыстосу ці іншым прарокам такія магчымасці і не сніліся. Гэта ж табе не цямці-лямці, а кіно — той від мастацтва, які сінтэзуе ў сабе ўсе іншыя віды мастацтва: прозу, музыку, колер... Сінтэзуе... Разумееш?

— Та-ак, кіно — зусім не проза,— паслухмяна згаджаецца Круглік і, выцягнуўшы з кішэні хусцінку, выцірае бліскучы ад поту лоб.— Калі б толькі ведаў, што тут усё так заблытана, дык бы за вярсту студыю абыходзіў. Тут усё так заблытана. У прозе што: сеў ты

за стол, закупіўшы паперы і ручку з чарніламі, і — ніхто табе не ўказчык, ты сам сабе і цар, і бог, і воінскі начальнік. Калі толькі рэдактар умяшаецца. Але ж ён — адзін на цябе навальваецца. А тут — публічна зграяю... Я ўжо чэсна вам прызнаюся, думаў — капцы, зусім заваляць. І яшчэ гэты Грамабойскі... Чаго ён хацеў ад мяне, дык я так і не зразумеў. Як вы тут толькі трымаецеся? Мусіць, як на вулкане...

— Во-от, сам убачыў, як тут даводзіцца круціцца, якія тут магутныя кадры маюцца,— Віктар Іванавіч разводзіць перад Круглікам рукамі.— Ідэалагічная барацьба — гэта рэальнасць, сам сёння адчуў. А да ўсяго ж яшчэ там, у вашым творчым Саюзе, як мне далажылі, некаторыя на сходах лямантуюць: ах, Віктар Іванавіч жыўцом рэжа сцэнарыі, не пускае літаратараў у кіно, мала экранізацый... Калі б толькі ўсё ад мяне залежала... Хай толькі ідуць — дарога ўсім адкрытая, так і перадай. Я — ты сам сёння бачыў — з дарагой душою прыму. Вот па сакрэту табе скажу — думаем экранізаваць эпапею Пятра Хведаравіча. Шэсць серый запускаем. Адкрыем новую старонку нашага гераічнага мінулага. Дарэчы, ты чытаў эпапею Пятра Хведаравіча?

— Чытаў. Як жа — канечне, чытаў. Пра партызанаў, пра лася, якога немцы забілі... Толькі адкуль там матэрыялу на шэсць серый набярэцца? — пытаецца Круглік.

— Набярэцца, не бойся,— супакойвае Кругліка Сацункевіч,— у кіно часам і з двух старонак сцэнарыя можна такі фільм зрабіць — свет ахне... Ды і акрамя Пятра Хведаравіча другіх мяркуем экранізаваць. Цябе вот для прыкладу. Уяўляеш, які рад выстройваецца: Пётр Хведаравіч, ты... Што, гэта, можа, кепска будзе?

— Ды не-е, канечне...— Круглік усё больш і больш пунсавее.

— Вот сам бачыш, як у нас усё добра атрымліваецца. Ты толькі не ўпарціся надта, перапішы свой сцэнарый яшчэ раз. Увядзі новыя сцэны з прадстаўнікамі аграпрома, сюжэт жывейшым стане, больш дынамічным. А потым прынось. Толькі глядзі: не зацягвай надта.

— Яно, канечне, можа, і варта гаварыць пра прадстаўнікоў аграпрома, толькі, калі чэсна казаць, толку з іх, як мне здаецца, як з казла малака... Вот каля нашага

сяла свінакомплекс адбухалі, на пяцьдзесят тысяч галоў. Усё, што з комплексу сцякае, дык яе, жыжку гэту, на палі вывозяць. А як яе вывезеш? Возера ўжо цэлае з гэтай жыжкі, за тры вярсты не падысці. Увогуле з гэтымі комплексамі складана. Я са спецыялістамі гаварыў, дык яны мне тлумачылі: адзін такі комплекс атруты дае столькі, колькі сярэдні горад... А хімізацыя... Аміяком зямлю як зліюць, дык там усё жывое аж пішчыць... І самае страшнае, што ўсё гэта, з комплексаў, з палёў, усё гэта ці ў рэкі, ці ў грунтовыя воды прасочваецца. А з грунтовымі водамі, я таксама спецыяльна ў бібліятэцы літаратураю цікавіўся, гэтак жа складана, як і з тым Чарнобылем: ніхто толкам не ведае, адкуль і куды тыя воды цякуць... Там жа свае падземныя рэкі ёсць, гэта ж — усё звязана, жывое ўсё, а мы пад кіраўніцтвам тэхнакратаў варочаем усё, як свіння лычом. Вот каб усё гэта неяк зняць ды паказаць. Як вы думаеце?

Віктар Іванавіч чым болей слухае Кругліка, тым больш на яго касавурыцца: аказваецца, гэты Круглік не такі ўжо і прасцячок — вунь на што замахваецца... І аграпром яму не па нутры, і комплексы, і хімізацыя, і пра Чарнобыль нешта ведае, і грунтовыя воды вывучае... Такія во, як Круглік, маўчаць да пары да часу, а потым як выдадуць...

— Ну, я табе скажу: у нас тэм забароненых няма. Калі ў цябе ёсць жаданне, можна і такі фільм зняць. Толькі гэта ўжо будзе дакументальны фільм, і заяўку ты павінен несці на першы паверх. А ў нас жа — людзі, мастацкае асэнсаванне чалавечага лёсу. А то ж як атрымліваецца: у мастацкім фільме, дзе песні і танцы, мы пачнём разважаць пра тую смярдзючую жыжку, пра свінакомплексныя праблемы. Дык жа ў кіназалу народ на лейцах не зацягнеш,— Віктара Іванавіча голымі рукамі не возьмеш.

— Яно, можа, і праўда...— пачынае сумнявацца Круглік,— каму ўсё гэта, што на сяле цяпер творыцца, баліць надта? Галоўнае: пастановы ды заклікі...

— Вот і дагаварыліся. Прынось хутчэй. Калі што якое — заходзь, параімся,— закругляе гаворку Віктар Іванавіч.

— Паспрабую. Усяго вам добрага.— Трохі растрывожаны, трымаючы ля грудзей папку са сцэнарыем, Круглік выходзіць з кабінета. Віктар Іванавіч глядзіць

яму ўслед — неблагі хлопец. Толькі вот каб яму яшчэ такую вёрткасць ды хітрасць, як у таго ж маскоўскага прафесіянала Ліпкіна... І чаму так атрымліваецца: талент ёсць — дык хітрасці няма?..

Затым Віктар Іванавіч пераводзіць позірк на акно, за якім усё гэтак жа гайдаецца голле.

І тут ён успамінае...

Прывязаную на залатым ланцужку малпачку, што сядзіць у каюце карабля і праз шкло глядзіць на блакітнае мора, на блізкі зялёны востраў, міма якога праплывае карабель. І такі пякельны сум у вачах малпачкі, такая адзінота...

Дзе ж ён бачыў гэту карціну? Чыя яна? Хто аўтар?

## Раздзел восьмы

## СХОД

> Не каркала варона ўгору летучы,
> а ўніз і падаўна.
>
> *З народнага*

Звычайна студыйныя сходы праводзяцца ў вялікай глядзельнай зале на трэцім паверсе студыі.

Яшчэ дзесьці ў палове трэцяй на студыі ўсчаўся незразумелы гул і шум,— па калідорах усіх паверхаў, у мантажных, у кабінетах, у апаратарскіх кабінах — усюды ўзбуджаныя людзі збіраліся купкамі, хто гучна, а хто шэптам гаварылі і заадно азіраліся па баках — ці чуе хто староннi недазволенае...

Не толькі рэдактура і рэжысура, а і ўсе астатнія работнікі студыі: асвятляльнікі, мантажніцы, бухгалтары — усе адчулі, што надыходзяць новыя пераломныя часы, і таму, як і звычайна ў такіх выпадках, драмаць у шапку ніяк нельга. Таму, як і звычайна ў пераломныя часы, людзі групаваліся, дамаўляліся, шапталіся — кожны выпрацоўваў сваю стратэгічную лінію на бліжэйшы час.

Роўна ў тры гадзіны ў глядзельную залу было не ўбіцца, людзі стаялі нават у праходзе. Белы вялікі экран цяпер завешаны зялёнай шторaю, на сцэне — доўгі стол, накрыты чырвоным плюшавым настольнікам. За

сталом на крэслах уселіся члены прэзідыума: свае, студыйныя таварышы, і староннія, сярод іх здалёк кідаецца ў вочы постаць чырванатварага старшыні Дзяржкамітэта Федарэнкі, больш дробная постаць Феафанавіча, які светлымі выцвілымі вачыма задуменна пазірае ў залу і, трымаючы рукою дужку акуляраў, пакручвае іх перад носам. Гэта — ягоны звыклы занятак на сходах. Перад Феафанавічам ляжыць раскрыты блакноцік — звычайна на кожным сходзе ён штосьці туды запісвае.

Віктар Іванавіч усеўся ў сярэдніх радах на крайнім ад праходу крэсле,— каб пасля было зручней выходзіць на сцэну, дзе збоку чырванела высокая трыбуна з белай бліскучай галоўкаю мікрафона. На пачатку сходу, калі выбіралі прэзідыум, у Віктара Іванавіча цеплілася надзея, што і ягонае прозвішча выкрыкнуць у зале, і ён тады змог бы памалу, як бы з неахвотаю, падняцца з месца і ісці да тых высокіх крэслаў, адкуль спакойна і незалежна, як цяпер іншыя члены прэзідыума, можна пазіраць у залу на людзей. Былі часы, калі і яго амаль на кожным студыйным сходзе выбіралі ў прэзідыум, былі... Але на гэтым сходзе прозвішча ягонае ніхто не выкрыкнуў, выкрыкнулі прозвішчы іншых: дырэктара студыі, сакратара партыйнай арганізацыі Вяршкова, старшыні Саюза кінематаграфістаў — падхалімы, мабыць, ніколі не перавядуцца... Канечне, і пра ганаровых гасцей не забыліся...

І хоць усё сённяшняе: і сам сход, і нават членства ў прэзідыуме, і гучныя пафасныя трыбунныя выступленні, якія для студыйых творчых работнікаў былі амаль тым жа, чым для вясковых баб сваркі цераз плот,— за доўгія гады адрэпеціравана да дробязяў, ды цяпер штосьці ломіцца, рушыцца ў даўно заведзеным парадку. Ці то людзі стаміліся ад пустых непатрэбных размоў і спрэчак, ці то злосці ў іх сабралася шмат, але штосьці новае, нязнанае дагэтуль прарываецца ў іх позірках, у іх размовах. Пакуль яшчэ нічога няясна: хто возьме верх у студыйнай перабудове — таксама няясна, і таму адны — вопытнейшыя, загартаваныя ў бясконцых студыйных баталіях,— заціхлі, прытаіліся, не думаючы выторквацца на трыбуну, а другія, якім губляць не было чаго, а набыць штосьці маячыла, гэтыя людзі пайшлі ў рашаючы наступ.

Усіх пакрыўджаных начальствам павёў за сабою Сурачкін, якога на апошнім з'ездзе абралі старшынёю Са-

юза кінематаграфістаў. Вось і цяпер, пасля традыцыйнага спакойнага вытраманага справаздачнага даклада дырэктара студыі, Сурачкін, дарваўшыся да трыбуны, размахвае рукою, магутна грыміць на ўсю залу, балазе што мікрафоны і дынамікі спраўныя — аж у вушах закладвае:

— Таварышы, ва ўсёй краіне ідзе працэс паскарэння і перабудовы, і мы не павінны стаяць убаку. Але ў нас пакуль цішыня затхлая. Нам у рэшце рэшт трэба асмеліцца пачаць ламаць магутную бюракратычную машыну, якая тармозіць, глушыць усе нашы творчыя прагрэсіўныя пачынанні. Гэтыя бюракраты не даюць магчымасці развярнуцца нашым рэжысёрам, аператарам, акцёрам, ды і сцэнарыстам таксама. Але найболей, каму дастаецца сёння, на каго скіраваны самы большы ўдар бюракратаў, дык гэта мы, рэжысёры. Гадамі нас, рэжысёраў, трымаюць у чорным целе, змушалі і змушаюць па сённяшні дзень глядзець на рэальнае жыццё народа зашоранымі вачыма. Гадамі мы змушаны былі здымаць тую слабізну, якую падсоўвала нам рэдактура. Яна, рэдактура, брала на сябе ролю найвышэйшага суддзі: гэта — можна здымаць, а гэтага — нельга... Сёння мы павінны ўпершыню публічна і адкрыта назваць і асудзіць тых, хто стрымліваў развіццё нашага кіно. І я называю імя гэтага чалавека, які больш за ўсіх шкодзіць нам. Гэта — Сацункевіч Віктар Іванавіч. Ён адным росчыркам пяра рашаў наш лёс. Я не збіраюся сёння доўга гаварыць пра ягоны стыль і метады работы, той, хто хоць аднойчы сутыкаўся з ім, мабыць, на ўсё астатняе жыццё запомніў ягоны стыль і ягоныя дэмагагічныя метады, ва ўсякім разе мы, рэжысёры, добра ведаем гэтага чынушу, для каго пустыя кабінетныя інструкцыі начальства даражэй за нашы творчыя пакуты. Ва ўсе часы яму было напляваць на нашы творчыя пакуты. Віктар Іванавіч Сацункевіч — і мы гэта ведаем — учарашні дзень студыі, і таму нам доўга пра яго гаварыць не варта. Сягоння я хачу падняць перад вамі праблемы глыбейшыя. Я зараз скажу ад імя ўсяго творчага саюза тое, што мы добра ведаем, але пра што да сённяшняга дня ўслых ці то саромеліся, ці то баяліся гаварыць. Я афіцыйна заяўляю: гэткія ж чынушы-дэмагогі, як наш Сацункевіч, акупіравалі і наша рэспубліканскае Дзяржкіно. Сацункевіч якраз таму і трымаецца, што за ягонай спіною стаіць велізарнейшы апарат дармаедаў, які

ў сваёй рабоце скіраваны толькі на тое, каб усяляк шкодзіць нам, творчым работнікам, каб усяляк ставіць палкі ў калёсы. Толькі-толькі ўломіш Сацункевіча на студыі, як на цябе тут жа навальваецца новая каманда, з Дзяржкамітэта,— спачатку свой, рэспубліканскі прычэша, а потым яшчэ і маскоўскі прыгладзіць... Як пройдзеш гэту трайную праверку на вернасць нашых ідэалаў, дык пасля і ўпэўніваешся, што ад тваіх высокіх задум застаюцца рожкі ды ножкі. Вось скажыце вы мне, таварыш Федарэнка,— Сурачкін адрываецца ад мікрафона і паварочваецца тварам да старшыні Дзяржкамітэта,— чым канкрэтным вы дапамаглі студыі? Не шкодзіце — гэта вы налаўчыліся,— а дапамагаеце? Чым? Як вы дапамагаеце нам, рэжысёрам?

Сурачкін замаўкае і ўсё не зводзіць бліскучага нейкага нават галоднага позірку са старшыні Дзяржкамітэта, якога да сённяшняга дня ніхто ніколі не асмельваўся публічна крытыкаваць. Пра гэта нават і думаць баяліся. І вось на табе — на гары гразь...

Маўчыць грозны Федарэнка. У залу ён не глядзіць — чырвоны плюш на стале разглядае. І ўсім бачна, як паступова наліваецца чырванню ягоны круглы твар.

У пакутлівай крохкай цішыні нечакана хтосьці асмеліўся заляскаць у далоні: хлоп-хлоп-хлоп... І тут жа ўся зала падхоплівае смельчака — гучыць авацыя Сурачкіну.

*Герой Сурачкін, герой, нічога не скажаш... Сёння ўсе — смелыя, а дзе вы дагэтуль былі?.. Зусім распусціліся. Дэмакратыя — дэмакратыяй, перабудова — перабудовай, але ж павінны быць і межы прыстойнасці ў цяперашняй шматслоўнай бясконцай дэмакратыі. Ці даўно Сурачкін у вочы зазіраў, чакаючы, як божага дару, тваёй візы на сцэнарыі, ці даўно на падхваце быў, а цяпер... Трапіўся б ты годзік назад таму Федарэнку пасля такіх заяў!.. Сілу адчуў, смак улады і смак славы... Дарваўся... Чым жа скончыцца гэты разгул дэмакратыі?*

*А зала грыміць... Што ж ты хочаш: зала заўсёды была на баку тых, хто крытыкуе начальства,— няважна, добрае яно ці дрэннае, абы ляманtаваць і звяргаць... На гэтым ва ўсе часы многія ручкі грэлі. Пад гэту сурдзінку што хочаш можна правесці, хоць якія ідэі пад-*

*соўвай — народ ляскаць будзе і зусім не падумае, што новыя кіраўнічкі яшчэ горшымі могуць быць... І Сурачкін гэта скарыстаў. Насабачыўся лямантаваць. Выбраў момант усадзіць нож у спіну. Дэмагогі ва ўсе часы ў пашане — з гэтым усё ясненька.*

*Але ж што цяпер рабіць? Што рабіць? Не сядзець жа моўчкі і не слухаць, як цябе брудам будуць паліваць нізашто... Іншым разам, як гэта звычайна робяць прыстойныя людзі, выйшаў бы з залы. Але ж цяпер гэтага ад цябе, можа, толькі і чакаюць...*

— Я сягоння скажу большае,— мабыць, Сурачкін цяпер і самога сябе не чуе. Голас ягоны ўзмываецца ўсё вышэй і вышэй,— на апошнім пасяджэнні сакратарыята мы распрацавалі і зацвердзілі новую мадэль кінавытворчасці. Праекты нашага рашэння мы перадалі ў Дзяржкамітэт і вам, Аляксандр Феафанавіч. Прайшло два месяцы з таго часу, а адказу мы не атрымалі. Што гэта за адносіны да нас? Няўжо такімі тэмпамі мы і далей будзем перабудоўвацца?

Да чаго зводзіцца сутнасць новай мадэлі кінавытворчасці? Коратка я сягоння магу вам сказаць так: у рэшце рэшт надышлі такія часы, калі нам трэба аддзяліць творчы працэс ад вытворчага. Галоўнай фігурай у кіно, як і на студыі, павінен быць творчы чалавек, а не чынуша-рэдактар, як вялося дагэтуль гадамі. Эпоха дыктату Сацункевічаў Віктараў Іванавічаў, эпоха гэтых людзей, якія ўсё жыццё былі заняты толькі тым, каб заяўляць на мастацкіх саветах: не бачу сэнсу, зняць, выкінуць, замяніць,— навечна канула ў Лету. Мы і самі, даражэнькі Віктар Іванавіч, неяк ужо без вашых мудрых і цэнных указанняў разбяромся, што нам трэба здымаць, а што — не здымаць. Рэжысёрская калегія павінна выконваць тыя функцыі, якія да сённяшняга дня выконвала рэдакцыйная калегія на чале з Сацункевічам. Прафесіяналы павінны ацэньваць работу прафесіяналаў, а не людзі з вуліцы...

— Дык што ж цяпер рабіць з рэдкалегіяй? Там жа іх — аж пятнаццаць чалавек,— раздаецца правакацыйны магутны крык з задніх радоў.

— Разагнаць іх,— рашуча сячэ рукою паветра Сурачкін.— Нам трэба разагнаць усіх гэтых нахлебнічкаў. І заадно мы гэтым студыйныя штаты скароцім, фонд

зарплаты павялічым,— мы ўсё зробім, як таго патрабуюць апошнія дырэктыўныя пастановы. Перабудова павінна быць перабудоваю, а не чарговым касметычным рамонтам. Досыць нам цярпець дыктатуру чыноўнікаў-дэмагогаў, накамандаваліся яны, насядзеліся на нашай шыі...

І зноў у зале — гучны смех, цяпер ужо смелыя апладысменты. Хтосьці ад задавальнення аж свішча ў пальцы.

*Даўно ў гэтай зале не свісталі, даўно!... Во, паразіт, прывязаўся! І за што, калі спытаць? Што кепскага ты яму зрабіў? Некалі сам жа адстойваў ягоны сцэнарый, з тым жа Федарэнкам ледзьве не загрудкі хапаўся з-за яго... Ну, пачакай жа, пачакай!... Каб табе заклала!..*

— Згодна праекту новай мадэлі,— усё ніяк не закладае Сурачкіну,— мы павінны абмежаваць уладу і дырэктара студыі, які сягоння круціць намі, як уздумаецца. Як старшыня Саюза кінематаграфістаў учора ў ягоным кабінеце я заявіў, што ён — звычайны гаспадарнік і павінен займацца толькі гаспадарчай дзейнасцю. Не камандаваць намі, рэжысёрамі, а з усёй сілы імкнуцца выканаць нашы пажаданні. У час і якасна. Гэта значыць, ён павінен своечасова забяспечыць здымачную групу тэхнікаю, машынамі, стужкамі, своечасова зрабіць апрацоўку знятага матэрыялу. Вось ваша задача, таварыш дырэктар. А ў астатняе вам лезці нечага.— Сурачкін зноў паварочваецца ў бок прэзідыума, дзе красуецца дырэктар, і пільна глядзіць яму ў вочы. Дырэктар студыі чалавек паўнаваты і салідны, яму год пад пяцьдзесят, і ён чамусьці нагадвае старшыню Дзяржкамітэта Федарэнку як брата роднага,— ці то на высокія адказныя пасады спецыяльна падбіраліся такія таварышы, каб па знешнім выглядзе яны былі прадстаўнічымі і прыгожымі, ці то, знаходзячыся на тых высокіх пасадах, людзі мімаволі станавіліся нечым падобнымі, як падобнымі адзін на аднаго становяцца людзі ў казённым форменным адзенні... Дырэктар студыі і Федарэнка былі падобныя круглымі жывоцікамі, што няпрошана выпіралі з-пад дабротных імпартных, заўсёды зашпіленых касцюмаў, нияркімі гальштукамі на аднолькавых блакітных кашулях, нетаропкімі спа-

койнымі жэстамі, падобныя круглымі загарэлымі нават зімою ад загару ў працэдурным кабінеце тварамі, з якіх, здаецца, струменіла святло ўлады і яго, гэтае святло, заўсёды адчуваюць падначаленыя... Але за апошнія месяцы і дырэктар студыі пачаў здаваць: пад вачыма паявіліся пухліны і часцяком, калі ўзнікаюць стрэсавыя сітуацыі, у яго міжволі тузаецца галава — быццам мух адганяе... Вось і цяпер... Нерухомым, надта ўжо пільным позіркам дырэктар стараецца глядзець у вочы Сурачкіну.

А ў зале — апладысменты. Авацыі Сурачкіну.

*Вар'яцее народ ад беспакаранасці і бескантрольнасці. Навучыліся даваць усім цэнныя ўказанні, а як самім рабіць... Давядуць усё да ручкі... Лямантуе гэтак, быццам у свае кішэні мільёны паклаў і цяпер мае права іх на вецер выкідваць... Што ж гэта робіцца? З сур'ёзнага пасяджэння нейкі тэатр робіць, камедыю...*

— Чым хутчэй мы запусцім у ход новую мадэль кінавытворчасці,— нарэшце Сурачкін павярнуўся да мікрафона,— тым хутчэй убачым вынікі доўгачаканай перабудовы. Як я гаварыў, на вялікі жаль, гэту новую мадэль мы ніяк не можам запусціць з-за магутнага арганізаванага і спланаванага супраціўлення такіх людзей, як Сацункевіч, як дырэктар студыі, як Федарэнка. Думаю, што ўсім ясна, чаму яны супроць новай мадэлі: адны не хочуць, ды баяцца застацца без пасады, а другія — баяцца падзяліць з некім уладу. Проста так яны, канечне, ніколі не аддадуць свае прывілеі. Слава і ўлада былі і будуць надта салодкімі для грэшнага чалавека, і таму гэтыя сапсаваныя людзі будуць гарою стаяць не за народныя, а за свае шкурныя інтарэсы. Начхаць ім на нашу перабудову. Аляксандр Феафанавіч, я цяпер да вас звяртаюся,— Сурачкін зноў паварочваецца ў бок прэзідыума і глядзіць на Феафанавіча,— пара, даўно пара і вам умяшацца ў гэтыя складаныя балючыя для нас справы. Мабыць, досыць вам на кожным нашым сходзе маўкліва і загадкава круціць акулярамі. Нарэшце пара заняцца справаю, а не дэманстрацыяй справы.

Зноў у зале грымяць воплескі, здаецца, аж сцены гудуць.

*Гэта ўжо чыстая абраза Феафанавіча. На студыі, канечне, чаго толькі не тварылася, але такога яшчэ — не помніцца. Зусім Сурачкін пад сабою зямлі не чуе. Во што беспакаранасць творыць! Усімі раскамандаваўся, усім дае ўказанні, а сам што талковага зрабіў? Дзе твае фільмы? Як у чужым воку, дык і парушынку бачыць, а ў сваім...*

Феафанавіч, які дагэтуль з задуменнай усмешкаю пазіраў у залу, ад апошніх слоў Сурачкіна нечакана ўздрыгвае, як бы прачынаецца ад сну салодкага. Як маладзенькі, ён чырванее, адкладвае ўбок акуляры, якімі дагэтуль раўнамерна пакручваў перад носам, апускае галаву да стала і штосьці запісвае ў неразлучны блакноцік.

Пад гучныя авацыі шчаслівы Сурачкін адыходзіць ад трыбуны, абыходзіць на сцэне ўсіх членаў прэзідыума і садзіцца за стол крайнім, цераз адно пустое крэсла,— яшчэ і гэтым дэманструючы сваю незалежнасць і непадкупнасць. Зала ўсё ніяк не можа супакоіцца — авацыі хвалямі гайдаюцца ад задніх радоў да пярэдніх.

*Сабралася ў людзей злосці, ой сабралася!.. Як заўсёды ў такіх выпадках — стрэлачнікі патрэбны, каб было на каго ўсё зваліць... А калі патрэбны, то — абавязкова знойдуцца... Так што, як сказаў бы цяпер Грамабойскі, дзялы, брат, на студыі заварыліся, дзялы...*

Віктар Іванавіч нават азіраецца назад: дзе ж Грамабойскі?

Грамабойскі сядзіць ззаду цераз тры рады. Шчаслівы і ўсмешлівы, нахіліўшыся да аднаго з вядучых рэжысёраў Громава, ён ляскае ў далоні і штосьці шэпча таму на вуха... Громаў слухае і ўсміхаецца. Грамабойскаму і мора па калена, яму — абы лямант быў большы. Гэты — выкруціцца, у таго ж Громава прыстроіцца памочнікам ці рэдактарам. Мо ўжо цяпер дамаўляецца?..

— Мы толькі што праслухалі выступленне старшыні Саюза кінематаграфістаў,— не дачакаўшыся, пакуль сціхнуць авацыі, гаворыць у мікрафон старшыня сходу парторг кінастудыі Вяршкоў: акуратна

апрануты, яшчэ даволі малады чалавек, які дагэтуль прайшоў абкатку на камсамольскай рабоце. Хоць Вяршкову пад сорак, але, як і ў многіх камсамольскіх работнікаў, у твары ягоным, у паводзінах ёсць нешта маладое, залішне правільнае і праведнае. Хоць адзенне на Вяршкову гэткае ж, як і на дырэктары студыі, як і на Федарэнку, але калі ў паставе, у паводзінах дырэктара і Федарэнкі ёсць нейкая як бы прытомленасць і залішняя нетаропкасць, то Вяршкоў штохвілінна рэзкімі тэатральна-прыгожымі жэстамі дэманструе актыўнасць, напорыстасць. І яшчэ ён нечым нагадвае манекена ў вітрыне магазіна. Авацыі паступова заціхаюць, і Вяршкоў, перачакаўшы імгненне, гледзячы ў паперку, што ляжыць перад ім на стале, заканчвае: — А зараз у спрэчках выступіць галоўны рэдактар аб'яднання «Панарама»...

Апошніх слоў Віктар Іванавіч не чуе.

Ён падымаецца і паволі, як да плахі, ідзе да высокай сцэны. У грудзях з кожным крокам усё мацней і мацней пачынае тахкаць. Аж у галаву аддае.

*Чытаць ці не чытаць запланаванае выступленне? Не, мабыць, не... Яго цяпер ніяк нельга чытаць. Гэта будзе твой поўны правал, пасмешышчам станеш... Сурачкіну трэба даваць адкрыты бой. Прачытаеш загатаванае — дасі козыры ўсім, а тым болей — Сурачкіну. Во, часы насталі!.. Але што гаварыць цяпер?*

*Не маглі паставіць тваю кандыдатуру ў канцы сходу, калі ўсе налямантуюцца, калі ўся карціна сходу будзе як на далоні... Наперад высунулі, знайшлі ўсё-такі стрэлачніка...*

*Трэба біць па Сурачкіну. Па ім і заадно па новай мадэлі. Толькі не ў лоб, а далікатненька. Пакажы яе нежыццёвасць і абсурднасць, пакажы, што ў прынцыпе пры перабудове студыйнай нічога не зменіцца, проста адны людзі заменяць у рабоце другіх. Дзеля ўсяго гэтага, можа, перабудова і задумалася.*

*Але ж людзі не змяніліся за гэты год-другі... Яны і не маглі змяніцца.*

Віктар Іванавіч стаіць на трыбуне і нейкае імгненне моўчкі глядзіць у перапоўненую людзьмі залу, адчу-

ваючы, як адтуль на ягоную постаць скіраваны позіркі соцень людзей: насмешлівыя, злыя, вясёлыя... Хоць якія, ды неабыякавыя. Сёння на студыі абыякавых няма.

Цішыня ў зале. Трывожная, бы шкло, крохкая. Усе ў чаканні: ці выкруціцца ад абвінавачванняў Сурачкіна?

*Ад твайго цяперашняга выступлення ўсё залежыць: ці туды — у небыццё, ці — сюды, на паверхню новай плыні, што панясе далей, і дзе ты зноў будзеш адчуваць сябе гэтак жа, як і дагэтуль...*

— Толькі што вы чулі, што самы зацяты вораг перабудовы, самы зацяты вораг новай мадэлі кінавытворчасці — гэта Сацункевіч Віктар Іванавіч. Канечне, абвінавачванне гэта сур'ёзнае, і, калі яно праўдзівае, то мяне, мабыць, і сапраўды трэба мятлою гнаць са студыі. Я не думаю зараз апраўдвацца перад Сурачкіным, а проста паразважаю ўслых пра нашы студыйныя справы, а вы ўсе, як людзі разумныя і адукаваныя (малайчына, правільна пачаў, загуляй напачатку з залаю, заручыся яе падтрымкаю) самі ацаніце сённяшнюю, чэсна скажам, няпростую сітуацыю і заадно тыя перспектывы, якія адкрыў нам сёння Сурачкін. Вывады я рабіць не буду. Вывады вы зрабіце самі. Вось тут Сурачкін сцвярджаў толькі што, быццам творчы працэс рэжысёраў стрымлівае бяздарная тупалобая рэдактура, дырэкцыя студыі, Дзяржкіно — усе вінаватыя, і калі б нас усіх выгнаць, то ў нас былі б адны шэдэўры. Дапусцім, гэта так і ёсць, чаго ў жыцці ні бывае. Дапусцім, мы разгонім рэдактуру, дырэкцыю студыі абмяжуем ва ўладзе, Дзяржкіно разгонім і перададзім поўную ўладу рэжысёрам. Што мы набудзем, а што страцім? Каб доўга не разважаць на гэтае пытанне, я вам праілюструю, як тут вучыў нас Сурачкін, прамадэлірую будучую магчымую сітуацыю сённяшнім яркім прыкладам. Набліжаецца канец чацвёртага квартала і на сённяшні дзень уся студыя стаіць перад горкім фактам: у нас можа не быць прагрэсіўкі, а значыць — трынаццатая зарплата таксама пад пагрозаю. І не толькі рэдактура не атрымае прагрэсіўкі, а і ўсе астатнія работнікі: адміністратары, шафёры,

сантэхнікі... Вы спытаецеся чаму? Я адказваю: толькі таму, што рэжысёр Сурачкін, які, як вы самі чулі, заклікае нас да карэннай перабудовы, дык вось рэжысёр Сурачкін прыступіў да здымак новага фільма, не выбраўшы і не зацвердзіўшы акцёра на ролю галоўнага героя. Вы спытаецеся, як жа магло так здарыцца? Адказваю: усюды ідзе перабудова, усім усё дазволена, і таму да думкі рэдактуры Сурачкін не захацеў прыслухацца. І вось цяпер надышла тая сітуацыя, пра якую мы, рэдактура, папярэджвалі Сурачкіна: палова фільма знята, засталіся сцэны з галоўным героем, а акцёра няма. У гэтым годзе павінна быць здача карціны, нам трэба закрываць год планавай адзінкаю і, калі цяпер рэдактура не паварушыцца, не прыскорыць здачу новай карціны, то, паўтаруся, прагрэсіўкі квартальнай ніхто з прысутных не будзе мець. Мы цяпер усе з нецярпеннем чакаем, калі ж да Сурачкіна прыйдзе натхненне. Фільм ягоны ў кансервацыі, і невядома, калі мы яго запусцім. Ляцяць усе нашы планы, ломяцца вытворчыя графікі. Можа, сёння Сурачкін скажа, калі ж фільм будзе закончаны? Чаму ж ён сёння пра гэта не гаварыў? Усё гэта, як мне думаецца, першая ластаўка той недасканалай мадэлі, за якую гарой стаіць Сурачкін. Таварышы, зразумейце мяне правільна: я — не супроць любых эксперыментаў, я — не супроць новай мадэлі кінавытворчасці, тым больш што ў ёй маецца і штосьці разумнае. Але ж перад тым, як прымаць гэту мадэль, давайце ўзважым, што мы ломім, ад чаго адмаўляемся і заадно не забудзем, што можам скалечыць людскія лёсы. Скажыце нам, таварыш Сурачкін,— цяпер ужо Віктар Іванавіч паварочваецца тварам да Сурачкіна, як дагэтуль той паварочваўся да членаў прэзідыума,— у чым правінаваціліся перад вамі мантажніцы, шафёры, адміністратары, бухгалтэрыя — уся студыя? Ну, хай ужо мы, рэдактура, вам у пячонках сядзім, а яны ў чым вінаватыя перад вамі? Можа, толькі таму, што да вас не прыходзіць натхненне? (Правільна, націскай на прагрэсіўку, з-за яе Сурачкіна з'ядуць на студыі, нагамі ўперад вынесуць...) І яшчэ я хачу ў вас спытаць, таварыш Сурачкін: хто пры новай мадэлі будзе разлічвацца за дзесяткі і сотні тысяч рублёў перарасходу пры вытворчасці фільма? У любы дзень на студыі можа ўзнікнуць аналагічная сітуацыя і тады любы рэжысёр надумае пайсці ў

прастой, спыніўшы здымкі. А што тады рабіць астатнім работнікам? Вы патрабуеце поўную бескантрольную свабоду творчасці. Але ж тады бярыце на сябе і ўсю адказнасць. Студыя — не прыватная лавачка... Дык жа не: усе грахі з чыстай душою вы загадзя плануеце спісаць на дырэктара студыі, на мантажніц, на рабочых цэха апрацоўкі, на тую ж ненавісную вам рэдактуру (дабівай, дабівай паразіта!), а самі хочаце застацца чысценькімі, бо адказнасці за планава-фінансавыя паказчыкі на сябе браць не хочаце і не плануеце. Дык жа як усё гэта тады састыкаваць? Вы ж не адзін працуеце і не са сваёй кішэні бераце грошы на фільм. Добра быць чыстым творцам, калі за твае прамашкі будзе разлічвацца дзяржава, тысячны калектыў людзей. Чаму ад вашага натхнення людзі павінны не спаць, нервавацца? У новай мадэлі — паўтаруся, я супроць яе абсалютна нічога не маю,— трэба давесці да канца тое ж самае, што прапаноўваў Сурачкін: хто будзе адказваць за планава-фінансавыя паказчыкі? Сурачкін сцвярджае: дырэктар студыі, бухгалтэрыя. Але ж, таварышы дарагія, мы цяпер людзі адукаваныя, скажыце, як можа дырэктар адказваць за мільённыя абароты, як можа дырэктар гарантаваць вам зарплату і прагрэсіўку, калі ў новых умовах Сурачкіну, а ў перспектыве і ўсёй рэжысуры — і вы самі пра гэта чулі толькі што — ніхто не ўказчык, ніхто імі не можа і не мае права камандаваць. Ёсць натхненне — сабраў здымачную групу і пакаціў на здымкі, няма натхнення — фільм на кансервацыю, а людзі... Начхаць на людзей, хай без работы застаюцца. Тысячы ляцяць у трубу, а Сурачкіну і рэжысёрам — да лямпачкі, бо ў іх няма натхнення. Дык як жа жыць будзем, таварыш Сурачкін? — зноў Віктар Іванавіч глядзіць на Сурачкіна.

*А-а, дэмагог навейшай маркі, будзеш ведаць і помніць, як чапаць!.. Ведаем тваё натхненне, калі без дапамогі рэдактара двух планаў у мантажнай зляпіць не можаш...*

— Вы не перакручвайце маё выступленне,— успыхвае чырванню, аж падскоквае Сурачкін.— Што вы ўсё зводзіце да дробязяў — усю перабудову?.. Я прынцыповыя пытанні паставіў, я праграму выпрацоўваю...

— Ну, як жа я перакручваю...— тэатральна разводзіць рукі Віктар Іванавіч і паказвае на залу: — Народ — сведка, калі ўжо на тое пайшло, ён не дасць зманіць. Я ўсяго толькі лагічна даводжу да канца вашы прапановы, якія вы толькі што сцвярджалі. Ці вы, можа, ужо адмаўляецеся ад іх? Прынцыповых пытанняў і праблем мы і без вас налаўчыліся ставіць. Цяпер многія занятыя толькі глабальнымі праблемамі, а вось як жыць простаму чалавеку ў канкрэтнай сітуацыі — пра гэта мы чамусьці вечна забываемся. Мо таму і мяса на прылаўках няма, мо таму і Чарнобыль у нас выбухнуў...

У зале чуюцца воплескі. Члены прэзідыума касавурацца на Сурачкіна, твар якога ў малінавых плямах. Сёй-той пасміхаецца.

*Так-так... Цяпер — закругляйся. Досыць гаварыць. Галоўнае — не пераціснуць, у час скончыць. А зала... Людзі ляскалі ў ладкі дагэтуль, ляскаюць цяпер, і колькі яны яшчэ будуць ляскаць?.. Колькі іх яшчэ будуць за нос вадзіць, падсоўваючы розныя прыгожыя лозунгі?..*

— Дарагія таварышы,— гучней, цяпер ужо новым, больш бадзёрым голасам гаворыць Віктар Іванавіч,— я абедзвюма рукамі галасую за новую мадэль кінавытворчасці. Канечне, з нашым кіно трэба нешта рабіць, гэта зусім ненатуральна, што дзяржава на кіно выдае датацыю. Працаваць па-новаму, перабудоўвацца трэба ўсім: і рэжысуры, і рэдактуры, і адміністрацыі студыі, і рабочым. Не трэба нам дзяльбы на чыстых і нячыстых, на праведнікаў і грэшнікаў — з гэтага толку ніколі не было і не будзе. Дзе каму, можа, і выгадна, каб мы як мага хутчэй за чубы схапіліся,— гістарычны вопыт якраз пра гэта і сведчыць. Нам трэба працаваць, а не мітынгаваць і не лямантаваць. На вялікі жаль, у нас і да сённяшняга дня працягваецца старая практыка: добры фільм — заслуга аднаго рэжысёра, яму ўсе лаўры і званні, благі — вінаваты рэдактары, сцэнарысты, адміністрацыя — уся студыя, але не рэжысёр. Як вы самі сягоння маглі ўпэўніцца, гэта практыка даволі жывучая, і я баюся, што ўсе недахопы сённяшняга працэсу аўтаматычна пераносяцца ў новую ма-

дэль. Бяда наша і ў тым, што на сённяшні дзень у нас на студыі няма таленавітых рэжысёраў, якія маглі б паказаць не толькі сваё арыгінальнае бачанне свету, але і сённяшняе рэальнае жыццё. Нацыянальных фільмаў у нас фактычна няма. У асноўным мы займаемся экранізацыяй класікі. Рэжысёры баяцца сённяшніх праблем і, мабыць, таму рэжысёрская бездапаможнасць часцей за ўсё маскіруецца пад розныя новыя мадэлі. Разважаючы пра новую мадэль кінавытворчасці, я хачу звярнуць вашу ўвагу на яшчэ адзін аспект сур'ёзнай праблемы. У сувязі з поўным пераходам на самафінансаванне мы можам пайсці па даўно вядомым шляху стварэння масавай культуры. Растлумачу коратка, чаму так думаю. Дзеля таго каб глядач пайшоў у кінатэатр, каб зрабіць фільм касавым, існуе шмат прыёмаў, якія добра вядомы і сцэнарыстам, і рэжысёрам. Сярод іх я выдзеліў бы тры найгалоўнейшыя: секс, жорсткасць і хохмы... І калі нашы рэжысёры пойдуць у гэтым накірунку, калі культуру мы пачнём атаясамліваць з грашовай выгадаю, то куды ж мы зойдзем і дзе апынімся, таварышы дарагія?.. На вялікі жаль, мяркуючы па апошніх карцінах, у нашых майстроў і ў тых, якія працуюць на іншых студыях краіны, якраз гэты працэс і адбываецца. Прыкрываючыся лозунгамі аб перабудове, рэжысёры пачалі смакаваць жорсткасць, насілле, адзін перад другім рэжысёры спаборнічаюць, хто больш пошасціываліць на экран, хто больш пакажа сцэн інтымнага жыцця. Дзякую вам за ўвагу.

Віктар Іванавіч сыходзіць з трыбуны. Чуюцца воплескі. Не надта і гучныя, не такія, як пасля выступлення Сурачкіна, ды ўсё ж — воплескі. Дрыжаць калені. А здаецца, надта і не хваляваўся. І ў горле ўсё перасохла.

— Слова прадастаўляецца рэжысёру Громаву,— чуецца ў дынаміках нейкі чужы строгі голас Вяршкова,— быццам гэты Вяршкоў быў суддзёю ці дыктарам, які выпускаў на спартыўную арэну то адных, то другіх...

*Гэты павінен урэзаць па Сурачкіну. Яны ж — заця-тыя ворагі. Адзін аднаго на з'ездзе з'ядалі. Няўжо Громаў усё забыў? Не павінен — такое да смерці не забываецца. Трымайся. Яшчэ паглядзім, чыя возьме!..*

За трыбунаю Громаў — салідны, паўнацелы, цяпер трохі акрыялы ад тых цяжкіх для яго дзён, калі Сурачкін з кампаніяй заваліў яго на з'ездзе. Хоць Громаву крыўдаваць нечага, усё на студыі ідзе сваім ходам: некалі Громаў заваліў Клёнскага, цяпер Сурачкін — яго... Дагэтуль Громаў нідзе не выступаў, не высоўваўся, адмоўчваўся ўсё. Цяпер увогуле ўсе дальнабачныя, як тыя падлодкі, што на дно кладуцца...

— У маім творчым лёсе ўсякае было, былі ўзлёты, былі і падзенні,— пачынае адразу ж браць быка за рогі Громаў. Голас у Громава прыгожы, магутны,— некалі ён быў акцёрам і таму цудоўна ведае і ўмее, дзе сцішыць голас, а дзе набраць вышыню.— Быў час, калі на адным з замежных фестываляў да мяне падышоў знакаміты Санціс і назваў мой фільм самым сексуальным фільмам года. Сексуальнасць ён разумеў у сэнсе любові чалавека да зямлі. Я слухаў словы гэтага паважанага мэтра сусветнага кіно і з горыччу ўспамінаў, як гэты ж фільм тут, на студыі, не выпускалі, прымушалі мяне рэзаць і кроіць матэрыял, як кажуць, па-жывому. Вы спытаецеся хто? І я сягоння скажу: ён, Сацункевіч Віктар Іванавіч, гэты казуістычны дэмагог. Многія чакаюць, што зараз я пачну крытыкаваць Сурачкіна. Магчыма, Сурачкін дзе ў чым і мае перахлёсты, але ў гэты пераломны гістарычны час перабудовы я не буду займацца дробязнымі шпількамі. А чаму? А хоць бы таму, што ўсім нам, рэжысёрам, косткаю ў горле стаў Сацункевіч.

Зноў — апладысменты. Зала — аж заходзіцца.

*Вось табе, бабка, і Юр'еў дзень!.. Як так — дык сварацца. Толькі талковы сцэнарый паяўляецца, вочы адзін аднаму гатовы выдзеўбці, а цяпер — усе ў адно кубло спляліся: і левыя, і правыя... Хай бы цяпер спрачаліся, старыя грахі зводзілі!.. І ўсе, як маці родную, клянуцца перабудоваю. Што ж сёння творыцца? Што ж за дзень такі?*

— Галоўная бяда ў тым,— мабыць, аж да першага паверха разносіцца магутны бас Громава,— што рэдактура не выконвае свае прамыя абавязкі. Як ведаю і помню, яна ні разу не паставіла нам, рэжысёрам, тал-

ковага прафесійнага сцэнарыя. Усё лепшае, што зроблена на студыі, гэта — заслуга рэжысёраў, і я сягоння не пабаюся сказаць пра гэта. Калі ж гаварыць пра сцэнарыі, то мы проста змушаны звяртацца за дапамогаю да сваіх маскоўскіх калег альбо — як гэта даводзілася рабіць мне, калі экранізаваў нацыянальную класіку,— закасаўшы рукавы, садзіцца за стол і самім пісаць сцэнарыі на аснове раманаў ці аповесцяў, дзе — скарачаючы прозу, дзе — устаўляючы новыя эпізоды. Вы спытаецеся: чым жа была занята ў гэты час рэдактура? А — нічым. Яна толькі шукала грахі ў нашай рабоце. Сурачкін сягоння сказаў горкую праўду: яна ставіць палкі ў калёсы. У рэдактуры ў асноўным людзі з вуліцы, якім творчы працэс — чужы і нялюбы. Забяры ад іх крэслы, і што застанецца? Ні-чо-га...

*Людзі з вуліцы... Чалавек з вуліцы... Гэта — як таўро, якое навечна ставяць на студыі на чалавека, калі хочуць сказаць, што ён — тупіца, нічога не разумее і не адчувае ў мастацтве і ўвогуле — чалавек прапашчы...*

*Няўжо цябе сягоння ніхто не падтрымае? Грамабойскі? Ён жа лічыцца тваім сябрам. Адзіная надзея — Грамабойскі. Але ж гэты, калі і дарвецца да трыбуны, яшчэ большай бяды натворыць. Сваімі анекдотамі ўтворыць пасмешышча з усёй рэдактуры, і тады ўжо — да смерці не адмыешся. Хай ужо лепей памаўчыць.*

*А дырэктар студыі? А Феафанавіч? Разам у адной камандзе каторы год былі. Няўжо яны цяпер адступяцца ад цябе, кінуць на з'ядзенне рэжысёрам?..*

Сход, як машына з гары, набірае абароты... Народ у зале наэлектрызаваны. Выступленне Громава часта перарываецца воплескамі. Вочы прысутных загараюцца нездаровым бляскам, ад задавальнення некаторыя аж раты паразяўлялі: такога яшчэ не чулі ні разу... Пра гэта маглі гаварыць між сабою, але каб так вось адкрыта з трыбуны?!.

Пасля гэтага да трыбуны прарываецца рэжысёр Гвоздзікаў. Невысокі, акуратна апрануты — па апошняй маскоўскай модзе,— Гвоздзікаў штодня выдзяляецца на студыі новым незвычайным адзеннем: то —

ярка-чырвонай кашуляю, якой у горадзе ў магазінах не знойдзеш, то — імпартным бялюткім світэрам, а то — чырвоным шалічкам на шыі, які выторкваецца з-пад жоўтага каўняра расшпіленай кашулі. У гэтым штодзённым пераапрананні Гвоздзікава праяўляецца выклік той афіцыйнай застыласці, якая ёсць у адзенні парторга Вяршкова ці таго ж дырэктара студыі. Чамусьці зараз іншымі вачыма Віктар Іванавіч разглядае людзей; і Гвоздзікаў, і Вяршкоў, як і дырэктар студыі,— усе яны здаюцца акцёрамі, якія каторы год выконваюць аднойчы вызначаныя ролі... Як і многія нізкарослыя мужчыны, каб выглядаць вышэйшым. Гвоздзікаў носіць туфлі на высачэнных абцасах. І дзяўчаты яму падабаюцца вышэйшыя за сябе.

Каторы год Гвоздзікаў носіцца як з пісанай торбаю са сваім сцэнарыем мастацкага фільма, і тут — ах, такая магчымасць!..

— Я хачу падзяліцца назіраннямі над нашым студыйным жыццём,— Гвоздзікаў любіць гаварыць прыгожа, як і любіць здымаць прыгожыя фільмы. Па ўсім відаць, што сягоння ён будзе здалёку зацягваць нерат: — На нашай студыі даўно знікла творчая атмасфера — вось у чым асноўная бяда. Рэжысёр ад рэжысёра шарахаецца, як ад зачумленага. Мы ўвесь час спадзяёмся на варагаў, а свае творчыя сілы топчам як можам.

*Ты ж павінен і пра сваю балячку ўспомніць. Не можа такога быць, каб ты пра яе не ўспомніў! Дзеля гэтага ж ты і выскачыў, даражэнькі...*

— Пяць гадоў я прабіваю ў «Панараме» свой сцэнарый, і ўсе пяць год я чую ад рэдактуры адно і тое ж: не падыходзіць... У нашай краіне, маўляў, няма прастытуцыі і нашы дзяўчаткі не могуць гуляць з іншаземцамі, бо ў дзяўчат высокая свядомасць. Гэта толькі там, на гнілым Захадзе, магчыма... Усе пяць гадоў, яшчэ да перабудовы, я падымаў тыя праблемы, пра якія толькі сягоння мы асмеліліся ўслых гаварыць. прастытуцыя сярод моладзі, наркаманія.. Чаму ж усёткі мой сцэнарый не падыходзіць? — пытаўся я ва ўсіх. Толкам мне нічога ніхто не сказаў. І вы, Віктар Іва-

навіч, мне таксама нічога путнага не сказалі. І зараз вы таксама ні слова не сказалі пра сцэнарны голад у аб'яднанні. У сваім арыгінальным сцэнарыі я даследую тэму сучаснага кахання, якое цяпер праяўляецца зусім у іншых, не традыцыйных формах... Вы, Віктар Іванавіч, гаварылі мне, што так, як я даследую гэту тэму, нельга рабіць, гаварылі, што некаторыя праблемы ў нашым грамадстве закрытыя. Для вас, Віктар Іванавіч, тэма кахання, можа, і закрытая, як для таго старога генерала, які, дачуўшыся, што ягоны ардынарац бегае ў самаволку да дзяўчат, спытаў са здзіўленнем: «Няўжо яшчэ народ і гэтай драбязой займаецца?»

*Ну вот і вываліў сваё... Напляваць ім на народ, на іх простыя клопаты. Ім цяпер пад сцягам перабудовы трэба сваё вырваць: славу, грошы... Хоць якую славу, хоць скандальную,— абы не спазніцца, абы не ўпусціць свой шанц... Як быццам цяпер больш важных праблем і няма ні ў кога, быццам цяпер усе адной прастытуцыяй і займаюцца...*

А ў зале — апладысменты. Гучны рогат — як у камедыі якой... Проста пад дых б'юць забароненымі прыёмамі... Але ж хто цяпер думае пра прыстойнасць, пра прыёмы — усё ідзе ў ход...

— Цяпер, у век галоснасці і адкрытасці,— усё звініць тонкі голас Гвоздзікава,— калі мы ў адкрытую, не саромеючыся, пачалі гаварыць пра нашы сацыяльныя беды, цяпер маўчаннем ці цыканнем на нас з высокіх кабінетаў, дзе акапаліся ў кругавой абароне чынушы ў круглых крэслах-вяртушках, нічога не даб'ешся. Цяпер гэтых чынуш ад гневу і абурэння народнага нават і падвойныя дзверы не ўратуюць. Праўду я кажу, Аляксандр Феафанавіч? — з тэатральным жэстам рукі паварочваецца Гвоздзікаў да Феафанавіча.

*Азвярэлі... Азвярэлі і пра ўсё чалавечае забыліся... Насабачыліся ў мікрафоны лямантаваць, нічога не скажаш, насабачыліся... Кожны думае толькі пра сваю выгаду. А хто ж будзе гаварыць пра дабрыню і спра-*

*вядлівасць? Не толькі пра секс і наркаманію... Калі ж гэты лямант скончыцца?.. І Грамабойскі — сябар называецца — маўчыць як мыла з'еўшы... Цяпер усе сябры такія... Хоць бы ўжо гэты выскачыў да трыбуны. Як у тваім кабінеце адзін на адзін — такі разумны і смелы, хоць рот затыкай, а цяпер...*

Зноў Феафанавіча кідае ў густую чырвань — намёк Гвоздзікава толькі дурань не зразумее... Дагэтуль Феафанавіч, забыўшыся пра папрок Сурачкіна, супакоіўшыся, зноў пакручваў перад носам акулярамі... Ён тут жа схіляецца да выратавальнага блакноціка. Члены прэзідыума ўзбуджана перамаўляюцца. Адзін Сурачкін сядзіць як каменны.

Каму сягоння, як кажа Грамабойскі, смешачкі, а каму горкія слёзы.

*Прамашку далі, што запісалі цябе ў спрэчках адным з першых. А што, калі знарок выставілі... Загадзя распрануць уздумалі? Некага ж трэба на пацеху народа распрануць і публічна высцебаць. Пару выпусціць... Голенькага... Рэжысура, лямант іхні — чорт з імі, гэта — не страшна, нагалёкаюцца і праз тыдзень супакояцца. Не першы раз такое было і будзе яшчэ не адзін раз,— праз тыдзень і той жа Сурачкін, і той жа Гвоздзікаў да цябе ў кабінет як нічога і не было прыбягуць. Прыбягуць, нідзе не дзенуцца. А што, калі сам Феафанавіч надумаў цябе пад ногі кінуць? На яго ж цяпер таксама і зверху, і знізу ціснуць, і ўсе патрабуюць ахвяр перабудовы, ды — не маленькіх сошак... І ён, каб выжыць, вымушаны кінуць цябе на з'ядзенне...*

*Няўжо ён пра ўсё забыўся?*

*А што, думаеш — немагчыма? Цяпер свет такі, што і бацечку роднага на старасці з дому выганяюць, і ад родных дзетак у раддомах адракаюцца. А ты?.. Хто ты яму, калі разабрацца? Няўжо ты яшчэ спадзяешся, што з-за цябе ў гэтым свеце нехта галаву гатовы злажыць?.. Гэта некалі, калі маладосць вас звязвала, вы верылі ў вечную дружбу... Хоць, ці была яна, тая дружба?..*

*Тады ты быў сабкорам цэнтральнай газеты, а Феафанавіч — загадчык сектара. Усяго толькі — сектара,*

але Феафанавіч, як і ты, разумеў, што здолеў ускараскацца на ніжэйшую прыступку высачэзнай лесвіцы, з якой, чым вышэй падымаешся, тым далей бачыш і чуеш іншае, што астатнія, недасведчаныя, не бачаць і не чуюць, хоць штодня чытаюць газеты і слухаюць радыё. Жадаючых прымасціцца на гэтай высачэзнай лесвіцы, што называецца ўладаю, ва ўсе часы — хоць адбаўляй, і таму на ніжэйшых прыступках усчыналася адчайная тузаніна і барацьба за лепшае месца.

Феафанавіч прыходзіў да цябе па былой студэнцкай службе і, седзячы за сталом, на якім высілася бутэлька гарэлкі, доўга плакаў, як цяжка дыхаць у адладжанай машыне, дзе адчуваў сябе маленькім вінцікам. На добры розум, яму варта было прыляпіцца да нейкай групоўкі, як гэта звычайна рабілі многія, ды ён пакуль ні да якой групоўкі не прыляпіўся, і таму яго старанна таўклі як левыя, так і правыя; па даўняй традыцыі загадчык паралельнага сектара штодзень лавіў недахопы ў ягонай рабоце, выстаўляючы Феафанавіча перад вышэйшым начальствам як дурня.

Ты прыглядаўся, на каго паставіць... Ты таксама наважыў узабрацца на гэту высачэнную лесвіцу. Бо помнікі строгага вусатага чалавека ў вайсковай форме былі даўно сцягнуты з п'едэсталаў, толькі надта дальнабачныя скульптары і мастакі захавалі ў сваіх майстэрнях ягоныя бюсты і партрэты. Бо нізрынуты быў і другі чалавек, які паабяцаў табе і твайму пакаленню рай зямны праз дваццаць гадоў, і якому ты паверыў. Цяпер табе нічога іншага не заставалася, як, адрокшыся і ад бога, і ад чорта, спадзеючыся толькі на сябе, паспытаць больш блізкага шчасця на той пакуль загадкавай лесвіцы, на якой ужо паспеў прымасціцца Феафанавіч.

Пра сваё новае рашэнне ты нікому ні слова не гаварыў, як і многія твае аднагодкі, у сваіх артыкулах, з трыбун, на сходах ты налаўчыўся лёгка гаварыць пра новы ўздым эканомікі і культуры і ў той жа час ты думаў пра лепшае будучае, таму чэпкімі вачыма прыглядаўся, на каго паставіць. Ты ведаў ужо, што ў адзіночку на тую лесвіцу не прабіваюцца. І ты рызыкнуў — выбраў Феафанавіча ў напарнікі.

Седзячы за сталом, як шахматысты ў партыі, вы перабіралі варыянты. Апраўдаць Феафанавіча ў сваёй газеце было цяжка ды і рызыкоўна, бо ты здагад-

*ваўся, што чалавек — слабы і грэшны, і таму, хто з нас святы,— шпурніце камень у свайго бліжняга... Каб памагчы Феафанавічу перабрацца на вышэйшую планку, патрэбен быў іншы ход, балазе прамое начальства Феафанавіча пільна кантралявала барацьбу двух сектараў, яно было нават кроўна зацікаўлена, каб захоўваўся дыялектычны закон барацьбы процілегласцей, і таму, як толькі барацьба сектараў заціхала, яно тут жа падлівала масла ў вогнішча.*

*Як вы тады разважылі, выйсце ў Феафанавіча было адзінае: заваліць загадчыка паралельнага сектара. Табе спатрэбіўся матэрыял на таго загадчыка сектара, і Феафанавіч, раскапаўшы яго, выдаў... Ты надрукаваў яго ў сваёй газеце пад тым сцягам, пад якім ва ўсе часы тварыліся многія цёмныя справы,— барацьбы за справядлівасць...*

*Тады былі іншыя часы, і кожны матэрыял у цэнтральнай газеце быў як перст указальны, як прысуд без апраўдання. Спраўдзілася тое, на што вы і разлічвалі: загадчык паралельнага сектара загрымеў, раўнавага ў барацьбе сектараў была парушана, і таму, згодна дыялектычнага закону барацьбы процілегласцей, тут жа загрымела за слабы кантроль і непасрэднае начальства Феафанавіча. І вось тады ўжо, як падлодка са дна, на паверхню выплыў Феафанавіч,— цяпер ужо ён павінен быў кантраляваць барацьбу падначаленых сектараў...*

*А ты?.. Ты не застаўся без ягонай апекі. Ніхто не ведае пра гэта. А мо — ведаюць? На студыі ўсе ўсё ведаюць. Мо — ведаюць і таму сягоння так адчайна бяруць Феафанавіча за горла: не скінеш Сацункевіча, дык і за цябе возьмемся...*

Адчуванне часу страчваецца. Здаецца, толькі-толькі пачынаўся сход, а ўжо шэсць гадзін... Будуць рабіць перапынак. Такога лямантну студыйныя сцены не чулі. Кажуць, што цяпер і ў іншых арганізацыях сітуацыя гэткая ж: у інстытутах, на заводах і фабрыках, у канторах... Да трох ночы лямантуюць. І не толькі лямантуюць, а і з работы здымаюць, вымовы лепячы. І начальству, і падначаленым — усім падрад, каб пакрыўджаных не было. Ідзе вялікая ломка.

Раздзел дзевяты

## АДЗІНОТА

Жызь — маліна,
раскусіш — журавіна.
*З народнага*

У восем вечара, нарэшце, прымаецца пастанова сходу, у якой Сурачкіну з кампаніяй усё ж удалося працягнуць сваё, дзеля чаго яны і ўсчыналі лямант несусветны:

«За бескантрольнасць і нізкую якасць работы рэдкалегіі галоўнаму рэдактару аб'яднання «Панарама» Сацункевічу В. І. аб'явіць строгую вымову з занясеннем ва ўліковую картку. Адміністрацыі кінастудыі, Дзяржкіно разгледзець пытанне аб мэтазгоднасці знаходжання Сацункевіча на пасадзе галоўнага рэдактара аб'яднання».

Ушчэнт стомлены, быццам цалюткі дзень каменне цягаў, Віктар Іванавіч спускаецца з трэцяга паверха і цяпер слаба асветленым пустым калідорам сунецца, ледзьве перастаўляючы ногі, да свайго кабінета. Усё тыя ж бліскучыя фотаздымкі на сценах, усё тыя ж ліхтары з надпісамі, усё тая ж белая столь, той жа карычневы паркет пад нагамі, але як жа цяпер усё гэта сціскае з усіх бакоў! І паветра, аказваецца, тут цяжкое, задушлівае — аж закладае дыхаць... Як быццам у падземным лабірынце ідзеш і з яго ўжо ніколі не выберашся туды, дзе неба, дзе сонца... Адчуванне, што сённяшні дзень невядома калі пачаўся, і той ранак, калі пісаў у кватэры даклад — гэта так даўно, як у чужым жыцці...

У кабінеце, уключыўшы белае неонавае святло, Віктар Іванавіч апускаецца на мяккае крэсла-вяртушку і моўчкі нерухома глядзіць перад сабою.

На стале тры каляровыя тэлефоны: чорны, чырвоны і белы — вяртушка... Стос папак са сцэнарыямі. Побач ляжаць дзелавыя паперы з лесвіцамі размашыстых подпісаў і віз, у якіх старшыня Дзяржкіно адрасуе грозныя і, як правіла, тэрміновыя ўказанні дырэктару студыі, той тут жа шле іх галоўнаму рэдактару сцэнарнай калегіі, галоўны рэдактар, распісаўшыся, перапраўляе іх сюды, у кабінет галоўнага рэдактара аб'яднання, Віктар Іванавіч перадае яе рэдактару, а той — Святлічнай, якая, нарэшце, усё робіць: складвае

разам з машыністкаю адпіску і адпраўляе яе наверх, дзе ў кабінетах яна зноў абрастае грознымі надпісамі і візамі: рэдактара, галоўнага рэдактара сцэнарнай калегіі, дырэктара студыі... Побач з папкамі з пластмасавай каробачкі тырчаць шарыкавыя ручкі і каляровыя алоўкі. Шарыкавых ручак шмат, і кожны, хто першы раз трапляе ў кабінет, здзіўлена таропіцца на шарыкавыя ручкі розных форм. І свае тут ёсць, айчынныя, і амерыканскія, і японскія... Ручкі розныя, а стрыжні ў іх — адны і тыя ж. Гэтымі ручкамі Віктар Іванавіч карыстаецца рэдка, апошнія гады ён карыстаецца каляровымі французскімі фламастэрамі, якімі выразна і выпукла можна выводзіць свой размашысты подпіс, альбо — «зняць», «узмацніць», «замяніць». Караля на сцэне іграюць прыдворныя, і таму ўсе гэтыя ручкі, французскія фламастэры, кніжная паліца, дзе стаяць рэдкія букіністычныя кнігі па мастацтве, энцыклапедычныя слоўнікі, томікі Маркеса, Фолкнера, дзённікі Талстога, Дастаеўскага, Чэхава, адкуль, пры патрэбе, на любы выпадак жыцця можна выкапаць магутную забойную цытату, якая ў публічным выступленні будзе, як шчыт бранявы,— усё гэта павінна ствараць пэўнае ўражанне на чалавека, калі ён упершыню трапляе ў кабінет галоўнага рэдактара аб'яднання.

Віктар Іванавіч паволі вымае з нагруднай кішэні пінжака напісанае раніцаю выступленне і пачынае рваць яго на шматкі. Адразу стос паперы парваць цяжка,— даводзіцца рваць па некалькі старонак. Суха ліст разрываецца папалам, затым яшчэ раз папалам, і кароткім павольным рухам папера выкідваецца ў пластмасавае вядзерца.

Быццам і не выступленне рвецца, быццам жыццё сваё на шматкі разрываецца...

Толькі цяпер Віктар Іванавіч адчувае, як баліць галава, быццам абручом сціскае... Амаль гэтак жа, як балела яна надзіва спякотным мляўкім летам, калі ўсюды гаварылі пра Чарнобыль, як балела яна сёння раніцаю пасля дзіўнага яркага сну. Куды цяпер падзецца не толькі ад галаўнога болю, а і ад нейкай дзікай першабытнай няўтульнасці і непрыкаянасці, якімі пранізваецца ўсё цела?

Хоць куды, ды — не дамоў, там будзе яшчэ цяжэй.

І тут нечакана ўспамінаецца, быццам нехта ўслых падказвае: сягоння яшчэ трэба схадзіць да Ані.

*Ты прыпрэшся да іх, калі яны ўжо ўсядуцца за сталом у зале той кааператыўнай кватэры, якую ты пабудаваў за свае грошы. І першы, хто табе кінецца адразу ж у вочы — загадкавы чужы для цябе барадаты Эдзік, які з прытворнай усмешачкаю і халоднымі вачыма падымецца з крэсла і ступіць табе насустрач з працягнутай наперад рукою. І ты паціснеш гэту вялаватую, мяккую, як у жанчыны, трохі ліпкую далонь. Тут жа скураю ты адчуеш душэўнае нікому нябачнае сутыкненне,— тваёй душы, хмурнай і, як кажа Ліда, каменнай, і ягонай, гнуткай, прыхаванай мяккімі словамі, робленай усмешачкаю... І зноў, як і кожны раз пры сустрэчы, адчуеш, што Эдзік не саступае і не саступіць табе ні ў чым, хоць ты яму і грошы на кааператыў даў, хоць і фільм пра ягоны ансамбль запланаваў... Ты адчуеш, што ты вечна, ад нараджэння свайго, перад ім вінаваты ў нечым...*

*Потым ужо, з-за спіны Эдзіка, разгледзіш за сталом бледнаватую і худзенькую, ціхую, як спалоханую навечна, Аню, убачыш чырванатварую Ліду, якая, каб схаваць няёмкасць і разгубленасць, будзе надта гаманкая і вясёлая, як і звычайна ў гасцях, зусім іншая, чым бывае дома, калі сумнай застаецца з табою адзін на адзін.*

*Цябе тут жа пачне заводзіць ад гэтага ўсеагульнага фальшу, зноўку ты адчуеш паўтарэнне вядомых спектакляў, якіх штодзень нагледзеўся на студыі, дома, і ў якіх сам удзельнічаеш каторы год... Ты ўжо сыты імі па горла. І што табе рабіць?*

*Не, не... Ніякай сягоння Ані. Ніякага Эдзіка. Яшчэ і гэтага табе не хапала...*

Ён здымае тэлефонную трубку і паволі набірае нумар. Прыклаўшы трубку да вуха, Віктар Іванавіч чуе працяглыя гудкі, затым яны абрываюцца і гучыць знаёмы Лідзін голас:

— Алё...

— Гэта я,— вымауляе Віктар Іванавіч і замаўкае.

*Зараз яна спытае, калі прыйдзеш дамоў... Як жа табе ўсё абрыдла, бо ўсё гэта — працяг аднаго і таго ж спектакля, у якім ты даўно завучыў усе ролі...*

— Ты ўжо едзеш?

— Можа, прыеду, а можа, і не... Ва ўсякім разе, мяне не чакайце. Без мяне за стол садзіцеся,— Віктар Іванавіч першы кладзе трубку і з палёгкаю ўздыхае.

*Ну вось, і гэта адвалілася ад цябе... Адкідай, адкідай ад сябе ўсё гэта, што звязвае і прывязвае!..*

Віктар Іванавіч адчувае, што яму трэба ўспомніць штосьці надта важнае, мо таму ён ніяк не можа адарваць нерухомага позірку ад чорнага тэлефоннага апарата, па якім толькі што званіў.

*А назаўтра раніцаю Ліда пачала пакаваць сумку,— і ты здагадаўся, куды яна збіраецца. І ўпершыню збаяўся нечага. Ты падышоў да яе, прыхаваўшы позірк, загадзя зміры́ўшыся з яе крыкамі і абразамі, узяўся за поўную халодную руку:*

*— Ліда, не дуры...*

*— Не лезь, паскуда!.. Не чапай мяне цяпер! Не падыходзь і блізка! — яна рыўком вырвала сваю руку, умомант — ты і не прыкмеціў калі — адскочыла ад цябе метры на два: — Я сказала,— што пайду на аборт, значыць — пайду... Я з табою ўсё роўна жыць не буду. Толькі жыццё зламала...*

*Яна нават і не заплакала — глядзела на цябе, як на ненавіснага гада, якога і растаптаць боязна.*

*Тут жа прачнулася і зарумзала Аня,— цябе каторы раз укалола: як чуйна дзеці адчуваюць сваркі!.. Як быццам цераз паветра ім штосьці перадаецца, і тады яны ці то плачуць, ці то спалохана лашчацца...*

*І ты зразумеў: цяпер нічога не зробіш, а тым больш не апраўдаешся перад Лідаю.*

*Дрыжачымі рукамі Ліда парывіста, неяк рыўкамі апранала Аню, а ты ўсё нерухома тырчаў ля акна, моўчкі глядзеў на іх, як чужы. Ведаў, што цяпер ні да Ліды, ні да Ані нельга падыходзіць, а калі падыдзеш, то Ліда тут жа сарвецца, пачнецца істэрыка...*

*Узяўшы Аню за ручку, з сумкаю ў другой руцэ, Ліда павяла Аню ў садзік, буркнуўшы ў дзвярах: «Забярэш дзіця вечарам». Ты застаўся ў двухпакаёўцы*

адзін і ўпершыню адчуў, якая яна вялікая і што ў ёй чагосьці не хапае, быццам за ноч вас абчысцілі...

І на студыі ў сваім кабінеце цябе не пакідала пачуццё, што вас абакралі, таму ўвесь дзень ты быў занадта маўклівы, разгублены нават, а між тым хацелася, каб работа на студыі не канчалася, бо дамоў вяртацца было боязна.

Але хоцькі не хоцькі, ды дзень скончыўся. Ты паплёўся па Аню ў садзік. Апранаў яе, доўга гуляў з ёю ў скверыку і, слухаючы яе шчабятанне, усё бачыў перад сабою вялікую пустую кватэру, у якую было боязна вяртацца.

Пра блізкі непазбежны развод з Лідаю табе не хацелася думаць, але ўсё гэта неяк само па сабе паўставала перад табою і ты разумеў, што разам з разводам закуродыміць і твая пасада грашовая, а ўслед за табою пацягнецца такі даўжэзны, на ўвесь горад, хвост студыйных плётак, з-за якога змушаны будзеш кінуць не толькі пасаду, але і студыю... І куды тады дзявацца? Вяртацца ў калгас, ад якога ты ўжо адвык і які быў табе чужым?.. Вербавацца?.. Цябе не так палохаў развод, а як вось гэты даўжэзны хвост студыйных плётак, які змушаны будзеш цягаць за сабою ўсё астатняе жыццё.

Ноччу, калі ты ляжаў у ложку і чуў лёгкае пасапванне Ані, ты ўсё шукаў лагічнае выйсце і не мог знайсці.

Як знарок, бы жывая, перад табою маячыла Ліда,— не цяперашняя, сярдзітая і непрыступная, а тая ўсмешлівая жывая трэцякурсніца, з якой ты некалі пазнаёміўся ля кінатэатра, купляючы з рук білет. І хоць ты, як і яна, білета ў той раз так і не дастаў, але вы не надта расстроіліся, бо тыкаліся вы да стрэчных не толькі з гучнай просьбаю прадаць лішні білецік, а як з нямою мальбою ў вачах падарыць вам нечаканы выпадак, які звёў бы вас і пазбавіў пякельнай маладой адзіноты, ад якой так не спалася начамі ў тую памятную раннюю вясну, калі днём ужо ваўсю размарожвала, а звечара падціскаў марозік, выганяючы з талага снегу ваду, і яна ўсю ноч звонка цурчала ў канавах, ручаінах... Урэшце натоўп перад уваходам у кінатэатр схлынуў, вы засталіся ўдваіх, і ты,зірнуўшы на яе пільней, злавіўшы на імгненне яе нясмелы бліскучы бляск чарнявых вачэй, здагадаўся, што маскарад

*скончаны, і таму падаўся да яе, яшчэ не прыдумаўшы, з чаго пачаць гамонку.*

*Здаецца, вы тады дагаварыліся шукаць білеты ў бліжэйшым кінатэатры.*

*Лёгка сыплючы словамі, пазіраючы ёй у вочы, ты адчуваў, што яна яшчэ зусім наіўная і адзінае, чым яна можа бараніцца ад цябе — звонкім вясёлым смехам, якім яна перапыняла свае словы. Ты адчуваў, што закалыхваеш яе. Ты быў ужо аспірант, ты ўжо праскочыў залікі, экзамены, якіх яна палохалася, ты ўвогуле адчуваў сябе побач з ёю сталым мужчынаю, які зведаў тое недазволенае, чаго не ведала яна — о-о, тыя даўнія зорныя імгненні, што перажыў побач з дваццацівасьмігадоваю, якая шапнула табе: «Грыш, ну, што ты?..» — тыя імгненні днём і ноччу помніліся табе...*

*Чамусьці замест бліжэйшага кінатэатра вы апынуліся на ўскраіне горада. За трамвайным кальцом, дзе будынін ужо не было, ляжала поле, на якім яшчэ дзе-нідзе бялелі гурбы снегу. Цераз поле ў недалёкі лес вяла вясковая дарога. Не згаворваючыся, вы пайшлі па той дарозе, на якой яшчэ ляжаў замурзаны пачарнелы лёд і блішчэлі гладкія лужыны — пад вечар іх зацягвала празрыстым шклом. У глыбокім бясхмарным небе, якога вы чамусьці не бачылі ў горадзе, разгараўся серп месяца — пакуль яшчэ белы, без той жаўцізны, якая паяўляецца пазней, сярод ночы... Некалькі зорак ужо ўспыхнула на яшчэ светлаватым блакіце. Але ўсё яшчэ было відна: і маленечкі, як цацачны ўсё роўна, трамвай, які са звонам каціў па кальцы, і дамы гарадскія, і зялёны лес наперадзе, і гэтае шырокае наўкруг шэрае, з белымі плямамі, поле... За горадам яшчэ вастрэй, аж да болю, пахла чымсьці родным і знаёмым з маленства і пра што ў сталыя гады забываеш.*

*Чаго вы так звонка смяяліся, калі ішлі той дарогаю? Што так весяліла вас?*

*Ля бліжэйшай сасны, быццам так і трэба было, ты тут жа пацягнуўся да трэцякурсніцы... Цалавалася яна асцярожна, усё адварочвала вусны, казала: «Не трэба»,— а потым, калі рукі твае, расшпіліўшы ёй паліто, пачалі дабірацца да таго цёплага і пругкага, якім бывае майскі вецер, яна нечакана расплакалася. Яна не адпіхвала цябе і не адбівалася, як гэта было з іншымі дзяўчатамі, проста яна плакала ўсё болей і болей.*

І гэта цябе спыніла, працверазіла...

Вы пайшлі назад, у горад. Цяпер ужо ўсё было больш прыглушаным, прымглёным, і ў гэтай цішыні вы ўжо не смяяліся,— штосьці здарылася між вамі, і таму вы, трымаючы адно аднаго за руку, усё прыслухоўваліся да сябе. Ты падумаў, што з ёю можна будзе ладзіць, што яна ў жыцці на ўсё згодна, толькі яшчэ баіцца...

І яшчэ ціха абрадаваўся, што, аказваецца, можна пачаць усё спачатку з той розніцаю, што яна, трэцякурсніца, чысценькая, а ты — заплямлены... Але ж гэта, можа, і да лепшага, іначай вы абое, як сляпыя...

Час ад часу, калі ты сутыкаўся з яе павесялелымі ўдзячнымі вачыма, ты адчуваў такое хваляванне, ад якога ўсё аж у роце перасыхала. І верылася табе, што гэтае светлае пачуццё пругкага майскага ветру, якое нядаўна адчуў, гэты светлаваты серп месяца ў бяздонні, звонкі гучны хруст лёду пад чаравікамі — усё гэта будзе вечным, а мо нават і вастрэйшым...

Чорнай доўгай ноччу, калі ад адзіноты і разгубленасці ты круціўся ў ложку, як уюн на патэльні, ты ўсё дапытваўся ў сябе: чаму і калі ты перастаў адчуваць побач з Лідаю той асвяжальны майскі вецер?..

Калі ж усё гэта пачало раставаць, замяняючыся незразумелым новым пачуццём спутанасці, якога дагэтуль не было ў тваёй душы і якое пасля жаніцьбы на трэцякурсніцы само па сабе паявілася?..

Няўжо каханне ўсяго толькі недасягальная мара, якой ты сыты па горла, калі яно табе недаступна?

Праз тры дні Ліда вярнулася з бальніцы,— чужая табе, учарнелая, з патухлымі вачыма. Яна нічога не гаварыла, і ты баяўся да яе падступіцца,— ты проста чакаў, куды цябе вынесе лёс...

Мінуў дзень, другі, і больш Ліда не змагла пратрымацца, яна злягла ў ложак, і ты па тэлефоне выклікаў «хуткую».

Яе зноў павезлі ў бальніцу, цяпер ужо надоўга. І зноў, водзячы Аню ў садзік і забіраючы яе адтуль вечарам, слухаючы вясёлае дзіцячае балбатанне, да цябе, як праз туман, часам пачынала даходзіць, што ёсць каханне і ёсць шчасце, і адно з другім не заўсёды ўжываюцца, і таму табе трэба выбіраць, з чым заставацца, цяпер ужо ведаючы і адчуваючы, што шчасце —

*гэта не кватэра, не мэбля, не пасада і нават не слава, гэта штосьці іншае, больш простае, чаго ў звычайным сямейным жыцці не адчуваеш, як не адчуваеш паветра, калі ты здаровы, і толькі, страціўшы здароўе, губляеш сэнс усяго астатняга: і кватэры, і пасады...*

*І яшчэ адно ты ўцяміў: выйсця для цябе няма... Да скону дзён, з кім бы ты ні быў,— адзін, з Адаю ці з Лідаю,— але штодзень душа твая будзе рвацца паміж пачуццём свабоды і абавязкам...*

*Ліда зноў вярнулася з бальніцы, усё гэткая ж маўклівая, бледная, пажаўцелая,— адразу ж пайшла на бальнічны. Моўчкі, як пабіты сабака, ты круціўся ля яе на кухні, рабіў тое, да чаго дагэтуль і рук не прыкладваў: гатаваў стравы, мыў посуд і бялізну, прыбіраў...*

*На трэці дзень пасля бальніцы Ліда загаласіла. Позна вечарам, калі Аня ўжо заснула, калі ты суцішыўся ў спальні, з залы, дзе прыладзілася на канапе Ліда, пачулася страшнае глухое завыванне, ад якога ў цябе па скуры папаўзлі мурашкі. Табе тут жа захацелася знікнуць, выветрыцца з кватэры чортведама куды.*

*Што тварылася ў яе душы гэтымі тыднямі, калі яна ляжала ў бальніцы?*

*Падумаў, што ўсё на свеце мяняецца і будзе мяняцца, а толькі гэтае жаночае галашэнне вечнае; некалі ты чуў яго ў вёсцы, а цяпер вось чуеш тут, у горадзе, дзе ўсё, здаецца, па-іншаму...*

*Потым з палёгкаю ўздыхнуў, разумеючы, што ўжо ўсё пранясло, разводу не будзе...*

*І тут жа цябе ўдарыла, аж ледзьве не застагнаў: не будзе сына, пра якога дагэтуль марыў. Цяпер, пасля бальніц і аперацый, ніколі не будзе...*

*І зноў, як у апраўданне,— а яно ў цябе заўсёды было пад рукою,— ты падумаў, што ва ўсім гэтым ты і не вінен, ва ўсім вінавата натура чалавека, якую чамусьці — чаму, скажыце, чаму? — трэба ўтаймоўваць.*

*Дагэтуль ты глядзеў на сям'ю як на прыстанішча, а салодкія прыгоды з Адаю былі для цябе — як тыя ж фестывальныя паездкі, як камандзіроўкі ў нязнаны свет. Усяго толькі — як часовыя камандзіроўкі, пра якія Ліда не ведае і ніколі не будзе ведаць. Ты прыходзіў дамоў пасля сустрэч з Адаю, адчуваючы на целе цяпло яе мяккіх рук, і спакойна глядзеў Лідзе ў вочы, бо ўсё*

было нармальна, ты быў дома, ля Ліды, ты ўсё рабіў, што табе гаварыла Ліда, усё было да дробязяў прадумана і галоўным было — не прамазаць у наступны раз, не зрабіць лагічнай памылкі ў той гульні, якую людзі называюць жыццём.

Бо, як вучылі цябе з маленства, ні бога ні чорта няма ні на тым, ні на гэтым свеце, а гэта значыць — чалавеку ўсё дазволена, над ім няма таго суддзі, якому штодзень спавядаліся і якога баяліся твае малаграматныя дзяды і прадзеды, і таму яны аберуч трымаліся за гэтае міфічнае грэх божы, а ўсе іншыя законы, прыдуманыя людзьмі,— не дышла, як павернеш, так і выйшла, так што, як ты спадзяваўся і верыў, можна заўсёды выйсці з вады сухім, галоўнае — каб цябе не злавілі за руку...

Ды вось штосьці незапланавана парушылася ў тваёй правільнай лагічнай гульні; чорнымі бяссоннымі начамі, калі ты слухаў галашэнне Ліды, калі ты шукаў памылку ў сваіх разліках, ты са здзіўленнем злавіў сябе на здагадцы, што ў тваё жыццё, як і ў жыццё твайго разумнага адукаванага пакалення, замест бога, чорта і грозных законаў усё смялей і смялей грукаецца нябачны незнаёмец і якраз гэта ён супроць тваёй волі па-здрадніцку прашаптаў Лідзе тваімі вуснамі: «Ада, ну што ты...»

Хто гэта?

Як разумны сучасны чалавек, ты тут жа пастараўся адкараскацца ад недарэчнай здагадкі, ад якой, акрамя чартаўшчыны, больш нічым не папахвала. Ты ўхапіўся за тое, што ва ўсім вінаваты выпадак, той нелагічны выпадак, які ніяк не ўкладваецца ў рамкі і правілы, прыдуманыя чалавекам. Як быццам Яго Вялікасць Выпадак якраз і існуе ў прыродзе дзеля таго, каб час ад часу паздзекавацца над лагічнымі правіламі і законамі, і таму гэтак жа, як і ты, твае разумныя дасведчаныя сябры-знаёмцы трапляюцца і калечаць свае лёсы з-за дробязяў: пакінутых і забытых у кішэнях запісак палюбоўніц, яркай губной памады на шчацэ, якая застаецца пасля дзелавых сустрэч і доўгіх пасяджэнняў, скарожанай разбітай машыны, на якую аддадзена палова жыцця, трагічнага калецтва ў той самы міг, калі ўжо да поўнага шчасця — рукою падаць...

І гэта, апошняе, разважанне пра Яго Вялікасць Вы-

*падак, цябе неяк надта хутка супакоіла, на час ты пастараўся забыць пра няпрошанага незнаёмца.*

*Разводу не было.*

*Ліда захварэла на паўгода. Днём яна маўчала, начамі плакала,— як ты зразумеў, цяпер яна ліла слёзы не з-за цябе, і нават не з-за разводу, і тое і другое яе ўжо не палохала... Надта хутка Ліда пачала здаваць і здароўем, і прыгажосцю. Яна распаўнела, саромелася свайго цела.*

*Штосьці зламалася ў ёй, патухла, і яна — гэта ты з болем адчуваў — адыходзіла ад цябе назусім, навечна, абыякава і спакойна гледзячы на цябе, калі ты пад самую поўнач вяртаўся з горада, калі ты па тыдні знікаў у камандзіроўках, на фестывальных паездках... Яна ўжо развучылася смяяцца побач з табою. Ля яе заставалася Аня, яны былі ўдзвюх на адзін бок барыкады, а ты — на другі...*

*Так і пакацілася, дзень за днём,— змірыўшыся з прысутнасцю аднаго з другім, вы, здаецца, нават патроху забыліся пра мінулае, вы нават сумавалі адно без аднаго, вы кахаліся цёмнымі начамі, ды ўсё ж, калі б ты ні быў для Ліды, ты ўжо не адчуваў таго пругкага свежага майскага ветру, які некалі наскрозь пранізваў цябе...*

Віктар Іванавіч так і не прыкмячае, калі ж гэта ён перавёў позірк з тэлефона на чорнае акно, за якім цяпер клёна не відно, бачны розныя гарадскія агні: бледныя неонавыя, якія мякка асвятляюць халодны восеньскі асфальт; больш рэзкія, пукатыя агні гулкіх машын, што праносяцца па праспекце, жаўтаватыя ўтульныя агні кватэр бліжэйшага жылога дома.

Баляць плечы і спіна, быццам на сходзе кухталёў надавалі,— не павярнуць шыі. Вось так бы сядзеў і сядзеў ні аб чым не думаючы і нікуды не падымаючыся.

Але ж, на бяду ці на радасць, ды не думаць чалавеку нельга...

*Калі не хочаш думаць пра сям'ю, пра Ліду, то давядзецца думаць пра студыю і работу — як між молатам і накаваднам штохвілінна плешчацца твая душа і вырвацца адтуль яна не здолее.*

*Некалі ты марыў навесці на студыі парадкі. Некалі ты з чыстай душою хацеў рабіць чыстае мастацтва... Як рэдактар ты памагаў творчым людзям: прабіваў сцэнарыі ў кабінеце грознага Федарэнкі, заахвочваў рэжысёраў і акцёраў, як і многія на студыі, ты суцяшаў, супакойваў сябе тым, што твая грэшная душа ўваскрэсне ў чыстым мастацтве...*

*Але пазней, калі праз дзесяць — пятнаццаць гадоў твае высокаідэйныя фільмы з трагедый самі па сабе ператварыліся ў камедыі, а з камедый у трагедыі, ты здагадаўся, што можна дзе заўгодна хлусіць, ды толькі не ў мастацтве, яно фальш нікому не даруе, і таму ўсе гэтыя гады тваімі рукамі нехта лоўка заграбаў жар: калыміў грошы, дурманіў людзям мазгі...*

*А ты?.. Што ж ты рабіў гэтыя гады? Чым быў заняты?*

*Услед за Феафанавічам ты таксама прымасціўся на той высачэннай лесвіцы, з вышыні якой, сам таго не прыкмячаючы, пачаў дзяліць людзей на простых і наменклатурных, на падначаленых і начальства; адразу ж, пры новым знаёмстве, ты прыкідваў, хто пад кім ходзіць: ён над табою ці ты над ім, таму ўсмешка і словы твае былі рознымі...*

*Як і многія ў горадзе, ты ўжо прыцэльваўся, каб атрымаць кватэру ў тым ціхім Андатравым пасёлку, які знаходзіўся ў цэнтры горада і дзе не хадзілі па вуліцах грузавыя машыны, дзе мужчыны, носячы на галовах андатравыя шапкі, у чорных скураных паліто, як на падбор, былі салíднымі і незалежнымі, дзе мелі кватэры і Федарэнка, і Феафанавіч, і той жа дырэктар студыі. І ты, мабыць, атрымаў бы там кватэру і заадно перабраўся б на больш высокую прыступку лесвіцы, ды ў апошняе імгненне, калі табе трэба было прымаць канчатковае рашэнне, ты завагаўся, бо зразумеў, што з вышыні бясконцай лесвіцы табе давядзецца падпісваць не толькі ўзнагароды, але і прысуды таксама. Ад цябе патрабавалася нямногае: пераступіць нябачную мяжу, пасля якой ты зірнуў бы на простых людзей не сваімі вачыма, а вачыма тых людзей, якія знаходзіліся на яшчэ больш высокай прыступцы.*

*Ты здагадваўся ўжо — чым вышэй узбіраецца чалавек на тую лесвіцу, тым большыя гарызонты адкрываюцца яму; падымаючыся высока над грэшнай зямлёю той чалавек удалечыні бачыць штосьці настолькі салод-*

*кае і спаскуслівае, з-за чаго гатовы прадаць чорту сваю душу, адрачыся ад бацькоў, дзяцей і сяброў, бо ўсё гэта, што дагэтуль яднала яго з другімі людзьмі, стае непатрэбным, лішнім нават, людзі ўвогуле становяцца ўсяго толькі сродкам, з дапамогаю якога можна наблізіцца да таго салодкага і спакуслівага, што маячыць на лініі гарызонту...*

*Табе чамусьці было шкада і боязна губляць навечна гэтае знаёмае з маленства жыццё, дзе ўдосталь было слёз, холаду і голаду, бо ведаў, перабраўшыся на вышэйшую прыступку, ты ад усяго гэтага навек адкаснешся: і ад слёз, і ад холаду, і ад голаду; ты проста ступіш у іншае жыццё, як новую скуру на сябе нацягнеш... І яшчэ па вопыце папярэднікаў ведаў — назад з той высачэннай лесвіцы добраахвотна яшчэ ніхто не спускаўся, адтуль толькі скідвалі, мабыць, тая новая скура прырастала навечна...*

*Закруціўся ты. Па ранейшай звычцы паспрабаваў служыць і нашым і вашым, ты паспрабаваў вылузнуцца з гэтага безвыходнага становішча ці хоць бы знайсці для сябе паблажку, ды ў жорсткіх правілах гульні той, нябачны нехта, які размяркоўваў месцы на прыступках, які дагэтуль падымаў цябе з прыступкі на прыступку — ад простага рэдактара да галоўнага рэдактара аб'яднання,— тут жа адступіўся ад цябе...*

*Хоць ты таксама штосьці меў: дзе — фестывальную паездку, калі ў краіне, а калі — недасягальная для многіх мара! — і за мяжу, дзе — бясплатнае рэстараннае застолле, якое адымала здароўе. Ну і яшчэ, канечне, ты меў гэтае салодкае, што днём і ноччу насіў у сабе:*

| |
|---|
| *Главный редактор объединения «Панорама»* <br> *Сацункевич В. И.* |

*Яно было не толькі на візітнай картачцы, якую ты даваў новым знаёмым, галоўнае, яно жыло ў табе...*

*Днём і ноччу цябе турбавала адно, а ў газетных інтэрв'ю, з высокіх трыбун ты гаварыў іншае: як падымаеш народ да вяршынь культурнага жыцця.*

*Што ж такое сучасная культура?*

*Няўжо сённяшні студыйны сход — гаворка пра культуру?*

*Калі тут, на студыі, гаварылі пра культуру?*

*Тут спрачаюцца да хрыпаты пра геніяльныя задумы, якія можна знайсці і ўкрасці, пра талковыя сцэнарыі, якія можна перахапіць з рук у рукі, пра планы і графікі, пра лахматыя лапы, якія адных трымаюць і падымаюць, а другіх шпурляюць у небыццё, тут гавораць пра арыгінальнае сюррэалістычнае бачанне свету — пра што заўгодна... Але пра культуру народа, які жыве на гэтай зямлі?..*

*Што ж такое сучасная культура?*

*Публічнае фіглярства і анекдоты сучасных кінадраматургаў, вынесеныя на экран, якія дзень ці тыдзень цешаць чалавека і тут жа начыста выветрываюцца з памяці — няўжо гэта культура?..*

*Ты шмат глядзіш фільмаў, ходзіш, як і ўсе культурныя людзі, на сучасныя выстаўкі, чытаеш тое-сёе з літаратуры, штовечар па дзве-тры гадзіны зырышся на тэлеэкран, дзе мільгацяць і грымяць канцэртныя праграмы з песнямі, танцамі, хохмамі, анекдотамі, але чаму ж ад гэтага сучаснага культурнага жыцця ў душы тваёй растуць сум, абыякавасць і хаос?..*

*Чым больш ты унікаеш у сучаснае культурнае жыццё, тым табе цяжэй жыць, адчуванне такое, быццам у бясконцы лес усё глыбей і глыбей забіраешся, а дарогу назад — забыўся...*

*Чаму так?*

*Чаму ж так сталася, скажы, чалавек, які творыць сучасную культуру?*

*Ці не пачала марнець культура з таго часу, калі за яе стварэнне пачалі плаціць грошы?*

## Раздзел дзесяты

# КАХАННЕ

Каб той марне здох,
хто любіць разам двох.

*З народнага*

Схамянуўшыся, Віктар Іванавіч зноў пераводзіць позірк з чорнага акна на тэлефонныя апараты. Ён падымае трубку і набірае нумар.

— Прывет,— ён стараецца гаварыць як мага мякчэй і спакайней, па вопыце ведае: як скажаш першае слова, то гэтак жа пакоцінца ўсё астатняе.

*Ада адчувае твой настрой, калі ты гаворыш па тэлефоне. А гэта ўжо — табе не трэба, гэта — лішняе.*

— Прывітанне,— аднекуль здалёку, як з таго свету, чуецца лёгкае жаночае дыханне.

— Сягоння ў мяне... Карацей кажучы, можа, я да цябе заскочу зараз? — ён імкнецца гаварыць як мага абыякавей. Ён з усёй сілы хоча схаваць гэты працiўны ўмольны тон гаворкі, які прыемна чуць ад іншых, але ж самому так гаварыць...

Быццам грошы займаеш і ведаеш, што ніколі не аддадуць...

— А ты адкуль звоніш? — пытаецца Ада.

Па тым, якім голасам спытала Ада, Віктар Іванавіч здагадваецца, што ёй не надта хочацца яго бачыць. А мо — у гасцях хтосьці?..

— Са студыі.

— Чаго так позна?

— Так-ак... Сход быў. Толькі што скончыўся.

— Непрыемнасці?

— Не без гэтага. У каго іх цяпер няма?

— Што ж, едзь,— памалу гаворыць Ада пасля нейкага залішне працяглага маўчання.

Віктар Іванавіч кладзе трубку і, адкінуўшыся на спінку крэсла-вяртушкі, ад стомленасці заплюшчвае вочы. Так не хочацца падымацца з крэсла і некуды плесціся, а трэба.

*Ты ўжо прывучыў сябе да гэтага чужога нямілага «трэба...».*

*Апошнія гады ты жывеш, як па загадзе. Толькі цяпер да цябе даходзіць, што ўвесь час, колькі сябе помніш, ты перад некім хоць у чым, ды вінаваты: у студэнцтве — перад выкладчыкамі, калі пайшоў на свой хлеб — перад начальствам, калі жаніўся — перад Лідаю і нават побач з Адаю цябе не пакідае пачуццё вінаватасці. А тое, што ты ўрываў для сябе, ты як краў усё роўна. Сняданкі, работа на студыі, абеды, вячэры, гаворка з Лідаю і нават сустрэчы з Адаю: усё гэта — як нямілы абавязак, якім пакараны невядома кім і невядома за што, цяпер у тваёй душы няма той беспрычыннай радасці, якой поўна было ў далёкім*

ужо чужым маленстве, калі адчуваў сябе вольна, так вольна, як пасля ніколі не адчуваў...

Радасць, хоць, праўда, і кароткая, паяўлялася ў тваёй душы раней, калі вырываўся ў замежныя камандзіроўкі ці ў тыя ж фестывальныя паездкі; гэтыя доўгачаканыя імгненні, калі ты, упакаваўшы чамадан, ехаў у аэрапорт ці да чыгуначнага вакзала, дзе цябе чакалі гэткія ж шчасліва-ўзбуджаныя калегі, былі для цябе шчаслівымі, бо па вопыце ранейшых паездак ты ведаў, як усё там будзе,— у гэтых днях, дэкадах кіно, на фестывалях, якія рэгулярна праводзіліся то ў адной рэспубліцы, то ў другой.

Разам з іншымі дзеячамі кіно: рэжысёрамі, акцёрамі, рэдактарамі, крытыкесамі — адарваўшыся ад звыклых штодзённых абавязкаў, у казённых чыста прыбраных гасцінічных нумарах ці ў рэстаранных застоллях, пад перастук відэльцаў і звон крышталёвых фужэраў, куляючы чарку за чаркаю, ты паступова наліваўся хмельнай радасцю, нейкая безаблічнай любоўю да чужых незнаёмых табе людзей, і думалася ў тыя імгненні, што цяперашняя хмельная радасць — як вяршыня зямнога шчасця, тым болей калі локцем адчуваеш локаць усмешлівай, прыгожай актрысы ці крытыкесы, якія ўжо не раз бывалі ў такіх паездках і цудоўна разбіраюцца, што за чым цягнецца... Трымаючы ў руцэ крышталёвы кілішак, напоўнены каньяком, як і іншыя дзеячы мастацтва, ты мог доўга гаварыць пра гасціннасць гэтай — толькі б не забыцца і не пераблытаць назву вобласці ці рэспублікі — цудоўнай зямлі, пра сваю асабістую любоў да чалавека працы, пра свяшчэнную місію мастацтва, якое ўпрыгожвае працоўныя будні, пра ваш агульны пасільны ўклад у павышэнне духоўнага патэнцыялу народа, пра ролю ітэрнацыянальных сувязяў, якія мацнеюць год ад году... Ты так доўга і ўпэўнена гаварыў, што ўрэшце, гледзячы ў затуманеныя цёплыя вочы мажных саліднных, хоць на выстаўку вязі, прадстаўнікоў народа, сам пачынаў верыць сказанаму, хоць, бывала, за ўсю паездку, за ўвесь фестываль, за ўсе дэкадныя дні ты ні ў адной хаце, ні ў адной кватэры простых людзей не пабываў, а тым больш не спытаў ніколі, як жа ім жывецца паміж гэтымі днямі, дэкадамі... Калі толькі, накінуўшы на плечы белапенны накрухмалены халат, ты праходзіў па ферме ці па свінаком-

*плексе, а то яшчэ, насунуўшы на галаву каску, спускаўся ў забой ці бываў на заводскім зборачным канвееры, але, дзе б ты ні бываў, як знарок, ты сутыкаўся з насмешліва-цвярозымі позіркамі гэтых простых рабацяг, за чые прафсаюзныя грошы ты піў і еў,— яны пільна, здзіўлена разглядалі цябе і тваю кампанію ў белых халатах так, быццам вы былі іншапланецянамі, якія толькі што апусціліся на зямлю з іншай галактыкі. Ты скураю адчуваў фальшывасць усіх гэтых паездак, сустрэч, але самае жахлівае — людзі таксама адчувалі гэту фальшывасць, і мо таму, выціраючы замасленыя мазолістыя рукі аб цёмную анучу, адступіўшы ад станка ці канвеера, яны саступалі вам дарогу, і вы тут жа, стараючыся не глядзець у іх прыжмураныя вочы, праносіліся міма...*

*Так цягнулася гадамі. Пачуццё сораму і вінаватасці, якія апякалі цябе ў першых паездках, зніклі, ты ўсё болей уцягваўся, урастаў у гэты бясконцы рад пасад і званняў, дзе хтосьці нябачны ўказаў табе тваё месца на той высачэннай лесвіцы, на адной з прыступак якой і ты прыляпіўся,— не ніжэй і не вышэй, згодна тваёй пасады, таму ў кожнай паездцы, у кожным застоллі, як і ўсе, ты неяк інтуітыўна адчуваў, за кім плясціся, каго прапускаць наперадзе, каго пакідаць ззаду, калі браць слова, а калі маўчаць. Ва ўсеагульнай прыгожай тэатралізаванай паездачнай гульні, якая называлася азнаямленнем з жыццём народа, ты знаходзіў асалоду, як знаходзіў асалоду ў тым, што быў блізка ля тых вялікіх і недасягальных, якія арганізоўвалі і вялі гэты шумнагалосы рэй, хто быў гучнагалосым тамадою.*

*Але фестывалі канчаліся, як і праходзілі дні, дэкады, і вось ты вяртаўся назад, з апухлым чырвоным тварам, ушчэнт стомлены ад хмельнай наркатычнай радасці, і, памалу адмакаючы ў фінскай лазні, ты зноў унутрана рыхтаваўся да чарговых фестываляў, дзён, дэкад — да наступнага шчасця...*

*Ты суцяшаў сябе, што такі не адзін. Сімпозіумы, канферэнцыі, семінары, азнаямляльныя паездкі, вынікі спаборніцтва, юбілеі, з'езды, сустрэчы і праводзіны дэлегацыі, дні імянін — здавалася, уся краіна гуляла, і сярод гэтага ўсеагульнага гульбішча, як кара боская, памалу нешта страшнае выспявала, што павінна было выбухнуць і што, урэшце, выбухнула...*

*Але ўсё гэта цяпер — у незваротным мінулым, цяпер на рэдзенькіх застоллях — мінеральная, квас, салодкі напітак, і таму ты, як ля разбітых начовак, балазе здароўе падводзіць усё часцей і часцей...*

*І калі б не апошняя надзея — Ада...*

*Але і з Адаю табе няпроста. Нават і Ада не можа ўратаваць цябе ад адзіноты і стомленасці, якія штовечар усё цяжэй і цяжэй навальваюцца на твае плечы.*

*Як у лабірынце з люстэрак блукаеш ты, усюды натыкаючыся на свае ж аблічча...*

*Падымайся, чуеш, падымайся, друг дарагі,— як сказаў бы цяпер Грамабойскі...*

Віктар Іванавіч адрывае сваё цяжкае непаваротлівае цела ад крэсла-вяртушкі, паволі падыходзіць да шафы і адчыняе дзерцы. У шафе на верхняй паліцы ляжыць пакунак, загорнуты ў газету. Віктар Іванавіч бярэ яго і кладзе ў чорны чамаданчык-дыпламат. Апранае куртку. Затым, падышоўшы да дзвярэй, ён акідвае доўгім развітальным позіркам свой кабінет, у якім правёў гэтулькі часу.

*Былі вёсны. У далёкіх лугах і лясах асядаў набраклы цяжкі снег і з-пад яго выторкваліся першыя пралескі, з шумам лагчынамі бегла да рэчак цёмная талая вада. Пазней у гэтых жа вымытых лугах і лясах звінелі птушкі, маладое клейкае лісце пахла востра, аж да болю галаўнога. На ўзыходзе сонца далёка за горадам, там, дзе цішыня, дзе цяжкая ад расы бліскучая трава схіляецца да берагоў азёр і рачулак, можна ўбачыць, як гуляе рыба ў задымленай вадзе: толькі кругі разыходзяцца. Траву людзі на лугах касілі,— пераламаўшы ў сабе першую стомленасць, мужчыны адчувалі, як з кожным, на мяжы сіл, узмахам касы цела становіцца ўсё больш лёгкім, і ўсё часцей яно пранізваецца прыемным холадам ад таго поту, што сцякае між лапатак. А вечарам, калі ўжо цямнела і неба ўсыпалася зорамі, мужчыны сядзелі ля вогнішча,— наўкола іх цямнелі валы, як застылыя хвалі на моры, дзесьці далёка ў тумане драчы дралі горла, востра пахла прывялай травою; яны ўсё гаварылі, вольна і лёгка смяяліся і ніяк не маглі разысціся,*

*бо кожны з іх адчуваў тое таемнае брацтва, якое яднаецца работаю і салёным потам і ў якое ты так і не быў прыняты... Першыя нечаканыя замаразкі забельвалі мураву, стрэхі хат і хлявоў, і былі яны, як сівізна, што негадана-нечакана паяўляецца ў чалавека — такою парою пахнуць антонаўкі. Першы снег у стыласці і непарушнасці залётваў над хатамі, над полем апусцелым, над лесам, і ў людзей паяўлялася пачуццё свята, таму яны кідалі работу і доўга глядзелі ўдалячынь, што ўсё забельвалася і забельвалася...*

*А ты?*

*Дзе ж ты быў у гэты час?*

*Ці ў камандзіроўках тлумных. Ці ў рэстаранах грымучых. Ці тут, у кабінеце, дзе бясконцым шматслоўем глушыў тугу па тым, чужым ужо табе жыцці...*

*Ты ўсё баяўся сарвацца з гэтай, будзь ты тройчы праклятаю, высачэннай лесвіцы. Усё гэта прайшло без цябе і нічога ты цяпер не вернеш. Ні-ко-лі... На клён усё зрыўся...*

*Вось, вось што нагадвае табе клён за акном — іншае жыццё, якое ты выпусціў сам, па сваёй ахвоце...*

Нечакана Віктару Іванавічу становіцца крыўдна,— адчувае, што яго хтосьці жорстка ашукаў... Ён рашуча шчоўкае выключальнікам на сцяне.

Калідор. Лесвіца. Чатырохвугольная бліскучая, адпаліраваная далонямі вяртушка, ля якой сядзіць апосталам, апрануты ў чорны касцюм, вахцёр,— усё здаецца чужым. Як быццам ён першы раз тут праходзіць.

І — як апошні.

Насупроць студыйных дзвярэй відаць уваход у станцыю метро. На метро да Ады можна дабрацца хутчэй, чым на таксі. Ды і дзе ты яго цяпер зловіш, гэтае таксі?

Віктар Іванавіч спускаецца пад зямлю, дзе чарнеюць у рад аўтаматы, дзе гладкі перон, на якім, асветленыя неонавым святлом, стаяць людзі — надта бледныя, што нябожчыкі...

Адно і тое ж пачынае магутна пульсаваць у Віктара Іванавіча — навошта, навошта ўсё гэта: шматмільённыя людскія скопішчы, дзе ў цеснаце і калатнечы, задыхаючыся машынным чадам, людзі ў разгубленасці і адчаі рвуць адно аднаму нервы па-жывому? Навошта гэтыя машыны, машыны, без якіх як быццам бы нельга

быць шчаслівым? Навошта чалавеку гэтыя дзелавыя і недзелавыя гульні з бяздушнымі аўтаматамі, без якіх многія не ўяўляюць свайго шчасця? Няўжо дзеля гэтага ён, Сацункевіч В. І., нарадзіўся: каб уварвацца ў гэты агромністы горад і, не знайшоўшы сіл вырвацца, знікнуць, раствярыцца ў ранішніх і вячэрніх натоўпах на тратуары, у доўгіх магазінных чэргах па прывідлівае зманлівае шчасце, якое можна купіць за грошы, чым большыя грошы — тым лепшае шчасце, раствярыцца ў бясконцых студыйных спрэчках і дыскусіях, канца краю якім не бачна?..

Усё, чым дагэтуль Віктар Іванавіч супакойваў сябе, чым апраўдваў сваё і чужое жыццё, усё гэта нечакана знікае і зноў, як і некалі ў раннім юнацтве, балюча закіпае ў душы пытанне пра штосьці найгалоўнейшае, чаго ўсё жыццё пазбягаў, адказу на якое ён чамусьці баяўся шукаць, суцяшаючы сябе, што гэта, найгалоўнейшае ў жыцці, спрабавалі і без яго многія знайсці, ды... так і не знайшлі, таму і яму нечага попусту душу рваць, ён разбярэцца ва ўсім потым, некалі...

Здалёку, з падземнага чорнага скляпення, прабіваецца белае яркае святло, адтуль даносіцца гул, услед за якім чортам выныравае электрычка. З грукатам яна падкочвае да Віктара Іванавіча і спыняецца. Адчыняюцца дзверы, у якія Віктар Іванавіч заходзіць.

Людзей у электрычцы няшмат. Ёсць свабодныя месцы, але садзіцца Віктар Іванавіч не думае. Яго ўсё больш і больш трывожыць тое найгалоўнейшае нешта, пра што ён стараўся не задумвацца дагэтуль. З насцярогаю і трывогай ён пазірае на людзей,— пасля пачутага на сходзе яму здаецца, што кожны чалавек носіць у душы штосьці злое і брыдкае, якое хавае да пары да часу, пакуль не паявіцца магчымасць выплеснуць сваю злосць і брыдоту на іншага... І, чым цясней яны збіраюцца, чым часцей сутыкаюцца, тым большае ў іх злосці, кожны шукае і знаходзіць зачэпкі, прыдзіркі... Неяк фізічна Віктар Іванавіч адчувае на сабе позіркі людзей: стомленыя, абыякавыя, насцярожаныя.

І тут, як і на пероне, твары адліваюць непрыемнай нябожчыцкай жаўцізною.

Насупроць яго ў куце вагона суцішыліся двое шаснаццацігадовых: хлопец і дзяўчына. Абое ў джынсах і балоневых жоўтых куртачках, тырчаць ва ўсе бакі скручаныя намыленыя валасы. Дзяўчына разма-

лявана без меры ярка, як прастытутачка. Нікога не заўважаючы, узяўшыся за рукі, яны глядзяць адно аднаму ў вочы, час ад часу сутыкаюцца насамі і весела невядома чаго смяюцца. Якія ж яны шчаслівыя ў гэты міг!

Усё развальваецца, усё рушыцца — няма ў свеце ні святога, ні грэшнага, усюды — хаос, і зачапіцца грэшнаму чалавеку няма за што, днём і ноччу над ім вісіць пагроза бясследнага небыцця, а яны, ёлупні,— невядома чаго радуюцца, яны — шчаслівыя...

Як жа далёка яны ад яго,— як у другім свеце жывуць, у які яму ўваход забаронены.

Цяжка дыхаць, і хочацца Віктару Іванавічу як мага хутчэй выскачыць з электрычкі і апынуцца наверсе, дзе свежае паветра, дзе неба.

Хутчэй бы ўжо апынуцца побач з Адаю,— мо хоць тады знікне балючае н а в о ш т а, ад якога аж закладае дых...

— Прывітанне табе,— гаворыць Віктар Іванавіч, калі заходзіць у аднапакаёвую кватэру. Ля парога яго сустракае прыгожая чарнявая жанчына няпэўнага ўзросту. На яе паўнаватае цела накінуты дамашні чырвоны халат, на босых нагах мяккія цёплыя тапачкі. У няяркім жаўтаватым святле таршэра гэта жанчына здаецца надта прывабнай і прыгожай, балазе што вышэй каленяў паблісквае бялюткая незагарэлая скура. Жанчына прапускае Віктара Іванавіча ў прыхожую, зачыняе на зашчэпку дзверы, а затым спакойна падстаўляе шчаку для пацалунка.

— Прыгажэеш усё,— гаворыць Віктар Іванавіч крыху пазней, калі, перадаўшы ў рукі жанчыны пакуначак, выняты з чамаданчыка-дыпламата, ён здымае з плячэй куртачку.

*Як хутка яна старэе! Было б дзіця — налівалася б жаночай мяккасцю, а так — ні дзеўка, ні жонка... Паблісквающь срэбныя ніткі ў чорных валасах і ля вачэй — сетачкі... А яшчэ ж толькі-толькі за трыццаць пераваліла... Як хутка ляціць час!*

Жанчына нічога не гаворыць. Яна моўчкі глядзіць, як нагінаецца, разуваючыся, Віктар Іванавіч, і чамусь-

ці крывіць вусны ва ўсмешцы. Затым, падсунуўшы Віктару Іванавічу новенькія шлёпанцы, яна паварочваецца да яго спіной і ідзе на кухню, адкуль даносіцца частае цоканне папугайчыкаў...

*Дзіўна, чаго гэта яна ўздумала купляць новыя шлёпанцы? Тыя, старыя, былі якраз да нагі, а гэтыя — цеснаватыя крыху...*

Насунуўшы на ногі шлёпанцы, Віктар Іванавіч ідзе не на кухню, а ў залу, дзе ўсё яму знаёма, як у сваім кабінеце: і чырвоны дыван над канапаю, і тэлевізар з магнітафонам, якія стаяць на асобным століку побач з кніжнаю паліцаю, і нізкі часопісны столік пасярод пакоя, і цяжкія шчыльныя шторы на акне — усё стандартнае, што сустракаецца амаль што ў кожнай гарадской кватэры.

Ён апускаецца на канапу і, чакаючы, калі ж у залу зойдзе Ада, неяк аж забываецца.

*І ўсё гэта, цяперашняе — паўтарэнне аднаго і таго ж, табе ўжо не надта прыцягальнага. Прызнайся хоць сабе, што паяўляешся тут, каб адпачыць. Не болей... Як ходзяць многія да піўных бочак, на рыбалку, на паляванне... Знікае, растае ў тваёй душы тое пякучае жаданне, без якога ніколі не ўяўляў жыцця.*

*Першы раз, калі ты ўгледзеў Аду на студыі, яна ўявілася табе чысценькай і наіўнай, адной з тых рамантычных дзяўчатак, якія любым чынам марацъ зачапіцца на студыі, каб потым, праз год-паўтара, не болей, стаць кіназоркаю першай велічыні. Калі ты глядзеў на яе, табе думалася пра чарговага матылька, якіх гэтулькі згарэла на студыйным вогнішчы. Ужо загадзя змірыўшыся з яе падзеннем, ты рашыў назіраць, як усё будзе...*

*Прайшоў месяц, другі. Як і ў першы дзень работы, ходзячы па студыйных калідорах, паяўляючыся ў тваім кабінеце з нейкім вінаватым позіркам і перадаючы ў твае рукі няправільна, з памылкамі, надрукаваныя старонкі, яна заставалася ўсё такой жа свежаю і чыстаю, якой яшчэ ні цыгарэтны дым, ні студыйныя*

*плёткі не зачапілі, як не зачапілі яе — ты гэта адчуваў — чыесьці блудныя рэжысёрскія ці апаратарскія рукі. Ты быў здзіўлены: як жа ёй удалося адшыць ад сябе ўсіх жадаючых? І на што яна тады разлічвала? Няўжо яна спадзявалася, што без гэтых ліпучых рэжысёрскіх і апаратарскіх рук яна зможа прабіцца наверх, туды, дзе здымачная пляцоўка, дзе фестывалі?..*

*Неяк у сваім кабінеце, аддаючы ёй на перадрук старонкі, вы сутыкнуліся рукамі — цябе як токам ударыла... Ты ўздрыгнуў, пачырванеў і чамусьці засароміўся. І яна таксама ўздрыгнула — ты гэта адчуваў...*

*Вы былі ўжо нечым паяднаны — штосьці недасказанае паявілася між вамі.*

*Ты быў ужо жанаты. Ты ўжо не саромеўся Ліды, як і Ліда не саромелася паказвацца перад табою аголенай, усё радзей ты адчуваў ля Ліды той пругкі майскі вецер і часта, калі міма цябе праходзілі прыгожыя дзяўчаты, як бы нячыстая сіла паварочвала тваю галаву на іх...*

*Цераз сілу, як на штосьці недазволенае, ты паглядзеў ёй у вочы і тут жа сутыкнуўся з яе агністым бліскучым позіркам. І — не вытрымаў... Ты ўсё зразумеў, трэба было рызыкаваць, парушаючы святое правіла: на студыі раманаў не заводзіць.*

*Табе падбіралася пад саракоўку, ты адчуваў сябе на ўзлёце, наперадзе маячыла пасада галоўнага рэдактара сцэнарнай калегіі — ты ведаў, чым рызыкуеш, і ўсё ж не мог утрымацца.*

*Ты зноў зірнуў ёй у вочы і ціхім, зусім не планёрачным голасам спытаў:*

*— Ну і як, падабаецца тут, у нас?*

*— Нічога,— сказала яна гэтак жа прыглушана,— шуму і пены зашмат, а толку — мала...*

*Вы гаварылі адно, а вачыма дамаўляліся пра іншае...*

*— І дзе ж ты вольны час праводзіш?*

*— Вяжу.*

*— А яшчэ?*

*— Сумую,— яна ўсміхнулася.*

*Ты нічога не мог зразумець. Табе ўсё не верылася, што шчасце само плыве ў рукі; і зноў, як і ў маладосці, ты адчуў, што ад хвалявання ў горле ўсё перасыхае... Няўжо, няўжо і сапраўды ўсё ва ўладзе чалавечай?*

*На той час у тваёй душы зніклі рамкі і межы, якія ты дагэтуль баяўся пераступіць,— прыкрываючыся*

*прыгожай правільнай гульнёю ў словы пра сумленнасць, чэснасць, ты цішком наважыў жыць як набяжыць, лавіць тыя салодкія імгненні, якія з кожным, невядома кім адпушчаным днём бясследна знікалі, і таму — дзе лепшае выйсце, падкажыце мудрацы ўсіх вякоў і народаў? — ці варта табе было адракацца ад таго, што само плыло ў дрыжачыя ад хвалявання рукі?..*

*Праз пару тыдняў пасля гэтай гаворкі вусны твае і прашапталі Лідзе: «Ада, ну што ты...»*

*А яшчэ праз паўгода, калі ты ў чарговы раз, зашыўшыся з Адаю на дачы Грамабойскага, млеў ад начнога і мо толькі пагэтаму надта салодкага шчасця, Ада нечакана ні з таго ні з сяго расплакалася. Ты спалохаўся, падумаў, што ўліп, як уліпалі многія,— з халадком у грудзях пачаў асцярожна яе распытваць. Адтайваючы ад тваіх слоў, давячыся слязьмі, Ада прашаптала іншае, пра што ты ніколі не думаў: не ведае, дзе можна перахапіць грошы на кааператыўку. Бо чарга падышла і першы ўзнос трэба несці.*

*І тут толькі да цябе дайшло, хто ж каго лавіў і злавіў на кручок.*

*Яна цябе проста вылічыла. Як вылічыла Лінда рэжысёра Громава. Як вылічвалі гарадскія дзяўчаткі іншых рэжысёраў, акцёраў, апературараў, мастакоў,— па іхніх руках хадзілі таемныя спісы...*

*— Колькі табе трэба? — глуха кінуў ты ў цемень і нават не заўважыў, як тут жа зняў руку з яе цёпленькага аголенага плечука.*

*— Тысячу,— тут жа яна выдыхнула даўно прыхаванае.— Астатняе мне бацькі дадуць. Мне так абрыдла хавацца і туляцца па гэтых чужых кватэрах, дачах, дзе ўвесь час адчуваеш сябе зладзейкаю. Мне так хочацца мець свой куток, у які ніхто не мог бы сунуцца, дзе нам бы ніхто не замінаў...*

*Яна ўсё цудоўна разлічыла, на многа гадоў наперад — пра гэта ты нават і не здагадваўся.*

*Ты павярнуўся на бок і пацягнуўся рукаю да нізкага століка, які стаяў упрытык ля ложка, і на якім побач з бутэлькаю шампанскага ляжалі цыгарэты і запалкі. Ты не курыў, курыла яна,— уціхую, пра гэта на студыі ніхто не ведаў,— але тут табе захацелася адчуць у роце гаркаваты цыгарэтны дым. Прыўзняўся, закурыў і зноў, улёгшыся на спіну, трымаючы на грудзях спо-*

дак для попелу, дыхаючы салодкім цяпер дымам, заціх.

Табе не тысячы было шкада. Чорт з ёю, з тысячаю. Ты і сам бы аддаў цяпер тую тысячу, каб вярнуць навечна цяпер ужо страчанае пачуццё слодычы і чысціні. Ды ведаў: не вернеш, ні за якія грошы ты яго цяпер не вернеш. І там, з Лідаю, усё разляцелася, і тут завяз як муха ў ліпучку...

Аказалася, што цябе абдурыў хтосьці больш хітрэйшы. І не Ада, не, Ада тут ні пры чым...

Ада аціхла, прытаілася ля сцяны, быццам яе і не было побач.

— Заўтра пасля абеду зойдзеш да мяне,— паволі, аддзяляючы слова ад слова, сказаў ты, калі цішыня дачная стала невыноснай.

Яна тут жа моўчкі ўдзячна пацягнулася да цябе ўсім целам, а табе ў гэты міг захацелася выскачыць з ложка, і было ў тваёй душы брыдка...

Цераз сілу ты стрымаўся, бо бегчы табе не было куды. Пачаў тушыць цыгарэту, нетаропка павярнуўся да Ады. На час ты пастараўся забыцца на ўсё, ды не ўдавалася...

Назаўтра раніцаю ты спусціўся са свайго кабінета ўніз да Шмульскага — галоўнага рэдактара аб'яднання дакументальных фільмаў.

— Прывет,— сказаў ты яму як можна абыякавей.

— Дзень добры. Садзіцеся. Што прывяло да нас, грэшных? — Шмульскі аж прыпадняўся са сваёй вяртушкі і цяпер з трывогаю і надзеяю глядзеў у твае вочы, спадзеючыся прадугадаць твае хады: бяздарны сцэнарый Шмульскага каторы месяц ляжаў на тваім стале...

І тут, адзін на адзін са Шмульскім, губляць табе не было чаго, як і не варта было разводзіць лішнія размовы.

— Слухай,— сказаў ты.— У мяне на стале ляжыць талковая заяўка на двухчасцёўку. Можа, запусцім? Акно ў цябе ёсць на гэты год?

— Тэматыка? — Шмульскі прыйшоў на студыю з журналістыкі, дзе быў спартыўным аглядальнікам. Ён быў хват і ўсё лавіў на ляту. Ведаючы вясковае жыццё па камандзіровачных наездах, па газетных артыкулах і перадавіцах, ён умудрыўся накатаць пра вяскоўцаў сцэнарый мастацкага фільма...

— Сацыяльны партрэт перадавога рабочага. Можна брыгадзіра слесараў-зборшчыкаў, а можна і яшчэ каго. Аўтаматычныя лініі, станкі з лічбавым праграмным кіраваннем, ну і ўсё такое ж, астатняе, што набліжае нас да камунізма...— ты біў наўгад, яшчэ не ведаючы ні таго слесара-зборшчыка, ні тых станкоў. Проста, чытаючы штодзень газеты, ты ведаў апошнія дырэктыўныя пастановы і таму здагадваўся, што такая тэматыка будзе прахадной.

— Пройдзе,— коратка сказаў, як адрэзаў, Шмульскі, пільна разглядаючы цябе.— Нясіце. Я яе ў лік рэзерву запушчу. Зараз жа і запусцім. Калі якая няўкрутка будзе са сцэнарыем — рэжысёра падключу.

— Дзякую пакуль,— сказаў ты і, павярнуўшыся, пайшоў да дзвярэй.— Толькі гэта...— ты ўжо стаяў ля дзвярэй і трымаўся рукою за бліскучую халодную ручку.

— Што ў вас яшчэ? — хуткія жывыя вочкі Шмульскага спалохана забегалі па табе, і ты здагадаўся: баіцца, што сарвешся з кручка.

— Заяўка не мая. Мяне папрасілі. Парэкамендавалі звярнуцца да цябе. Адтуль, зверху націснулі,— на ўсякі выпадак ты кіўнуў галавою ўгору, як гэта звычайна рабіў Грамабойскі.

— Хто аўтар?

І тут ты выціснуў з сябе:

— Смаляніцкая.

Імгненне вы моўчкі глядзелі адно аднаму ў вочы. І зноў у цябе паявілася адчуванне, быццам з цябе жывога скуру здзіраюць. Першым адводзячы позірк, Шмульскі сказаў, як пятлёю заарканіў:

— Так, можа, і лепей будзе... Будзем пашыраць кола аўтараў. Якраз гэтага ад нас і патрабуюць наверсе. Хай нясе. І адразу ж дагавор заключым.

З кабінета Шмульскага ты выправіўся ў студыйную бібліятэку, дзе жаўцелі падшыўкі газет. І там, як спецыяльна для цябе, быў надрукаваны матэрыял пра завод аўтаматычных ліній,— аказваецца, ты нездарма штораніцы праглядаў газеты, у цябе быў добры нюх, і ты ўжо на даваў прамашак.

За паўгадзіны ты накатаў заяўку.

Пасля абеду, калі Ада ціха заплыла ў твой кабінет, ты, пасадзіўшы яе перад сабою за стол, падсунуў спісаныя ад рукі лісткі і афіцыйна суха, як звычайна га-

*варыў з чужымі і з рэдактарамі,— панібрацтва на рабоце ты не дазваляў нікому, нават Грамабойскаму,— сказаў:*

*— Перадрукуй, распішыся ўнізе і занясі ў кабінет Шмульскаму. З рук у рукі перадасі, не праз машыністку... Будзем рабіць з цябе сцэнарыстку. Сягоння, можа, і дагавор падпішаш. А з заўтрашняга дня за работу над сцэнарыем прымешся. Спачатку на завод паедзеш, з рабочымі пазнаёмішся. Я пераваню ў партком, там будуць чакаць цябе. Першы варыянт сцэнарыя мне пакажаш абавязкова. Ну, але ўсё гэта — заўтра. І — каб мне ніякай самадзейнасці ў гэтым плане. Па тэлефоне са мною пра ўсё гэта — ні гу-гу...*

*— Добра,— надта ціха і паслухмяна шапнула яна і, забраўшы лісткі, тут жа бязгучна выслізнула рыбкаю між высокіх подвойных дзвярэй,— быццам і не было ўчарашняй ночы, калі яна плакала, калі ўдзячна цягнулася да цябе сваім гарачым целам...*

*А ты падумаў, што трымаць Аду на студыі ля сябе ніяк нельга — трэба прыстроіць яе некуды далей ад гэтых шматлікіх студыйных вачэй, якія ўсё за вярсту бачаць і чуюць.*

*Праз год, калі ты з Адаю адзначаў наваселле ў кааператыўнай аднапакаёўцы, яна была ўжо рэдактарам тэатральнага бюлетэня і заадно рэцэнзавала фільмы, якія ты выпускаў,— яе рэцэнзіі і агляды паяўляліся не толькі ў рэспубліканскім, але і ва ўсесаюзным друку, больш-менш дасведчаныя чытачы прывыклі да яе імя і прозвішча, якое часцяком мільгала на старонках газет і часопісаў сярод іншых імён і прозвішчаў кінакрытыкаў, літаратуразнаўцаў, мастацтвазнаўцаў, дзе амаль усе былі гэткія ж, як і Ада, маладыя сімпатычныя жанчыны, якія ў свой час паспыталі кінаведчага факультэта, журфака альбо філфака, прайшлі абкатку на студыях, у рэдакцыях, інстытутах і, закандыдаціўшыся, цудоўна разбіраліся, якое мастацтва патрэбна народу, а якое не патрэбна...*

*Ада была самастойнаю жанчынай і моцна стаяла на нагах.*

*І каму ад усяго гэтага было кепска?*

*Ёй?*

*Табе?*

*Шмульскаму, сцэнарый якога праз год пайшоў у запуск і ўвасобіўся на экранах яшчэ адной прыгожай*

*казачнай імітацыяй жыцця, якое, мільгануўшы перад людскімі вачыма, тут жа забылася, адсунулася ў небыццё новымі больш грандыёзнымі і больш сучаснымі відовішчамі?..*

— Дзе будзем вячэраць: тут ці там, на кухні? — у залу заходзіць Ада.

Віктар Іванавіч доўга моўчкі глядзіць на яе. Як на чужую незнаёмую жанчыну.

*Штосьці ў ёй сёння новае. Мо прычоска? Не, здаецца, не — прычоска ў яе ўсё тая ж, кароткая, калі можна абыходзіцца і без расчоскі... І халат той жа, і шлёпанцы... Што ж у ёй змянілася?..*

— Давай лепш на кухні. Табе пасля работы будзе меней,— гаворыць Віктар Іванавіч. Ён стараецца не сутыкацца са спакойным позіркам чарнявых вачэй — чамусьці ад гэтага позірку сёння няёмка. Затым ён тут жа рашуча падымае сваёацяжэлае цела з мяккай канапы.

Ці то ўсмешка, ці то насмешка мільгае на Адзіным твары. Яна паварочваецца і ідзе на кухню наперадзе Віктара Іванавіча.

На кухні чыста і бела ад кафлі, якой абкладзены сцены. Усё прыбрана — як у бальнічным кабінеце... Ля аконнай фортачкі вісіць клетка, і ў ёй — два жоўта-залацістыя папугайчыкі. Ганяюць адно аднаго.

*У няволі нарадзіліся, у няволі ўсё жыццё пражывуць і ўрэшце загінуць, так і не ўведаўшы, што ёсць на свеце вечназялёныя пальмы, цёплае сонца, зялёныя кусты і дрэвы, між якімі можна свабодна лётаць...*

— Ну, хваліся, што там у цябе здарылася? — пытае Ада, калі яны ўсаджваюцца ля белага кухоннага століка, на якім высіцца бутэлечка каньяку, два крышталёвыя кілішкі, талеркі з парэзанай каўбасою, салатай, хлебам, жоўтымі долькамі лімона, пасыпанага цукрам.

— Нічога асаблівага, калі цвяроза разабрацца,— Віктар Іванавіч разлівае каньяк па кілішках.— Проста ў нас ідзе вялікі лямант, якіх яшчэ не было. А ў вас што, цішыня вясковая?

— Не, і ў нас тое ж самае творыцца. Дзесяць чалавек — і то міру няма. Пісьмы, скаргі пішуць. І ўсё — у Маскву, на імя першага... Дворнікі, сантэхнікі,— цяпер усе катаюць, усе грамацеі...— і зноў у Ады паяўляецца ледзь прыкметная скептычная ўсмешачка, якой да сённяшняга вечара не заўважаў і ад якой Віктару Іванавічу няёмка і трывожна. Быццам ён у нечым вінаваты перад Адаю. Каб пазбавіцца трывогі, Віктар Іванавіч падымае кілішак з каньяком і гаворыць:

— Давай лепш за тваё здароўе і за твой спакой. Каб хоць цябе ніхто не чапаў. Хоць — зачэпяць, не могуць не зачапіць. Новыя лідэры свайго запатрабуюць. Камусьці надта карціць, каб мы як мага хутчэй за чубы схапіліся. На гэтым ручкі можна нагрэць...— дзіліньнкнуўшы сваім кілішкам аб кілішак Ады, ён хутка, адным глытком, выпівае каньяк і на імгненне замірае, прыслухоўваючыся да таго прыемнага салодкага цяпла, без якога ў апошнія гады гэтак цяжка адзінокімі вечарамі. Затым Віктар Іванавіч бярэцца за вільготную дольку лімона. Есці чамусьці нічога не хочацца.

Надта хутка ён сёння хмялее. Хочацца як мага хутчэй адкаснуцца ад усяго балючага студыйнага. Кульнуўшы яшчэ пару кілішкаў, Віктар Іванавіч бярэцца за цёплае плячо Ады:

— Пайшлі ў залу.

— Пачакай, Віця, давай пагаворым,— Ада гаворыць з ім як з роўніцаю, быццам і няма розніцы ў пятнаццаць гадоў.— Ведаеш, мне ўсё ж давядзецца табе сказаць не сёння, дык заўтра...— яна апускае галаву і замаўкае гэтак жа, як і некалі цёмнай ноччу, калі гаварыла пра тысячу для кааператыўкі.

— Што ж табе трэба сказаць? — няўжо і тут чымсьці новым па галаве стукнуць? Ці не залішне ўжо ў адзін дзень?..

— Я выходжу замуж,— Ада падымае галаву. Напачатку яна нерухома і спакойна глядзіць у вочы, а затым ледзь-ледзь усміхаецца цяпер ужо знаёмай скептычнай усмешачкаю, ад якой сёння табе няёмка і пакутліва.

*Ты чакаў гэтага... Чакаў і баяўся... Апошні год Ада часцяком заводзіла гаворку пра замужжа і гэтым як бы рыхтавала цябе да расстання.*

*Канечне, цяпер, калі на ногі стала, можна і кінуць. Цяпер яна ўсё можа. А ты застанешся...*

*З кім і з чым ты застанешся?..*

— За каго ж ты выходзіш? — хмель выветрываецца. Віктар Іванавіч тут жа, баючыся цвярозасці, налівае поўны кілішак каньяку і выпівае,— цяпер ужо адзін, без тоста, без дзілінькання.

— Якая табе розніца? Хоць за сантэхніка, хоць за шафёра,— неяк надта стомлена гаворыць Ада. Гледзячы Віктару Іванавічу ў вочы, яна працягвае ўсё цішэй і цішэй:— Віця, мне ўжо — за трыццатку. У мяне апошні шанс мець дзіця. Ад каго я магу мець? Ад цябе? Ты ж баішся, што заарканю. З дзетдома негрыцёнка браць ці свайго, беленькага?.. Вазьмі, а потым, як дэбілам вымахне ці алкашом — куды яго дзяваць загадаеш? Што мне рабіць? Я не хачу старасць сустракаць сярод гэтых сцен, не хачу, Віцечка. Я вар'яцею вечарамі. Ты хоць здагадваешся пра гэта? Ты прыйшоў і — пайшоў да сям'і. А я ў гэты час? Я тут кожны вечар адна з папугайчыкамі, скора іхнюю мову пачну разумець. Табе гэтага ніколі не зразумець...— Ада гаворыць і плача.

*Не вер, не вер ні яе словам, ні плачу... Плача яна толькі таму, каб хутчэй пазбыцца цябе... Слёзы яе высахнуць, як высахлі тады, калі паабяцаў ёй тысячу... Такія, як яна, гуляюць, гастраліруюць ваўсю год да трыццаці, а потым, прыгледзеўшы талковага ціхага хлапчыну, выходзяць замуж праведніцамі, той нават і не здагадваецца пра іх баявое мінулае...*

*Як жа ў ёй усё сплялося! І ты не ведаеш, дзе ў яе каханне, а дзе цвярозы халодны разлік. І не ведаў. І ніколі не ўведаеш, чаму ж яна была ля цябе.*

*Што ж яна за чалавек? Што яна насіла ў сваёй душы ўсе гэтыя гады?*

*Ліда прасцейшая, яна як на далоні, яна з-за трох слоў пакапацела ў бальніцу, дзе не задумваючыся скалечыла сабе жыццё. А гэта?..*

*Гэта ў бальніцу не пабяжыць. Яна карміласяля цябе*

*гадамі, і вось цяпер, калі нічога новага не можаш даць, яна спакойна вытурыць цябе.*

*Але ж — самае неверагоднае — было ўсё, калі ты паяўляўся ля Ады: і смех яе шчаслівы, і ласка, і радасць непадробная... Ты адчуваў гэта і тут жа загараўся сам.*

*Дзе ж у Ады мяжа паміж разлікам і каханнем?.. І ці ёсць яна?..*

*Што ж за свет пайшоў! Што ж за людзі!*

*Які свет, такія і людзі. А сам ты што — з іншага цеста злеплены? Ты ў сабе разабраўся, навёў парадкі?.. Сам ты ведаеш, чаго хочаш ад жыцця, акрамя кароткай асалоды?..*

— Перастань, супакойся... Пайшлі лепш у залу.— Віктар Іванавіч спрабуе прыгарнуць да сябе Аду.

— Ды пайшлі вы ўсе да д'ябла,— начаканым крыкам узрываецца Ада. Рыўком яна скідвае са свайго пляча руку Віктара Іванавіча.— У залу, да канапы бліжэй... Толькі пра гэта і думаеце...

Яна нахіляе галаву і, паклаўшы яе ў далоні, уздрыгвае ўсім целам.

Глядзець на Аду балюча. Прыпадняўшы галаву, Віктар Іванавіч зноў бачыць залацістых папугайчыкаў у клетцы. Як нічога і не было, яны шчасліва ганяюцца адно за адным. Адчуванне ў Віктара Іванавіча такое, быццам нехта адгароджвае яго ад усяго на свеце,— як шырачэнным бяздонным ровам, цераз які ніяк не вырвешся на свабоду.

— Ладна, ты прабач, калі што не так... Пайду я,— цяпер Віктар Іванавіч разглядае ля ног клеткі каляровага лінолеуму.— Ты толькі, калі можаш, мне кавы звары напаследак.

— Звару,— Ада пальцамі выцірае слёзы, падымаецца з табурэткі і ідзе да белай газавай пліты.

Маўчанне ў кватэры. Так не хочацца гаварыць. Як жа стамілася яго душа ад слоў, якія штодня сыплюцца на яго галаву!

## Раздзел адзінаццаты

# ВЯРТАННЕ

Гора мучыць, гора вучыць,
гора песеньку пяе.

*З народнага*

На супынку — ні душы. Мабыць, толькі што пайшоў аўтобус. Таксі таксама нідзе не відно. На ноч пахаладала, падымаецца рэзкі вецер, але пакуль Віктару Іванавічу не холадна, наадварот — палягчэла пасля цёплай кватэры.

Гэты новы мікрараён, дзе жыве Ада, адбухалі на ўскраіне горада даўно, але яшчэ і дагэтуль шэры халодны бетон так і не схаваўся ў зеляніне дрэў. Сярод высачэзных сцен, дзе чамусьці заўсёды гуляюць скразнякі, адчуваеш сябе прыдаўлена і бездапаможна, няўтульнасць, неўладкаванасць людскога жыцця кожны раз апякае Віктара Іванавіча, калі трапляе сюды.

Побач з кааператыўным домам Ады высіцца вялікая блочная дзевяціпавярховая каробка для маласямейных, у пад'ездах якой абшарпаныя шэра-зялёныя дзверы,— у большасці там жывуць разводныя. І здаецца Віктару Іванавічу, калі днём трапляе ў гэты раён, што тут у паветры вісіць штосьці пакутлівае і трывожнае,— тут рэдка чуецца дзіцячы смех, часцей — лямант дарослых, позіркі ў мужчын — затуманеныя, а ў жанчын — таропкія, хуткія, як бы ў нечым вінаватыя... І нават стандартная дзіцячая пляцоўка ў цэнтры квадратнага пустога двара чамусьці асацыіруецца з чымсьці бяздушным і абыякавым да жывога жыцця: жоўтая квадратная пясочніца, зялёная жалезная горка, жалезныя арэлі — усё гэта, стандартнае, што ёсць і ў іншых дварах, як бы лішні раз нагадвае чалавеку: куды ні кінься, а шчасце — адно і тое ж...

Але ўсё гэта — днём, а цяпер — цемра, у якой здалёку і зблізку блішчаць агні вулічных ліхтароў, акон. Над галавою Віктара Іванавіча пульсуе больш слабае і больш рэдкае празрыстае халоднае святло зор. Калі б не нечы звонкі жаночы голас, што даносіцца з бліжэйшага дома: «Зачем вы, девочки, красивых любите-ее...»,— калі б не знаёмы халодны асенні вецер, то можна было б падумаць, што Віктар Іванавіч цяпер, як на далёкай планеце, дзе ўсё чужое і нялюбае.

*Як рэактар гваздане,*
*Не паможа й кабернэ...*

Памалу ты пачынаў усяго баяцца. Баяўся не толькі паўднёва-ўсходняга ветру. Ты баяўся хадзіць басанож па зялёнай траве, па запыленай дарозе. Баяўся піць малако. Баяўся купацца і загараць. Ты ўвогуле чортведама чаго баяўся, балазе ўсё гучней і гучней усчыналіся размовы і спрэчкі пра новую нечаканую загадкавую заразную хваробу, якая лавінаю насоўвалася з-за мяжы і якую — ты гэта разумеў,— як некалі каларадскага жука, ужо наўрад ці спыніш... Гэтак жа, як і пра Чарнобыль, пра гэту хваробу ў народзе пасыпалася процьма анекдотаў,— быццам вясёлымі пацешнымі анекдотамі, смехам над смерцю і небыццём людзі пазбаўляліся таго грознага, што навальвалася адусюль: з тэлевізараў і прыёмнікаў, з газет і часопісаў, з зямлі сырой, з сухога ці вільготнага ветру, з вод падземных, ад сябе ж падобных...

Як і дагэтуль, Грамабойскі, бесклапотна лётаючы па калідорах студыі, разносіў процілеглыя плёткі, чуткі, анекдоты.

«Хочаш засцерагчыся ад усіх хвароб — спі адзін»,— гаварыў ён амаль што кожнаму стрэчнаму; ён падымаў пры гэтых словах угору ўказальны палец, а затым, гледзячы субяседніку ў вочы, хутка і безапеляцыйна сыпаў:

— Калі чалавецтва не здагадваецца навесці парадачкі ў свеце, то прырода-матухна быстра разбярэцца ў гэтым сусветным бардаку, яна такое нам пакаранне прыдумае, што і не снілася нікому...

Штодзень слухаючы ўсё новыя падрабязнасці пра Чарнобыльскую аварыю і пра заразную хваробу, ты ўсё выразней адчуваў, што з гэтымі бедамі не толькі ты адзін, а ўсё чалавецтва да чагосьці ўпрытык наблізілася, як да парога агромністай недабудаванай будыніны, у якую трэба альбо заходзіць і ўладкоўвацца на ўсё астатняе жыццё, альбо не. А як там, у той будыніне, будуць пачуваць сябе людзі: соладка альбо горка,— табе невядома, бо схаваны ад цябе тыя нябачныя сувязі, што звязваюць, злучаюць у адзінае цэлае людзей і народы...

Штовечар ты глядзеў тэлевізар, праглядаў раніцаю газеты, пад крытычным напорам многае з таго, што яшчэ ўчора ганілася, сёння ўзахлёб хвалілася, і наадва-

*рот, што ўчора хвалілася, сёння ганілася, мімаволі складвалася ўражанне, быццам хтосьці нябачны і ўсясільны пачаў нанова перапісваць гісторыю; з кожным тыднем пражытыя табою гады напаўняліся новым нечаканым сэнсам, як новым сэнсам напаўнялася жыццё іншых людзей, і ўсё часцей ты думаў, здагадваўся пра нешта іншае, пра што пакуль у адкрытую не пісалася, не гаварылася,— як быццам, нацягнуўшы на твар маску, табе ўдавалася ля марскіх скал апусціцца пад ваду, дзе адкрываўся схаваны дагэтуль свет...*

*Прыслухоўваючыся да новых студыйных размоў пра новае глабальнае мысленне, якое пасля Чарнобыля павінна паявіцца ў мастака, прыглядаючыся да чырвонага блудлівага твару публіцыста і сцэнарыста Грабовіча, які гарою стаяў за прынцыпова новы паказ чалавека ў кінамастацтве, які яшчэ нядаўна больш за іншых кляўся ў любові да свайго народа, а цяпер, па чутках, закупляў прадукты толькі ў Маскве, а свае, мясцовыя, не чапаў, які планаваў нават з чарнобыльскай бяды зрабіць чарговы кінашэдэўр, ты, як і многія, хацеў уведаць ісціну сённяшніх перамен, сутнасць таго найвышэйшага, што лунала над тваёй разгубленасцю, над грознымі чарнобыльскімі вятрамі...*

*Як балела галава ў тое лета!*

*Як і многіх, цябе неадступна непакоіла: няўжо тэхнічны прагрэс чым далей, тым магутней будзе даваць людзям здачы, ад якіх чалавецтва ўрэшце можа і не ўваскрэснуць?*

*Няўжо так?*

*І беды тут, мабыць, не ў выпадковасці, не ў ляноце і абыякавасці, а проста ў тым, што чалавек — гэта незразумелы, не заўсёды лагічна звязаны Сусвет, а машына, як і ядзерны рэактар,— усяго толькі сродак, не болей...*

*Часам пасля такіх разваг табе станавілася так жахліва, як, мабыць, было жахліва вясковым старым у зоне пакідаць абжытыя хаты, двары, агароды, за якія яны дагэтуль трымаліся, як за адзінае надзейнае апірышча, і таму некаторыя падчас эвакуацыі збягалі ў лясы, хаваліся ў склепах,— ім не верылася, што дажыліся людзі да тых часоў, калі вятры і дажджы будуць смерць разносіць...*

*Пад восень ты страшэнна стаміўся ад усяго гэтага невыпрашальнага, ты зразумеў: з адчуваннем гэтай бяды*

*болей не можаш трываць і трэба рабіць адно з двух, ці — з'язджаць кудысьці ў свет белы, ці — забыць пра ўсё...*

*Куды ты мог падацца? Дзе чакалі цябе рукі расставіўшы? Хто дасць табе работу і жытло? І дзе гарантыя, што недзе там, дзе цябе няма, лягчэй будзе? Усюды, як ты чытаў у газетах, было не весялей: гадамі людзі стаялі ў чэргах на кватэру, смогавыя атрутныя хмары віселі над гарадамі, труцячы старых і малых, як тыя нітраты, якіх, як аказалася, поўна ў садавіне і гародніне, аварыі і катастрофы сыпаліся адна за другой...*

*І тады ты выбраў другое, ты зміры́ўся з чарнобыльскай бядою, як зміраецца чалавек з думкаю пра непазбежную смерць, якую ніхто з жывых не абмінуў.*

*Толькі ўражанне ў табе засталося, быццам хтосьці хітры дослед над людзьмі правёў: як, вытрымаеце, не павар'яцееце ад разгубленасці і жаху? Правёў, вынікі атрымаў і далей жыць дазволіў, да наступнага больш жорсткага доследу...*

*Ты зміры́ўся і з гэтым...*

*І зноў паспрабаваў жыць па тых законах, па якіх жыў і да чарнобыльскай бяды: на студыйных сходах, на рэдсаветах ты гэтак удала і гладка гаварыў, што слова «ЧАРНОБЫЛЬ» ні разу не злятала з тваіх вуснаў.*

*Як і сёння на сходзе яно ні ў кога не зляцела. Як быццам сённяшнія спрэчкі больш важнейшыя за ўсё тое, чарнобыльскае, якое нябачна рассеялася ў лясах і лугах, прапітала воды і памалу, праз хваробы, падбіралася да чалавека.*

*Толькі сумна табе стала жыць. Гэтак сумна і абыякава, як, казалі, сумна і абыякава было ў тое чарнобыльскае лета жанчынам, якіх вывезлі з зоны ў санаторыі, дамы адпачынку,— як, страціўшы памяць, забыўшыся пра ўсё на свеце, яны нават кідалі дзяцей і брылі абы-куды — куды вочы глядзелі...*

Нарэшце з-за павароту паказваецца легкавушка. Здалёк зелянее агеньчык. Ступіўшы на дарогу, Віктар Іванавіч падымае руку. Машына прытармозвае, спыняецца побач.

— Куда, батя? — прачыніўшы пярэднія дзверцы, пытае таксіст і хуткім прафесійным вокам акідвае фігуру Віктара Іванавіча.

— Урыцкага,— гаворыць Віктар Іванавіч.
— Садитесь.
На гэты раз Віктар Іванавіч садзіцца не спераду, ля таксіста, як садзіцца звычайна, а ззаду — хочацца адзіноты...
Машына мякка кранаецца. Таксіст яшчэ зусім маладзенькі, мабыць, нядаўна вярнуўся з арміі. Пальцам ён націскае клавішу магнітафона,і тут жа на ўсю машыну вішчыць тоненькім голасам рэзка-нахабнае:

Те-о-шча, друг родной, помоги-и-ии...
Мы с тобой друзья, не враги-ии...

— Выключы, калі ласка,— як мага спакайней гаворыць Віктар Іванавіч.
— Можно. Мы все для клиента можем,— спакойна пагаджаецца таксіст і тут жа пальцам затыкае рэзка-нахабнае. Памаўчаўшы, ён па-свойску, як у роўніцы, пытае:— Вы, наверное, писатель?
— Чаму?
— Па разговору определяю. Еще художники так разговаривают, но ани все — патлатые, с волосами длинными, бородатые... Кто, кроме их, может так говорить?
— А ты хто? — з усяе сілы Віктар Іванавіч стараецца гаварыць спакойна, не хапала яму яшчэ і тут завесціся...
— Я?.. Я — коренной горожанин.
— Гэта што — нацыя новая, гараджане?..
— Батя, и ты туда же...— нечакана заводзіцца хлопец.— Надоел этот крик, который национализмом попахивает. Какая разница, в каком городе я буду жить: в Киеве, в Москве, в Ташкенте?.. Баранка вот эта везде одинаковая. И завод со станком от меня никуда не сбежит. Так зачем же этот крик о языке? Писатели пускай — им деньгу зашибать надо...
— Як жа мы будзем жыць? За што будзем трымацца? Я не пра грошы пытаюся, а пра душу... За гэтыя во песенькі пра цешчу? — злосць у Віктара Іванавіча праходзіць, і цяпер ён са здзіўленнем глядзіць на хлопца.
— Как набежит... Плевать я хотел на все с высокой колокольни... Что изменится от моего крика?.. А свои две сотни я везде вырву. Главное — беречь нервы.
— Ну, а ўвогуле, як ты думаеш, дзеля чаго мы ўсе

тут, у гарадах, мітусімся? — усё дапытваецца Віктар Іванавіч.

— Ха, батя,— зноў загаварыў хлопец,— не думаешь ли и ты со мною ликбез проводить? А мы просто об этом и не задумываемся. Нас это, если хочешь знать, и не колышет...— Хлопец замоўк. Ён апусціў шкло ў машыне, са злосцю сплюнуў у тугую сцяну паветра, а затым скрозь зубы з нейкай злосцю загаварыў:— Я перед тобой студенточку с негром в лес отвозил... Паскуды... Потом, когда ее в общагу вез, спросил: ну и как?.. А она — смеется: муж все спрячет... Вот так-то, батя... А ты здесь о какой-то мове плетешь кошели...

— А можа, якраз з гэтага ўсё і пачалося? Можа, усе беды на нас якраз таму і пасыпаліся, што забыліся людзі — хто яны, адкуль родам?.. Мова — гэта праблема ляжыць на паверхні, усё нашмат складаней... Усё глыбей... Проста нас адвучылі думаць, некалі было з-за п'янак беспрабудных,— Віктар Іванавіч цяпер гаворыць не столькі хлопцу, а як — самому сабе.— Разумееш, мы ўсе адно пачуццё згубілі, страцілі... А без яго мы ўжо не народ, а насельніцтва, як ты кажаш — гараджане, якім абыякава, дзе жыць, як гаварыць. Абы меліся грошы ў кішэні. Таму вярбуемся, на Поўнач промся, у мора на караблі. І не таму, што нам туды надта хочацца, а проста, каб закалымíць грошы. Усе праблемы мы звялі да грошай. Як дастаць грошы...

— А я здесь при чем?..— пакрыўдзіўся хлопец. Ён заводзіўся ўсё болей і болей.— Вы же довели все до ручки, ваше поколение. Кто в ресторанах гудел за народные деньги? Кто в закрытых саунах парится? Чьи охотничьи домики в пуще стоят? А сегодня еще и нас, молодых, упрекаете... Мудрецы... А-а, батя, длинный завязывается разговор, да нечего слушать... Еще и удивляются: откуда чернобыли на головы сыпятся?.. Паскуды...

Замаўкаюць абодва. Віктар Іванавіч здагадваецца: колькі ні будзе гаварыць, хлопец яго не зразумее. Не захоча зразумець...

Як і яму ўжо ніколі не зразумець гэтага хлопца.

За шклом мільгае рэкламнае ззянне. Рэдкія постаці на тратуары. Паварот за паваротам, і ўсюды — адно і тое ж: асфальт на зямлі, бетонныя і цагляныя будынiны, агароджы, за якімі немаведама што, агні ліхтароў...

Які вялікі горад!

Сколькі ж спатрэбілася рук людскіх, сколькі поту пралілося, каб узвесці ўсё гэта?!. Ён штодзённа разрастаецца, паглынае ўсё больш і больш зямлі, распускаецца над зямлёю вялізным смуроддлівым грыбам, надаючы людзям работы, трывог, клопатаў, кароткай зманлівай радасці, якую ты некалі меў і якая невядома куды сплыла ад цябе...

Навошта ўсё гэта?

*Штосьці ўвесь час не дадумваеш...*

*Табе здаецца, яшчэ адзін міг, імгненне, і ты тут жа ўсё зразумееш, спалучыш у штосьці адно, суцэльнае, і гэты агромністы горад, і сваё жыццё ў ім, і студыйныя дыскусіі, і гэтага калючага хлопца з ягоным маналогам, і жыццё Ліды, Ані, Ады — жыццё ўсіх людзей, і Чарнобыль...*

*Зноў, як стрэмка ў душы,— Чарнобыль...*

*Апошні год, слухаючы бесперабойнае балбатанне Грамабойскага пра крызіс чалавечага развіцця, ты ўсё часцей лавіў сябе на тым, што ягоныя правільныя словы, як і газетныя артыкулы Грабовіча пра новае мысленне і новага чалавека, якому Грабовіч ужо і назву прыдумаў — Чалавек гуманны,— усё гэта бяздушна пралятае міма, а ўсё часцей і часцей цябе трывожыць, апякае іншае, пра што дагэтуль не задумваўся, чаго дагэтуль не адчуваў.*

*І то была думка не пра будучую смерць, не — гэта думка цябе пакуль не трывожыла, бо ў гарадскім калейдаскапічным мільганні «прывецікаў», пацалункаў у шчочку, навін, хвароб нечаканых, рэстаранных застолляў, фальшывых спачувальных слоў, паніхід, што суседнічаюць з вяселлямі, разводаў, кампрамісных рашэнняў, ты памалу забыўся пра сваю будучую смерць, быццам тваё цяперашняе гарадское жыццё і спланавана некім так, каб ты як мага менш быў спакойны і ў адзіноце мог задумацца пра сябе, пра сваю сутнасць,— ты дагэтуль жыў не надта задумваючыся пра свой фініш...*

*Цябе цяпер трывожыць іншае: хто я, незнаёмец?*

*Мой уладны грозны голас ты ўсё выразней чуеш штодня. Ты пачынаеш здагадвацца, што не ты жыццём уладарыш, а я, нябачны, кірую табою, і ты змушаны слухаць мяне.*

*Хто я?*

*...Вось што цябе трывожыць па-сапраўднаму.*

*Як трывожыць гэтае ж пытанне іншых на студыі, і таму ў калідорах і кабінетах студыі гэтак старанна і апантана варожаць, гавораць і спрачаюцца пра ёгу, біяполе, псіхааналіз, астрал, сусветнае дабро і сусветнае зло, якія нябачнымі палямі лунаюць над слабымі душамі.*

*Гадамі ты суцяшаў сябе, што ўсё на свеце разгадаў і вытлумачыў, ты быў упэўнены, што, пасля многіх спроб і памылак, ты злавіў жураўля ў небе: вось ты, грэшны чалавек, які паявіўся без свайго ўдзелу і жадання і які некалі абавязкова знікне, навечна і бясследна, пакінуўшы ў некага ўспамін пра сябе, які табе — да лямпачкі, і таму ты, як і многія з твайго пакалення, пачаў жыць, плануючы гэты адпушчаны прамежак ад аднаго небыцця да другога па тых няўмольных лагічных законах, якія маглі б прынесці табе спакой і асалоду.*

*Гэтак ты думаў.*

*Гэтак ты жыў.*

*Ты быў упэўнены, што лепшага выйсця няма і быць не можа, бо лагічныя законы стаяць гарою за цябе...*

*Але вось надышоў час, калі ты адчуў, што ў тваё жыццё даўно ўмяшаўся я. Таму зараз ты гэткі прыгнечаны і разгублены.*

*Хто я?*

*Ах, як табе хочацца вылузнуцца ад майго прысуду!*

*...Як і іншым хочацца ўцячы, схавацца ад мяне. Ці не таму, прыкрываючыся на сённяшні дзень патрэбнымі цытатамі, кнігамі, фільмамі, спектаклямі, шматслоўнымі лагічна-канструктыўнымі збудаваннямі, вы марыце абдурыць мяне?*

*Але ж вам гэта не ўдаецца і ніколі не ўдасца. Мяне ніхто не абдурыць, тым больш вы, бо вы нават і не здагадваецеся, што гэта я падсоўваю вам цытаты, кнігі, шматслоўныя лагічна-канструктыўныя збудаванні...*

*Гэта я вучу вас гаварыць адно, а рабіць другое...*

*Я нашэптваю вам днём і ноччу, на адзіноце і ў мнагалюддзі: хапайце, лавіце асалоду ў наркотыках, у віне, у гарэлцы, у распусце, што называецца каханнем — дзе толькі знойдзеце, бо вы — смяротныя і таму жывіце на разрыў аорты...*

*Я супакойваю вас грашыма, з дапамогаю якіх вы можаце атрымаць асалоду. Я цешу вас славаю, і ўсё гэта дзеля таго, каб вы да пары да часу не здагадаліся і не думалі пра маё існаванне.*

*Гэта я нашэптваю вам штохвілінна: бойцеся, бойцеся смерці, бо яна абарве ваш салодкі сон.*

*Гэта я сцвярджаю вам: чалавек — нішто, ён усяго — бяздушны згустак ядзерных, гравітацыйных, электрамагнітных і яшчэ чортведама якіх палёў у бязмежным бяздушным космасе.*

*Я падсоўваю вам хітрую гульню ў тэарэтычныя палажэнні, якія супярэчаць: дзяліцеся на групоўкі, на левых і на правых, на лібералаў, кансерватараў, экстрэмістаў — спрачайцеся, ваюйце між сабою, даводзьце сябе і бліжніх да істэрыкі, да вар'яцтва, да войнаў, шукайце і знаходзьце ў гэтай барацьбе свой сэнс жыцця...*

*Шукайце гэткіх жа двудушных, арганізуйце партыі і групы — гэтак вам будзе лягчэй карміцца і дурачыць просты люд.*

*Гэтак жа, як прыгожым адзеннем ты хаваеш ад людскіх вачэй сваё распаўнелае цела, то і фальшывымі блудлівымі словамі, тэатральнымі, даўно адрэпеціраванымі жэстамі, высокай пасадаю ты хаваеш сваю сутнасць.*

*Але ж настаў час, калі ты ніяк і нідзе не схаваешся ад грознага табе пякучага:*

*Хто я?*

## Раздзел дванаццаты

# РАЗВЯЗКА

Смерці не заперці,
калі трэба памерці.

*З народнага*

У кватэры ціха і цёмна. Спачатку, як толькі Віктар Іванавіч зачыняе за сабою дзверы, рука ягоная звыкла і аўтаматычна цягнецца да выключальніка на сцяне, ды ў апошняе імгненне, калі пальцы дакрануліся да пластмасавага выключальніка, як бы ўспомніўшы нешта больш важнае, Віктар Іванавіч чамусьці апускае руку.

Не разуваючыся, не здымаючы курткі, Віктар Іванавіч праходзіць у свой кабінет, дзе ўсё вядома з закрытымі вачыма. Тут ён таксама святла не ўключае. Хмель выветрыўся, і, калі б цяпер у кватэры была бутэлечка каньяку альбо гарэлкі, ён бы, канечне, дабавіў і тут жа паспрабаваў бы забыцца да раніцы. Але бутэлечкі, як назло, няма, і таму Віктар Іванавіч, падышоўшы да акна, адсунуўшы штору, глядзіць на пустую вуліцу, дзе на рагу раўнамерна мігае жоўты ліхтар светлафора.

Адчуванне, быццам ён у чужой кватэры, у чужым горадзе, дзе ніводнай знаёмай роднай душы.

Штосьці няяснае, пакутлівае пачынае клубіцца ў душы. Ведаючы з ранейшага, што ад гэтага пакутлівага пачуцця цяпер, на адзіноце, ніяк не пазбавішся, Віктар Іванавіч суцішваецца, застывае, загадзя змірыўшыся з тым нясцерпным болем, які вот-вот абрушыцца.

*Заўтра... Самае страшнае пачнецца заўтра. Заўтра з раніцы на студыі будзе вялікі рогат. Будзе шчасліва залівацца Сурачкін. Будзе ўхмыляцца Громаў. Будзе ўціхую рагатаць, аж за жывот брацца, Грамабойскі. У вочы табе ніхто ні слова не скажа, ніхто не ўхмыльнецца, але ж за тваёй спіною, куды б ты ні сунуўся, дзе б ты ні паказаўся, будзе цягнуцца вялізны хвост плётак:*

*— Чулі, Сацункевіча здымаюць?*

*— Не, яго не здымаюць, яго проста скарачаюць.*

*— Каго, Сацункевіча? Быць таго не можа. Ён жа гэтулькі сядзеў...*

*— Няўжо не чуў, як учора на сходзе яго рэжысёры нагамі ўперад выносілі? О-о, рогат быў, аж сцены гудзелі і дрыжэлі.*

*— Дык жа ў яго, казалі, лапа ёсцека. Феафановіч за яго гарою стаіць.*

*— Маўчаў твой Феафанавіч як мыла з'еўшы. І дырэктар маўчаў, і парторг — усе пад ногі кінулі. Што цяпер Феафанавіч? Так, ерунда на мокрым месцы. Кажуць — яго таксама на пенсію гоняць.*

*— Ну і правільна робяць. Гэтых старпераў даўно пара гнаць, развалілі ўсё, давялі да ручкі...*

*— Дык, а куды ж Сацункевічу з такою характарыстыкаю і вымовою?* [illegible]

*— А куды хоча. Хоць дворнікам, калі возьмуць яшчэ...*

*— Во закруціцца цяпер.*

*— Да-а, цяпер ён прыпомніць, як іншым сцэнарыі рэзаў і жыцця не даваў.*

*Тут жа ты ўсё адчуеш: у кабінет ніхто не зазірне, з заўтрашняга дня да цябе ў кабінет хоць на вяроўцы людзей зацягвай, нават смелы Грамабойскі пабаіцца нос усунуць. Цяпер ужо не ты будзеш рашаць, каму торкаць руку пры сустрэчы, а іншыя. І позіркаў ты не сустрэнеш,— неяк міма і скрозь цябе будуць глядзець людзі. Ты адразу ж адчуеш атручанае паветра, якое акружае чалавека з вуліцы. І ты ў ім тут жа задыхнешся.*

*Заўтра, усё пачнецца заўтра...*

Трэба, абавязкова трэба нечым заняцца, каб хоць як, ды адагнаць, заглушыць гэты нясцерпны боль. Калі б, на шчасце, мелася бутэлечка!

Што ж цяпер рабіць?

*Некалі ў маладыя гады, калі табе надта прыпякала, ты ішоў да Ліды, на якую выплёскваў свой боль, калі — уціхую, а калі са сваркаю і злосцю... Ты забаўляўся з Аняю. Сам таго не прыкмячаючы, ты лячыўся гэтым.*

*А потым...*

*Няўжо не здагадваешся, што ўжо ўсё — фініш?.. Яна, Ада, выходзіць замуж. Наперадзе ў цябе... Што ж у цябе наперадзе? Ні-чо-га... Вялікае нішто. Год ці пяць — якая розніца?*

*Цябе цяпер ніхто не пашкадуе, не прылашчыць, як калісьці лашчыла маці. Адзіны, хто да самага апошняга імгнення будзе побач з табою, гэта я. Не бойся, я не пакіну цябе. Няшчасны, ты гэтак стаміўся жыць, змагацца штодня за штосьці табе і самому няяснае!*

*Табе ўжо не раз прыходзіла рашэнне абарваць усё гэта... Ну што, вазьмі і абарві сваімі рукамі. Абарві... Навошта, з-за чаго табе пакутаваць? Навошта цягнуць валынку?*

*Табе чагосьці боязна. Не бойся. Ды і чаго табе баяцца? Ці сёння, ці праз год, а ты ўсё роўна пяройдзеш у*

*вялікае нішто. З небыцця прыйшоў і ў небыццё пойдзеш. Ты — нішто...*

*Ну, ну, будзь жа смелым і на гэты раз!*

Робіцца зябка. Быццам толькі цяпер да Віктара Іванавіча дабіраецца той холад, які нядаўна адчуваў на супынку,— ён аж перасмыкае плячыма. Пякучы няясны цяжар цісне, давіць з усіх бакоў, быццам Віктар Іванавіч не ў цесным кабінеце, а задыхаецца глыбока-глыбока пад вадою, куды ўжо не даходзіць сонца і адкуль ужо няма сіл выплысці. Хочацца заплакаць.

*О-о, калі б ты цяпер мог выдавіць з сябе хоць слязіну! Калі б ты мог заплакаць з такой лёгкасцю, як плакаў у маленстве! Як і многія з твайго пакалення, ты ўжо развучыўся і плакаць, і спяваць — сорамна вам таго і другога...*

Сухімі нерухомымі вачыма Віктар Іванавіч глядзіць на жоўты ліхтар светлафора. Ён усё яшчэ з усёй сілы спрабуе супраціўляцца таму балючаму, што невядома адкуль навальваецца ўсё мацней і мацней.

*Так-так, ты цяпер нікому не патрэбен. Ні Лідзе, якой скалечыў жыццё. Ні Ані з Эдзікам, якія выправіліся па сваёй, не вядомай табе дарозе. Ні Адзе. Цябе выкідваюць са студыі,— як новы гаспадар выкідвае з будкі старога сабаку, як скідваецца з карабля ў мора непатрэбны груз...*

*Карабель паплыве далей, дзе людзі ўбачаць зялёныя райскія астравы, а ты...*

*Ну, ну, смялей, рашайся...*

*Ідзі, ідзі ў ванную, дзе быў раніцаю.*

Яшчэ не ведаючы навошта, Віктар Іванавіч кіруе ў ванную. Толькі ў калідоры перад белымі дзвярыма ваннай ён здагадваецца, чаго прывялі сюды ногі: трэба спаласнуць твар халоднай вадою. Гэта кожны раз памагае. І цяпер павінна памагчы.

Уключыў святло ў ваннай. Адкруціў кран. У кране тут жа штосьці зачмокала, заквокала, капнула некалькі празрыстых кропель і — не болей. На ноч часта адключаюць ваду.

Падняў галаву і зноў — вочы ў вочы — сутыкнуўся з незнаёмцам.

Пад вачыма ў яго набраклі мяшкі. Позірк мутны, чужы. Твар нездарова памяты, як па жаваны некім, з непрыемным адлівам жаўцізны.

Які ж ён брудны і агідны! Як жа яго людзі церпяць!

Каб хутчэй адступіцца ад трывожнага балючага позірку незнаёмца, Віктар Іванавіч адводзіць позірк ад люстра і тут жа, як хто знарок яму падсоўвае, натыкаецца позіркам на лязо, што ляжыць на палачцы. Яшчэ не здагадваючыся навошта, Віктар Іванавіч бярэ лязо ў рукі і разглядае яго, паварочваючы то адным, то другім бокам. І чым больш ён разглядае бліскучае халоднае лязо, тым яно здаецца большым — як бы на ўвесь свет разрастаецца яно, і цяпер здаецца Віктару Іванавічу, што, акрамя ляза, нічога ў свеце не існуе.

Нясцерпны боль нарастае, давіць,— скураю Віктар Іванавіч адчувае, што незнаёмец не адступаецца, ён — зусім побач і ад ягонай блізасці гэтак цяжка і балюча.

Адвёўшы позірк ад ляза, Віктар Іванавіч зноў глядзіць у люстра і цяпер бачыць у ім не сябе, не незнаёмца, а маленькага заплаканага хлопчыка, які караскаецца па белым, набраклым вадою снезе да берага плыткай ракі, да крывой пахіленай алешыны, дзе, учапіўшыся кіпцюрамі за шэрую кару, мокрае маленькае кацянятка жаласным піскам абуджае наваколле.

Незнаёмец адступіўся, і пасвятлелымі вачыма, як у адзінае збавенне, Віктар Іванавіч узіраецца ў хлопчыка. І цяпер новы боль напаўняе сэрца.

Куды, куды ты лезеш, дзіця неразумнае? Ці ведаеш ты, што чакае цябе наперадзе?

О-о, якая ж халодная і страшная вада перад хлопчыкам! Белыя крыгі, што адна за адной плывуць па рацэ, палохаюць Віктара Іванавіча — куды, куды нясуцца тыя белыя крыгі?

На гэтых крыгах ён некалі гэтак марыў пакатацца, здавалася некалі, што лепшага шчасця і прыдумаць нельга: адштурхніся колікам ад берага і плыві па вясновай вадзе, глядзі, як свет чужы будзе вачам адкрывацца...

А цяпер гэтак страшна...
Як жа страшна жыць!
Як балюча жыць!

*А навошта жыць?.. Калі забыць пра гэты боль, калі забыць пра гэтага неразумнага хлопчыка, які немаведама з-за чаго гатовы загубіць сам сябе, то ўсё астатняе — без сэнсу, без канца і пачатку...*

Штосьці супраціўляецца ў Віктара Іванавіча — ён не хоча пагадзіцца з гэтым гучным уладным голасам незнаёмца, хочацца знайсці падтрымку, хоць бы ў голасе чыім, хоць бы ў позірку.

І тады ён угледзеў маці — у тым жа люстры, дзе толькі што бачыў хлопчыка. Яна паявілася з вячэрняга паўзмроку і пабегла насустрач яму, як яна заўсёды бегла: хутка і кораценька перабіраючы нагамі, пільна ўглядаючыся, каб не спатыкнуцца... І рукою, завязанаю чорнаю анучаю, маці памахвала перад сабою гэтак жа, як і некалі. Апусціўшы позірк на гразкую, у бліскучых восеньскіх лужынах дарогу, маці шаптала штосьці сама сабе.

Віктар Іванавіч аж напяўся: мо пачуе хоць слова?..

Як жа даўно ён не чуў яе слова, як жа даўно ён яе не бачыў! Мо хоць цяпер ён пачуе. Ён бы ўсё аддаў цяпер, каб пачуць...

Але маці не падымала позірку, бегла некуды міма яго са сваім болем, і тады Віктар Іванавіч здагадаўся: яна жаліцца сама сабе... Яна так і не навучылася некаму жаліцца...

Як жа так: няўжо ніхто яму не дапаможа, няўжо нічога на свеце не вяртаецца?.. Няўжо і сапраўды ўсё на гэтай зямлі, як на сцэне ў тэатры, дзе ніводны спектакль двойчы не іграюць?

*Не, не, не думай пра гэта. Не тлумі сабе галаву. Досыць, наразважаўся: амаль што ўсё адпушчанае жыццё ты разважаў, шукаў апраўдання. Ты шукаў і знаходзіў тое, што шукаў. Чаго табе яшчэ трэба? У гэтым жыцці кожны знаходзіць тое, што хоча. Хочаш грошай і багацця — на табе грошы, азалаціся, хочаш гарэлкі — пі, хоць заліся, пакуль пад плотам не здохнеш, хочаш*

*палюбоўніц — бегай за спадніцамі... І ты атрымаў тое, да чаго імкнуўся: і палюбоўніца была, і сям'я была, і пасада была... Няўжо табе гэтага мала? Няўжо табе мала рэстаранаў і застолляў?*

— Дык жа ўсё гэта неяк скамечана,— голасна кажа Віктар Іванавіч,— як краў я ўсё гэта ў некага. Краў і трохся, што за руку схопяць. Не так мне хацелася жыць, не так... Не так людзі жыць павінны.

Зноў Віктар Іванавіч бачыць маці. Яна так і не падымае позірку. Нечакана яму становіцца боязна: а раптам маці зірне на яго, і тады яму будзе сорамна, гэтак сорамна і балюча за сваё бесталковае скамечанае жыццё...

*Нічога цяпер не вернеш. Ні таго хлопчыка, табе ўжо чужога і незнаёмага. Ні маці, якая пражыла жыццё па сваёй, толькі ёй вядомай, праўдзе, якую ты так і не ўразумеў. Ды і тая дзяўчына з нерасплеценай касою да цябе не прыйдзе. Да цябе ўжо ніхто ніколі не прыйдзе. Ні-ко-лі... і нечага больш цягнуць час. Досыць валаводзіцца. Чуеш, я загадваю: кінчай, абрывай усё гэтае пакутлівае! Ёсць выйсце, не бойся, ёсць, я табе яго падказваю...*

Няяснае шкадаванне чагосьці навек страчанага праходзіць, і таму яшчэ мацней адчуваецца прысутнасць незнаёмца, які неяк фізічна цісне, душыць, гэтак балюча, што — хоць са скуры вылузніся. Каб пазбавіцца гэтага цяжару і болю, Віктар Іванавіч нетаропка праводзіць лязом па запясці. Чужымі вачыма ён бачыць на руцэ чырвоную пляму, якая распаўзаецца, залівае белую скуру. Але болю ён не адчувае. Наадварот, палягчэла адразу ж — свет белы пачаў яснець, выпроствацца, той незнаёмец, якога дагэтуль бачыў у люстры, які так замінаў яму жыць, знік некуды. І зноў паявілася шкадаванне чагосьці навек страчанага, такое балючае, што хоць ты заплач...



Пакуль жывеш — усяго трэба, а як памрэш — чатыры дошкі і пяску трошкі.

*З народнага*

Труну з целам Віктара Іванавіча паставілі ў вестыбюлі студыі,— за прахадной побач з раздзявалкаю, дзе кожны раз ставілі труну, калі хавалі каго са студыйцаў. Людзі пры пахаванні Віктара Іванавіча былі сцішаныя, як і звычайна пры пахаванні. На кароткім жалобным мітынгу выступіў дырэктар студыі — сказаў пра ўклад Сацункевіча Віктара Іванавіча ў развіццё кінамастацтва. Гаварылі яшчэ рэдактары, сакратар партыйнай арганізацыі.

Потым пад гукі жалобнай музыкі панеслі труну са студыі да аўтобуса з чорнай палосаю,— павезлі цела Віктара Іванавіча на гарадскія могілкі. Там, ля адной з неглыбокіх магіл, выкапанай экскаватарам, кароткае слова далі Грамабойскаму,— як і звычайна, ён вымкнуўся сказаць штосьці блытанае і, мабыць, самому незразумелае пра загадку смерці, якую кожны чалавек у свой час павінен разгадаць, пра чалавечнасць і ўжо ў самым канцы тры словы сказаў пра Віктара Іванавіча.

Два дужыя чырванатварыя хлопцы хутка і лоўка забілі века труны, апусцілі на вяроўках труну ў яму і гэткімі ж хуткімі разлічанымі рыўкамі жалезнякоў засыпалі яму — мінут за пяць, не болей. Калі на свежанасыпаны курган людзі пачалі класці вянкі і кветкі, адзін з хлопцаў узяў жалязняк і кароткімі хуткімі ўдарамі вастрыя пачаў перасякаць кветкі, укарочваючы сцяблінын — гэта каб пасля ніхто не ўздумаў красці...

Калі людзі вярталіся з могілак назад, то ўсе чамусьці доўга і пільна азіраліся, як бы штосьці згубіўшы ці страціўшы,— на рад свежавыкапаных магіл, на іншыя магілы, засыпаныя жаўтавата-чырвоным лісцем бяроза і клёнаў, над якімі высіліся невысокія цёмныя гранітныя помнікі. Як і звычайна на могілках, тут панавала нейкая асаблівая замагільная цішыня, у якой не хацелася ні гаварыць, а тым болей спрачацца, штосьці даказваць...

Канечне, першыя дні пасля пахавання Віктара Іванавіча ўся студыя ўскалыхнулася ад здагадак, чутак,

як некалі яна ўскалыхнулася, калі стала вядома, што памочніца рэжысёра, трыццацігадовая сімпатычная жанчына, кінуўшы-рынуўшы работу і жыллё ў горадзе, назусім бясследна знікла за глухімі манастырскімі сценамі.

Гаварылі хто і што хацеў. Спачувалі жонцы і дачцэ. Шкадавалі нябожчыка. Здзіўляліся. Знайшліся і такія, хто гаварыў: «Ну во, гэтак да крэсла-вяртушкі прыліп, што і жыцця не пашкадаваў...» Некаторыя ў ціхіх закутках пашэптвалі, што калі б не было перабудовы, то і ліха не было б...

Недзе праз пару тыдняў пасля пахавання Віктара Іванавіча ў прыродзе павярнула на холад: сіберны вецер панёс на горад нізкія цёмна-фіялетавыя хмары, якія вечарамі грозна цямнелі на небасхіле. Людзі зразумелі: хмары гэтыя нясуць не дождж, а першы снег, якога стомленая брудам і хлюпоццем душа чакала з радасцю, як свята...

Неяк з ночы гэты снег і пасыпаўся на халодную, ужо закамянелую зямлю: на гарадскія вуліцы, на шырокія палі, дзе квадратамі зелянела рунь, на празрыстыя ціхія лясы, дзе ў бязветраную пару чуваць, як падае апошні ліст, на лугі прырэчныя, на рачулкі, у якіх вада прасвечваецца аж да самага дна.

У горадзе, дзе заўсёды цяплей градусы на два-тры, першы снег хутка размінаўся машынамі і людзьмі, раставаў, станавіўся брудны — тут доўгачаканае свята не адчувалася, але за горадам, у бязлюддзі, дзе вочы вольна і прагна ўпітвалі бязмежны блакіт халоднага неба, чалавек пачуваў сябе вольна і між тым сцішана — ад нечаканай свабоды...

Гэтак жа пачуваў сябе чалавек і на гарадскіх могілках — снег ціха нечапана ляжаў на курганках зямлі, бель яго неяк дзіўна супакойвала растрывожаную жыццём душу. Раз за разам на могілках пачынала гучаць жалобная музыка, услед за трунок з'яўляліся заплаканыя і насупленыя людзі. Новы курганок зямлі заставаўся пасля іх — штодзённа, як хто знарок лік вёў, гэтыя курганкі з'яўляліся побач з тым курганком, пад якім ляжала цела Віктара Іванавіча.

А снег усё падаў і падаў. Яшчэ праз тыдзень магіла Віктара Іванавіча была прысыпана зусім, адрознівалася ад іншых магіл толькі тым, што на ёй грувасціліся вянкі і чарнелі мёрзлыя кветкі.

Як гэта бывае ў жыцці, з кожным новым днём студыйныя размовы, чуткі пра Віктара Іванавіча пачалі заціхаць, заціравацца іншымі, больш важнымі для жывых людзей падзеямі і канфліктамі. Вялікае аб'яднанне «Панарама» разбілі на тры творчыя аб'яднанні. Кіраўнікамі гэтых аб'яднанняў сталі Сурачкін, Громаў і Гвоздзікаў. Кожнае аб'яднанне мела сваю творчую праграму. Гэтыя творчыя праграмы, надрукаваныя на фінскай мелаванай паперы ў спецыяльным інфармацыйным бюлетэні, былі разасланы ва ўсе творчыя саюзы і ўстановы. Кіраўнікі новых аб'яднанняў выступілі ў друку, на радыё і на тэлебачанні — кожны па-свойму абяцаў у хуткім часе палепшыць стан нацыянальнага кіно, падняць яго ўзровень. Паколькі творчыя праграмы ў аб'яднанняў былі розныя, то ўсе, хто больш-менш былі звязаны з кінастудыяй, адразу ж здагадаліся, што хутка і непазбежна на студыі закіпяць яшчэ большыя спрэчкі і дыскусіі.

Так і сталася...

Гвоздзікаў нарэшце запусціўся з фільмам «Дзённік прастытуткі», які абяцаў быць ка́савым. Сурачкін, забыўшыся пра сваю творчасць і пра свае карціны, разлічыўшы аднаму яму вядомыя хады, заняўся палітычнай дзейнасцю і ўсё часцей і часцей паказваўся на мітынгах, дзе граміў чыноўнікаў, бюракратаў, патрабаваў свабоды, дэмакратыі, плюралізму. Мабыць — хоць гэта яшчэ і невядома — для ўсесаюзнай папулярнасці Сурачкін арганізаваў усесаюзны сімпозіум-семінар, дзе вядучымі крытыкамі два тыдні абмяркоўвалася роля беларускага нацыянальнага кінематографа ў развіцці інтэрнацыянальных сувязяў. Громаў, улучыўшы момант, удала ўбіўшы клін паміж Сурачкіным і Гвоздзікавым, падняўшы вэрхал, арганізаваў нечарговы з'езд СК, дзе дабіўся пасады намесніка дырэктара студыі па творчых пытаннях. Усе толькі ахнулі, бо зразумелі: фактычна ўся ўлада перайшла да Громава, а Сурачкін, як старшыня Саюза, застаўся ні з чым і цяпер яму, Сурачкіну, нічога не заставалася, як пачынаць новы віток барацьбы...

Праз год на ўскраіне гарадскіх могілак на адной з магіл з'явіўся невялічкі стандартны слупок, на якім выразнымі літарамі было выведзена імя і прозвішча

Віктара Іванавіча. Калі б не гэты слупок, то ўвогуле было б цяжка ўявіць, што зусім нядаўна тут, на вялікай зямлі пад цёплым сонцам, жыў пры поўным дастатку чалавек, які да чагосьці імкнуўся, на штосьці спадзяваўся і які аднойчы ні з таго ні з сяго запажадаў знікнуць...

# ЗМЕСТ

*Литературно-художественное издание*

**Г и г е в и ч Василий Семенович**

**МАРСИАНСКОЕ ПУТЕШЕСТВИЕ**
**Роман, повести**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Г і г е в і ч Васіль Сямёнавіч**
**МАРСІЯНСКАЕ ПАДАРОЖЖА**
**Раман, аповесці**

Рэдактар *І. І. Канановіч*
Мастак *В. А. Лукашык*
Мастацкі рэдактар *М. Я. Шкурпіт*
Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо*
Карэктар *Т. В. Трубач*

ІБ № 3217

Здадзена ў набор 12.09.89. Падп. да друку 16.05.90. АТ 01621. Фармат 84 × 108[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура «балтыка». Высокі друк з ФПФ. Ум. друк. арк. 20,16 + 0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 21,53. Ул.-выд. арк. 19,35. Тыраж 18 000 экз. Зак. 2901. Цана 1 р. 60 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

